*Тры – сьмяротнай зямлі несьмяротным князям,*

*Сем – царам-кавалям на падгорным троне,*

*Дзевяць – чалавечага племені каралям,*

*Адзін – Уладару Цемры ў чорнай кароне,*

*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*

*Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх,*

*Адзін – завабіць і ў цемры скаваць іх*

*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*

J. R. R. Tolkien

# THE LORD OF THE RINGS

## *The Fellowship of the Ring*

HarperCollins Publishers Ltd. 1992



Дж. Р. Р. Толкін

# УЛАДАР ПЯРСЬЦЁНКАЎ

## *Зьвяз Пярсьцёнка*

ПЕРАКЛАД З АНГЕЛЬСКАЕ

Менск
2008

**Толкін Дж. Р. Р.**

Уладар Пярсьцёнкаў: Зьвяз Пярсьцёнка, 2008

Пераклад з ангельскае мовы
Дзьмітрыя Магілеўцава й Крысьціны Курчанковай

*Выхаду гэтай кнігі шмат у чым*
*паспрыяў Ігар Хазанаў*

# ПРАДМОВА

## *1. Пра хобітаў*

Кніга гэтая – пераважна пра хобітаў, і зь яе старонак чытач шмат чаго даведаецца пра іхнія характар ды звычаі, а таксама трохі пра гісторыю. Болей зьвестак можна знайсьці ў вытрымках з Пунсовай кнігі Заходняга Краю, якія ўжо былі апублікаваныя пад назваю "Хобіт". Вытрымкі гэтыя, зь першых разьдзелаў Пунсовай кнігі, напісаныя самім спадаром Більба – першым хобітам, які стаў знакамітым на ўсенькі сьвет. Спадар Більба назваў іх "Вандроўка туды й назад", таму што яны распавядалі пра ягонае падарожжа на Ўсход ды пра вяртаньне. Гэтая ягоная прыгода потым уцягнула й усіх хобітаў у вялікія дзеі той эпохі, пра якія далей і пойдзе расповед. Шмат чытачоў, магчыма, захочуць даведацца пра гэты незвычайны народ з самага пачатку, а некаторыя, можа, ня маюць "Вандроўкі туды й назад". Для іх тут сабраныя найістотнейшыя зьвесткі пра хобітаў ды іхнюю краіну й коратка распавядаецца пра Більбаву вандроўку.

Хобіты – ня надта прыкметнае, ды вельмі старажытнае племя. Раней іх было нашмат болей, чым цяпер. Ім даспадобы спакой, цішыня, а таксама добра апрацаваная зямля. Зручна ўладкаваныя, дагледжаныя вёскі й палі – улюбёныя іхнія мясьціны, найболей прыдатныя для іх жыцьця. Хобіты не разумелі й не разумеюць прыладаў больш складаных за кавальскія мяхі, вадзяныя млыны ды пральні, але ўжо зь імі яны ўпраўляюцца надзвычай добра. Нават у старажытнасьці яны трымаліся як мага далей ад *даўгалыгага народу* – так яны нас клічуць, – а цяпер увогуле нас палохаюцца, і знайсьці іх даволі цяжка. У іх тонкі слых і востры зрок, і хоць хобіты схільныя таўсьцець, але застаюцца жвавымі й спрытнымі. Спрадвеку маюць яны звычку зьнікаць хутка й бязгучна, калі даўгалыгія, зь якімі яны сустрэцца ня хочуць, раптам зьяўляюцца побач. Звычка й майстэрства гэтыя распрацаваныя ў такой ступені, што людзям падаюцца чараўніцтвам. Але ж хобіты фактычна ніколі не вывучалі аніякай магіі, і майстэрства зьнікненьняў ёсьць рэч цалкам прафэсійная, кшталцаваная доўгімі практыкаваньнямі, натуральна ўзгадаваная прыроднай здольнасьцю й добрым веданьнем сваёй зямлі. У гэтым яны дасягнулі ўзроўню, неспасьцігальнага для плямёнаў больш вялікіх і нязграбных.

Хобіты – істоты маленькія, меншыя нават за гномаў (хоць і не нашмат), не такія моцныя ды каржакаватыя. Паводле нашых вымярэньняў, ростам яны дзесьці ад дзьвюх да чатырох стопаў*. Цяпер зрэдку сягаюць і трох стопаў, але ж у старажытнасьці, як распавядаюць, яны расьлі й вышэйшымі. Як сьведчыць Пунсовая кніга, Бандабрас Хват Бугай-Роў, сын Ізенгрыма Другога, быў ажно чатыры стапы пяць цаляў і езьдзіў на паўнамерным кані, а не на поні. Сягнулі вышэй за яго толькі дзьве знакамітыя асобы старажытнасьці. Пра тое, якім чынам гэта здарылася, гутарка далей.

Ширскія хобіты, якіх гэты расповед і тычыцца, у дні спакою ды росквіту былі народам жыцьцярадасным. Адзеньне апраналі зыркае, часьцей за ўсё жоўтае й зялёнае. Абутку звычайна не насілі, бо мелі на падэшвах тоўстую скуру, дый ногі ў іх

---

* *Заўвага перакладнікаў*. У беларускім перакладзе скарыстаныя старажытныя беларускія адзінкі вымярэньня (паводле Статуту ВКЛ): цаля – 2,5 *см*; стапа – 12 цаляў, 33 *см*; локаць – 65 *см*; сажань – 3 локці, 195 *см*; гоня – 80-100 *м*; вярста – 1559,7 *м*; міля – 7,8 *км*.

зарасталі густой кучаравай поўсьцю, звычайна бурай, вельмі падобнай на тую, што расла ў іх на галовах. Таму адзіным рамяством, мала ў іх распаўсюджаным, было шавецтва. Але ж шмат чаго іншага яны рабілі добра й удала, бо рукі мелі здатныя ды спрытныя. Твары хобіцкія калі не прыгожыя, дык прыемныя й добразычлівыя: акруглыя, з бліскучымі вачыма й чырвонымі шчокамі, з ратамі, якія заўсёды гатовыя засьмяяцца, пад'есьці й выпіць. І сапраўды, сьмяяліся хобіты, елі й пілі часта й ад пуза, пажартаваць любілі таксама, хоць і па-простаму, без асаблівых хітрыкаў, а ўжо сілкаваліся разоў шэсьць на дзень (вядома, калі толькі выпадала). Былі гасьцінныя, зь вялікай ахвотай ладзілі вечарыны зь бяседамі ды весяліліся на іх, любілі даваць падарункі й яшчэ болей – атрымліваць.

Ясна, што хобіты хоць і падаюцца цяпер людзям чужынцамі, яны – блізкая іх радзіна, значна бліжэйшая за эльфаў і нават за гномаў. У старажытнасьці яны й размаўлялі людзкою моваю, хоць і па-свойму, а звычаі ды звычкі мелі вельмі падобныя да чалавечых. Але ж у якой менавіта ступені людзі – радзіна хобітам, цяпер высьветліць цяжка. Крыніцы паходжаньня хобітаў губляюцца недзе ў Даўніх днях, забытых і цьмяных. Хіба што эльфы яшчэ захавалі сьведчаньні пра тыя дні, але ж толькі датычныя эльфавай гісторыі. Зьвесткі пра людзей трапляюцца зрэдку, а пра хобітаў і ўвогуле нічога няма. Аднак бясспрэчна: хобіты ціха жылі сабе ў Міжзем'і задоўга да таго, як на іх зьвярнулі ўвагу іншыя плямёны. У сьвеце шмат дзівосных пачвараў ды стварэньняў, і нейкае там племя маленькіх чалавечкаў нікога асабліва не цікавіла – пакуль дзякуючы Більба й ягонаму пляменьніку Фрода хобіты раптам (без уласнай на тое ахвоты) не зрабіліся знакамітымі й уплывовымі й праблемы іхнія ня сталі хваляваць Мудрых зь Вялікімі.

Час той, Трэцяя эпоха Міжзем'я, даўно мінуў, зьмяніліся нават абрысы земляў, але ж край, дзе жылі хобіты, безумоўна, той самы, там яны жывуць і цяпер – паўночны захад Старога Сьвету, на ўсход ад мора. Дзе яны жылі да таго, нават у Більбавы часы аніякіх зьвестак не захавалася. Прыхільнасьці да навук (апрача вывучэньня радаводу) сярод хобітаў амаль не назіралася, хоць у старэйшых сем'ях і сустракаліся тыя, хто дасьледаваў радзінныя запісы й нават зьбіраў ад эльфаў, людзей ды гномаў зьвесткі пра старажытнасьць і далёкія краіны. Адмысловыя хобіцкія запісы датуюцца засяленьнем Шыру, а самыя старыя паданьні распавядаюць толькі пра Вялікае Падарожжа перад засяленьнем. Тым ня менш, з тых паданьняў, ды яшчэ з асобных словаў, ды захаваных звычаяў, вынікае, што раней хобіты жылі на Ўсходзе – як і многія іншыя плямёны. У найстаражытнейшых паданьнях, здаецца, прамільгваюць водгукі тых часоў, калі хобіты жылі ў далінах паблізу верхавінаў Андуйну, між ускрайкам Вялікага Зеленалесься ды Туманнымі гарамі. Чаму яны выправіліся ў доўгую, цяжкую й недарэчную вандроўку ў Эрыядар, цяпер высьветліць цяжка. У паданьнях гаворыцца пра тое, што людзей стала зашмат, што на Вялікую пушчу лёг Цень і яна азмрочылася. Нават звацца стала па-новаму – Ліхалесьсе.

Яшчэ да вандроўкі праз горы хобіты падзяляліся на тры крыху розныя роды: Скурланогі, Каранюкі ды Беласкуры. Скурланогі былі меншыя ростам і больш зграбныя постацьцю, цямнейшыя скурай, мелі асабліва спрытныя рукі й ногі й жытлом абіралі часьцей за ўсё схілы пагоркаў ды стромаў. Каранюкі мелі шырэйшыя ды больш прысадзістыя постаці, ногі й рукі – большыя ды мацнейшыя, сяліліся Каранюкі па роўнядзях ды рачных берагах. Беласкуры насамрэч былі сьвятлейшыя

скурай і валасамі, худзейшыя й вышэйшыя ростам за астатніх. Яны любілі дрэвы й жылі побач зь лесам.

Скурланогі ў старажытнасьці жылі ў передгор'ях і добра стасункавалі з гномамі. Скурланогі першыя рушылі на захад і бадзяліся па Эрыядары, дабіраючыся ажно да Наветранай стромы, пакуль астатнія яшчэ жылі сабе ў Дзіказем'і. Вось яны былі самыя хобіцкія хобіты й самыя сярод хобітаў шматлікія. Іх жаданьне ўкараніцца ды жыць спакойна на адным месцы сталася наймацнейшым, і яны даўжэй за ўсіх захавалі даўнюю звычку жыць у пячорах ды норах.

Каранюкі доўгі час сяліліся па берагах вялікай ракі Андуйн і крыху звыкліся зь людзьмі. Каранюкі пайшлі сьледам за Скурланогамі, а потым рушылі ўздоўж Грым'і на поўдзень. Яны асталяваліся ад Тарбаду да межаў Дунлянду, але потым зноў рушылі на поўнач.

Беласкуры былі самым малым племем і жылі на поўначы. Сябравалі з эльфамі, імкнуліся да майстэрства ў мовазнаўстве ды сьпевах больш, чым у рамёствах, і здаўна паляваньне любілі болей за працу на зямлі. Яны перайшлі горы на поўнач ад Долага Яру й спусьціліся ўздоўж ракі Шэрані. У Эрыядары яны неўзабаве зьмяшаліся зь іншымі родамі, што прыйшлі раней за іх, але ж праз большую дзёрзкасьць ды авантурнасьць Беласкуры часта рабіліся правадырамі й верхаводамі каранюкоўскіх і скурланогаўскіх кланаў. Нават у Більбавы часы беласкураўская кроў моцна адчувалася сярод такіх найвялікшых сем'яў, як Хваты ды гаспадары Прыбычча.

У заходніх землях Эрыядару, паміж Туманнымі гарамі ды хрыбтом Люйн, хобіты сустрэлі й эльфаў, і людзей. Жылі яшчэ там дунаданы, нашчадкі Вышніх людзей, што прыйшлі з-за мора, з Захаду. Але ж іх заставалася ўсё меней, і іх землі Паўночнага каралеўства хутка ператвараліся ў пустэчу. Для прышлых месца хапала, і праз колькі часу хобіты пачалі сяліцца цэлымі пасёлкамі й вёскамі. Гэтыя ранейшыя селішчы большай часткаю зьніклі й былі забытыя задоўга да тых дзён, пра якія тут расповед, аднак адны зь першых дый найістотнейшых яшчэ існавалі, хоць і зьменшыліся – вёскі Прыгор’е ды Прычыцы, вёрстаў сорак на ўсход за мяжу Шыру.

Бясспрэчна, тады хобіты й вывучыліся пісьменнасьці, пераняўшы яе ў дунаданаў, якія, у сваю чаргу, калісьці навучыліся ад эльфаў. Тады яны забыліся на мовы, якімі карысталіся раней, і пасьля заўжды ўжывалі *Агульную* мову, гэтак званую Заходніцу, пашыраную ва ўсіх каралеўскіх землях ад Арнару да Гондару й па ўсіх марскіх узьбярэжжах – ад Бэльфаласу да Люну. Вядома, яны захавалі й колькі ўласных словаў, а акрамя таго – назвы месяцаў і дзён тыдня й вялікую колькасьць імёнаў.

Тым часам хобіцкія паданьні сталіся гісторыяй і пачаўся адлік гадоў. У тысяча шэсьцьсот першым годзе Трэцяй эпохі браты-беласкуры Марка й Бланка атрымалі дазвол ад найвышэйшага караля ў Форнасьце*, пакінулі Прыгор'е й на чале натоўпу хобітаў пераправіліся праз бурую раку Барандуйн. Прайшлі яны праз Каменналучны мост, збудаваны яшчэ ў час магутнасьці Паўночнага каралеўства, і занялі ўсе землі за ім ажно да Дальняга ўзгор'я. Узамен ад іх патрабавалася толькі трымаць Каменналучны мост у належным стане, як і астатнія масты й шляхі, спрыяць каралеўскім ганцам ды прызнаваць каралеўскую ўладу.

* Паводле гондарскіх запісаў, гэта быў Аргелеб Другі, дванаццаты кароль Паўночнага каралеўства. Дынастыя перарвалася праз трыста гадоў, апошнім стаўся кароль Арведуі.

Так пачаліся *Шырскія гады*, бо год пераходу праз Бранявін (гэтак хобіты перайначылі назоў) стаў першым годам Шыру й усе даты пачалі адлічвацца менавіта ад яго. Хобіты адразу ж палюбілі свае землі, абжыліся ў іх ды зноў зьніклі з эльфскай і людзкой гісторыі. Хоць яны й прызнавалі сябе каралеўскімі падданымі, але ж фактычна іх узначальвалі ўласныя правадыры, і ў справы за межамі Шыру яны аніякім чынам ня ўблытваліся. Лічыцца, што на апошнюю бітву ля Форнасту з ангмарскім каралём-ведзьмаком Шыр выправіў колькі лучнікаў. Аднак у людзкіх летапісах ды паданьнях пра гэта ня згадваецца. Менавіта тая вайна й скончыла існаваньне Паўночнага каралеўства. Адгэтуль хобіты ўзялі зямлю ва ўласнае валоданьне й выбіралі сярод сваіх правадыроў *тана*, каб ён прадстаўляў каралеўскую ўладу пры адсутнасьці караля. Потым каля тысячы гадоў войны іх амаль не краналі. Пасьля Чорнага мору ў 37-м годзе хобіты памнажаліся й багацелі ажно да Доўгай зімы й галадамору сьледам за ёй. Тысячы й тысячы памерлі з голаду. Але ж падчас нашага расповеду нават і галодныя гады Недароду (1158-1160) засталіся далёка ў мінулым, хобіты зноў прызвычаіліся да дабрабыту й заможнасьці. Землі іх былі лагодныя й урадлівыя, і хоць дасталіся запустэчанымі, цяпер добра абрабляліся. У часіны росквіту Паўночнага каралеўства тут было шмат фэрмаў, палёў, вінагроньнікаў ды лясоў.

Мела хобіцкая краіна дваццаць пяць міляў з усходу на захад, ад Дальняга ўзгор'я да мосту праз Бранявін, і пяцьдзясят вёрстаў ад верасовых пустэчаў на поўначы да паўднёвых балотаў. Назвалі яе хобіты Шыр, таму што была яна шырокая, падуладная хобіцкаму тану й добра ўпарадкаваная. Вось у гэтым прыемным кутку сусьвету яны праводзілі сваё файна ўладкаванае жыцьцё й зьвярталі ўсё менш і менш увагі на астатні сьвет, дзе адбываліся падзеі даволі-такі змрочныя. Урэшце, хобіты палічылі, што дабрабыт і спакой – рэчы, уласьцівыя ўсяму Міжземнаму сьвету й кожнай разумнай у ім істоце. Яны забыліся ці не зьвярталі аніякай увагі нават і на тое невялікае, што ведалі пра Ахоўнікаў, чыім дбаньнем і зьберагаўся доўгі спакой Шыру. Фактычна, іх пільнавалі ды сьцераглі, аднак яны гэтага ня памяталі.

Аніколі аніякія хобіты не былі ваяўнічыя й адзін з адным ня біліся. У даўніну, вядома, ім надарылася пастаяць за сябе й сваё месца ў суворым сусьвеце, аднак у Більбавы дні гэта была ўжо надта даўняя гісторыя. Апошняя перад часам нашага расповеду бітва ў Шыры адбылася за межамі жывой памяці: у 1147 годзе на Зялёных Палях, дзе Бандабрас Хват адбіў орцкае нашэсьце. Нават і надвор'е паступова мякчэла, і ваўкі, што калісьці ў асабліва лютыя зімы прыходзілі па здабычу з Поўначы, засталіся толькі ў прадзедаўскіх байках. Таму зброю, якой мала захоўвалася ў Шыры, трымалі збольшага як хатняе ўпрыгожаньне, папаразьвешанае над агменямі ці па сьценах або сабранае ў музэі Міхальскага Выкапу. Музэй той называўся *Адметнік*, бо рэчы, відавочна непатрэбныя, але якія шкада выкінуць на сьметнік, называліся *адмецьце*. У хобіцкіх хатах яно зьбіралася сапраўды дзівосным чынам, і шмат падарункаў, якія абыходзілі ўсё навакольле, былі менавіта *адмецьцевага* паходжаньня.

Цікава, што, нягледзячы на спакой і дабрабыт, хобіты заставаліся народцам даволі дужым ды моцным. Прыбіць ці запалохаць іх – калі ўжо да таго справа даходзіла – было ня проста. Можа, і ўтульнасьць сваю з раскошай яны так любілі не ў апошнюю чаргу таму, што маглі някепска абыходзіцца й бяз гэтага, калі даводзілася. Усялякія напасьці ад ворагаў, надвор'я ці іншых недарэчнасьцяў пераносілі, моцна зьдзіўляючы тых, хто меркаваў пра хобітаў толькі па іх выдатна наетых брушках ды тварах. Нават і да свары ў іх даходзіла зрэдку, і для забавы яны ніколі не палявалі,

аднак жа на зброю не зусім забыліся й пры неабходнасьці давалі супраціўнікам шмат клопату. Трапна стралялі, бо мелі востры зрок і пацэліць маглі ўдала. І ня толькі з лукамі й стрэламі спрытна абыходзіліся. Калі ўжо хобіт нахіляўся па камень, усялякі шкодны зьвер ведаў, што трэба хутчэй хавацца.

Як лічылі самі хобіты, усе яны з даўніны жылі ў норах, і нават цяпер утульней за ўсё пачуваліся менавіта там. Вядома, цягам часу ім давялося прызвычаіцца й да іншага жытла. Напрыканцы Трэцяй эпохі ў Шыры фактычна толькі самыя багатыя ды самыя бедныя хобіты яшчэ трымаліся старога звычаю. Найбяднейшыя жылі ўвогуле ў зямлянках найпрымітыўнейшага кшталту: проста дзірка ў глебе з адным вакенцам ці ўвогуле безь яго. Багацейшыя ж будавалі шыкоўныя ўзоры традыцыйнага жыцьцясховішча. Але ж прыдатныя для гэткіх вялікіх ды шматгалінных тунэляў (называных *сьміялы*) месцы траплялiся не паўсюль, і па роўнядзях і далінах хобіты, памножыўшыся, будавалі наземныя дамы. На самай справе цяпер і ў той мясцовасьці, дзе было шмат пагоркаў, і нават у старэйшых паселішчах – у Хобіцку й Хват-Гарадку ці галоўным шырскім месьце Міхальскім Выкапе на Белым узгор'і – было шмат драўляных, мураваных і цагляных пабудоваў. Яны асабліва падабаліся млынарам, кавалям, вазьнякам і сучыльнікам ды іншаму рамеснаму люду накшталт таго. Бо нават жывучы ў норах, хобіты здаўна прызвычаіліся будаваць пуні й майстэрні.

Кажуць, звычка гэтая пайшла ад пасельнікаў Багнючынаў, што ў панізьзях ля Бранявіну. Хобіты гэтай часткі Шыру – Усходняга падзелу – былі й ростам крыху вышэйшыя, цяжканогія, а ў непагадзь насілі гномскія боты. Вядома ж, па крыві былі амаль што чыстыя Каранюкі – шмат у каго й валосьсе расло на падбародзьдзях. Ані ў Скурланогаў, ані ў Беласкураў аніякіх прыкметаў барады не зьяўлялася. І сапраўды, народзец на Багнючыны ды ў Прыбычча, што на ўсходнім беразе Бранявіну, прыйшоў аднекуль з поўдня й пазьней за астатніх. Таму й мелі яны шмат дзівосных імёнаў, і словы такія ўжывалі, якія нідзе болей у Шыры не пачуеш.

Верагодна, уменьне будаваць хобіты разам з шматлікімі іншымі рамёствамі пераналі ў дунаданаў. Зь іншага боку, маглі вывучыцца й наўпрост ад эльфаў, першых настаўнікаў людзей на пачатку чалавечай гісторыі. Бо й Вышнія эльфы ў той час яшчэ не пакінулі Міжзем'е, асталяваўшыся ў Сівых Заванях на захадзе ды ў іншых мясьцінах непадалёк ад Шыру. За заходнімі балотамі на Вежавых пагорках стаялі тры эльфскія вежы, пабудаваныя ў пракаветныя гады. У месяцовым сьвятле яны зьзялі далёка навокал. Найвышэйшая зь іх была найдалейшая, яна стаяла самотна на зялёным кургане. Хобіты Заходняга падзелу казалі, што зь вяршыні гэтай вежы можна пабачыць мора, аднак жа ніхто ня памятае, ці ўскарасквалiся на яе хобіты хоць калі-небудзь. Сапраўды, зусім няшмат хобітаў бачылі мора ці плавалі па ім і яшчэ меней вярнуліся дахаты, каб пра гэта распавесьці. У большасьці хобіты нават на рачулкі ды чоўнікі паглядалі з глыбокім недаверам і самі плаваць ня ўмелі. Гады Шыру доўжыліся, і цягам іх хобіты ўсё радзей размаўлялі з эльфамі, сталі баяцца іх і зь недаверам ставіліся да тых, хто яшчэ стасункаваў зь імі. Самое слова "мора" стала азначаць для хобітаў нешта жудаснае, і яны нават пазіраць перасталі на заходнія горы.

Хоць рамяство мулярства, мажліва, і прыйшло ад людзей ці эльфаў, будавалі хобіты на свой асаблівы лад. Аніякіх вежаў, а хацінкі нізкія, доўгія й надзвычай утульныя. Спачатку хаты ўвогуле нагадвалі *сьміялы* – зь сьценамі, якія пучыліся вонкі, з стрэхамі, крытымі саломай ці дзірваном. Аднак гэтак будавалі толькі ў першыя шырскія гады. З таго часу многае зьмянілася, бо шмат пераналі ў гномаў, вынайшлі самі й навучыліся рабіць лацьвей і зручней. Хоць даўняя й непераадольная

звычка да круглых вокнаў і круглых дзьвярэй так і засталася адметнай рысай хобіцкай архітэктуры.

У вялікіх хатах ды норах у хобітаў звычайна жылі немаленькія сем'і (Більба й Фрода ў сваім бабыльстве былі вельмі адметным выключэньнем, як і ў іншых рэчах, напрыклад у сяброўстве з эльфамі). Часам у адным шматтунэлевым продкавым жытле – у хватаўскіх Вялікіх Сьміялах, напрыклад, ці бронь-бычаўскай Прырэчнай сядзібе – жылі сабе мірна (ну ці амаль што так) мноства сваяцкіх пакаленьняў. Ва ўсялякім выпадку, хобіты вылучаліся сямейнасьцю й да ўсялякага сваяцтва ставіліся вельмі паважліва. Высьвятлялі ўсё, малюючы доўгія ды незьлічона разгалінаваныя генэалягічныя дрэвы. У зносінах з хобітамі надта істотна памятаць, хто каму радзіна ды ў якой ступені. У гэтай кнізе было б немагчыма прывесьці генэалягічнае дрэва, якое ўлічвала хоць бы найістотнейшых прадстаўнікоў найістотнейшых родаў на той час, пра які пойдзе расповед. Генэалягічныя дрэвы, што ў канцы Пунсовай кнігі Заходняга Краю, – кніга сама па сабе, якую ўсе, апрача хобітаў, прызнаюць надзвычай нудотнай. А хобітаў гэткія рэчы, наадварот, задавальняюць – пры ўмове, вядома, што напісана дакладна й без памылак. Хобіты любяць чытаць пра тое, што й так ведаюць, і жадаюць, каб распаведзена было проста й безь якіх-кольвек супярэчнасьцяў.

## *2. Пра люлькавую траву*

Трэба ўзгадаць на яшчэ адну асаблівасьць хобітаў старадаўнасьці, дзіўны іх звычай – удыхаць ці ўцягваць у рот праз драўляныя ці гліняныя люлькі дым ад травы, якую яны называлі *люлькавая трава* ці проста *лісьце*, *зёлкі* – верагодна, разнавіднасьць нікацыяны. Паходжаньне гэтага звычаю (ці мастацтва, як яго завуць самі хобіты) даволі загадкавае. Усё, што мажліва выведаць пра яго вытокі, сабраў Мэрыядок Бронь-Быч (які пазьней зрабіўся гаспадаром Прыбычча). Ён і табака Паўднёвага падзелу адыгрываюць пэўную ролю ў нашым расповедзе, таму не зашкодзіць працытаваць уводзіны да ягонага "Травазнаўства Шыру":

«Гэнае майстэрства – адзінае, што мы бясспрэчна можам лічыць нашым уласным вынаходніцтвам. Калі хобіты ўпершыню пачалі паліць, не гаворыцца ані ў адным паданьні ці сямейнай гісторыі. З часоў спракаветных хобіцкі народ паліў розныя зёлкі, больш ці менш смуродлівыя. Але ж усе пагаджаюцца, што Тобальд Рагадзьмуўца з Доўгіх Панізьзяў, у Паўднёвым падзеле, першы ўзгадаваў сапраўдную люлькавую траву ў сваім садзе ў часы Ізенгрыма Другога – недзе каля 1070 году паводле шырскага адліку. Найлепшая ва ўсім Шыры табака й цяпер менавіта адтуль – асабліва ж гатункі, вядомыя як *Панізовае лісьце*, *Стары Тобі* ды *Паўночная зорка*.

Пра тое, як старына Тобі натрапіў на сваю зёлку, зьвестак не захавалася, і не распавёў ён пра гэта нават перад сьмерцю. Безумоўна, пра зёлкі ён ведаў шмат, але ж асабліва не вандраваў. Кажуць, што ў маладосьці заносіла яго ў Прыгор'е, аднак бясспрэчна – далей ад Шыру ён не трапляў. Таму цалкам верагодна, што сваю траву ён знайшоў у Прыгор'і, дзе яна й цяпер добра расьце на паўднёвых схілах пагоркаў і стромаў. Прыгорскія хобіты сьцьвярджаюць, што яны першыя прыдумалі па-сапраўднаму паліць люлькавую траву. Вядома, яны пра ўсё баюць, што вынайшлі ды прыдумалі раней за шырскіх хобітаў, якіх завуць "каляністамі". Але ж менавіта ў гэтым выпадку яны, як я лічу, маюць рацыю. Бясспрэчна, менавіта зь Прыгор'я звычка паленьня распаўсюдзілася цягам апошніх стагодзьдзяў сярод гномаў і да іх падобнага народу – сьледапытаў, чараўнікоў – дый проста ўсялякіх вандроўнікаў, якія й патудзень часта сустракаюцца на гэтым старажытным скрыжаваньні шляхоў.

Радзіма й цэнтр майстэрства паленьня, гэткім парадкам, ёсьць стары прыгорскі шынок "Скаклівы конік", які належыць сям'і Масьлякоў з пракаветнай даўніны.

У той самы час мае ўласныя назіраньні падчас шматлікіх вандровак на поўдзень пераканалі мяне, што люлькавая трава паходзіць ня з нашых кутоў, а патрапіла на поўнач зь ніжніх плыняў Андуйну. А туды, падаецца мне, завезьлі яе з-за мора людзі Захаду. Яна паўсюць расьце дзічком у Гондары й вырастае нашмат буйнейшай і больш сакавітай, чым на поўначы, дзе ўвогуле яе па-за садамі ці гародамі ня знойдзеш, дый там яна добра расьце толькі ў цёплых, схаваных ад халадоў месцах накшталт тых самых Доўгіх Панізьзяў. Людзі Гондару называюць яе *салодкі галенас* і цэняць хіба што за водар кветак. З Гондару, верагодна, траву цягам доўгіх стагодзьдзяў – ад Элендыля да нашых дзён – завезьлі па Травашляху на поўнач. Але нават дунаданы Гондару прызнаюць: хобіты першыя дадумаліся класьці траву ў люлькі ды паліць. Нават чараўнікі такога ня скемілі. Хоць адзін вядомы мне чараўнік засвоіў нашае майстэрства даўным-даўна й дасягнуў у ім ня меншых вышыняў, чым у любой іншай справе, за якую толькі браўся».

## *3. Пра ўладкаваньне Шыру*

Складалі Шыр чатыры чвэрткі, ці падзелы, пра якія ўжо згадвалася: Паўночны, Паўднёвы, Заходні ды Ўсходні. Яны, у сваю чаргу, падзяляліся на часткі. Тыя ўжо называліся па імёнах найвыдатнейшых і найгалоўнейшых родаў, хоць падчас нашага расповеду ня ўсе гэтыя назвы адпавядалі рэчаіснасьці. Хваты амаль усе жылі ў Прыхваце, але ж тое наўрад ці мажліва казаць пра Торбінсаў ці Мудрагеляў. Акрамя падзелаў, у складзе Шыру лічыліся Ўсходняя ўкрайна, ці Прыбычча, ды Заходняя ўкрайна, далучаная да Шыру ў 1462 годзе.

Шыр падчас нашага расповеду амаль што й ня меў аніякага "ўраду". Рады самі вырашалі свае справы. Вырасьціць ежу ды зьесьці яе – гэта й займала большасьць хобіцкага часу. У іншых справах хобіты былі звычайна шчодрыя, не зайздросьлівыя й на лёс асабліва не наракалі, таму сядзібы, фэрмы, майстэрні ды крамкі мірна пераходзілі ад бацькоў дзецям з пакаленьня ў пакаленьне.

Вядома, яшчэ памяталі й пра ўладу караля ў Форнасьце, ці, як яго называлі хобіты, Паўночнай Гародні. Між тым караля на поўначы не было ўжо болей за тысячу гадоў і руіны Паўночнай Гародні парасьлі травой. Але ж хобіты яшчэ казалі пра разбэшчаных ды нягодных істотаў (накшталт троляў), што яны – без караля ў галаве. Самі хобіты лічылі, што ўсе законы паходзяць з старажытнасьці, менавіта ад каралёў, і законам гэтым падпарадкоўваліся з уласнага жаданьня, таму што былі каралеўскія законы Правільнымі статутамі (як самі хобіты кажуць) – і старажытнымі, і справядлівымі.

Здаўна Хваты былі, бясспрэчна, найвыдатнейшым родам Шыру. Некалькі стагодзьдзяў таму пасада тана перайшла да іх ад Старабычаў, і найстарэйшы Хват дасюль носіць тытул тана. Тан склікае агульнашырскі сход і ўзначальвае шырскае рушэньне й шырскае войска. Але робіцца гэта толькі падчас вялікай небясьпекі, якой ужо даўно не здаралася, і таму танства цяпер, хутчэй, проста ганаровае прозьвішча. Хваты карысталіся й карыстаюцца асаблівай павагай, бо яны й шматлікія, і надзвычай заможныя. Яшчэ ў кожным іх пакаленьні абавязкова нараджаўся які-небудзь дзіўнаваты ці нават авантурнага складу Хват. На гэткія рысы характару хобіты паглядалі кепска, аднак ставіліся ўсё ж досыць цярпліва (дзівосы багатых, вядома).

Усталяваўся звычай клікаць найстарэйшага ў гэтым родзе Наш Хват, дадаючы да імя, калі трэба, і нумар: напрыклад, Ізенгрым Другі.

Адзіным сапраўдным прадстаўніком шырскай улады ў той час быў галава Міхальскага Выкапу (і ўсяго Шыру), якога выбіралі раз на сем гадоў на Вольным кірмашы ў Белых Панізьзях на Ліпкі – сьвята паловы лета. Галава меў адзіны афіцыйны абавязак у якасьці менавіта галавы – ачольваць бяседы з нагоды шырскіх сьвятаў, даволі частых. Аднак жа пасады Галоўнага Паштмайстра ды Шырыфа сумяшчаліся з кіраўніцтвам, і таму яму даводзілася й Пошту даглядаць, і Ахову. Толькі гэтыя дзьве афіцыйныя ўправы ў Шыры й меліся. Пошта рабіла нашмат болей клопатаў за Ахову. Пісьменнымі былі далёка ня ўсе хобіты, але ж тыя, што былі, няспынна пісалі й пісалі ўсім сваім сябрам (і выбранай частцы сваякоў), калі толькі тыя жылі за межамі пасьлясьняданкавага шпацыру.

*Шырыфамі* хобіты называлі сваіх ахоўнікаў, вартаўнікоў спакою й дабрабыту. Вядома, нейкай асаблівай уніформы ў іх ня мелася (бо што такое "ўніформа", хобіты ня ведалі), насілі на капелюшы пяро й вартавалі пераважна зьвяроў – каб у якую псоту ня ўлезьлі. Было іх па тры ў кожным падзеле – для Ўнутраных справаў, як кажуць. Крыху болей склікалася – у залежнасьці ад патрэбы – даглядаць за межамі ды сачыць, каб прышлыя, вялікія ці малыя, шкоды не нарабілі.

На пачатку нашага расповеду колькасьць *прымежнікаў*, як іх называлі, значна павялічылася. Тут і там пасельнікі скардзіліся на чужынцаў ды ўсялякіх пачвараў, што шлындаюць ля межаў ці нават па-за імі. Бо падступалі часы небясьпечныя, вядомыя толькі з даўніх паданьняў ды казак. Зрэдку хто зьвяртаў увагу на трывожныя прыкметы пераменаў, нават і сам Більба. Шэсьцьдзесят гадоў мінула зь ягонай помнай вандроўкі, ён сягнуў узросту вельмі старога нават паводле хобіцкіх вымярэньняў, бо хобіты звычайна дажывалі да сотні й болей. Скрыні з здабыткам, прывезеным з той вандроўкі, відавочна, былі далёка да спусташэньня, а ў якой ступені далёка, Більба не распавядаў нікому, нават свайму самаму ўлюбёнаму пляменьніку Фрода. А яшчэ Більба захоўваў, анікому не паказваючы, дзівосны пярсьцёнак, які прыдбаў падчас той вандроўкі.

## *4. Пра знаходку пярсьцёнка*

Як пра тое распаведзена ў "Хобіце", аднойчы ля Більбавых дзьвярэй зьявіўся вялікі чараўнік Гэндальф Сівы, а зь ім – трынаццаць гномаў: сам нашчадак каралёў Торын Дубатарч і дванаццаць спадарожнікаў яго выгнаньня. Зь імі Більба, не перастаючы зьдзіўляцца гэткай сваёй дзёрзкасьці, красавіцкай раніцою 1341 году паводле шырскага адліку выправіўся па вялікі скарб гномскіх Каралёў-пад-Гарой да Эрэбару ў Доле, далёка на ўсходзе. Авантура завершылася пасьпяхова, цмок, які ахоўваў скарб, загінуў. Пасьля гібелі цмока адбылася Бітва Пяці Войскаў, у якой загінуў Торын. Шмат гераічнага зьдзейсьнілася, але ж усё было б вартае ня болей як некалькіх радкоў у доўгім летапісе Трэцяй эпохі, калі б не маленькі выпадак (магчыма, зусім не выпадковы выпадак). На высокім перавале праз Туманныя горы па шляху да Дзіказем'я на вандроўнікаў напалі оркі. І так здарылася, што Більба згубіўся ў чорных оркаўскіх тунэлях глыбока пад гарамі й там, у паўнюткай цемры, навобмацак натрапіў на пярсьцёнак, які ляжаў на падлозе. Більба падалося – пашанцавала дый усё. Ён схаваў пярсьцёнак у кішэню.

Намагаючыся знайсьці выйсце, Більба спусьціўся да самых горных каранёў і ня ведаў, куды ісьці далей. А там на выспачцы пасярод халоднага цёмнага возера жыў

Глыкс – агідны маленькі пачварань. Глыкс плаваў у чоўніку, падграбаючы пляскатымі ступакамі, углядаўся ў цемру бляднымі пранізьлівымі вачыма, лавіў сьляпую рыбу доўгімі пальцамі ды жэр яе жыўцом. Ён што заўгодна мог зжэрці жыўцом, нават орка, калі толькі шанцавала цішком ухапіць і прыдушыць без асаблівых намаганьняў. Ён здаўна, калі яшчэ жыў пад сонцам, валодаў дзівосным скарбам – залатым пярсьцёнкам, які рабіў свайго гаспадара нябачным. Адзін гэты пярсьцёнак ён любіў, называў "мая каштоўнасьць", размаўляў зь ім, нават калі ня меў з сабою. Бо трымаў яго ў патаемнай дзірцы на сваім востраве й насоўваў на палец, толькі калі выходзіў паляваць ці віжаваць за оркамі ў тунэлях.

Магчыма, ён адразу напаў бы на Більба, калі б меў з сабою пярсьцёнак, аднак пярсьцёнка не было, а хобіт да таго ж трымаў руку на эльфскім кордзе. Таму, каб выйграць час, Глыкс прапанаваў згуляць у загадкі: калі Більба не адкажа, Глыкс яго зжарэ, а калі Глыкс прайграе, то пакажа, як хоча Більба, шлях на паверхню.

Другой надзеі Більба ня меў, дзе выхад, ня ведаў, і таму згадзіўся. Яны загадалі адзін аднаму мноства загадак, і ўрэшце Більба выйграў, хутчэй, дзякуючы выпадку (ці так падалося), а ня розуму. Бо ён ня мог прыдумаць, што загадаць Глыксу, і мацаючы ў задуменьні па кішэнях, натрапіў на пярсьцёнак, пра які ўжо быў забыўся, і сказаў, зьдзівіўшыся, уголас: "*А што ж гэта такое ў маёй кішэні?*" Глыкс адгадаць ня здолеў, хоць і патрабаваў тры спробы.

Напэўна, можна паспрачацца, сапраўдная гэта была "загадка" ці проста "пытаньне", а не загадка паводле суворых правілаў гэтай гульні. Тым ня менш усе пагаджаюцца, што раз Глыкс прыняў загадку й спрабаваў адказваць, ён быў ужо абавязаны падпарадкавацца правілам. Більба прымушаў яго стрымаць слова, бо аніякага даверу да сьлізкага пачварня ня меў, але ж марна. Хоць гульня ў загадкі лічылася вельмі істотнай і непарушнай, блізкай да клятвы, і толькі самыя злаўмысныя ды нягодныя істоты насьмельваліся парушыць яе правілы, Глыкс і сапраўды задумаў здраду, бо за доўгія гады адзіноты й цемры душа яго зрабілася чорнай. Глыкс уцёк, дабраўся да недалёкай сваёй выспачкі, пра якую Більба не здагадваўся, і палез па пярсьцёнак. Глыкс згаладаўся, раззлаваўся, а з сваёй "каштоўнасьцю" на пальцы мог ужо не баяцца аніякай зброі.

Але ж пярсьцёнка на востраве не было. Глыкс згубіў яго, пярсьцёнак зьнік. Ад Глыксавага ляманту Більба скалануўся. Што здарылася, ён не зразумеў. Затое Глыкс зразумеў – позна. Ён загаласіў: "*Ш-што ў ягоныхх кішэнікаххх?!*" Ягоныя вочы зазьзялі зялёным полымем. Ён шалёна ірвануў назад – забіць хобіта ды ўратаваць сваю "*каш-штоўнась-сь-сьць*". Більба адчуў небясьпеку й кінуўся наўцёкі па тунэлі, наўздагад, толькі каб далей ад вады, – і зноў яму пашэнціла. Уцякаючы, сунуў руку ў кішэню, а пярсьцёнак нібы сам сабою насунуўся на палец. Гэтак і выратаваўся, бо Глыкс прабег, не заўважыўшы хобіта, і памчаўся да выхаду, каб ля яго падпільнаваць "злодзея". Більба асьцярожненька пракраўся за ім, чуючы, як Глыкс лаецца й размаўляе сам з сабою пра сваю "каштоўнасьць". З той размовы Більба й здагадаўся пра пярсьцёнкавы ўласьцівасьці, і пасярод цемры ў яго нарадзілася надзея: разам зь дзівосным кляйнодам знайшоўся й шанец уцячы ад оркаў і Глыкса.

Урэшце, абодва дабраліся да непрыкметнага праходу, які вёў да ніжняй гоблінскай брамы на ўсходнім краі гор. Там Глыкс стаў на кукішкі, прынюхваючыся ды прыслухоўваючыся. Більба хацеў пырнуць яго кордам. Аднак пашкадаваў небараку. Хоць ад пярсьцёнка ня мог адмовіцца, бо той быў адзінай надзеяй выратавацца, – выкарыстаць яго, каб забіць няшчасную пачвару, ня мог. Нарэшце, сабраўшыся з духам, хобіт пераскочыў праз Глыкса ў цемры й памчаў прэч па тунэлі,

пачуўшы за сьпінаю крыкі адчаю й нянавісьці: "*Злодзей! Злодзей! Торбінс-с-с!! Назаўсьсёды ненавісс-с-ны!!!*"

Цікава, што спадарожнікам Більба распавёў цалкам іншае: нібыта Глыкс паабяцаў яму "падарунак", калі Більба выйграе. А калі Глыкс выправіўся на востраў па "падарунак", то ўбачыў, што ягоны кляйнод, чароўны пярсьцёнак, падараваны яму шмат гадоў таму на дзень народзінаў, зьнік. Наш хобіт здагадаўся, што ягоная знаходка й ёсьць той самы пярсьцёнак. Выйграўшы гульню, Більба меў права ўтрымаць яго. І анічога не сказаў пра яго Глыксу, бо, вядома, трэба ж было выратоўвацца, і таму замест падарунку прымусіў Глыкса паказаць шлях да выхаду. У Більбавых запісах засталася менавіта гэтая вэрсія, і ён яе не зьмяніў нават пасьля Рады ў Эльранда. Відавочна, так яна ўвайшла і ў арыгінал Пунсовай кнігі, і ў яе сьпісы-копіі, і ў скарочаныя пераказы. Але ж шмат у якіх сьпісах распаведзеная й сапраўдная гісторыя (як іншая вэрсія), складзеная, безумоўна, паводле нататкаў Фрода ці Сэмвайза. Абодва вызналі праўду, аднак (як падаецца) не хацелі выкрэсьліваць анічога, напісанага рукою старога хобіта.

Гэндальф жа адразу не паверыў у Більбаву гісторыю й вельмі зацікавіўся пярсьцёнкам. Урэшце, пасьля доўгіх допытаў ды роспытаў праўду ён зь Більба такі выцягнуў – ледзь не пасварыўшыся зь ім. Але чараўнік палічыў тое вартым праўды. Таксама надта істотным – і трывожным – яму падалося, што хобіт не сказаў праўды адразу. Ня ў звычцы гэта было ў Більба. І ўвогуле, ідэю гэткага "падарунку" хобіт ня сам вынайшаў, а падхапіў, падслухоўваючы Глыксаву балбатню. Глыкс шмат разоў назваў пярсьцёнак "падарункам на дзень народзінаў". І Гэндальф занепакоіўся ды зьвярнуў асаблівую ўвагу на гэта, аднак – як будзе відаць у нашай кніге – поўную праўду ён ня ведаў яшчэ шмат гадоў.

Пра астатнія Більбавы прыгоды распаведзена ў іншай кнізе, і тут мы пра іх згадваць ня будзем. Дастаткова сказаць, што пярсьцёнак дапамог яму ўцячы ад оркаў-вартаўнікоў ды знайсьці сваіх паплечнікаў. Потым Більба неаднойчы карыстаўся пярсьцёнкам – у асноўным, каб выратаваць сяброў, але ж трымаў яго ў сакрэце, пакуль толькі мог. Вярнуўшыся дахаты, не распавёў пра яго нікому, акрамя Гэндальфа ды Фрода, і ніхто болей у Шыры пра пярсьцёнак ня ведаў, ці так Більба падавалася. Толькі Фрода ён паказаў свае нататкі пра вандроўку.

Корд, Джала, Більба павесіў над агменем, дзівосную кальчугу, гномскі падарунак з цмокавай скарбніцы, аддаў на выставу ў музэй – аніякі іншы як міхальвыкапскі Адметнік. Аднак у Торбе-пад-Стромай, у шуфлядзе, трымаў стары плашч ды капялюш, якія апранаў падчас вандроўкі. А пярсьцёнак, прычэплены да файнага тонкага ланцужка, заўсёды трымаў у кішэні.

Вярнуўся Більба дахаты дваццаць другога чэрвеня на свой пяцьдзясят другі год (1342-гі паводле шырскага адліку), і з таго часу анічога адметнага ня здарылася ў Шыры датуль, пакуль спадар Торбінс не пачаў падрыхтоўку да сьвяткаваньня свайго стоадзінаццатага дня народзінаў. Вось тут і пачынаецца наш расповед.

## *Нататкі да шырскіх запісаў*

Напрыканцы Трэцяй эпохі роля, якую адыгралі хобіты ў грандыёзных падзеях, праз якія Шыр увайшоў у склад Адроджанага каралеўства, абудзіла сярод хобітаў цікавасьць да ўласнай гісторыі. Шмат паданьняў, якія дагэтуль існавалі толькі ў

вуснай традыцыі, былі сабраныя й запісаныя. Найгалоўнейшыя роды таксама цікавіліся справамі ўсяго каралеўства, і шмат хто з гэтых родаў вывучаў старажытныя летапісы й паданьні. Напрыканцы першага стагодзьдзя Чацьвертай эпохі Шыр меў ужо некалькі бібліятэк з кнігамі па гісторыі й летапісамі.

Найвялікшыя з гэтых бібліятэк знаходзіліся, напэўна, у Падвежжы, у Вялікіх Сьміялах ды Прырэчнай сядзібе. Наш расповед пра заканчэньне Трэцяй эпохі ўзяты, галоўным чынам, з Пунсовай кнігі Заходняга Краю. Гэтая найістотнейшая крыніца пра гісторыю Вайны Пярсьцёнка мае такую назву, бо доўга захоўвалася ў Падвежжы, у сядзібе Файнадзетаў, Варты Заходняга Краю. Аснова гэтай кнігі – асабісты Більбаў дзёньнік, які ён узяў з сабою ў Долы Яр. Фрода прывёз яго ў Шыр разам з значнай колькасьцю паасобных нататак ды цягам 1420-1421 гадоў дадаў свой расповед пра вайну. Таксама далучаныя прыстасаваныя да яго тры вялікія тамы Більбавых запісаў, пераплеценыя ў пунсовыя скуры, – верагодна, яны й захоўваліся ў адной чырвонай скрыні разам з Пунсовай кнігай. Да гэтых чатырох тамоў ужо ў Заходнім Краі дадалі пяты – з камэнтарамі, радаводамі ды шмат чым яшчэ пра хобітаў зь Зьвязу Пярсьцёнка.

Арыгінал Пунсовай кнігі не захаваўся, аднак зь яе былі зробленыя шматлікія сьпісы, асабліва зь першага тому, – для нашчадкаў гаспадара Сэмвайза. Найістотнейшы сьпіс з суцэльнай кнігі мае адметную гісторыю. Захоўваўся ён у Вялікіх Сьміялах, але ж рабіўся ў Гондары, верагодна, на просьбу прапраўнука спадара Перыгрына й быў скончаны ў 1592 годзе паводле шырскага адліку (172 год Чацьвертай эпохі). Пісар дадаў да яго: *Фіндэгіль, Каралеўскі Пісьмавод, скончыў гэтую працу ў 172-м*. Гэта дакладная, да апошняй дробязі, копія Танавай кнігі Мінас Тырыту. А ўжо тая кніга – зробленая на загад караля Элесара копія самой Пунсовай кнігі Перыянату, якую тан Перыгрын напрыканцы сваіх дзён прывёз яму ў Гондар у 64 годзе Чацьвертай эпохі.

Гэткім чынам, Танава кніга – першая з копій Пунсовай кнігі, і таму ўтрымлівае шмат з таго, што пазьней было выкінутае ці згубленае. У Мінас Тырыце да яе дадалі шмат камэнтараў ды паправак, асабліва што да імёнаў, іншамоўных словаў і цытацый з эльфскіх моваў. Дадалі й скарочаную вэрсію тых частак "Сказу пра Арагорна ды Арвэн", якія ляжаць па-за расповедам пра вайну. Даводзяць, што цалкам той сказ запісаў Барайр, праўнук намесьніка Фараміра, пасьля сьмерці караля Элесара. Але ж галоўная каштоўнасьць Фіндэгілевай копіі ў тым, што ў ёй адной – усе цалкам Більбавы "Пераклады з эльфскай". Гэтыя тры тамы – паводле агульнага сьведчаньня, працу вялікага майстэртва й навуковасьці – ён склаў паміж 1403 і 1418 гадамі падчас жыцьця у Долым Яры, карыстаючыся ўсімі даступнымі там крыніцамі: і запісамі, і расповедамі жывых сьведкаў. Аднак паколькі яны амаль цалкам прысьвечаныя Даўнім дням і не скарыстаныя Фрода ў ягонай гісторыі, тут пра іх болей згадвацца ня будзе.

Спадары Мэрыядок і Перыгрын ачольвалі вялікія роды, не парываючы сувязяў з Роханам ды Гондарам, і таму бібліятэкі Бычышчаў і Хват-Гарадку ўтрымліваюць шмат таго, што ў Пунсовую кнігу не ўвайшло. У Прырэчнай сядзібе ёсьць колькі працаў пра Эрыядар ды гісторыю Рохану. Некаторыя склаў ці пачаў складаць сам спадар Мэрыядок – хоць у Шыры яго памятаюць, галоўным чынам, за ягоныя "Травазнаўства Шыру" ды "Адлік гадоў", дзе ён апісвае, як суадносяцца календары Шыру й Прыгор'я з календарамі Долага Яру, Гондару й Рохану. Ён таксама склаў кароткі трактат "Старыя словы Шыру", зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на сваяцтва з

роханскаю моваю такіх "шыраслоўяў", як "адмецьце" й розныя незразумелыя архаічныя часткі шырскіх назваў.

Кнігі ў бібліятэцы Вялікіх Сьміялаў былі ня дужа цікавыя для шырскіх чытачоў, але ж тычыліся значна шырэйшай гісторыі. Ніводная зь іх не напісаная самім Перыгрынам, аднак ён і ягоныя пераемнікі сабралі даволі гондарскіх рукапісаў: пераважна, сьпісаў ці пераказаў паданьняў пра Элендыля й ягоных сыноў. Вялікія Сьміялы – адзінае месца ў Шыры, дзе можна знайсьці шмат матэрыялаў з гісторыі Нумэнору й Саўронавых войнаў. Верагодна, з дапамогай сабраных Мэрыядокам зьвестак менавіта ў Вялікіх Сьміялах склалі "Летапіс гадоў". Пададзеныя там даты (асабліва Другой эпохі), даволі прыблізныя, але ўсё-ткі заслугоўваюць увагі. Магчыма, Мэрыядок карыстаўся дапамогай Долага Яру, дзе ня раз бываў. Хоць Эльранд і пакінуў Міжзем'е, у Долым Яры яшчэ заставаліся ягоныя сыны разам з Вышнімі эльфамі. Казалі, што Келебарн жыў там пасьля таго, як Галадрыель сплыла за мора. Але ж у хроніках анічога не гаворыцца пра тое, калі ён сам, нарэшце, адшукаў Сівыя Завані, зь ім разам зь Міжзем'я зьнік апошні жывы сьведка Даўніх дзён.



ЗАХАД
МІЖЗЕМ'Я
ЭРЭД МІФРЫН
ЖАЛЕЗНЫЯ
ГОРЫ
Эрэбар
Струмяніца
Р. У. Н.
Мора
Рун
ЛІХАЛЕСЬСЕ
Андуін
БУРЫЯ
ЗЕМЛІ
ФОРНАСТ
ПРЫГОР'Е
Заліў Люн
ЭРЫЯДАР
Шыр
Брандывін
Шэраводдзе
Морыя
Лорыйн
ФАНГАРН
Ізенградак
Ізен
РОХАН
ЭДОРАС
ГОНДАР
Эмін Мюйл
Дагорлад
ЭРЭД ЛІТУІ
Барад-дур
МОРДАР
Нурынен
ХАНД
Паўднёвы
Гондар
БЛІЗКІ ХАРАД

## *1. Доўгачаканая вечарына*

Калі спадар Більба Торбінс з Торбы-пад-Стромай нарэшце абвесьціў, што неўзабаве найшыкоўнейшай бяседаю адсьвяткуе сваё стаадзінаццацігодзьдзе, усхадзіўся, загаманіў увесь Хобіцак.

Більба быў вельмі заможны й надта дзіўнаваты хобіт, пагалоскі пра яго гулялі па ўсім Шыры ажно з часоў Більбавага таемнага зьнікненьня й нечаканага вяртаньня шэсьцьдзесят гадоў таму. Багацьце, якое ён прывёз з далёкіх краёў, зрабілася мясцовым паданьнем, тутэйшы паспаліты люд – за выключэньнем хіба самых старых, на чые словы ўсё адно ніхто не зважаў, – лічыў, што Строма ўздоўж ды ўпоперак пракапаная тунэлямі й з коптурам заваленая скарбамі. Але, каб і не багацьце, было чаго дзівіцца на спадара Більба. Час нібыта не адбіваўся на ім. У дзевяноста ён выглядаў амаль гэтаксама, як і ў пяцьдзясят. У дзевяноста дзевяць пра яго казалі, што ён "добра захаваўся", але ж дакладней было б – "ані не зьмяніўся". Некаторыя трэсьлі галовамі, прыгаворваючы, што занадта, ажно нячэсна, ужо каму-нікаму шчасьціць – заставацца відочна маладым ды пры незьлічоным (з чутак) багацьці.

– За ўсё давядзецца сплочваць, – казаў сёй-той. – Вох, няладна гэта, не па-хобіцку, пагляньма, абернецца ліхам.

Але беды абыходзілі Торбу-пад-Стромай; спадар Більба заўсёды вызначаўся шчодрасьцю, і таму знаёмыя ахвотна прабачалі яму й дзівоцтвы, і "ліхое" багацьце. З сваякамі ён падтрымліваў прыязныя стасункі, нават гасьцяваў у многіх (натуралёва, толькі ня ў Кесак-Торбінсаў), а сярод хобітаў з малазаможных ды несамавітых сямействаў у яго былі й адданыя прыхільнікі. Толькі ж сапраўдных сяброў Більба ня меў, пакуль не пасталелі ягоныя маладзейшыя родзічы.

Найстарэйшым ды самым улюбёным Більбавым пляменьнікам быў малады Фрода Торбінс. Калі Більба споўнілася дзевяноста дзевяць, ён абвесьціў Фрода сваім спадчыньнікам; такім чынам, Фрода справіў улазіны ў Торбу-пад-Стромай, а спадзевы Кесак-Торбінсаў канчаткова абрынуліся. Дзядзька й пляменьнік нарадзіліся ў адзін дзень, 22 верасьня, і таму Більба сказаў аднойчы:

– Фрода, хлопча, лепей перабірайся да мяне, разам лацьвей сьвяткаваць народзіны.

У гэты час Фрода быў ва ўзросьце, які хобіты завуць "дваццастоўкі" – пракудлівыя гады паміж дзяцінствам і сталасьцю, якая, паводле хобітавых меркаваньняў, надыходзіць пасьля трыццаці трох.

Мінула яшчэ дванаццаць гадоў. Штовосень Торбінсы ладзілі спраўныя сумесныя дні народзінаў, але ж сёлета ўсё наваколле чакала нечага выключнага. То ж бо Більба споўніцца ажно сто адзінаццаць – 111 – вельмі цікавая лічба й надзвычай паважны ўзрост для хобіта (сам стары Хват дажыў толькі да ста трыццаці). А Фрода дасягне трыццаці трох – лічба ня толькі цікавая, але й адказная, бо тады хобітаў лічылі поўнагадовымі.

Ну й заматлялі тады языкамі па Хобіцку ды Прырэччы, а чуткі дый увогуле па ўсім Шыры папаўзьлі. Більбавы прыгоды й сам ён вярнуліся як галоўныя героі размоваў ці плётак, а старэча раптам вынайшла, што барадатыя расповеды зноў карыстаюцца сапраўднай увагай.

І анікога ня слухалі так уважліва, як старога Хэма Гэйхада называнага проста Дзедам. Засядаў ён у "Ракітах", маленькім шынку на прырэцкім бальшаку, і сапраўды ведаў, пра што баіць, бо сорак гадоў даглядаў сад Торбы-пад-Стромай, а раней

дапамагаў у тым старому Хольману. Цяпер Дзед і сам ужо немалады зрабіўся, цяжкаваты на хаду, вядома, таму больш працаваў ягоны меншанькі, Сэм. І бацька, і сын вельмі добра ладзілі зь Більба й Фрода. І жылі на самой Строме, у трэцім доме Прыторбінскай слабады.

– Кажу вам, спадарства, такога ласкавага ды ветлага пана, як спадар Більба, яшчэ пашукаць трэба, – абвяшчаў Дзед. І сапраўды: Більба быў вельмі ветлівы зь ім, клікаў "спадару Гэйхадзе" й заўсёды распытваў пра ўсялякую гародніну, бо ў "каранях", насамперш у бульбе, Дзеда ўсё наваколье (і сам ён першы) прызнавала найгалаўнюткім аўтарытэтам.

– А як наконт гэнага Фрода, які таксама ў Торбе цяпер? – спытаў стары Нуксь з Прырэчча. – Кажуць, адно што ймя Торбінс, а сам напалову ці нават болей – Бронь-Быч. І прыйшло ж да галавы нашаму хобіцкаму Торбінсу шукаць жонку ў Прыбыччы. Там народ амаль усе глузды папагубляў.

– Ці ж тут не папагубляеш, – дадаў Бацька Двулыг, найбліжэйшы Дзедаў сусед, – прыжыліся па той бок Бранявіну, ну ўпрост у Старой пушчы. Калі хоць палове чутак верыць, мясьцінка – жах суцэльны, калі ня горш.

– Праўда, спадарыку, праўда, – згадзіўся Дзед, – ну, Бронь-Бычы не ў Старой пушчы жывуць, але, відаць, сапраўды дзівакі яны. Глупства якое – у чоўнах па такой рацэ целяпацца. Ну, я скажу, тут і да бяды недалёка. Адылі мяці не мяці языком, а спадар Фрода – ласкавы малады паніч, яшчэ пашукай такіх. Надта падобны да спадара Більба, і ня толькі з твару. Вядома, бацька ж – праўдзівы Торбінс. А які ж дабрадзею быў наш спадарык Дрога Торбінс! Ну, анічога гэткага ня скажаш, толькі вось што патануў.

– Патануў?! – жахнуліся адразу некалькі галасоў.

Вядома, усе тут чулі пра гэта й шмат пра што яшчэ, але ж хобіты вельмі ахвочыя да сямейных гісторыяў сваіх суседзяў і заўжды гатовыя слухаць зноў і зноў.

– Ну, людзі кажуць так, – пачаў Дзед, – бачыце ж, спадар Дрога – ён жа пашлюбаваўся зь нябогай Прымулкай Бронь-Бычанкай. Яна спадару Більба стрыечніца, бо яе маці – малодшая з дачок Старога Хвата, а спадар Дрога яму ў трэцяй стрэчы. Так што спадарыч Фрода – ён і ўнучаты пляменьнік, і траюрадны, куды ні глянь. А спадар Дрога якраз гасьцяваў у Прырэчнай сядзібе, у сьвёкра, старога пана Гарбадока. А той жа такія бяседы задаваў – і не паверыш, пакуль сам не пабачыш, – ну а спадарыку наш любіў у таўшчыню скакнуць, як кажуць. Вось так і ўзяўся, нарэшце, плаваць у чоўне па Бранявіне, дый патануў разам з жонкаю, а малы небарака, паніч Фрода, і застаўся сіратою, куды тут ні глянь.

– Я чуў, яны чоўніцца ўзяліся апасьля вячэры. Захацелася, бач, пакатацца ў месяцовым сьвятле, а Дрога ж пацяжэў пасьля пад'едку дый патапіў човен, – дадаў стары Нуксь.

– А я чуў, што яна яго сьпіхнула, а ён яе за сабою пацягнуў, – абвесьціў Пяшчак, хобіцкі млынар.

– Ты не ўсяму вер, што табе наплявузгаюць, Пяшчаку, – адказаў Дзед, які млынара ня тое каб моцна любіў, – тут і піхаць анікога ня трэба. У чоўне ты шчэ паспрабуй уседзь і так, без аніякага глупства. Ну, карацей, застаўся панічык Фрода сіратою, адзінюткі сярод дзівакоў гэных, прыбычцаў, расьці-гадавацца. А ў Прырэчнай сядзібе той – гармідар, бы на таржышчы. У старога пана там ніколі меней за дзьве сотні сваякоў і не бывала. Гэта міласьць найвялікшая спадара Більба, што ён малога сюды выцягнуў, да нармалёвага люду. Ох, скажу вам, і навіна была для Кесак-Торбінсаў! Яны ж упэўніліся, што Торба-пад-Стромай ім дастанецца, калі Більба

выправіўся вандраваць і яго ўжо палічылі памерлым. А ён – на табе, вярнуўся дый іх выставіў, і жывець сабе, і выглядае шчэ, нібы ані на дзень не састарэў, каб яму здароўіца! А тут і спадчыньніка знайшоў, і паперкі ўсе зрабіў як мае быць. Кескам цяпер Торбу-пад-Стромай толькі звонку й бачыць, спадзяюся.

– Я чуў: там прыхавана нямала грошай, – азваўся адзін зь нетутэйшых, што прыехаў па справах з Заходняга падзелу, з самага Міхальскага Выкапу, – і Строма вашая ўся скапаная тунэлямі, а ў тунэлях – скрыні, ды ўсё з золатам, ды срэбрам, ды шмудам усялякім каштоўным, вось што я чуў.

– Ну, дык ты зашмат чуў, сынку, – адказаў Дзед, – я вось ні пра які шмуд анічога ня ведаю. У спадара Більба грошы ёсьць, і грошай даволі, але ж ані пра якія тунэлі я ня ведаю. Бачыў я, калі спадар Більба вярнуўся, шэсьцьдзесят гадкоў таму. Я йшчэ зусім зялёны быў, толькі-толькі пачаў дапамагаць старому Хольману (бо ён жа бацькаў дзядзька), але ж ён узяў мяне з сабою ў Торбу-пад-Стромай, каб я падсобіў. Бо таржышча ж было, маёмасьць распрадавалі, народ мог і сад патаптаць, і шкоды нарабіць. І пасярод усяго гэнага – га! Спадар Більба – на Строме, і поні зь ім, а на поні здаравенныя мяхі ды парачка скрыняў. Ясна, набітых скарбамі з замежных краёў, бо, кажуць, там жа горы залатыя, адылі тунэляў для гэнага капаць ня трэба, і так месца хапіла. Мой малодшы, Сэм, – во той ведае болей. Толькі ў Торбе-пад-Стромай і пасьвіцца. Хлебам не кармі, дай яму паслухаць показы пра даўніну, і ўсё ён спадара Більба слухае. Той яго й пісьму вывучыў – ну, дабра жадаў хлопцу. Спадзяюся, ня выйдзе з таго аніякага ліха. А я кажу малому: "Эльфы-цмокі дый годзе! Для нас з табою – капуста ды бульба! Ты ў справы тыя, што большыя за цябе, носу ня суй, а тое клопатаў такіх знойдзеш, што з галавой закапаюць". Гэтак я яму сказаў – і іншым так кажу, – дадаў Дзед, зірнуўшы на млынара й міхаль-выкапскага госьця.

Аднак Дзед не пераканаў слухачоў. Маладзейшыя хобіты непахісна верылі ў незвычайнае Більбава багацьце.

– Але ж Більба й дадаў да таго, што прывёз, – запярэчыў млынар. – Часта швэндаецца туды ды сюды. А зірні толькі на ягоных гасьцей: прыхадні, зброды ўсялякія, гномы ўночы зьяўляюцца, і стары бадзяга-фокусьнік, Гэндальф, дый яшчэ. Кажы што хочаш, Дзед, а месца гэнае дзіўнаватае, Торба, а народ там і болей за тое.

– І ты кажы, сынку, што хочаш, калі ласка, – асабліва пра тое, што ведаеш ня лепш за чоўны, – параіў Дзед, якому млынар не падабаўся нават болей як зазвычай, – калі вось гэта зваць "дзівоцтвам", дык болей было б гэткай "дзівоснасьці" ў нашых мясьцінах. Тут побач такія ёсьць, што й куфаль піва сябру ня выставяць, хоць бы ў іх там у нары сьцены залатыя. А ў Торбе-пад-Стромай звычаі ведаюць. Мой Сэм кажа: кожнага запросяць на Вечарыну, кожнага! І падарункі будуць для ўсіх, чуеце? І ў гэтым самым месяцы.

Гэты самы месяц быў верасень, і надзвычай файны да таго ж. Празь дзень ці два пайшла пагалоска (верагодна, дзякуючы Сэму), што будуць фаервэркі, сапраўды, ды такія, якіх у Шыры ня бачылі амаль стагодзьдзе, пасьля сьмерці Старога Хвата.

Міналі дні, і Вечарына набліжалася. Неяк позьнім вечарам дзіўны вазок, запоўнены загадкавымі пакункамі, прыкаціў у Хобіцак ды папоўз угару да Торбы-пад-Стромай. Напалоханыя хобіты ціхенька сачылі за ім з-за прачыненых дзьвярэй. На вазку чужынцы, доўгабародыя гномы ў велічэзных капелюшах, сьпявалі нязнаныя песьні. Некаторыя нават і засталіся ў Торбе-пад-Стромай. А напрыканцы другога верасьнёўскага тыдня ў Прырэчча па бальшаку ад Каменналучнага мосту прыкаціў яшчэ адзін вазок, і пасярод яснага дня. Сядзеў на ім самотны стары ў вастракончым

блакітным капелюху, доўгім шэрым плашчы ды срэбным шаліку. У старога была доўгая сівая барада й велічэзныя густыя брові, што нават высоўваліся з-за крыса капелюха. Малыя хабіцяняты беглі за вазком праз увесь Хобіцак і нават да верху Стромы. Здагадаліся – едуць фаервэркі. Перад Більбавымі дзьвярыма стары разгрузіў вазок, павыцягваў вялікія пачкі ракетаў і прыладаў найразнастайнейшых відаў ды памераў, усе пазначаныя вялікай чырвонай літарай  – Г ды эльфскай рунай .

Гэндальфаў знак, і сам стары – ня хто іншы як чараўнік Гэндальф, славуты на ўвесь Шыр галоўным чынам дзякуючы сьвяточным вогненным забавам. Сапраўдныя ягоныя дзеі былі нашмат цяжэйшыя ды небясьпечнейшыя, аднак хобіты анічога пра іх ня ведалі. Ну, зьявіўся – вядома, Вечарына будзе на дзіва. Малыя ледзь зь сябе не павыскоквалі, галосячы:

– Гэндальф – вух! Гэндальф – бух! Жыве Гэндальф!

Стары ўсьміхаўся: малыя хоць і сустракалі яго раней, бо ён наяжджаў час ад часу, штораз хутка зьнікаючы зноў, але ж фаервэркаў ня бачылі ані яны, ані найстарэйшыя з хобітаў. Для ўсіх фаервэркі былі цудоўнай казкай.

Калі стары з дапамогаю Більба ды гномаў скончыў разгружаць вазок, Більба раздаў малечы некалькі манэтак, аднак ані пітарды, ані яскраўкі – гэткае расчараваньне.

– Пачакайце троху, – суцяшаў Гэндальф, – прыйдзе час – усё атрымаеце, што хочаце.

І зьнік за дзьвярыма разам зь Більба. Хабіцяняты колькі часу глядзелі на зачыненыя дзьверы ды разышліся з пачуцьцём, што дзень Вечарыны ну ніколі не надыдзе.

У Торбе Більба й Гэндальф сядзелі ля вакна, што выходзіла на захад, на сад, на мяккі сонечны вечар. Кветкі люстравалі золата й чырвань – сабачкі ды сланечнікі, настуркі абвілі ўсе сьцены ды заглядвалі ў круглыя вакенцы.

– Які зыркі ў цябе сад! – сказаў Гэндальф.

– Так, – пагадзіўся Більба, – і ён мне надта даспадобы, як і ўвесь мой дарагі стары Шыр. Але ж, падаецца, трэба мне на вакацыі.

– Пэўна наважыўся зрабіць, што заплянаваў?

– Так. Месяцы таму вырашыў, і цяпер не перадумаю.

– Добра. Значыць, і спрачацца сэнсу няма. Рабі, што заплянаваў, – толькі да канца, абавязкова. Можа, усё абернецца найлепшым чынам – і для цябе, і для ўсіх нас.

– Спадзяюся. Так ці інакш, я ў чацьвер павесялюся ды крышачку пажартую.

– Толькі хто пасьмяецца з твайго жарту? – пахітаў галавою Гэндальф.

– Пабачым, – адказаў Більба.

Раніцою вазкі пакаціліся ўгору па Строме адзін за адным. Сьпярша тутэйшыя былі наракалі, што вось адным чужынцам праца й грошы, а сваім нічога, але хутка аніякай рацыі ў гэтым не засталося – з Торбы так і пасыпаліся замовы на ежу, пітво, усялякія прылады й рэчы, якія толькі можна знайсьці ў Хобіцку, Прырэччы ці ўвогуле ва ўсім навакольлі. Народ узрушыўся, пачалі адлічваць дні, што засталіся да Вечарыны, і зь нецярплівасьцю чакалі паштароў з запрашэньнямі.

Хутка й тыя зьявіліся, і ў такой колькасьці, што хобіцкая пошта не спраўлялася, і прырэчанская таксама, і спатрэбілася склікаць добраахвотнікаў, каб разносіць запрашэньні й адказы на іх. Адказы несьлі ў Торбу няспынна – і ўсе з падзякамі на розныя лады ды абяцаньнямі абавязкова прыйсьці.

На браме Торбы-пад-Стромай павешалі аб'яву: "*Уваход толькі па справах Вечарыны!*". Але ж нават і па справах Вечарыны, сапраўдных ці прыдуманых, туды ўсё адно амаль не пускалі. Більба быў надта заняты: пісаў запрашэньні, зьбіраў адказы, пакаваў падарункі, дый уладкоўваў нейкія асабістыя справы да ўсяго. З самага Гэндальфавага прыезду вонкі й не высоўваўся.

І вось аднойчы хобіты прачнуліся раніцою ды ўбачылі, што вялізнае поле на поўдзень ад Більбавых парадных дзьвярэй разгароджанае вяроўкамі ды стырканае калкамі для намётаў. У схіле, які выводзіў на бальшак, прарэзалі асобны праход з шырокімі прыступкамі й пабудавалі вялікую белую браму. Тром сем'ям, чые землі былі побач з полем, зайздросьцілі ўсе ваколіцы. Дзед Гэйхад,назіраючы ў захапленьні за тым, што рабілася на поле, нават і прыкідвацца перастаў, што працуе ў садзе.

Узьняліся намёты. Адзін – такі вялізманы, што ў ім умясьцілася нават дрэва, што расло на полі. На яго навешалі ліхтарыкаў, і яно, нібы ўпрыгожаньне, пастала якраз на чале стала, ля ганаровых месцаў. А яшчэ захапляльнейшай (на хобіцкі погляд, ва ўсялякім выпадку) была неабсяжных памераў кухня бяз даху й сьценаў, якая займала ўвесь паўночны канец поля. Брыгада кухараў, абраная з усіх вакольных корчмаў ды шынкоў, зьявілася на дапамогу гномам і іншым прыхадням, раскватараваным у Торбе. Хобіцкае абуджэньне сягнула найвышэйшай мяжы.

А потым набеглі хмары – і гэта ў сераду, напярэдадні Вечарыны! Усе перапалохаліся. Але ж у чацьвер, дваццаць другога верасьня, сонейка ўзышло яснае й цёплае. Аблокі зьніклі, сьцягі й сьцяжкі залуналі на сьвежым ветрыку – і забава пачалася!

Більба Торбінс назваў сьвяткаваньне "вечарынкай". Але ж на самай справе гэта была нізка забаваў і частаваньняў, аб'яднаных у адзіны баль. Запрашэньні атрамалі практычна ўсе навакольцы, а хто не атрымаў – той сам зьявіўся. Шмат народу папрыяжджала з усіх шырскіх падзелаў ды ўкрайнаў, і нават некаторыя з-за межаў. Більба асабіста сустракаў гасьцей, чаканых і нечаканых, ля новай белай брамы. Усім і кожнаму даваў падарункі – нават і тым, хто прайшоў па полі й вярнуўся, каб другім разам увайсьці праз браму. Хобіты заўсёды дораць падарункі на дзень народзінаў. Хоць звычайна ня надта каштоўныя й не такія выкшталцоныя, як на Більбавай Вечарыне, аднак зусім ня дрэнныя. Па сутнасьці, у Хобіцку ці Прырэччы штодзень хто-небудзь ды нараджаецца, таму кожны тутэйшы мае добры шанец прынамсі на адзін падарунак штотыдзень. І гэта не стамляе ані.

Більбавы ж падарункі былі надзвычай шыкоўныя. Імпэт хабіцянятаў на некаторы час нават прагнаў апэтыт. Такіх цацак яны аніколі ня бачылі – гэткія цудоўныя, а некаторыя й чароўныя! Мноства Більба замовіў яшчэ за год да сьвята, і прывезьлі іх ад самага Долу ды з-пад Самотнай гары – сапраўдныя гномскія вырабы.

Калі ўсіх гасьцей нарэшце павіталі ды правялі за браму, надышоў час скокаў, сьпеваў, музыкі, разнастайных гульняў ды, вядома, ежы зь пітвом. Прадугледжваліся тры частаваньні: абед, гарбата ды вячэра, аднак абед ды гарбата вылучаліся толькі тым, што ўсе госьці разам сядзелі ды елі гуртом. Увесь астатні час проста большасьць сядзела й сілкавалася – ад адзінаццатай да паловы на сёмую, калі пачаліся фаервэркі.

Тут гаспадарыў Гэндальф, бо ён ня толькі прывёз, але й сам прыдумаў і вырабіў іх. І ўсе асаблівыя штукі, сурпрэзы, грамабоі й ракеты запускаў сам. Рэчы больш простыя: ляпалкі, бэхалкі, трэскалкі, агеньчыкі ды іскрунчыкі, паходні, гномавы сьвечкі, эльфавы фантаны, гоблінскія брахалкі ды грыматоўкі – шчодра раздаваліся

налева й направа. І ўсе былі проста дзівосныя, бо майстэрства Гэндальфа з гадамі толькі ўзрастала.

Ракеты разьляталіся зіхоткімі птушкамі, якія сьпявалі чароўнымі галасамі. Зялёнымі дрэвамі ўздымаліся фаервэркі: з ствалоў цёмнага дыму распускалася лісьце, нібыта ўмомант праходзіла ўся вясна, з бліскучых галінаў на зьдзіўленых хобітаў сыпаліся вогненныя кветкі – і, ледзь не дакрануўшыся хобітавых павернутых дагары твараў, зьнікалі, пакідаючы салодкі водар. Фантаны мятлушак мігцелі ў лістоце; каляровыя калёны дыму ўздымаліся й ператвараліся ў арлоў, ці ў караблі пад ветразямі, ці ў чароды лебедзяў; чырвоная навальніца пралівалася жоўтым дажджом; купы срэбных дзідаў уздымаліся ў паветра, гарлаючы, рыхтык войска ў сечы, ды падалі ў Ваду-ля-Стромы з шыпеньнем сотні гарачых гадаў. І была яшчэ адна, апошняя, у гонар Більба, неспадзяванка, якая (на што Гэндальф і спадзяваўся) страшэнна напалохала хобітаў. Згасьлі ўсе агні. У паветра ўзьняўся велізарны слуп дыму, набыў абрысы далёкай гары. Верхавіна яе засьвяцілася. І раптам выбухнула зялёным і пунсовым полымем, зь якога вылецеў чырвона-залаты цмок, троху меншы за сапраўднага, але ж насамрэч жахлівы. З пашчы пачвары вылятаў агонь, вочы палалі шаленствам. Равучы, цмок тройчы пракружляў над натоўпам. Хобіты прыгнуліся, шмат хто нават забурыўся ніцма. Цмок пранёсься над імі, нібы хуткасны цягнік, кульнуўся над ракой, ды з аглушальным грукатам выбухнуў над Прырэччам.

– Вось і сыгнал на вячэру! – абвесьціў Більба.

Паніка й агульны жах адразу зьніклі, хобіты паўскоквалі й рынуліся да сталоў. Усіх чакала найшыкоўнейшая бяседа – ну амаль усіх, бо некаторых запрасілі на адмысловую сямейную бяседу ў вялізны намёт з дрэвам. Запрошаных было роўна тузін тузінаў – лічба, якую хобіты звалі "статла", хоць статламі, вядома, народ не падлічвалі – надта ўжо няветліва. Складала гэты тузін тузінаў выбраная Більбава ды Фродава радзіна й некалькі асабістых гасьцей накшталт Гэндальфа. Прысутнічала (з бацькоўскага дазволу, вядома) і шмат маладзёнаў, бо хобіты рэдка забаранялі сваім нашчадкам заставацца цемначы – асабліва калі атрымлівалася пры тым і накарміць іх за так. Малое хабіцяня паспрабуй пракармі.

Сабралася там шмат Торбінсаў і Выкумекаў, Хватаў ды Бронь-Бычаў, колькі розных Кападлаў (радзіна Більбавай бабулькі) і Галавадлаў (сваякоў дзядулі з Хватавага боку) ды Норсаў, Пучлаў, Папружніксаў, Барсуксаў, Дабрацелаў, Рагадзьмуўцаў і Моцаў-Скурланогаў. Некаторыя зь іх нават зь цяжкасьцю падлічылі б, у якой стрэчы яны Більба сваякі, і ў Хобіцку ніколі не былі, жывучы ў найдалейшых кутках Шыру. Не забыліся й на Кесак-Торбінсаў – прысутнічалі Ота з жонкаю Лябэляй. Більба яны не любілі, Фрода ўвогуле ненавідзелі, аднак на запрашэньне, напісанае залатою фарбаю, адмовіцца ня здолелі. Да таго ж сваячок Більба шмат гадоў кшталцаваў кулінарныя веды, і ягоныя застольлі мелі надзвычай добрую рэпутацыю.

Так што ўсе сто сорак чатыры выбраныя госьці чакалі найпрыемнейшай вячэры і... шматочка гадасьці напрыканцы, непазьбежнай Більбавай застольнай прамовы. Бо ён жа мог і да вершыкаў дайсьці, а пасьля келіха-другога віна – і да расповедаў пра бязглуздыя, цьмяныя прыгоды! Госьці, вядома, асабліва не засмучаліся, бо вячэра ж была зь вячэраў, і ня проста вячэра, а баль у поўным сэнсе – доўгі, шыкоўны, з забаўкамі, усяго ўсім хапала з коптурам – потым тыднямі ніхто ў навакольлі ежу амаль не набываў. Але гандляры не перайmaліся: Більбавы замовы спустошылі кладоўкі, пуні й падполы на шмат вёрстаў навокал!

Апасьля застольля (прынамсі бліжэй да заканчэньня) надышоў час Прамовы. Большасьць гасьцей дасягнула ўжо цярплівага настрою, той найцудоўнейшай стадыі наедку, пра якую кажуць "штосьці ўпала на дно страўніка". Госьці смакавалі ўлюбёныя трункі, адшчыпвалі кавалачкі ўпадабаных ласункаў – і забыліся на ўсе страхі перад Прамовай. Яны падрыхтаваліся слухаць што заўгодна й шчыра вітаць прамоўцу, калі толькі ён зробіць ласку прыпыніцца.

– Мае даражэнькія! – і Більба паўстаў.

– Слухайце, слухайце, слухайце! – загаласілі ўсе *даражэнькія*, і ўсё паўтаралі й паўтаралі, відавочна не жадаючы слухаць сваю ж уласную параду. Більба пакінуў месца, пайшоў пад сьвяточнае дрэва, асьветленае ліхтарыкамі, ды стаў на крэсьліца. Ён усьміхаўся, і сьвятло ад ліхтарыкаў зьзяла на ягоным задаволеным твары, і паблісквалі на вышыванай шоўкам камізэльцы залатыя гузікі. Цяпер усе бачылі яго. Трымаючы адну руку ў кішэні нагавіцаў, ён памахаў другой, просячы ўвагі.

– Даражэнькія мае Торбінсы й Выкумекі! – пачаў ён Прамову зноўку. – Ласкавыя мае Хваты й Бронь-Бычы, Кападлы ды Галавадлы, Норсы, Пучлы, Папружніксы, Барсуксы, Дабрацелы, Рагадзьмуўцы ды Скурланогі!

– Моц-Скурланогі! – адгукнуўся стары хобіт з дальняга канца стала. Вядома, яго клікалі Моц-Скурланог, і нездарма, бо ногі ў яго былі й сапраўды надзвычай моцныя ды патлатыя – і хто заўгодна мог гэта пацьвердзіць, бо стары ўзгрувасьціў іх проста на стол для агульнага агляду.

– Моцныя Скурланогі, – "паправіўся" Більба, – а таксама мае добрыя Кескі-Торбінсы, што нарэшце завіталі ў Торбу-пад-Стромай. Сёньня мне споўнілася сто адзінаццаць гадоў! Адзінастасьця адзін!

– Ура! Ура! Яшчэ столькі! – загаласілі хобіты, затарабаніўшы па сталах. Вось такое яны любілі: коратка й ясна.

– Спадзяюся, усім вам гэтаксама прыемна, як і мне!

Гармідар паўстаў аглушальны: крыкі "так" (і "не"), гукі ражкоў, дудак, і флейтаў, і ўсяго іншага, што толькі магло гучаць. Як ужо распавядалася, тут было шмат маладых хобітаў. Яны ляпалі ў чароўныя ляпалкі, бэхалі ў бэхалкі ды трэскалі ў дзівосныя трэскалкі ледзь ня сотнямі. На гэтых цудоўных забаўках значылася *Дол*, і хоць слова гэтае большасьці анічога не казала, усе пагаджаліся: рэчы незвычайныя. Сярод іх былі маленькія надзвычай файна вырабленыя музычныя інструмэнты з выдатным гучаньнем. І ўжо ў адным куце маладыя Хваты й Бронь-Бычы, палічыўшы, што дзядзька Більба скончыў – бо, відаць, усё сказаў, што хацеў, а навошта болей? – скампанавалі аркестрык дый зайгралі скокі! Спадарыч Эверард Хват і спадарычня Мялілія Бронь-Бычанка забраліся на стол ды з званочкамі ў руках затанчылі "Скокі-дрыкі"! Прыемны танец, але ж крыху шалёны.

Аднак Більба яшчэ ня скончыў. Выхапіў рог у найбліжэйшага хабіцяняці й пратрубіў тройчы. Гармідар крыху сьцішыўся.

– Я не затрымаю надоўга!

Госьці дружна павіталі гэтыя словы.

– Я вас сабраў дзеля Мэты!

Нешта такое прагучала ў ягоным голасе, што амаль усе змоўклі, а пара Хватаў нават падрыхтавалася слухаць.

– Нават дзеля трох Мэтаў! Першая – абвесьціць: я ўсіх вас люблю! З такімі, як вы, незвычайнымі, файнюткімі хобітамі сто адзінаццаць гадоў пражыць – мала!

Заля выбухнула вітаньнямі.

– Добрай паловы з вас я ня ведаю так, як трэба, а горшая мне падабаецца меней, чым таго вартая!

Гэта было нечакана й надта складана. Нехта запляскаў, але ж большасьць задумалася: камплімэнт гэта ці наадварот?

– Другая – мой Дзень Нараджэньня!

Зноў вітаньні.

– Скажу болей: нашага нараджэньня, бо сёньня таксама й дзень народзінаў майго пляменьніка й спадчыньніка Фрода! Сёньня ён дасягнуў сталасьці й правоў валоданьня.

Раз-пораз, хутчэй, зь ветлівасьці папляскалі старэйшыя, маладзейшыя ж загаласілі:

– Фрода! Фрода! Жыве Фрода!!

Кескі-Торбінсы скрывіліся, намагаючыся ўцяміць, як гэта: "*дасягнуў правоў валоданьня*".

– Разам нам сто сорак чатыры. І вас таксама сто сорак чатыры. Я абраў вас дзеля гэтай адметнай лічбы: статла, так бы мовіць.

Тут ужо ніхто ня пляскаў. Глупства якое! Многія, асабліва Кескі-торбінсы, пакрыўдзіліся: няўжо родзіч паклікаў іх, каб дабраць да лічбы. Фу, статла! Як няветліва.

– Да таго ж, калі мне дазволяць сказаць пару словаў пра старажытнасьць, у гэты самы дзень я прыплыў на бочцы ў Эзгарат на Доўгім возеры. Але ж я й не ўзгадаў на свой дзень народзінаў. Мне тады было пяцьдзясят адзін, а што такое дні нараджэньня ў такім узросьце! А бяседа была шыкоўная, вось толькі я моцна застудзіўся ды на вітаньні адказваў адно: "Дгакуй фам фяліхі". Ну, цяпер у мяне ёсьць магчымасьць паўтарыць правільна: дзякуй за тое, што прыйшлі на маю маленькую вечарыну.

У адказ – поўная цішыня. Усе баяліся, што вось зараз і пачнецца яно – вершачытаньне, а можа, нават і песьнясьпяваньне. Аёй, якая нуда! Не каб змоўкнуць і дазволіць выпіць за ягонае здароўе!

Більба ж ня стаў ані чытаць вершы, ані сьпяваць. Ён змоўк на момант, а потым...

– ...Трэцяе – і апошняе, – сказаў нарэшце, – я жадаю зрабіць АБ'ЯВУ!

Ён вымавіў гэтае слова нечакана гучна, так што кожны, хто яшчэ быў на тое здольны, напружыўся.

– На вялікі жаль... хоць, як я й казаў, сто адзінаццаць гадоў з вамі – надта мала, – але ж гэта ЎСЁ! Мне трэба йсьці. Я пакідаю вас. БЫВАЙЦЕ!

Ён крочыў наперад – і зьнік. Палыхнула асьляпляльным полымем, і госьці пазаплюшчвалі вочы. А калі расплюшчылі, Більба не было. Нідзе. Сто сорак чатыры госьці так і паселі, вырачыўшы вочы, і слова вымавіць не маглі. Стары Ода Моц-Скурланог зьняў ногі з стала й тупнуў. Колькі імгненьняў панавала мёртвая цішыня, і раптам, некалькі разоў глыбока ўздыхнуўшы, усе Торбінсы й Выкумекі, Хваты, Бронь-Бычы, Кападлы, Галавадлы, Норсы, Пучлы, Папружніксы, Барсуксы, Дабрацелы, Рагадзьмуўцы ды Моцы-Скурланогі загаманілі адначасова.

Усе пагадзіліся: жарт найдурнейшага густу, і трэба яго як хутчэй заесьці й запіці, каб пазбавіцца дрэннага ўражаньня. Стары страціў глузды. Заўсёды казалі – мала іх, вось і страціў канчаткова. Нават і Хваты (за надта невялікім выключэньнем) палічылі паводзіны Більба вар'яцкімі, а ягонае зьнікненьне, безумоўна, дурной забаўкай.

Стары Роры Бронь-Быч, адылі, меў сваю рацыю. Ані ўзрост, ані колькасьць ежы не замуцілі ягоных думак, і ён сказаў нявестцы Эсмэральдзе:

– Ня так тут проста, даражэнькая! Стары Торбінс зноў бадзяцца выправіўся, няйначай. Ну, дурань. Але ж нам якая справа? Пітво ж ён з сабою ня зьнёс.

І гучна паклікаў Фрода – каб прынёс яшчэ віна.

З усіх прысутных адзін Фрода нічога не сказаў. Пэўны час сядзеў моўчкі ля апусьцелага Більбавага крэсла, ігнаруючы роспыты й заўвагі. Жарт яму спадабаўся, хоць ён і ведаў пра яго загадзя, і ледзь утрымліваўся ад рогату, назіраючы за разьюшанымі гасьцямі. Аднак у душы Фрода непакоіўся: раптам адчуў, што любіў старога хобіта, любіў моцна. Бальшыня гасьцей зноў занялася стравамі й трункамі ды ўспамінамі пра Більбавы дзівосы, цяперашнія й колішнія. Сышлі толькі раззлаваныя Кескі-Торбінсы. А Фрода вырашыў, што вечарыны зь яго ўжо досыць. Загадаў прынесьці гасьцям яшчэ віна, устаў, моўчкі выпіў за Більбава здароўе ды высьлізнуў цішком з намёту.

Прамаўляючы, Більба Торбінс усё мацаў у кішэні пярсьцёнак, той самы чароўны пярсьцёнак, які быў ягонай таямніцай столькі гадоў. Зрабіўшы крок з крэсьліца, Більба насунуў пярсьцёнак на палец – і зьнік. І болей аніхто з хобітаў у Хобіцку яго ня бачыў.

Більба хутка вярнуўся да сваёй нары, прыпыніўся на момант, з усьмешкай прыслухаўся да гоману ў шатры й да застольных гукаў зь іншых канцоў сьвяточнага абшару. Тады зайшоў у хату. Зьняў сьвяточную вопратку, закруціў у абгортачную паперу вышываную шоўкам камізэльку ды схаваў. Спрытна насунуў зношанае адзеньне, зацягнуў парэпаную скураную папружку, павесіў на яе кароткі меч у зьбітых чорных похвах. З прапахлай нафталінам скрынкі ў шафе выцягнуў плашч ды капялюш, завялікія для хобіта, да таго ж такія старыя, залатаныя, заплямленыя ды выцьвілыя, што й колер іх цяжка было пазнаць (здаецца, калісьці цёмна-зялёны), але ж схаваныя, нібыта найдаражэйшы скарб. Зь вялізнага сэйфа ў кабінэце Більба здабыў штосьці запакаванае ў старыя дзяружкі, а таксама рукапіс у скураным пераплёце ды вялікую пульхную капэрту. Кніжку й пакунак хобіт запхнуў у важкую, набітую амаль да верху торбу, што стаяла побач. У капэрту паклаў залаты пярсьцёнак на файным ланцужку, запячатаў ды адрасаваў Фрода. Більба ўжо быў паклаў капэрту на палічку над агменем, але ж раптам забраў адтуль і сунуў у кішэню. У гэты момант дзьверы адчыніліся й увайшоў Гэндальф.

– Мае вітаньні, – азірнуўся Більба. – Вельмі рады вашаць пабачыць.

– Я таксама – што магу цябе *бачыць*, – азваўся чараўнік, прысаджваючыся на крэсла. – Бо маю пільную патрэбу перакінуцца словам-другім на разьвітаньне. Падаецца мне, ты задаволены й мяркуеш, што ўсё прайшло цудоўна, адпаведна пляну?

– Ну так! – адказаў Більба. – Хоць бліскавіца мяне зьдзівіла ды напалохала, праўда, не мяне аднаго. Маленькі дадатак ад вашці, ці ня так?

– Так. Ты мудра зрабіў, што трымаў пярсьцёнак у таямніцы ўсе гэтыя гады, і мне падалося, варта паказаць гасьцям нешта яшчэ, што магло б растлумачыць тваё раптоўнае зьнікненьне.

– І, напэўна, жарт сапсаваны. Ох, заўжды гэты нос тыцкаецца не ў свае справы, – Більба засьмяяўся. – Але ж, мяркую, вашаць, як заўсёды, ведаў лепей.

– Звычайна я ведаю лепей, калі ўвогуле ведаю. Але ж наконт тваёй справы ў меня аніякай пэўнасьці. Цяпер яна падышла да кропкі. Ты пажартаваў, напалохаўшы ды пакрыўдзіўшы большасьць сваякоў, дый падкінуў усяму Шыру нагоду патрапаць

языкі дзён дзевяць, а то й дзевяноста дзевяць, што больш падобна да праўды. І што ж ты рабіцьмеш зараз?

– Наладжу сабе вакацыі. Вельмі доўгія, як я казаў раней. Мабыць, да сканчэньня маіх дзён – наўрад ці я вярнуся. Насамрэч я й не пляную вяртацца, і ўсё падрыхтаваў... Я састарэў, Гэндальф. Я не выглядаю старым, але ж адчуваю гэта нутрынай. Добра захаваўся, анягож! – Більба нявесела пасьміхнуўся. – Насамрэч я пачуваюся, нібыта мяне расьцягнулі, размазалі, як драбніцу масла па надта вялікай лусьце хлеба. Неяк гэта няправільна. Мне патрэбны адпачынак ці нешта накшталт яго.

Гэндальф пільна ўгледзеўся ў Більба.

– Гэта сапраўды няправільна. Ведаеш, можа, твой плян усё ж такі найлепшы.

– Ну, я так вырашыў. Я хачу зноў пабачыць горы, разумееш, Гэндальф, *горы*. А потым знайсьці месца, дзе здолею нарэшце адпачыць – у цішыні й спакоі, бяз плоймы сваякоў, якія так і шнараць наўкол, і без чаргі наведнікаў, трасца на іх, што без супынку грукочуць у дзьверы. Можа, я знайду прытулак, дзе скончу кнігу. У мяне ўжо ёсьць цудоўная канцоўка для яе: "...і ён жыў шчасьліва да скону сваіх дзён".

– Спадзяюся, гэтак і будзе, – Гэндальф засьмяяўся. – А хто прачытае тваю кнігу з гэткай цудоўнай канцоўкай?

– Прачытаюць, пабачыш. Фрода ўжо чытаў, колькі там напісалася. Вашаць жа за ім прыгледзіць хоць адным вокам, праўда?

– Двума, і прыгледжу, і дагледжу, калі толькі здолею.

– Ён пайшоў бы з мною, калі б я запрасіў. Ён і прапанаў мне перад Вечарынай. Ды бачыш, не для яго гэта пакуль што. Я перад сьмерцю хачу яшчэ раз пабачыць Дзіказем'е й горы, а ён сэрцам тут, у Шыры. Палі, рачулкі, ляскі. Яму прыемна тут, утульна. Я ўсё пакінуў яму, апроч якіх дробязяў. Спадзяюся, ён зажыве шчасьліва, калі звыкне жыць сам па сабе. Час надышоў яму самому гаспадарыць.

– Усё пакінуў? – перапытаў Гэндальф. – І пярсьцёнак?

– Ну, ну так... амаль што, – прамармытаў Більба, запінаючыся.

– Дзе ён?

– У капэрце, калі вашці так ужо трэба ведаць, – сказаў нецярпліва Більба, – вунь там, на каміне... А не, не. Вось ён, у маёй кішэні. Ну так... ці ня дзіўна, – дадаў ціхенька сабе пад нос, – пасьля ўсяго, чаму не? Чаму яму там і не застацца?

Гэндальф зноў зірнуў на Більба, сурова й цяжка.

– Падаецца мне, Більба, лепей пакінуць яго тут. Ці ж ты сам не хацеў гэтага?

– Я хацеў, а цяпер не хачу. Калі ўжо гэткая пайшла гамонка, не хачу я яго аддаваць. І рацыі аніякай у тым ня бачу, каб яго аддаць. А ваша чаго мяне прымушае? – Більбаў голас раптам зьмяніўся. У ім пачулася раздражненьне й падазронасьць. – Увесь час вашці муляе мой пярсьцёнак. Я шмат чаго прыдбаў у вандроўцы, дык тое вашці нецікава, адзін пярсьцёнак.

– Так, муляе, – згадзіўся Гэндальф, – бо я хачу вызнаць праўду. Гэта істотна. Чароўныя пярсьцёнкі – рэчы няпростыя, рэдкія й надта цікавыя. У мяне да твайго пярсьцёнка, так бы мовіць, прафэсійная цікаўнасьць. І я надта хачу ведаць, дзе ён, а ты ж у нас зноў сабраўся ў вандроўку. А таксама мушу сказаць табе, што ты дастаткова валодаў ім. Табе ён больш не патрэбны, павер мне.

Більба пачырванеў, і ў ягоных вачох бліснулі агеньчыкі злосьці. Твар, звычайна дабрадушны, стаў пахмурым.

– Чаму не? Ён мой, кажу табе, мой! Мая каштоўнасьць. Так, мая каштоўнасьць!

Твар чараўніка застаўся суворым, спакойным і ўважлівым, хоць на самай справе Гэндальф занепакоіўся й нават напалохаўся.

– Яго называлі так раней. Ня ты.

– А цяпер я называю. Чаму не? Нават калі й Глыкс яго так называў. Пярсьцёнак цяпер не ягоны, а мой. І я яго не аддам, вось.

Гэндальф устаў.

– Гэта будзе найвялікшым глупствам, Більба. І з кожным тваім словам гэта відавочней. Ці ты ня бачыш – цяпер ён валодае табою, а ня ты ім. Адпусьці яго – і ён адпусьціць цябе!

– Я раблю, як хачу! Мне ніхто ня ўказ!

– Цішэй, даражэнькі мой хобіт! Усё тваё доўгае жыцьцё мы былі сябрамі. Табе не падаецца, што ты мне крыху вінны? Давай жа! Зрабі, як абяцаў: пакінь пярсьцёнак!

– Калі хочаш узяць яго сабе, так і скажы! Але ж табе ён не дастанецца! Я сваю каштоўнасьць не аддам! – Більбава рука пацягнулася да цаўя ягонага маленькага меча.

Гэндальфавы вочы бліснулі.

– Глядзі, даражэнькі, яшчэ крыху – і надыдзе мой час раззлавацца. Тады ты пабачыш сапраўднага Гэндальфа Сівога! – чараўнік крочыў да Більба, зрабіўшыся нібыта вышэй ростам, змрочны й пагрозьлівы. Ягоны цень запоўніў увесь пакой.

Більба прыціснуўся да сьцяны, цяжка дыхаючы, ухапіўшыся рукой за кішэню. Гэтак яны стаялі, пазіраючы адзін на аднаго, у цяжкой, невыноснай цішыні. Нарэшце Більба адвёў вочы, адпусьціў цаўё – і задрыжэў.

– Ня ведаю, што найшло на вашу – ніколі такім ня бачыў, – прамовіў хобіт, – а з-за чаго ўсё? Ці ж ён ня мой? Я ж знайшоў яго. А каб не ўтрымаў, Глыкс мяне забіў бы. Ён хлусіў, я ня злодзей.

– Я цябе злодзеем ня зваў і не заву. І я ня злодзей. Я не рабую цябе, а дапамагаю. Хацеў бы я, каб ты давяраў мне, як даўней, – Гэндальф адвярнуўся, і цень зьнік. Чараўнік зноў паменшыўся, ператварыўшыся ў звычайнага старога, стомленага й занепакоенага.

Більба правёў рукой па вачох.

– Нешта й на мяне найшло. Нібыта дурнота якая. Бо сапраўды палягчэе, калі болей ані яго, ані клопатаў зь ім. Апошнім часам я думаў усё пра яго ды пра яго. Калі-нікалі падавалася: нібыта ён – вока, і назірае за мною. І заўсёды хочацца насунуць на палец і зьнікнуць, ці думкі адольваюць: можа, здарылася нешта, трэба ж дастаць, праверыць. Спрабаваў пакласьці пад замок – ды мне спакою няма, калі ён ня з мною. І ня ўцямлю, чаму так. І вырашыцца наконт яго я ня здольны.

– Тады даверся мне, – параіў Гэндальф, – усё ж падрыхтавана. Ідзі прэч і пакінь яго тут. Аддай Фрода. А я ўжо яго дагледжу.

Більба памаўчаў крыху, відавочна вагаючыся, уздыхнуў і нарэшце вымавіў:

– Ну, мусіць, так.

Потым пацісьнуў плячыма й неяк бязрадасна ўсьміхнуўся.

– Урэшце, і ўся гэная вечарына пра тое й была. Думаў, параздаю гару падарункаў, мо будзе лягчэй і яго аддаць. Не, ня стала лягчэй. Аднак столькі падрыхтоўкі й клопатаў – няўжо дарма? Шкада псаваць жарт.

– Так, і пазбавіць усю задумку адзінага яе сэнсу, – дадаў Гэндальф.

– Добра. Ён адыдзе да Фрода разам з усім астатнім, – Більба глыбока ўздыхнуў, – а цяпер мне час ісьці, альбо хто-небудзь яшчэ мяне перахопіць. Сваё "бывайце" я ўжо сказаў, і паўтарацца ня хочацца.

Ён падхапіў торбу й рушыў да дзьвярэй.

– А пярсьцёнак яшчэ ў тваёй кішэні.

– Так! І тастамант таксама, і ўсе астатнія паперы. Вазьмі іх сам ды перадай Фрода. Гэтай надзейней за ўсё.

– Не, не давай мне пярсьцёнак. Пакладзі на паліцу над агменем. Няхай ляжыць, пакуль ня прыйдзе Фрода. А я ўжо павартую й дачакаюся яго.

Більба выцягнуў капэрту, а калі ўжо амаль апусьціў на паліцу, рука ягоная нечакана здрыганулася й капэрта ўпала на падлогу. Не пасьпеў ён нахіліцца й падняць, як чараўнік ужо падхапіў яе й паклаў на паліцу. Хобітаў твар перакрывіўся ад раптоўнай злосьці – і праз імгненьне зьмяніўся палёгкай і сьмехам.

– Ну, зроблена! А зараз – у дарогу!

Абодва пакінулі залю. Більба ўзяў свой улюбёны кіёк, тады сьвіснуў. З суседніх пакояў выйшлі тры гномы.

– Ці ўсё падрыхтавана? Спакавана, цэтлікі прымацаваныя?

– Усё, – адказалі яны.

– Ну, тады рушма! – і ён крочыў за дзьверы.

Файная разьвінулася ноч: на чорных нябёсах зіхацела безьліч зорак. Більба зірнуў угару, уцягнуў паветра.

– Добра! Якая ж асалода – зноў вандраваць, зноў выйсьці на шлях разам з гномамі! Вось чаго мне не ставала ўсе гэтыя гады. Бывайце! – зьвярнуўся ён да старой сядзібы й пакланіўся дзьвярам. – Да пабачэньня, Гэндальф!

– Сапраўды, да пабачэньня, Більба! Беражы сябе. Ты ўжо стары, ну, напэўна, і мудры таксама.

– Берагчыся? Чаго? Не хвалюйся за мяне. Я цяпер шчасьлівейшы чым калі, а гэта нечага ды вартае. Час надышоў. Зноў сьцежка ўхапіла мяне за пяты, – дадаў ён і ціхенька, нібы сам сабе, засьпяваў у змроку:

*Няма сканчэньня для шляхоў.*
*Ледзь рушыш ад дзьвярэй –*
*Павінен крочыць зноў і зноў,*
*Імкнуцца ўсё далей*
*Па сьцежцы, струмяні дарог*
*Вялікіх ды малых.*
*Калі б даведацца я мог,*
*Куды дайду па іх...*

Потым змоўк. А тады, не прамовіўшы болей ані слоўца, адвярнуўся ад сьвятла й галасоў з намётаў Вечарыны й у суправаджэньні трох паплечнікаў-гномаў пайшоў праз сад. А ад яго – уніз па доўгай стромай сьцежцы. Скочыў праз нізкую агароджу й пашыбаваў лугам, лёгкі, нібы начны вецер у траве.

Гэндальф глядзеў увасьлед яму, у цемру.

– Да сустрэчы, дарагі мой Більба, да сустрэчы! – сказаў ён ціха ды ўвайшоў назад, за дзьверы.

Неўзабаве вярнуўся Фрода й убачыў, што Гэндальф, глыбока задумаўшыся, сядзіць у цемры.

– Ён сышоў? – спытаў Фрода.

– Так, – адказаў Гэндальф, – нарэшце сышоў.

– А я да апошняга моманту спадзяваўся, што гэта толькі жарт. Хацеў бы я, каб гэта быў жарт. Ён жартаваў нават зь істотнага. Ды не, я ўжо даўно адчуваў, што гэта ўсур'ёз. Хоць бы я вярнуўся раней, каб пабачыць яго наастачу.

– Мне падаецца, ён хацеў сысьці ціха. Але ж не хвалюйся. Зь ім усё добра. Цяпер. Ён пакінуў табе пакунак. Вунь там.

Фрода зьняў капэрту з паліцы, зірнуў на яе, аднак ня ўскрыў.

– Там ты знойдзеш тастамант ды ўсе астатнія паперы, – патлумачыў чараўнік, – ты цяпер гаспадар Торбы-пад-Стромай. А таксама, падаецца мне, ты знойдзеш там залаты пярсьцёнак.

– Пярсьцёнак! – усклікнуў Фрода. – Пакінуў мне? Цікава чаму. Ну, рэч карысная.

– Можа, так, а можа, не. Я на тваім месцы не карыстаўся б ім. Трымай яго ў сакрэце, беражы яго! А цяпер – я пайду спаць.

Як новаму гаспадару Торбы-пад-Стромай Фрода давялося выконваць даволі непрыемны абавязак разьвітаньня з гасьцямі. Чуткі ўжо распаўсюдзіліся, але Фрода на ўсе пытаньні адказваў толькі, што "без сумневу, усё высьветліцца раніцою". Блізу поўначы па асабліва важных гасьцей прыбылі вазкі й брычкі ды ад'ехалі цугам, поўныя надзвычай сытымі й зацікаўленымі хобітамі. Потым, як і было прадугледжана, зьявіліся садоўнікі з тачкамі й разьвезьлі па хатах тых, хто сам сысьці ня здолеў.

Павольна мінула ноч. Узьнялося сонца, і значна пазьней за яго – хобіты. Раніцою зьявіліся загадзя запрошаныя прыбіральнікі – размантаваць намёты, прыбраць сталы й лавы з крэсламі, лыжкі, нажы, бутэлькі, талеркі, ліхтары, кветкі ў вазонах і скрынях, крошкі, паперкі ад трэскалак, забытыя кескі й торбы, пальчаткі, насоўкі й нават нязьедзеную ежу (ну, гэтага небагата). Потым аб'явіліся тыя, каго не запрашалі: Торбінсы, і Выкумекі, і Барсуксы, і Хваты, і шмат іншых, хто жыў непадалёк ці начаваў. Ля полудня, калі нават самыя сытыя ўжо згаладнелі, перад Торбай-пад-Стромай сабраўся вялізны натоўп – няпрошаны, але прадугледжаны.

Фрода чакаў на ганку, усьміхаўся, хаваючы стому й заклапочанасьць. Ён павітаў усіх, але ж патлумачыў ненашмат болей, чым учора. На ўсе роспыты адказваў проста:

– Спадар Більба адсутнічае. Наколькі я ведаю, яго ня будзе доўга.

Некаторых запрасіў у нару, бо Більба пакінуў ім "прэзэнты".

У залі на падлозе ўзвышалася высачэзная гара пакункаў, скрынак і мэблі. Да кожнай рэчы быў прымацаваны кавалак паперы з подпісам. Некаторыя не бяз кпіны. Напрыклад, такія:

"*Адэлярду Хвату, цалкам ва ўласнае карыстаньне, ад Більба*" – на парасоне. Адэлярд зьнёс з сабою вялікую колькасьць непадпісаных парасонаў.

Ці "*Доры Торбінс на памяць пра доўгае ліставаньне*" – вялізны кошык для скарыстанай паперы (Доры, сястра Більба, найстарэйшая сваячка Більба ды Фрода, сягнула ўжо дзевяноста дзевяці гадоў і болей за паўстагодзьдзя няспынна радавала ўсю радзіну добрымі парадамі).

Яшчэ: "*Міла Норсу, з спадзевам, што спатрэбіцца, ад Б. Т.*" – залатое пяро й бутэлька чарніла. Міла ніколі не адказваў на лісты.

"*Для карыстаньня Анэлі, ад дзядзькі Більба*" – круглае люстэрка. Маладзенькая Анэля Торбінс відавочна лічыла свой кругленькі тварык захапляльна прывабным.

"*Для калекцыі Гуга Пасьнікса, ад папаўняльніка*" – пустая паліца для кніг. Гуга вельмі любіў браць кніжкі й ня надта любіў вяртаць.

"*Лябэлі Кесцы-Торбінс, у якасьці Падарунку*" – скрыня з срэбнымі лыжкамі. Більба лічыў, што добрая частка ягоных уласных лыжак зьнікла падчас ягонай вандроўкі менавіта празь яе. Лябэля пра гэткія Більбавы падозраньні добра ведала. І намёк зразумела адразу, але лыжкі ўсё адно ўзяла.

Тое была толькі малая частка падарункаў. За доўгае Більбава жыцьцё нара ягоная захлудзілася. У хобіцкім жытле хлуд звычайна зьбіраецца зь дзівоснай хуткасьцю, менавіта праз звычку хобітаў раздаваць столькі падарункаў на дні народзінаў. Вядома, далёка ня ўсе падарункі бывалі новыя, парачка адмецьцяў невядомага прызначэньня абышла ўсё навакольле. Аднак Більба звычайна пакідаў атрыманае, і сам дарыў толькі новае. Ну а цяпер старая нара трохі парасчысьцілася.

Да кожнага падарунку Більба зрабіў цыдулку, сам падпісаў – некаторыя жартоўна й нат з намёкам. Але большая частка ўсё ж была карысная й патрэбная, асабліва бяднейшым хобітам. Більба не забыўся на пасельнікаў Прыторбінскай слабады – Дзед Гэйхад атрымаў два мяхі бульбы, новую шуфлю, ваўняную безрукаўку ды бутэльку лекаў ад рэўматызму. Стары Роры Бронь-Быч, у падзяку за гасьціннасьць, прыдбаў тузін бутэлек "Старой вінарні", моцнага чырвонага віна з Паўднёвага падзелу. Добрае гэтае віно схаваў у клець яшчэ Більбаў бацька. Пакаштаваўшы, Роры адразу дараваў Більба ўсё, што толькі можна дараваць, а прыкончыўшы бутэльку, і ўвогуле абвесьціў Більба хобітам з хобітаў і сябрам назаўжды.

Шмат чаго засталося й для Фрода – уся галоўная маёмасьць у тым ліку, а таксама кнігі, малюнкі й больш чым дастаткова мэблі. І ані грошай, ані каштоўных кляйнодаў Більба раздаваць ня стаў – ані манэткі, ані шкляной пацерынкі.

Таго дня Фрода хапіла турботаў. Па навакольлі, нібы агонь па сухалесьсі, пабегла чутка, што ўсю Більбаву маёмасьць раздаюць за так. І хутка ў нару набілася процьма незапрошанага, але надзвычай настойлівага народу. Пааддзіралі цыдулкі з падарункаў, усчалі сварку. Некаторыя намагаліся абменьвацца ці гандляваць проста ў залі, іншыя – уцячы зь невялікімі, але каштоўнымі рэчамі, не для іх прызначанымі, ці ўвогуле з тым, што дрэнна ляжала. Шлях да брамы запоўнілі тачкі й ручныя вазкі.

Пасярод гармідару прыцягнуліся Лябэля з Ота. Фрода якраз выйшаў крыху адпачыць, пакінуўшы сябра Мэры Бронь-Быча назіраць за справамі. Калі Ота голасна запатрабаваў сустрэчы з Фрода, Мэры толькі ветліва яму пакланіўся.

– Выбачайце, немагчыма. Цяпер ён адпачывае.

– Хаваецца, хочаш сказаць, – абвінаваціла Лябэля, – дык вось: ад нас не схаваецца. Мы прыйшлі яго пабачыць і мы яго пабачым. Ідзі й скажы яму гэта!

Мэры пакінуў іх у залі, якраз тады Лябэля й атрымала свае лыжкі, што зусім не палепшыла яе настрою. Нарэшце іх пусьцілі ў кабінэт. Фрода сядзеў за сталом над гарою папераў. Выгляд у яго быў няшчасны – сузіраньне Кесак-Торбінсаў ва ўсялякім выпадку не дадавала радасьці. Ён устаў, мацаючы нешта ў кішэні. Але ветлівасьці ня страціў.

А Кескі-Торбінсы паводзіліся даволі дзёрзка. Спачатку прапаноўвалі прадаць амаль за нішто (нібыта па-сяброўску) розныя каштоўныя й не прызначаныя ў падарункі рэчы. А калі Фрода адмовіў: маўляў, раздаецца толькі тое, што выбраў асабіста Більба, то абвесьцілі – справа падаецца ім нячыстай.

– Мне адно відавочна, – сказаў Ота, – надта ўжо добра табе выходзіць. А ну, пакажы нам тастамант!

Ота стаў бы Більбавым спадчыньнікам, калі б ня Фрода. Тастамант Ота прачытаў вельмі ўважліва, потым фыркнуў. На жаль, напісанае ўсё было вельмі ясна й слушна, і ў адпаведнасьці з хобіцкімі звычаямі, якія патрабавалі паміж іншага й подпісаў сямі сьведкаў чырвоным чарнілам.

– Зноў! – паскардзіўся ён жонцы. – І гэтакае пасьля шасьцідзесяці гадоў! І што табе дасталося? Лыжкі? Лухта якая!

Ён пстрыкнуў пальцамі прама перад носам у Фрода ды выйшаў вонкі. Але ад Лябэлі так проста было не пазбавіцца. Калі Фрода неўзабаве вызірнуў з кабінэту, то знайшоў яе яшчэ ў хаце. Яна дасьледавала куты й закуткі й прастуквала падлогу. Фрода правёў яе да дзьвярэй, а перад тым пазбавіў ад некалькіх невялікіх, але каштоўных рэчаў, што дзівосным чынам патрапілі ў яе парасон. Твар Лябэлін выглядаў так, быццам яна падрыхтавала на разьвітаньне цалкам зьнішчальнае слова. Аднак толькі й здолела выцягнуць зь сябе, азірнуўшыся на ганку:

– Ты яшчэ пашкадуеш, маладзён! Чаму б табе таксама не сысьці? Ты не тутэйшы, ты ня Торбінс, ты... Бронь-Быч, вось ты хто!

– Чуў гэта, Мэры? Вось табе й абраза, – і Фрода зачыніў дзьверы перад яе носам.

– Гэта камплімэнт, – адказаў на тое Мэры Бронь-Быч, – і, вядома, няпраўда.

Апасьля яны прайшлі праз нару й выгналі трох маладых хобітаў (двух Выкумекаў і Барсукса), якія дзяўблі дзірку ў сьцяне адной з клецяў. Фрода ледзь не пабіўся з маладым Санча Моцам-Скурланогам (унукам старога Ода), які выстукаў у падлозе вялікай кладоўкі рэха й пачаў вялікія раскопкі. Паданьне пра Більбава золата абуджала шмат надзеяў, бо, вядома ж, здабытае незразумелым або цёмным шляхам належыць таму, хто ўхопіць першы – адно каб хапаць не перашкодзілі.

Перамогшы Санча ды выпіхнуўшы яго вонкі, Фрода ўпаў у фатэлю ў залі.

– Усё, час зачыняць краму, Мэры, – прастагнаў ён. – Замкні дзьверы й не адчыняй нікому, нават калі пачнуць выбіваць таранам.

Потым ён уладкаваўся, каб падмацавацца філіжанкаю гарбаты. І не пасьпеў за яе ўзяцца, як зноў пачуў ціхі грукат у дзьверы.

– Няйначай зноў Лябэля, – вырашыў ён, – напэўна, дадумалася да нечага насамрэч зьнішчальнага й сьпяшаецца выказаць. Ну, з гэтым можна й пачакаць.

І ўзяўся за гарбату. Грукат паўтарыўся, значна больш настойліва. Фрода не зварухнуўся. Раптам у вакенцы зьявілася галава чараўніка.

– Фрода, калі ты не дазволіш мне ўвайсьці, твае дзьверы так палятуць, што праб'юць нару наскрозь, дый Строму таксама!

Фрода ўскочыў і кінуўся да дзьвярэй.

– Гэндальф! Хвілінку, паўхвілінкі! Заходзь, заходзь, а я падумаў, што гэта Лябэля!

– Ну, тады я табе дарую. Я яе бачыў нядаўна ў Прырэччы – ехала ў вазку, дый з такім тварам, што ад яго й сырадой скіс бы.

– Я сам ад яе скіс. Папраўдзе, яшчэ трохі – і ўзяўся б за Більбаў пярсьцёнак. Так і хацелася зьнікнуць.

– Вось гэтага ты не рабі, – сказаў Гэндальф, усаджваючыся, – паасьцярожней зь пярсьцёнкам, Фрода! Ды я, можна сказаць, з-за яго й вярнуўся пагаманіць наастачу.

– А што зь ім?

– А што ты пра яго ведаеш?

– Толькі тое, што распавёў мне Більба. Я чуў яго гісторыю: як ён знайшоў пярсьцёнак, як выкарыстаў падчас вандроўкі.

– Якую гісторыю, цікава?

– Ня тую, што ён распавёў гномам ды запісаў у кнізе. Неўзабаве пасьля таго, як я сюды пераехаў, ён распавёў мне сапраўдную. Сказаў, што вашаць не даваў яму спакою, пакуль не даведаўся праўды. І мне таксама лепей ведаць яе. Казаў, паміж намі – няма сакрэтаў. Тым больш, што з мною ягоная таямніца – як зь ім самім. І пярсьцёнак усё адно бясспрэчна ягоны.

– Цікава, цікава. І што ты сам пра гэта мяркуеш?

– Калі вашаць мае на ўвазе прыдумкі пра "падарунак на Дзень народзінаў", то другая вэрсія падалася мне значна разумнейшай. Але навошта ўвогуле прыдумкі? Ня ў Більбавай звычцы. Я падумаў: гэта дзіўна.

– Я таксама. Ведаеш, дзіўныя рэчы часта здараюцца з тымі, што валодаюць гэткімі кляйнодамі. А асабліва, калі карыстаюцца імі. Гэта табе папярэджаньне: асьцярожней зь ім. Магчыма, ён прызначаны ня толькі для таго, каб рабіць цябе нябачным на першае тваё жаданьне.

– Я не разумею.

– Я й сам ня надта разумею, – сказаў чараўнік. – Проста пярсьцёнак мяне надзвычай зацікавіў, асабліва пасьля мінулай начы. Ты не хвалюйся – пакуль што няма з-за чаго. Аднак паслухай мяне: карыстайся ім як мага радзей, а сама лепей увогуле не карыстайся. А асабліва сачы, каб не пайшлі плёткі ды чуткі. Паўтараю: трымай у таямніцы ды пільнуй!

– Адны загадкі! Што ў ім такога жахлівага?

– У мяне няма аніякай пэўнасьці. Пакуль мне няма чаго табе сказаць. Можа, здолею распавесьці болей, калі вярнуся, – чараўнік устаў. – Выпраўляцца трэба неадкладна. Так што, да пабачэньня, Фрода!

– Якраз цяпер! – усклікнуў Фрода. – Чаму? Я лічыў, вашаць затрымаецца хоць на тыдзень дапамагчы мне.

– Я хацеў, але давялося перадумаць. Мяне ня будзе тут колькі часу, але я прыеду да цябе, калі толькі здолею. І прабач – зьяўлюся зьнянацку. Адкрыта мне Шыр наведваць ня варта. Падаецца, мяне тут не ўзьлюбілі. Кажуць, я прыношу турботы й праблемы. Некаторыя дык і ўголас вінавацяць, што гэта я падгаварыў Більба ўцячы, а мо й горш. Калі хочаш ведаць, мы змовіліся з табою, каб накласьці лапы на Більбава багацьце.

– Некаторыя! Ота зь Лябэляй! Як мярзотна! Я з ахвотай аддаў бы ім Торбу-пад-Стромай, каб толькі вярнуць Більба й скіравацца куды-небудзь вандраваць зь ім разам. Я люблю Шыр. Але ж часам думаю: чаму я не сышоў зь ім? Ці пабачу яго калі-небудзь зноў?

– І я пра гэта думаю, – сказаў Гэндальф. – І яшчэ пра мноства рэчаў. Ну, бывай! Беражы сябе ды чакай мяне – асабліва тады, калі маё зьяўленьне найменш верагоднае. Да сустрэчы!

Фрода правёў яго да дзьвярэй. Гэндальф махнуў рукою на разьвітаньне ды пайшоў прэч – зь незвычайнай хуткасьцю. Аднак хобіту падалося, быццам на плячох чараўнік панёс нейкі нябачны цяжар. Хутка цямнела, і Гэндальфава постаць імкліва зьнікала ў змроку – на доўгі, вельмі доўгі час.

## *2. Цень мінулага*

Гаворка ды плёткі не спыніліся ні празь дзевяць дзён, ні празь дзевяноста дзевяць. Другое зьнікненьне спадара Більба Торбінса не спускалі зь языкоў па ўсім Хобіцку, дый увогуле ў Шыры, пакуль нават і ціпуны на тых языках не папавыскоквалі, а ўспаміны трымаліся яшчэ даўжэй. Гісторыя гэтая зрабілася павучаньнем і чароўнай казкай для малечы, і паступова Дзівак Торбінс, які зьнікаў з трэскам і бляскам і вяртаўся зь мяхамі золата й каштоўнага каменьня, стаўся ўлюбёным героем хобіцкіх баек й застаўся ў казках нават і тады, калі згубіліся ўсялякія ўспаміны пра сапраўдныя падзеі.

А пакуль тое, усё навакольле прыйшло да высновы, што небарака Більба, які й так асабліва цьвярозым розумам не вылучаўся, цяпер і ўвогуле "зьехаў" ды зьбег у цьмутаракань. А ў той цьмутараканi, безумоўна, зваліўся ў нейкую рэчку ці яму, гэтак і знайшоў трагічны, але ж наўрад ці заўчасны канец. Вінавацілі, вядома ж, Гэндальфа.

– Каб жа толькі гэты пракуда-чараўнік маладога пана Фрода ў спакоі пакінуў – можа, ён і набярэцца розуму, прызвычаіцца дый будзе хобіт хобітам, – казалі ў навакольлі.

Ну й сапраўды: здаецца, чараўнік пакінуў Фрода ў спакоі й той прызвычаіўся да Торбы-пад-Стромай, абжыўся й прыжыўся, аднак прыбытку цьвярозай хобіцкай рацыі ў ім нешта не назіралася. А дакладней, ён амаль адразу ж перахапіў Більбаву рэпутацыю дзівака. Дзядзьку згадваў заўсёды як жывога, а наступным годам адзначыў Більбава стодванаццацігодзьдзе й вечарыну ў ягоны гонар назваў "Бяседай ста з тузінам". Ня тое каб адпаведна назваў, бо гасьцей склікаў усяго два дзясяткі, але ж частавалі некалькі разоў, дый так, што, як хобіты кажуць, на пузах каталіся ды з вушэй лезла.

Некаторыя моцна абураліся, аднак Фрода ўцята задаваў "Бяседу за сто" год за годам, і паступова прыцярпеліся. Фрода заўсёды казаў, што Більба жывы. А дзе ж ён?.. На тое толькі паціскаў плячыма.

Жыў Фрода, як і Більба, бабылём, але меў колькі сяброў, асабліва сярод маладзейшых хобітаў (пераважна нашчадкаў Старога Хвата), якія з маленства круціліся вакол Торбы-пад-Стромай і любілі старога дзядзьку Більба, – Фолька Выкумек ды Фрэдэгар Барсукс, напрыклад. А найбліжэйшымі сябрамі былі Перыгрын Хват (якога звычайна клікалі Піпін) ды Мэры Бронь-Быч (чыё сапраўднае імя, якое згадвалі зрэдку, было Мэрыядок). Фрода цягаўся зь імі па ўсім Шыры, але найчасьцей бадзяўся на самоце. На зьдзіўленьне ўсялякага нармалёвага й прыстойнага хобіта, заўважалі яго й далёка ад Торбы ўночы – шпацыраваў пры зорным сьвятле па лясох ды пагорках. Мэры й Піпін падазравалі, што ён, як і Більба, час ад часу наведваўся да эльфаў.

З часам народ прыкмеціў, што Фрода таксама "добра захоўваецца": на выгляд такі самы малады, жвавы хобіт, толькі-толькі за паўнагодзьдзем. На тое казалі: ну шанцуе ж некаторым. А дзівосным, каб не казаць і ненатуралёвым, палічылі гэта, калі Фрода наблізіўся да пяцідзесяці. Паважны ўзрост усё-ткі.

Пасьля клопатаў першых дзён Фрода вынайшаў, што быць гаспадаром самога сябе, а да таго й Торбы-пад-Стромай надзвычай прыемна. Колькі гадоў ён проста жыў не загадваючы на будучыню. Але паціху, можа, толькі напалову сьвядома расьлі ў ім незадаволенасьць і шкадаваньне, што не сышоў тады зь Більба. Наплывалі самі сабою, асабліва ўвосень, думкі пра далёкія, дзікія краі, і туманныя абрысы гор, якіх ніколі ў жыцьці ня бачыў, прыходзілі ў ягоныя сны. Ён казаў сам сабе: "Можа, і я

аднойчы выпраўлюся за Раку". На тое другая палова розуму нязьменна адказвала: "Не цяпер".

Так яно й цягнулася, ужо саракавыя яго скончаліся й надыходзіла пяцідзесяцігодзьдзе. Лічба *пяцьдзясят* падавалася Фрода істотнай, нават прадказальнай: менавіта ў пяцьдзясят гадоў Більба напаткаў сваю прыгоду. Фрода занепакоіўся, старыя сьцежкі падаваліся ўжо надта знаёмымі, сходжанымі ўздоўж ды ўпоперак. Падоўгу глядзеў на мапы, меркаваў, што ж там – за межамі Шыру. А там шырскія мапы паказвалі пераважна белыя плямы. Узяўся шпацыраваць далей, чым зазвычай, ды ўсё часьцей сам па сабе. Мэры й іншыя сябры занепакоіліся. Часта бачылі, як ён ішоў побач ці размаўляў з чужынцамі-вандроўнікамі, іх шмат у той час мінала Шыр.

Папаўзьлі чуткі пра нядобрыя падзеі ў навакольным сьвеце. Гэндальф не зьяўляўся цягам некалькіх гадоў, зьвестак аніякіх ня слаў – і Фрода зьбіраў навіны дзе толькі мог. Эльфаў, якія раней амаль не наведвалі Шыр, цяпер часьцяком можна было пабачыць увечары. Яны лясамі ішлі на захад, ішлі й не вярталіся, бо пакідалі Міжзем'е. Тутэйшыя падзеі болей іх не турбавалі. І гномаў зьявілася надзвычай шмат на старым шляху з усходу на захад, які вёў да Сівых Заваняў – гномы здаўна карысталіся ім, каб дабрацца да сваіх капальняў у Блакітных гарах. Пераважна ад гномаў хобіты й даведваліся пра падзеі ў далёкіх краёх – калі толькі жадалі даведацца. Бо распавядалі гномы мала, дый без ахвоты, а дапытвацца хобіты ахвоты мелі яшчэ меней. Аднак цяпер Фрода часьцяком сустракаў зусім незнаёмых гномаў з далёкіх краінаў, якія шукалі паратунку на захадзе. Гномы тыя былі надзвычай перапалоханыя, а некаторыя, азіраючыся, напаўголасу распавядалі пра Ворага ды Мордарскі край.

Гэты назоў хобіты ведалі толькі з паданьняў далёкай даўніны – быццам нейкі цень па-за ўспамінамі, трывожны й злаўмысны. Падавалася, Сьветлая Рада выгнала зло зь Ліхалесься толькі для таго, каб яно з большай моцай зьявілася ў сваёй даўняй крэпасьці, у Мордары. Казалі, Цёмная вежа ўзьнялася зноўку. І адтуль змрочная навала распаўсюджвалася паўсюль. Далёка на ўсходзе й на поўдні палалі войны, і адтуль поўз страх. У гарах зноў памножыліся оркі. Шнарылі тролі: не тупыя й нязграбныя, як раней, а разумныя ды жахліва ўзброеныя. А яшчэ шапталіся пра пачвараў больш жудасных, якім і імя не было.

Вядома, няшмат сягала вушэй звычайных хобітаў. Аднак нават самыя дамаседлівыя й зацятыя пачалі прыслухоўвацца да расповедаў, а тыя, каму даводзілася трапляць у прымежжа, бачылі нямала дзіўнага. І гаворка ў прырэчанскім "Зялёным цмоку" неяк веснавым вечарам пяцідзясятага Фродавага году відочна паказвала, што нават і да ўтульных шырскіх кутоў дабраліся чуткі, але хоць большасьць хобітаў яшчэ зь іх сьмяялася.

Сэм Гэйхад сядзеў сабе побач з агменем, а насупраць яго прыладзіўся Тэд Пяшчак, млынароў сын, тутэйшыя паблізу ўслухоўваліся ў гаворку.

– Дзіўныя рэчы можна цяпер пачуць, – сказаў Сэм.

– Анягож, – азваўся Тэд, – галоўнае, каб вушы былі, а наслухацца заўсёды можна. Толькі вось дзіцячых казак ды бабчынай балбатні ня трэба. Я іх і тут наслухаюся, калі захачу.

– Вядома, яшчэ як наслухаесься, калі захочаш. А калі трошкі болей захочаш, дык і зразумееш, што праўды там бывае нашмат болей, чым падаецца. Хтосьці ж распавёў іх упершыню, адкуль? Тых жа цмокаў вазьмі, для прыкладу.

– Не, дзякуй, цмокаў я браць ня буду. Ня трэба мне іх, калі ласка. Калі быў малы, усе вушы прагулі байкамі, а цяпер ужо вырас, бачыш. Бздура ўсё. Ня бачыў я іх і ня ўбачу. Хіба што аднаго, нашага прырэчанскага. Дый той зялёны.

Усе зарагаталі.

– Ну, добра, – пагадзіўся Сэм, сьмеючыся разам з усімі, – а як наконт дрэвалюдаў, веліканаў, калі іх можна гэтак назваць? Кажуць, аднаго, вышэйшага за любое дрэва, нядаўна бачылі за Паўночнай роўнядзьдзю.

– Хто сказаў?

– Ну хоць бы сваяк мой, Хэл. Ён у спадара Выкумека працуе ў Застром'і, а ў Паўночны падзел езьдзіць паляваць. Ён аднаго бачыў.

– Або сказаў, што бачыў. Твой Хэл заўсёды нешта бачыць, а часьцяком і такое, чаго аніхто іншы аніяк пабачыць ня можа.

– Дык жа гэны велікан быў нібыта вяз і крочыў – тры сажні як адну цалю.

– Так, можа, тое й была адна цаля, а мо й таго нат не было. Хутчэй за ўсё, ён пабачыў звычайны вяз, а ўжо астатняе ў ягонай галаве пакрочыла куды ня трэба.

– Не, сапраўды крочыў, кажу табе. А вязаў жа ў Паўночным падзеле й увогуле няма.

– Ну, тады твой Хэл і ўвогуле анічога ня бачыў.

Навокал зноў засьмяяліся, а сёй-той і ў далоні запляскаў – выдатна Тэд падрэзаў.

– Лады, але ж ты ня станеш адмаўляцца, што й іншыя, ня толькі наш Хэлфаст, бачылі ўсялякі дзіўны народ, што рушыць праз Шыр – праз Шыр, кажу табе. А колькі на межах не прапускаюць. Памежная варта ніколі столькі клопатаў ня мела. А яшчэ я чуў, што эльфы рушылі на Захад. Кажуць, да заваняў за Белымі вежамі, туды вось, – Сэм махнуў рукою некуды ў заходнім напрамку. Ані ён, ані хто іншы вакол яго ня ведаў, дзе там мора за старажытнымі вежамі на заходніх межах Шыру. Аднак у старажытных паданьнях б***а***ялася: там і ёсьць Сівыя Завані, адкуль адплываюць эльфавы караблі, каб ніколі ўжо не вярнуцца.

– Плывуць, плывуць за мора, на Захад далёкі, нас пакідаючы, – прамовіў Сэм напеўна й сумна, ківаючы галавою. А Тэд засьмяяўся.

– Калі верыць казкам, анічога новага ў гэтым няма. А з чаго яно ўвогуле павінна тычыць цябе ці мяне? Плылі – і хай сабе! А ці ж бачыў хто тут, дый увогуле ў Шыры, ці плывуць яны там на самай справе, ці не?

– Ну, ня ведаю, – адказаў Сэм задуменна. Ён, як яму падалося, бачыў аднойчы эльфа ў лясах і спадзяваўся пабачыць зноў. З усіх паданьняў, чутых з маленства, болей за ўсё кранаалі яго напаўзабытыя хобітамі гісторыі пра эльфаў.

– У нашых мясьцінах ёсьць тыя, якія бачылі Сьветлы народ ды ведаюць пра іх. Вось і спадар Торбінс, на якога я працую. Ён мне казаў – яны адплываюць, а ён ужо пра эльфаў ведае. А стары спадар Більба й нашмат болей ведаў, і я ад яго шмат пачуў, калі малы быў.

– Яны абодва без глуздоў у галаве, – сказаў Тэд, – і стары, і малады. Стары – так дакладна зьехаў, і Фрода зьяжджае. Калі гэта ад іх твае зьвесткі, то няма чаму дзівіцца: тут і эльфы, і веліканы, і рак на гары сьвішча. Гамон, сябры. Час дахаты. За ваша здароўе!

Ён дасмактаў піва ды выйшаў, пляснуўшы дзьвярыма.

А Сэм так і застаўся сядзець моўчкі. Шмат пра што яму думалася. Па-першае, працы ў садзе Торбы-пад-Стромай хапала з галавою, і раніцою, калі толькі надвор'е дазволіць, давядзецца паруліцца. Трава так хутка расьце! І яшчэ тое-сёе было, апрача садоўніцтва. Праз колькі часу Сэм уздыхнуў, устаў дый пайшоў дахаты.

Быў пачатак красавіка, нябёсы якраз праясьняліся пасьля моцнага дажджу. Сонца ўжо сядала, было ясна й халодна, павольна цямнела. Сэм, задуменны, ішоў пад першымі зоркамі праз Хобіцак, угару па Строме, і ціхенька насьвістваў.

Якраз тады й зьявіўся Гэндальф – упершыню за доўгі час. Тры гады пасьля Вечарыны ён нават і не паказваўся. Пасьля наведаў Фрода, ненадоўга, убачыў, што ўсё нармалёва, ды зьнік зноў. Цягам наступнага году ці двух ён наяжджаў часьцяком, нечакана й пасьля заходу сонца, і сыходзіў, не папярэджваючы, яшчэ да ранку. Пра сябе, свае прыгоды й вандроўкі не распавядаў, а цікавіўся, як падавалася, толькі Фродавым здароўем і справамі.

Потым ён зьнік, і дзевяць гадоў Фрода ня бачыў яго й ня чуў аніякіх пра яго зьвестак, і пачаў ужо думаць, што стары чараўнік ніколі ня вернецца, страціўшы ўсялякую цікавасьць да хобітаў. Аднак тым вечарам, калі Сэм ішоў дахаты, насьвістваючы пад першымі зорамі, уладар Торбы-пад-Стромай пачуў знаёмы стук у вакно кабінэту.

Зьдзіўлены Фрода павітаў старога сябра зь вялікай пашанай. Па вітаньні абодва ўважліва прыгледзеліся.

– Усё добра, га? – перапытаў Гэндальф. – Ты ўсё такі.

– Дый ваша таксама, – адказаў Фрода, аднак падумаў, што Гэндальф выглядае больш старым і стомленым.

Фрода пачаў распытваць навіны – і асабістыя Гэндальфавы, і сусьветныя, гэтак яны гаманілі далёка за поўнач.

Раніцою пасьля позьняга сьняданьня чараўнік сядзеў разам з Фрода ля з адчыненага вакна кабінэту. У каміне палаў агонь, хоць было даволі цёпла й вецер дзьмуў з поўдня. На дварэ ўсё выглядала сьвежым і чыстым, на палёх ды пругкіх галінах дрэваў прабівалася маладая зеляніна.

Гэндальф думаў пра далёкую вясну амаль восемдзесят гадоў таму, калі небарака Більба выскачыў з Торбы-пад-Стромай нават без насоўкі. Гэндальфавы валасы шчэ больш пасівелі з тых часоў, а барада з вусамі – падаўжэлі, на твары адбіліся ўсе хваляваньні ды клопаты, аднак вочы зьзялі гэтаксама пранізьліва, і паліў ён, выдзьмуваючы дымавыя колцы, з ранейшымі асалодай і майстэрствам.

Паліў ён моўчкі, бо Фрода глыбока задумаўся. Нават і ранішняе сьвятло падалося яму змрочным ад Гэндальфавых навінаў. Нарэшце, загаварыў.

– Гэндальф, учора ваша распавядаў дзівосныя рэчы пра мой пярсьцёнак. І недагаварыў, маўляў, падобныя гутаркі лепей пакінуць да сьвятла. Мо час надышоў? Вашаць казаў, што мой пярсьцёнак – небясьпечны, і нашмат болей, чым я магу ўявіць. Чым жа ён небясьпечны?

– Шмат чым, – адказаў чараўнік. – Ён нашмат небясьпечнейшы, чым я нават наважваўся ўявіць. І такая ў ім моц, што ўрэшце пераможа любога сьмяротнага, хто ім валодае. І падпарадкуе сабе. Калісьці ў Эрэгіёне эльфы зрабілі шмат пярсьцёнкаў, якія мы цяпер называем "чароўнымі". Розных пярсьцёнкаў, сыгнэтаў, кляйнодзікаў – і слабейшых, і мацнейшых. Слабейшыя былі толькі практыкаваньнямі ў майстэрстве, забаўкамі для эльфаў-кавалёў, але ж забаўкамі, небясьпечнымі для сьмяротных. А

Вялікія Пярсьцёнкі, Пярсьцёнкі Моцы, – яны пагібельныя. Сьмяротны, які валодае адным зь Вялікіх Пярсьцёнкаў, не памірае, але ж і не расьце болей, не зьмяняецца. Жыцьцё ягонае не прыбаўляецца – проста расьцягваецца, пакуль не застаецца ад яго толькі стома й туга штохвілю існаваньня. А калі ён часта карыстаецца пярсьцёнкам, каб рабіцца нябачным, ён *танчэе*, пакуль ня зробіцца нябачным назаўсёды, каб вечна бадзяцца ў змроку, падуладны Чорнаму Гаспадару, што насамрэч кіруе пярсьцёнкамі. Так, раней ці пазьней – пазьней, калі сьмяротны быў моцны ці добры напачатку, аднак аніякія моц ці дабрыня тут ня выстаяць, – раней ці пазьней цемра зжарэ яго.

– Як жудасна! – усклікнуў Фрода.

І зноў у пакоі павісла доўгая цішыня. Толькі чулася з саду, як Сэм Гэйхад падразае траву.

– Ці даўно вашаць гэта ведае? – спытаў нарэшце Фрода. – Ці ведаў пра гэта Більба?

– Пэўны: Більба ведаў ня болей, чым распавёў табе, – адказаў чараўнік. – Наўрад ён, нягледзячы на мае абяцаньні даглядаць цябе, пакінуў бы табе рэч, якую лічыў небясьпечнай. Яму пярсьцёнак падаваўся незвычайна прыгожым, і карысным да таго ж, а калі й адчуваў нешта ня тое, дык думаў: справа ў ім самім, не ў пярсьцёнку. Казаў, што апошнім часам пярсьцёнак аніяк не сыходзіць з думак, і хваляваўся за яго, і непакоіўся. І не падазраваў, што менавіта таму віною. Більба хутка зразумеў, што за пярсьцёнкам трэба пільна сачыць, бо ён не заўсёды аднолькавай вагі ці памеру – ён памяншаўся ці рос дзівосным чынам і мог раптоўна сасьлізнуць з пальца, хоць нядаўна ледзь насоўваўся.

– Так, Більба папярэдзіў мяне пра гэта ў апошнім лісьце. Я заўсёды трымаю пярсьцёнак на ланцужку.

– Маеш рацыю, – сказаў Гэндальф. – Більба ніколі ня думаў, што абавязаны доўгім жыцьцём пярсьцёнку. Лічыў – сам гэткі жыцьцявіты, і так ганарыўся. А спакою ня меў, ані асалоды ад жыцьця. Казаў: "*Пачуваюся, быццам мяне расьцягнулі, размазалі*". Гэта пярсьцёнак браў сваё.

– І даўно ваша гэта ведае? – зноў спытаў Фрода.

– Ведаю што? Я ведаю шмат таго, што ведаюць толькі мудрыя, шаноўны мой Фрода. А калі ты маеш на ўвазе пярсьцёнак, то скажу: і цяпер дакладна ня ведаю. Трэба праверыць апошні раз, каб спраўдзіць здагадкі. Але ж я не сумняюся ў выніку. А вось калі я пачаў здагадвацца... так, калі ж гэта... напэўна, у той год, калі Більба знайшоў пярсьцёнак і Сьветлая Рада выгнала цемру зь Ліхалесься. Якраз напярэдадні Бойкі Пяці Войскаў. Нейкі цень тады лёг мне на сэрца, прадчуваньне, але ж я не разумеў, у чым прычына. Думаў часьцяком, як жа Глыкс натрапіў на Вялікі Пярсьцёнак, а што пярсьцёнак быў менавіта зь вялікіх, я не сумняваўся ад самага пачатку. Потым я пачуў няўклюдны Більбаў расповед пра "выйгрыш у гульні" – і не паверыў. А калі ўрэшце выцягнуў зь яго праўду, зразумеў: ён намагаецца пацьвердзіць сваё права на пярсьцёнак – рыхтык Глыкс зь ягоным "падарункам на дзень народзінаў". Так, надта ўжо падобная хлусьня, і падазроная. Ясна, гэта пярсьцёнак уплывае на свайго гаспадара, уплывае адразу ж і нядобра. Вось гэта й стала для мяне першым сыгналам небясьпекі. Я часьцяком казаў Більба, каб ён не карыстаўся пярсьцёнкам, але ён не любіў, калі я згадваў пра пярсьцёнак. Хутка злаваўся. Ну, я мог зрабіць няшмат болей за параду. Забраць пярсьцёнак я ня мог, не пашкодзіўшы Більба яшчэ болей, дый права на тое ня меў. Я мусіў толькі назіраць і

чакаць. Магчыма, варта было б папрасіць рады ў Сарумана Белага, але нешта заўсёды ўтрымлівала мяне ад таго.

– А хто гэта? Я ніколі ня чуў пра яго.

– Зразумела, бо на хобітаў ён увагі не зьвяртае. Ён – найвялікшы з мудрых, ачольца майго Ордэну й Сьветлай Рады. Глыбока сягнуў у ведзе, але ж разам зь ведамі рос і ягоны гонар, і цяпер ён ня церпіць, каб у ягоныя справы ўблытваліся. А вывучэньне эльфавых пярсьцёнкаў, і слабейшых, і вялікіх, – Саруманава справа. Доўгі час адшукваў ён сакрэты іх вырабу й уласьцівасьці, аднак калі гаворка пра пярсьцёнкі зайшла на Радзе, ён распавёў толькі тое, што супакоіла мяне. І прыцішыла сумнеў – але ня зьнішчыла яго. І я зноў – назіраў і чакаў. Усё падавалася добра зь Більба. Гады міналі – і не пакідалі на ім адзнак. Ён ня старыўся. І цень зноў агарнуў маё сэрца. Я супакойваў сябе: "Ну, з матчынага боку ў ягоным родзе шмат доўгажыхароў. Пачакаем яшчэ крыху". Я й чакаў – да тае начы, калі ён сышоў. А перад тым нагаварыў ды нарабіў такога, што аніякія Саруманавы словы мяне болей не супакойвалі. Я зразумеў нарэшце: чыясьці чорная воля й моц тут, чорная й злаўмысная. Цягам доўгіх гадоў пасьля тае начы я няспынна шукаў – і толькі цяпер дашукаўся, чыя яна.

– І ён пашкодзіў Більба? Цяжка? Ён жа паправіцца, праўда? Здолее жыць – і памерці – у супакоі?

– Яму палепшала адразу ж, як ён пакінуў пярсьцёнак. Аднак толькі Адзін у гэтым сусьвеце ведае ўсё пра пярсьцёнкі й іх уплыў, і, наколькі мне вядома, ніхто ня ведае ўсё цалкам пра хобітаў. Сярод мудрых толькі я й вывучаў іх, аніхто іншы іх й не дасьледваў, але ж вынікам – спрэс нечаканкі. Хобіты падаюцца то мяккімі й падатлівымі, як масла, то цьвярдымі ды ўпёртымі, нібыта карані старога дрэва. Думаю, яны нават здольныя супраціўіцца пярсьцёнкам нашмат даўжэй, чым можа ўявіць сабе большасьць мудрых. Табе ня варта турбавацца пра Більба. Вядома, ён валодаў пярсьцёнкам шмат гадоў і карыстаўся ім, так што спатрэбіцца нямала часу, каб пазбавіцца ўплыву, каб Більба здолеў, напрыклад, бачыць яго безь небясьпекі для сябе. А так – Більба можа жыць спакойна й шчасьліва шчэ шмат гадоў і заставацца амаль гэткім, якім быў, калі пазбавіўся пярсьцёнка. Бо, урэшце, ён аддаў яго з уласнай волі – і гэта вельмі істотна. Не, пасьля таго, як ён разьвітаўся з гэтай рэччу, я за нашага дарагога Більба больш не турбуюся. Я турбуюся за цябе. З таго дня, як сышоў Більба, у мяне з галавы ня йдзеш і ты, і ўвогуле ўсе мілыя, бязглуздыя, нязграбныя хобіты. Якая цяжкая страта будзе для сьвету, калі Змрок паглыне Шыр, калі ўсе-ўсенькія вясёлыя, праставатыя Барсуксы, Рагадзьмуўцы, Галавасты, Папружніксы ды астатнія, ня кажучы ўжо пра дзівакоў Торбінсаў, стануць рабамі.

Фрода ўздрыгнуў.

– Рабамі? Чаму? Навошта Ўладару Змроку такія рабы?

– Папраўдзе кажучы, – азваўся Гэндальф, – пакуль што – пакуль! – ён не зьвяртаў на хобітаў аніякай увагі. Так што будзь удзячны й за гэта. Але ж час вашай бясьпекі мінуў. Вы яму не патрэбныя – у яго ёсьць мноства больш карысных паслугачоў, але ж цяпер ён на вас не забудзецца. Хобіты-рабы значна больш даспадобы яму, чым хобіты шчасьлівыя й вольныя. Ведаеш, ёсьць такія рэчы, як злосьць і помста.

– Помста? – спытаў Фрода. – За што? Я ўсё-ткі не разумею, як гэта тычыцца нас зь Більба ды нашага пярсьцёнка?

– Як тычыцца? Самым непасрэдным чынам, менавіта вас і вашага пярсьцёнка, – адказаў Гэндальф. – Вы йшчэ ня ведаеце, што такое сапраўднае ліха, але ж яно ўжо

блізка. Мінулым разам я ня быў пэўны. Цяпер час надышоў. Дай мне пярсьцёнак, на хвілінку.

Фрода дастаў з кішэні пярсьцёнак, прычэплены ланцужком за паска. Павольна адчапіў, працягнуў Гэндальфу. Пярсьцёнак раптам зрабіўся вельмі цяжкі, нібыта ён, ці сам Фрода, не жадаў, каб Гэндальф дакрануўся да яго.

Чараўнік узяў пярсьцёнак. Той выглядаў адлітым з чыстага цьвёрдага золата.

– Ты бачыш на ім якія-небудзь пазнакі? – спытаў Гэндальф.

– Не, – адказаў Фрода. – Няма аніякіх. Пярсьцёнак гладкі, на ім ані драпінкі, ані знаку, што яго насілі.

– Добра – тады зірні! – на Фродава зьдзіўленьне й жах, чараўнік раптам кінуў пярсьцёнак у найгарачэйшы кут агменю, у самае полымя. Фрода ўскрыкнуў і схапіўся за шчыпцы, але Гэндальф спыніў яго.

– Пачакай! – сувора прамовіў чараўнік, зірнуўшы на Фрода з-пад пахмураных броваў.

Пярсьцёнак ані не зьмяніўся. Счакаўшы крыху, чараўнік устаў, зачыніў аканіцы й завешаў фіранкі. У пакоі пацямнела, у цішыні чуваць было толькі шчоўканьне Сэмавых нажніцаў у садзе, яно наблізілася да вакна. Гэндальф памарудзіў, імгненьне ўзіраючыся ў полымя, а потым нахіліўся, шчыпцамі выцягнуў пярсьцёнак з агню. Фрода ледзь ня ўскрыкнуў ад нечаканасьці.

– Ён халодны, – сказаў Гэндальф. – Вазьмі яго.

Фрода прыняў пярсьцёнак на напятую далонь. Той нібыта патаўсьцеў, падаўся незвычайна цяжкім.

– Трымай! – вымавіў Гэндальф. – І ўгледзься добра!

Фрода прыгледзеўся – і ўбачыў танюткія рыскі, танчэйшыя за самыя лёгкія, якія толькі можна зрабіць пяром. Яны беглі па вонкавай і ўнутранай паверхнях пярсьцёнка – рысы полымя – і складаліся ў вогненныя літары, што плаўна пераліваліся адна ў адну. Яны пранізьліва зьзялі, але разам з тым падаваліся далёкімі, нібыта былі ў вялікай глыбіні.



– Я не магу прачытаць вогненныя літары, – вымавіў Фрода запінаючыся.

– Вядома, ня можаш. Я магу, – сказаў Гэндальф. – Літары эльфавы, старажытнага ладу, але ж мова – мордарская, і тут я ня стану вымаўляць яе словы. На Агульнай мове гэта гучыць прыблізна так:

*Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх,*
*Адзін – завабіць і ў цемры чорнай скаваць іх...*

Гэта – два радкі зь верша, што даўно вядомы эльфавым мудрацам:

*Тры – сьмяротнай зямлі несьмяротным князям,*
*Сем – царам-кавалям на падгорным троне,*
*Дзевяць – чалавечага племені каралям,*
*Адзін – Уладару Цемры ў чорнай кароне,*
*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*
*Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх,*
*Адзін – завабіць і ў цемры чорнай скаваць іх*
*У змрочнай краіне Мордар, там, дзе пануе Цень.*

Гэндальф памаўчаў і неўзабаве павольна вымавіў:

– Гэта – Пярсьцёнак-гаспадар, той Адзіны Пярсьцёнак, які ўладарыць над усімі астатнімі. Той, што *ён* згубіў шмат вякоў таму, увадначасьсе страціўшы вялікую частку сваёй моцы. Цяпер *ён* больш за ўсё прагне вярнуць яго – і гэтага нельга дазволіць.

Фрода здранцьвеў. Здавалася, жах цёмнай доўгай лапай, змрочнай хмарай, што ўзьнялася на Ўсходзе, працягнуўся да яго, распасьцёрся над ім, разявіў пашчу, пагражаючы праглынуць.

– Гэты... гэты пярсьцёнак! – выгукнуў Фрода, запінаючыся. – Ну як жа, ну навошта толькі ён трапіў да мяне?!

– А! – азваўся Гэндальф. – Доўгая гэтая гісторыя, надта доўгая. Пачатак яе – у Чорных гадах, пра якія цяпер памятаюць толькі наймудрэйшыя. Калі б я ўзяўся распавядаць усё, мы праседзелі б тут да зімы. Мінулай ноччу я казаў табе пра Саўрона Вялікага, Чорнага Ўладара. Чуткі пацьвердзіліся: ён на самай справе ўзьняўся наноў і, пакінуўшы ліхалескую сядзібу, вярнуўся да сваёй старажытнай цьвярдыні – Цёмнай вежы, у Мордар. Гэтае імя нават і хобіты памятаюць – водгукам цьмянага жаху ў старых паданьнях. Заўсёды пасьля паразы й адступленьня Цень прымае іншае аблічча й узьнімаецца зноў.

– Хацеў бы я, каб гэта здарылася не на маім веку, – уздыхнуў Фрода.

– Не адзін ты, – адказаў чараўнік, – і я таксама, і ўсе, каму давялося дажыць да гэткіх дзён. Але ж ня мы выбіраем свой час. Мы выбіраем толькі, як зь ім абысьціся. І яго ў нас, баюся, засталося няшмат. Наш вораг набірае моцы. Ягоным плянам яшчэ далёка да ажыцьцяўленьня, але яны высьпяваюць вельмі хутка. Цяжкая нашая гадзіна, і неўзабаве зробіцца яшчэ цяжэйшай. Яна зрабілася б і ўвогуле невыноснай, калі б лёс ня даў нам танюткі, хісткі, але ўсё-ткі шанец. Ворагу не хапае адной рэчы, якая дала б моц і веды перамагчы любы супраціў, прабіць нашую апошнюю абарону й зноў агарнуць змрокам усю зямлю. Яму не хапае Адзінага Пярсьцёнка. Пярсьцёнка-гаспадара. Тры эльфскія найсьвятлейшыя пярсьцёнкі эльфавы ўладары схавалі ад *яго*. Ягоныя лапы ніколі не краналі іх, ніколі ня змрочылі. Сямю пярсьцёнкамі валодалі гномскія цары. Тры зь іх *ён* прыдбаў, астатнія папажэрлі цмокі. Дзевяць *ён* аддаў сьмяротным людзям, вялікім каралям і ваярам, – і зрабіў іх рабамі. Яшчэ ў даўніну скарыліся яны Адзінаму пярсьцёнку – і сталі прывідамі, Акальцаванымі Цемрай, ценямі ад вялікага Ценю й самымі жудаснымі *ягонымі* паслужнікамі. Шмат гадоў ня крочылі па зямлі Дзевяць Акальцаваных. Аднак Цемра ўзьнімаецца наноў, і, магчыма, неўзабаве зьявяцца й яны. Але досыць! Пра гэткае ня трэба плявузгаць нават і шырскай раніцою.

– Так, – працягваў Гэндальф, – дзевяць *ён* сабраў, рэшту сямі таксама, а астатнія зьнішчаныя. Тры ад *яго* пакуль хаваюць. Але яны *яго* не хвалююць. *Яму* не хапае толькі Адзінага – *ён* сам зрабіў яго, гэта ягоная ўласнасьць, куды перайшла вялізная частка ягонай ранейшай моцы – дзеля таго, каб падпарадкаваць усе астатнія пярсьцёнкі. З Адзіным *ён* зноў падуладзіць іх, дзе б яны ні былі. Усё зробленае пры іх дапамозе абрынецца – і Вораг дасягне найвялікшай моцы, найвялікшай за ўсе часы... І вось тут наш танюткі шанец, Фрода. Вораг верыў у тое, што Адзіны Пярсьцёнак згінуў, што эльфы зьнішчылі яго яшчэ ў даўніну, як і мусілі зрабіць. А цяпер *ён* ведае, што пярсьцёнак ня згінуў, што яго знайшлі. І таму сам няспынна й нястомна шукае яго, не шкадуючы анічога. У Адзіным ягоны лёс, і найвялікшая для нас небясьпека.

– Ну чаму, чаму ж яго ня зьнішчылі? – усклікнуў Фрода. – І як жа Вораг увогуле згубіў яго, калі быў такі моцны й так яго шанаваў?

Фрода сьціснуў пярсьцёнак у далоні так, быццам ужо бачыў чорныя пальцы, што цягнуцца па яго.

– Пярсьцёнак у яго адабралі. Сілком. Моц эльфаў была нашмат большая за сёньняшнюю, і ня ўсе яшчэ людзі дзічыліся іх. Людзі Захаду дапамаглі ім. Гэтую старажытную гісторыю варта было б узгадаць. Шмат там тугі й бяды. Цемра рушыла наперад, але ж супраць яе паўсталі вялікая адвага й мужнасьць. І хоць ліха ня здолелі вынішчыць цалкам, подзьвігі тых дзён не былі марныя. Калі-небудзь я распавяду табе гэтую гісторыю цалкам ці, можа, распавядзе той, хто ведае яе лепей за мяне. А пакуль табе дастаткова ведаць, як пярсьцёнак патрапіў да цябе. Гіль-Галяд, кароль эльфаў, і Элендыль з Захаду зрынулі Саўрона, хоць пры тым загінулі самі. А Элендылеў сын Ісільдар адсек пярсьцёнак з Саўронавай рукі ды ўзяў сабе. Так перамаглі Саўрона, і толькі дух ягоны ўцёк і хаваўся доўгія гады, пакуль ягоны цень зноў не ўцялесьніўся, набраўшыся моцы, у Ліхалесьсі. Але ж пярсьцёнак згубіўся. Упаў у Вялікую раку, у Андуйн, і зьнік. Калі Ісільдар ішоў на поўнач уздоўж усходніх берагоў ракі, паблізу Квятных панізьзяў яго падпільнавалі горныя оркі й забілі амаль усіх ягоных паплечнікаў. Толькі сам Ісільдар скочыў у раку й паплыў, але ж пярсьцёнак сасьлізнуў зь ягонага пальца. Оркі ўбачылі яго й пачалі страляць з лукаў. І забілі.

Гэндальф крыху памаўчаў.

– І вось там, у цёмных ямінах панізьзяў, пярсьцёнак ляжаў доўгія гады, схаваўшыся ад мудрых і сьмяротных. Аніхто пра яго ня ведаў, дый пра тое, як ён патрапіў туды, ведалі няшмат. І Сьветлая Рада ня здолела вызнаць болей. Але ж нарэшце я, здаецца, магу падоўжыць расповед...

Шмат гадоў пасьля таго – і ўсё-ткі доўгі, доўгі час таму – на ўскрайку Дзіказем’я, на самых берагах Вялікай ракі жыў спрытны, кемлівы ды ўмелы маленькі народзец. Думаю – хобіцкая радзіна. Напэўна, продкі каранюцкіх прабацькоў, бо любілі раку, часьцяком па ёй плавалі, рабілі маленькія чоўнікі з чароту. Была сярод іх вельмі шанаваная сям'я, большая й заможнейшая за іншыя, і ачольвала яе суворая, мудрая й рашучая старая, абазнаная ў звычаях ды паданьнях даўніны, якія толькі меў той народзец. А найбольш пракудлівага й цікаўнага з той сям'і клікалі Сьмеяголь. Ва ўсім ён намагаўся дабрацца да самых асноваў і пачаткаў: ныраў у найглыбейшыя яміны, падкопваўся пад дрэвы й іншыя расьліны, тунэліў зялёныя пагоркі – і амаль ніколі не пазіраў ані на лісьце дрэваў, ані на кветкі на іхніх галінах, ані на вяршыні стромаў. Ён заўсёды глядзеў уніз.

Быў у яго сябра Дыяголь, гэткі самы зыркавокі, але ж не такі спрытны й моцны. І вось аднойчы яны ўзялі човен і паплылі ўніз па рацэ да Квятных панізьзяў – там цэлымі палямі тады шыкоўна квітнелі касачы й чарот. Там Сьмеяголь выйшаў на

бераг і пачаў нешта шукаць, а Дыяголь застаўся ў чоўне лавіць рыбку. Раптам вялізная рыбіна схапіла кручок і ўмомант сьцягнула яго з чоўна ў ваду ды на самае дно. Там ён нарэшце выпусьціў вуду, бо заўважыў на дне нешта бліскучае й пацягнуўся па гэта. Вынырнуў, адплёўваючыся, з травою ў валасах ды жменяй глею ў руцэ, паплыў на бераг. А там – зірніце толькі! – змыўшы бузу, убачыў найпрыгажэйшы залаты пярсьцёнак, такі зыркі й зіхоткі на сонцы, і ўзрадаваўся. А Сьмеяголь назіраў за ім з-за дрэва, і пакуль Дыяголь любаваўся пярсьцёнкам, цішком падышоў ззаду.

"Дай яго нам, Дыяголь, даражэнькі мой", – сказаў Сьмеяголь, пазіраючы з-за сябрава пляча.

"Чаму?" – зьдзівіўся Дыяголь.

"Таму што сёньня мой дзень нарадзінаў, даражэнькі мой, і таму што я яго хачу".

"Ну дык што? Я ўжо падараваў табе падаруначак, і ня тое каб танны. Усё. Я знайшоў, значыць, маё".

"Вох, так, так, даражэнькі мой", – прасіпеў Сьмеяголь, ухапіў Дыяголя за горла ды задушыў, бо пярсьцёнак быў такі прывабны й цудоўны. А пасьля насунуў яго на палец.

Аніхто так і ня вынайшаў, што сталася з Дыяголем. Бо забіты ён быў далёка ад хаты, і цела Сьмеяголь схаваў добра. А вярнуўся адзін і хутка зразумеў, што аніхто зь сям'і ня можа ўбачыць яго зь пярсьцёнкам на пальцы. Ён вельмі ўзрадаваўся з таго, і нікому сакрэту не раскрыў, а выкарыстоваў, каб цішком выведваць чужыя таямніцы ды ўчыняць усялякую патраву. І сягнуў у тым незвычайнай ступені, беспамылкова ўнюхваючы наймалейшую магчымасьць каму-кольвек пашкодзіць. Пярсьцёнак даў Сьмеяголю ўладу й моц адпаведна ягонай асобе. Як і трэ было чакаць, ён папсаваў стасункі з усімі. Радзіна яго ігнаравала (калі бачыла) ці кпіла зь яго, а ён помсьціў. Прыняўся красьці, хадзіў, мармычучы сабе пад нос, ды гаргатаў глыткай, нібыта глытаючы. Сваякі празвалі яго *Глыксам*, праклялі й пагналі прэч, і старая, ягоная бабуля, жадаючы спакою ў сям'і, выгнала яго з нары й забараніла вяртацца.

Сьмеяголь блукаў адзін уздоўж Андуйну, крыху плакаў, скардзіўся на жорсткасьць сьвету ды нарэшце напаткаў рачулку, што цякла з гор. І пайшоў уздоўж яе. Лавіў па ямінах нябачнымі пальцамі рыбу й жэр жыўцом. Аднойчы сьпякотным днём, нахіліўшыся над вадою, адчуў, як сонца пячэ патыліцу, а сьвятло, адбіваючыся ад вады, сьлепіць мокрыя вочы. Ён зьдзівіўся, бо нават забыўся быў пра сонца. Тады апошні раз зірнуў угору й пагразіў сонцу кулаком. Апусьціўшы вочы, заўважыў у далечы вяршыні Туманных гор, зь якіх цякла рачулка. І вырашыў раптам: "Пад гарамі так прахалодна й цяніста. Там сонца ня здолее за мною падглядваць. Напэўна, глыбока сягаюць горныя карані, там хаваюцца вялікія сакрэты, нязнаныя ад першых дзён сусьвету".

Ён дабраўся да высакагор'я, знайшоў цёмную пячору, адкуль выбягаў струмень, прасьлізнуў, нібыта сьлімак, у самае сэрца гары – і зьнік з вачэй усіх ды ўсяго. Пярсьцёнак сышоў у цемру разам зь ім, і нават ягоны творца, набіраючы моцы, анічога ня мог дазнацца пра яго.

– Глыкс! – усклікнуў Фрода. – Гэты самы пачварань, якога Більба сустрэў падчас вандроўкі! Як мярзотна!

– Так, сумная гісторыя. Але ж яна магла здарыцца й зь іншымі, нават зь некаторымі хобітамі, якіх я ведаю.

– Ня веру, што Глыкс – сваяк хобітам. Нават найдалейшы! – абурыўся Фрода. – Брыдка нават уявіць!

– Тым ня менш гэта праўда. Пра паходжаньне хобітаў я ведаю крыху болей за іх саміх. І нават Більбава гісторыя – пацьверджаньне. Яны з Глыксам падобна думалі, узгадвалі тое самае. І добра разумелі адзін аднаго – нашмат лепей, чым зразумеў бы хобіт гнома ці орка альбо эльфа. Падумай пра загадкі, якія ведалі абодва.

– Так, – адказаў Фрода, – але ж ня толькі хобіты гуляюць у загадкі. Загадкі шмат у каго падобныя. Хобіты ў гульні не падманваюць, як Глыкс. Той жа ўвесь час толькі й думаў, як схітрыць – заблытаць Більба ды зьбіць з панталыку. Я сказаў бы, нічога сабе чэсная гульня: калі выйграеш – дык зжарэш небараку жыўцом, а калі прайграеш – ніякай шкоды!

– Так, так, – уздыхнуў Гэндальф, – але ж ёсьць тут адна рэч, якую ты пакуль што ня бачыш. Глыкс яшчэ ня цалкам згубіўся. Ён крапчэйшы, чым маглі ўявіць нават і мудрыя, – бо ён радзіна хобітам. Пярсьцёнак яшчэ ня здолеў зжэрці ягоны розум, ягоную памяць цалкам, і ў тым жывым куце яшчэ ёсьць сьвятло, быццам праз танюткую шчылiначку сярод цемры, – сьвятло ягонага мінулага. Падаецца мне, яму на самай справе было прыемна зноў пачуць добры голас, што нагадаў пра дрэвы й сьвежы ветрык, пра сонца на траве. Пра ўсё страчанае. Але гэта толькі падагрэла ягоную злосьць, а суцішыць яе не было чым, – Гэндальф зноў уздыхнуў. – Магчыма, і Глыкс яшчэ можа выратавацца. Каб ацаліць яго, дапамагчы рэшткам сьвятла ў ягонай душы перамагчы... на жаль, тут няшмат надзеі. Доўга ён валодаў пярсьцёнкам – ён і сябе безь яго ўжо амаль ня памятае. Але ж карыстаўся ім зрэдку – у падгорнай цемры без патрэбы. Таму не станчэў. Ён яшчэ моцны й цягавіты целам – але пярсьцёнак заняволіў ягоны розум, і пакута страты для Глыкса амаль невыносная. Усе "нязнаныя сакрэты" гор апынуліся проста бясконцай ноччу: няма чаго рабіць, няма чаго шукаць – хіба што ежу красьці ў цемры ды ўзгадваць на былыя крыўды. Ён няспынна пакутаваў. Ненавідзеў цемру, а сьвятло й болей за тое, ненавідзеў усё, а пярсьцёнак болей за астатняе.

– Як гэта зразумець? – перапытаў Фрода. – Ці пярсьцёнак не адзіная рэч, пра якую ён толькі й клапаціўся? А калі ён яго так ненавідзеў, чаму ня выкінуў, чаму не сышоў прэч, пакінуўшы яго?

– Варта табе ўжо й кеміць крыху, столькі пачуўшы. Глыкс любіў і ненавідзеў пярсьцёнак, як самога сябе. Ня мог ён выкінуць ці сысьці – не было на тое ягонай волі. Пярсьцёнак Улады сам сабе даглядаты. Ён можа раптоўна сасьлізнуць з пальца – сам! А носьбіт яго ніколі не пакіне. Можа, спачатку яшчэ й пацешыцца думкаю аддаць каму-небудзь, каб вартаваў, і тое пакуль пярсьцёнак яшчэ ня ўеўся ў розум. Наколькі я ведаю, за ўсю гісторыю гэтага пярсьцёнка адзін Більба ня проста плянаваў аддаць, а сапраўды з сваёй волі аддаў пярсьцёнак. І не без маёй дапамогі. І нават Більба ня выкінуў бы яго й не пакінуў. Ня Глыкс – сам пярсьцёнак вырашаў, застацца ці не. І вырашыў пакінуць яго.

– Якраз дзеля таго, каб патрапіць да Більба? – спытаў Фрода. – Ня лепей было б падкаціцца да якога-небудзь орка?

– Ня трэба з гэтага сьмяяцца. Асабліва табе. Самае дзівоснае ва ўсёй гісторыі зь пярсьцёнкам тое, што менавіта Більба ў цемры, навобмацак натрапіў на яго. Невыпадкова гэта, Фрода. Тут дзейнічае ня толькі чорная воля пярсьцёнкавага гаспадара. Пярсьцёнак хоча вярнуцца: калісьці ён здрадзіў Ісільдару, сасьлізнуўшы зь ягонага пальца. Патрапіў на Дыяголя – і той быў забіты. Перайшоў да Сьмеяголя – і зжэр ягоную душу. З Глыкса, маленькага, нікчэмнага, болей не было карысьці. Зь

пярсьцёнкам ён так і хаваўся б ля падгорнага возера. А калі гаспадар змроку зноў абудзіўся й пацягнуўся чорнай думкаю зь Ліхалесься, пярсьцёнак здрадзіў Глыксу – толькі каб патрапіць самай неверагоднай асобе, Більба з Шыру! Тут мне бачыцца шмат чаго па-за якімі заўгодна плянамі Майстра пярсьцёнкаў. А прасьцей, Більба было наканавана знайсьці пярсьцёнак. А табе, у сваю чаргу, прызначана захоўваць яго. І ў гэтым я бачу надзею.

– Я, на жаль, яе амаль ня бачу, – сказаў Фрода. – Я ня ўпэўнены, што цалкам зразумеў вашаць. Як можна было ўсё гэтае даведацца пра пярсьцёнак ды Глыкса? Гэта веды на самай справе або толькі яшчэ здагадкі?

– Здагадкі? – Гэндальф глянуў на Фрода з-пад густых броваў. – Я шмат што ведаю ў дакладнасьці й шмат пра што здагадаўся. І я не зьбіраюся рапартаваць пра ўсе мае пошукі табе. Гісторыя Элендыля, Ісільдара ды Адзінага Пярсьцёнка вядомая ўсім мудрым. Твой пярсьцёнак і ёсьць Адзіны – ужо з аднаго надпісу на ім, калі ня ўлічваць іншых сьведчаньняў.

– І калі ж вашаць гэтае дазнаўся? – перабіў чараўніка Фрода.

– Ды зараз, на тваіх вачох, – адказаў той раздражнёна. – Я чакаў – і пацьвердзіў чаканьні. Я доўга вандраваў і шмат шукаў, каб нарэшце знайсьці. Апошні доказ – мне самому ўжо амаль без патрэбы. Вось высьветліць Глыксаву ролю ды ўмясьціць яго ў гісторыю пярсьцёнка – тут давялося парупіцца. Наконт Глыкса я пачынаў здагадкамі, а скончыў праўдай. Бо я бачыў Глыкса. І размаўляў зь ім.

– Бачыў Глыкса? – усклікнуў Фрода ў зьдзіўленьні.

– Так. Відавочная ідэя, але ж ажыцьцявіць яе было досыць цяжка. Я змарнаваў шмат часу, і нарэшце мне пашанцавала.

– Што ж адбылося пасьля таго, як Більба ад яго ўцёк? Ваша ведае?

– Недакладна. Я распавёў табе тое, што выцягнуў з Глыкса, вядома, ня тымі самымі словамі, якія пачуў. Бо ён жа хлус, і кожнае ягонае слова даводзілася пераправяраць. Напрыклад, пярсьцёнак ён увесь час называў "падарункам на дзень народзінаў". Казаў, ад бабкі, у якой было безьліч прыгожых цацак накшталт гэтай. Глупства. Не сумняюся, тая бабця была сапраўдны матрыярх, і сярод сваіх значная асоба, але каб у яе гаспадарцы вяліся эльфавы пярсьцёнкі ды каб яна іх раздавала – дурная хлусьня. Але ж не безь зярнятка праўды.

Глыкс ня мог забыцца на забойства Дыяголя. Прыдумаў сабе паратунак ды паўтараў зноў і зноў над сваёй "*каштоўнасьсьцю*" ў цемры, пакуль і сам амаль не паверыў. Ягоны ж быў дзень народзінаў ці не? Дыяголь павінен быў падараваць пярсьцёнак. Той і зьявіўся, каб зрабіцца падарункам – менавіта ягоным падарункам. І гэтак далей, і далей, і далей.

Цярпеў я ягоную балбатню, пакуль мог. Аднак мне трэ было дазнацца праўду, абавязкова. Урэшце, давялося абысьціся зь ім жорстка. Я запалохаў яго полымем і выцягнуў сапраўдную гісторыю, кавалак за кавалкам, разам з румзаньнем і абразамі. Ён лічыў, што яго падманваюць і не жадаюць разумець. Распавёў мне да гульні ў загадкі й Більбавых уцёкаў, а далей змоўк, толькі выцісьне слова-другое незразумелае й пагрозьлівае. Нехта запалохаў яго болей за мяне. Ён мармытаў, мармытаў: *верне ўласнае, вох, верне*. Яшчэ пабачыце, як зь яго кпіць, заганяць у пячоры ды рабаваць. Цяпер у Глыкса добрыя сябры, добрыя й моцныя. Яны дапамогуць. Торбінс пабачыць. І адкажа за ўсё. Ён толькі й думаў пра помсту Більба. Праклінаў ягонае імя. А ён ведаў, адкуль Більба.

– Як? – зьдзівіўся Фрода.

– Дык жа Більба сам яму распавёў па дурасьці. А калі Глыкс выбраўся вонкі, Шыр знайсьці было няцяжка. Так, так, Глыкс выбраўся вонкі. Прага да пярсьцёнка перамагла страх і перад оркамі, і нават перад сьвятлом. Праз год ці два наважыўся пакінуць горы. Хоць нудзіўся невыносна, пярсьцёнак ягоную душу болей ня жэр, і Глыкс пачаў аджываць. Вядома, пачуваўся старым, чуў цяжар гадоў, але ж зрабіўся й болей дзёрзкім, і агаладнеў сьмяротна. Сьвятло, сонечнае ці месяцовае, ён ненавідзеў і баяўся яго, і будзе ненавідзець да скону дзён, але ж прызвычаіўся выжываць на паверхні. Вынайшаў, як хавацца ад сьвятла, рушыў найчарнейшымі начамі, зыркаючы бляднымі вачыма, хапаў перапалоханых маленькіх зьвяркоў ды птушак і жэр. Памацнеў на сьвежым паветры, вывучыўся паляваць. І, як і трэ было чакаць, урэшце знайшоў шлях да Ліхалесься.

– Там ваша яго й знайшоў?

– Я там яго бачыў, – адказаў Гэндальф. – А да таго ён пасьпеў пацягацца за Більба. Ад яго цяжка даведацца з пэўнасьцю, дзе ды як, бо ўвесь час толькі й чуеш: "*Шшто, шшто ў ягоныххх кішшэнькахх? Пачварка не сссказала мне, так, не сссказзала. Падманула. Нячэсссная загадка. Нячэсная. Торбінссс першы падмануў, так. Не па правілах, так. Нам трэ было сссхапіць яго, прыдушыць яго. Яшчэ сссхопім, прыдушшым*". Так ён і размаўляў. Здэцца мне, табе ўжо абрыдла слухаць. А я цярпеў днямі. Але я паступова дазнаўся, што ягоныя сьлізкія лапы данесьлі яго й да Эзгарату, і нават да Долу. Ён падслухоўваў ды падглядваў, а навіны ж тады разносіліся па ўсім Дзіказем'і. Шмат хто ведаў і Більбава прозьвішча, і адкуль ён. Чуйныя Глыксавы вушы хутка давялі яму ўсё, што ён жадаў.

– Чаму ж ён ня высачыў Більба далей, да Шыру?

– Таму што гэта няпроста. Думаю, ён спрабаваў. Вярнуўся на захад, дабраўся да Вялікай ракі, а далей не пайшоў. Упэўнены, не з-за страху доўгіх вандровак. Нешта іншае звабіла яго – так палічылі мае сябры, якія палявалі на яго для мяне. Спачатку яго высачылі лясные эльфы – для іх гэта проста, і сьлед ягоны быў яшчэ сьвежы. Ён вёў назад праз Ліхалесьсе, але эльфы Глыкса так і не злавілі. Лес запаўнялі жудасныя чуткі, пералякаліся й зьвяры, і птушкі. Лясныя людзі казалі: новы жах бадзяецца па лесе, начны прывід-крывасмок. Караскаецца на дрэвы па гнёзды, лезе ў норы, каб пажэрці зьверанятак, і ў вокны, каб красьці немаўлятаў. Але на заходняй мяжы Ліхалесься сьлед згубіўся. Зьвярнуў на поўдзень і зьнік там, куды лясныя эльфы не заходзяць. І вось тут я зрабіў вялікую памылку – ня першую, але ж, баюся, найгоршую. Пакінуў Глыкса ягоным Глыксавым справам. У мяне тады было досыць клопатаў, і я яшчэ верыў словам Сарумана. Шмат гадоў таму гэта было, і я дорага заплаціў за тую памылку. Пасьля Більбавай вечарынкі я зноў узяўся за пошукі. Глыксаў сьлед даўно прастыў, і нічога не атрымалася б, калі б не дапамога сябра – Арагорна, найвялікшага сьледапыта й паляўнічага нашай эпохі. Разам мы шукалі Глыкса па ўсім Дзіказем'і, безнадзейна й беспасьпяхова. А калі я ўжо страціў надзею ды заняўся іншымі справамі, мой сябра знайшоў Глыкса. Вярнуўшыся зь цяжкой, небясьпечнай вандроўкі, прыцягнуў няшчаснага пачварня з сабою. Дзе быў і што рабіў, Глыкс нам так і не распавёў. Плакаў, казаў: *жорссткія мы, глыкс, глыкс, жорссткія*, а калі мы прыгразілі, пачаў енчыць і вохкаць, тросься, курчыўся, шкроб рукі й лізаў пальцы, нібыта балелі, быццам узгадваў на даўняе катаваньне. Баюся, сумневу тут ужо няма: Глыкс поўз паціху на поўнач, краўся крок за крокам, вярсту за вярстою – пакуль не дабраўся да Мордару.

У пакоі павісла цяжкая цішыня. Фрода нават чуў, як б'ецца ягонае сэрца. Нават і вонкі ўсё прыціхла, і Сэмавы нажніцы перасталі шчоўкаць.

– Так, да Мордару, – пацьвердзіў Гэндальф. – Мордар вабіць усялякае зло. Змрочны Ўладар воляю сваёю зьбірае ліхадзеяў да сябе, пад сваю руку. А Глыкс паняволены Пярсьцёнкам Улады. У Дзіказем'і паўсюль шэпты пра новы Цень на Поўдні, пра яго нянавісьць да Захаду. Небарака й вырашыў – там знойдуцца моцныя сябры, яны дапамогуць адпомсьціць!.. Бедны дурань. Тое сяброўства ня кожны перажыве. Напэўна, ён бадзяўся ля межаў той злавеснай краіны, выслухваў, вынюхваў, мо й вызнаў шмат – і патрапіў варце, быў схоплены й дапытаны. Калі мой сябра знайшоў Глыкса, той ужо доўга адбыў у Мордары й вяртаўся адтуль, напэўна, на загад, каб зьдзейсьніць якое-небудзь злачынства. Якое – цяпер ня надта істотна. Бо найвялікшае злачынства ён ужо зьдзейсьніў. Праз яго Вораг ведае, што Адзіны Пярсьцёнак знайшоўся. Ён ведае, дзе загінуў Ісільдар. Дзе Глыкс знайшоў пярсьцёнак. Дазнаўся, што гэта адзін зь Вялікіх Пярсьцёнкаў, бо падаўжае жыцьцё. Гэта не адзін з трох эльфавых, бо іх аніколі не гублялі й яны непадуладныя ліху. І не адзін зь сямі гномавых, і не адзін зь дзевяці чалавечых. Ён ведае цяпер: гэта – Адзіны Пярсьцёнак. А яшчэ ён нарэшце пачуў пра хобітаў і Шыр. Можа, ён ужо шукае Шыр, калі яшчэ не адшукаў. Фрода, я баюся, што й прозьвішча Торбінс ён ужо пачуў – і запомніў.

– Які жах! – усклікнуў Фрода. – Найгорш, чым я мог уявіць з усіх гэтых намёкаў ды папярэджаньняў! Гэндальф, сябра мой найлепшы, што ж мне рабіць? Як шкада, што Більба не пырнуў Джалам нягодніка, калі была магчымасьць!

– Шкада, кажаш? Менавіта шкадаваньне й спыніла ягоную руку. Шкадаваньне й міласэрнасьць. Ён ня стаў забіваць, таму што мог абысьціся без забойства. І быў добра ўзнагароджаны. Менавіта таму пярсьцёнак і пашкодзіў у такой малой ступені. Бо на пачатку былі шкадаваньне й міласэрнасьць.

– Выбачайце, калі ласка, – азваўся Фрода. – Вашаць мяне напалохаў, і аніякага шкадаваньня да Глыкса я не адчуваю.

– Ты яго ня бачыў.

– Не, і не хачу бачыць. І вашаць не разумею. Вашаць з эльфамі дазволілі Глыксу жыць пасьля такіх жудасных злачынстваў? Ён жа ня лепшы за орка, гэткі самы вораг. Ён ня варты жыцьця!

– Ня варты жыцьця? Магчыма, так. Сапраўды, шмат з тых, хто цяпер жыве, жыцьця ня вартыя. А колькі з тых, каго пазбавілі жыцьця, былі вартыя жыць? Можаш ты вярнуць ім жыцьцё? Калі не – не сьпяшайся прысуджаць да сьмерці. Бо нават і наймудрэйшым ня дадзена прадбачыць, як усё ўрэшце паверне. Няшмат надзеі, што Глыкса можна ўратаваць, але ж яна ёсьць. І да таго ж ягоны лёс злучыўся зь лёсам пярсьцёнка. Сэрца падказвае мне: мы яшчэ пабачым Глыкса. Ягонае апошняе слова – добрае ці не – тут яшчэ ня сказанае. А калі надыдзе час, мажліва, менавіта Більбава шкадаваньне й вырашыць шмат чый лёс. Твой у тым ліку. Так ці інакш, мы ня сталі яго забіваць. Ён надта стары й вельмі няшчасны. Лясныя эльфы трымаюць яго ў турме, але ж ставяцца зь мяккасьцю, якую толькі могуць знайсьці ў сэрцах.

– Ну, хай так, – згадзіўся Фрода, – нават калі й слушна, што Більба не забіў Глыкса, дык навошта ж ён трымаў пярсьцёнак? Калі б толькі ён ніколі не знаходзіў яго, каб жа мне не было гэткага ліха! Ну чаму вашаць дазволіў мне трымаць яго? Чаму не прымусіў выкінуць ці зьнішчыць?

– Дазволіць табе? Прымусіць? Ці ты ня чуў, што я казаў табе? Ці ўвогуле ня кеміш, пра што гаворыш? Проста так выкінуць пярсьцёнак нельга. Гэткія пярсьцёнкі

ўмеюць трапляць на вочы – і на пальцы. А на пэўных пальцах яны здольныя нарабіць вялікую шкоду. Горш за ўсё, што так пярсьцёнак можа патрапіць і да Ворага. Безумоўна, урэшце й патрапіць, бо ён, ягоны творца й майстра, няспынна цягне пярсьцёнак да сябе ўсёю сваёю воляю. Вядома, даражэнькі мой Фрода, трымаць пярсьцёнак небясьпечна для цябе. Аднак стаўкі ў гэтай гульні такія, што іншага выйсьця ў мяне не было. Без аховы я цябе не пакінуў: нават калі я вандраваў, Шыр пільнавалі, і вельмі ўважліва. Я палічыў: калі ты ня станеш карыстацца пярсьцёнкам, наўрад ці ён здолее з хуткасьцю табою завалодаць ці нарабіць значнай шкоды – такой, якая адчувалася б доўга. Да таго ж трэба табе памятаць: калі я апошні раз цябе бачыў, дзевяць гадоў таму, я яшчэ амаль ні ў чым ня быў пэўны.

– А чаму ня зьнішчыць яго? Вашаць казаў: гэта трэ было зрабіць яшчэ ў даўніну! – усклікнуў Фрода зноў. – Каб мяне толькі папярэдзілі ці даслалі вестку, я адразу ўзяўся б за яго!

– Узяўся за яго? Адразу ж? І як? Ты хоць раз спрабаваў?

– Не. Ну, яго ж, напэўна, можна расплюшчыць ці расплавіць.

– Дык паспрабуй! Паспрабуй зараз жа!

Фрода выцягнуў пярсьцёнак з кішэні й паглядзеў на яго. Такі гладкі й бліскучы пярсьцёнак, ані пазнакі на ім, ані пашкробінкі. Такое чыстае золата, такое зыркае, зіхоткае. Такі багаты колер, цудоўнае, дзівоснае зьзяньне. Такі дасканалы, круглы, найкаштоўнейшы, найдаражэйшы пярсьцёнак. Калі толькі дастаў яго, дык хацеў закінуць у самае гарачае полымя. А зірнуўшы, і ня здолеў. Засумняваўся, пагайдаў пярсьцёнак на далоні, падумаў – а навошта ж? Прымусіўшы сябе ўзгадаць Гэндальфавы словы, адважыўся нарэшце: паварушыў рукою, каб кінуць, – і раптоўна зразумеў, што запіхвае пярсьцёнак назад у кішэню.

Гэндальф нявесела расьсьмяяўся.

– Бачыш? Нават і ты ўжо ня здольны выкінуць яго й пашкодзіць яму ня хочаш. Прымусіць цябе адмовіцца ад яго я магу толькі сілаю – пазбавіўшы цябе розуму пры гэтым. Дый зьнішчыць пярсьцёнак ня ў нашай моцы. Бі па ім найцяжэйшым молатам – ані драпіны на ім ня зьявіцца. Твой агменьчык не расплавіць нават і звычайнае золата. Пярсьцёнак у ім і не нагрэўся. Аніякі каваль Шыру яго не падрапае. Нават і гномскія горны й молаты анічога яму ня зробяць. Казалі, што цмокава полымя можа расплавіць ды паглынуць Вялікія Пярсьцёнкі, аднак цяпер наўрад ці застаўся на зямлі цмок, чыё полымя палала б гэтак горача. І ніякі цмок, нават і сам Анкалагон Чорны, ня здолеў бы пашкодзіць Адзінаму Пярсьцёнку, скаванаму самім Саўронам. Ёсьць толькі адно выйсьце: каб сапраўды зьнішчыць пярсьцёнак, каб назаўсёды вырваць яго з рук Ворага, трэба знайсьці Пашчу Лёсу ў глыбінях Арадруйну, Вогненнай гары, і кінуць пярсьцёнак туды.

– Я сапраўды, сапраўды хачу зьнішчыць яго! – усклікнуў Фрода. – ...Ну, каб ён як-небудзь зьнішчыўся. Ці ж гэта абавязкова я? Я ня здатны да небясьпечных вандровак. Калі б толькі я аніколі яго ня бачыў! Ну чаму ён да мяне патрапіў? Чаму менавіта я?

– На такія пытаньні нельга адказаць. Будзь пэўны: табе гэткі лёс дастаўся не за выдатныя ўласьцівасьці, якіх у іншых няма. Не за сілу й мудрасьць, ва ўсялякім выпадку. Аднак абраны быў ты – і табе давядзецца карыстацца той сілай, розумам і мудрасьцю, якія маеш.

– У мяне ані таго, ані другога амаль няма. Гэндальф – вашаць і моцны, і мудры! Чаму б вашаць ня ўзяў пярсьцёнак?!

– Не! – крыкнуў Гэндальф, ускочыўшы. – Зь ім я завалодаю вялікаю, жудаснаю ўладаю. І яшчэ больш жудасную й сьмяротную ўладу атрымае пярсьцёнак над мною.

Гэндальфавы вочы бліснулі, і твар засьвяціўся, нібыта полымем.

– Не спакушай мяне! Я не жадаю зрабіцца такім, як Чорны Ўладар! Пярсьцёнак вельмі хутка знойдзе шлях да майго сэрца – праз шкадаваньне слабых, праз жаданьне моцы, каб рабіць дабро. Не спакушай мяне! Я не адважуся ўзяць яго, нават каб проста захоўваць, не карыстаючыся. Проста захоўваць я не змагу, бо пярсьцёнак так мне патрэбны! Ён для мяне – сьмяротная небясьпека.

Гэндальф падышоў да вакна, адсунуў фіранкі й адчыніў аканіцы. У пакой зноўку палілося сьвятло. Побач з акном па сьцежцы, пасьвістваючы, прайшоў Сэм. Чараўнік павярнуўся да Фрода.

– Цяпер – выбар за табою. Але я заўсёды дапамагу табе, – ён паклаў руку на Фродава плячо. – Я дапамагу табе несьці гэты цяжар – пакуль ён твой, каб несьці яго. Нам трэба нешта рабіць, і хутка. Бо Вораг рушыць наперад.

Абодва надоўга змоўклі. Гэндальф сядзеў, пыхкаючы люлькаю, у глыбокім задуменьні. Ягоныя вочы падаваліся заплюшчанымі, але ж на самай справе ён уважліва сачыў за Фрода. А той усё пазіраў на вугольле ў агмені – чырвонае, зыркае, і перад ягонымі вачыма яно падавалася велізарным, усёабдымным, нібыта калодзеж у вогненнае чэрава гары. Пашча Лёсу ў нетрах жудаснага Арадруйну.

– Ну? – спытаў Гэндальф нарэшце. – І што ты надумаў? Вырашыў, што рабіць?

– Не! – усклікнуў Фрода, ачомаўшыся, быццам вырваўшыся з палымянай цемры, і зь зьдзіўленьнем убачыў, што навокал сьветла й за вакном – заліты сонцам сад. – Ці мо й так. Калі я дакладна зразумеў, мне яшчэ пэўны час трэба трымаць ды ахоўваць пярсьцёнак, як бы ён на мяне ні ўплываў.

– Як бы ён на цябе ні ўплываў, – сказаў Гэндальф, – рабіць ён гэта будзе павольна. Вельмі павольна, калі ты будзеш трымаць яго менавіта з такой мэтай.

– Спадзяюся. Але лепей было б, каб вашаць знайшоў хутчэй новага, прыдатнейшага ахоўцу. Я цяпер, падаецца мне, небясьпека для сябе й для ўсіх навокал. Мне трэба пакінуць Торбу-пад-Стромай, пакінуць Шыр, увогуле ўсё ды сысьці, – ён уздыхнуў. – Хацеў бы я выратаваць Шыр, калі толькі здолеў бы. Вядома, часьцяком ягоныя жыхары мяне ледзь да шаленства не даводзілі глупствам ды зацятасьцю. Нават думаў: вось каб на вас сапраўдных цмокаў ці землятрус які! А цяпер зусім ня так. Бо адчуваю: калі за маёй сьпінаю Шыр у спакоі й росквіце, мне й вандраваць будзе лягчэй. Бо ведаю: недзе ёсьць месца, дзе магчыма стаць на ногі – няхай менавіта мае ногі й ня здольныя крочыць туды зноў. Час ад часу я й сам думаў: ну, вазьму й сыду. Ну, быццам на вакацыю, ланцужок прыгодаў накшталт Більбавых – і ўсё скончыцца добра. А цяпер бачу: перада мною выгнаньне, вандроўка ад адной небясьпекі да другой, бо яны ж пацягнуцца за мною. Напэўна, мне трэба йсьці аднаму, калі ўжо йсьці выратоўваць Шыр. Але ж я адчуваю сябе такім маленькім і беспрытульным і, кажучы шчыра, бездапаможным. А Вораг моцны й жудасны.

Фрода не прызнаўся Гэндальфу ў тым, што, пакуль прамаўляў, вялікае жаданьне пайсьці ўвасьлед за Більба запалілася ў ягоным сэрцы. Жаданьне пайсьці ўвасьлед, а можа, і знайсьці – і такое моцнае, што пераадолела ягоны страх. Ён мо й выскачыў бы зараз жа вонкі нават і без капелюша, як Більба калісьці гэткай самай раніцою шмат гадоў таму.

– Даражэнькі мой Фрода! – усклікнуў Гэндальф. – Заўсёды зьдзіўляюся, якія ж хобіты цудоўныя істоты! Здаецца, за месяц усё пра іх вывучыш ды вызнаеш, а яны

табе й праз стагодзьдзе – неспадзяванку за неспадзяванкай. Прызнаюся: не чакаў я такога адказу нават ад цябе. Більба не памыліўся з спадчыньнікам, хоць і не ўяўляў, як гэта істотна. Ты маеш рацыю: пярсьцёнку ў Шыры болей заставацца нельга. Дзеля тваёй жа бясьпекі, дый бясьпекі астатніх, табе трэба сысьці – і пакінуць імя Торбінс у Торбе. За межамі Шыру, дый у Дзіказем'і, гэтае імя небясьпечнае. Трэба іншае. Назавіся Падстромнік. А аднаму табе сыходзіць недарэчна. Калі з табою пагодзіцца йсьці хто-небудзь, каму давяраеш і каго захочаш узяць у невядомыя й небясьпечныя прыгоды, дык бяры яго з сабою! Але выбірай уважліва, і асьцярожней з словамі – нават у гутарцы з найбліжэйшымі сябрамі. Бо Вораг – майстра падслухоўваць, у яго паўсюль шпіёны.

Раптам ён змоўк, прыслухоўваючыся. Фрода ўсьвядоміў, што навокал незвычайная цішыня – і вонкі, і ў пакоі. Гэндальф падкраўся да вакна. І скочыў на прываконьне! Пацягнуўся доўгаю рукою... пачуўся віскат, а потым зьявілася калматая галава Сэма Гэйхада, ягонае вуха было моцна заціснутае ў пальцах Гэндальфа.

– Так, так, клянуся барадою! Гэта Сэм! І што ж ты тут робіш?

– Дабрыдзень, дабрыдзень, добрага здароўіца, пане Гэндальфе! – залапатаў Сэм. – Ну нічога ж не раблю! Вось толькі травічку пад акном падразаў, праца ж у мяне такая, калі ведаеце, – ён падняў нажніцы й прадэманстраваў у пацьверджаньне словаў.

– Ня ведаю, якая ў цябе праца, – сувора вымавіў Гэндальф. – Я ўжо даўно ня чую шчоўканьня тваіх нажніцаў. Колькі ты сядзеў пад акном?

– Пане Гэндальфе, не сядзеў я, як можна, я ж працую, туды хаджу, сюды!

– Не дуры! Што ты чуў і чаму падслухоўваў?! – Гэндальфавы вочы бліснулі, а бровы ўстапырыліся.

– Спадару Фрода! – узмаліўся Сэм, дрыжучы. – Не дазвольце яму рабіць шкоды! Не дазвольце ні ўва што мяне ператвараць! Мяне ж бацька стары не пазнае! Я ж анічога дрэннага не хацеў, клянуся!

– Ён табе не пашкодзіць, Сэме, – супакоіў Фрода, ледзь стрымліваючыся, каб не зарагатаць, хоць і сам крыху напалохаўся ды моцна зьдзівіўся. – Ён ведае, як і я, – ты не хацеў нічога благога! Аднак лепей зараз жа адкажы яму, дый усю праўду!

– Так, так, пане Гэндальфе, – сказаў Сэм, крыху ачомаўшыся. – Я чуў і нічога не зразумеў: пра ворагаў, пярсьцёнкі, спадара Більба, цмокаў ды вогненную гару й пра эльфаў. Я й слухаў, ну, таму, што ўтрымацца ня мог, калі разумееце. Клянуся, я ж так люблю гэткія расповеды. Я ж ведаю: гэта праўда, што б ні балбатаў Тэд. Спадару Фрода, мне ж пра эльфаў... я так хацеў іх пабачыць! Спадару, вазьміце мяне пабачыць эльфаў, ну, калі самі пойдзеце!

Гэндальф засьмяяўся.

– Давай-тка сюды! – і, ухапіўшы абедзьвюма рукамі, падняў Сэма й разам з нажніцамі й абрэзкамі травы перанёс праз акно ў пакой. – Так, да эльфаў цябе, значыць, га? – спытаў, аглядаючы Сэма строга, але ж з прыкмецінкай усьмешкі на твары. – Так ты чуў, што спадар Фрода зьбіраецца сысьці?

– Так, пане. У мяне з таго ажно дыхалку перахапіла, я й вохнуў, пане, напэўна, і пачуў. Я ж намагаўся, каб цішэй. А тут і не стрымаўся.

– Тут ужо анічога ня зробіш, – сказаў Фрода сумна. Ён раптам зразумеў, што, пакідаючы Шыр, наўрад ці абыдзецца разьвітаньнем толькі з сваім утульным кутком. – Мне трэба йсьці. А калі ты сапраўды добра ставісься да мяне, то захаваеш, што пачуў, у поўным сакрэце, так? – Фрода строга зірнуў на Сэма. – А калі не, калі ты

хоць слоўка кінеш, спадзяюся, Гэндальф ператворыць цябе ў жабу ды панапусьціць паўнюткі сад вужак.

Сэм упаў на калені ў дрыжыках.

– Устань, – сказаў Гэндальф. – Я прыдумаў нешта лепшае. Нешта, каб надзейна закрыць табе рот ды таксама пакараць за падслухоўваньне. Ты пойдзеш разам з Фрода!

– Я, пане, я!? – усклікнуў Сэм, ускочыўшы, быццам сабачка перад доўгачаканым шпацырам. – Я пайду да эльфаў?! Ура-а! Ура!

І расплакаўся.

## *3. Вандроўка ўтрох*

Амаль тры тыдні мінула, а Фрода, відавочна, нават і ня думаў кранацца зь месца.

– Фрода, трэба йсьці, – сказаў яму Гэндальф. – Як мага цішэй і ў хуткім часе.

– Я ведаю, – адказаў Фрода. – Але ж гэта няпроста. Калі зьнікну раптоўна, сарвуся зь месца, як Більба, пра тое ўмомант пачне пляткарыць увесь Шыр.

– Ну зразумела, так зьнікаць нельга! Ні ў якім разе. Я сказаў "у хуткім часе", я не сказаў "зараз жа". Калі ты здольны выдумаць, як выбрацца з Шыру без гармідару на ўсё навакольле, дык дзеля таго затрымайся. Але ж толькі крыху.

– Як наконт восені ці апасьля народзінаў? – спытаў Фрода. – Тады я пасьпеў бы сёе-тое падрыхтаваць.

Насамрэч, менавіта цяпер, калі ён паверыў, што пакіне сваю ўтульную Торбу-пад-Стромай, ахвота кранацца зь месца зьнікла. Жыцьцё ў звыклай сядзібе падалося найсаладзейшым за ўсе гады да таго, а кожны дзень апошняга шырскага лета – каштоўнасьцю, якую надта шкада страчваць. Ведаў: увосень будзе лягчэй, тады заўсёды цягне пабадзяжыць. І насамрэч вырашыў ісьці менавіта на пяцідзясятых сваіх (а Більбавых сто дваццаць восьмых) народзінах. Чамусьці гэты дзень падаўся найпрыдатнейшым для пачатку вандроўкі. Шляхам за Більба – толькі ад гэтай думкі й лягчэла, калі ўяўляў будучыя разьвітаньні. А пра пярсьцёнак і пра тое, куды ён урэшце завядзе, Фрода ўвогуле намагаўся згадваць як мага меней. Аднак усіх сумневаў Гэндальфу не выказваў. Праўда, чараўнік шмат пра што здагадваўся.

Гэндальф зірнуў на Фрода й усьміхнуўся.

– Добра. Можа, гэтак яно й лепей. Але ж не пазьней. Бо мне ўжо вельмі неспакойна. Да таго, як сыдзеш, асьцеражыся – нікому ані слоўца, ані паўслоўца пра тое, куды йдзеш! І прасачы, каб Сэм Гэйхад не балбатаў. Калі прагаворыцца, сапраўды ператвару яго ў жабу.

– Пра тое, куды йду, балбатаць складана – я ж і сам ня ведаю.

– Не кажы глупства! Ты ж не ўцякаеш абы-куды ў нікуды. Проста ня трэба, каб ведалі, што ты пакінуў Шыр. Ва ўсялякім разе, пакуль не адыдзеш падалей. Куды б ты ні пайшоў – а тое шчэ будзе вызначанае, – напрамак трэба трымаць у сакрэце.

– Насамрэч, я толькі й думаю, як пакіну Торбу, як разьвітаюся, – прызнаўся Фрода. – А куды падацца, і не ўяўляю. Дык куды ж мне йсьці? Дзеля чаго? Што мне давядзецца зьдзейсьніць? Більба выпраўляўся па скарбы, пайшоў і вярнуўся, а мне ж у адзін бок, калі не памыляюся.

– Можа, і памыляесься. І ня толькі ты. Магчыма, менавіта табе давядзецца дабірацца да Пашчы Лёсу, а можа, і не. Я ня ведаю. Дый ва ўсялякім выпадку, ты яшчэ не гатовы да такіх шляхоў.

– Так, так! – ахвотна згадзіўся Фрода. – А куды мне да таго?

– Да небясьпекі, але ані надта хутка, ані прама, – адказаў чараўнік. – Напэўна, параю табе скіравацца ў Долы Яр. Вандроўка туды наўрад ці занадта рызыкоўная, хоць Шлях пагоршаў цягам часу, і чым бліжэй да зімы, тым ён цяжэйшы.

– Долы Яр! – усклікнуў Фрода. – Добра: пайду на ўсход, да Долага Яру. Вось Сэму будзе радасьць – пабачыць эльфаў!

Сказаў паўжартам і раптам адчуў: як жа будзе файна пабачыць дом Эльранда Паўэльфа, удыхнуць паветра сьветлай даліны, дзе яшчэ жыве ў міры й спакоі Дзівосны народ.

І вось аднойчы летняй раніцою ў "Зялёным цмоку" й "Ракітах" пачулі неверагодную зьвестку. Што магуты ды іншыя дзівосы ў памежжы! Істотнейшыя навіны: спадар Фрода прадае Торбу-пад-Стромай! Больш – ужо прадаў, і не каму-небудзь, а Кескам-Торбінсам!

– Немалыя грошы, – казалі адны.

– Наўрад – спадарыня Лябэля гроша лішняга ня дасьць, – лічылі іншыя.

А трэба дадаць, што спадар Ота, яе муж, так і памёр у расчараваньні, хоць і сягнуў файнага ўзросту, ажно ста двух гадоў.

Нашмат болей пляткарылі пра тое, чаму ж спадар Фрода прадае сваю цудоўную нару. Некаторыя, у тым ліку й сам Фрода, намякалі, што грошыкі ў гаспадара Торбы павыветрыліся, а з продажу Торбы якраз хопіць, каб пакінуць Хобіцак ды жыць сабе ціхенька ў Прыбыччы сярод бронь-бычаўскіх сваякоў.

– І як далей ад Кесак-Торбінсаў, – дадавалі часьцяком. Аднак большасьць зацята верыла ў незьлічонае багацьце Торбінсаў з Торбы-пад-Стромай і на намёкі не зважала. Хутчэй, тут нейкая цьмяная й злосная Гэндальфава інтрыга – гэтак і лічылі. Хоць Гэндальф удзень на двор і носа не казаў, і трымаўся як мага цішэй, навакольле добра ведала, што ён "у Торбе прыхаваўся". Якім чынам продаж Торбы выгодны чараўніку, асабліва ня думалі, бо факт ёсьць факт: Фрода Торбінс вяртаецца ў Прыбычча.

– Так, – пацьвярджаў ён. – Гэтай восеньню й пераеду. Мэры Бронь-Быч прыглядае для мяне файную маленькую норачку альбо хатку.

Ну, насамрэч Мэры ўжо прыгледзеў, а Фрода набыў маленькі домік у Цвыркуновай Лагчыне, што за Бычышчамі ў Прыбыччы. Дый перад усімі, акрамя Сэма, рабіў выгляд, што там і зьбіраецца пасяліцца. Падказаў яму тое плян рушыць на ўсход, бо Прыбычча знаходзілася на ўсходнім ускрайку Шыру й Фрода ў маленстве жыў там, так што вяртаньне ў Прыбычча падавалася падобным да праўды.

Гэндальф гасьцяваў у Торбе больш за два месяцы, пакуль аднойчы ўвечары напрыканцы чэрвеня, калі Фродава задума з хаткай у Прыбыччы ўжо зьдзейсьнілася, не абвесьціў: сыходзіць наступнай раніцою. Але дадаў:

– Ненадоўга, спадзяюся. Выпраўлюся за паўднёвую мяжу, разьведаю, што робіцца, калі здолею, вядома. Заседзеўся я тут, заленаваўся – і каб не занадта.

Гэндальф прамаўляў быццам жартуючы, але выглядаў устурбаваным.

– А што здарылася? – спытаў Фрода.

– Пакуль што анічога, аднак я чуў крыху сёе-тоё – і трывожнае, і дагляду патрабуе. Калі палічу, што табе трэба неадкладна рушыць, вярнуся ці дашлю вестку. А да таго трымайся сваёй прыдумкі – толькі сьцеражыся, асабліва сьцеражыся зь пярсьцёнкам. Дазволь табе яшчэ раз нагадаць: не карыстайся ім ні ў якім разе!

Сышоў ён на сьвітанку.

– Вярнуся з дня на дзень, – сказаў на разьвітаньне. – Самае позьняе – на народзіны. Падаецца мне, вам усё-ткі спатрэбіцца мая кампанія ў падарожжы.

Спачатку Фрода непакоіўся й ламаў галаву: што ж такое пачуў Гэндальф? Але ж нельга ўвесь час турбавацца, дый надвор'е такое файнае, і Фрода звыкся й забыўся на сваю трывогу. Зрэдку Шыр наведвала такое мяккае, цудоўнае лета, а за ім – такая шыкоўная восень. Яблыні ледзь не ламіліся ад яблыкаў, мёд ажно крынічыў з сотаў, а збожжа ўрадзілася высачэзнае, з паўнюткімі каласамі.

Ужо й восень пайшла, калі Фрода нарэшце занепакоіўся. Верасень мінуў, і аніякіх зьвестак пра Гэндальфа. Народзіны й вандроўка набліжаліся, а ні чараўніка, ні весткі ад яго. У Торбе тым часам дадалося народу: Фродавы сябры прыехалі, каб

дапамагчы скласьці рэчы ды пагасьцяваць у Торбе апошні разок. Прыехалі Фрэдэгар Норс, і Фолька Выкумек, і, вядома ж, найлепшыя сябры – Піпін Хват ды Мэры Бронь-Быч. Разам яны ўсё ў нары паставілі з ног на галаву.

Дваццатага верасьня два крытыя вазкі, нагружаныя мэбляй і рэчамі, якія Фрода не прадаў разам з Торбай, рушылі да Бранявінскага мосту. Наступным днём Фрода ажно месца сабе не знаходзіў у чаканьні Гэндальфа. Сьвітанак чацьвярга, дня народзінаў, быў надзвычай ясны й прыгожы, як калісьці, у дзень знакамітай Більбавай вечарыны. А Гэндальфа ўсё не было. Увечары Фрода наладзіў разьвітальную бяседу – маленечкую, для сябе й чатырох сяброў, хто дапамагаў зь пераездам. Бо на сэрцы ў яго было паскудна, і весяліцца не хацелася. Дый ад думкі пра разьвітаньне зь сябрамі рабілася надта тужліва. Як жа распавесьці ім, што ўвогуле пакідаеш Шыр?

Чатыры маладыя хобіты, аднак, балявалі ад душы, і бяседа хутка разьвяселілася, нягледзячы на тое, што Гэндальф не прыйшоў. У пакоі анічога ўжо не засталося, акрамя стала й фатэляў, але ж ежа была файная, а віно яшчэ лепшае – віно сваё Фрода Кескам-Торбінсам не прадаў.

– Што ні сталася б з маім дабром, калі патрапіць да Кескавых кіпцюроў, а вось для гэтага я знайшоў найлепшы прытулак! – абвесьціў Фрода, дапіўшы віно з келіха – рэшту з рэштак славутай "Старой вінарні".

Прасьпяваўшы мноства песьняў, абмеркаваўшы безьліч рэчаў, гуртам параблених, і дзён, разам праведзеных, узьнялі келіхі за Більбавы народзіны й выпілі разам за Більбава й Фродава здароўе – паводле Фродавай традыцыі. Пасьля выйшлі правентрыцца ды зірнуць на зоркі, а потым паклаліся спаць. Фродава вечарынка скончылася, а Гэндальф так і не зьявіўся.

На раніцу пакавалі яшчэ адзін, астатні, вазок. За гэтым прыглядаў Мэры, і ён жа на тым вазку паехаў разам з Фуфам (насамрэч Фрэдэгарам Норсам).

– Хтосьці ж мусіць хату сагрэць, пакуль вы да яе даберацеся, – сказаў Мэры. – Ну, да пабачэньня праз дзень, калі, вядома, па дарозе дзе-небудзь не папазасьнеце.

Фолька пасьля другога сьнеданьня пайшоў дахаты. Застаўся толькі Піпін. Фрода месца сабе не знаходзіў ад непакою, усё прыслухоўваўся: а можа, гэта Гэндальфавы крокі? Але дарэмна. Нарэшце, вырашыў сысьці, як сутонее. Калі што, Гэндальф адшукае й у Цвыркуновай Лагчыне, магчыма, нават і першы туды дабярэцца. Бо Фрода ж зьбіраўся рушыць пехатою. Для забавы, а галоўным чынам, каб зірнуць на Шыр у апошні раз, вырашыў проста так прайсьціся ад Хобіцку да пераправы ў Бычышчах.

– Трэба ж папрактыкавацца таксама, – казаў сабе, пазіраючы на свой адбітак у пыльным люстэрку ў напаўпустой залі. Даўно ўжо не шпацыраваў па-сапраўднаму, і адбітак выглядаў даволі азызла.

Па другім сьняданку, на немалое Фродава раздражненьне, прыцёгласся Лябэля зь белабрысым нашчадкам – Лота.

– Нарэшце нашая, – абвесьціла Лябэля, ледзь крочыўшы на ганак. Тое было надта няветліва, і няпраўда да таго ж, бо ейнай Торба рабілася паводле дамовы толькі апоўначы. Аднак зразумець Лябэлю было можна: ёй давялося чакаць Торбу на семдзесят сем гадоў даўжэй, чым яна спадзявалася, і цяпер яна сягнула ажно за сотню гадоў. Яна заявілася па ключы, а таксама праверыць, ці ўсё ёй пакінулі, за што плаціла. Пазбавіліся ад яе не бяз клопатаў, бо яна прынесла з сабою паўнюткі сьпіс маёмасьці й праверыла кожны пункцік. Нарэшце выправілі яе разам з Лота, запасным ключом і абяцанкам пакінуць уласны Фродаў ключ Гэйхадам у Прыторбінскай слабадзе. Лябэля фыркала – дэманстравала, што Гэйхады, на яе, Лябэліна,

разуменьне, і да ночы здатныя абкрасьці хату. Ну, пасьля такога Фрода нат гарбаты ёй не прапанаваў.

Гарбаты ён напіўся на кухні разам зь Піпінам і Сэмам. Усім навокал распавялі, што Сэм таксама выпраўляецца ў Прыбычча, каб "на пана Фрода рабіць і садок ягоны даглядаць". Дзед з ахвотаю пагадзіўся на гэта, хоць пэрспэктыва мець Лябэлю ў суседзях яго ня надта пацешыла.

– Вось і апошні пад'едак у Торбе-пад-Стромай! – абвесьціў Фрода, устаючы з-за стала. Нямыты посуд пакінулі Лябэлі – няхай папрацуе. Піпін з Сэмам вывалаклі ўсе тры заплечнікі на ганак. Пасьля Піпін пашпацыраваў у сад, а Сэм некуды зьнік.

Сонца села. Торба-пад-Стромай падалася сумнай, змрочнай і неахайнай. Фрода цягаўся па знаёмых пакоях, назіраючы, як сьвятло захаду цьмянее на сьценах, як цені паўзуць з кутоў. Нарэшце змрок запоўніў усю нару. Тады Фрода выйшаў вонкі, спусьціўся да брамы ўнізе ды пайшоў напрамкі да Стромавага бальшаку. Спадзяваўся: а можа, і сапраўды – вось зараз і зьявіцца Гэндальф, сьпяшаючыся праз сутоньне.

Нябёсы былі ясныя, разгараліся прамяністыя зоркі.

– Файная будзе ноч, – сказаў Фрода ўголас. – Добры пачатак. Даўно б такі шпацыр. Болей адцягваць усё адно невыносна. Пайду, а Гэндальф няхай даганяе.

Павярнуўся ды крочыў назад – і спыніўся, бо раптам пачуў галасы. Блізка, за паваротам, дзе пачыналася Прыторбінская слабада. Адзін голас, безумоўна, належаў Дзеду, а вось другі быў незнаёмы й нейкі непрыемны. Што казаў чужаніца, было не разабраць, аднак Дзедавы словы чуліся добра. Раздражнёныя словы – стары, падавалася, ледзь стрымліваў сябе.

– Не, зьехаў спадар Торбінс. Ранкам, і мой Сэм зь ім. Дый жа ўсе рэчы выправілі. Так, усё прадалі ды зьехалі, вам кажу... Чаму? Не мая гэта справа, дый ня вашая. Куды? Тут няма сакрэтаў – у Бычышчы ці яшчэ куды, далей. Ня ведаю дакладна – сам ня быў там аніколі. Дурнаваты там народ, у Прыбыччы. Не, анічога перадаць не вазьмуся. Дабранач. Дабранач, я вам кажу.

Незнаёмца рушыў уніз па Строме. Фрода неяк дзівосна палягчэла на сэрцы ад таго, што той не пайшоў угару, ажно зьдзівіўся: чаго ж так?

– Напэўна, давялі мяне ўсе гэтыя распытваньні й вызнаньні, куды гэта я й чаго гэта я, – вырашыў нарэшце. – Ну што за неспакойны народ!

Амаль павярнуў, каб распытаць Дзеда, што ж хацеў чужаніца, але перадумаў (і без таго клопатаў стае) і пакрочыў хутка да Торбы.

Піпін сядзеў на ганку. Сэма не было відаць. Фрода гукнуў зь дзьвярэй:

– Сэме! Сэме, час ісьці!

– Іду, васпане, іду, – данеслася аднекуль здалёк. Неўзабаве й сам зьявіўся, выціраючы рот. Увесь гэты час Сэм разьвітваўся з бочкаю піва ў склепе.

– Парадак? – спытаў Фрода.

– Так, спадару. Падзаправіўся як трэ на дарожку.

Фрода зачыніў і замкнуў дзьверы, аддаў ключ Сэму. Сказаў:

– Аднясі дахаты, калі ласка. А потым ідзі напрасткі праз слабаду як мага хутчэй і сустракай нас каля брамы на прысадах за лугам. Мы сёньня ня пойдзем празь вёску. Зашмат цікаўных.

Сэм памчаў што моцы.

– Ну, час і нам! – паклікаў Фрода.

Яны зь Піпінам узвалілі хатулі на плечы, узялі кійкі й рушылі, абыходзячы Торбу з захаду. "Бывай!" – гукнуў Фрода цёмным вокнам. Памахаў рукой, павярнуўся

– і (дакладна як Більба, хоць і ня ведаў гэтага) пасьпяшаўся наўздагон за Перыгрынам уздоўж садавай сьцежкі. Яны абодва скочылі праз агароджу на ніжнім ускрайку саду й пайшлі полем, зьнікнуўшы ў цемры, нібыта шолах у траве.

Спусьціўшыся па заходнім баку гары, дабраліся да брамкі ў вузкія прысады. Там прыпыніліся й падцягнулі лямкі заплечнікаў. Неўзабаве зьявіўся запыханы Сэм з здаравенным мехам на плячох. На галаве Сэма замест капелюша грувасьціўся нейкі нягеглы высачэзны фэтравы каўпак, таму ў цемры ён падаваўся надта падобным да гнома.

– Упэўнены, вы пераклалі мне ўсё найцяжэйшае, – пажаліўся Фрода. – Вох, бедныя сьлімакі ды ўсе іншыя, хто цягне на сабе сваю хату.

– Я магу несьці нашмат болей, спадару Фрода. Мой мех такі лёгкі, – мужна схлусіў Сэм.

– Не, болей табе ня трэба, – запярэчыў Піпін. – Нашаму *спадару* гэта толькі на карысьць. Сам жа прызначаў, што пакаваць. Разьеўся апошнім часам, разьмяк. Яму палягчэе тады, калі скіне трошкі тлушчу, шпацыруючы.

– Зьлітуйцеся зь беднага старога хобіта! – узмаліўся Фрода, сьмеючыся. – Клянуся, стану танчэйшым за трысьцінку, пакуль даберамося да Прыбычча. А ўвогуле, глупства вярзу. Сэме, ты, здаецца, у свой мех напхаў куды болей, чым мы табе прызначылі. Калі прыпынімся наступны раз, праверым дый перапакуем. Ну, усім нам падабаецца шпацыр пад зорамі, – дадаў Фрода, узяўшыся за кіёк, – дык пакіньма ж за сьпінаю колькі вёрстаў, пакуль спаць не захочацца.

Яны троху прайшлі прысадамі на захад, потым зьвярнулі налева й зноў рушылі палямі. Ішлі цугам уздоўж жывых агароджаў і зарасьцяў, нябачныя, нячутныя ў начной цемры, нібыта ўсе з чароўнымі пярсьцёнкамі. Хобіты, асабліва калі стараюцца, перасоўваюцца так, што й хобіт наўрад ці пачуе. Нават і навакольныя зьвяры наўрад заўважылі вандроўнікаў.

Нарэшце перайшлі Ваду-ля-Стромы на захадзе ад Хобіцку па вузкім мастку-кладцы. Рачулка была вузенькая, уначы – нібы чорная стужачка, што ўецца паміж пахіленых альховінаў. Празь вярсту ці дзьве на поўдзень перабеглі бальшак ад Бранявінскага мосту. Цяпер яны былі ўжо ў Прыхваце і, кіруючы на паўднёвы ўсход, падабраліся да Зялёных пагоркаў. Пачалі ўзьбірацца – і, азірнуўшыся, убачылі, як агеньчыкі Хобіцку ціха мігцяць у даліне Вады-ля-Стромы. Хутка й увогуле зьніклі за схіламі, і Прырэчча таксама схавалася разам з сваім азярком. Калі сьвятло апошняй сядзібы засталося далёка за сьпінай, Фрода павярнуўся й памахаў рукою, разьвітваючыся. І сказаў, уздыхнуўшы:

– Ці пабачу я калі гэтую даліну зноў?

Ішлі амаль тры гадзіны й прыпыніліся адпачыць. Ноч была ясная, прахалодная й зорная, але паміж пагоркамі паўзьлі ад ручаінаў і мокрых паплавоў танюткія пасмы туману. Бярозавыя галіны, хістаючыся пад ветрыкам над галовамі, чорным сецівам спляліся на цёмных нябёсах. Хобіты зьелі небагаты (ну, для хобітаў, вядома) вандроўны падвячорак і рушылі зноў. Хутка напаткалі вузкую дарогу, што вілася ўверх ды ўніз па схілах, зьнікаючы недзе ў цемры наперадзе, – шлях да Лясной сядзібы, Бярвішча й пераправы ў Бычышчах. Шлях гэты адгаліноўваўся ад бальшаку ў даліне Вады-ля-Стромы й віўся па схілах Зялёных пагоркаў да Ляснакуцьця, дзікага закутка Ўсходняга падзелу.

Шлях зрабіўся вузкаю прарэхаю ў начы сярод высачэзных дрэваў, якія шапацелі сухім лісьцем. Было вельмі цёмна. Спачатку хобіты яшчэ размаўлялі ці напявалі ціхенька, бо ўсё адно ж далёка ад тых, хто можа падслухаць. Потым ішлі моўчкі.

Піпін пачаў адставаць і нарэшце, калі ўскараскаліся на круты схіл, прыпыніўся дый пазяхнуў:

– Не, я ўжо надта сонны. Хутка проста на дарозе засну. Вы што, сабраліся спаць на нагах? Ужо амаль поўнач.

– Мне падавалася, вы хацелі пашпацыраваць уночы, – сказаў Фрода. – Вядома, ня так ужо й сьпяшаемся. Мэры чакае нас толькі празь дзень, так што маем яшчэ амаль двое судняў. Напаткаем першае ж прыдатнае месца й пасьпім.

– Вецер усходні, – зазначыў Сэм. – Спадару Фрода, на тым баку пагорку, калі не памыляюся, ёсьць добрае месца, прыхаванае й сухое. Побач – у нас наперадзе – ельнік.

Сэм выдатна ведаў мясцовасьць на дваццаць вёрстаў ад Хобіцку, але ж там і пралягала мяжа ягоных геаграфічных ведаў.

Сапраўды, адразу ж за вяршыняй пагорку адкрыўся ельнік, Пакінуўшы дарогу, хобіты нырнулі ў духмяную ад смалы цемру. Набралі сухіх галінак і шышак, хутка распалілі вогнішча пад вялізнаю ялінаю й паселі кругам агню, здаволеныя, пакуль не задзяўблі насамі. Тады ўладкаваліся паміж каранёў, кожны ў сваім закутку, загарнуўшыся ў плашчы й коўдры, і імгненна заснулі. Вартаю не клапаціліся – нават Фрода яшчэ анічога не баяўся. А чаго баяцца пасярод Шыру? Калі вогнішча згасла, лясныя пачваркі падкраліся бліжэй падзівіцца на хобітаў. Лісовін, які прабягаў побач па сваіх справах, нават прыпыніўся на хвілю, прынюхаўся й падумаў: "Хобіты! Што робіцца, га? Калі ж гэта хобіт ня ў хаце спаў, а пад дрэвам у лесе. А тут жа не адзін, а ажно тры! Нешта ў сьвеце пахіснулася". Вядома, правільна падумаў, але ж яму самому так і не давялося даведацца, дзе пахіснулася й што.

Раніца выдалася бледная й воглая. Фрода прачнуўся першы й вынайшаў, што шыяй не варухнуць, а корань ледзь ня выціснуў яму ў сьпіне дзірку.

"Ну, і што ж прыемнага ў шпацыры? Ці ня лепей было б на вазку? – падумаў небарака, як звычайна на пачатку любой сваёй экспэдыцыі. – А ўсе мае найцудоўнейшыя пярыны дасталіся Кескам! Караніскаў гэных ім пад бакі!"

Фрода пацягнуўся й загаласіў:

– Хобіцтва, пад'ём! Цудоўная раніца!

– І што ж у ёй цудоўнага? – засумняваўся Піпін, вызірнуўшы адным вокам з-пад коўдры. – Га, Сэме! Каб сьняданак быў гатовы а палове на дзясятую! Ужо нагрэў вады для ванны?

Сэм ускочыў і залямантаваў спрасонку:

– Не, спадарыкі, даруйце, не!

Тут Фрода сьцягнуў коўдру зь Піпіна, перакульнуў яго на другі бок і пайшоў да ўскрайку лесу. На ўсходзе, чырванеючы, павольна выбіралася з густога туману сонца. Прыбраныя ў восеньскае золата й чырвань, дрэвы нібыта плылі ў сутонным моры. Зьнізу й крыху зьлева ад Фрода лясная дарога спускалася ў глыбокую лагчавіну й зьнікала там.

Калі Фрода вярнуўся, Сэм і Піпін ужо распалілі вогнішча.

– Вада! – крыкнуў Піпін. – Дзе вада?

– Безумоўна, у маіх кішэнях яе няма, – азваўся Фрода.

– А мы думалі – ты пайшоў яе шукаць, – сказаў Піпін, заклапочана раскладваючы ежу ды расстаўляючы куфлі. – Лепей адшукай яе хутчэй.

– Хутчэй атрымаецца толькі разам з табою, Піпіне. І вазьмі-тка ты бутэлькі.

Крынічка знайшлася ўнізе, ля ўзножжа пагорку. Хобіты ўмыліся, напоўнілі бутэлькі й малы паходны імбрык зь невялікага вадаспаду, дзе струменьчык падаў з

прыступкі шэрага каменя вышынёю некалькі стопаў. Вада была лядзяная, так што хобіты нафыркаліся й навохкаліся, умываючыся.

Па сьняданку зноў спакаваліся, ужо й адзінаццатая гадзіна пайшла. Дзень пачынаўся сонечны, сьпякотны. Хобіты спусьціліся з пагорку, перасеклі струменьчык, які зьнікаў з аднога боку дарогі й зноў узьнікаў на другім, падняліся па схіле за ім – і зноў, і зноў уверх ды ўніз па пагорках. Хутка іхняя паклада – плашчы, коўдры, вада, ежа й астатняе – падалася ім невыносна цяжкой.

Відавочна, тэпаць так увесь дзень было б няпроста, але праз колькі вёрстаў стамляльныя пад'ёмы й спускі скончыліся. Шлях зігзагам ускараскаўся на высачэзную строму, і хобіты ўбачылі пад сабою роўнядзь з купкамі дрэваў там-сям, што ў далечы зьліваліся ў цьмяна-буры мур лесу. Хобіты пазіралі на Ляснакуцьце, у бок Бранявіну. Дарога вілася перад імі тонкаю стужкай.

– Гэты шлях бясконцы, – паскардзіўся Піпін. – А я ўжо стаміўся. Трэба адпачыць. Ды ўжо й час паабедаць.

Ён сеў на ўзбочыне, тварам на ўсход. Недзе там, далёка, плынеў Бранявін, а за ім сканчаўся Шыр, дзе Піпін правёў усё сваё жыцьцё. Сэм стаяў побач, зьдзіўлены й разгублены, бо глядзеў на краі, якія аніколі ня бачыў. Нарэшце спытаў:

– Ці жывуць эльфы ў гэтых лясох?

– Наколькі я ведаю, не, – адказаў Піпін.

Фрода не азваўся. Ён таксама пазіраў на ўсход уздоўж шляху, нібыта аніколі раней яго ня бачыў. Раптам паволі, уголас, але быццам сабе самому прамовіў:

*Няма сканчэньня для шляхоў.*
*Ледзь рушыш ад дзьвярэй –*
*Павінен крочыць зноў і зноў,*
*Імкнуцца ўсё далей*
*Па сьцежцы, струмяні дарог*
*Вялікіх ды малых.*
*Калі б даведацца я мог,*
*Куды дайду па іх...*

– Гучыць падобна да вершыкаў старога Більба, – зазначыў Піпін. – Ці гэта тваё перайманьне? Ня надта аптымістычна.

– Ня ведаю, – адказаў Фрода. – Раптам прыйшло да галавы, быццам толькі прыдумалася. Але ж я мог чуць і калісьці даўней. Мне таксама гэта моцна нагадвае штосьці Більбава, асабліва ў апошнія ягоныя гады перад сыходам. Більба тады часьцяком казаў, што існуе толькі адзін вялікі Шлях, і ён быццам рака. Вытокі яе ля кожных дзьвярэй, і кожная сьцяжынка – яе прытока. "Небясьпечная гэтая справа, Фрода, рушыць за дзьверы, – казаў ён зазвычай. – Ледзь крочыш, дык сачы за нагамі. Бо падхопіць ды панясе й немаведама куды завядзе ўрэшце. Ты разумееш, што вось тутака пачынаецца тая самая сьцяжына, што вядзе праз Ліхалесьсе, і калі ты ёй дазволіш, яна давядзе цябе да Самотнай гары альбо й далей, да краёў яшчэ больш вусьцішных?" Ён часьцяком казаў гэткае пра сьцежку ад парадных дзьвярэй Торбы-пад-Стромай, асабліва калі вяртаўся з доўгага шпацыру.

– Ну, будзьце пэўныя, сама мала з гадзіну гэты Вялікі Шлях мяне анікуды не завядзе, – абвесьціў Піпін, скідваючы заплечнік. За ім і астатнія паскідвалі пляцакі на ўзбочыну ды паселі, выцягнуўшы ногі на дарогу. Адпачыўшы, пасьнедалі, а пасьля зноў адпачылі.

Як спусьціліся з стромы, ужо вечарэла. Дагэтуль на дарозе не сустрэлі ніводнай жывой душы. Шлях быў амаль непрыдатны для вазкоў, дый няшмат хто езьдзіў у Ляснакуцьце. Хобіты ішлі з гадзіну, калі Сэм раптам прыпыніўся, быццам прыслухоўваючыся. Дарога, досыць папятляўшы, ішла ўжо па зарослай травою роўнядзі з высокімі самотнымі дрэвамі там і тут – першымі вылескамі недалёкай ужо пушчы.

– Чую: за нашымі сьпінамі на шляху поні ці конь, – абвесьціў Сэм.

Хобіты азірнуліся, але ж з-за недалёкага павароту нічога ня здолелі пабачыць.

– Можа, Гэндальф даганяе? – зьдзівіўся Фрода, аднак, ужо вымаўляючы, адчуў: не, нешта тут ня так, і яму раптам захацелася схавацца ад вершніка, хто б ён ні быў.

– Вядома, глупства, – дадаў Фрода крыху зьбянтэжана, – аднак мне не хацелася б, каб нас бачылі на дарозе. Хопіць зь мяне ўжо плётак ды шэптаў пра тое, куды йду ды з кім... А калі гэта Гэндальф – няхай крыху напалохаецца. Вось будзе яму за тое, што спазьніўся. Ну, хаваймася!

Сэм зь Піпінам спрытна нырнулі ў невялічкую лагчавіну зь левага боку дарогі ды залеглі там. Фрода трохі затрымаўся: цікавасьць ці нешта падобнае, незразумелае пачуцьцё, ледзь не перамагло жаданьня схавацца. Пошчак наблізіўся. Фрода раптам вырашыўся й кінуўся ў высокую траву за дрэвам, навіслым над дарогай. Крыху высунуўся з травы,назіраючы з-за вялізнага кораня.

З-за павароту зьявіўся чорны конь, і ня хобіцкі поні, а велізарны. На ім сядзеў чалавек, абгорнуты доўгім чорным плашчом, з насунутым на галаву каптуром – толькі й былі відаць боты й страмёны. Чалавек сядзеў згорбіўшыся, і твар ягоны быў нябачны.

Зраўняўшыся з дрэвам, за якім хаваўся Фрода, вершнік спыніўся. І замер, не падымаючы галавы, быццам прыслухоўваючыся. З-пад каптура пачулася бытта сапеньне, нібы вершнік спрабаваў злавіць нейкі ледзь чутны пах, галава ківалася з боку ў бок.

Раптам бессэнсоўны страх апанаваў Фрода: во, зараз знойдзе, убачыць! І ён падумаў пра пярсьцёнак. Фрода ледзь адважваўся дыхаць, і, тым ня менш, жаданьне дастаць пярсьцёнак зрабілася такім моцным, што хобіт паціху ссоўваў руку да кішэні. Адчуваў: вось толькі насуну – і ўратуюся. Усе Гэндальфавы парады падаліся абсурднымі – Більба ж карыстаўся пярсьцёнкам. "А я ўсё ж такі ў Шыры", – падумаў Фрода, кранаючы ланцужок, на якім трымаўся пярсьцёнак. У гэты момант вершнік выпрастаўся і ўстрасянуў лейцы. Конь крочыў наперад, спачатку павольна, тады хутчэй.

Фрода падпоўз да ўскрайку дарогі, назіраючы за вершнікам, пакуль той зьнік у далечыні. Падалося, што коньнік перад тым, як канчаткова зьнікнуць, раптам зьвярнуў у лес з правага боку дарогі.

– Так, так, – сказаў Фрода сам сабе, падыходзячы да сваіх паплечнікаў, – ну й дзіўны вычварань. Трывожна неяк, і ня тое каб прыемна.

Піпін з Сэмам нічога ня бачылі, бо ляжалі ніцма ў траве, таму Фрода апісаў ім вершніка й ягоныя паводзіны.

– Не магу сказаць чаму, але ж перакананы – ён шукаў мяне, мяне вынюхваў. І я не хацеў бы, каб вынюхаў. Аніколі раней у Шыры ня бачыў анічога падобнага.

– Якія справы даўгалыгім да нас? – спытаў Піпін. – Чаго ўвогуле яго сюды занесла?

– Апошнім часам заносіць, – сказаў Фрода. – Казалі, у Паўднёвым падзеле была нават нейкая заварушка зь імі. Але ж пра такіх вершнікаў я ніколі ня чуў. Цікава, адкуль ён?

– Прабачце, спадарове, – раптам улез у гаворку Сэм, – я ведаю, адкуль ён. Калі ён адзін такі, то з Хобіцку. І я ведаю таксама, куды ён накіраваўся.

– Як гэта? – перапытаў Фрода, зьдзіўлена ўтаропіўшыся ў Сэма. – Чаму ты раней не казаў?

– Спадару, я толькі цяпер і ўзгадаў на тое. Вось, калі я вярнуўся ўчора пад вячор да сваёй нары, дык бацька мой і кажа: "*Га, Сэме, я думаў, ты з панам Фрода раніцою выправіўся. Тут нейкі дзівак пытаўся пра спадара Торбінса з Торбы-пад-Стромай. Во толькі й зьехаў. Я яго ў Бычышчы адправіў. Нейкі ён нягеглы, так скажу. Раззлаваўся, як даведаўся, што спадар Торбінс назаўсёды пакінуў сваю старую Торбу. Зашыпеў на мяне, я ажно скалануўся*". "*Што за прыхадзень такі?*" – пытаюся ў Дзеда, а той: "*Ня ведаю, але ня хобіт. Высокі такі, чорны, схіліўся нада мною. Ну, вядома, даўгалыгі аднекуль здалёк. І размаўляе нейк ня так*". Далей я ўжо й ня слухаў, – дадаў Сэм, – таму што вы чакалі, дый сам я асаблівай увагі не зьвярнуў. Дзед стары ўжо, ну й сьлепаваты, а ўжо ж цёмна было, калі тая здань зьявілася з-за Торбы дый напаткала на ўскрайку слабады нашай майго Дзеда, ён паветра сьвежага выйшаў дыхнуць. Спадзяюся, спадарыку, што ад старога аніякай шкоды ня выйшла, дый ад мяне таксама.

– Дзеда вінаваціць увогуле няма ў чым, – сказаў Фрода. – Калі ўдакладняць, дык я сам чуў, як ён размаўляў з тым незнаёмцам. Я ледзь не падышоў да старога, каб спытаць, хто гэта быў. Шкада, што не падышоў. Шкада таксама, што ты не распавёў раней. Тады я, безумоўна, быў бы асьцеражнейшы.

– Я пакуль што ня бачу аніякай сувязі паміж гэтым вершнікам і тым, хто распытваў Дзеда, – зазначыў Піпін. – Мы выбраліся з Хобіцку ўпотайкі, і ён за намі прасачыць ну ніяк ня мог.

– Спадару, а што калі ён мог вынюхаць? – спытаў Сэм. – Дзед казаў: той жа таксама быў такі чорны.

– Калі б я дачакаўся Гэндальфа, – прамармытаў Фрода. – А можа, гэта толькі пагоршыла б справы.

– А, дык ты ведаеш, хто гэты вершнік? – спытаў Піпін.

– Не, і гадаць, хто ён, лепей ня буду.

– Добра! Трымай свой сакрэт, зрабі ласку, калі гэтак ужо захоўваеш свае таямніцы, кузін Фрода! А пакуль мы пазіраем на тваю таямнічую постаць, ты, можа, распавядзеш, што рабіць? Я крыху паджалюбаў бы, ды прыснуў дзе, але штосьці кажа мне: трэба йсьці, так? Нешта мне нэрвы цягнуць усе гэныя расповеды пра вершнікаў-нюхачоў зь нябачнымі насамі.

– Так, ісьці трэба, – пацьвердзіў Фрода. – Але не па дарозе. Можа, той вершнік вернецца альбо іншы зьявіцца сьледам за ім. Сёньня трэба прайсьці шмат – да Прыбычча яшчэ вёрсты й вёрсты.

Калі крануліся зь месца, цені ад дрэваў на траве ўжо зрабіліся даўжэзнымі й танюткімі. Хобіты прабіраліся на адлегласьці добрага кідка каменем леваруч ад дарогі й намагаліся красьціся як мага цішэй ды непрыкметней. Таму ісьці хутка не атрымлівалася – і трава густая, шчыльнымі купкамі, і яміны тут і там, дый дрэвы ўсё гусьцей.

За іхнімі сьпінамі чырванела сонца, спускаючыся за пагоркі. Пакуль выбраліся зноў на дарогу напрыканцы роўнядзі, якая цягнулася некалькі вёрстаў і па якой

дарога бегла проста, нібыта страла, ужо й зьвечарэла. Наперадзе галоўны шлях збочваў налева, у панізьзі Елю, да Бярвішча. Направа адгаліноўвалася вузкая дарога, віючыся праз старажытную дуброву ў напрамку Лясной сядзібы.

– Нам туды, – сказаў Фрода.

Непадалёк ад разгалінаваньня дарог натрапілі на велізарнае старое дрэва – яшчэ жывое, зь лісьцем на маладзенькіх галінках, што прабіваліся з трухлявых рэшткаў даўно абламаных сукоў, але ж зусім струпехлае й пустое ўнутры. Туды можна было забрацца праз здаравенную шчыліну з боку, ня бачнага ад дарогі. Хобіты запаўзьлі ўсярэдзіну й паселі на мяккай посьцілцы старога лісьця й трухі. Адпачылі, крыху паелі, размаўляючы прышэптам ды прыслухоўваючыся час ад часу.

Сутонела, калі нарэшце выбраліся ізноў на лясную дарогу. Заходні вецер уздыхаў у галінах. Шапацела лісьце. Неўзабаве зусім сьцямнела, над дрэвамі ў нябёсным змроку на ўсходзе загарэлася зорка. Хобіты ішлі поплеч, у нагу, каб было ня так вусьцішна. Але ж над галовамі буйнелі, зырчэлі россыпы зорак, і сябры паціху супакоіліся, і ўжо не прыслухоўваліся, як раней, не лавілі пошчаку капытоў. Нават ціхенька засьпявалі, як гэта прынята ў хобітаў падчас вандроўкі, асабліва на зваротным шляху, калі хата ўжо непадалёк. Звычайна пяюць песьню вячэры ці перадкалыханку, але ж нашыя хобіты засьпявалі *вандроўную* (зразумела, у ёй таксама было й пра вячэру, і пра ложак). Словы прыдумаў Більба Торбінс на мэлёдыю, старэйшую за навакольныя пагоркі, і навучыў пляменьніка, калі яны шпацыравалі па прысадах блізу Вады-ля-Стромы ды гутарылі пра Більбаву Прыгоду.

*Яшчэ ў агмені агонь ня згас,*
*Вячэра й ложак чакаюць нас,*
*Але ж пад дах ранавата нам,*
*Крочыць упарта нашым нагам,*
*Каб раптам сустрэцца ў лесе ці ў полі*
*З тым, што ніхто ня бачыў ніколі!*
*Лісьце ды кветкі, крынічную плынь –*
*За сьпінай пакінь! За сьпінай пакінь!*
*Горы, пагоркі ды дрэвы сьцяною –*
*Пакінь за сьпіною! Пакінь за сьпіною!*

*Спаткаем, магчыма, ў палях ці лясах*
*Новую сьцежку, загадкавы шлях,*
*Сёньня пакінем мы іх за сьпіною,*
*А раніцою яны за сабою*
*Зноўку паклічуць нас да таямніцаў,*
*Цудаў, прыгодаў, чароўных скарбніцаў!*
*Зыркія зоры, дзівосныя рэчы –*
*Хуткай сустрэчы! Хуткай сустрэчы!*
*Долы, азёры, скалаў каменьне –*
*Да пабачэньня! Да пабачэньня!*

*Хата за сьпінаю. Сьвет перад намі –*
*Сьцяжынкамі ўсімі, усімі шляхамі –*
*Кліча наперад ісьці, і дарога*
*Хутка вядзе нас – да змроку начнога,*
*Зь ім і дахаты, дзе ў гэтакі час*
*Ложкі ды сны зачакаліся нас.*
*Цемру, туманы ды хмары з дажджамі –*
*Пакінь за дзьвярамі! Пакінь за дзьвярамі!*
*Чарка ды шкварка, да кашкі алей!*
*Гэй – за вячэру! Ды ў ложак хутчэй!*

Песьня скончылася.

– Ды ў ложак хутчэй! – гучна прасьпяваў Піпін.

– Цішэй! – гукнуў Фрода. – Мне падаецца, я зноў чую пошчак.

Хобіты разам спыніліся й замерлі, прыслухоўваючыся, – нерухомыя й маўклівыя, нібыта цені дрэваў. І сапраўды: ззаду вецер данёс слабы, павольны пошчак капытоў. Спрытна й ціха хобіты пасунуліся ў лес, у цень пад вялізнымі дубамі.

– Далёка не адыходзім! – папярэдзіў Фрода. – Я не хачу, каб нас бачылі, аднак трэба зірнуць: можа, гэта яшчэ адзін чорны вершнік.

– Добра! – адказаў Піпін. – Але не забывайся: яны, мажліва, здольныя вынюхаць!

Пошчак наблізіўся. У хобітаў ужо й часу не было шукаць добрую схованку. Паселі ў цені. Піпін з Сэмам – за таўшчэзным дрэвам, а Фрода нават і падпоўз на некалькі крокаў да дарогі, нібы шэрай, бляклай паласы апошняга сьвятла, якое яшчэ сачылася праз лістоту. Над ёй на змрочным небасхіле густа высыпалі зоры, але месяца не было бачна.

Тупат сьцішыўся. Фрода ўбачыў, як нешта цьмянае прасьлізнула праз асьветленае месца між дрэвамі й спынілася. Нібыта чорны цень вершніка вёў за аброць большы цень каня, вялікія чорныя плямы цемры ў змроку. Цені, хістаючыся з боку ў бок, прыпыніліся ля месца, дзе хобіты пакінулі сьцягу. Фрода пачуў сапеньне. Потым меншы цень нахіліўся да зямлі – і папоўз у бок хобіта!

Жаданьне насунуць пярсьцёнак зноў авалодала Фрода, і мацней, чым раней. Такое моцнае, што ён уцяміць не пасьпеў, што робіць, а рука ягоная ўжо мацала кішэню. Але ў гэты момант пачуліся дзівосныя гукі – нібыта сьмех і сьпеў разам, ясныя, чыстыя галасы сярод ночы, асьветленай зорамі. Чорны цень выпрастаўся ды рушыў назад. Ускараскаўся на чорны прывідны цень каня і, падалося, распусьціўся ў цемры леваруч ад дарогі. Фрода ўздыхнуў з палёгкай.

– Эльфы! – засоп Сэм узбуджана. – Спадарове, эльфы!

Напэўна, тут і ўскочыў бы, і кінуўся насустрач, калі б Фрода зь Піпінам яго не ўтрымалі.

– Так, эльфы, – пацьвердзіў Фрода. – Іх час ад часу можна напаткаць у Ляснакуцьці. Яны ня ў Шыры жывуць, а за Вежавымі пагоркамі, аднак завітваюць сюды ўвесну й увосень, вандруючы. І я ім вельмі за тое ўдзячны! Вы ня бачылі – але ж чорны вершнік прыпыніўся вось прама тутака ды ўжо папоўз да мяне, калі пачулася песьня. А як пачулася, ён і ўцёк.

– А эльфы, эльфы? – што Сэму той вершнік, калі побач – эльфы! – Мы ж пабачым іх, пабачым?

– Слухай! Яны самі сюды ідуць! – заўважыў Фрода. – Трэба толькі дачакацца.

Сьпевы наблізіліся. Адзін ясны, чысты голас уздымаўся вышэй за астатнія, пеючы на эльфавай мове, цудоўнай і легкагукай. Фрода разумеў яе хіба крышачку, а Сэм зь Піпінам і ўвогуле ня ведалі. Аднак гукі, зліваючыся з музыкай, падавалася, самі сабою складваліся ў словы, адбіваліся ў думках – амаль незнаёмыя, а ўсё ж такі зразумелыя. Вось што пачуў Фрода:

*О, Гаспадарыня сьвятла!*
*О, Каралеўна за марамі!*
*Ты зоркай яснай нас вяла*
*Выгнаньня доўгімі шляхамі.*

*Гільтоніель! О Эльберэт!*
*Надзеі нашай ясны сьвет!*
*Табе, Найчыстая, наш сьпеў*
*З-за цемры адзічэлых дрэў.*

*Для нас ты срэбныя агні*
*Сваёю лёгкаю рукой*
*Парассыпала ў вышыні –*
*Заўжды іх бачым над сабой.*

*О Эльберэт! Гільтоніель!*
*Нябёсаў зорная купель!*
*Праз жах і змрок нас правяло*
*Тваё нязгаснае сьвятло!*

Песьня скончылася.

– Вышнія эльфы! – вымавіў Фрода ў зьдзіўленьні. – Згадваюць імя Эльберэт! Дзівосна, што яны ўвогуле заходзяць у Шыр – іх жа ва ўсім Міжзем'і, на захад ад Вялікага мора, амаль не засталося. Сапраўды, ну й сустрэча!

Хобіты сядзелі ў цені на ўзбочыне. Хутка й эльфы зьявіліся на дарозе. Крочылі павольна, і хобіты бачылі, як зорны водбліск люструецца ад іх вачэй і валасоў. Ішлі без паходняў і ліхтароў, аднак іх агортвала зьзяньне, нібыта сьвятло месяца, які яшчэ ня ўзьняўся над пагоркамі, сьцялілася ў іх пад нагамі. Цяпер эльфы рухаліся моўчкі, а калі апошні зь іх мінуў хобітаў, то прыпыніўся, павярнуўся ды засьмяяўся.

– Вітаем, Фрода! – усклікнуў ён. – Вы запозьніліся, шпацыруючы. А можа, згубіліся?

Эльф паклікаў астатніх, і неўзабаве ўся кампанія сабралася вакол хобітаў.

– Вось неспадзяванка! – гаманілі эльфы. – Тры хобіты ўночы ў лесе. Мы такога ня бачылі з часоў Більбавай вандроўкі. Што б гэтакае азначала?

– Азначае гэта толькі тое, – адказаў Фрода, – што, як падаецца, нам з вамі па дарозе. Я люблю шпацыр пад зорамі. І з радасьцю далучуся.

– Ну, нас і так тут ужо вялікая кампанія, і вы, хобіты, такія нудныя, – эльфы засьмяяліся. – Дый адкуль вы ўзялі, што нам па дарозе, ня ведаючы, куды мы ідзем?

– А адкуль вы ведаеце маё імя? – спытаў Фрода ў сваю чаргу.

– Мы шмат чаго ведаем, – адказалі яны. – Мы часьцяком бачылі цябе разам зь Більба, хоць ты нас, пэўна, і не заўважаў.

– Што вы за эльфы й хто ваш правадыр?

– Я, Гільдар, – адказаў той самы эльф, які першым павітаў хобітаў. – Гільдар Інглорыян з Дому Фінрада. Мы – выгнаньнікі. Большасьць нашай радзіны адплыла за мора шчэ ў даўніну, і толькі мы затрымаліся тут да часу, пакуль і нам не давядзецца адплысьці за Вялікае мора. Хоць нашыя сваякі яшчэ жывуць у Долым Яры. Фрода, распавядзі ж нам, куды вы кіруеце й што здарылася? Бо мы бачым на вас цень нейкага жаху.

– О, мудры народ! – ублытаўся раптам Піпін. – Ці ведаеце вы пра чорных вершнікаў?

– Чорных Вершнікаў? – адгукнуліся эльфы напаўголасу. – Чаму вам трэба ведаць пра Чорных Вершнікаў?

– Таму што мы напаткалі двох сёньня ці аднаго двойчы, – патлумачыў Піпін. – Толькі хвіліну таму адзін уцёк прэч, пачуўшы, як вы набліжаецеся.

На тое эльфы адразу не адказалі, а пачалі сьцішана перамаўляцца на сваёй мове. Гаманілі яны даволі доўга, нарэшце Гільдар зноў зьвярнуўся да хобітаў.

– Пра гэта тут мы гутарыць ня будзем. Нам падаецца, вам лепей пайсьці з намі. Такое ані ў нашых звычаях, але мы правядзем вас, і вы пераначуеце побач з намі – калі пажадаеце, вядома.

– О, Сьветлы народ! Вашая дабрыня пераўзыходзіць усе спадзяваньні! – выгукнуў Піпін. У Сэма ажно дух перахапіла, ён так і стаяў моўчкі.

– Вялікі дзякуй, Гільдар Інглорыян! – сказаў Фрода, кланяючыся. – *Элен сіля люмен'нь омент'іэльво* – зорка асьвятліла час нашай сустрэчы, – дадаў ён на мове вышніх эльфаў.

– Асьцярожней, сябры! – усклікнуў Гільдар зь сьмехам. – Цішэй з сакрэтамі. Тут побач з намі майстра Старажытнай мовы! Більба быў добры настаўнік! Вітайма Сябру Эльфаў! – і Гільдар пакланіўся Фрода. – Запрашаю вашэць і сяброў далучыцца на нашай кампаніі! Лепей ідзіце сярод нас, каб зьнянацку не адстаць. Да прывалу далёка.

– Чаму? Куды вы кіруецеся? – спытаў Фрода.

– Сёньня – на пагоркі над Лясной сядзібай. Туды некалькі вёрстаў, але ж пасьля іх вы добра адпачняце, і раніцою застанецца прайсьці меней.

Зноў усе крочылі ў цішыні, нібыта цені ці прывідныя агеньчыкі, бо эльфы, нават лепей за хобітаў, могуць рухацца зусім бязгучна. Піпін хутка пачаў торкаць носам, пахіснуўся раз ці два, і кожны раз высокі эльф побач падхопліваў яго і не даваў упасьці. Сэм ішоў побач з Фрода, нібыта ўжо ўва сьне, – напалову перапалоханы, напалову неверагодна шчасьлівы.

Лес абапал дарогі стаў гусьцейшы: і дрэвы трапляліся маладзейшыя, і ў нізінах паміж пагоркамі схілы сям-там парасьлі непраходным гушчаром ляшчыны. Тут эльфы й збочылі з дарогі. Праваруч праз зарасьці вілася амаль непрыкметная зялёная сьцяжынка, вяла яна назад, па схілах на атовілак пагорку, які ўзвышаўся над рачною далінаю. Раптам дрэвы засталіся за сьпінаю й хобіты ўбачылі шырокую травяністую паляну, срабрыстую пад зорамі. З трох бакоў яе атачалі дрэвы, але на ўсходзе пагорак абрываўся крутой стромай, і вяршыні дрэваў, што расьлі ля ўзножжа, заставаліся далёка ўнізе, пад нагамі. За абрывам ляжалі нізіны, цьмяныя й шэрыя ў зорным сьвятле. Непадалёк мільгала некалькі агеньчыкаў – вёска Лясная сядзіба.

Эльфы паселі на траву й пачалі ціха перамаўляцца. Падалося, яны ўвогуле забыліся пра хобітаў. А тыя загарнуліся ў коўдры й плашчы, сонныя ды стомленыя.

Зусім сьцямнела, і агеньчыкі ў даліне згасьлі. Піпін заснуў, паклаўшы галаву на купінку.

На ўсходзе ў нябёсах разгарнуўся Рэмірат, Зорнае Сеціва, і з-за туману павольна ўзьняўся чырвоны Боргіль, палымнеючы, нібы вогненны рубін. А потым, быццам выдыхнула паветра, туман зьнік і над сусьветам нахіліўся, выкараскаўшыся з-за краю небасхілу, Менэльвагор, Нябёсны Мечнік, у зіхоткім зорным пасе. Эльфы засьпявалі. Раптам сярод дрэваў заскакала чырвоным полымем цяпельца.

– Далучайцеся! – гукнулі эльфы хобітаў. – Надышоў час бяседы й забавы!

Піпін сеў, уздрыгнуўшы, і пацёр вочы.

– Цяпло й ежа чакаюць галодных гасьцей, – запрасіў эльф, які стаяў побач зь ім.

На паўднёвым ускрайку лес адступаў і паляна залівам заходзіла ў лес – нібыта велічэзная заля. Галіны – рыхтык дах над галавою, ствалы – калёны. Пасярод палала вялікае вогнішча, а на "сьценах" гарэлі роўным залатым і срэбным полымем паходні. Эльфы сядзелі вакол агню на траве ці на тоўстых цурбэлках, адпілаваных ад бярвеньняў. Некаторыя разносілі куфлі й налівалі напой, іншыя накладвалі ежу на талеркі й раздавалі іх.

– Выбачайце за сьціплы пачастунак, – казалі эльфы хобітам. – Бо мы ж у лесе, далёка ад нашых бяседных заляў. Калі б толькі вы завіталі да нас!

– Мне б так частаваць на свой дзень народзінаў! – усклікнуў Фрода.

Піпін потым амаль нічога ня мог узгадаць – ані што елі, ані што пілі, бо толькі й бачыў дзівоснае сьвятло на тварах эльфаў, толькі й чуў іхнія галасы, такія розныя й такія прыгожыя – нібыта патрапіў у сон. Аднак узгадваў: здаецца, быў хлеб, але такі смачны, быццам згаладнеламу далі вось толькі выпечаны, наймякчэйшы белы бохан, і былі яблыкі, пахкія, салодкія, рыхтык лясныя суніцы, смачнейшыя за найсмачнейшы садовы яблык. І піў нібыта з свайго куфля нешта больш празрыстае за крынічную ваду, лёгкае й залатое, як летні надвячорак.

А Сэм ані словаў адшукаць ня здолеў, ані нават уявіць сабе ясна ня мог, што ж ён адчуваў ці думаў тае начы – хоць запомніў яе як адну з найгалоўнейшых падзеяў жыцьця. Толькі й казаў потым: "Ну, спадарове, калі б я такія яблыкі выгадаваў, тады назваў бы сябе сапраўдным садоўнікам. Ды што яблыкі, што яблыкі, сьпевы іхнія – вось што да сэрца дайшло, калі разумееце, пра што я..."

Фрода частаваўся зь вялікім задавальненьнем, еў і піў з асалодаю, але галоўным чынам намагаўся зразумець гаворку. Эльфскую мову ён ведаў ня тое каб добра, з пачутага разумеў ня шмат і загаворваў, каб падзякаваць, толькі з тымі, хто прыносіў яму ежу й пітво. А тыя ўсьміхаліся й казалі, сьмеючыся: "О, найвучонейшы сярод хобітаў!"

Неўзабаве Піпін заснуў канчаткова. Яго зьнесьлі ад вогнішча ў намёт пад дрэвамі й паклалі на мяккі ложак, дзе ён і праспаў рэшту ночы. Сэм жа адмовіўся пакінуць гаспадара. Калі Піпіна зьнесьлі, Сэм прыйшоў да Фрода, сеў, скурчыўшыся, каля яго, ды, торкнуўшы носам, задрамаў. А Фрода яшчэ доўга ня спаў, размаўляючы з Гільдарам.

Яны шмат гутарылі й пра навіны, і пра падзеі даўніны. Фрода надта цікавіла, што ж робіцца за шырскімі межамі. Адбывалася шмат непрыемнага й злавеснага: цемра зьбіралася, людзі ваявалі, эльфы сыходзілі на Захад. Нарэшце Фрода спытаў пра тое, што хвалявала найбольш:

– Скажы мне, спадару Гільдару, ці бачыў вашэць Більба пасьля таго, як ён пакінуў Торбу?

– Так, – адказаў Гільдар з усьмешкай. – Двойчы. Ён разьвітаўся з намі на гэтым самым месцы. А яшчэ я бачыў яго далёка адсюль.

Болей ён анічога пра Більба не распавёў, і Фрода змоўк.

– Ты не пытаўся ў мяне й не распавядаў шмат з таго, што цяпер турбуе цябе, – зазначыў Гільдар. – Але я й сам ведаю крыху, а болей бачу з твайго твару й з таго, што засталося па-за тваімі пытаньнямі. Ты пакідаеш Шыр, але сумняесься, ці знойдзеш тое, што шукаеш, ці зьдзейсьніш тое, што намагаесься зьдзейсьніць. І ці вернесься ўвогуле. Гэта так?

– Так, – пацьвердзіў Фрода. – А я ж лічыў, што мае пляны – таямніца, вядомая толькі Гэндальфу й майму вернаму Сэму.

Фрода зірнуў на Сэма, які ўжо ціхенька пасопваў.

– Ад нас твая таямніца да Ворага не патрапіць, – сказаў Гільдар.

– Да Ворага? Значыць, вашэць ведае, чаму я пакідаю Шыр?

– Я ня ведаю, чаму Вораг перасьледуе цябе, аднак бачу – сапраўды перасьледуе. Хоць гэта й незразумела для мяне. Таму хачу папярэдзіць: небясьпека цяпер і ззаду, і наперадзе, і пабаруч.

– Вашэць мае на ўвеце Вершнікаў? Напэўна, яны – прыслужнікі Ворага? Хто ж яны такія, гэтыя Чорныя Вершнікі?

– Гэндальф нічога табе пра іх не казаў?

– Не, зусім не.

– Тады, лічу, і мне ня варта распавядаць пра іх – страх толькі перашкодзіць табе. Бо мне падаецца, ты пасьпеў выправіцца ў апошнюю хвіліну, дый ці пасьпеў увогуле. Табе трэба сьпяшацца, і не марудзіць, і ня збочваць назад. Бо й Шыр цяпер небясьпечны для цябе.

– Цікава, які расповед здолеў бы напалохаць мяне мацней, чым намёкі ды туманныя папярэджаньні, – адказаў Фрода. – Я ведаю, што мяне чакаюць небясьпекі, але каб яны чакалі мяне ў нашым родным Шыры? Няўжо хобіт ня можа спакойна шыбаваць ад Вады-ля-Стромы да Бранявіну?

– Шыр вам родны, але ён ня ваш. Іншыя жылі ў ім да вас. Будуць жыць і па вас. Калі вы адмежаваліся цяпер ад сусьвету – гэта ня значыць, што ён ад вас адмежаваўся.

– Я ведаю. Але ж Шыр заўсёды быў для нас такі знаёмы й утульны. Што мне рабіць цяпер? Я плянаваў выбрацца таемна й рушыць у Долы Яр. Цяпер за мною пагоня, а я ж яшчэ й да Прыбычча не дабраўся.

– Мяркую, табе трэба рабіць, як заплянаваў. Шлях да Долага Яру, лічу, табе пад сілу. А лепшай парады трэба прасіць у Гэндальфа. Я ня вядаю, чаму ты ўцякаеш з Шыру, і таму ня ведаю, што менавіта пагражае табе ад тваіх перасьледнікаў. Гэндальф мусіць ведаць. Ты, напэўна, пабачысься зь ім перад тым, як пакінуць Шыр?

– Спадзяюся. Аднак наконт Гэндальфа я й турбуюся. Я шмат дзён яго чакаў, ён павінен быў зьявіцца ў Хобіцку шчэ два дні таму, і не зьявіўся. Што магло зь ім здарыцца? Ці, можа, мне варта яго дачакацца?

Хвіліну Гільдар малчаў. Нарэшце вымавіў:

– Мне гэта зусім не падабаецца. Тое, што сам Гэндальф спазьняецца, не абяцае анічога добрага. Але ж нездарма гаворыцца: "Ня блытайся ў справы мудрых – іх цяжка зразумець і лёгка раззлаваць". Выбірай сам – ісьці ці чакаць.

– Бачу, нездарма таксама кажуць, што эльфавы парады бы талер – калі зьверху "так", дык зьнізу "не".

– Сапраўды? – Гільдар засьмяяўся. – Насамрэч, мы зрэдку кажам проста "так" або "не", таму што простыя "так" або "не" – надта недарэчныя падарункі, нават ад мудрага мудраму. Кожны шлях можа прывесьці да бяды, асабліва калі йсьці бяздумна. Што ж тычыцца цябе – ты ж не распавёў мне ўсяго. Як я магу выбраць твой шлях лепей за цябе, ня ведаючы? Але ўсё ж параю, як сябру: не затрымлівайся, нават калі Гэндальф і не абвесьціцца. І яшчэ: не сыходзь на самоце. Вазьмі з сабою сяброў, якія пажадаюць ісьці з табою й якім давяраеш. Такая мая табе парада. Задаволься ёю, бо я ня надта задаволены тым, што давялося яе даць. У эльфаў свой шлях у гэтым сусьвеце, свае клопаты й беды, і яны амаль ня тычацца хобітаў, дый аніякіх іншых стварэньняў гэтай зямлі. Шляхі нашыя перакрыжоўваюцца зрэдку – выпадкова ці не. Нашая сустрэча не падаецца мне выпадковай, але ў чым яе прызначэньне, я не магу бачыць ясна, і мне не хацелася б нагаварыць лішняга.

– Я вельмі ўдзячны вашэці. Але, усё ж такі, мог бы васпане распавесьці: хто такія гэныя Чорныя Вершнікі? Калі я скарыстаюся з парады, дык, магчыма, яшчэ доўга не змагу пабачыць Гэндальфа. А мне ж трэба ведаць пра небясьпеку, якая йдзе за мною.

– Ці ж не дастаткова ведаць, што яны – службіты Ворага? Уцякай ад іх! Ніводнага слова зь імі! Яны – сьмяротная небясьпека для цябе. І не пытайся ў мяне анічога болей! Але ж прадчуваю, што недалёка той час, калі ты, Фрода, сын Дрога, будзеш ведаць болей пра гэтых ліхіх стварэньняў, чым Гільдар Інглорыян. Барані цябе Эльберэт!

– А ці стане ў мяне мужнасьці? І дзе ж мне знайсьці яе, гэную мужнасьць, калі ў мяне яе амаль няма?

– Мужнасьць раптоўна адшукваецца ў самых нечаканых месцах. Не губляй надзеі! А цяпер – сьпі. Раніцою мы сыдзем, але разашлем весткі. Нашыя вандроўныя суполкі даведаюцца пра твой шлях, і тыя, хто абараняе гэтыя краі ад цемры, таксама. Я называю цябе Сябрам Эльфаў. Хай зорнае зьзяньне асьветліць твой шлях да самага сканчэньня! Нячаста бывае так прыемна сустрэць незнаёмцаў, і так цудоўна чуць словы Старажытнай мовы з вуснаў такіх самых, як мы, вандроўнікаў у гэтым сусьвеце.

І не пасьпеў Гільдар скончыць прамову, як Фрода адчуў: сон апаноўвае яго. "Так, зараз я засну", – сказаў ён, і эльф правёў яго да намёта, дзе ўжо спаў Піпін. Фрода ўпаў на ложак і імгненна глыбока й бесклапотна заснуў.


1
Фародвайт
Ангмар
Горы Ангмар
Карн Дум
Тут удаўніну было вядзьмарскае каралеўства Ангмар
Гара Гундабад
Згінулае каралеўства
Арнар
Ільдзяны заліў Фарошаль
Хімлінг
Эрэд Люін
Горы Сутоньне
Люн
Форлінданн
Форлінд
Заліў Люн
Мітлянд
Харлінд
Харлінданн
Блакітныя горы
Сівыя Гавані
Вежавыя пагоркі
Белае ўзгор'е
Дальняе ўзгор'е
Хобіцак
Ярцэдайн
Эмін Уіал
Нэньюал (возера Сутоньне)
Паўночнае ўзгор'е
Ануымінас
Форнаст
Браназінскі мост
Старая пушча
Прыгор'е
Чэцкі лес
Гнюнаводдзье
Наветранае пагор'е
Наветраная страма (Аман Сул)
Рудаўр
Тролевыя ўрочышчы
Тролевы лог
Дол Яр
Мітэйфель
Бруінен (Гучнаводдзе)
Паўднёвае ўзгор'е
Сарнаўскі брод
Кардолан
Барандуін (Бранявін)
Мінхірыят
Тарбад
Гватло (Шэраводдзе)
Нін-ін-Эйльф (Лебядзіныя лёт)
Эрэгіён (Падуб'е)
Брама Морыі
Гландуін
Эрын Ворн
Энэдвайт
Дунлянд
Ізенгард
Лонд Даэр
Туманныя горы
Высокі перавал
Каррок
Стары брод
Нінглар (Квята)
Дымрыльская лесвіца
Келебрант
Німродэль
Лорыйн
Поле Келебранту
Андуін (Вялікая рака)
Сутоніца
Паніззі
Шэраплыня
Дэўгаплыня
Хіфаэгліг
Вёрсты
50
100
150
200

### *4. Напрасткі па грыбы*

Раніцою Фрода прачнуўся бадзёры й поўны сілаў. Над ім быў сапраўдны намёт зь пераплеценых жывых галінаў, што спускаліся да самай зямлі, пад ім – ложак з папараці й травы, мяккай, пругкай, зь дзіўным й прыемным пахам. Скрозь трапяткое лісьце, яшчэ зусім зялёнае, зьзяла сонца. Фрода ўскочыў і выбраўся вонкі.

Сэм сядзеў на траве, Піпін стаяў, уважліва разглядаючы нябёсы ды аблокі. А эльфаў нідзе не было.

– Яны пакінулі нам садавіны ды хлеба зь пітвом, – сказаў Піпін. – Пасьнедай, калі ласка. Хлеб і не счарсьцьвеў зусім з ночы. Я сам усё зьеў бы, але ж Сэм не дае.

Фрода прысеў побач з Сэмам і пачаў есьці.

– Якія пляны на сёньня? – спытаў Піпін.

– Дабрацца да Бычышчаў як мага хутчэй, – адказаў Фрода, заняты сьнеданьнем.

– Як ты лічыш, мы яшчэ пабачым гэтых Чорных Вершнікаў? – лагодна спытаў Піпін. Пад ранішнім сонейкам сустрэча нават і з табуном іх Піпіну не падавалася надта трывожнаю.

– Верагодна, так, – Фрода згадка пра вершнікаў не спадабалася. – Спадзяюся, мы перабярэмся праз раку непрыкметна для іх.

– Ты выцягнуў ад Гільдара што-колечы пра іх?

– Ну, няшмат. Намёкі адны ды незразумеласьці нейкія.

– А ты пытаўся пра вынюхваньне?

– Пха тое не раш-маўлялі, – адказаў Фрода праз поўны рот ежы.

– А варта было б, гэта ж істотна, я ўпэўнены!

– А я ўпэўнены, што ў гэтым выпадку Гільдар проста адмовіўся б гаварыць далей, – адказаў Фрода троху рэзка. – А зараз дазволь мне, калі ласка, пасьнедаць спакойна! Я ж не магу адказваць на бясконцыя пытаньні зь ежай у роце. Я падумаць хачу!

– Сонца й нябёсы, думаць за сьнеданьнем?! – жахнуўся Піпін і сышоў прэч, да ўзьлеску.

Зыркая раніца падалася Фрода здрадліва зыркай, сьвятло зусім не прагнала страх перад пагоняй. Фрода сумна абдумваў словы Гільдара. Раптам пачуў вясёлы голас Піпіна. Той бег па траве й гучна сьпяваў.

"Не, не магу я, – падумаў Фрода. – Адна справа – узяць хлапцоў з сабою на шпацыр па Шыры, дзе хіба што прытомісься ды згаладаесься якраз, каб ежа ды ложак падаліся саладзейшымі. А забраць іх з сабою ў выгнаньне, да сапраўднага голаду й стомы – зусім іншае, нават калі яны й самі пажадаюць пайсьці. Мая спадчына – толькі мая. Напэўна, мне нават і Сэма браць ня трэба", – тут ён зірнуў на Сэма й убачыў, што той таксама глядзіць на яго.

– Так, Сэме. Ты ж уцям: я пакідаю Шыр. І хутка. Я вырашыў і на дзень у Цвыркуновай Лагчыне не затрымлівацца, калі толькі здолею.

– Добра, пане!

– Ты ўсё роўна хочаш ісьці з мною?

– Так.

– Будзе вельмі небясьпечна, Сэме. Ужо небясьпечна. Хутчэй за ўсё, ніводны з нас дадому ня вернецца.

– Калі вы ня вернецеся, спадарыку, дык і я не, гэта дакладна. "*Ты ж яго не пакідай!*" – так яны мяне папярэдзілі. "*Пакінуць? Ды ніколі! Няхай ён на месяц*

*караскацца ўздумае й няхай толькі гэныя чорныя стануць упоперкі – будуць справы мець з Сэмам Гэйхадам!*" – гэтак я адказаў. А яны засьмяяліся.

– Якія такія "яны", ты пра каго гаворыш?

– Эльфы, спадару. Я гаманіў зь імі мінулай ноччу. Падавалася, яны ведалі, што вы зьбіраецеся адгэтуль сысьці, таму я й ня стаў адгаворвацца. Цудоўны, цудоўны народ, эльфы! Найцудоўнейшы!

– Яны такія. І як, зірнуўшы на іх побач з сабою, не перамяніў думкі, яны па-ранейшаму табе падабаюцца?

– Ведаеце, спадару, яны, як бы мовіць, па-над усімі маімі "падабаецца" ці "не падабаецца". І зусім няйстотныя мае думкі пра іх. Я чакаў зусім ня тое. А яны ж і старыя – і маладыя, такія радасныя – і сумныя адначасна.

Фрода зірнуў на Сэма зь зьдзіўленьнем, нібыта жадаючы пабачыць нейкі вонкавы адбітак перамены, што, здэцца, раптоўна адбылася зь ім. Гэта былі словы не таго Сэма Гэйхада, якога Фрода добра ведаў ці толькі лічыў, што ведаў. Не, звонку – той самы Сэм, хіба твар незвычайна задуменны.

– Ці хочаш ты пакінуць Шыр цяпер, калі твая мара пабачыць эльфаў ужо збылася? – спытаў Фрода.

– Так, спадару. Ня ведаю, як казаць, але ж пасьля мінулае начы я сябе адчуваю нейк па-іншаму. Быццам бачу далей наперад, вось гэтак. Ведаю – перад намі доўгі шлях, і ў цемру, але таксама ведаю – назад не павярну. Цяпер ня дзеля таго, каб пабачыць эльфаў, ці цмокаў якіх, ці горы, не – я й сам цяпер добра ня ведаю, чаго хачу. Проста трэба зрабіць нешта ў жыцьці, і каб зрабіць, трэба йсьці наперад, а не вяртацца ў Шыр. Мне абавязкова трэба йсьці побач з вамі й зьдзейсьніць, калі вы мяне разумееце, спадару.

– Не зусім. Але ж даволі, каб уцяміць: Гэндальф абраў мне добрага спадарожніка. Мы пойдзем разам, Сэм.

Фрода даеў моўчкі. Потым устаў, агледзеў далячынь перад сабою й паклікаў Піпіна.

– Ці ўсё падрыхтавана, каб выходзіць? – спытаўся. – Рушым неадкладна. Заспаліся, а яшчэ йсьці ды йсьці.

– Маеш на ўвазе, ты заспаўся. Бо я ўжо даўно ня сплю. Мы ўсё чакалі, пакуль ты скончыш сьнедаць – і думаць.

– Дык я скончыў. Цяпер я думаю як мага хутчэй дабрацца да пераправы ў Бычышчах. І не па дарозе, зь якой мы сышлі ўчора, а напрасткі якраз адсюль.

– Напэўна, ты сабраўся лётаць. Пехам напрамкі ў гэтых краёх аніяк не прабярэсься.

– Прабярэсься, прамей за тую дарогу ва ўсялякім выпадку. Пераправа – на ўсход ад Лясной сядзібы, а дарога адхіляецца налева, вунь, і адсюль бачна. Яна дае пятлю ўздоўж паўночнага ўскрайку Багнючынаў, каб злучыцца з гасьцінцам ад мосту за Бярвішчам. Гэта вёрсты ўбок ад нашага прызначэньня. Калі рушым напрасткі ад месца, дзе стаім, да пераправы – скароцім шлях на чвэрць.

– Проста пойдзеш, ды крыва выйдзеш, – запярэчыў Піпін. – Мясьціна тут ня надта роўная, а Багнючыны – гэта дрыгва й іншыя вабноты накшталт таго. Я гэтыя краі ведаю. А калі ты пераймаесься Чорнымі Вершнікамі, дык розьніцы няма, ці на дарозе іх напаткаць, ці ў лесе.

– У лесе, ведаеш, цяжэй адшукаць. Таксама, калі нехта лічыць, што табе зручней шыбаваць па дарозе, дык ён і шукаць цябе будзе менавіта ўздоўж дарогі, а ня ў лесе ці ў дрыгве.

– Ну, добра! – пагадзіўся Піпін. – Калі хочаш, палезу за табою ў любую яміну ды багнючыну. Але хутчэй гэта ня будзе, пабачыш. Эх, а я ўжо разьлічваў завітаць увечары ў бярвішчанскі "Залаты шасток". Калісьці там было, а можа й ёсьць, найлепшае ва ўсім Усходнім падзеле піва. Даўнютка я яго не каштаваў!

– Тады абавязкова напрасткі. Яно хоць і крыва часьцяком выходзіць, але ж шынок зусім з ног валіць. Таму мы абавязаны ўратаваць цябе ад "Залатога шастка" чаго б нам гэта ні каштавала. Бо трэ дабрацца ў Бычышчы да цемры. Што скажаш, Сэме?

– Я з вамі, спадар Фрода, – сказаў Сэм (хоць сам і затужыў горка па найлепшым ва ўсім Усходнім падзеле піве).

– Ну, раз нам наканавана прадзірацца праз хмызьняк ды дрыгвяк, гайда прадзірацца! – сказаў Піпін.

Стала сьпякотна, амаль як учора, але на захадзе грувасьціліся хмары. Відавочна, зьбіралася на дождж. Хобіты спусьціліся, коўзаючыся на крутым схіле, і паглыбіліся ў лес. Разьлічвалі пакінуць Лясную сядзібу леваруч, прайсьці напрамкі празь лес на ўсходнім ускрайку пагоркаў і за імі выбрацца на роўнядзь. А там мо й проста да пераправы, хіба што колькі канаваў ды агароджаў патрапіцца на шляху. Паводле Фродавага разьліку, напрамкі было ня болей за васямнаццаць вёрстаў.

Неўзабаве высьветлілася, што гушчар больш шчыльны, чым падавалася зьверху. Праз зарослы буралом сярод дрэваў не было аніякіх сьцежак, таму прадзіраліся марудна. Калі дабраліся да самага нізу схілу, убачылі перад сабою рачулку з даволі высокімі, сьлізкімі, стромкімі берагамі, зарослымі кустамі ажыны, што нават навісалі над вадою. І было ані абысьці тую рачулку, ані скочыць празь яе, ані перабрацца без таго, каб вымакнуць, запэцкацца ў брудзе й падрапацца. Яны спыніліся, мяркуючы, што ж рабіць.

– Першая неспадзяванка! – нявесела ўсьміхнуўся Піпін.

Сэм Гэйхад азірнуўся: скрозь прасьвет сярод дрэваў быў бачны верх схілу, зь якога яны спусьціліся.

– Зірніце! – усклікнуў Сэм, ухапіўшы Фрода за руку. Усе паглядзелі ўгору – і там, высока, убачылі каня, а побач – нахіленую чорную постаць.

Адразу ж расхацелася вяртацца назад. Фрода першы пачаў ламіцца праз кусты ля рачулкі.

– Вох! – азваўся ён Піпіну. – Абодва мы, як відаць, маем рацыю: напрасткі выйшла крыва, але ж і схаваліся мы своечасова. У цябе найвастрэйшы слых, Сэме, ці чуеш ты, мо набліжаецца хто?

Замерлі, прыслухоўваючыся й амаль ня дыхаючы. Не, пагоні не чуваць.

– Наўрад ці ён пацягне каня ўніз па такім схіле, – сказаў Сэм. – Але, здаецца, ён ведае, што мы тут спусьціліся. Лепей пасьпяшацца.

Сьпяшацца было ня лёгка. Заплечнікі ледзь пралазілі праз гушчар, цяжка дыхалася ў сьпякоце, бо схіл за сьпінамі адгароджваў ад ветру. Калі нарэшце праламаліся да месца менш зарослага, запыхаліся, стаміліся й падрапаліся з ног да галавы. І ня ведалі болей, у якім напрамку рухацца. Бераг рачулкі зрабіўся ніжэйшым, амаль на ўзроўні з вадою, а сама яна пашырэла й паплытчэла, струменячы ў бок Багнючынаў ды Бранявіну.

– Ну, дык гэта Бярвішчанка! – усклікнуў Піпін. – Каб вярнуцца на свой шлях, нам трэ хутчэй пераправіцца й завярнуць направа.

Яны перайшлі праз рачулку й пасьпяшаліся праз шырокую роўнядзь, бязьлесую, зарослую чаротам. Перасекшы яе, зноў паглыбіліся ў лес, пушчу з высокіх дубоў,

сярод якіх дзе-нідзе траплялiся асіны ці вязы. Тут ямінаў амаль не было, і падлеску таксама, але ж дрэвы расьлі надта шчыльна й далёка наперад не было відаць. Раптам вецер шкуматнуў лісьце й з захмараных нябёсаў упалі першыя кроплі дажджу. Вецер сьцішыўся, і дождж паліў на ўсю моц. Хобіты ўпарта крочылі па траве й тоўстым покрыве старога лісьця. Вада зьбягала па іх струменьчыкамі. Ішлі моўчкі, толькі часта азіраліся.

Праз паўгадзіны Піпін заўважыў:

– Спадзяюся, мы не ўзялі надта на поўдзень і не шыбуем уздоўж гэнага лесу. Бо ён не такі ўжо шырокі – ну, зь вярсту сама больш. Мы даўно ўжо павінны былі яго перасекчы.

– Наўрад ці нам варта хадзіць зігзагамі, – сказаў Фрода. – Шчэ болей заблытаемся. Пойдзем як ідзецца. Я ўвогуле не сьпяшаўся б выходзіць зь лесу.

Яны прайшлі яшчэ колькі вёрстаў. Сонца зноў блiснула між падраных аблокаў, і дождж сьцішыўся. Хобіты адчулі, што зараз самы час паджалюбаць і прыпыніліся пад вязам. Ягонае лісьце, ужо амаль цалкам зжаўцелае, але яшчэ густое, хавала ад кропляў, пад дрэвам было суха. А калі ўзяліся ладзіць пад'едак, убачылі, што эльфы напоўнілі біклажкі празрыстым залацістым трункам – настоеным на духмяным мёдзе, сабраным з мноства кветак, – які надзвычай асьвяжаў. Неўзабаве хобіты рагаталі, забыўшыся на дождж і на Чорных Вершнікаў. Падавалася, апошнія колькі вёрстаў хутка застануцца за сьпінамі.

Фрода прыхіліўся да дрэва й змружыў вочы. Сэм зь Піпінам паселі побач, замармыталі песеньку, а хутка й засьпявалі, праўда, ня ў поўны голас:

*Гэй! Гэй! Налі мне паўней,*
*Тугу разгані ды сэрца сагрэй.*
*Зьліва – лупцуй! Віхура – шалей!*
*Дарога – прастуй далей і далей!*
*А я сабе ціха пад дрэвам прылягу,*
*Зірну на нябёсы, тады – у біклагу!*

– Гэй! Гэй! – завялі яны ўголас. І раптам абарвалі. Фрода ўскочыў. Зь ветрам данеслася доўгае выцьцё, нібыта самотная, злая жальба якойсь злой самотнай істоты. Яно ўздымалася й аціхала ды скончылася на высокай пранізьлівай ноце. Хобіты здранцьвелі – і пачулі другі крык, нібыта адказ, слабейшы, аднекуль з далечыні, але ж ня менш жахлівы за першы. А потым наступіла цішыня, якую парушаў толькі шэпт ветру ў лісьці.

– Як мяркуеце, што гэта было? – спытаў Піпін нарэшце бадзёра, але голас ягоны крыху дрыжэў. – Калі птушка, дык я такой аніколі ў Шыры ня чуў.

– Ані птушка, ані зьвер, – адказаў Фрода. – Нехта паклікаў – і нехта адказаў. Я нават словы там адрозьніў, хоць і не зразумеў. Але ж ніякі хобіт такога голасу ня мае.

Болей пра гэта не размаўлялі. Усе падумалі пра Вершнікаў, але ніхто пра іх нічога не сказаў. Хобітам ужо не хацелася ані выпраўляцца, ані заставацца на месцы, аднак раней ці пазьней трэба было прайсьці праз адкрытую роўнядзь да пераправы. Вядома, было б лепш раней і пры дзённым сьвятле. Хутка плецакі былі за сьпінамі.

Нечакана лес скончыўся й перад хобітамі легла шырокая, зарослая травою роўнядзь. Цяпер убачылі: моцна адхіліліся на поўдзень. За роўнядзьдзю ўжо быў відаць невысокі пагорак Бычышчаў – цяпер леваруч ад хобітаў. Выпаўзшы ціхенька з-за дрэваў, круцячы галовамі на бакі, хобіты што моцы кінуліся па траве.

Спачатку баяліся, бо аніяк жа не схаваесься, і Фрода, азіраючыся, усё чакаў, што ўбачыць на вяршыні далёкай стромы – там, дзе сьнедалі раніцою, – чорную постаць вершніка. Але ж ня ўбачыў. Праз падраныя аблокі зноў зырка зьзяла сонца, схіляючыся долу, да пагоркаў. Хобіты нават перасталі баяцца, хоць яшчэ й непакоіліся крыху. Мясьціны рабіліся ўсё болей дагледжанымі, добра апрацаванымі. Абапал леглі палі ды лужочкі, парканы, брамкі ды канаўкі для сьцёку вады. Усё ўладкавана й спакойна – звычайны куток Шыру. Хобітаў настрой узьнімаўся з кожным крокам. Рака набліжалася, і Чорныя Вершнікі ўжо падаваліся ляснымі зданямі, прывідамі, якіх пакінулі далёка за сьпінамі.

Прайшлі ўздоўж вялізнага поля рэпы й апынуліся перад брамаю. За ёю прысады зь нізкімі дагледжанымі жывымі агароджамі абапал вялі да купкі дрэваў. Піпін спыніўся.

– Вох, я ж ведаю гэтую браму й палі! Гэта Крывы Асьмярык, селішча старога Блазна. Вунь там, між дрэваў, ягоная сядзіба!

– З агню ды ў полымя, – усклікнуў Фрода, такі напалоханы, быццам Піпін абвесьціў пра цмокаву пячору наперадзе, а не пра хобіцкую хату. Усе паглядзелі на яго зьдзіўлена.

– Што ня так з старым Блазнам? – спытаў Піпін. – Ён добры сябра ўсім Бронь-Бычам. Вядома, бадзягаў шугае яшчэ як, і сабакі ў яго – сапраўдныя пачвары, ну дык памежжа побач, трэба ж сядзібу трымаць.

– Ведаю, – уздыхнуў Фрода, і дадаў зь вінаватай усьмешкаю. – Але ўсё ж я баюся ягоных сабак. Я ўжо шмат гадоў на ягоную зямлю ні нагой. Ён мяне разоў колькі лавіў, калі я па грыбы лазіў – у маленстве, калі яшчэ ў Прырэчнай сядзібе жыў. Апошні раз адлупцаваў, а потым паказаў сваім сабакам і сказаў: "*Гэй, хлопцы, калі гэты малы валацуга сюды хоць нос суне, жарце яго жыўцом! А зараз – правядзіце яго!*" Аёечкі, яны за мною да самай пераправы йшлі. Я так і тросься, хоць пачвары справу ведалі й мяне не кранулі б.

– Ну, тады сама час, каб наладзіць стасункі! – засьмяяўся Піпін. – Асабліва, калі зьбіраесься жыць у Прыбыччы. Стары Блазан – хобіт, якіх яшчэ пашукаць, ну вядома, калі не чапаюць ягоныя грыбы. Пойдзем па сьцежцы як прыстойныя хобіты, і анічога нам не пагражае. Калі яго сустрэнем, размаўляць буду я. Ён – сябра Мэры, і я разам зь ім сюды калісьці часьцяком наведваўся.

Хобіты рушылі па прысадах і ўбачылі сярод дрэваў саламяныя стрэхі вялізнай хаціны й іншых пабудоваў немалога падвор'я. Блазны, бярвішчанскія Лапарукі ды жыхары Багнючынаў нораў не капалі. І гэтая сядзіба была цагляная, таўстасьценная й надзейная, ды яшчэ й агароджаная высокім мурам. Прысады выводзілі да шырокай драўлянай брамы ў сьцяне.

Як наблізіліся, раптам пачуўся жудасны брэх ды рык, і гучны голас загадаў:

– Цап! Воўк! Ікал! А ну, хлопцы!

Сэм з Фрода зьнерухомелі на месцы, але Піпін зрабіў колькі крокаў наперад. Брама адчынілася, і тры велізарныя сабакі выскачылі на прысады й панесьліся да вандроўнікаў зь лютым брэхам. На Піпіна ўвагі не зьвярнулі. Сэм прыціснуўся да сьцяны, два надзвычай падобныя да ваўкоў сабакі абнюхвалі яго, пабрэхваючы, калі толькі спрабаваў варухнуцца. Найбольшы зь іх, дый, відаць, найлюцейшы, стаў перад Фрода пагрозьліва рыкаючы.

З-за брамы зьявіўся каржакаваты шыракаплечы хобіт з круглым чырвоным тварам.

– Гэй! Хто такія, чаго вам трэба?

– Добры вечар, спадару Блазьне! – адказаў Піпін.

Хобіт прыгледзеўся:

– Ну, а ці ж гэта не спадарыку Піпіне? – тады ўсклікнуў: – Пане Перыгрын Хват, вось як!

І суворасьць на ягоным твары зьмянілася ўсьмешкаю.

– Даўнютка ж я вас ня бачыў тутака. Добра, што пазнаў, а тое ўжо й сабак спусьціў, быццам на валацугаў. Сёньня ўжо, ведаеце, прышвэндаўся адзін. Вядома ж, каго толькі сюды трасца ня носіць. Бо да ракі рукою падаць, – казаў ён, сумна хітаючы галавою. – Але ж той, што прыперся сёньня, – я такую дзівоту ўжыцьці ня бачыў. Я такім аніколі й нагою на маю зямлю стаць не дазволю.

– Хто ж гэта такі? – спытаў Піпін.

– А вы яго ці ж ня бачылі? Ён ось толькі й зьехаў, якраз прысадамі да гасьцінцу. Дзіўная набрыдзь, і пытаньні ягоныя таксама. Але ж мо завіталі б да мяне ў хату, тады й пагаманілі б спакайней. У мяне там піўка троху ёсьць пачаставацца, калі вашаць і сябры вашэцевы ня супраць, спадарыку Хваце.

Падавалася, што гаспадар сядзібы распавядзе болей, калі дазволіць яму гутарыць па-свойму, у хаце ды за пачастункам, таму вандроўнікі запрашэньне прынялі.

– А як з сабакамі? – спытаў Фрода баязьліва.

Гаспадар засьмяяўся:

– Калі не загадаю, дык яны не крануць. Цап! Ікал! Сюды, гэй! Гэй, Воўк!

На вялікую палёгку Фрода з Сэмам, сабакі адышлі ад іх.

Піпін пазнаёміў сяброў з Блазнам.

– Вось, гэта спадар Фрода Торбінс. Можа, вы яго й ня памятаеце, але ён жыў калісьці ў Прырэчнай сядзібе.

Пачуўшы імя *Торбінс*, гаспадар раптам зірнуў на Фрода зь зьдзіўленьнем. На імгненьне Фрода падумаў, што той узгадаў скрадзеныя грыбы й вось зараз спусьціць сабак. Аднак Блазан толькі ўхапіў яго за руку.

– Ну, ці ж гэта не дзівосьней за ўсё? – усклікнуў ён. – Спадар Торбінс! Трэба ж! Ну, заходзьце, заходзьце! Трэ паразмаўляць!

Увайшлі ў хату, на кухню, ды прыселі каля вялікага агменю. Спадарыня Блазнава прынесла піва ў велізарным гарлачы ды напоўніла зь яго чатыры ладныя куфлі. Яно было надзвычай файнае, Піпін адразу забыўся, што не патрапіць у "Залаты шасток". Сэм жа пацягваў пітво асьцярожна. Ён з маленства не давяраў жыхарам гэтай часткі Шыру, дый увогуле не сьпяшаўся сябраваць з тымі, хто зьбіваў яго гаспадара, хай сабе й гады таму.

Пасьля нядоўгай размовы пра надвор'е ды пэрспэктывы на ўраджай (відавочна, ня горшыя як зазвычай) спадар Блазан адставіў свой куфаль і запытальна зірнуў на гасьцей.

– Так, спадарыку Перыгрыне, адкуль жа ваша ідзе й куды кіруецца? Да мяне ў госьці? Тады чаму ж ля брамы прайшоў і папросту не завітаў?

– Не зусім у госьці, калі шчыра, – адказаў Піпін. – Вы ўжо й здагадаліся, мусіць, што мы падышлі да прысадаў зь іншага боку – праз вашыя палі. Але ж гэта цалкам выпадкова. Мы згубіліся ў лесе паблізу Лясной сядзібы, спрабуючы выйсьці напрасткі да пераправы.

– Калі сьпяшаліся, лепей ішлі б па дарозе. Але ж мяне ня гэта турбуе. Вашці я дазваляю хадзіць праз маю зямлю, калі пажадаеш, спадару Перыгрыне. І вашці таксама, спадар Торбінс, хоць ваша, пэўна, і цяпер да грыбкоў ласы, га? – Блазан рагатнуў. – Так, памятаю, памятаю. Колісь малады Фрода Торбінс быў ці не

найгоршы пралаза ва ўсім Прыбыччы. Адылі я цяпер не пра грыбы думаў, пачуўшы імя вашці. Мяне пра вашу спыталі во перад тым, то бок як спадар зьявіўся. Пра каго ж, як мяркуеш, распытваў гэны чужынец?

Хобіты ўстрывожана чакалі, што ж Блазан будзе распавядаць далей.

– Так, – сказаў той, дабраўшыся, нарэшце, да самага цікавага, павольна й зь відочным задавальненьнем, – ён зьявіўся верхам на здаравенным чорным кані, пад'ехаў да саменькай брамы. Як бо тая была адчыненая, дык ён проста да маіх дзьвярэй. Сам чорны ўвесь, у плашчы, з каптуром насунутым, быццам ня хоча, каб твар бачылі. Я сам сабе мяркую: "Што ж яму тутака, у Шыры, трэба?" Даўгалыгі народ зрэдку тут пабачыш, дый я ўвогуле пра гэтакіх чорных аніколі ня чуў. Выйшаў да яго, кажу: "*Дабрыдзень вам. Дарога гэтая анікуды не вядзе. Куды б вы ні скіроўваліся, прасьцей будзе да гасьцінцу вярнуцца*". Не даспадобы мне ягоны выгляд быў, а калі Цап выскачыў, дык толькі разок нюхнуў – і як завішчыць, нібыта ўджалены. Хвост паміж лапаў – і шугануў прэч з выцьцём. А той чорны сядзіць як сядзеў. Кажа мне павольна так, хрыпата: "*Я адтуль*" – і паказвае пальцам на захад – праз мае палі, о табе! Пытае: "*Ці бачыў Торбінса*?" – голасам сваім нягеглым, і хіліцца да мяне. Твару я ня згледзеў, то ж бо каптур нізка насунуты, але ў мяне кузуркі па сьпіне пабеглі. Адылі ж узяло мяне за жывое: якое такое права ён мае праз маю зямлю разьяжджаць? "*Едзьце сабе сваёю дарогаю,* – кажу яму. – *Няма тут аніякіх Торбінсаў, яны ў іншым падзеле жывуць. Едзьце на захад, у Хобіцак, ды па гасьцінцы, калі ласка*". А той шэпча: "*Яго там няма. Ён недалёка. Я хачу бачыць яго. Калі пойдзе побач, паведаміш мне? Золата прывязу*". Адказваю: "*Не, не прывязеш. Таму што вось зараз жа зваліш, адкуль зьявіўся, умомант. Даю табе хвілю – тады спускаю сабак*". Ён зашыпеў – можа, сьмяяўся гэтак, а можа, і не. І прама на мяне рушыў каніскам сваім, я ледзь адскочыў! Паклікаў сабак, а ён разьвярнуўся ды прыпусьціў прысадамі да гасьцінцу, толькі й бачылі яго. Ну, што пра гэта думаеце?

Фрода крыху памаўчаў, пазіраючы ў полымя агменю, але ж думалася яму толькі пра тое, як дабрацца да пераправы. Нарэшце вымавіў:

– Я нават і ня ведаю, што падумаць.

– Тады я так скажу, спадарыку, – азваўся Блазан. – Ня трэ было вашці ўвогуле стасункаваць з хобіцкім народцам. Дзівакаватыя яны там, – тут Сэм засоўгаўся на крэсьле й пахмура зірнуў на гаспадара. – Але ж ваша заўсёды быў хлопцам няўседлівым. Калі я пачуў, што ваша пакінуў Бронь-Бычаў ды выправіўся да старога пана Більба, адразу зазначыў: знойдзе хлапец там ліха на сваю галаву. І знайшоў, пэўне, – і ўсё ад Більбавых справаў, няйнакш. Пане Більба чым займаўся, га? Нейкім чынам незразумелым прыдбаў золата дзесьці за мяжою, во так кажуць. Дык, можа, хто-небудзь адтуль нарэшце й зацікавіўся, як там маюцца золата ды каштоўнасьці, якія пан Більба ў хобіцкай Строме прыхаваў?

На гэтакае Фрода не адказаў анічога, бо Блазнавы здагадкі патрапілі надзвычай блізка да праўды.

– Добра, спадарыку Фрода. Добра, што ў вашці нарэшце хапіла розуму вярнуцца ў Прыбычча. Мая вашэцю парада: там і заставацца! І не чапляцца з замежнікамі гэнымі. У спадара тут ё сябры, так скажу, і калі толькі чорны гэны зноў сьледам сунецца, пакінь мне зь ім разабрацца. Скажу ім, што памёр паніч альбо з Шыру зьехаў, дый што заўгодна скажу. А тое мо й праўда – няйначай старога пана Більба шукаюць.

– Магчыма, так яно й ёсьць, – згадзіўся Фрода, пазіраючы ўбок, на полымя, толькі не гаспадару ў вочы.

Блазан зірнуў на Фрода задумліва.

– Ну, бачу, у вашці сваё ў галаве. Тут усё ясна – невыпадкова вас ды таго коньніка занесла да мяне адным узьвячоркам. Можа, і навіны мае не такія ўжо навіны для ўсіх вас. Не хачу распытваць пра тое, што спадар вырашыў пакінуць пры сабе, але ж бачу: бяда ў вашці. Мо турбуесься, як гэта дабрацца да пераправы, каб ня сцапалі па дарозе?

– Так, – адказаў Фрода. – Я пра тое й думаў. Мы павінны туды патрапіць, а толькі седзячы ды мяркуючы анікуды не прыедзеш. Баюся, трэба нам ісьці. Дзякуй вам вялікі за вашую дабрыню! Ведаеце, трыццаць гадоў я баяўся вас і вашых сабак, хоць гэта й сьмешна гучыць. Шкада, бо ня ведаў, які добры ў мяне сябра. Шкада так хутка пакідаць вас. Але я вярнуся, калі толькі здолею.

– І калі ласка, заўсёды рады вітаць. Адылі ў мяне прапанова. Ужо й сонца хутка зойдзе, мы вячэраць зьбіраемся, бо кладземся зь цемраю. Калі ласка, пане Фрода, пане Перыгрыне, шаноўнае спадарства, павячэрайце з намі!

– Мы з задавальненьнем! – сказаў Фрода. – Але ж нам трэба йсьці неадкладна. Мы й так толькі зь цемраю й дабярэмся да пераправы.

– А, дык пачакайце ж! Я якраз зьбіраўся прапанаваць: праглынем кавалачак ці два ды я вас на малым вазку да пераправы й адвязу. Ногі цалейшыя застануцца, а мо й усё астатняе. І даберацеся хутчэй.

Цяпер Фрода, да вялікай палёгкі Піпіна з Сэмам, з удзячнасьцю прыняў запрашэньне. За вакном сутонела. Сонца хілілася за заходнія пагоркі. На кухню зайшлі двое з Блазнавых сыноў ды тры дачкі й на вялікім стале зладзілі багатую вячэру. У агмень падкінулі дроваў, запалілі й парасстаўлялі па стале сьвечкі. Блазнава бяз продыху мітусілася па кухні. Зайшлі й яшчэ колькі хобітаў, якія рабілі на Блазнавай гаспадарцы, таксама паселі за стол. Набралося ўсяго чатырнаццаць галоваў. Піва за сталом было хоць абпіся, а пасярод стаяла велізарная міса з грыбамі й сьвінінаю, дый усялякай іншай вясковай ежы хапала. Сабакі ляжалі каля агню, пад'ядалі скуркі й грызьлі косткі.

Калі скончылі вячэраць, гаспадар з сынамі выйшлі зь ліхтаром і выцягнулі вазок. Калі госьці нарэшце выбраліся з хаты, было ўжо цёмна. Хобіты закінулі хатулі на вазок, тады ўскараскаліся самі. Гаспадар сам узяўся кіраваць, сеў наперадзе ды сьцёбнуў пугаю двох жвавых тлусьценькіх поні. Тут выйшла на двор і Блазнава, стала ў сьвятле ад адчыненых дзьвярэй.

– Ты ж пасьцеражыся, Блазане! – гукнула яна. – Ані зь якімі збродамі не чапляйся ды вяртайся хутчэй!

– Анягож! – азваўся той.

Вазок выехаў за браму. Цяпер і аніводны лісток не варушыўся, ноч была надзіва спакойная, бязьветраная, але адчуваўся халадок. Ехалі ў цемры, павольна. Празь вярсту ці дзьве прысады скончыліся мастком цераз глыбокае ўрвішча. Пасьля яго вазок успоўз па кароткім схіле й апынуўся на шырокім гасьцінцы.

Блазан зьлез, прайшоўся туды-сюды, зірнуўшы на поўдзень і на поўнач, але ў цемры нічагуткі не было відаць, і ані гуку не чувалася ў нерухомым паветры. Над канаўкамі ля гасьцінцу віселі танюткія пасмачкі туману, марудна паўзьлі па палёх.

– Так, з гэным туманом будзе хоць вока выкалі, – сказаў Блазан. – Але ж я ліхтар запальваць ня стану, покуль дахаты не павярну. Хто б ні ехаў, мы пачуем яго нашмат раней, чым пабачым.

Ад Блазнавых прысадаў да пераправы было вёрстаў пяць. Хобіты сядзелі, загарнуўшыся ў плашчы, ды напружана прыслухоўваліся: што там яшчэ, апроч

рыпеньня колаў і павольнага "туп, туп" капытоў поні. Фрода вазок падаваўся больш павольным за сьлімака. Піпін ужо й носам торкаў. Сэм насьцярожана ўглядаўся ў туман, што, здэцца, шчыльнеў.

Нарэшце дабраліся да павароту на пераправу. Яго адзначалі два высокія белыя слупы, якія раптам узьніклі зь цемры праваруч ад вазка. Блазан пацягнуў лейцы, і вазок спыніўся. Хобіты пачалі выгружацца й раптам пачулі тое, чаго ўвесь час так баяліся: пошчак капытоў наперадзе. Нехта ехаў да іх!

Блазан саскочыў, стаў наперадзе, трымаючы поні пад аброць ды ўглядаючыся ў цемру. "Тупу-туп" – гучна й выразна адбівалася ў нерухомым паветры.

– Лепей вам схавацца, пане Фрода, – папрасіў Сэм занепакоена. – Кладзіцеся ў вазок, мы вас коўдрамі загорнем і самі ад таго вершніка адгаворымся як-небудзь.

Сэм зьлез долу й стаў побач з Блазнам. Што ж, калі гэта Чорныя Вершнікі, дык ім давядзецца мець справы з Сэмам, пакуль дабяруцца да вазка.

"Тупу-туп, тупу-туп" – вершнік ужо побач.

– Гэй, там! – паклікаў Блазан.

Пошчак раптам сьцішыўся. Падалося, скрозь туман відаць змрочная, загорнутая ў плашч постаць – крок ці два наперадзе.

– Ну, і хто тут? – спытаў Блазан, аддаў лейцы Сэму й рушыў наперад. – Ані кроку болей! Хто такі, чаго тут шукаеш!?

– Шукаю спадара Торбінса. Вы яго бачылі? – вымавіў глухі голас... Але ж гэта быў голас Мэры Бронь-Быча!

Тут вершнік адкінуў покрыва зь ліхтара, асьвятліўшы зьдзіўлены Блазнаў твар.

– Спадару Мэры! – усклікнуў той.

– Ну так! А каго ж вы яшчэ чакалі? – сказаў Мэры, пад'язджаючы. Цяпер, калі пазналі й перасталі баяцца, адразу відавочна зрабілася: ну, звычайны ж хобіт на поні, шалікам заматаны да рота, каб ня зьмерзнуць.

Фрода выскачыў з вазка павітацца.

– Вунь ты дзе! – усклікнуў Мэры. – А я ўжо засумняваўся, ці зьявіцеся сёньня ўвогуле, якраз вяртаўся дахаты, каб павячэраць. Бо калі туман узьняўся, вырашыў праехацца да Бярвішча, зірнуць, ці не зваліліся вы ў якую канаву. Каб вам добра было, дзе ж вы швэндаліся!? Дзе вы іх падабралі, спадару Блазьне? З копанкі сваёй вылавілі?

– Не, прыхапіў, калі залезьлі на маю зямлю. Ледзь сабак на іх не спусьціў. Але ж шаноўныя паны самі табе распавядуць. Цяпер, перапрашаю, пане Мэры, пане Фрода, шаноўнае спадарства, мне дахаты трэба. Гаспадыня мая турбуецца, і туман усё шчыльнейшы.

Ён завёў вазок у праезд да пераправы й выехаў, разьвярнуўшыся гэткім манерам.

– Ну, дабранач усім! Такі дзіўны дзень, нічога ня скажаш. Аднак усё добра, што добра сканчаецца, хоць мо й ня варта так казаць, пакуль не дабраліся да ўласных дзьвярэй. Я ўжо дакладна ўздыхну з палёгкай, калі крочу на свой ганак.

Ён запаліў ліхтары ды прыўзьняўся з лавы. Раптам выцягнуў з-пад яе вялікі кошык.

– Ледзь не забыўся. Гаспадыня мая спакавала для спадара Торбінса, з найлепшымі пажаданьнямі, – ён аддаў кошык ды рушыў прэч, у суправаджэньні падзяк і пажаданьняў дабраначы.

Блядныя кругі сьвятла ад ягоных ліхтароў паволі расталі ў туманнай цемры. Раптам Фрода зарагатаў: з-пад накрыўкі кошыка струменіўся смачны грыбны пах.

*5. Змова раскрываецца*

Цяпер пасьпяшаймася й мы дахаты, – прапанаваў Мэры. – Бачу, нешта тут у вас надта цікавае робіцца, але, відаць, яно пачакае, пакуль даберамося.

Рушылі ўніз да пераправы па гасьцінцы – прамым, добра дагледжаным, абкладзеным з бакоў вялікімі пабеленымі камянямі. Праз сотню крокаў ці каля таго выйшлі на бераг да шырокага драўлянага прыпаромку зь вялікім пляскатым паромам. У сьвятле двух ліхтароў, падвешаных на высокіх палах, бялелі ля вады швартовыя слупкі. За сьпінамі хобітаў па палёх слаўся туман, уздымаючыся ўжо вышэй за жывыя агароджы. Але ён не крануў ракі, хіба што ў чаратах на беразе віліся, нібы над кіпнем, танюткія пасмачкі. Перад хобітамі плынела чорная вада. Падавалася, на другім беразе туман меншы.

Мэры завёў па мастку на плыт поні. Тады зайшлі й астатнія хобіты. Мэры нясьпешна адпіхнуўся доўгай жэрдкаю, плыт рушыў зь месца – у шырокі павольны Бранявін. Другі бераг быў стромкі. Па ім, віючыся, караскалася ад прыпаромку сьцежка. Там таксама паблісквалі ліхтары. Наверсе ўздымалася Бычая Строма. На ёй праз падраную завесу туману зьзялі чырвоным ды жоўтым круглыя вакенцы. Гэта былі вокны Прырэчнай сядзібы, старажытнага жытла Бронь-Бычаў.

Шмат гадоў таму Гарыдзед Старабыч, галава сям'і Старабычаў, найстарэйшай на Багнючынах ці нават ва ўсім Шыры, перабраўся за раку, якая да таго была ўсходняй мяжою шырскіх земляў. Там ён пабудаваў і павыкопваў норы Прырэчнай сядзібы, зьмяніў імя на Бронь-Быч ды заснаваў, па сутнасьці, маленькую, але ж незалежную краіну. Сям'я ягоная ўсё памнажалася ды памнажалася, нават і пасьля яго, пакуль уся строма ня стала Прырэчнай сядзібай – з трыма вялікіміараднымі брамамі, безьліччу бакавых дзьверцаў ды з сотняю вакенцаў. Потым Бронь-Бычы й шматлікія іх паплечнікі й паслужнікі папараскопвалі й папазабудоўвалі ўсё навокал. Гэтак вось і атрымалася Прыбычча, шчыльна заселеная паласа земляў паміж ракою й Старой пушчай, амаль незалежная шырская калёнія. Яе сталіцаю была вёска Бычышчы – на рачным беразе й схілах пагоркаў за Прырэчнай сядзібай.

Прыбычцы сябравалі з народам Багнючынаў, і сяляне ад Бярвішча да Чароцінаў яшчэ прызнавалі сябе пад рукою Гаспадара сядзібы (як звалі галаву роду Бронь-Бычаў). Аднак большасьць насельнікаў старога Шыру лічыла прыбычцаў напалову чужынцамі ды дзівакамі. Хоць яны й не адрозьніваліся амаль ні ў чым ад хобітаў Чатырох Падзелаў, хіба што любілі плаваць у чоўнах, а некаторыя й бязь іх, самі.

Спачатку іхняя зямля не была нічым агароджаная з усходу. Цягам часу пабудавалі заслону – Засеку, як яе назвалі прыбычцы. У Фродаў час яна існавала ўжо некалькі стагодзьдзяў. Яе няспынна рамантавалі й аднаўлялі, высокая й тоўстая, яна цягнулася ад Бранявінскага мосту, выгінаючыся разам з ракой, да Засечышчаў, дзе пятлявая Іўя ўпадала ў Бранявін, пакідаючы Старую пушчу, – амаль дваццаць вёрстаў ад аднаго канца да другога. Вядома, Засека не гарантавала цалкам надзейнай абароны. На ноч прыбычцы зачынялі дзьверы на замок, што таксама для Шыру было нязвыкла.

Плыт павольна рушыў па вадзе. Прыбыцкі бераг набліжаўся. Сэм адзін з усёй кампаніі раней ня быў за ракою. І пачуваўся няўтульна, паглядаючы на павольную плынь, што ціха ўсхліпвала: колішняе жыцьцё засталося там, за туманамі, а наперадзе чакала невядома што, змрочнае й жудаснае. Сэм пачухаў патыліцу – вох, каб толькі спадар Фрода застаўся сабе ў Торбе дый жыў спакойна!

Хобіты ўжо крочылі на бераг, Мэры ўжо прывязаў плыт, а Піпін выводзіў поні наверх па сьцежцы, калі Сэм, які ўсё паглядаў назад, быццам разьвітваючыся з Шырам, прашаптаў хрыпата:

– Азірніцеся, спадару Фрода! Ці бачыце?

На далёкім беразе ў сьвятле ліхтароў нарысавалася постаць: чорная, невыразная, нібыта пакінуты кімсьці чорны мех. Але ж, падавалася, яна рухалася, гайдалася налева й направа, быццам абшукваючы прыпаромак. Потым папаўзла, пахіленая, назад, у цемру па-за ліхтарамі.

– Дзеля ўсяго Шыру, што гэта? – усклікнуў Мэры.

– Тое, што нас перасьледуе, – адказаў Фрода. – Ня трэ ані пра што распытваць цяпер! Хадзем хутчэй адсюль!

Хобіты хутка падняліся на ўзгорак. Там азірнуліся на супрацьлеглы бераг, але ж яго цалкам зацягнула: за туманом нічога не відно.

– Добра хоць, што вы чаўноў на тым беразе не трымаеце! – сказаў Фрода. – А ці магчыма тут перабрацца на кані?

– Толькі пераплысьці ці праехаць дваццаць вёрстаў на поўнач, да мосту, – адказаў Мэры. – Толькі я ніколі ня чуў пра тое, каб нехта на кані пераплыў Бранявін. А пры чым тут коні?

– Я табе пазьней распавяду. Як патрапім пад свой дах.

– Згода! Вы зь Піпінам ведаеце, куды йсьці. А я паеду, Фуфу Норса папярэджу. Вячэру зладзім дый астатняе.

– Мы павячэралі ў Блазна, але ж і яшчэ раз не адмовімся.

– Ну й добра! Давай мне кошык, – з гэтымі словамі Мэры пагнаў поні наперад і зьнік у цемры.

Ад ракі трэба было яшчэ нямала ісьці да новага Фродавага жытла ў Цвыркуновай лагчыне. Хобіты пакінулі Бычую Строму з Прырэчнай сядзібай леваруч, і ля ўскрайку Бычышчаў выйшлі на галоўны прыбыцкі гасьцінец, які вёў на поўдзень ад мосту. Праз паўвярсты праваруч напаткалі вясковую дарогу, зьвярнулі й прайшлі яшчэ пару вёрстаў, уверх ды ўніз па пагорках.

Нарэшце дабрылі да вузенькай брамкі ў шчыльнай, буйной жывой агароджы. У цемры хата зусім не была відаць, бо стаяла далёка ад дарогі пасярэдзіне шырокага лужка, ды яшчэ й абкружаная колам невысокіх дрэваў. Фрода й абраў гэтую сядзібку таму, што яна схавалася ў самым куце – ані суседзяў паблізу, ані выпадковых мінакоў. Прыходзь, сыходзь – ніхто не заўважыць. Пабудавалі хаціну Бронь-Бычы даўнютка, для гасьцей ці тых сваякоў, што жадалі на пэўны час уцячы ад мітусьні Прырэчнай сядзібы. Будыніна была старамодная, адметна хобіцкая й вельмі нагадвала нару: доўгая, нізкая, з адным усяго паверхам, з дахам, пакрытым дзёрнам, з круглымі вакенцамі й вялікімі круглымі дзьвярыма.

Пакуль ішлі ад брамы, не пабачылі ані вагеньчыка, акенцы былі цёмныя й зачыненыя. Фрода пагрукаў у дзьверы. Адчыніў Фуфа Норс, ярка асьветлены з-за дзьвярэй сяброўным, цёплым сьвятлом. Хобіты хутчэй прасьлізнулі ўсярэдзіну дый зачынілі дзьверы, каб не выпускаць сьвятло вонкі, у ноч. Апынуліся ў шырокай залі зь дзьвярыма аберуч. Наперадзе калідор вёў усярэдзіну хаты. Неўзабаве там зьявіўся Мэры:

– Ну, як вам? Мы намагаліся зрабіць, як у роднай нары. Часу было небагата, праўда, бо апошні вазок з мэбляй толькі ўчора й прыбыў.

Фрода азірнуўся навокал. Сапраўды, падобна. Шмат ягоных улюбёных рэчаў (і Більбавых таксама – яны так нагадалі пра Більба тут, у новым жытле) былі

расстаўленыя амаль гэтак, як і ў Торбе-пад-Стромай. Увогуле, такое прыемнае, утульнае, дабражытнае месца. Нават захацелася насамрэч прыехаць сюды жыць – спакойна, да шчасьлівага скону дзён. Нячэсна было, няправільна так турбаваць сваіх сяброў, бо праз яго столькі недарэчнасьцяў. Як жа распавесьці ім, што трэба ўсё пакінуць, трэба сыходзіць у самым хуткім часе? Найлепей – гэтай самай ноччу, да таго, як усе пакладуцца ў ложкі.

– Цудоўна! – перамог Фрода нарэшце горыч. – Быццам і не пераяжджаў зусім!

Вандроўнікі павесілі плашчы, паскідалі заплечнікі на падлогу й патэпалі за Мэры; ён урачыста расчыніў дзьверы ў дальнім канцы калідору – адтуль бліскала полымя, пыхкала пара.

– Лазьня! – загалёкаў Піпін. – Жыве найшаноўнейшы ягамосьць Мэрыядок!!

– Ну й як пойдзем? – спытаў Фрода. – Найстарэйшыя наперад ці найхутчэйшыя?.. Ці так, ці гэтак, але вы, спадару мой Перыгрыне, апошні!

– А давайце я за вас вырашу, – адгукнуўся Мэры. – Нельга ж пачынаць новае жыцьцё з сваркі ў лазьні. Там, у пакойчыку, ажно тры начоўкі ды паўнюткі катляр кіпню. І ручнікі, дыванкі, мылцы. Лезьце ды мыйцеся хутчэй!

Мэры з Фуфам скіраваліся ў іншы канец калідору – кухарыць, чараваць над позьняй вячэрай. З лазьні чуліся ўрыўкі лазенных песенек ды плёсканьне з вуханьнем. Раптам голас Піпіна перакрыў іншыя адной зь Більбавых самых улюбёных лазенных пяюшак:

*Гэй! Да лазьні сьпякотнай – сьмялей!*
*Змый бадзяньняў брыдоту хутчэй!*
*Хто лазьні добрай ня хваліць, той*
*ніколі ня знаўся з гарачай вадой!*

*Смагу прыцішыць летняй парою*
*добра сьцюдзёнай крынічнай вадою,*
*а ад гарачай – вось табе дзіва! –*
*прагнецца моцнага, пеннага піва!*

*Слаўся, вада фантанаў высокіх,*
*рэчак празрыстых, мораў далёкіх,*
*а болей за ўсё хай славіцца тая,*
*што ў лазьні парай сьпякотнай грае!*

Тут пачуўся жудасны плёскат і Фродаў выгук "Вох!". Выдавала на тое, што ладная частка вады зь Піпінавай начоўкі палічыла сябе вадаграем – узьляцела да столі.

Мэры паклікаў зь дзьвярэй:

– Як наконт вячэры ды глыточку піва?

Выйшаў, выціраючы валасы, Фрода:

– Там столькі вады ў паветры, што я лепей пайду сохнуць на кухню.

– Бацюхны! – вымавіў Мэры, зірнуўшы ў лазьню: на каменнай падлозе можна было плаваць.

– Покі вы ўсё не падатраце, спадару Перыгрыне, вячэраць мы вам не дазволім. Пасьпяшайце, мы доўга чакаць ня будзем.

Вячэраць паселі на кухні, побач з агменем.

– Спадзяюся, вы грыбоў болей не жадаеце? – спытаў Фрэдэгар без асаблівай надзеі.

– Жадаем!! – зычна абвесьціў Піпін.

– Яны мае! – строга сьцьвердзіў Фрода. – Дадзеныя мне самой спадарыняй Блазнавай, каралеўнай усіх сялянскіх гаспадыняў. Лапы прэч! Я сам вам пакладу.

Трэба зазначыць, хобітава прага да грыбоў нашмат пераўзыходзіць найвялікшыя апэтыты даўгалыгіх – што часткова растлумачвае доўгія вылазкі малога спадарыча Торбінса на знакамітыя грыбныя палі Багнючынаў і таксама Блазнава шаленства. Ну, цяпер ужо грыбоў было досыць нават паводле хобіцкіх меркаваньняў. Вядома, тут знайшлося й яшчэ да чаго прыкласьціся, таму, калі скончылі вячэраць, нават Фуфа Норс уздыхнуў задаволена, хоць зь некаторай цяжкасьцю. Паджалюбаўшы, хобіты адсунулі стол і прысунулі фатэлі бліжэй да агменю.

– Ну, прыбярэм апасьля, – сказаў Мэры. – А зараз – распавядайце ўсё. Здэцца мне, вы прыгодаў сабе адшукалі – што нячэсна, бо безь мяне. Таму расповед чакаю найпадрабязьнейшы, а болей за ўсё мяне цікавіць, што такое зрабілася з старым Блазнам, што ён нават з мною гэтак размаўляў. Скажу больш: мне падалося, што ён *спалохаўся*, калі гэткае ўвогуле магчыма.

– Мы ўсе перапалохаліся, – пачаў Піпін пасьля пэўнай паўзы, цягам якой Фрода моўчкі пазіраў на полымя. – І ты таксама спужаўся б, каб за табою два дні гналіся Чорныя Вершнікі.

– Хто такія?

– Чорныя постаці верхам на чорных конях. Раз ужо Фрода маўчыць, я распавяду табе ўсю гэтую гісторыю ад самага пачатку, – і апісаў у падрабязнасьцях падарожжа з таго часу, як пакінулі Хобіцак. Сэм ківаў дый згаджаўся. Фрода маўчаў.

– Я падумаў бы: хлопцы, нешта вы мне лухту верзяце. Калі б ня бачыў сам той чорнай здані на прыпаромніку і каб ня Блазнаў голас. Мо ты нам што патлумачыш, Фрода?

– А, сваяк Фрода апошнім часам сакрэтнічае, – сказаў Піпін. – Ну, мяркую, досыць – час прызнацца. Блазан і той здагадаўся, што тут справа з кляйнодамі, якія прыдбаў падчас вандроўкі стары Більба.

– Гэта толькі здагадка, – прамармытаў Фрода пасьпешліва. – Блазан анічога ня ведае, анічога!

– У старога Блазна на плячох ёсьць галава, – сказаў Мэры. – Ён можа й ня выказаць шмат з таго, што ў ёй згатавалася, і паглядаючы на ягоны круглы твар, пра гэта аніяк не падумаеш. Я чуў, ён заходзіў і ў Старую пушчу. Кажуць, ён безьліч усялякіх дзіўнотаў ведае. А ты хоць бы нам прызнаўся: блізка патрапіў Блазан ці не?

– Мне падаецца, – працягнуў Фрода задумліва, – ён патрапіў досыць блізка. Так, гэта зьвязанае з той даўняй Більбавай прыгодай, і Чорныя Вершнікі шукаюць, а дакладней, перасьледуюць яго ці мяне. Я баюся, калі ўжо вы жадаеце ведаць, тут не да жартаў. І наўрад мне бясьпечна тут заставацца – тут ці дзе яшчэ.

Ён азірнуўся навокал, на вокны й дзьверы, нібыта чакаючы, што яны раптоўна адчыняцца. А хобіты пераглянуліся.

– Вось зараз, – прашаптаў Піпін Мэры. Мэры кіўнуў.

– Добра! – рашуча вымавіў Фрода нарэшце, выпрастаўшыся. – Болей я гэта ў сакрэце трымаць ня буду. Я павінен сказаць вам. Але ж я ня ведаю, як пачаць.

– Тады, можа, я табе дапамагу, – прапанаваў Мэры абыякава, – і сам пра тое скажу.

– Што ты маеш на ўвазе? – занепакоіўся Фрода.

– А тое, даражэнькі мой Фрода, што на душы ў цябе паскудна, бо ня ведаеш, як нам сказаць "бывайце". Вядома, ты даўно хацеў пакінуць Шыр. А небясьпека дагнала цябе раней, чым ты спадзяваўся, і цяпер ты вырашыў сыходзіць адразу ж. Таго не жадаючы. Нам надта цябе шкада.

Фрода адкрыў быў рот – і закрыў. Зьдзіўленьне на ягоным твары было такое сьмешнае, што хобіты зарагаталі.

– Дружа Фрода! – усклікнуў Піпін. – Ты сапраўды лічыў, што мы ні пра што не здагадваемся? Ды табе на гэта не хапае ані асьцярожнасьці, ані розуму! Відавочна, ты шчэ з красавіка плянаваў і ўсё разьвітваўся з сваімі ўлюбёнымі мясьцінкамі. Увесь час мармытаў: "*Ці зірну я калі на гэтую даліну зноў*", і накшталт таго. Рабіў выгляд, што скончыліся грошы, а каму сваю ўлюбёную Торбу прадаў? Кескам-Торбінсам! Дый шчэ з Гэндальфам усе твае гутаркі.

– Зямля й нябёсы! А я лічыў, што такі асьцярожны, усё так прыдумаў. Што ж цяпер Гэндальф скажа? Што, увесь Шыр цяпер гамоніць пра мой сыход?

– Не, не! – усклікнуў Мэры. – Пра гэта не турбуйся. Вядома, доўга твой сыход у сакрэце не захаваецца, але зараз ён вядомы, мяркую, толькі нам, змоўнікам. Мы ж цябе ведаем як аблупленага, часьцяком бачымся. Нам няцяжка здагадацца, пра што ты думаеш. Я добра ведаў Більба. І, шчыра кажучы, пільна сачыў за табою ад ягонага сыходу. Бо думаў: і ты сыдзеш раней ці пазьней, прычым хутчэй раней, чым пазьней. Апошнім часам мы надта непакоіліся. Баяліся, зьнікнеш зьнянацку, сам па сабе, як Більба. Зь вясны сачылі на ўсе вочы й самі плянавалі. Так што лёгка ты ад нас цяпер не ўцячэш.

– Але ж я мушу йсьці, – сказаў Фрода. – Тут ужо анічога ня зробіш, дарагія мае сябры. Вядома, гэта ўсім непрыемна, але затрымліваць мяне бессэнсоўна. Калі вы ўжо пра столькі здагадаліся, дык дапамажыце мне, не перашкаджайце!

– Ты не разумееш! – абурыўся Піпін. – Ты павінен ісьці – і мы таксама. Мэры й я пойдзем з табою. Сэм, вядома, увогуле найцудоўнейшы з хобітаў. У цмокаву глытку скочыць, каб цябе дастаць, калі перад тым за ўласныя лапы не зачэпіцца, вядома. Але ж табе патрэбна болей паплечнікаў.

– Дарагія мае, найшаноўнейшыя хобіты, – расчуліўся Фрода. – Я не магу гэтага дазволіць. Я даўно вырашыўся. Вы кажаце пра небясьпекі, але не разумееце, пра што гаворка. Гэта ня скарбы шукаць, не вандроўка туды-й-назад. Гэта ад адной сьмяротнае пасткі да іншае.

– Мы разумеем, – сказаў Мэры нязломна. – Таму й вырашылі йсьці з табою. Мы ведаем: пярсьцёнак – ня жарты. Але мы зробім што толькі зможам, каб дапамагчы табе супраць Ворага.

– Пярсьцёнак! – толькі й выдыхнуў Фрода, цалкам зьбянтэжаны.

– Так, пярсьцёнак. Даражэнькі мой, твае сябры не сьляпыя, і да таго ж цікаўныя. Я пра пярсьцёнак ведаю ўжо колькі гадкоў – шчэ да Більбавага сыходу. Але ж ён, відочна, лічыў пярсьцёнак сваёй таямніцай, ну, таму й я не трапаўся, пакуль мы не арганізавалі нашую змову. Вядома, я ведаў Більба ня так, як цябе. Я быў маладзейшы, ён быў асьцеражнейшы за цябе, але ўсё ж недастаткова. Калі жадаеш ведаць, як я вызнаў пра пярсьцёнак, магу распавесьці.

– Давай, – згадзіўся Фрода ледзь чутна.

– Гэта здарылася з-за Кескаў-Торбінсаў, як і трэ было чакаць. Недзе за год да Вечарыны йшоў я па дарозе, бачу: Більба наперадзе. Раптам зьявіліся Кескі, і да нас. Більба крыху прыпыніўся, а потым – бац! – і зьнік. Я так перапалохаўся, што ледзь скеміў сам схавацца – як-небудзь больш звыкла: пралез праз агароджу дый пайшоў

уздоўж яе полем. Пазіраю на дарогу, на сьпіны Кескавы – і раптам Більба ўзьнікае прама перада мною! Я заўважыў нават, як ён нешта залатое сунуў у кішэню нагавіцаў. Пасьля таго я ўжо прыглядаўся, як мог. Прызнаюся, нават і падглядаў. Аднак, зразумей, гэтак мяне цягнула да таямніцы!.. І быў я шчэ зусім падлетак. Напэўна, толькі я адзін ва ўсім Шыры, акрамя цябе, бачыў Більбаву кнігу.

– Ты чытаў ягоную кнігу! – ускрычаў Фрода. – Да што ж гэта такое?! Анічагуткі нельга ў сакрэце захаваць?

– Ну, цалкам не. Але ж я толькі разок зірнуў, мімаходзь, і тое было няпроста. Ён жа сачыў за кнігай. Цікава, што зь ёю сталася? Я яшчэ паглядзеў бы. Ён пакінуў яе табе?

– Не. У Торбе яе не было. Напэўна, узяў з сабою.

– Ну, як я ўжо казаў, – працягнуў расповед Мэры, – я анікому ані слоўца да гэтай вясны. Тады ўжо справы пайшлі іншыя. Тады мы й стварылі нашую змову. А таму што справы былі ўжо досыць сур'ёзныя, мы й ня цацкаліся. Бо зь цябе паспрабуй што выцягні, а з Гэндальфа шчэ горай. Але калі жадаеш, каб мы пазнаёмілі цябе з нашым галоўным выведнікам, – калі ласка.

– Дык дзе ж ён? – спытаў Фрода, азіраючыся навокал, быццам чакаў, што якая-небудзь злавесная постаць у масцы вылезе з-пад канапы.

– Павітай спадара Фрода, Сэме! – сказаў Мэры, і Сэм устаў, пачырванеўшы да вушэй. – Вось ён, наш выведнік. Нямала здабываў, пакуль не злавілі. А потым, здаецца, палічыў сябе зьвязаным словам – і змоўк.

– Сэм! – усклікнуў Фрода, адчуваючы, што сягнуў апошняй мяжы зьдзіўленьня, і ня ведаючы, ці злуецца, ці радуецца, ці адчувае палёгку, ці цікавасьць, а можа, проста ўласнае глупства.

– Так, спадару! – адрапартаваў Сэм. – Прашу прабачэньня! Але я аніякай шкоды не хацеў ні вам, ні Гэндальфу. Бо ён жа, мусіць, меў рацыю, калі казаў вам на вашае "адзін пайду": не, вазьмі таго, каму давяраеш, во як.

– Ня бачу я, каму тут можна давяраць, – пахмура сказаў Фрода.

Сэм зірнуў на яго разгублена.

– Ну, гэта гледзячы як меркаваць, – умяшаўся Мэры, – калі хочаш, каб мы з табою йшлі скрозь агонь, ваду й медныя трубы да самага канца, дык можаш давяраць. І што таямніцу тваю мы захаваем ня горш за цябе – таксама. Але калі ты жадаеш сысьці на самоце, ані слова не сказаўшы, дый адному сягнуць усялякіх жудасьцяў – дык не. Мы – твае сябры. Карацей, мы ведаем, што табе казаў Гэндальф. Шмат чаго ведаем пра пярсьцёнак. Мы жахліва напалоханыя, але пойдзем з табою ці за табою, нібы сабакі па сьлядох.

– Увогуле, – дадаў Сэм, – эльфы ж вам гэна сама параілі. Гільдар казаў: вазьмі з сабою тых, хто хоча, – ужо ж ад гэтага вы не адмовіцеся!

– І ня стану адмаўляцца, – сказаў Фрода, прыглядаючыся да Сэма, які ўжо ўсьміхаўся. – Але калі наступны раз мне падасца, што ты сьпіш, я цябе нагою пхну памацней, каб праверыць. Ну, якія ж вы хітруны злаўмысныя, аёй! – усклікнуў, павярнуўшыся да астатніх. І засьмяяўся, устаючы, ды махнуў рукою. – Усё. Здаюся. Прымаю Гільдараву параду. Калі б толькі не небясьпекі наперадзе, напэўна, і заскакаў бы з радасьці! Нават і так, як жа добра! Я такім шчасьлівым ужо колькі не пачуваўся! А я ж так баяўся гэтага вечару!

– Згода! Значыць, вырашана. Ура, ура, ура капітану Фрода й ягонай камандзе! – загаласілі ўсе й заскакалі вакол яго. Мэры зь Піпінам засьпявалі песьню, якую, безумоўна, падрыхтавалі на такі выпадак загадзя. Прыдумалі яе яны на манер старога

гномскага сьпеву, які Більба пачуў на самым пачатку сваёй авантуры доўгі час таму, і на тую самую мэлёдыю:

*Ад ложкаў ды мараў утульных сваіх*
*Да дзікіх абшараў, пачвараў ліхіх*
*Зь першым сьвятлом пакінем мы дом*
*Ісьці па гарох і лясох векавых.*

*Да Долага Яру, чароўнага краю,*
*Мара вандроўная нас заклікае.*
*Рушым упарта, сьпяшацца нам варта,*
*Бо потым нас зноўку дарога чакае.*

*Вораг наперадзе, жахі за сьпінай,*
*Лісьце з травою нам будуць прасьцінай,*
*Пакуль шпацыруем, імкнемся-вандруем,*
*Каб потым вярнуцца да хаты гасьціннай.*

*Зь першым сьвятлом! Зь першым сьвятлом!*
*З раніцай новай пакінем мы дом!*

– Нядрэнна! – заўважыў Фрода. – Але ж тады нам яшчэ шмат чаго трэба зрабіць, пакуль не пакладземся ў ложкі – пад дахам, хоць бы сёньня.

– Ну, дык тое ж паэзія, – сказаў Піпін. – Ты што, сапраўды зьбіраесься сыходзіць да сьвятла?

– Ня ведаю. Я баюся Чорных Вершнікаў і ўпэўнены – небясьпечна заставацца доўга на адным месцы. Асабліва ў тым, пра якое я абвесьціў на ўсю ваколіцу. Але я вельмі хацеў бы пабачыцца з Гэндальфам. Таксама й Гільдар раіў мне не затрымлівацца. Ведаеце, ён занепакоіўся, калі пачуў, што Гэндальф так і не зьявіўся. Увогуле, час, які ў нас ёсьць, залежыць ад дзьвюх рэчаў: першае – як хутка Чорныя Вершнікі здолеюць дабрацца ў Бычышчы; і другое – як хутка мы здолеем адсюль выбрацца. Бо трэба ж столькі сабраць і шмат пра што паклапаціцца.

– Адказ на другое тваё пытаньне, – азваўся Мэры, – такі: за адну гадзіну. За полем у пуні шэсьць поні, прыпасы спакаваныя, хіба што апраткі трэба дадаць ды той ежы, якая хутка псуецца.

– Дык у вас надта плённая змова, я бачу. А што з Чорнымі Вершнікамі? Ці можна тут дзень пачакаць Гэндальфа?

– Залежыць ад таго, што, на тваю думку, Чорныя Вершнікі зробяць з табою, злавіўшы. Яны ўжо цяпер маглі быць тут, аднак іх, безумоўна, затрымалі ў Паўночнай браме, дзе Засека падыходзіць да берагу, якраз ля мосту. Уночы вартаўнікі іх не прапусьцяць, хоць вершнікі могуць і праламіцца гвалтам. Я мяркую, нават і ўдзень варта паспрабуе іх затрымаць – хоць бы да таго часу, пакуль адправяць вестку гаспадару Прырэчнай сядзібы, бо вартаўнікам, бясспрэчна, выгляд гэтых зданяў не спадабаецца, дый напалохаюцца яны. Але ж калі яны пачнуць прабівацца сілаю, Прыбычча доўга не пратрымаецца. Ня трэба выключаць і таго, што раніцою нават Чорны Вершнік здолее спакойна праехаць, распытваючы пра спадара Торбінса. Бо ж амаль усім вядома, што ты сабраўся асталявацца ў Цвыркуновай Лагчыне.

Колькі часу Фрода маўчаў, мяркуючы.

– Я вырашыў, – абвесьціў ён нарэшце, – пойдзем раніцою, зь сьвятлом. І не па гасьцінцы – нават тут чакаць бясьпечней, чым ехаць па гасьцінцы. Калі я выйду праз Паўночную браму, пра мой сыход умомант усе даведаюцца. А так колькі дзён, магчыма, гэта пратрымаецца ў сакрэце. Болей за тое, не сумняюся: за мостам і Ўсходнім шляхам паблізу межаў сочаць, незалежна ад таго, здолеюць Вершнікі патрапіць у Прыбычча ці не. Мы ж ня ведаем, колькі іх. Як найменш два, а мо й болей. Нам застаецца толькі сысьці ў нечаканым для іх напрамку.

– Гэта значыць – у Старую пушчу! – спалохана ўсклікнуў Фрэдэгар. – Як вам толькі да галавы такое прыйшло! Яна ж небясьпечнейшая за Чорных Вершнікаў!

– Ну, не зусім, – сказаў Мэры. – Гучыць палахліва, але ж Фрода мае рацыю. Адзінае выйсьце для нас, каб сыходу не заўважылі. Калі пашанцуе, дык пакінем пагоню далёка за сьпінамі.

– Не пашанцуе вам у Старой пушчы! – запярэчыў Фрэдэгар. – Нікому не шанцавала. Згінеце! Туды аніхто ня ходзіць.

– Ходзяць, і яшчэ як! Бронь-Бычы ходзяць, калі панясе іх туды якая трасца. У нас і лазы свае ёсьць. І Фрода хадзіў калісьці, даўнютка таму. Я дык некалькі разоў – звычайна ўдзень, вядома, калі дрэвы сонныя й спакойныя.

– Ну, як вам заўгодна, – сказаў Фрэдэгар. – Мяне Старая пушча палохае больш за ўсё астатняе. Якія пра яе жудасьці распавядаюць! Але, вядома, мая рацыя тут не ў разьлік, бо я ж ня йду з вамі. І вельмі задаволены, што магу застацца тут і дачакацца Гэндальфа – упэўнены, ён неўзабаве зьявіцца – ды распавесьці яму, куды вы палезьлі.

Пры ўсёй вялікай павазе да Фрода Фуфа Норс ня меў жаданьня ані пакінуць Шыр, ані бачыць, што там, за ягонымі межамі. Сям'я ягоная паходзіла з Усходняга падзелу, з Бродаў, што ў Замосьці, аднак мост праз Бранявін ён ніколі не пераходзіў. Паводле пляну змоўнікаў, ён мусіў заставацца ў Цвыркуновай Лагчыне, каб супакойваць цікаўных хобітаў і рабіць выгляд, што спадар Торбінс яшчэ ў сядзібе. Нават і колькі старога Фродавага адзеньня прывезьлі, каб лепей маскавацца пад Фрода. Аднак змоўнікі не падумалі, як гэта можа быць небясьпечна.

– Цудоўна! – усьцешыўся Фрода, пачуўшы ўвесь плян. – Так ці інакш, цыдулу для Гэндальфа ўсё адно пакідаць нельга. Магчыма, гэныя Вершнікі й непісьменныя, але я ня стану рызыкаваць, пакідаючы запіску ў хаце, бо ж могуць і абшукаць. Калі Фуфа згадзіўся застацца тут і Гэндальф ужо дакладна даведаецца, куды мы выправіліся, дык я цалкам задаволены. Вырашана: раніцою рушым у Старую пушчу.

– Згода, – пагадзіўся Піпін. – Асабіста я лепей прайдуся па пушчы, чым, як Фуфа, дачакаюся тут Чорных Вершнікаў.

– Ты пачакай, пакуль у пушчу не патрапіш. Празь дзень ты яшчэ як пазайздросьціш мне, – зазначыў на тое Фуфа.

– Ну ўсё, вырашана, і спрачацца болей няма сэнсу, – сказаў Мэры. – Нам тут яшчэ прыбірацца й дапакоўвацца. Я пабуджу ўсіх на досьвітку.

Дабраўшыся нарэшце да ложка, Фрода некаторы час ня мог заснуць. Ногі балелі. Добра, што раніцою давядзецца ехаць, а ня тэпаць. Паступова Фрода заснуў і ўбачыў няясны, дзівосны сон, дзе ён, падавалася, пазглядаў з высокай вежы на цьмянае мора адзічэлых, шчыльна пераплеценых дрэваў. Пад іх покрывам, ля каранёў, варушыліся, вышуквалі, вынюхвалі цьмяныя здані, і Фрода быў пэўны, раней ці пазьней яны яго вынюхаюць.

Потым аднекуль пачуўся гоман. Спачатку падумалася: моцны вецер узварушыў лясное лісьце. Потым здагадаўся: не, гэта гук далёкага мора, гук, які Фрода аніколі ўяве ня чуў, хоць той часьцяком трывожыў ягоныя сны. Раптам Фрода быццам

апынуўся пасярод роўнядзі, змрочнай, бязьлеснай пустэчы. У паветры адчуваўся незнаёмы салёны пах. Падняўшы галаву, убачыў перад сабою высокую вежу, самотную, белую, на высокай гары. І адчуў моцную прагу ўскараскацца на вежу й пабачыць мора. Пачаў падымацца па схіле, але зьнянацку ў нябёсах бліснула маланка й пакаціліся грымоты.

## *6. Старая пушча*

Калі Фрода раптоўна прачнуўся, у пакоі яшчэ было цёмна. Мэры зь сьвечкаю ў руцэ стаяў ля дзьвярэй і грукаў у іх.

– Ну? Што такое? – спытаў Фрода, зьбянтэжаны й сонны.

– Што такое? Раніца, трэба ўставаць! Ужо палова на пятую, давай-тка! Сэм ужо й сьняданак зладзіў. Нават Піпін падняўся. Я пайду асядлаю поні й прывяду пакладнага сюды. А ты абудзі лянотніка Фуфу! Няхай хоць бы правёў нас.

На пачатку сёмай усё спакавалі, уладкавалі й падрыхтаваліся самі. Фуфа Норс яшчэ пазяхаў. Ціхенька выбраліся з хаты. Мэры ішоў наперадзе, ведучы пакладнага поні па сьцежцы, што вяла праз зарасьці за сядзібай ды палі. Лісьце на дрэвах блішчэла вільгацьцю, кропала з кожнай галінкі. Трава была шэрая ад халоднай расы. Усё навокал падавалася вельмі спакойным, зацішным, далёкія гукі чуліся ясна й празрыста: птушкі гамоняць на падвор'і, нехта дзесьці зачыніў дзьверы ў хаце.

У пуні стаялі поні, цягавітыя маленькія коні пароды, якая болей за ўсё падабалася хобітам, – ня надта жвавыя, але вельмі здатныя для цяжкой і доўгай працы. Хобіты паселі ў сёдлы й паехалі праз туман, які, падавалася, неахвотна расступаўся перад імі – і адразу ж змыкаўся шчыльнай сьцяною. Ехалі з гадзіну, павольна й моўчкі, – і раптам пабачылі наперадзе Засеку, высокую, моцную, у срабрыстым восеньскім павуціньні.

– Як жа вы празь яе пераберацеся? – спытаў Фрэдэгар.

– Едзьма за мною, – адказаў Мэры, – і пабачыш.

Ён зьвярнуў леваруч, кіруючы ўздоўж Засекі. Хутка хобіты дабраліся да месца, дзе яна выгіналася ўсярэдзіну, абыходзячы па краі пагорку глыбокую лагчавіну. Непадалёк ад Засекі праз пагорак быў пракапаны ход з цаглянымі сьценамі. Сьцены змыкаліся над галавою, ператвараючы ход у тунэль, які паглыбляўся пад Засеку й выводзіў у лагчавіну за ёю.

Перад ходам Фуфа Норс спыніўся.

– Бывай, Фрода! Каб толькі вы ня ехалі ў пушчу... Спадзяюся, што не спатрэбіцца выратоўваць вас адтуль яшчэ да ночы. Шанцунку вам – сёньня й заўжды!

– Калі мне не патрапіцца нічога страшнейшага за Старую пушчу, значыць, сапраўды пашанцуе, – адказаў Фрода. – Скажы Гэндальфу, каб сьпяшаўся па Ўсходнім Шляху. Мы хутка на яго вернемся й затрымлівацца не зьбіраемся.

Разьвіталіся з Фуфам, паехалі ўніз дый зьніклі з Фрэдэгаравых вачэй у тунэлі. Там было цёмна й вогла. З другога боку тунэль загароджвала брама з тоўстых жалезных прутоў. Мэры зьлез з поні, адчыніў браму. Калі ўсе прайшлі, зачыніў зноў, ужо па той бок. Брама грукнула, замок шчоўкнуў. Гук падаўся злавесным.

– Ну вось, – сказаў Мэры, – мы й пакінулі Шыр. Цяпер мы на ўскрайку Старой пушчы.

– А гэтыя гісторыі пра яе – праўда? – спытаў Піпін.

– Ня ведаю, якія гісторыі ты маеш на ўвазе. Калі тыя жахалкі, якімі палохалі Фуфу ягоныя бабкі – пра гоблінаў, ваўкоў ды ўсялякае рознае, дык не. Ва ўсялякім выпадку, я ў іх ня веру. Але ж пушча сапраўды страшнаватая. Усё ў ёй, у параўнаньні з Шырам, нейкае жывое. Яно, падаецца, разумее, што робіцца навокал. А незнаёмцаў дрэвы ня любяць. Сочаць за імі. Звычайна ўдзень яны толькі й глядзяць, анічога болей. Ну, хіба што галіну скінуць, ці корань пад нагу вытыркнуць, ці аплятуць атожылкам. Але ж уночы горш, як мне казалі. Уночы я быў за Засекаю толькі раз ці два, і тое блізка да яе. Дрэвы тады нібыта перашэптваліся, ці змаўляліся, ці навінамі

абменьваліся на незразумелай мове, і галіны калыхаліся без аніякага ветру. Кажуць, дрэвы насамрэч могуць рухацца, абкружыць і зацісннуць. Колькі часу таму яны сапраўды падступіліся да Засекі, проста кранаючы яе, і нахіляліся над ёю. Тады хобіты выйшлі й пасеклі сотні дрэваў ды распалілі вялікае вогнішча ў лесе, выпаліўшы доўгую паласу ўздоўж Засекі. Тады дрэвы адступіліся, але зрабіліся вельмі нядобрыя. Непадалёк яшчэ ёсьць шырокая прагаліна, дзе было тое вогнішча.

– Тут толькі дрэвы небясьпечныя? – перапытаў Піпін.

– Я чуў, глыбока ў лесе, з другога боку, ёсьць і іншыя істоты, мажа, больш незвычайныя ды благія, – адказаў Мэры, – але сам я ня бачыў іх. Адылі нехта робіць у лесе сьцежкі, і добра ўтаптаныя, і яны, здаецца, час ад часу перамяшчаюцца й зьмяняюцца. Непадалёк ад брамы ёсьць ці была калісьці шырокая сьцяжына на Выпаліну, туды, дзе хобіты дрэвы палілі. Нам якраз па дарозе, на ўсход і крыху на поўнач. Тую сьцяжыну я й паспрабую знайсьці.

Цяпер хобіты ехалі ад брамы па шырокай лагчавіне. Ад яе ўскрайку ледзь прыкметная сьцежка вяла да пушчы, але праз сотню крокаў ці блізу таго зьнікла, ледзь сягнуўшы дрэваў. Азірнуўшыся, хобіты згледзелі паміж ствaламі, якія расьлі ўжо даволі шчыльна, цьмяны абрыс Засекі. А наперадзе бачыліся толькі дрэвы: прамыя, пакручастыя, пахіленыя, пагнутыя, тоўстыя, гонкія, гладкія, каржакаватыя, разгалінаваныя – і ўсе пазелянелыя ці нават пашарэлыя ад моху й сьлізкай, кашлатай цьвілі.

Мэры адзіны з усіх падаваўся ўзрадаваным.

– Ты лепей вядзі нас хутчэй ды знаходзь сваю сьцяжыну, – азваўся Фрода. – І трэба глядзець у два вокі, каб не згубіць адзін аднаго ды не забыцца, у якім кірунку Засека.

Асьцярожна прабіраліся паміж дрэвамі, і поні ступалі, пазьбягаючы пераплеценых крывых каранёў. Падлеску амаль не было. Рушылі ўсё ўгору й угору, дрэвы рабіліся ўсё больш змрочныя, тоўстыя ды высокія. Ані гуку ня чулася, адно калі кропля вады падала зь нерухомага лістка. Ня рухалася анічога, ані галінкі, але хобіты адчувалі, што за імі ўважліва сочаць, і надта нядобразычліва, каб не сказаць варожа. Непрыемнае гэтае пачуцьцё ўсё ўзмацнялася, пакуль хобіты не пачалі, амаль і самі не ўсьведамляючы, што робяць, азірацца, быццам каб засьцерагчыся ад нечаканага ліха.

Ані прыкметы сьцяжынкі не было, і дрэвы, падавалася, наўмысна захілялі шлях, перашкаджаючы ехаць. Піпін раптам адчуў, што больш ня здольны выносіць гэта й загаласіў:

– Гэ-эй! Я анічога дрэннага не раблю! Прапусьціце мяне, калі ласка!

Усе ўздрыгнулі й прыпыніліся, але ж крык нібы прыглушыла цяжкая завеса. Не было ні водгульля, ні водгуку, хоць дрэвы, выглядала на тое, шчыльней абступілі вандроўнікаў і пільней прыслухаліся.

– На тваім месцы я не лямантаваў бы, – папярэдзіў Мэры. – Шчэ горш зробіш.

Фрода меркаваў, ці мажліва ўвогуле знайсьці шлях праз гэты агідны лес і ці меў ён права цягнуць сюды сяброў. Мэры круціў галавою з боку ў бок – відавочна, ужо й ня ведаў, куды кіраваць. Піпін заўважыў гэта й зазначыў:

– Табе няшмат часу спатрэбілася, каб нас усіх заблытаць.

Але ў гэты самы момант Мэры сьвіснуў, задаволены, і паказаў наперад.

– Так, так! Гэтыя дрэвы сапраўды рухаюцца. Вунь яна, Выпаліна, перад намі. Ці нешта надта падобнае. А сьцяжына да яе зьнікла!

Пасьвятлела. Раптам хобіты выехалі з гушчару й апынуліся на вялікай круглай паляне. Нябёсы былі надзіва чыстыя, яркія й блакітныя. Пад покрывам пушчы хобіты й не заўважылі яснага ранку ды таго, як зьнік туман. Сонца яшчэ не паднялося, каб патрапіць на саму паляну, асьвятліла толькі верхавіны дрэваў. На ўскрайках Выпаліны лісьце было гусьцейшае й сьвяжэйшае, нібыта зялёная сьцяна абкружала паляну. А на ёй, на старым папялішчы, дрэвы не расьлі, толькі высокія травы, вычварны дурнішнік, лясная пятрушка, нібы попел на сухіх сьцяблінах, буйная крапіва ды дзядоўнік. Сумная мясьціна, але яна падалася прыгожым садам пасьля ляснога гушчару.

Пачынаўся файны дзень, і хобіты ўзбадзёрыліся. З дальняга боку паляны прыкмецілі праход і яўную сьцежку за ім. Даволі далёка было відаць, як яна ўецца па лесе, месцамі шырокая й адкрытая, хоць сям-там тоўстыя галіны дрэваў, што расьлі побач, захілялі яе. Па той сьцежцы й паехалі. Яшчэ ехалі ўгору, але нахіл быў невялікі, рухаліся нашмат хутчэй і ў лепшым настроі, бо, падавалася, пушча вырашыла ўсё-ткі іх прапусьціць.

Аднак з часам зрабілася сьпякотна. Дрэвы прысунуліся бліжэй, і далёка наперад ужо не было відаць. Ліхая воля пушчы адчулася знову, і мацней, чым раней. Было так зацішна, што слабы пошчак капытоў поні, шоргат па старым лісьці ды выпадковае скрыгатаньне па непрыкметных каранях адбіваліся громам увушшу. Фрода быў засьпяваў, каб узьняць настрой, але ягоны голас хутка ператварыўся ў шэпт.

*Сябры! Вандроўнікі змрочных краёў!*
*Ня бойцеся цьмяных злавесных лясоў!*
*Бо не спрадвечна пануе цень,*
*бо пасьля ночы зазьзяе дзень,*
*бо сонца ўзыдзе над намі зноў,*
*узыдзе над чорным ліхім гушчаром,*
*на поўдзень, на поўнач – скончыцца лес...*

З апошнім словам ягоны голас зусім сьціх. Само паветра душыла й нават слова вымавіць было цяжка. За сьпінамі хобітаў таўшчэзны сук з старога дрэва, раптам абламіўшыся, грымнуўся на сьцежку. І дрэвы перад хобітамі, падавалася, сыходзіліся ўсё шчыльней.

– Не падабаецца ім пра тое, што лес скончыцца й сонца ўзыдзе, зусім не падабаецца, – азваўся Мэры. – Я параіў бы не сьпяваць болей. Пачакайма, пакуль да ўзьлеску не даберамося. Тады ўжо абернемся ды такі ім квартэт зладзім!

Прамаўляў Мэры весела. Калі й непакоіўся, то на ягоным твары гэта аніяк не адбівалася. Ніхто яму не адказаў, бо астатнія пачуваліся дрэнна. На Фродавым сэрцы нібыта ляжаў камень і з кожным крокам усё цяжэў. Нашто ён адважыўся прабівацца скрозь гэты лес, праз гэтыя злаўмысныя дрэвы! Ужо й вырашыў спыніцца ды прапанаваць вярнуцца (калі тое яшчэ магчыма, вядома), калі справы перамяніліся. Сьцяжына ўжо не караскалася ўгору, выйшла амаль на роўнае месца. Дрэвы расступіліся й наперадзе хобіты пабачылі амаль прамую, роўную сьцежку. Вяла яна, як падавалася, наўпрост да зялёнай вяршыні пагорку, бязьлесай, што ўздымалася, нібы чыясьці лысая галава.

Хобіты засьпяшаліся наперад, задаволеныя думкай, што нарэшце выкараскаюцца зь лесу, зірнуць на яго зьверху. Сьцяга спусьцілася ў лагчынку, потым зноў папаўзла ўгору, вывеўшы нарэшце да ўзножжа бязьлесай травяністай стромы,

дый згубілася ў траве. Дрэвы абкружылі верхавіну, быццам валасы заголеную патыліцу.

Хобіты сьпешыліся, павялі поні ўгору, кругам, пакуль не дабраліся да вяршыні. Там агледзеліся. Сонечна было, пагодна, аднак у паветры вісела смуга й далёка прасачыць не атрымалася. Побач з стромай туман цяпер амаль распусьціўся, але там і тут матляўся па-над ляснымі лагчавінамі. На поўдні, над глыбокай далінай, якая прарэзала пушчу, туман вісеў, нібыта пара над катляром ці белы дым ад вогнішча.

– Там вось, – Мэры паказаў рукою, – даліна Іўі. Яна крынічыць з Лысагор'я, цячэ на паўднёвы захад праз пушчу ды ўліваецца ў Бранявін ля Засечышчаў. Вось туды нам дакладна ня трэба! Даліна гэтая, кажуць, найжудасьнейшая частка ўсёй пушчы, самае сэрца яе, адкуль і паходзіць усялякая пошасьць.

Усе зірнулі, куды паказаў Мэры, але не пабачылі анічога, апрача туману над глыбокай вільготнай далінай, а за ёю паўднёвы край пушчы губляўся ў смузе.

Сонца на вяршыні прыпякала. Напэўна, было ўжо каля адзінаццатай, але восеньская смуга не дазваляла бачыць далёка ва ўсіх напрамках. На захадзе ня здолелі разгледзець ані Засекі, ані даліны Бранявіну за ёю. На поўначы, куды ўглядаліся з асаблівай надзеяй, нічагусенькі не нагадвала лініі вялікага Ўсходняга Шляху, да якога кіраваліся. Хобіты стаялі нібы на высьпе сярод ляснога мора – ва ўсе бакі да самага далягляду, які зьліваўся зь ім.

На паўночны ўсход схіл быў вельмі круты, нібыта працягваўся яшчэ далёка пад дрэвамі, як абрывістыя берагі высьпы, гары насамрэч, што ўзьнімаецца з глыбіняў. Хобіты паселі на ўскрайку, пазіраючы на лес пад сабою, падсілкаваліся другім сьняданкам. Калі ўжо перайшло за полудзень, заўважылі далёка на ўсходзе шэра-зялёныя абрысы Лысагор'я, зь якім пушча межавала з таго боку. Тое іх надта ўзрадавала, бо добра было пабачыць хоць бы нешта за межамі лесу. Хоць ісьці ў той бок хобіты зусім не зьбіраліся: Лысагор'е ў хобіцкіх паданьнях мела рэпутацыю ледзь ня горшую за Старую пушчу.

Пад'еўшы, выправіліся зноў. Сьцяжынка, якая прывяла да стромы, зноў узьнікала з паўночнага боку. Але далёка па ёй не праехалі, бо яна, відавочна, паступова забірала направа. Хутка й спускацца пачала, і хобіты ўцямілі, што яна вядзе да даліны Іўі. А туды ж зусім ня трэба. Паспрачаўшыся крыху, вырашылі пакінуць сьцежку ды скіравацца на поўнач. Шлях там, і ня надта ўжо далёка, хоць яго й ня здолелі разгледзець зь вяршыні. Да таго ж на поўнач і мясцовасьць падавалася сушэйшай і болей адкрытай, і дрэвы на схілах танчэйшымі, а дубы, асіны й іншыя – дзівосныя, безыменныя – дрэвы ляснога гушчару зьмяняліся соснамі ды елкамі.

Спачатку рашэньне бачылася правільным. Ехалі хутка, аднак калі толькі бачылі пробліск сьвятла на паляне, паварочвалі да яго й паступова, амаль таго не заўважаючы, – на ўсход. Потым гушчар зноў зрабіўся шчыльнейшым – і якраз там, дзе здалёк дрэвы падаваліся тонкімі й праезд паміж імі вольным. Раптам на шляху апынуліся глыбокія яміны, нібыта каляіны ад гіганцкіх колаў ці старыя канавы альбо дарогі, даўно ўжо пазабытыя й зарослыя ажыньнікам. Ляжалі яны звычайна ўпоперак патрэбнага напрамку, і перасекчы іх было мажліва толькі караскаючыся ўніз і зноў наверх – з поні надта цяжка й клопатна. Калі спускаліся, сустракалі шчыльныя кусты ды буралом. Налева праз яго чамусьці было зусім не прабрацца, а направа неяк лягчэй, і даводзілася праходзіць па дне, пакуль знаходзілі шлях угору. А там дрэвы ўжо былі больш змрочныя й пагрозьлівыя, і налева зьвярнуць рабілася ўсё цяжэй. Паступова хобіты адхіляліся ўсё больш направа й уніз па схіле.

Праз гадзіну ці дзьве згубілі ўсялякае ўяўленьне пра тое, куды рухаюцца, хоць і было ясна, што даўно ўжо не на поўнач. Іх вялі, і яны проста ішлі туды, куды іх прымушалі, – на паўднёвы ўсход, у самае сэрца пушчы.

Ужо й вечарэла, калі выкараскаліся праз гушчар у канаву, шырэйшую й глыбейшую за ўсе тыя, празь якія прабіраліся раней. Яе схілы былі такія стромыя, нават і навісалі над падарожнікамі, што выбрацца адтуль разам з поні й валізамі падавалася ўвогуле немагчымым – ані назад, ані ўперад. Засталося толькі ісьці па дне ўрвішча – уніз. Зямля памякчэла, месцамі й захлюпала пад нагамі, з схілаў там і тут зьбягалі крынічкі – і неўзабаве хобіты ўжо рушылі ўздоўж ручаіны, якая цьвірчэла па зарослым травою лагве. Потым спуск пастрамеў, ручай набраў моцы, загаманіў і запырскаў пенаю, імкнучыся ўніз. Хобіты ішлі па глыбокай, змрочнай лагчавіне, і галіны дрэваў дахам змыкаліся над імі далёка ў вышыні.

Колькі часу прабіраліся ўздоўж рачулкі – і нечакана выйшлі на сонца, нібыта выбраўшыся з-за брамы на прастору. Спаткалі шырокі луг, парослы травою й чаротам, і, азірнуўшыся, убачылі, што й на самай справе рушылі па глыбокай цясьніне ў стромкім ускрайку рачной даліны, амаль адхоне. З другога боку ўзьнімаўся другі ўскраек, гэткі сама круты. А паміж імі, на патаемных лугавінах уздоўж ракі, панаваў мяккі, дрымотны восеньскі надвячорак, заліты залатым сьвятлом. Сама рака, цёмная, з бурай вадою, цякла павольна й лянотна. Старыя лозы схіляліся над ёю, акаляючы берагі, паваленыя лозы ляжалі ў нежывой вадзе, якую сьпярэсьцілі тысячы апалых лазіных лісткоў. Безьліч іх кружляла ў паветры, нібыта залаты сьнегавей. Дзьмуў мяккі цёплы ветрык, шапацеў чарот, і ціхенька парыпвалі лазіныя галіны.

– Ну, цяпер я хоць бы ведаю, куды нас занесла, – сказаў Мэры. – Прама ў супрацьлеглым напрамку, у даліну Іўі. Ну, пайду разьведаю, чаго там.

Ён выйшаў пад сонца й хутка зьнік у высокай траве. Неўзабаве зьявіўся й распавёў, што паміж адхонам і ракою глеба даволі надзейная, месцамі й каля самай вады.

– І яшчэ, – дадаў ён, – знайшоў нешта падобнае на сьцежку па нашым беразе. Калі пойдзем налева, уздоўж ракі, раней ці пазьней абавязкова выйдзем з лесу на ўсходні бок.

– Так мо яно так, – засумняваўся Піпін, – гэта калі сьцежка вядзе датуль і не зьнікае ў якой дрыгве. Хто ж гэтую сьцежку пратаптаў, як мяркуеш, ды зь якой нагоды? Упэўнены, не для нашай палёгкі. Чым далей, тым болей гэтая пушча падазроная. Хутка я паверу ва ўсё казкі пра яе. Ты ўяўляеш сабе, як далёка на ўсход нам давядзецца прайсьці?

– Не, – адказаў Мэры. – Бо ня ведаю, у якім месцы мы выйшлі да Іўі, і аніякага ўяўленьня ня маю пра тое, хто сюды гэтак часта завітвае, што й сьцежку набіў. Але не магу ўявіць для нас аніякага іншага выйсьця.

Сапраўды, анічога рабіць не заставалася, як пайсьці цугам за Мэры па сьцежцы. Паўсюль травы й чараты былі высачэзныя, месцамі гайдаліся над галовамі, але па прыкметнай сьцежцы ісьці было няцяжка, яна абыходзіла яміны й багны, вяла па цьвярдзейшай глебе. Часам перасякала рачулкі, якія сьцякалі па цясьнінах з пушчы, і там праз ваду былі перакінутыя ды добра прыладжаныя ствалы дрэваў ці вязкі сукоў.

Зрабілася надзвычай сьпякотна. Суцэльныя легіёны мух розных колераў і памераў жужжэлі ля самых вушэй, надвячоркавае сонца паліла сьпіны. Нарэшце напаткалі сякі-такі цень: вялізныя шэрыя сукі працягнуліся над сьцежкаю – і санлівасьць цалкам авалодала хобітамі. Кожны крок наперад даваўся ўсё цяжэй.

Санлівасьць нібыта сачылася зь зямлі, паўзла ўгору па нагах, нячутна ападала з паветра на галовы й вочы.

Фрода зусім апусьціў вочы й пачаў торкаць носам. Прама перад ім Піпін увогуле ўпаў на калені. Фрода прыпыніўся. І пачуў, як Мэры кажа:

– Сэнсу аніякага. Шчэ крок – і з ног звалюся. Трэба саснуць крышачку. Тут, пад лозамі. Тут сьвяжэй і мух меней.

Фрода тое не спадабалася. Ён крыкнуў:

– Трэба йсьці! Нам нельга тут заставацца! Найперш выйдзем з пушчы!

Але астатнія ўжо не зьвярталі ўвагі. Сэм стаяў, пазяхаючы, ды дурнавата міргаў вачыма.

Раптам Фрода пачуў, як і яго апаноўвае сон. Паплыла галава. Падавалася, усё зьбязгучыла – нават мухі болей не гулі. Толькі ледзь чутны, недзе на самым ускрайку слыху, гук, быццам неразборлівы ціхуткі сьпеў, далятаў аднекуль зьверху, ад шэрых галінаў. Фрода падняў ацяжэлую галаву й убачыў перад сабою велізарную, нахіленую ў ягоны бок, лазу, каранястую, вузлаватую, старую. Яна выглядала надзвычай вялікаю, з сучышчамі, нібы працягнутыя рукі зь безьліччу пальцаў, з шырокімі шчылінамі на пакручаным, скарузлым ствале. Галіны варушыліся ў вышыні, і расколіны ціхенька парыпвалі. Сыпалася лісьце, мільгацела ў Фродавых вачох, кружыла галаву – пакуль ён не абрынуўся ніцма на траву проста там, дзе стаяў.

Піпін з Мэры дабрылі да закарэлага ствала й паселі, абапершыся аб яго сьпінамі. Калі дрэва гайдалася на ветры, за імі шырока адчыняліся здаравезныя шчыліны – нібыта ашчэраныя пашчы. Хобіты глядзелі на жоўта-шэрае лісьце, якое павольна лунала, мільгала, адгароджваючы сонца, і нібыта сьпявала. Яны заплюшчылі вочы – і тады, ім падалося, у гэтым сьпеве пачуліся халодныя словы, нешта пра ваду й сон. І, паддаўшыся ім, хобіты моцна заснулі сярод каранёў вялізнай старой лазы.

Фрода ж ляжаў колькі часу, змагаючыся з жаданьнем заснуць, але потым усё-ткі знайшоў сілы падняцца на ногі. Ён прагнуў вады, халоднай, сьвежай вады.

– Ты мяне пачакай, Сэме, – прамармытаў ён. – Я толькі хвіліначку ногі апаласну.

Сонны, дакульгаў да струменю ля дрэва, чые магутныя кручаныя карані працягнуліся ў раку, нібы цмачаняты на вадапоі. Усьсеўся на адзін зь іх, пабоўтаў нагамі ў прахалоднай бурай вадзе – і таксама моцна заснуў, прываліўшыся сьпінаю да дрэва.

Сэм сеў, пачухаў патыліцу, пазяхнуў, ледзь ня вывіхнуўшы сківіцу. Яму было неспакойна. Надвячорак толькі набліжаўся й гэткая раптоўная санлівасьць падавалася яму падазронай і ненатуральнай.

– Тут ня проста сьпякота й духата, – прамармытаў ён сабе пад нос. – Нешта мне гэтае вялізманае дрэва не падабаецца. Не давяраю я яму. Толькі прыслухацца – яно ж пра сон сьпявае! Нічога сабе справы!

Ён прымусіў сябе ўстаць і, яшчэ хістаючыся, пайшоў зірнуць, што там з поні. Вынайшаў, што два зь іх забрылі далёка па сьцежцы. Ён злавіў іх і павёў назад – і толькі пасьпеў прывесьці, як раптам пачуў два гукі: адзін надта гучны, нібыта ўсплёск нечага цяжкога, што звалілася ў ваду, а другі ціхі, але вельмі адбітны, нібыта шчоўкнуў замок ахайна зачыненых дзьвярэй.

Сэм кінуўся да вады. Фрода ляжаў у хвалях побач зь берагам, і вялізны корань нібыта прыціскаў яго, не даючы ўсплысьці, а Фрода й не супраціўляўся, не варушыўся. Сэм ухапіў яго за куртку й выцягнуў з-пад кораня, а потым, напружыўшыся што моцы, з вады на бераг. Амаль адразу ж Фрода абудзіўся ды закашляўся, выплёўваючы ваду.

– Ведаеш, Сэме, – сказаў нарэшце. – Гэтае мярзотнае дрэва штурхнула мяне ў ваду! Сапраўды! Гэны корань выгнуўся ды пхнуў мяне!

– Здаецца мне, вы заснулі, спадару Фрода. Сядаць у гэтакім месцы ня трэба, калі спаць хочацца.

– А што з астатнімі? Цікава, якія сны ім прысьніліся?

Абышлі дрэва кругам – і тут Сэм зразумеў, які ж такі "шчоўк" ён пачуў. Піпін зьнік. Шчыліна, ля якой ён ляжаў, зачынілася – нават і дзірачкі аніякай не засталося. Другая шчыліна схапіла Мэры ўпоперак цела, вонкі засталіся толькі ногі, а рэшта была ўнутрох, у цёмнай дзірцы, краі якой сьціснуліся, нібы абцугі.

Спачатку Фрода з Сэмам калацілі па дрэве ў тым месцы, дзе ляжаў Піпін. Пасьля адчайна намагаліся рассунуць краі шчыліны, якая схапіла небараку Мэры. Усё бяз сэнсу.

– Ды што ж гэта за мярзота творыцца? – ускрычаў Фрода разьюшана. – Чаго толькі нас панесла ў гэтую пушчу? Лепш бы мы засталіся ў Прыбыччы!

І пхнуў дрэва што моцы нагою, ня думаючы, што толькі паб'е нагу. Ледзь прыкметныя дрыжыкі прабеглі па кары, паварушыліся галіны. Лісьце зашапацела, зашаптала, нібы далёкі, ледзь чутны сьмех.

– Калі не памыляюся, спадару Фрода, сякеру мы з сабою не захапілі? – спытаў Сэм.

– Толькі маленькую, секчы галіны для вогнішча. Наўрад ці яна дапаможа.

– Пачакайце хвілінку! – выклікнуў Сэм, у якога слова "вогнішча" абудзіла ідэю. – Полымя! Нам дапаможа полымя!

– Магчыма. Магчыма таксама, што мы жыўцом засмажым Піпіна прама ў дрэве.

– Ну, трэ паспрабаваць пашкодзіць дрэву дый запалохаць яго, – заявіў Сэм рашуча. – Калі яно іх ня выпусьціць, я яго звалю, нат калі зубамі грызьці давядзецца.

Пабег да поні й вярнуўся з двума красаламі й сякеркай. Хутка сабралі сухую траву і лістоту, кавалкі кары, кучу наламаных галінак і пасечаных сукоў. Сэм высек іскру – занялася трава, заскакалі язычкі полымя й пацягнуўся ўгору дымок. Галіны затрашчалі. Полымя лізнула высахлую кару старога дрэва, апаліла яе. Дрыжыкі пабегла па ствале, і лісьце над галавою зашыпела ад болю й нянавісьці. І тут Мэры загаласіў, а з глыбіні дрэва данёсься прыглушаны Піпінаў крык.

– Загасіце! Загасіце! – лямантаваў Мэры. – Бо ён надвое перацісьне мяне! Ён так кажа!

– Хто? Чаго? – усклікнуў Фрода, абягаючы дрэва.

– Гасіце, гасіце! – енчыў Мэры.

Галіны старой лазы захісталіся, затрэсьліся, і пачулася: быццам бы вецер узьняўся, пабег па лісьці ўсіх вакольных дрэваў, нібыта камень кінулі ў ціхую затоку рачной даліны й хвалі злосьці пабеглі па ўсім лесе. Сэм раскідаў нагамі маленькае вогнішча, затаптаў вугольле. А Фрода, сам кепска ўсьведамляючы, што робіць, на што спадзяецца, пабег па сьцежцы й загаласіў: "Ратуйце! Ратуйце!" Падавалася, што пранізьлівае галашэньне не далятае нават да ягоных уласных вушэй: як толькі словы пакідалі вусны, іх зносіў вецер, узьняты лазою, дый тапіў у гомане лісьця. Адчай завалодаў Фрода: што рабіць, куды бегчы?

Раптам спыніўся. Вось і адказ, водгалас на ягоны лямант, ці толькі падалося. Ён далятаў аднекуль ззаду, з глыбіні пушчы. Фрода азірнуўся, прыслухоўваючыся, і хутка ўпэўніўся: нехта сьпявае, моцным, вясёлым голасам, сьпявае шчасьліва й бесклапотна, але ж нейкую бязглузьдзіцу:

*Скок, так! Ветрык грук! Лісьце варушылі!*
*Дзінь-донь! Вербы кронь! Вунь загаманілі!*
*Том, Бам! Добры Том, Томе Бамбадзіле!*

Напаўабнадзеяныя, напаўпераляканыя верагоднай новай небясьпекай, Фрода з Сэмам стаялі нерухома. Зьнянацку з доўгай чарады незразумелых словаў (ці яны толькі падаваліся словамі?) склалася песьня, гучная й ясная:

*Гэй, гоп! Скок ды топ! Чуеш, маё дзіва?*
*Летні ветрык над ракою скача гаманліва!*
*Дачакайся ж, мая краска, зорка-вясялінка,*
*Маё сонейка-паненка, срэбная дажджынка!*
*З-за гары і праз гару, з кветкамі ў далоні*
*Стары Том да прыгажуні, Іўі-рэчкі доні,*
*Цуд лілеяў ад затокаў несьці пасьпяшаецца!*
*Добра Тому скачацца, весела сьпяваецца!*
*Гэй, гоп! Тук ды топ! Рэчка ды крынічка!*
*Зьнічка-Златачка мая, птушачка-сунічка!*
*Да цябе Бамбадзіл з кветкамі вяртаецца.*
*Хрыч Лазьняк, злы Лазьняк хай тут не мяшаецца!*
*Вечар цёплы над ракою хутка апускаецца,*
*Спрытна Тому скачацца, весела сьпяваецца!*

Фрода з Сэмам стаялі, нібыта зачараваныя. Вецер сьцішыўся, і лісьце маўкліва павісла на нерухомых галінах. Зноў загучала песьня, і раптам, прыскокваючы ды падскокваючы ўздоўж сьцежкі, над чаратамі зьявіўся стары падраны капялюш – высачэзны дый з доўгім блакітным пяром за аколышам. Капялюш скокнуў яшчэ раз ці два, і за ім узьнік ягоны гаспадар. Чалавек, ці гэтак падалося хобітам. Бо для хобіта ён быў надта ж высокі й вялікі, хоць, напэўна, для чалавека малаваты, але гармідару рабіў ня менш за людзей, тупочучы здаравеннымі жоўтымі ботамі на тоўстых нагах ды ломячыся праз кусты й чараты, нібы карова да вадапою. Апрануты ён быў у блакітны жупан, меў доўгую рудую бараду, вочы – пранізьлівыя, блакітныя, а твар чырвоны, рыхтык сьпелы яблык, з мноствам зморшчынак-сьмяшынак. У руках нёс на вялікім лісьце, што на падносе, колькі белых рачных лілеяў.

– Дапамажыце! – загаласілі Фрода з Сэмам і кінуліся насустрач, выцягнуўшы рукі перад сабою.

– Ну? Хто тут, га? – усклікнуў чалавек, узьняўшы руку, і хобіты зьнянацку спыніліся, нібыта аслупянелыя. – Ну, мае сябручкі, мае маленькія, і куды гэта вы так, даражэнькія, бы мяхі пыхкаючы? Што ж тут робіцца, што дзеецца? А хто я, вы ведаеце? Я Том Бамбадзіл. Што хвалюе вас, малыя? Бачыце, сьпяшаюся! Ды лілеі мае не папарасьціськіце!

– Маіх сяброў схапіла лаза! – выпаліў Фрода.

– Спадара Мэры заціснула ў шчыліну! – крыкнуў Сэм.

– Што? – усклікнуў Том, падскочыўшы. – Стары Лазьняк? І болей нічога? Ну, з гэтым хутка зладзім мы. Сьпеў мне для яго вядомы. Стары шэры хрыч Лазьняк! Як ня выправіцца зараз, сарцавіну замарожу, карані яму сурочу. Вецер напяю яму, каб лістоту стрэсла, каб гальлё паабламала! Стары хрыч Лазьняк!

Асьцярожна паклаўшы лілеі на траву, ён падбег да дрэва. Ды пабачыў Мэрывы ступакі – усё астатняе дрэва ўжо ўцягнула. Том нахіліўся да шчыліны, амаль дакрануўшыся да яе вуснамі, і ціхенька засьпяваў. Хобіты не разабралі словаў, але на Мэры яны, відавочна, неяк падзейнічалі, бо ён задрыгаў нагамі. Том адскочыў і, абламіўшы галіну, джгнуў ёй па дрэве.

– Што задумаў, га, Лазьняк? Ты чаго прачнуўся?! Караніся! Пі ваду! Глыбока ўкапайся! Табе кажа Бамбадзіл: сьпі, не прачынайся!

Тады схапіў ногі Мэры – дый выцягнуў з шчыліны, якая раптоўна расчынілася. Тут пачуўся аглушальны трэск, разявілася яшчэ адна дзірка, і адтуль вылецеў Піпін, нібыта ад высьпятка па азадку. З гучным храскам абедзьве шчыліны зачыніліся. Дрыготка прабегла па дрэве ад каранёў да вяршыні – і ўсё заціхла.

– Дзякуй вялікі вам, – сказалі хобіты Тому па чарзе.

А той зарагатаў.

– Так вось, хлопчыкі мае, сябры мае міленькія! – азваўся, нахіляючыся, каб зірнуць ім у твары. – Пойдзем-тка да мяне на гасьціну! Ёсьць у мяне пачастунак: досыць мёду, масла, хлебца белага й сьмятанкі. Залацінка мая, Златачка-сунічка зачакалася! За сталом спытаеце, чаго б ні пажадалася! А цяпер за мной пасьпяшайцеся ды хутчэй намагайцеся!

З гэтымі словамі ён падняў лілеі, запрашальна махнуў рукою ды пакрочыў, прыскокваючы ды прытанцоўваючы, па сьцежцы на ўсход, зноў гучна сьпяваючы ранейшую бяссэнсіцу. Надта зьдзіўленыя й узрадаваныя выратаваньнем, каб распытваць, хобіты пасьпяшаліся за ім колькі моцы. Але моцы не ставала. Том хутка зьнік наперадзе, і ягоная песьня ўсё слабела ў далечыні. Раптам ягоны голас пачуўся гучна й выразіста:

*Пасьпяшайцеся па сьцежцы, па даліне рэчкі,*
*Том наперад пабяжыць, у вакенцы сьвечкі*
*Хабіцятам запаліць, каб не заблукаліся*
*Ды навобмацак па цемры каб не прабіраліся,*
*Не баяліся зьвяроў, гушчароў-абшараў,*
*Каранкскаў, ды сукоў, ды злавесных чараў.*
*Том наперадзе паскача, Том і патурбуецца*
*Ды бяседаю сустрэць хлопцаў падрыхтуецца!*

Больш яны не пачулі анічога. Ужо й сонца схавалася за дрэвы, і хобіты ўзгадалі, як вечаровыя промні люструюцца ад Бранявіну, як вокны Бычышчаў асьвятляюцца сотнямі вагеньчыкаў. Чорныя цені леглі на даліну. Дрэвы пагрозьліва нахіліліся над сьцежкаю, працягнулі галіны. Над вадою заклубіўся белы туман, папоўз між каранямі прыбярэжных дрэваў. З самай глебы пад нагамі ўздымалася прывідная пара, мяшаючыся зь цемраю.

Сьцежку ў змроку было амаль не разабраць, і хобіты жудасна стаміліся. Ногі наліліся сьвінцом. Дзіўныя таемныя гукі даносіліся з чаратоў і кустоўя аберуч. Калі пазіралі ўгору, заўважалі вусьцішныя, крывыя, заскарузлыя твары, што цікавалі, высоўваючыся зь вечаровага змроку ад ускрайку лесу, з абрыву даліны, кпліва пасьміхаліся. Хобіты адчулі, нібыта ўсё навокал – несапраўднае, нерэальнае, што яны быццам брыдуць праз злавесны сон і аніяк не дабяруцца да абуджэньня.

Калі адчулі, што ногі перастаюць варушыцца, сьцежка павяла ўгору. І рака пачала пашумліваць. Празь цемру бачылася нават і пена – там, дзе вада зьбягала зь

невялікага вадаспадзіку. Раптам абапал і наперадзе ня стала дрэваў і туман застаўся за сьпінамі. Хобіты выйшлі зь лесу й убачылі шырокі травяністы схіл, які павольна ўздымаўся перад імі. Рака, ужо зусім маленькая й жвавая, зьбягала ўпрыскок насустрач ім, пабліскваючы тут і там у сьвятле першых зораў.

Трава пад нагамі была мяккая, кароткая, нібы падстрыжаная ці пакошаная. І дрэвы на ўзьлеску таксама былі падрэзаныя й выглядалі як жывая агароджа. Сьцежка ператварылася ў добрую дарогу, дагледжаную ды абкладзеную па бакох каменьчыкамі. Яна вяла на вяршыню травяністага пагорку, шэрага ў няпэўным зорным сьвятле, а зь яго, яшчэ вышай, на супрацьлеглым схіле, мігцелі зіхоткія агеньчыкі хаты. Дарога павяла ўніз і зноў угору, па доўгім гладкім схіле, да агеньчыкаў. Раптам усё асьветлілася зыркім жоўтым сьвятлом ад расчыненых дзьвярэй. Хобітаў вітала хата Тома Бамбадзіла. За ёю ляжаў голы шэры пагорак з стромымі схіламі, а далей, на ўсходзе, губляліся ў ночы змрочныя абрысы Лысагор'я.

І хобіты, і поні засьпяшаліся наперад. Быццам разам пазбавіліся ад усялякага страху й ад паловы стомленасьці. І пачулі:

*Гэй, топ! Стук і скок! Госьці, павітаймася!*
*Хабіцяты! Поні-коні! Ну-тка, пабалюймася!*
*За бяседу, за вячэру! Засьпявайма разам!*

І другі голас, юны й спракаветны, нібы вясна, нібы чыстая крыніца на горным схіле ці зыркая раніца, што працінае ноч, срэбрам зазьвінеў насустрач ім:

*Баляваць прыйшла пара! Разам засьпяваем!*
*Пра дажджы, віхуры, зоры, пра туман над гаем,*
*Пра сьвятло на юным лісьці, пра расінкі зранку,*
*Цёплы вецер на пагорку ды траву ля ганку,*
*Верасы над цёмным ярам, месяц ціхай ночкай,*
*Пра старога Бамбадзіла зь Іўі-рэчкі дочкай!*

І з гэтай песьняй хобіты крочылі за ганак, і залатое сьвятло агарнула іх.

## *7. У хаце Тома Бамбадзіла*

Чатыры хобіты крочылі за шырокі каменны ганак і сталі міргаючы. Перад імі быў доўгі нізкі пакой, заліты сьвятлом лямпаў, што зьвісалі з бэлек. На стале зь цёмнага сьлігаванага дрэва стаяла мноства сьвечак, высокіх, жоўтых, зыркіх.

У дальнім канцы пакою ў фатэлі сядзела кабета. Доўгія жоўтыя валасы струменілі ёй на плечы, на сукенку – зялёную, вышытую срэбрам, бы малады чарот у кроплях расы. Сукню абвіваў залаты пас – ланцуг зь пераплеценых лілеяў, аздоблены сьветла-блакітнымі вачанятамі незабудак. Ля ног панны ў шырокіх зялёных і рудых гліняных пасудзінах з вадою плавалі белыя лілеі, і яна здавалася каралеўнай на стальцы пасярод возера.

– Уваходзьце, шаноўныя госьці! – запрасіла яна, і хобіты зразумелі, што гэта яе чысты голас яны чулі ў змроку на схіле.

Яны баязьліва крочылі наперад і пачалі нізка кланяцца, нечакана пачуваючыся надзіва няёмка, быццам пагрукалі ў дзьверы простай сялянскай хаты, каб папрасіць вады, а ўбачылі перад сабою чароўную эльфскую каралеўну, апранутую ў жывыя кветкі. Але не пасьпелі хобіты нічога вымавіць, як яна паднялася, лёгка пераскочыла чарапкі, падбегла, сьмеючыся, а яе сукенка нягучна шапацела на бягу, нібыта вецер у заквітнелых зарасьцях рачных берагоў.

– Праходзьце, даражэнькія! – сказала, узяўшы Фрода за руку. – Сьмейцеся, весяліцеся! Я Злата, дачка ракі.

Потым лёгка крочыла да дзьвярэй, зачыніла, павярнулася да іх сьпінаю, захіліла рукамі.

– Адгародзімся ад ночы! Бо вы, пэўна, шчэ баіцеся туманоў ды лясных ценяў, глыбокай вады й дзікіх пачвараў. Ня бойцеся! Цяпер вы пад дахам Тома Бамбадзіла!

Хобіты зьдзіўлена зірнулі на яе, а яна паглядзела на кожнага й усьміхнулася.

– Чароўная гаспадыня, пані Злата! – вымавіў Фрода нарэшце, адчуваючы ў сэрцы невыказную радасьць. Нібы, як калісьці, замілаваны цудоўнымі эльфавымі галасамі, але й ня цалкам падобна, бо радасьць гэтая была не такая далёкая й узвышаная, а бліжэйшая да сэрца, раднейшая – чароўная, ды быццам знаёмая.

– Чароўная гаспадыня! – вымавіў ён зноў. – Цяпер я сапраўды разумею, пра якое дзіва сьпявалася ў песьнях!

*Дачка чароўнае ракі! Званчэй ад кроплі звонкае!*
*Чысьцей ад чыстае вады! Гнутчэй ад вербы тонкае!*
*Сьвятлей за сьветлую вясну ды лета за вясною!*
*Заўжды вясна – і ветру сьмех над ціхаю ракою!*

Раптам ён змоўк, запнуўшыся, ня змогшы перамагчы подзіў ад таго, што вось так зьнянацку прамаўляе. А Злата засьмяялася.

– Калі ласка! Я й ня чула аніколі, што ширскія хобіты гэткія майстры-дабрасловы! Але ж, відаць, ты Сябра Эльфаў, бо ў тваіх вачох сьвятло, а ў голасе звонь. Якая добрая сустрэча! Сядайце, пачакайма гаспадара. Ён хутка вернецца, толькі дагледзіць вашых стомленых конікаў.

Хобіты ахвотна паселі ў нізенькія трасьняговыя крэслы, пакуль Злата ладзіла вячэру. За ёй назіралі зь вялікім задавальненьнем, бо ад грацыёзных яе рухаў на серцы рабілася спакойна й радасна. Аднекуль з-за хаты далятаў сьпеў. Час ад часу хобіты чулі сярод шматлікіх "Скок-так!" ды "Гэй, хоп!" словы:

*Бамбадзіл, стары Том, сьмешлівы ды спрытны!*
*Боты жоўтыя на ім, а жупан блакітны!*

– Наймілейшая панна, – спытаў нарэшце Фрода. – Калі маё пытаньне не падасца вашэці зусім глупствам, скажыце мне: хто ж такі Том Бамбадзіл?

– Ён такі, – адказала Злата, прыпыніўшыся й усьміхнуўшыся.

Фрода зірнуў на яе запытальна.

– Ён менавіта такі, якім ты яго бачыш, – адказала яна на ягоны позірк. – Ён – Гаспадар лесу, водаў ды пагоркаў.

– Дык тады ўся гэтая дзівосная зямля належыць яму?

– Не, зусім не! Як гэта было б цяжка й нудна, – сказала яна, ужо не ўсьміхаючыся, дый нягучна, амаль пра сябе. – Дрэвы з травою, усё, што жыве й расьце на зямлі, належаць толькі самі сабе. А Том Бамбадзіл – Гаспадар. Ніхто не падловіць старога Тома, не падпільнуе ў лесе ці калі ён пераходзіць раку, скача на пагорках удзень ці ўночы. Ён не баіцца анічога. Бо ён – Гаспадар.

Дзьверы адчыніліся й увайшоў Том Бамбадзіл. Цяпер на ім не было капелюша, густыя рудыя валасы аздабляла карона з восеньскага лісьця. Ён засьмяяўся, падышоў да Златы, узяў яе за руку.

– Вось мая гаспадынька-прыгажунька! – сказаў, кланяючыся хобітам. – Вось мая Златачка-сунічка, у срабрыстую зяляніну апранутая, з кветкамі на паску! Ці вячэра згатаваная? Бачу жоўтую сьмятанку з сотамі мядовымі, белы хлеб і масла, тлусты сыр ды малако, ды зёлкі зялёныя, ды сьпелыя ягады – усё пасабранае. Ці хопіць нам? Ці ўсё падрыхтаванае?

– Так, – адказала Злата. – А можа, госьці шчэ не?

Том пляснуў у далоні й усклікнуў:

– Томе, госьці стаміліся, а ты амаль і забыўся! Хадзем, хадзем, сябры ласкавыя, асьвежымося! Змыйма хутка з твараў пыл, рукі апалошчам, скінем брудныя плашчы ды расчэшам патлы!

Адчыніў дзьверы, і яны пайшлі ўсьлед за ім па нядоўгім калідорыку, завярнулі за вугал – патрапілі ў нізенькі пакой з пахілым дахам, напэўна, прыбудову з паўночнага боку Томавай хаціны. Сьцены былі з гладкага каменю, завешаныя зялёнымі пляцянкамі й жоўтымі фіранкамі. Падлога таксама была каменная, засланая сьвежым зялёным аерам. Ляжалі ў пакоі чатыры тоўстыя матрацы з гарою белых коўдраў ля кожнага, ля дальняй сьцяны на доўгай лаве стаялі шырокія гліняныя місы, а побач – рудыя гарлачы з вадою, некаторыя з халоднаю, некаторыя з гарачаю, амаль кіпнем. Ды мяккія зялёныя шлэпцікі ляжалі побач з кожным матрацам.

Неўзабаве хобіты, умытыя й пасьвяжэлыя, ужо сядзелі за сталом, па два з кожнага боку, а Злата з Томам – насупраць адно аднаго. Вячэралі доўга й надта весела. Хоць госьці й налягалі на ежу, як здатныя толькі згаладнелыя хобіты, хапала ўсяго. У келіхах іхніх была нібыта простая халодная вада, але яна ахмяляла, і зь ёй рабілася лёгка на сэрцы. Хутка госьці вынайшлі, што яны радасна сьпяваюць, быццам тое было лягчэй і прыдатней, чым размаўляць.

Нарэшце Том з Златаю паўсталі ды спрытна прыбралі з стала. Гасьцям загадалі не турбавацца, сядзець спакойна, парассадзілі іх па фатэлях, даўшы кожнаму нізенькі ўслончык пад ногі. У шырокім агмені перад імі палаў агонь, і патыхала ад яго салодка, быццам ад яблыневых дроваў. Калі ўсё зладзілі, згасілі ўсе ліхтары, апроч

аднога, усе сьвечкі, акрамя дзьвюх па краёх паліцы над агменем. Злата падышла да хобітаў зь сьвечкаю ў руцэ дый пажадала кожнаму дабранач.

– Сьпіце спакойна да самага ранку! Ня бойцеся галасоў ночы! Бо анічога не пралезе сюды празь дзьверы й вокны, адно сьвятло месяца й зораў ды сьпевы ветру над пагоркамі. Дабранач!

І зьнікла, праблiснуўшы ў змроку. Лёгкі шомаст, гук яе крокаў падаўся хобітам голасам рачулкі, што зьбягае схілам па чыстых камянёх у цёплай ночы.

Том пэўны час маўчаў, а сябры ўсё набіраліся мужнасьці задаць хоць адно з пытаньняў, падрыхтаваных за вячэраю. Але ўжо санлівасьць абцяжарыла ім павекі. Урэшце Фрода спытаў.

– Ці вашамосьць пачуў мяне, Гаспадар, альбо натрапіў на нас цалкам выпадкова?

Том варухнуўся, нібы абуджаны з прыемнага сну.

– Э-э, чаго? Ці чуў я? Не, не, бо ж быў заняты, сьпяваў. Выпадкова, вядома, калі такое вы жадаеце называць выпадкам. Бо так, я не чакаў вас сустрэць, хоць чакаў вас. Мы пачулі пра вас і пра вашую вандроўку. Ведалі, што неўзабаве выйдзеце да рэчкі – усе шляхі туды вядуць, сьцежкі ды сьцяжынкі. Стары шэры хрыч Лазьняк – ён сьпявак магутны. Цяжка хобітам малым тут не заблукацца. Засьпявае, завядзе, да сябе завабіць. Але ж я меў справу там, мне ён не адважыцца ў справе перашкодзіць, – Том заківаў, нібыта зноў адолены сном, але ўсё ж распавёў далей, напаўсьпяваючы:

*Такую справу меў: для Златачкі-сунічкі*
*лілеяў белых, лісьця сьвежага сабраць,*
*уратаваць іх ад зімы, каб да цяпла*
*квітнелі побач зь мілай гаспадыняй.*
*Я кожнай восеньню да першых халадоў*
*сьпяшаюся да тых разьліваў, дзе*
*лілеі першымі квітнеюць па вясьне,*
*апошнімі ўвосень засынаюць.*
*Калісьці там я Злату напаткаў,*
*найпрыгажэйшую, між чарацінак гонкіх*
*сьпявала звонкай радасьцю яна!*

Раптам шырока расплюшчыў вочы, зірнуў на хобітаў, бліснуўшы зыркім блакітам.

*А тое добра абярнулася для вас.*
*Бо я цяпер на сьцежку па даліне*
*да навагодзьдзя болей не патраплю,*
*да Лазьняка-хрыча не завітаю,*
*пакуль сунічанька мая вясною новай*
*ня пойдзе пакупацца да ракі.*

І зноў ён змоўк, аднак Фрода ня мог утрымацца, каб не спытаць яшчэ раз:

– Скажыце, Гаспадар, а хто такі стары Лазьняк? Я аніколі раней пра яго ня чуў.

– Не, не! – усклікнулі разам Мэры зь Піпінам, ледзь не падскочыўшы. – Не цяпер! Ня поначы!

– Слушна, – сказаў стары Том. – Цяпер час адпачыць. Пэўныя рэчы нядобра чуць, пакуль сусьвет агорнуты цемрай. Сьпіце да раніцы на мяккіх падушках. Ня бойцеся гукаў ночы! Не палохайцеся шэрых вербаў!

З гэтымі словамі задзьмуў лямпу і, узяўшы па сьвечцы ў кожную руку, вывеў хобітаў з пакою.

Матрацы з падушкамі сталіся мяккія, рыхтык пух, а коўдры былі зь белай поўсьці. Хобіты толькі паклаліся ў ложкі й накрыліся коўдрамі – ужо й пазасыналі.

Глухой ноччу Фрода бачыў у сьне цемру. Яе расьсеяў маладзік, узьняўшыся ў змрочных нябёсах, асьвяціўшы вялізную сьцяну з суцэльнага каменю, пранізаную тунэлем, нібыта брамай. Фрода быццам узьняло й панесла над ёю, і з вышыні ён пабачыў, што сьцяна была кольцам гор, што абкружылі роўнядзь. Пасярод узвышалася скала, падобная да велетавай вежы, зробленай нечалавечымі рукамі. На самым версе стаяў чалавек. Маладзік быў крыху затрымаўся над ім, асьвятліўшы сівыя валасы, якія варушыў вецер. З змрочнай роўнядзі ўнізе данеслася шматгалосае ваўчынае выцьцё й злосныя выкрыкі. Раптам вялізны цень, нібыта ад магутных крылаў, захіліў маладзік. Постаць на вежы ўзьняла рукі, і з кія ў яе руках выбліснула сьвятло. Велізарны арол, летучы, падхапіў чалавека дый панёс прэч, а ўнізе загаласілі яшчэ люцей, зайшліся выем ваўкі. Раптам пачуўся шум, бы ад моцнага ветру, і зь ім прыляцеў пошчак – з усходу, з усходу! "Чорныя Вершнікі!" – падумаў Фрода, прачынаючыся, а гук капытоў шчэ рэхам адбіваўся ў ягоных вушах. Ці хопіць яму адвагі ўвогуле пакінуць бясьпеку Томавай хаты, выйсьці за гэтыя надзейныя сьцены? Ён ляжаў нерухома, прыслухоўваючыся, але ўсё было спакойна й ціха, і Фрода зноў заснуў і болей ня трызьніў, ці бачыў тое, пра што раніцою й не ўзгадаў.

Побач зь ім Піпін бачыў лагодныя сны, але раптоўна яны зьмяніліся, і ён павярнуўся й застагнаў. Ён прачнуўся, або яму падалося, што прачнуўся, а ў цемры па-ранейшаму быў чуваць той самы гук, які ўстурбаваў ягоны сон: *рып-рып, грук, рып* – нібыта сукі скрыгочуць адзін аб другі пад ветрам, пальцамі-галінамі шкрабуць сьцены й вокны: шкрыбысь, шкрыбысь. Можа, гэта лозы ля хаты? І прымроілася жудасна: мо ён зусім і ня ў хаце, мо ўнутры лазы, і чуе зноў той кплівы скрыгатлівы сьмех. Піпін сеў, але адчуў мяккасьць падушкі пад пальцамі й лёг зноў, атрымаўшы палёгку. Быццам зноўку ў вушах рэхам адбіліся словы: *Ня бойцеся анічога! Сьпіце спакойна да раніцы! Ня слухайце галасоў ночы!* І Піпін заснуў зноў.

А Мэры ў глыбокім сьне пачуў ваду. Яна падала, плынела навокал, запаўняла, залівала наваколье, ператварала ўсё ў змрочнае бясконцае возера. Булькала пад сьценамі, уздымаючыся вышэй і вышэй. "Патану! – падумаў Мэры. – Яна сюды працячэ, і я патану". Адчуў, быццам ляжыць у мяккім сьлізкім глеі, і ўскочыў. Але калі толькі крануў нагою халодны цьвёрды камень падлогі, успомніў, дзе ён, і лёг зноўку. Бо й у яго ўвушшу гукнулася ці ўспомнілася: *Анічога не пралезе сюды праз дзьверы й вокны, адно сьвятло месяца й зораў, ды сьпевы ветру над пагоркамі*. Слабы подых салодкага ветру варухнуў фіранку. Мэры глыбока ўздыхнуў і заснуў зноў.

А Сэм анічога ня сьніў ці ня памятаў, сьніў што ці не, бо праспаў ноч глуха, бы пень, і прачнуўся цалкам задаволены.

Абудзіліся ўсе разам з ранішнім сьвятлом. Том хадзіў па пакоі, насьвістваючы, рыхтык шпак. Калі пачуў, што хобіты заварушыліся, пляснуў у далоні й выгукнуў: "Гэй, гоп! Скок, паскок, даражэнькія!" Адшмаргнуў жоўтыя фіранкі, за якімі хаваліся вокны па абодвух канцах пакою – адно на захад, другое на ўсход.

Хобіты паўскоквалі – адпачылыя й бадзёрыя. Фрода падбег на ўсходняга вакна, чакаючы, што яно будзе нізенькім, на ўзроўні зь зямлёю, стаптанай капытамі, а

пабачыў за ім агарод з расьлінамі, срабрыстымі ад расы. Краявіды захіляў радок бабоў на высокіх шастках, а над ім, далёка, абрысавалася ў ранішнім сьвятле шэрая вяршыня пагорку. Бляклая была раніца: на ўсходзе кучамі мокрай поўсьці клубіліся аблокі, чырвоныя па краёх ды зь цёмна-жоўтымі плямамі там і тут. Відавочна, зьбіралася на дождж. Але ўсё ж хутка сьвятлела, і чырвоныя кветкі зноў зазьзялі на мокрым бабовым зялёным лісьці.

Піпін з заходняга вакна пабачыў мора туману. Туман схаваў пушчу – падавалася, нібы пазіраеш зьверху на пахілы туманны дах. Непадалёк ён прасядаў, ірваўся, выплёскваўся асобнымі языкамі, відавочна, над далінаю Іўі. Тая зьбягала па схіле леваруч ад акна й зьнікала ў тумане. Пад акном быў кветнік, абгароджаны пастрыжанымі кустамі, у срэбным ад расы павуціньні, а за ім – пастрыжаная трава, блядна-шэрая ад расы. Старых вербалозаў нідзе побач не было.

– Дабранак, сябры дарагія! – усклікнуў Том, расчыняючы шырока ўсходняе вакно. Пацягнула прахалодным паветрам, патыхнула дажджом. – Баюся, сонца ненадоўга пакажа нам сёньня сваё аблічча. Паскакаў я па пагорках ад самага ранку, вынюхаць каб вецер, выведаць надвор'е, унізе воглая трава ды ўверсе неба воглае. Златачку пабудзіў, пад акном сьпяваючы, але ж хто здалее ўзьняць раніцою хобітаў? Абудзіліся ўначы малыя ды сьпяць потым за сьвятлом. Гэй, хоп ды скок! Прачынаймася, сябры! Ды забудзьмася на ўсе згукі цемрадзі! Скок, так, там ды тут, даражэнькія! Пасьпяшаймася, мае маленькія, гайда да стала! Хто спазьніцца, таму вада з крыніцы дый сена!

Хоць Томавы пагрозы ўсур'ёз аніхто не прыняў, за сталом хобіты апынуліся вельмі хутка й пакінулі яго, толькі калі ён апусьцеў. Ані Тома, ані Златы відаць не было. Было чуваць: Том недзе побач, ляскае на кухні, тапочы ўніз ды ўгору па лесьвіцах, сьпявае – то ў хаце, то звонку. Расчыненыя вокны пакою выходзілі на захад, на зацягнутую туманом даліну. З саламянага даху струменьчыкамі зьбягала вада. Яшчэ да канца сьнеданьня аблокі сашчапіліся над галавою ў суцэльнае покрыва, вецер сьцішыўся, і заструменіўся шэры спакойны дождж, суздрам захіліўшы лес.

А калі вызірнулі ў вокны, то пачулі, нібыта аднекуль зьверху павольна падае зь нябёсаў разам з дажджом ясны голас Златы. Хобіты амаль не разьбіралі словаў, але не сумняваліся: яна сьпявала песьню дажджу, салодкую, як кроплі на ссохлых вяршынях, песьню пра раку ад яе вытокаў з горных крыніцаў да мора ў далёкай далечыні. Хобіты слухалі зь вялікай асалодаю. Фрода надта радаваўся й дзякаваў надвор'ю, бо з-за яго адцягвалася разьвітаньне зь бясьпечнай і ўтульнай Томавай хатай. Фрода думаў з страхам пра неабходнасьць ісьці далей з таго самага моманту, як прачнуўся, але цяпер, як падавалася, да раніцы наўрад ці куды трэба было выпраўляцца.

З захаду прыйшоў верхні вецер, і яшчэ цяжэйшыя аблокі папаўзьлі праліцца на голыя вяршыні Лысагор'я. Вакол хаты болей анічога не было відаць – суцэльная сьцяна вады. Фрода стаяў побач зь дзьвярыма й назіраў, як сьцежка, белая ад вапны, ператвараецца ў малочную рачулку ды булькоча, імкнучыся да даліны ўнізе. З-за кута зьявіўся Том Бамбадзіл, разводзячы рукамі над галавой, нібыта адхіляючы дождж, і сапраўды, калі крочыў за ганак, апынуўся зусім сухі, акрамя хіба што ботаў. Тыя ён зьняў ды паставіў ля агменю. Потым сеў у найвялікшую фатэлю й паклікаў хобітаў пасесьці навокал.

– Сёньня мая Златачка-сунічка чысьціць і абмывае, сёньня восеньская прыборка. Надта мокра вандраваць будзе хобітам – няхай адпачнуць, покуль могуць! Сёньня добры дзень для доўгага расповеду, для пытаньняў і адказаў! Распавядаць Том пачне!

І распавёў ім безьліч найвыдатнейшых і найцікавейшых гісторыяў, часам быццам ведучы гаворку сам з сабою, часам пільна назіраючы за хобітамі з-пад калматых броваў яснымі блакітнымі вачыма. Часьцяком расповед ператвараўся ў сьпеў, і тады Том ускокваў і прытанцоўваў вакол. Хобіты пачулі пра пчолаў і кветкі, пра жыцьцё дрэваў і дзівосных лясных пачвараў, пра добрае й ліхое ў пушчы, сяброўскае й злаўмыснае, пра жорсткае й лагоднае, пра таямніцы, затоеныя ў гушчарах.

Слухаючы, яны пачалі разумець жыцьцё вялікага лесу, пачуліся незапрошанымі гасьцямі там, дзе ўсё астатняе было ў сваім жытле. Увесь час згадваў Том Старога Лазьняка, і Фрода даведаўся дастаткова, каб зразумець яго, нават болей, чым хацеў, бо гэткае ня вельмі прыемна ведаць. Том казаў пра думкі дрэваў, іх намеры й жаданьні, іх сэрцы, часьцяком дзівакаватыя й нядобрыя, паўнюткія нянавісьці да ўсяго, што вольна бадзяецца па зямлі, падгрызаючы, кусаючы, ламаючы, сьсякаючы, спальваючы: нянавісьці да зьнішчальнікаў і гвалтаўнікоў. Старая пушча не дарма так называлася, бо сапраўды была старажытная, рэшта лясоў пракаветнай даўніны, і жылі яшчэ тут, старэючы павольней за горы, продкі продкаў усіх сёньняшніх дрэваў, і памяталі яшчэ часы сваёй улады над зямлёю. Незьлічоныя гады напоўнілі іх гонарам і мудрасьцю, а таксама злосьцю. А найнебясьпечнейшы зь іх быў Стары Лазьняк – ягоная сарцавіна выгніла, а моц заставалася маладою, быў ён разумнік і штукар, гаспадарыў над вятрамі, ягоныя сьпевы й думкі чуў увесь лес паабапал ракі. Яго шэры, прагны дух цягнуў сілу зь зямлі й распаўсюдзіўся, нібы паўзучыя танюткія карані ў зямлі, нібы нябачныя галіны-пальцы ў паветры, – пакуль Лазьняк не падпарадкаваў амаль усе дрэвы ў лесе ад Засекі да Лысагор'я.

Раптам Томаў расповед пакінуў пушчу й паскакаў па маладой рацэ, па зіхоткіх вадаспадах, па жвіры ды выветраных камянях, паўз квяцінкі ў шчыльнай траве вільготных лагчавінаў і, нарэшце, да Лысагор'я. Хобіты пачулі пра Вялікія Склепы, зялёныя курганы, каменные кольцы на вяршынях і ля пячораў паміж стромамі. Бляялі авечыя атары. Прарасталі белыя й зялёныя сьцены, уздымаліся крэпасьці на гарах. Князі малых каралеўстваў біліся адзін з адным, і ранішняе сонца зьзяла полымем на сталі іхніх маладых, прагных крыві мечаў. Перамагалі, цярпелі паразы – да апошняй, калі пабурыліся вежы, абрынуліся сьцены й полымя ўзьнялося высока над крэпасьцямі. Дамавіны мёртвых каралёў і каралеўнаў напаўнялі золатам, насыпалі над імі курганы, зачынялі каменнымі брамамі – і ўсё парасло травой. Шчэ папасьвіліся на ёй авечкі, а потым усё спусьцела. Здалёк, зь цемры прыйшоў чорны цень, і косткі заварушыліся ў трунах. Магільныя мерцьвякі пабрылі ўночы між стромамі, звонячы залатымі ланцугамі на ветры, зь пярсьцёнкамі на халодных пальцах. Каменныя кольцы шчэрыліся зь зямлі ў месяцовым сьвятле, бы паламаныя зубы.

Хобіты ўздрыгнулі. Нават да Шыру даляталі чуткі пра Племя Магілаў з скляпеньняў Лысагор’я, што за Старой пушчай. Але наўрад ці які хобіт пажадаў бы слухаць пра гэткае, нават ва ўтульнай фатэлі ля агменю, далёка ад тых жудасных мясьцінаў. Раптам згадалася раней выгнанае з думак гасьціннасьцю й радасьцю Томавай хаты: гэтая хаціна стаіць на ўскрайку таго самага Лысагор’я! Хобіты перасталі слухаць, заварушыліся, пазіраючы скоса адзін на аднаго.

А калі ўслухаліся зноў, вынайшлі, што расповед Тома забрыў у зусім ужо спракаветныя абшары, па-за хобіцкай памяцьцю, забрыў у тыя часы, калі сусьвет быў прасторнейшы й мора яшчэ плёскалася аб далёкі заходні бераг. А Том забіраўся ўсё далей, дасьпяваў да старажытнага зорнага сьвятла, калі абудзіліся толькі прабацькі

эльфаў. Раптоўна змоўк, і хобіты пабачылі, што ён ківае галавою, нібыта засынае. Хобіты сядзелі перад ім, зачараваныя, і падавалася, быццам сілаю ягоных словаў зьнік вецер, ссохліся, распусьціліся аблокі, адляцеў прэч дзень, цемра прыйшла з усходу й захаду й нябёсы заліло сьвятло бялюткіх зораў.

Ці адзін дзень прамільгнуў, зьмяніўшы раніцу змрокам, ці шмат – Фрода ня ведаў. Не адчуваў ані голаду, ані стомы – толькі пачуцьцё бязьмежнага цуду. Зорнае сьвятло лілося праз акно, і цішыня нябёсаў ахутала яго. І, спалохаўшыся раптоўна той цішыні, ён спытаў зьдзіўлена:

– Хто ж вашамосьць, Гаспадар?

– Э, чаго? – спытаў Том, выпрастаўшыся, бліснуўшы вачыма ў змроку. – Ці ж невядома шчэ табе маё імя? Тое й адказ табе. Скажы: што такое сам па сабе ты, існы й безыменны? Такі й я, толькі ты малады, а я стары. Найстарэйшы, вось хто я. Запомніце, сябры мае: Том быў тут да ракі й да дрэваў, Том памятае першы жолуд і першы дождж. Шчэ да вялікага народу Том пратаптаў сьцежкі, Том бачыў, як прыйшоў народ маленькі. Том быў тут да каралёў, скляпеньняў і мерцьвякоў. Том ужо быў тут, калі эльфы рушылі на Захад, Том быў тут шчэ да таго, як мора замкнула сусьвет. Том памятае, калі ноч не была жахам, да таго, як крочыў у гэты сьвет Уладар Цемры.

Падалося, цень прамільгнуў ля вокнаў, і хобіты спалохана азірнуліся. А калі зноў павярнуліся да Тома, у дзьвярох, амытая плыньню сьвятла, стаяла Злата. У руцэ трымала сьвечку, прыкрываючы яе даланёю ад скразьняку, і сьвятло сачылася праз далонь, быццам сонца праз тонкую белую ракаўку.

– Дождж скончыўся, – сказала яна. – Што пралілося, бяжыць пад зорамі ў даліну. Адсьвяткуйма ж ды адсьмеямося!

– Пабалюйма! – усклікнуў Том. – Ад доўгіх расповедаў смага! Ад слуханьня ўсю раніцу, дзень ды ўзьвячорак зусім згаладнееш!

Скочыў з фатэлі, схапіў сьвечку з паліцы над агменем, запаліў ад той, што трымала Злата, ды затанчыў вакол стала. Зьнянацку – хоп! – скочыў у дзьверы й зьнік.

Неўзабаве вярнуўся зь вялікім, густа настаўленым падносам. Тады Том з Златаю зладзілі вячэру, і хобіты сядзелі, сьмеючыся й дзівячыся: такая гожая й зграбная Злата, такія забаўныя – Томавы скокі. Аднак чамусь здавалася, што танчылі яны агульны танец, не перашкаджаючы адно аднаму: у пакой, з пакою, вакол стала – і вельмі хутка ежа зь пітвом ды посуд стаялі на месцах, і палалі сьвечкі, жоўтыя й белыя. Том пакланіўся гасьцям.

– Калі ласка, вячэраць! – запрасіла Злата, і хобіты заўважылі, што цяпер яна апранутая ва ўсё срэбнае, з белым паском, і чаравічкі яе нібыта рыбіна луска. А Том увесь у чыста-блакітным, як прамытыя дажджом незабудкі, толькі гетры зялёныя.

Вячэра пераўзышла ўчорашнюю. Хобіты, слухаючы Томавы сьпевы, прапусьцілі мо й абед, і падвячорак, але калі пабачылі ежу перад сабою, адчулі, што згаладаліся як за цэлы тыдзень. І пэўны час не гаманілі, ані сьпявалі, напружана сілкуючыся. Хутка, аднак, праца дала плён, хобіцкія сэрцы й брушкі ўзрадаваліся, і хобіты зноў пачалі жартаваць ды сьмяяцца.

Тады Злата сьпяяла ім мноства песьняў. Яны пачыналіся з гор і заціхалі ў далінах, і ў цішыні хобітам уяўляліся азёры й разьлівы нябачанай шырыні, і пад самымі нагамі адлюстроўваліся нябёсы, і зоры дыямантамі зьзялі з глыбіняў. Потым гаспадыня знову пажадала кожнаму дабраначы й сышла, пакінуўшы іх ля агменю. Але ж тут абудзіўся Том і заваліў хобітаў пытаньнямі.

Высьветлілася, што ён шмат ведаў і пра іх саміх, і пра іхнія сем'і, дый увогуле пра шырскія падзеі з тых дзён, пра якія й самі хобіты наўрад ці памяталі. Яны ўжо не дзівіліся, а ён і не хаваў, што ведамі пра самыя раньнія падзеі абавязаны, галоўным чынам, старому Блазну, які падаваўся Тому асобай нашмат істотнейшай, чым уяўлялася хобітам.

– Так, пальцы ягоныя ў глебе, а ногі – моцна стаяць на зямлі, ён пазірае навокал абодвума вачыма, шмат заўважае й разумее, – казаў Том.

Відочна, і з эльфамі Том меў сякія-такія зносіны, бо неяк навіны ад Гільдара пра Фродавы ўцёкі з Шыру сягнулі яго.

Сапраўды, столькі ўжо ведаў Том і так па-майстэрску распытваў, што Фрода нечакана для сябе распавёў яму пра Більба ды пра свае надзеі й страхі болей, чым Гэндальфу. Том ківаў галавою, і ў ягоных вачох прабліснуў непакой, калі пачуў пра Чорных Вершнікаў.

– Ну-тка, пакажы-тка мне найкаштоўнейшы гэты пярсьцёнак! – загадаў, зьнянацку перабіўшы Фрода пасярэдзіне расповеду. І Фрода, на вялікі ўласны подзіў, пакорліва выцягнуў ланцуг з кішэні, адчапіў пярсьцёнак і працягнуў Тому.

Той, падалося, павялічыўся на вялікай загарэлай далоні. Раптам Том прыклаў яго да вока й засьмяяўся. І хобіты пабачылі карціну й камічную, і пагрозьлівую: зыркае блакітнае Томава вока ў залатым кольцы. Тады Том насунуў пярсьцёнак на кончык мезенца й падняў бліжэй да сьвечкі. Спачатку хобіты ня ўцямілі, а потым ажно вохнулі! Том жа ня зьнік!

Ён зноў засьмяяўся, пстрычкай закруціў, падкінуў пярсьцёнак у паветра – і той бліснуў і зьнік. Фрода ўскрыкнуў, а Том нахіліўся наперад і працягнуў яму пярсьцёнак, усьміхаючыся.

Фрода ўважліва й падазрона агледзеў пярсьцёнак (як той, хто быў даверыў каштоўнасьць штукару). Так, відавочна, ён не зьмяніўся, выглядае й важыць дакладна па-ранейшаму. Ён заўсёды падаваўся Фрода незвычайна цяжкім. Але ж нешта падштурхоўвала пераканацца канчаткова. Напэўна, крыху раззлаваўся, бо Том жа такі несур'ёзны з тым, што сам Гэндальф палічыў найістотнейшым. Дачакаўся, пакуль гаворка пойдзе пра іншае, пакуль Том пачаў распавядаць нейкую абсурдную гісторыю пра барсукоў ды барсуковыя нягеглыя звычкі – і насунуў пярсьцёнак!

Мэры якраз павярнуўся да яго, каб сказаць нешта, і ажно ўздрыгнуў, ледзь ня выкрыкнуўшы. Фрода ўзрадаваўся, ці нешта накшталт таго. Пярсьцёнак быў той самы, безумоўна, бо Мэры пазіраў на пустую фатэлю й яго ня бачыў. Фрода ўстаў і ціхенька пакрочыў да дзьвярэй вонкі.

– Гэй, там! – усклікнуў Том, зірнуўшы на яго пранізьлівымі блакітнымі вачыма. – Гэй, Фрода! Куды сабраўся? Стары Том Бамбадзіл шчэ не такі сьляпы! Здымай свой пярсьцёнак! Твая рука прыгажэйшая безь яго. Вярніся! До гуляцца, сядай побач. Ёсьць у нас яшчэ размова, трэба нам паразважаць! Што ж рабіць на раніцу? Трэба ж вам параду даць, каб не заблукацца!

Фрода змушана засьмяяўся, зьняў пярсьцёнак і сеў. А Том распавёў, што раніца, найхутчэй, будзе сонечная, добрая, і выяжджаць будзе прыемна. Але давядзецца выбірацца рана, бо надвор'е тут такое, што сам Том ня ведае, на колькі яго хопіць, – можа зьмяніцца хутчэй, чым Том жупаны памяняе. Сказаў:

– Бо ж надвор'ю я не гаспадар – ані таму, што ходзіць на дзьвюх нагах.

Паводле ягонай парады, вырашылі раніцою кіравацца прама ад хаты на поўнач, праз ніжнія заходнія схілы Лысагор'я. Тады магчыма дасягнуць гасьцінцу за дзень

ды Скляпеньні абмінуць здаля. Том параіў ім не баяцца й не хваляватца, але трымацца сваёй дарогі й ня лезьці анікуды.

– Ідзіце па зялёнай траве! Ня лезьце да старых камяніцаў ці мерцьвякоў, ня суйцеся ў іхняе жытло – адтуль здольныя выбрацца толькі моцныя й бясстрашныя! – і паўтарыў гэта зноў ды параіў абыходзіць Скляпеньні з захаду, калі ўжо надарыцца набрысьці на што-колечы. А потым навучыў іх песеньцы, якую трэба засьпяваць у выпадку, калі такі ўлезуць у якую трасцу:

*Гэй, Том! Бамбадзіл! Стары Том, дзе ж ты?*
*Гэй, гай! Плынь ды схіл! Не ідзеш чаму ж ты?*
*За пагоркам, за ракой – слухай і пачуй нас!*
*Стары Том, пасьпяшай ды зь бяды ўратуй нас!*

Калі хобіты прасьпявалі яе разам, паўтараючы за ім, ён, сьмеючыся, паляпаў кожнага па сьпіне ды, узяўшы сьвечкі, правёў хобітаў да іхняй спальні.

## *8. Туманы над скляпеньнямі*

Гэтай ноччу аніякія вусьцішныя гукі не прыходзілі. Але ці ў сьне, ці ў яве Фрода чуў лагодны сьпеў, песьню, што прабіралася да яго слыху, нібы сьвятло з-за шэрай завесы дажджу. Песьня мацнела, завеса заблішчэла срэбрам і крышталём, нарэшце рассунулася – і за ёю разьвінулася далёкая зялёная краіна й раніца над ёю.

Мара зьлілася зь яваю, бо Том ужо насьвістваў, бы птушыная зграя на дрэве, і сонца ўжо забралася праз акенца ў пакой, выкараскаўшыся з-за пагорку. А вонкі ўсё зьзяла зелянінаю й мяккім золатам.

Сьнедалі зноў у самоце, і ад думак пра разьвітаньне рабілася цяжка на сэрцы, нягледзячы на цудоўную раніцу, такую зыркую, сьвежую, чыстую пад прамытым, празрыстым блакітам нябёсаў. З паўночнага захаду дзьмуў сьвежы ветрык. Поні, хоць былі досыць флегматычнымі жывёлінамі, нецярпліва пераступалі з нагі на нагу, фыркалі. Том выйшаў з хаты, махнуў капелюшом ды затанчыў на ганку, запрашаючы хобітаў устаць і пасьпяшацца з ад'ездам ды ехаць як хутчэй.

Паехалі па сьцежцы, што вілася за хатай уверх па схіле да паўночнага краю пагорку, які агароджваў хату. Там сьпешыліся, павялі поні пад аброць угору па апошнім стромкім схіле, і тут Фрода раптам спыніўся.

– Злата! – усклікнуў ён. – Чароўная гаспадыня, апранутая ў срэбра й зеляніну! Мы ж не разьвіталіся зь ёю й ня бачылі яе зь вечару!

Фрода так зьбянтэжыўся, што й назад ужо быў павярнуў, але ў гэты момант да іх даляцеў ясны, празрысты голас. На вяршыні пагорку над імі стаяла Злата, і ў яе доўгіх валасах мігцела, люструючыся, маладое сонца. Яна танчыла, і пад нагамі ўспыхвала раса на траве.

Хобіты пасьпяшаліся наверх і сталі побач, няздольныя й слова вымавіць. Пакланіліся, а яна, павёўшы рукою, запрасіла іх азірнуцца, і яны зірнулі зь вяршыні на ранішнюю зямлю навокал. Цяпер было настолькі ж ясна й далёка відаць, як было туманна й смужна ў той дзень, калі стаялі на лысай строме пасярод лесу. Яна й цяпер бачылася, блядна-зялёная, нібы выспа над цёмным морам дрэваў на захадзе. Там зялёнымі, жоўтымі, рудымі пад сонцам хвалямі лес каціўся да далёкай даліны Бранявіну. На поўдні, за Іўяй, відаць было шклістае слабое зьзяньне: там Бранявін рабіў вялікую пятлю па нізінах і струменіў далей у краі, хобітам не вядомыя. На поўначы пагоркі паніжаліся, шэра-бурае бляклае ўзгор'ё, логі ды стромы раставалі ў смузе, і было не разабраць, што там за імі. А на ўсходзе ўздымалася Лысагор'е, хрыбет за хрыбтом, захіляючы далягляд, але за імі ўгадваліся, болей з памяці старых паданьняў, чым насамрэч, белыя іскрыстыя кроплі сьвятла, зьліваючыся з блакітам нябёсаў, вяршыні далёкіх гор.

Хобіты глыбока ўдыхнулі й адчулі: некалькі добрых, доўгіх крокаў адсюль – і патрапіш куды заўгодна. Як жа маладушна й нудна цягнуцца па крывых адгор'ях да Шляху, калі можна было б паскакаць, як Том, з пагорку на пагорак, бы па лесьвіцы, да самых Гор!

– Пасьпяшайцеся цяпер, мае госьці! – сказала нарэшце Злата, і яны павярнуліся да яе. – Трымайцеся ж таго, што задумалі! Хай будзе вецер леваруч, хай лёгкім будзе крок! Сьпяшайцеся, пакуль сонца зьзяе ў нябёсах!

І дадала, зірнуўшы на Фрода:

– Да пабачэньня, Сябра Эльфаў! Добра было сустрэцца з табою.

Фрода не знайшоў словаў, каб адказаць. Адно нізка пакланіўся. Забраўся на поні ды павольна патрухаў па схіле, сябры сьледам. Даліна й Томава хата засталіся за

сьпінамі, за гарою, лесу болей не было відаць. У лагчавіне паветра пацяплела, моцна й салодка пахла трава. Спусьціўшыся данізу, азірнуліся на Злату, здалёк маленькую й танюткую, бы кветка сярод нябёсаў, залітая сонцам. Яна стаяла нерухома, назіраючы за імі, працягнуўшы да іх рукі. Убачыўшы, што яны азірнуліся, паклікала іх, махнула рукою – і, павярнуўшыся, зьнікла.

Паехалі ўздоўж лагчавіны, абмінулі травяністае ўзножжа стромы ды спусьціліся ў другую лагчыну, шырэйшую й глыбейшую, і зноў уверх і ўніз па гладкіх схілах, пераваліваючы праз адгор'і з адной даліны ў другую. Ані дрэва нідзе не было, ані струменю вады – краіна невысокай травы на пругкіх сьцяблінах, маўклівая й пустая, толькі вецер шапацеў, пасьвістваў на грабянях пагоркаў, ды ў вышыні чуліся згукі незнаёмых птушак. Сонца паднялося высока, зрабілася сьпякотна. За кожным наступным адгор'ем вецер усё слабеў. Калі зірнулі з чарговай вяршыні на захад, далёкі лес нібыта дыміўся, парыў, бы ўчорашні дождж вяртаўся да нябёсаў ад вогкага лісьця й карэньня. На даляглядзе паўсюль вісеў цень, змрачнаватая муць, і густая сінеча над ёю падавалася цяжкім, не да надвор'я, капелюшом.

Блізу полудня забраліся на пагорак зь вяршыняй шырокаю й пляскатаю, бы плыткая талерка зь зялёным краем-насыпам. Там паветра зусім зьнерухомела, а нябёсы нібы наваліліся, навісьлі над самымі галовамі. Пад'ехалі да паўночнага боку, зірнулі ўніз – і ўзрадаваліся, бо, падалося, праехалі болей, чым чакалі. У смузе цяжка было ўсьвядоміць дакладна, але ж, безумоўна, Лысагор'е сканчалася. Перад імі вяла на поўнач, віючыся, доўгая даліна, якая замыкалася вузкім праходам паміж стромымі схіламі. А за імі ўжо й пагоркаў ня бачылася. Далей на поўначы заўважылі ледзь прыкметную доўгую цёмную рысу.

– Гэта дрэвы ўздоўж Шляху, – сказаў Мэры. – На шмат міляў ад мосту гасьцінец абсаджаны дрэвамі. Кажуць, тое шчэ ў старажытнасьці зрабілі.

– Выдатна! – усклікнуў Фрода. – Калі мы рушым пасьля полудня гэтаксама хутка, як і раніцою, выберамося з Лысагор'я шчэ да цемры, і месца для начлегу адшукаем вонкі.

Але, яшчэ прамаўляючы, зірнуў на ўсход: з таго боку стромы былі вышэйшыя, нашмат большыя за іхнюю, зь зялёнымі курганамі на вяршынях, а на некаторых стаялі камяні, вытыркаючыся, бы шчарбатыя іклы зь зялёных дзёснаў.

Непрыемна й неспакойна было на іх паглядаць, і хобіты адвярнуліся, спусьціліся ад краю ў цэнтр. Пасярэдзіне іх роўнядзі-талеркі таксама тырчэў самотны высокі камень, у гэтую гадзіну бязь ценю. Анічога камень не ўяўляў зь сябе, але падаваўся значным – бы адзнака мясцовасьці, прыкмета, ці палец, узьняты для перасьцярогі. Але хобіты не зьвярнулі на яго асаблівай увагі, бо шчэ ж быў толькі полудзень, а яны стаміліся й згаладаліся. Паселі, прываліўшыся сьпінамі да каменю з усходняга боку. Камень заставаўся прахалодным, нібы сонца было бясьсілае прагрэць яго, і тое падалося прыемным. Хобіты елі й пілі, і пад'едак на траве атрымаўся любому на зайздрасьць, бо ежа была "з-за пагорку, з-за ракі" – Том шчодра абдарыў хобітаў на дарожку. Хобіты елі, а іхнія поні, разгружаныя, паразбрыдаліся вакол.

Спаць ніхто не плянаваў. Аднак жа ехалі доўга, потым наеліся, прыпякала сонца, трава так добра патыхала, прыляжаліся троху больш, чым трэба, выцягнуўшы ногі й паглядаючы ў нябёсы. Напэўна, праз тое ўсё й здарылася. Так ці інакш, калі хобіты абудзіліся, раптоўна й непрыемна, камень зусім схаладнеў і ягоны доўгі блядны цень накрыў хобітаў. Цьмянае, вадзяніста-жоўтае сонца ледзь прабівалася праз туман над самымі вяршынямі пагоркаў на захадзе; на поўначы, поўдні й усходзе туманы стаялі

халоднай белай сьцяною. Вісела нерухомая, цяжкая цішыня, пранізваў холад. Поні зьбіліся ў кучу, прыціснуліся адзін да аднаго, апусьціўшы галовы.

Хобіты паўскоквалі, занепакоеныя, пабеглі да заходняга краю – яны апынуліся на высьпе ў тумане. На іх вачох, і да суцэльнага адчаю, сонца зусім патанула ў тумане й з усходу пацягнуўся халодны шэры цень. Туманы клубіліся, уздымаліся, пакуль не сашчапіліся над галовамі, зачыніўшы хобітаў пад белым дахам, які пасярэдзіне падпіраўся самотным стаячым каменем.

Адчулі, што пастка за імі зачынілая, але не разгубіліся. Яшчэ памяталі жаданы гасьцінец, бачаны зьверху, ведалі, куды ісьці. У любым выпадку месца адпачынку цяпер так не падабалася, што й думкі, каб застацца, ня ўзьнікла. Спакаваліся як мага хутчэй – скалелымі, анямелымі пальцамі – ды выправіліся.

Пайшлі адзін за адным, ведучы поні пад аброць, за паўночны ўскраек ды па схіле, уніз, у туманнае мора. Там туман быў халаднейшы, вільготнейшы, валасы намоклі й абвісьлі, на вочы сачылася вада. Калі сягнулі дна даліны, так схаладнела, што давялося павыцягваць плашчы з каптурамі, якія адразу пакрыліся шэрымі кроплямі вільгаці. Унізе зноў паехалі верхам, павольна, вышукваючы найніжэйшы напрамак. Кіраваліся да вузкага праходу, падобнага да брамы ў канцы даліны, які бачылі з пагорку. Ад яго заставалася толькі ехаць прама – і абавязкова дабраліся б да Шляху. Болей хобіты ані пра што й ня думалі – спадзяваліся хіба толькі, што за Лысагор'ем туманоў ня будзе.

Прабіраліся вельмі марудна. Цугам, каб не паразбрысьціся й не пагубляцца. Фрода наперадзе. За ім Сэм, потым Піпін, тады Мэры. Даліна, падавалася, цягнулася бясконца. Раптам Фрода ўбачыў спадзеўны відарыс: нешта цёмнае, вялізнае вымалявалася аберуч скрозь туман – напэўна, наблізіліся такі да таго праходу паміж стромамі, да паўночнай брамы Лысагор'я. Засталося толькі прайсьці – і апынуцца на волі.

– Хадзем! За мною! – паклікаў, не азіраючыся, і пасьпяшаўся наперад. Але надзея яго хутка зьмянілася зьбянтэжанасьцю й трывогай. Цёмныя плямы яшчэ пацямнелі, але неяк паменшыліся, і зьнянацку Фрода ўбачыў перад сабою два велізарныя камяні. Яны стаялі бы дзьвярніцы абапал нябачнай брамы, крыху нахіліўшыся адзін да аднаго, змрочныя й злавесныя. Зьверху, калі пазіралі ў даліну раніцою, іх дакладна ня бачылі. Але пакуль разважаў, што рабіць, ужо й праехаў паміж імі – і тут нібыта цемра абрынулася на аго. Поні захрыпеў, уздыбіўся, і Фрода пакаціўся на зямлю. Зірнуўшы назад, пабачыў, што застаўся адзін. Астатнія не паехалі за ім.

– Сэме! – паклікаў ён. – Піпіне! Мэры! Дзе вы! Чаго не йдзяце за мною!

Ніхто не адгукнуўся. Пераляканы, Фрода пабег назад, да камянёў, галосячы: "Сэме! Сэме! Піпіне! Мэры!" Поні раптам ірвануў і паскакаў некуды ў туман. Аднекуль здалёк, ці так падалося, даляцеў крык: "Гэй, Фрода! Гэй!" – аднекуль з усходу, леваруч ад Фрода й камянёў-калёнаў. Ён стаяў, намагаючыся разгледзець што-кольвек у змроку, потым кінуўся туды, адкуль быў гук, пачаў караскацца па стромым схіле.

Падымаючыся, адчайна клікаў зноў і зноў. Спачатку анічога ня чулася, тады нешта слаба гукнулася далёка наперадзе й зьверху. "Гэй, Фрода!" – пачулася з туману, і нехта загаласіў ледзь чутна нешта накшталт "Ратуйце, ратуйце!" паўтараючы шмат разоў, апошняе "ратуйце" ператварылася ў доўгі пранізьлівы енк і абарвалася раптоўна. Фрода палез наверх з усім спрытам, на які быў здатны, але ж

зрабілася ўжо цалкам цёмна, шчыльная, густая ноч абкружыла яго, адняўшы ўсялякае пачуцьцё напрамку. Толькі й караскаўся ўгору ды ўгору.

Зьнянацку схіл пад нагамі зьнік – напэўна, выйшаў на вяршыню пагорку ці хрыбта. Фрода стаміўся, сапрэў – і зьмерз. Цемра навокал была паўнюткая.

– Дзе ж вы? – выклікнуў ён разгублена.

Адказу не было. Фрода стаяў, прыслухоўваючыся. Зрабілася халодна, надзвычай халодна, узьняўся льдзісты пранізьлівы вецер, падраў туманы, панёс лахманамі. Цемра парадзела, і Фродаў подых вырываўся з роту парай. Зірнуў угору й пабачыў, зьдзівіўшыся, што паміж імклівымі абрыўкамі туману квола зазьзялі зоркі. Вецер зашапацеў, засьвістаў у траве.

Прымроілася раптам, што нехта прыдушана крыкнуў, і Фрода кінуўся на крык. Пакуль бег, туманы канчаткова разьнесла й разьвінуліся над галавою абсыпаныя зоркамі нябёсы. Цяпер Фрода знаходзіўся на круглай пляскатай вяршыні, на якую, відавочна, ускараскаўся з поўначы, і рушыў на поўдзень. Востры, як нож, вецер дзьмуў з усходу. Праваруч змрочнаю плямаю ў зорным сьвятле ўзвышаўся цень – там стаяла вялізная пахавальня.

– Дзе ж вы? – гукнуў зноў, раззлаваны й напалоханы.

– Тут! – адказаў гулкі, халодны голас, бы з глыбіняў зямлі. – Я чакаю цябе!

– Не! – выдыхнуў Фрода, але не пабег. Калені задрыжэлі, і ён зваліўся на зямлю. Зірнуў наверх, трапечучы, і ўбачыў чорную постаць, нібыта цень паміж зораў. Цень схіліўся над Фрода і, падалося, зірнуў халоднымі вачыма, бледным сьвятлом, быццам аднекуль з далёкай далечы. Фрода нібы абхапіла абцугамі з ільдзянага жалеза, замарозіўшы да самых костак, і ён анічога болей ня памятаў.

Калі апрытомнеў, пэўны час нічога ня мог узгадаць – хіба што агульны жах. Уцяміў потым: усё, ён у пахавальні, замураваны, пахаваны жыўцом. Мерцьвякі схапілі яго ды, напэўна, зачаравалі жахлівымі чарамі, пра якія ў Шыры распавядалі толькі прышаптам. І варухнуцца не наважваўся, ляжаў сьпінаю на халодным камені, з рукамі на грудзёх.

Хоць вусьціш была такая чорная й суцэльная, што падавалася часткаю вакольнай цемры, Фрода думаў пра Більба й ягоныя гісторыі, як шпацыравалі разам па шырскіх прысадах, гамонячы пра прыгоды й шляхі. Бо ў сэрцы самага тоўстага й хатняга хобіта схаваная іскарка мужнасьці (хоць часьцяком надта, надта глыбока), здольная запалаць падчас апошняй, адчайнай небясьпекі. А Фрода быў і ня тоўсты, і далёка ня самы хатні хобіт. Хоць ён таго й ня ведаў, але й Більба, і Гэндальф лічылі яго найлепшым хобітам Шыру. Падумалася: вось і жудасны фінал прыгоды, але тая думка толькі надала моцы. Вынайшаў, што напружваецца, быццам перад апошняй рашучай бойкаю. Болей ён ужо не бездапаможная ахвяра.

Пакуль ляжаў, зьбіраючыся з думкамі й сіламі, заўважыў: цемра паціху адсоўваецца: вакол распальваецца няпэўнае, зеленаватае зьзяньне. Спачатку яно амаль нічога не асьвятляла, расло нібы з самога Фрода ды з падлогі побач і не дабралася яшчэ ні да сьценаў, ні да столі. Павярнуўся – і ўбачыў побач Сэма, Піпіна й Мэры. Яны ляжалі на сьпінах, апранутыя ў белае, і твары іхнія выглядалі сьмяротна бляднымі. Вакол груваськіліся скарбы, пэўна, золата, але ў зялёным зьзяньні яно выглядала халодным і непрыемным. На галовах у хобітаў былі залатыя вянцы, залатыя ланцугі зьвісалі з паясоў, а на пальцы было насунута шмат пярсьцёнкаў. Побач з кожным ляжаў корд, у нагах – тарча. А ўпоперак іх шыяў, усіх трох, цягнулася голае лязо доўгага меча.

Раптам пачуўся сьпеў: халоднае, панылае мармытаньне то гучнела, то заціхала. Голас плынеў нібы здалёк і гучаў невыноснай вусьцішшу, запаўняючы паветра то пранізьлівым выцьцём, то цяжкімі стогнамі з-пад зямлі. І з гэтай незразумелай плыні жаласьлівых, але страшных гукаў вылепілася нізка словаў: змрочных, суворых, халодных словаў, бязьлітасных і жаласьлівых. Нібыта ўзьвячорак тужыў па сьвітанку і праклінаў яго, недасягальнага. Нібыта холад праклінаў цяплынь, якой прагнуў. Фрода схаладнеў да костак. Неўзабаве сьпевы пачуліся ясьней, і Фрода з жахам адчуў, што яны ператварыліся ў заклён:

*Сэрцы скуе замагільным ільдом –*
*доўга ляжаць вам пад валуном,*
*на золаце спаць неабудным сном,*
*покуль чорная ноч не зьліецца з днём,*
*покуль сонца й месяц ня засьціць прах*
*і зоры ня згаснуць на чорных вятрах, –*
*калі Цемры Ўладар павядзе рукою*
*над мёртвым морам і ссохлай зямлёю.*

Пачулася рыпеньне й шорханьне. Фрода прыўзьняўся на локці, агледзеўся й у цьмяным сьвятле ўбачыў, што знаходзяцца яны ў калідоры, які за іхнімі галовамі збочвае. А з-за кута выпаўзала, цягнулася доўгая рука, шкрэбла пальцамі, дабіраючыся да Сэма, найбліжэйшага, да цаўя меча на ягоным горле.

Спачатку Фрода нібы скамянеў ад заклёну. Потым узьнікла ў яго адчайная думка пра ратунак. Можа, калі насунуць пярсьцёнак, мерцьвякі не заўважаць яго, можа, ён здолее выбрацца з скляпеньня. І ўявіў, як бяжыць па траве, тужыць па Мэры, Піпіну й Сэму, але сам жывы й свабодны. Нават і Гэндальф прызнае: анічога нельга было зрабіць, толькі ратавацца самому.

Але тая іскарка, што нарадзілася ў ягоным сэрцы, цяпер палала моцна. Не, ня годна так кідаць сяброў. Амаль бяздумна памацаў кішэню зь пярсьцёнкам, а нечая рука падпаўзала ўсё бліжэй. Не, ня будзе гэтага – вырашыў раптоўна. Схапіў корд, што ляжаў побач, прыўзьняўся на калені, нахіліўся над целамі сяброў. І зусяе моцы ўдарыў руку па пясьці! І перасек яе, а корд у тое імгненьне зламаўся каля самай гарды. Пачуўся пранізьлівы лямант, і сьвятло згасла. Нешта агрызнулася, зарычэла ў цемры.

Фрода ўпаў наперад, на Мэры, адчуў, які халодны ягоны твар. І тут згадаў, пра што забыўся зь першым крокам у туманах: хату на схіле, сьпевы Тома. Узгадаў песеньку, якой навучыў іх Том. Дрыготкім, ціхім галаском пачаў: "Гэй, Том! Бамбадзіл", і з гэтым імем ягоны голас набраў моцы, загучаў жыва й зычна, і па змрочнай каморы пакацілася рэха, як ад дуды ці барабана:

*Гэй, Том! Бамбадзіл! Стары Том, дзе ж ты?*
*Гэй, гай! Плынь ды схіл! Не ідзеш чаму ж ты?*
*За пагоркам, за ракой – слухай і пачуй нас!*
*Стары Том, пасьпяшай ды зь бяды ўратуй нас!*

Настала цішыня. Фрода нават чуў, як б'ецца ягонае сэрца. Праз колькі імгненьняў, якія падаліся вечнасьцю, даляцеў – ясна, але нібыта з-пад зямлі ці з-за тоўстых сьценаў – голас, які сьпяваў у адказ:

*Бамбадзіл, стары Том, сьмешлівы ды спрытны!*
*Боты жоўтыя на ім, а жупан блакітны!*
*Ён ня роўня анікому, самы ён старэйшы!*
*Сьпеў мацнейшы ў яго, скок яго спрытнейшы!*

Загрукатала, быццам пакаціліся, пападалі камяні, і нечакана заструменіла сьвятло, сапраўднае, звычайнае дзённае сьвятло. Сьцяна каморы ў Фродавых нагах разваліласа, адчыніўшыся дзіркай, падобнай на нізкія дзьверы, і ў сонечным зьзяньні, сама нібыта праменячы, зьявілася Томава галава ў капелюшы зь пяром. Сьвятло трапіла на падлогу, на хобітаў, якія ляжалі побач з Фрода. Хворая бель пакінула іхнія твары, але ж самі яны не варухнуліся. Цяпер выглядала, што яны глыбока сьпяць.

Том нахіліўся, зьняў капялюш і зайшоў у камору, сьпяваючы:

*Прэч, прэч у цемру, Здань! Пад сонцам растачыся!*
*Чорным дымам згінь, Здань, зь ветрамі разьвейся!*
*Прэч у ноч, у пустэчу, за горы, за долы!*
*Не вяртайся! Хай спусьцее старое скляпеньне!*
*Зьнікні, зыдзь, у змроку згінь, чорная пачвара,*
*За апошняй брамай ночы, да сканчэньня сьвету!*

Адразу пачуўся адчайны крык, і дальні канец каморы з храскам абрынуўся. Крык перакінуўся ў пранізьлівы лямант, слабеючы, аддаляючыся, і сьціх.

– Выходзь, сябра мой Фрода! – гукнуў Том. – Вонкі, на чыстую траву! Дапамажы мне вынесьці сяброў!

Разам яны выцягнулі вонкі Мэры, Піпіна й Сэма. Калі Фрода пакідаў скляпеньне, заўважыў: адсечаная рука яшчэ варушылася, абсыпаная зямлёй, бы паранены павук. Том зноў зьнік у скляпеньні – адтуль пачулася тупаценьне й грукат. А выйшаў зь вялізным ахапкам каштоўнасьцяў і кляйнодаў: залатыя, срэбныя, медныя ды бронзавыя рэчы – каралі, ланцугі й упрыгожваньні з каштоўнымі камянямі. Ускараскаўся на зялёны курган над скляпеньнем ды параскідаў усё там на вяршыні.

Стаў, трымаючы капялюш у руцэ, і вецер варушыў ягоныя валасы. Зірнуў на трох хобітаў, што ляжалі на траве з заходняга боку кургану. Узьняў правую руку й загадаў голасам моцным і гаспадарчым:

*Прачынайцеся, хлапцы! Рухнула каменьне!*
*Запусьцела назаўжды старое скляпеньне!*
*Саграваўцеся, скачыце, цемра растачылася!*
*Здані больш ня вернуцца, брама расчынілася!*

І, на вялікую Фродаву радасьць, хобіты заварушыліся, пацягнуліся, пацерлі вочы – ды паўскоквалі! Азірнуліся навокал, агаломшаныя, зірнулі спачатку на Фрода, потым на Тома, сапраўднага Тома на вяршыні над імі, а тады на саміх сябе, апранутых у станчэлыя белыя лахманы, укаранаваных ды апаясаных бляклым золатам, што зьвінела ад рухаў.

– Што гэта за брындзюлькі такія? – зьдзівіўся Мэры, мацаючы споўзлы набакір вянец. І замер, і твар ягоны азмрочыўся. Заплюшчыўшы вочы, прамармытаў: – Так

яно было, я ўзгадаў... Людзі з Карн Думу набеглі на нас уночы, і худое нам выйшла. А! Дрот працяў мне сэрца...

Схапіўся за грудзі. Расплюшчыў вочы, зьдзіўлены:

– Ды не, што я нясу? Я трызьню. Фрода, а ты куды падзеўся?

– Я думаў, што згубіўся, – сказаў Фрода, – але не хачу пра гэта казаць. Лепей абмяркуйма, што цяпер рабіць. Ісьці трэба!

– Апранутымі так, спадару Фрода? – спытаў Сэм, скідаючы пярсьцёнкі, карону ды пас на траву. – Дзе ж мая адзежа?

І азірнуўся сподзіўна, нібы ягоныя хобіцкія нагавіцы й камізэлька з капелюшом валяюцца недзе побач.

– Не знайсьці цяпер вам вопраткі сваёй! – усклікнуў Том, саскокваючы зь вяршыні, прытанцоўваючы вакол хобітаў ды сьмеючыся. Можна падумаць, анічога небясьпечнага й жудаснага ані не здаралася! І сапраўды, хобіты пабачылі вясёлае сьвятло ў ягоных вачох, і жах пакінуў іхнія сэрцы.

– А чаму? Чаму не? – спытаў Піпін, паглядаючы на яго, напаўжартоўна, напаўсур'ёзна.

– Бо з глыбокіх вы глыбіняў выбраліся, хлопцы, – адказаў Том, пахітаўшы галавою. – Што тут вопратка, як самі ледзь не патанулі. Радуймася, сябрукі вы мае малыя, грэймася пад сонейкам! Скіньма лахманы старыя! Галышом па траўцы скокам, пакуль Том на паляваньні!

І скочыў уніз па схіле, галёкаючы й прысьвістваючы. Фрода ўбачыў, што Том бяжыць на поўдзень па лагчавіне паміж іхнім пагоркам і суседнім, і сьвішча, і кліча:

*Гэй, хой! Усе сюды! Досыць вам бадзяцца!*
*З горкі ў горку, там і тут па пагорках шляцца!*
*Вастравух, Нюхач, Хвасьцяга, тоўсты Спатыкун!*
*Беланожка мой маленькі ды стары Таўстун!*

Так і сьпяваў на бягу, падкідваючы й ловячы капялюш, пакуль ня зьнік з вачэй за схілам, але пэўны час ягонае "Хэй! Хой!" шчэ даносілася ветрам, які цяпер зьмяніўся й дзьмуў з поўдня.

Зноў прыгрэла. Хобіты, скарыстаўшы Томаву параду, сапраўды пабегалі па траве. Тады паразьлегліся, грэючыся на сонцы, бы перанесьліся ўмомант з жорсткай зімы ў мяккае й ласкавае лета або рыхтык цяжка хворыя, якія ляжалі, прыкаваныя да ложкаў, а потым раптоўна прачнуліся й вынайшлі, што нечакана паправіліся, і сусьвет навокал зноў паўнюткі радасьці.

Калі Том вярнуўся, пачуваліся ўжо моцнымі, бадзёрымі й надта галоднымі. Пабачылі Томаў капялюш над пагоркам, а потым і самога Тома, а за ім пакорлівым ланцужком ішлі поні – шэсьць поні! Апошні, ня хобітаў, а Томаў, відавочна, і быў Таўстун, бо ж быў большы, мацнейшы, таўсьцейшы й старэйшы за астатніх. Мэры, гаспадар поні, такіх імёнаў ім не даваў, але адгэтуль поні адгукаліся да скону жыцьця толькі на імёны, дадзеныя Томам. Том клікаў іх па чарзе, і яны выходзілі з-за пагорку й станавіліся радком, побач. Тады Том пакланіўся хобітам.

– Вось і поні вашы тут! Кемяць яны лепш за вас, хобітаў бадзяжных. Бо здалёк пачулі ліха, а вы напрасткі туды! Уцяклі яны, пракуды, ды прыбеглі куды трэба. Вы даруйце небаракам, хоць і верныя яны, па скляпеньнях лазіць цёмных – гэта не па іх, ані! А вось гляньце: тут яны, ды з усёй пакладай!

Сэм, Піпін і Мэры апрануліся ў запасную вопратку й неўзабаве зусім спарыліся, бо нацягнулі найцяплейшыя рэчы, прызапашаныя на зімовыя халады.

– А адкуль гэты стары конік, Таўстун? – спытаў Фрода.

– Ён мой, – адказаў Том. – Мой чатырохногі сябра. Хоць я зрэдку ежджу верхам, найчасьцей ён сам сабе пасьвіцца паміж пагоркаў. Калі поні гасьцявалі ў маёй сядзібе, то з старым Таўстуном пазнаёміліся, вынюхалі ў цёмнай ночы ды назад прыбеглі хутка. Ён суцешыў іх, мяркую, бо ён мудры стары конік! Вох цяпер, мой Таўстунішка, стары Том цябе ўсцугляе. Гэй! Том малых суправаджае й да Шляху давядзе, таму трэба яму конік. Гаманіць нязручна будзе, як яны вярхамі, а ты на сваіх дзьвюх ледзь іх даганяеш.

Хобіты надзвычай усьцешыліся й засыпалі Тома падзякамі, а ён засьмяяўся й сказаў, што хобіты да таго здатныя губляцца, што ён не адчуе спакою, пакуль не суправодзіць іх да межаў сваёй зямлі.

– Ёсьць у мяне мора справаў: трэба працаваць, сьпяваць, край абыходзіць, назіраць, ды размаўляць, ды даглядаць. Том ня можа быць заўсёды побач, дзьверы расчыняць, шчыліны ў лозах. У Тома свая хата ёсьць, дзе Злата чакае.

Сонца паказвала, што яшчэ рана, недзе а дзясятай хобіты прыняліся за ежу. Апошні раз елі апоўдні ля таго стаячага каменя – амаль судні таму. І цяпер сьнедалі рэшткамі Томавых прыпасаў, якія раней прызначалі на вячэру, дый і цяпер Том тое-сёе з сабою прынёс. Было небагата (улічваючы хобіцкую згаладнеласьць пасьля столькіх прыгодаў), але, паджалюбаўшы, адчулі сябе нашмат лепей. А тым часам Том падняўся на вяршыню кургану агледзець скарб. Большасьць рэчаў паскідаў у адну кучу, зіхоткую й бліскучую пад сонцам. І загадаў ім ляжаць тут, пакуль ня возьме іх той, хто знойдзе – "птушка, зьвер, эльф ці чалавек – любое добрае стварэньне". Гэтак уладарны магільны заклён зьняўся з скарбаў, распусьціўся, каб болей Здані не вярнуліся да скляпеньня. Сабе Том пакінуў толькі брошку з блакітнымі каменьчыкамі, пералівістымі, як кветкі ільну ці крылы мятлушак. Доўга пазіраў на яе, нібы кранаючы трывожныя старыя ўспаміны, хітаючы галавою, і вымавіў нарэшце:

– Вось файны падарунак мне ды Злаце! Маёй сунічаньцы насіць – і згадваць нам дваім пра гаспадыню, красуню тую даўнюю ды сьветлую.

А кожнаму хобіту даў па кордзе – доўгім, зь лязом, як ліст лазы, вострым. Найцудоўнейшыя корды, бліскучыя, з чырвона-залатым зьмяістым кувезным карункам па сталі. Похвы да іх былі чорныя, вырабленыя зь незнаёмага мэталу, лёгкага й пругкага, інкруставаныя мноствам зыркіх каменьчыкаў. Ці з-за цудоўнах похваў, ці з-за магільнага заклёну лёзы, падавалася, не кранула час: ані іржавінкі на іх не было, і не затупіліся, ня страцілі бляску.

– Ножыкі старыя як мечы будуць хобітам, – сказаў Том. – Вострае лязо ндрэнна мець з сабою падчас вандроўкі, калі на поўдні, ці на ўсходзе, ці шчэ дзе далёка ў небясьпеку хобіты патрапяць.

І дадаў, што тыя лёзы скаваныя шмат гадоў таму людзьмі Захаду, змагарамі з Чорным Уладаром. Аднак іх перамог ліхі кароль Карн Думу з краіны Ангмар.

– Няшмат хто памятае іх, – прамармытаў Том, – але ж ня згінула іхняя кроў. Шчэ самотна вандруюць нашчадкі забытых каралёў, ахоўваючы бяспамятных і бесклапотных ад цёмных пачвараў.

Хобіты не зразумелі, пра што ён, але зь ягонымі словамі паўстала перад іхнімі вачыма бясконцая чарада гадоў, цьмяная роўнядзь былога, і па ёй крочылі людзі, высокія, суворыя, зь цяжкімі мечамі, а апошні зь іх – укаранаваны зыркаю зоркай. Тое ўявілася на момант і зьнікла, і яны вярнуліся на залітую сонцам траву. Трэ было

зьбірацца й пакавацца. Зброю прычапілі да скураных пасоў, схавалі пад камізэлькамі. Няёмка пачуваліся зь ёй. Дзівіліся, ці давядзецца насамрэч выкарыстаць? Вандроўка вандроўкай, а патрапіць у бойку ніхто сабе нават і не ўяўляў.

Нарэшце выправіліся. Зьвялі поні ўніз, пад схіл, там паехалі ўжо верхам уздоўж даліны. Азірнуўшыся, пабачылі вяршыню старога кургану на пагорку. Золата зіхацела там пад сонцам жоўтым полымем. Тады завярнулі за адгор'е й болей таго бляску ня бачылі.

Хоць Фрода толькі й рабіў, што круціў галавою навокал, аніякіх вялізных камянёў, што стаялі б як брама, так і не заўважыў. Неўзабаве вершнікі дабраліся да таго праходу на поўначы, які бачылі калісьці зь вяршыні, і хутка яго мінулі. Зямля нібы сама каціліся пад нагамі. Так было прыемна вандраваць побач з Томам! Ягоны Таўстун крочыў сабе бадзёра ці побач з хобітамі, ці наперадзе – відавочна, перамяшчацца ён мог даволі спрытна, нягледзячы на тлушч, а Том Бамбадзіл амаль увесь час сьпяваў. Бязглузьдзіцу, галоўным чынам, ці гэта была мова, незнаёмая хобітам, нейкая найстаражытнейшая, найдаўнейшая, дзе й словы былі амаль усе выклікамі зьдзіўленьня й радасьці ад навакольнага сусьвету.

Рушылі ўпарта, але неўзабаве пераканаліся, што Шлях нашмат далей, чым уяўлялася. Нават без туманоў, праспаўшы ўчора на вяршыні пагорку, Шляху да цемры не сягнулі б. Цёмная рыса, якую бачылі зьверху, апынулася ня шэрагам дрэваў ля Шляху, а кустамі ля ўскрайку глыбокай канавы з стромай сьцяной на другім баку. Том сказаў, што калісьці даўно гэта была мяжа каралеўства. Здаецца, яму ўзгадалася нешта невясёлае, болей ён не распавядаў.

Пералезьлі праз канаву й празь дзірку ў муры, потым павярнулі на поўнач, бо Том палічыў, што надта збочылі на захад. Цяпер ехалі па роўнядзі, лёгка й хутка, аднак ужо сутонела, калі пабачылі нарэшце доўгі шэраг высокіх дрэваў і ўцямілі, што пасьля ўсіх нечаканых прыгодаў такі дабраліся Шляху. Апошнія асьміны праскакалі намётам, спыніўшыся толькі пад доўгімі ценямі дрэваў. Пасталі на пагорку й пабачылі Шлях, асьветлены вечаровым сонцам. У гэтым месцы ён вёў амаль прама з паўднёвага захаду на паўночны ўсход і праваруч ад хобітаў спускаўся ў шырокую лагчавіну. Відавочна, нядаўна тут дажджыла, і моцна. Шматлікія каляіны заліло вадою, тут і там былі лужыны. Зьехалі ўніз, азіраючыся. Нічога трывожнага не прыкмецілі.

– Ну, нарэшце! – выгукнуў Фрода. – Спадзяюся, змарнавалі ня болей за два дні, паехаўшы праз пушчу напрамкі, з маёй парады! А мо й не змарнавалі – зьбілі з панталыку перасьлед.

Астатнія зірнулі на яго – і прыпомнілі Чорных Вершнікаў, былыя жахі. Бо калі патрапілі ў пушчу, думалі адно: як узьбіцца на Шлях. А калі ён апынуўся пад нагамі, згадалі на небясьпеку, што ішла наўздагон, а цяпер, верагодна, падсьцерагала іх на Шляху. Павярнуліся назад, заклапочаныя, але Шлях быў пусты.

– Вашамосьць, мяркуеце, сёньня яны возьмуць наш сьлед? – спытаў Піпін баязьліва.

– Не, сёньня, напэўна, не, – адказаў Бамбадзіл. – Можа, і раніцою таксама не. Але маім здагадкам цалкам не давярайцеся – Том не гаспадар Вершнікам з Чорнай зямлі, што гэтак далёка ад Томавых межаў.

Так ці інакш, хобіты хацелі, каб ён выправіўся зь імі. Калі хто й здольны справіцца з Чорнымі Вершнікамі, дык напэўна ён. Неўзабаве ж давядзецца трапіць у землі, цалкам незнаёмыя, пра якія распавядалі толькі самыя даўнія й цьмяныя шырскія паданьні. Ужо й сонца амаль схавалася, і ў вечаровым змроку хобітам так

захацелася дахаты! Адчулі сябе згубленымі й бездапаможнымі. Каб толькі Том не пакінуў іх! Стаялі нерухома, расчуленыя, нават і не зразумелі адразу, што Том ужо разьвітаецца зь імі, зычыць ня падаць духам ды ехаць да самай начной цемры не спыняючыся.

– Покуль дзень ня скончыўся, Том шчэ дасьць параду. А тады ўжо на сябе ды на свой шанцунак толькі спадзявайцеся. Дык вось: праз дзьве з паловай мілі вёску напаткаеце, гэта значыць Прыгор'е пад Тутэйшай гарою, вакенцамі на захад. Там стаіць шынок стары, шынок "Скаклівы конік", гаспадар ягоны добры, Ячман Масьляк. Там і заначуеце, і ранкам спрытна рушыце. Едзьце вы адважна, але й сьцеражыцеся! Весела насустрач лёсу!

Хобіты прасілі яго даехаць разам хоць да шынка ды ўзьняць на разьвітаньне куфаль зь імі, аднак Том адмовіўся, сьмеючыся, і дадаў:

*Томава памежжа тут, ён далей ня пойдзе!*
*Трэба ў хаце шчэ рабіць, Злата зачакалася!*

Павярнуўся, падкінуў капялюш. Злавіўшы яго, ускочыў на Таўстуна дый паехаў угору па схіле, напяваючы ў змроку.

Хобіты таксама ўскараскаліся на поні й усё глядзелі на яго, пакуль ён ня зьнік у далечыні.

– Як шкада разьвітацца з панам Бамбадзілам, – сказаў Сэм. – Усё ў яго здатна й выдатна. Падаецца мне, колькі б мы шчэ ні бадзяліся, анічога лепшага – і дзівосьнейшага – не сустрэнем. Але ня стану адмаўляцца: я цяпер болей за ўсё хачу завітаць у таго "Скаклівага коніка", пра якога ён згадваў. Спадзяюся, той "Конік" хоць крыху падобны да нашага "Цмока". Што за народ тут, у Прыгор'і?

– Хобіты тут, – адказаў Мэры, – і даўгалыгія таксама. Мяркую, будзе гасьцінна й падобна да нашых мясьцінаў. Нашыя сюды часьцяком завітваюць.

– Падобна ці не, – азваўся Фрода, – але ж гэта ўжо ня Шыр. І ня трэба лічыць, што мы на роднай зямлі ды ў роднай хаце! Калі ласка, запомніце: нават імя "Торбінс" нельга ўзгадваць! А калі ўжо надта спатрэбіцца, дык я спадар Падстромнік.

З тым паселі на поні ды паціху сунуліся ў прыцемках уніз па Шляху, тады зноў угору. Цемра спусьцілася хутка, і здалёк хобіты пабачылі нарэшце россып агеньчыкаў.

Наперадзе ўздымалася Тутэйшая гара, чорны цень сярод цьмяных зораў. Да яе заходняга боку прытулілася вялікая вёска. Хобіты пасьпяшаліся да яе, жадаючы толькі дабрацца да агменю, патрапіць пад дах ды зачыніць за сабою дзьверы, пакінуўшы ноч вонкі.

## *9. Пад шыльдаю "Скаклівага коніка"*

Прыгор'е – галоўная вёска Прыгорскіх ускрайнаў, невялікага кавалку населенай зямлі, сапраўдная выспа сярод запустэчаных абшараў. Акрамя Прыгор'я, з другога боку стромы туліліся Стадлы, у глыбокай даліне на ўсход хаваліся Ярцы ды Прычыцы на ўскрайку Чыцкага лесу. Вакол іх апрацаваная зямля, палі й дагледжаныя ляскі цягнуліся ўсяго на некалькі вёрстаў.

Людзі Прыгорскіх ускрайнаў былі буравалосыя, шыракаплечыя, росту невысокага, вясёлыя, а характару надта незалежнага. Анікому не падпарадкоўваліся, сябравалі й з хобітамі, і з эльфамі ды гномамі, дый ведалі пра іх і астатніх жыхароў сусьвету нашмат болей, чым іншыя плямёны даўгалыгага народу. Самі распавядалі, што яны й ёсьць самыя першапачатковыя насельнікі гэтых мясьцінаў, наўпростыя нашчадкі тых людзей, што ўпершыню прыйшлі сюды з усходу. Няшмат іх ператрывала войны ды нягоды Даўніх дзён, аднак калі каралі вярнуліся зноў з-за Вялікага мора, прыгорцы жылі сабе на старым месцы. І дагэтуль жывуць, а пра каралёў нават і ўспаміны быльлём парасьлі.

У тыя дні так далёка на захадзе, ці ў прылеглай да памежжаў Шыру сотні міляў, іншых людзей не было. Праўда, у Дзіказем'і за Прыгорскай ускрайнай бадзяліся нейкія таемныя асобы. Прыгорцы клікалі іх ці сьледапытамі, ці валацугамі, а адкуль яны – ня ведалі. Высокія й цёмнавалосыя, па чутках, яны мелі незвычайны зрок і слых і разумелі мову зьвяроў і птушак. Яны вандравалі далёка на поўдзень, а на ўсход – ажно да самых Туманных гор, але з часам іх заставалася ўсё меней і бачылі іх зрэдку. Калі завітвалі ў Прыгорскія ўскрайны, прыносілі весткі з далёкіх краёў, распавядалі дзівосныя паданьні, пра якія аніхто болей ня памятаў. Слухалі іх ахвотна, аднак сябраваць з валацугамі не сьпяшаліся.

Жыло ў Прыгорскіх ускрайнах і шмат хобітаў, і вось яны сьцьвярджалі, што зьяўляюцца самымі першымі насельнікамі найстарэйшага хобіцкага селішча ва ўсім сьвеце, заснаванага задоўга да таго, як астатнія перайшлі Бранявін ды калянізавалі Шыр. Жылі хобіты большай часткаю ў Стадлах, хоць некаторыя і ў Прыгор'і, пераважна па схілах стромы над людзкімі хатамі. *Вялікія* й *малыя* (гэтак яны клікалі адзін аднаго) добра ладзілі, у справы адзін аднаго ня лезьлі, але слушна лічылі сябе неабходнай і законнай часткаю суцэльнага прыгорскага люду. Анідзе болей у сьвеце гэткага незвычайнага (і вельмі ж удалага) уладкаваньня не было.

Самі прыгорцы, вялікія ці малыя, вандравалі няшмат і турбаваліся пераважна справамі сваіх чатырох вёсак. Час ад часу прыгорскія хобіты дабіраліся да Прыбычча ці Ўсходняга падзелу. Аднак хоць іх маленькая ўскрайна была ўсяго за адзін дзень язды ад Каменналучнага мосту, шырскія хобіты зрэдку туды завітвалі. Выпадкова які прыбычац ці асабліва няўседлівы Хват заяжджаў ды начаваў у "Скаклівым коніку" ноч ці дзьве. Але й тое здаралася ўсё радзей. Шырскія хобіты клікалі прыгорскіх, дый любых астатніх, замежных, чужынцамі й амаль імі не цікавіліся. Лічылі іх грубымі й дурнаватымі. Трэба зазначыць, па захадзе Міжзем'я ў тыя часы бадзялася нашмат болей чужынцаў, чым уяўлялі сабе шырскія хобіты. Некаторыя, безумоўна, былі сапраўдныя бадзягі, гатовыя выкапаць нару ў першым прыдатным схіле й жыць там, пакуль ня прыйдзе ахвота сысьці. Аднак у Прыгорскай ускрайне хобіты былі заможныя й салідныя, і не грубейшыя за большасьць шырскіх. Да таго ж яшчэ не забыліся, што калісьці шмат народу езьдзіла ў Шыр ды з Шыру. Як ні лічы, а прыбычцы прыгорцам – радзіна.

Налічвалася ў Прыгор'і ля сотні каменных дамоў даўгалыгага народу. Большасьць над Шляхам, на схіле, вокнамі на захад. З гэтага боку паўкругам ад падэшвы стромы ішла глыбокая канава з шчыльнай жывой агароджай, якая ў строму ж і ўпіралася. Шлях перасякаў яе па насыпе, а ў тым месцы, дзе праходзіў праз агароджу, зачыняўся моцнай брамай. Падобная брама была й з паўднёвага боку, дзе гасьцінец пакідаў вёску. Зь цемраю брамы зачыняліся, але пры іх у невялічкіх вартоўнях заставаліся на ноч вартавыя.

Дзе Шлях найбліжэй падыходзіў да падэшвы стромы, агінаючы яе, у тым месцы стаяў вялікі шынок. Пабудавалі яго даўна, калі рух па Шляху быў нашмат жывейшы. Бо Прыгор'е ляжала на старажытным скрыжаваньні: яшчэ адзін гасьцінец перасякаў Усходні шлях якраз побач з канаваю ля Ўсходняй брамы. Калісьці й людзі, і іншыя народы вандравалі па ім. Ва Ўсходнім падзеле яшчэ казалі: "Дзіўны, як прыгорскія навіны", узгадваючы ў прыказцы тыя часы, калі ў шынку распавядалі навіны з поўдня, поўначы й усходу й калі шырскім хобітам часьцяком шанцавала іх пачуць. Паўночныя землі з тых часоў спустэчыліся й заглохлі, дарогай на поўнач амаль ніхто не карыстаўся, і прыгорцы празвалі яе *Травашлях*, бо яна паціху зарастала травою.

А шынок стаяў як калісьці, так і цяпер, і шынкар па-ранейшаму быў значнай асобаю. Пад ягоным дахам зьбіраліся з усіх чатырох прыгорскіх вёсак усе, каму не было чаго рабіць ці хацелася перакінуцца словам-другім або пацікавіца падзеямі, – і вялікія зьбіраліся, і малыя, а яшчэ там адпачывалі сьледапыты й іншыя бадзягі, ды спыняліся на ноч вандроўнікі (пераважна гномы), якія дагэтуль хадзілі па Ўсходнім шляху, з гор ды ў горы.

Зусім сьцямнела, высыпалі бялюткія зоры, калі Фрода зь сябрамі нарэшце дабраліся да Травашляхавага скрыжаваньня й да вёскі. Заходнюю браму ўжо зачынілі, але ля дзьвярэй вартоўні сядзеў чалавек. Ён ускочыў, падхапіў ліхтар і зьдзіўлена ўгледзеўся ў хобітаў.

– Адкуль зьявіліся й чаго вам трэба? – спытаў груба.

– Нам патрэбны шынок, – адказаў Фрода. – Мы вандруем на ўсход і сёньня ня здольныя ехаць далей.

– Хобіты! Чатыры хобіты! І, мяркуючы па гаворцы, ажно з Шыру! – прамармытаў вартаўнік пад нос, нібы размаўляючы сам з сабою.

Зірнуў змрочна, тады адчыніў браму – асабліва не сьпяшаючыся – ды прапусьціў хобітаў.

– Ну, мы ня тое каб часта сустракалі шырскіх, якія ўночы езьдзяць па Шляху, – дадаў ён, калі хобіты прыпыніліся за брамай, ля дзьвярэй ягонай вартоўні. – Вы перапрашайце, але ж якія такія справы вас вядуць на ўсход? Ці можна даведацца вашыя імёны?

– Нашыя імёны й нашыя справы – прыватна нашыя, наўрад ці тут зручнае месца ды час, каб іх абмяркоўваць, – сказаў Фрода, якому не спадабаўся ані сам чалавек, ані ягоны тон.

– Безумоўна, вашыя справы – гэта вашыя ўласныя справы, а вось мая справа – гэта распытваць, хто бадзяецца поначы.

– Мы – хобіты з Прыбычча, і нам захацелася павандраваць ды наведаць тутэйшы шынок, – улез у размову Мэры. – Я – Мэрыядок Бронь-Быч. Гэтага табе хопіць? Мне казалі, народ у Прыгор'і ветлы да вандроўнікаў. Мо памыліліся?

– Добра, добра! – хутка прамовіў чалавек. – Я не хацеў анікога пакрыўдзіць. Адылі пабачыце: шмат хто апроч старога Гары-вартаўніка вас будзе распытваць. Тут

у нас такі народ бадзяецца, не паверыце! Калі завітаеце ў "Коніка", дык убачыце, што вы не адзіныя вандроўныя госьці там.

Тады пажадаў ім дабраначы, і размова скончылася. Але Фрода бачыў у сьвятле ліхтара, што чалавек разглядае іх зь цікаўнасьцю. Калі брама грымнула за сьпінаю, зачыняючыся, Фрода ўздыхнуў з палёгкай. Цікава, чаму ў гэтага чалавека столькі падазронасьці? Можа, хто распытваў яго, ці завітвалі шырскія хобіты. Можа, сам Гэндальф? Ён мог сюды патрапіць, пакуль хобіты цягнуліся праз пушчу дый па Лысагор'і. Аднак нешта непрыемнае й трывожнае яўна адчувалася й у твары, і ў голасе вартаўніка.

Той пэўны час пазіраў усьлед хобітам, потым вярнуўся да вартоўні. Як толькі ён павярнуўся сьпінаю да брамы, на яе спрытна й бязгучна ўскараскалася цёмная постаць, саскочыла – і хутка зьнікла сярод ценяў вясковай вуліцы.

Хобіты ехалі ўгору па некрутым схіле паўз асобныя сядзібы, спыніліся ля шынка. Дзівіліся на людзкія хаты: гэткія ж вялізныя! Сэм зірнуў на шынок – трохпавярховы, з мноствам вокнаў – і зусім зьніякавеў. Вядома, уяўляў сабе, што калі-кольвек падчас вандроўкі сустрэне веліканаў, вышэйшых за дрэвы, ды іншых жудасных пачвараў, аднак першай сустрэчы зь людзьмі й іхнімі высачэзнымі хацінамі сталася досыць. Нават і болей чым досыць для ночы пасьля гэткага цяжкога дня. Уявіліся яму чорныя коні, ужо засядланыя, што чакаюць у ценях на шынковым падворку, і Чорныя Вершнікі, якія ўжо высоўваюцца зь цёмных вокнаў пад дахам.

– Спадару Фрода, мы ж тут начаваць не зьбіраемся, праўда? – усклікнуў ён. – Калі ўжо тут хобіты жывуць, мо папросімся да каго ў хату? Там утульней будзе.

– А што табе ня так з шынком? – перапытаў Фрода. – Том Бамбадзіл яго нам параіў. Думаю, унутры досыць утульна.

Для звыклага вандроўніка шынок і звонку падаваўся вельмі ўтульным. Фасадам паглядаў на Шлях, абодва крылы, якія адыходзілі назад ад галоўнага будынку, уразаліся ў схіл, так што ззаду вокны трэцяга паверху былі ўпоравень зь зямлёю. Праход пад шырокаю аркаю вёў да падворку паміж крыламі, а леваруч пад аркаю, над ганкам зь некалькімі прыступкамі высіліся дзьверы. Яны былі расчыненыя, і адтуль лілося сьвятло. Над аркаю тырчэў ліхтар, а пад ім вісела здаравенная шыльда з малюнкам тлустага белага поні, які ўзьняўся на дыбкі. Над дзьвярыма быў і надпіс белымі літарамі: "Скаклівы конік Ячмана Масьляка". З многіх акенцаў першага паверху, з-за тоўстых завесаў, сачылася сьвятло.

Хобіты прыпыніліся ў змроку перад дзьвярыма, не наважваючыся ўвайсьці, і тут нехта ў шынку весела засьпяваў і песьню падхапіла мноства галасоў, патрапляючы ў лад ды ў тон. Хобіты паслухалі троху – ну, тое ўзбадзёрвала – і нарэшце зьлезьлі з поні. Песьня скончылася й адразу ж выбухнула сьмехам, пляскам далоняў.

Вандроўнікі правялі поні пад аркаю ды, пакінуўшы іх стаяць на падворку, падняліся па прыступках. Фрода крочыў наперад – і ледзь ня тыцнуўся носам у тоўстага, невысокага чалавека з чырвоным тварам і цалкам лысаю галавою. На ім быў белы фартух, і, відавочна, чалавек ляцеў з усіх ног з адных дзьвярэй у іншыя, несучы паднос, застаўлены поўнымі куфлямі.

– Ці можна нам... – пачаў быў Фрода.

– Паўхвіліначкі, калі ласка! – крыкнуў чалавек, ужо праз плячо, ды зьнік за дзьвярыма ў гомане галасоў ды ў воблаку тытунёвага дыму. Але момант – і зьявіўся зноў, выціраючы рукі аб фартух.

– Добры вечар, маленькі спадар! – павітаў, пакланіўшыся. – Чым магу паслужыць?

– Ложкамі для чатырох ды стойламі для пяцёх поні, калі тое мажліва. Вы, мабыць, спадар Масьляк?

– Але, пане, але. Ячманам клічуць мяне. Ячман Масьляк да паслугаў! А вы з Шыру, так? – сказаў ён і раптоўна пляснуў сябе па лобе, быццам намагаючыся ўзгадаць нешта. – Хобіты! Што ж гэта такое мне трэ было, га? А ці можна, панове, вашыя імёны?

– Спадары Хват і Бронь-Быч, а вось гэта – Сэм Гэйхад. А маё імя – Падстромнік.

– Ну вось, зноў! – усклікнуў Масьляк, шчоўкнуўшы пальцамі. – Нешта ж такое блізка... не, потым, напэўна, узгадаю, калі час будзе. З ног валюся, сьпяшаючыся, але ж пабачым, што для вас зрабіць мажліва. Цяпер нячаста завітваюць да нас з Шыру, і я дзеля вас, спадарыкі, што заўгодна, усім сэрцам, дальбог, столькі ўжо народу сёньня, ну, здаўна ўжо гэткага не было! Ці пуста ці густа, як у нас у Прыгор'і кажуць. Гэй, Ноб!.. Гэй, дзе ты, паўсьцюк скуралапы? Ноб!

– Бягу, пане, бягу! – зь дзьвярэй выскачыў жвавы хобіцік, а пабачыўшы гасьцей, спыніўся, разглядаючы іх зь вялікай цікаўнасьцю.

– Дзе Боб? – крыкнуў Масьляк. – Ня ведаеш? Дык знайдзі яго! Ну, рукі ў ногі! У мяне ня тры пары ног, каб паўсюль пасьпяваць. І ня тры пары вачэй. Скажы Бобу, каб пяцёх поні ў стойлы завёў і дагледзеў. Няхай адшукае там месца, ён жа коньмі займаецца, ня я.

Ноб патэпаў прэч, падміргнуўшы ды ўсьміхнуўшыся.

– Так, што я хацеў сказаць? – спадар Масьляк пастукаў сябе пальцам па лобе. – Ну, за адно ўхопісься, другое выпусьціш, як гаворыцца. Такі вечар – ажно галава кругам ідзе. Па Травашляху з поўдня такая каманда зьявілася ўчора – навіна дый навіна, калі ня болей. А сёньня кампанія гномаў з усходу завітала. І вы цяпер. Калі б вы ня хобіты былі, дык, пэўна, і класьці вас не было б куды. А так ёсьць у нас у паўночным крыле адзін-два пакойчыкі выключна для хобітаў, зладзілі іх, шчэ калі шынок будавалі. На самым ніжнім паверсе, з круглымі вокнамі, па-васкаму. Спадзяюся, там вам будзе ўтульна. Так, напэўна, вы вячэраць жадаеце, ну як толькі, дык адразу. Хадзема, спадарства!

Ён правёў хобітаў крыху па калідоры ды адчыніў дзьверы.

– Вось такі маленькі цудоўны пакойчык! Спадзяюся, вам падыдзе. А цяпер мне трэба бегчы. Такі заняты, зусім і часу няма паразмаўляць. Вуй, бегчы – усяго ж дзьве нагі, ды шчэ й бруха на іх цягаць! Пазьней я знову забягу, але! Калі што спатрэбіцца, званіце ў званок, Ноб прыбяжыць. Калі не прыбяжыць, званіце яшчэ дый галасіце!

Нарэшце й сапраўды пабег, пакінуўшы хобітаў крыху агаломшанымі ды адурэлымі ад такой навалы словаў. Заняты ці не заняты, а балбатаў ён хутчэй, чым бегаў, да таго ж безь перапынку. А пакойчык і сапраўды быў утульны. У невялікім агмені скакала зыркае полымя, перад ім стаялі нізенькія файныя фатэлькі. І стол быў круглы, ужо засланы белым абрусам, а на ім – вялікі званок. Але ж хобіт-паслужнік, Ноб, прыбег яшчэ да таго, як надумаліся званіць. Прынёс сьвечкі й паднос, поўны талерак.

– Панове, якое пітво жадаеце? Паказаць вам вашыя спальні, пакуль гатуецца вячэра?

Хобіты пасьпелі ўмыцца й сягнуць паловы добрых глыбокіх куфляў піва, калі Ноб узьнік зноў разам з Масьляком. Імгненна зладзілі вячэру. Зьявіліся на стале гарачы суп, халоднае мяса, пірог з чарніцамі, сьвежы хлеб, масла тоўстымі кавалкамі, паўкруга файнага сьпелага сыру – добрая, простая ежа, ня горшая за шырскую, такая

знаёмая й звычайная, што й рэшткі Сэмавай падазронасьці, ужо падточанай найвыдатнейшым півам, разьвеяліся.

Масьляк памітусіўся крыху вакол стала дый накіраваўся да дзьвярэй. А ў дзьвярох прыпыніўся:

– Ня ведаю, ці даспадобы вам кампанія. Мо вы спаць пакладзяцеся, павячэраўшы. Але народ з задавальненьнем вас пабачыць ды павітае, ведаеце. Чужынскія хобіты – прошу прабачэньня, вандроўныя, з Шыру, – нас гэтак зрэдку наведваюць. А мы так былі б удзячныя за навіны, ці расповед які, ці песеньку. Аднак жа, як пажадаеце, спадарыкі мае! Калі што патрэбна, званіце!

Калі хобіты нарэшце добра пад'елі – гадзіна бяз чвэрці ўпартай працы сківіцамі, і тое без усялякіх перапынкаў на размовы, – адчулі сябе такімі бадзёрымі й пасьвяжэлымі, што Фрода з Сэмам ды Піпін вырашылі выйсьці ў агульную залю да астатніх гасьцей. А Мэры сказаў, што там цяжка дыхаць, бо тлумна.

– Я вось тут у спакоі пасяджу ля агменю, пасьля, можа, выйду на шпацыр, удыхну сьвежага паветра. А вы там языкі асабліва не трапіце, не забывайцеся: мы шчэ на шляху, і зусім недалёка ад Шыру.

– Добра! – адказаў Піпін. – Ты за сабою даглядай. Не згубіся ды памятай, што за дзьвярыма бясьпечней, чым звонку.

Кампанія ў вялікай залі шынка была шматлікая й разнастайная, як пабачыў Фрода, калі ягоныя вочы прызвычаіліся да змроку. Бо асьвятлялася заля пераважна вялізным агменем, дзе палалі цэлыя чуркі, ды трыма цьмянымі ліхтарамі, што зьвісалі з бэлек пад дахам. Дый тое сьвятло засмужвалася шчыльным дымам. Ячман Масьляк стаяў побач з агменем, размаўляючы з парачкай гномаў і нейкімі дзівакаватага выгляду людзьмі. На лавах уперамешку сядзелі тутэйшыя людзі, хобіты (тыя трымаліся гуртам і безупынна гаманілі), яшчэ гномы ды колькі розных нязнаных асобаў, вызначыць і разгледзець якіх было немагчыма ў змроку па кутах.

Як толькі шырскія хобіты крочылі ў залю, узьняўся рознагалосы гоман вітаньняў, але толькі ад прыгорцаў. Чужынцы, асабліва тыя, што прыйшлі па Травашляху, адно зірнулі зацікаўлена. Гаспадар назваў гасьцей прыгорцам, але з такою хуткасьцю, што хоць і расчулі большасьць імёнаў, так і не пасьпелі разабраць, каму якое належыць. У прыгорскіх людзей імёны былі большай часткаю расьлінныя (і для шырскага вуха дзівосныя): Чароцік, Дзядок, Яблыкун, Мажавей, Верашчак ды Быльнік (калі ня згадваць самога Масьляка). І ў некаторых хобітаў былі падобныя імёны. Напрыклад, шмат было Чарнабыльнікаў. Але большасьць мела звычайныя імёны: Насыпчук, Нарачун, Даўгакоп, Пяскатрус, Дзірва. Такія й у Шыры часьцяком сустракаліся. Знайшліся й некалькі Падстромнікаў з Стадлаў. Паколькі яны ўявіць сабе не маглі, што можна мець адно імя й ня быць сямейнікамі, то й Фрода палічылі пэўнаю далёкаю радзінаю й павіталі, як здаўна забытага й нечакана знойдзенага сваяка.

Хобіты прыгорскія да гасьцей паставіліся добра, па-сяброўску, шмат распытвалі, і неўзабаве Фрода прымушаны быў патлумачыць, што ён робіць і куды кіруецца. Ён распавёў, што цікавіцца гісторыяй ды геаграфіяй (слухачы старанна заківалі галовамі – хоць ані адно, ані другое гэткае слова не былі частымі ў прыгорскай гаворцы). Фрода сказаў, што плянуе напісаць кнігу (усе змоўклі ў подзіве), і таму ён і ягоныя сябры зьбіраюць зьвесткі пра хобітаў па-за шырскімі межамі, асабліва, пра ўсходніх хобітаў.

Тут загаманілі ўсе разам. Калі б Фрода сапраўды хацеў напісаць кнігу ды меў ня два вухі, а два тузіны, то за хвіліны матэрыялу назьбіраў бы на некалькі разьдзелаў. Больш за тое, яму яшчэ й выдалі даўжэзны сьпіс тых, каго ён мусіць распытаць – пачынаючы "ад самога старога Ячмана". Але ў хуткім часе, калі стала відавочна, што тут на месцы Фрода анічога пісаць не зьбіраецца, хобіты зноўку прыняліся распытваць пра Шыр. Увогуле, Фрода ня надта хацелася размаўляць, і неўзабаве ён застаўся самотным у сваім куце, слухаючы й пазіраючы навокал.

Людзі з гномамі гутарылі большай часткаю пра далёкія падзеі й дзяліліся зьвесткамі, якія, на жаль, рабіліся ўсё больш звычайнымі ў гэтыя дні. На поўдні было неспакойна, і падавалася, што людзі, якія зьявіліся па Травашляху, шукалі новых земляў, каб асесьці. Прыгорцы ім спачувалі, але ж, відавочна, ня радаваліся пэрспэктыве прыняць вялікую колькасьць чужынцаў на сваю зямлю. Адзін з паўднёўцаў, вузкавокі, з прышчурам, непрывабнага выгляду мужык, прадказваў, што яшчэ болей народу рушыць на поўнач у самай блізкай будучыні.

– Калі ім не дадуць месца, каб пасяліцца, дык яны самі знойдуць. Бо таксама маюць права жыць, як і іншыя ўсялякія, – сказаў гучна, каб усе пачулі. Тутэйшыя ня надта ўсьцешыліся.

Хобіты на тое зьвярталі няшмат увагі. Бо падавалася, гэта іх зусім ня тычылася: доўгі народ ў хобіцкія норы гасьцяваць не палезе. Хобітаў болей цікавілі Сэм зь Піпінам, якія пачуваліся ўжо зусім па-свойску й бадзёра выдавалі адну шырскую навіну за другой. Калі Піпін распавёў, як абрынулася нара магістрату ў Міхальскім Выкапе, уся кампанія досыць нарагаталася: міхальскага галаву, Віля Беланога, найтаўсьцейшага хобіта ва ўсім Заходнім падзеле, цалкам засыпала вапнай, а калі нарэшце выбраўся, ён быў што твой пончык у цукровай пудры! Аднак раз-пораз пытаньні тутэйшых рабіліся больш няёмкімі. Напрыклад, адзін з прыгорцаў, які, напэўна, завітваў у Шыр некалькі разоў, такі хацеў выведаць, дзе ж жывуць Падстромнікі й каму яны радзіна.

Раптам Фрода заўважыў, што ў цені ля сьцяны сядзіць чалавек, які, відочна, таксама ўважліва прыслухоўваецца да хобіцкіх расповедаў. Выгляду ён быў дзіўнага: паліў доўгую, неяк незвычайна выгнутую й аздобленую люльку, на нагах меў высокія боты з мяккай скуры, файна зладжаныя, але ж досыць зношаныя ды заляпаныя брудам. Хоць было цёпла, сядзеў, захінуўшыся ў плашч з шчыльнай цёмна-зялёнай тканіны, і каптур насунуў на самыя вочы. Але ж відаць было, як паблісквають яны, калі незнаёмца паглядае на хобітаў.

Як толькі Масьляк прабег паблізу, Фрода спытаў у яго шэптам:

– Гэта хто такі? Вы, калі не памыляюся, яго не назвалі?

– Яго? – Масьляк, не паварочваючы галавы, скасіў вочы ў бок незнаёмцы. – Ды я й сам ня ведаю. Ён з бадзяжнага народу, сьледапытаў, гэтак мы іх клічам. Ён рэдка з кім гамоніць, але калі ўжо разгаворыцца, дык можа файны расповед выдаць. Зьнікне на месяц, на год, а потым зноў тут. Апошняй вясною часьцяком завітваў, але з таго часу зьнік. Як ягонае сапраўднае імя, ня ведаю. А тутэйшыя клічуць Швэндалам, то ж бо швэндаецца туды-сюды на доўгіх нагах, сьпяшаецца заўсёды, а куды – анікому не гаворыць. Ведаеце, у нас кажуць: каму справы на ўсходзе, каму на захадзе, ды ўсё ня нашыя. Гэта мы пра сьледапытаў гэных ды пра шырскі народ, так. Дзіўна, што вы ім зацікавіліся.

У гэты момант нехта запатрабаваў яшчэ піва, і патлумачыць, што меў на ўвазе, спадар Масьляк не пасьпеў.

А Фрода заўважыў, што Швэндал глядзіць прама на яго, нібы пачуўшы альбо здагадаўшыся, пра што вялося з Масьляком. І раптам махае яму рукою, ківаючы, – запрашае да свайго стала. Калі Фрода падышоў, незнаёмца скінуў каптур. Твар у яго быў бледны, вочы – зыркія, шэрыя, пранізьлівыя, а ў густых чорных валасах ужо праблісквала сівізна.

– Мяне завуць Швэндалам, – вымавіў ён ціха, – і мне вельмі прыемна сустрэць нарэшце спадара... спадара Падстромніка, калі Масьляк не памыліўся зь імем.

– Не памыліўся, – сказаў Фрода суха, пачуваючыся няёмка пад Швэндалавымі пранізьлівымі вачыма.

– Ну, спадар Падстромнік, на вашым месцы я параіў бы сябрам крыху прытрымаць языкі. Вядома, файнае пітво, агмень, выпадковыя знаёмцы – усё добра й прыемна, але ж вы ня ў Шыры. Тут шмат хто трапляецца... "Хто б казаў" – напэўна, падумалі вы, – дадаў ён з сухою ўсьмешкаю, пабачыўшы Фродаў позірк. – Аднак ёсьць і горшыя госьці гэтай ноччу ў Прыгор'і.

Ён уважліва паглядзеў Фрода ў твар. Той адказаў на погляд, але прамаўчаў. А тады Швэндал зьнянацку зірнуў у Піпінаў бок. Фрода таксама азірнуўся й усьвядоміў, што Піпін – вось жа дурны маладзён! – ашалеўшы ад посьпеху сваёй показкі пра тоўстага міхальскага галаву, расьпісвае Більбаву разьвітальную Вечарыну! Ужо й Більбавай прамовы сягнуў і, відавочна, падбіраўся да самага ягонага чароўнага зьнікненьня.

Як Фрода раззлаваўся! Так, для большасьці тутэйшых хобітаў гэта проста сьмешная гісторыя пра сьмешны народзец за Бранявінам. Але некаторыя (і стары Масьляк, пэўна, сярод іх) маглі ведаць больш і згадаць даўнія чуткі пра Більбава зьнікненьне. А тое пацягнула б за сабою й згадку пра Більбава імя, асабліва калі нехта ўжо распытваў пра Торбінсаў у Прыгор'і.

Фрода засоўгаўся на месцы, ня ведаючы, што ж рабіць. Піпін, відавочна, ажно зь сябе выходзіў ад задавальненьня, ён забыўся на ўсе папярэджаньні. Бацюхны, ён гэтак можа й пра пярсьцёнак вываліць! Вось будзе сапраўдная бяда!

– Лепей зрабіць нешта зараз жа! – прашаптаў яму на вуха Швэндал.

Фрода ўстаў, улез на стол ды пачаў прамаўляць. Адразу многія зь Піпінавых слухачоў павярнуўся да яго. Запляскалі ў далоні, засьмяяліся. Напэўна, вырашылі, што спадар Падстромнік глынуў зашмат піва й нарэшце разьняволіўся.

Фрода адчуў сябе досыць няёмка, і рука яго – як звычайна падчас прамоваў – сама сабою палезла ў кішэню. Ён намацаў пярсьцёнак на ланцужку й раптам зь незвычайнай сілаю пажадаў вось тут і зараз яго насунуць, зьнікнуць, пазбавіцца ўсёй гэтай дурноты. Жаданьне прыплыло быццам аднекуль вонкі, ад нечага – ці некага – у залі. Але Фрода рашуча адкінуў гэтую думку, сьціснуў пярсьцёнак у далоні – нібы не даючы ўцячы або нашкодзіць. Хоць мацай ня мацай у кішэні, словаў у галаве тое не дадасьць. Ня ведаючы, пра што ж будзе прамаўляць далей, Фрода пачаў з звычайных "уводзінаў", як тое звалася ў Шыры:

– Спадарове! Мы ўсе надзвычай удзячныя за вашую добрую гасьціннасьць, і я спадзяюся, што наш нядоўгі візыт дапаможа аднавіць даўняе сяброўства паміж Шырам і Прыгор'ем, – і закашляўся, ня ведаючы, што сказаць яшчэ.

Кожны ў залі цяпер глядзеў на яго.

– Песьню! – выгукнуў хтосьці з хобітаў

– Песьню, песьню! – падхапілі ўсе. – Шаноўны спадару, калі ласка, што-небудзь новенькае, чаго мы ня чулі!

На момант Фрода зьбянтэжыўся. А потым з адчаю завёў жартоўную песеньку, што некалі вельмі падабалася Більба (ня толькі падабалася – шчыра кажучы, ён ёю ганарыўся, бо сам напісаў). Там вялося пра шынок, і таму, відаць, яна згадалася першай. Вось яе словы цалкам. Сёньня мала хто памятае болей за пару радкоў.

*Я ведаў шынок, пахілы шынок*
*пад стромай шэрай старою.*
*Там пеннае піва варылі на дзіва –*
*Такое, што Пан Месяцовы хціва*
*глынуць захацеў, ды ўніз паляцеў*
*аднойчы парой начною.*

*Стаёвы шынковыката меў – музыку.*
*На скрыпцы зайграе – дый годзе!*
*Туды ды сюды засоўгае смыкам,*
*Ці ў голас вішчыць, ці зь лёзным мурлыкам –*
*аж сьцены ішлі ў карагодзе!*

*Быў там сабака, малы небарака,*
*жарты любіў больш за піва.*
*Як госьці зьбяруцца, жартуюць-сьмяюцца,*
*Сабака – да іх, ажно лапы трасуцца,*
*рагоча ды скача дурліва.*

*Была там карова з рагамі, бы дрэва,*
*а гонарам нібы царэўна.*
*Як сьпевы пачуе – бязь піва п'янее,*
*Танчыць ды скача, ледзь не шалее,*
*да ранку на ганку, напэўна.*

*Ах! Гэты шэраг талерачак срэбных,*
*лыжак срэбных скарбніца!*
*Дзеля нядзелі кожную пару*
*Чысьцяць, каб зьзялі, нібыта з пажару,*
*з ночы ажно да дзяньніцы!*

*Пан Месяцовы піў, бы дубовы,*
*а кот так нарэшце заліўся,*
*Што лыжка з талеркаю польку скакала,*
*Што псіна свой хвост ледзьве не пакусала,*
*ды рог у каровы завіўся.*

*Пан Месяцовы куфаль свой знову*
*ўзьняў, дый раптам зваліўся*
*Пад тую фатэлю, дзе прагнуў ён элю, –*
*Заснуў, не прачнуўся, забыўся, спазьніўся,*
*а вонкі ўжо дзень пачынаўся.*

*Казаў тут стаёвы: "Мой коцю шаўковы,*
*чуеш, як коні тупочуць?*
*Срэбныя цуглі грызуць ды гіргочуць,*
*А гаспадар іх заліў сабе вочы*
*ды падымацца ня хоча!"*

*Як Пана будзілі! Раўлі, галасілі!*
*А кот ужо ж так намагаўся –*
*Аж лавы скакалі ды куфлі лятали,*
*А Пана з адчаю кіём лупцавалі,*
*а ён усё не прачынаўся!*

*Тут Пана – за рукі, тут Пана – за ногі,*
*з Стромы – на Поўню – дый годзе!*
*А сьледам карова за ім у пагоні,*
*І куфлі, і лавы, і Панавы коні,*
*і лыжкі пайшлі ў карагодзе.*

*Віснула скрыпка, ляснула скрыпка,*
*лопнула – гора муркоту.*
*Карова здурнела, на Поўню ўзьляцела;*
*Сабака ж зарагатаў ашалела*
*ды з лыжкамі змыўся ў суботу.*

*Месяц змарыўся, за схіл закаціўся.*
*Сонейку час падымацца,*
*Яно ж паглядзела – і зноў ледзь ня села:*
*Што ж тут такое? Ці дзень над зямлёю?*
*Усе толькі ў ложкі кладуцца!*

Пляскалі доўга й гучна. Голас у Фрода быў някепскі, дый песенька прыйшлася даспадобы.

– Дзе ж стары Ячмане? – гукалі. – Хай паслухае! Бобу трэба вывучыць пра гэтага коціка ды ягоную скрыпку – мы добра патанчым.

Прынесьлі яшчэ піва, і ўсе закрычалі:

– Калі ласка, спадару, яшчэ раз, яшчэ! Зрабі ласку!

Праставілі Фрода яшчэ піва й запрасілі прасьпяваць зноў – і самі ўзяліся дапамагаць. Шмат хто падпяваў, бо мэлёдыя ж была вядомая, а словы хутка запаміналіся. Настала цяпер Фродава чарга задавальняцца сабою. Ён ажно затанчыў па стале, а калі дабраўся да радка "*Карова здурнела, на Поўню ўзьляцела*", сам скочыў угору. Перастараўся троху, бо прызямліўся, а дакладней, прыстоліўся прама ў паднос з куфлямі, пасьлізнуўся ды з грукатам і ляскатам бухнуўся з стала! Публіка толькі разявіла раты, каб разрагатацца, ды так і пакінула іх разяўленымі. Бо сьпявак зьнік, нібы праз падлогу праваліўся, не пакінуўшы дзіркі!

Тутэйшыя хобіты, уражаныя, моўчкі вырачылі вочы, а тады ўскочылі й наперабой запатрабавалі да сябе Ячмана. Усе адразу адсунуліся далей ад Сэма зь Піпінам ды пазіралі на іх цяпер змрочна й падазрона. Тыя засталіся самі па сабе сядзець у куце й пачуліся вельмі няёмка, бо, відавочна, цяпер да іх ставіліся як да

паплечнікаў бадзяжнага чараўніка, які немаведама зь якой нагоды сюды забрыў. А адзін смуглявы прыгорац паглядаў гэтак кпліва, з пасьмешкай, нібы добра разумеючы, што тут і да чаго. І неўзабаве высьлізнуў вонкі, а за ім – вузкавокі паўднёўца. Абодва ўвесь вечар перашэптваліся. Вартаўнік Гары таксама пасьпяшаўся за імі.

Фрода адчуваў сябе апошнім ідыётам. Ня ведаючы, што яшчэ рабіць, ціхенька адпоўз пад сталамі ў цёмны кут, дзе сядзеў Швэндал. Той заставаўся нерухомым, анічым не выказваючы сваіх думак. Фрода прыхіліўся да сьцяны, зьняў пярсьцёнак. Як жа ён апынуўся на пальцы? Нешта Фрода ня памятаў, як гэта здарылася. Напэўна, калі сьпяваў, мацаў рукою ў кішэні, а потым і насунуў на палец, калі вытыркнуў руку, каб зьмякчыць падзеньне. І падумалася: а можа, пярсьцёнак сам выкінуў гэткую штуку? На загад каго-нікага тутака, у залі, каб выявіць сябе. Фрода зусім не даспадобы былі твары людзей, якія адразу ж пасьля здарэньня пакінулі залю.

– Ну й што цяпер? – спытаў Швэндал, калі Фрода зноў зрабіўся бачны. – Дзеля чаго было гэта рабіць? Горш за ўсё, што маглі выбалбатаць вашыя сябры! Нагою прама ў пастку – ці мо, хутчэй, пальцам?

– Я вас не разумею, – прамармытаў Фрода, зьбянтэжаны й запепакоены.

– Разумееце. І добра. Але лепей вычакаць, пакуль сьціхне пярэпалах. А тады, спадар *Торбінс*, калі вы ня супраць, я з задавальненьнем трошку з вамі перамоўлю.

– Пра што? – спытаў Фрода, ігнаруючы згадку свайго сапраўднага імя.

– Пра справы, істотныя для нас абодвух, – адказаў Швэндал, гледзячы Фрода наўпрост у вочы. – Мяркую, вы пачуеце шмат карыснага для вас.

– Добра, – Фрода намагаўся зрабіць выгляд, што ўсё гэта яго зусім не цікавіць. – Пагутарым пазьней.

А тым часам ля агменю ажыўлена спрачаліся. Спадар Масьляк быў пасярод спрэчкі й намагаўся выслухаць адначасова некалькі апісаньняў падзеі, ніводнае зь якіх не супадала з аніякім іншым.

– Бачыў я, – сьцьвярджаў хобіт, – дакладней, ня бачыў, і ўсё – ну вы ж мяне разумееце. Ён проста зьнік у паветры, быццам дымам разышоўся, як гаворыцца.

– Ня можа быць, спадару Чарнабыльніку? – спытаў гаспадар азадачана.

– Можа! – пацьвердзіў спадар Чарнабыльнік. – І праваліцца мне на месцы, калі ня так!

– Нешта тут ня так, – сказаў Масьляк, хістаючы галавою, – у спадара Падстромніка, як бы так сказаць, даволі мажная фігура, каб дымам разысьціся. Ды шчэ каб у гэтай залі, вы ўжо прабачце, дым разыходзіўся? Ён тут вісьма вісіць!

– Ну, дык дзе ён цяпер? – усклікнулі адразу некалькі спрачальнікаў.

– Ну адкуль мне ведаць? Калі ласка, хай ідзе, куды хоча, – толькі каб заплаціў раніцою. А вунь спадар Хват – ён жа ня зьнік.

– Ну, я бачыў, што бачыў, а я бачыў, што я яго ня бачыў! – зацята цьвердзіў спадар Чарнабыльнік.

– А я кажу, тут нейкае непаразуменьне, – паўтарыў Масьляк, зьбіраючы на паднос рэштткі пабітых куфляў.

– Вядома, непаразуменьне! – сказаў тут Фрода. – Я ня зьнік. Проста трэба было перакінуцца парай словаў з Швэндалам.

Ён крочыў наперад, да сьвятла ад агменю. Аднак большасьць спрачальнікаў адсунуліся назад, нават болей разьюшаныя, чым раней. І Фродавым тлумачэньням пра тое, што ён хутка адпоўз пад сталамі, калі зваліўся, відавочна, не паверылі.

Большасьць хобітаў і тутэйшых людзей адразу засьпяшаліся дахаты, страціўшы ўсялякае жаданьне заставацца ў шынку гэтым вечарам. Некаторыя, сыходзячы, пазіралі на Фрода вельмі нядобра й перашэптваліся паміж сабою. Гномы ды некалькі чужаземных людзей таксама ўсталі ды далі дабранач гаспадару, але ня Фрода й ягоным сябрам. Неўзабаве ў залі не засталося нікога, апрача Швэндала, які сядзеў, непрыкметны, ля сьцяны.

А Масьляк, падавалася, не пераймаўся. Верагодна, палічыў, што раніцою шынок будзе мо й паўнейшы, бо трэба ж гэткае таемнае здарэньне абмеркаваць як сьлед. Аднак усё ж спытаў:

– І што ж вы такое вырабляеце, спадару Падстромніку? Гасьцей маіх параспалохалі, куфлі паразьбівалі сваёй акрабатыкай!

– Мне вельмі шкада, што так атрымалася, што я нарабіў столькі клопату, – выбачаўся Фрода. – Гэта выпадак, сапраўды, цалкам выпадковае здарэньне.

– Ладна, ладна, спадару Падстромніку! Але калі вы зноў зьберацеся з стала валіцца ці чары якія строіць, дык лепей папярэдзьце нас, а ў першую чаргу мяне. Ведаеце, мы тут крыху нязвыклыя да ўсялякага, ну вы разумееце, ненатуральнага, гэтак зьнянацку нам цяжка такое выносіць.

– Болей такое не паўторыцца, спадар Масьляк, абяцаю вам. А цяпер, мяркую, мы пойдзем да ложкаў. Трэба зьяжджаць зь сьвятлом. Будуць нашыя поні падрыхтаваныя а восьмай?

– Так, так! Аднак да таго, як вы пакладзяцеся спаць, ці можна мне з вамі трохі перамовіцца, сам-насам, спадару Падстромніку? Мне якраз узгадалася тое, што зьбіраўся сказаць вам. Мне тут трэба зрабіць тое-сёе, а тады я да вашага пакою завітаю, калі вы ня супраць.

– Безумоўна! – адказаў Фрода, адчуваючы сябе паскудней няма куды. Цікава, колькі яшчэ размоваў "сам-насам" яму давядзецца мець перад сном і што ён з гэтых размоваў атрымае. Нават і тлусты твар старога Масьляка ўжо падаваўся небараку Фрода злаўмысным.

## *10. Швэндал*

Піпін ды Фрода з Сэмам вярнуліся ў гасьцёўню, дзе вячэралі. Там было цёмна. Агонь амаль згас, і толькі калі разьдзьмулі вугольле ды падкінулі пару паленцаў, заўважылі: зь імі ў пакоі Швэндал! Спакойна сядзіць сабе ў фатэлі ля дзьвярэй.

– Вітаньне, – выгукнуў Піпін. – Хто вы такі й чаго жадаеце?

– Клічуць мяне Швэндалам, – адказаў той, – і хоць ваш сябра, магчыма, ужо забыўся, ён абяцаў паразмаўляць з мною.

– Вашаць казаў, што я магу пачуць нешта карыснае, – азваўся Фрода. – І што ж напрыклад?

– Так, карыснае. Але не бясплатнае.

– Як гэта разумець?!

– Не палохайцеся, калі ласка. Я маю на ўвазе толькі адно: я распавядаю вам тое, што ведаю, і даю добрую параду, але й атрымліваю ад вас узнагароду.

– І што ж гэта за ўзнагарода, цікава? – сказаў Фрода, падазраючы, што патрапілі на махляра, і шкадуючы, што ўзялі з сабою мала грошай. Наўрад ці гэты шалбер задаволіцца, а як потым абыходзіцца бяз грошай?

– Паверце, гэта вам па кішэні, – адказаў Швэндал, павольна ўсьміхаючыся, бы прачытаўшы Фродавы думкі. – Вы ўсяго толькі бераце мяне з сабою, і я вандрую разам з вамі, пакуль мне будзе гэта патрэбна.

– А няўжо ж? – усклікнуў Фрода, зьдзіўлены, але не заспакоены, – Нават каб я прагнуў яшчэ спадарожнікаў, я не згадзіўся б на гэткае, пакуль не даведаўся б болей пра вас і вашыя мэты.

– Файна! – гукнуў Швэндал, закінуўшы нагу за нагу ды ўладкоўваючыся ў фатэлі ўтульней. – Падаецца, вы ўжо на шляху да здаровага сэнсу – надта прыемна. Бо дагэтуль вы пасьпелі нарабіць... Ну, файна! Я распавяду вам, што ведаю, а тады самі вырашайце, браць мяне з сабою ці не. Мяркую, вам захочацца, калі вы мяне паслухаеце.

– Дык распавядайце! – прапанаваў Фрода. – Што ж такога вам вядома?

– Шмат чаго, і адно чарней за другое. Што ж тычыцца вашае справы, – тут ён узьняўся з фатэлі, падышоў да дзьвярэй, хутка адчыніў іх і вызірнуў вонкі. Тады зачыніў і зноў усеўся.

– У мяне добры слых, – вымавіў шэптам, – і хоць я ня здольны зьнікаць, мне выпадала паляваць на найдзічэйшых і найсьцеражэйшых пачвараў. Я нядрэнна ўмею хавацца ад чужых вачэй, калі не жадаю, каб мяне бачылі. Сёньняшнім надвячоркам мне выпала апынуцца за кустамі побач з Шляхам на захад ад Прыгор'я й пабачыць чатырох хобітаў, якія ехалі з Лысагор'я. Наўрад ці варта пераказваць тут усё, што яны казалі старому Бамбадзілу ці адзін аднаму, але сёе-тое, для мяне надта цікавае, можна паўтарыць. «*Калі ласка, запомніце: нават імя "Торбінс" нельга згадваць! А калі ўжо мяне па імені клікаць спатрэбіцца, дык я спадар Падстромнік*», – казаў адзін зь іх. Так гэта мяне зацікавіла, што я прасачыў за імі да самай брамы й далей, прама за іхнімі сьпінамі. Магчыма, спадар Торбінс мае рацыю не раскрываць сваё імя, але ў такім выпадку я параіў бы ягоным сябрам паводзіць сябе асьцярожней.

– Не разумею, чаму каго-кольвек у Прыгор'і зацікавіла маё імя, – сказаў Фрода раздражнёна, – і яшчэ ня ведаю, чаму яно зацікавіла вас. Мо спадар Швэндал мае рацыю падпільноўваць ды падслухоўваць. Калі так, я жадаў бы пэўных тлумачэньняў наконт гэтай рацыі.

– Добры адказ! – расьсьмяяўся Швэндал. – Тлумачыцца ўсё вельмі проста: я шукаў шырскага хобіта Фрода Торбінса. І хацеў знайсьці яго як мага хутчэй. Бо я даведаўся, што ён нясе з сабою з Шыру, скажам так, таямніцу, якая тычыцца мяне й маіх сяброў.

– Не палохайцеся, вы ня так мяне зразумелі! – усклікнуў ён, пабачыўшы, што й Фрода ўзьняўся з фатэлі, і Сэм ажно падскочыў, крывячыся. – Я тут для таго, каб абараніць вашую таямніцу! Бо я хачу, каб вы яе захавалі нават болей за вас! А бараніцца вам трэба! – ён нахіліўся наперад і сувора зірнуў на хобітаў.

– Цяпер трэба сачыць за кожным ценем! – папярэдзіў напаўголасу. – Чорных Вершнікаў ужо бачылі ў Прыгор'і. У панядзелак адзін прыехаў з Травашляху, а потым і другі па Травашляху з поўдня.

У пакоі стала ціха. Нарэшце Фрода сказаў Сэму зь Піпінам:

– Пра гэта можна было здагадацца, пабачыўшы, як павітаў нас вартавы. І нават спадар Масьляк, падаецца, нешта чуў. Навошта ён запрашаў нас выйсьці ў залю да кампаніі? І чаго мы згадзіліся на гэткае глупства? Засталіся б лепей тут, у спакоі!

– Але, так было б лепей, – згадзіўся Швэндал. – Мая воля – я не дазволіў бы вам туды ісьці. Але гаспадар ня даў мне вас пабачыць і цыдулку таксама не перадаў.

– Вы лічыце, што ён...

– Не, стары Масьляк у парадку. Проста яму не даспадобы розныя валацугі накшталт мяне.

Тут Фрода глянуў на Швэндала заклапочана.

– Я падобны на злодзея, ці ня так? – сказаў Швэндал зь невясёлай усьмешкай і зірнуў на хобітаў зь дзіўным бляскам у вачох. – Але, спадзяюся, неўзабаве мы больш даведаемся адзін пра аднаго. А тады, можа, вы патлумачыце мне, што адбылося напрыканцы вашай песенькі. Бо гэты выбрык...

– Цалкам выпадковы! – перабіў яго Фрода.

– Сапраўды? Няхай выпадковы. Дык вось, праз гэты цалкам выпадковы выбрык вы цяпер у небясьпецы.

– Наўрад ці ў большай за тую, што была раней. Я ведаю, што Вершнікі цікуюць мяне, але цяпер яны, здаецца, згубілі сьлед, яны мо далёка.

– На тое не разьлічвай! – абсек Швэндал сувора. – Яны вернуцца. Іх будзе больш. Бо ёсьць жа й іншыя. Я ведаю, колькі іх. Я ведаю гэтых Вершнікаў, – ён змоўк на імгненьне, і вочы ягоныя зрабіліся халоднымі й жорсткімі. – Калі ім спатрэбіцца, яны знойдуць прысьпешнікаў – і тут, у Прыгор'і. Тут ёсьць каму. Біл Бур'як, напрыклад. Пра яго ліхі пагалосак, да яго ходзяць такія тыпы... Вы яго, пэўна, бачылі ў залі: смуглявы хлапец, шчэрыўся кпліва. Увесь вечар быў разам з адным з паўднёўцаў і пасьля вашага выпадку выйшаў разам зь ім. Не падабаюцца мне тыя паўднёўцы, а што да Бур'яка – прадасьць што заўгодна каму заўгодна й шкоды наробіць, проста каб пазабавіцца.

– І што ж той Біл будзе прадаваць, што яму да мяне? – спытаў Фрода, рашуча не заўважаючы Швэндалавых намёкаў.

– Навіны пра вас, безумоўна. Раповед пра сёньняшні вечар некаторым падасца надта цікавым. Пасьля гэтага выпадку наўрад ці ім трэба будзе дашуквацца вашага сапраўднага імя. Баюся, яны даведаюцца пра яго шчэ да раніцы. Ці гэтага для вас недастаткова? Вы можаце ўзяць мяне з сабою ці не – справа вашая. Але ж я кажу вам, што добра ведаю ўсе землі паміж Шырам і Туманнымі гарамі, бо вандраваў па іх шмат гадоў. Я старэйшы, чым выглядаю. Я магу быць карысны вам. Пасьля

сёньняшняга здарэньня вам нельга ехаць па Шляху, бо Вершнікі будуць сачыць за ім і ўночы, і ўдзень. Калі паедзеце па Шляху, можа, здалееце выбрацца з Прыгор'я. І праедзеце, пакуль сонца ў нябёсах. Ня больш. Яны напаткаюць вас у цемры, у глухамані, дзе ніадкуль дапамогі ня будзе. Вы хочаце, каб так здарылася? Яны – найчарнейшы жах!

Хобіты зьдзівіліся, заўважыўшы на ягоным твары нібыта адбітак даўняга болю. Ягоныя далоні сьціснулі падлоктавікі фатэлі. У пакоі зрабілася надта спакойна й ціха, і сьвятло, падавалася, сьцьмела. Швэндал сядзеў і нібыта ня бачыў перад сабою хобітаў, агорнуты тугой даўніх цяжкіх успамінаў ці прыслухоўваючыся да начных галасоў недзе ў далечыні.

– Так, – вымавіў ён нарэшце, правёўшы рукою па твары, нібы адсоўваючы вусьцішныя думкі. – Я ведаю пра вашых перасьледнікаў болей за вас. Вы баіцеся іх, але ж ня ведаеце, чаго менавіта вам баяцца. Раніцою вам давядзецца ўцякаць. Швэндал пакажа вам сьцежкі, якія амаль ніхто болей ня ведае, калі вы возьмеце яго з сабою. Ці возьмеце вы яго?

У цяжкой цішыні Фрода шукаў адказ, але ж надта зьбянтэжыўся й настрашыўся ды згадаць ані на што ня здолеў. Сэм пахмура сачыў за гаспадаром, зрэшты ня вытрымаў:

– З вашага дазволу, спадару Фрода, я сказаў бы на тое: не! Гэны Швэндал, ён папярэджвае: пасьцеражыцеся, вось так. На гэта я скажу: згода! Але ж ці не яго першага нам сьцерагчыся? Прыплёўся з глухамані, а я нешта ня чуў, каб там трапляўся добрасумленны народ. Што ён ведае шмат – відавочна, нават і болей ведае, чым мне даспадобы. Менавіта я ня бачу аніякай рацыі ў тым, каб дазволіць яму завесьці нас у цёмныя глухія месцы, пра якія ён сам жа й узгадаў!

Піпін зьбянтэжана засоўгаўся ў фатэлі. А Швэндал не адказаў Сэму анічога, толькі запытальна павярнуўся да Фрода. Фрода зазірнуў у ягоныя вочы ды адвярнуўся.

– Не, – адказаў павольна, – я не магу згадзіцца на гэта. Бо мне падаецца, вы ня той, кім жадаеце выглядаць. Вы пачалі размаўляць, рыхтык прыгорац, а цяпер і голас ваш зьмяніўся, і гаворка. Мяркую, Сэм правільна прыкмеціў: вы нас папярэджваеце – і самі прапаноўваеце безаглядна вам даверыцца. Чаму вы хаваецеся? Хто вы такі? Што вы на самай справе ведаеце пра мае справы й адкуль?

– Ну, бачу, навука асьцярожнасьці дарма не прайшла, – змрочна ўсьміхнуўся Швэндал. – Але перасьцярога – гэта адно, а адсутнасьць рашучасьці – зусім іншае. Самі вы ня здолееце дабрацца да Долага Яру. Даверыцца мне – адзіны шанец. Вырашайце. Я адкажу на вашыя пытаньні, калі гэта дапаможа вырашыць. Але ці паверыце вы мне, калі ўжо цяпер ня верыце? Аднак ёсьць яшчэ...

У гэты момант у дзьверы пагрукалі. Спадар Масьляк прынёс сьвечкі, а за ім Ноб – вёдры гарачай вады. Швэндал адступіў у цёмны кут.

– Вось, прыйшоў пажадаць дабраначы, – сказаў гаспадар, ставячы сьвечкі на стол. – Гэй, Ноб! Аднясі ваду ў спальні!

Тады зайшоў у пакой і зачыніў за сабою дзьверы.

– Справы такія, – вымавіў зьбянтэжана, відавочна, занепакоены. – Калі ад мяне якая шкода надарылася, дык я прашу прабачэньня. Самі ж бачыце, за адно ўхопісься, другое выпусьціш – заняты я чалавек. Але гэтым тыднем такое адбываецца, што й у галаву возьмеш, як гаворыцца, спадзяюся, я ня надта позна згадаў. Бачыце, мяне ж прасілі чакаць хобітаў з Шыру, а асабліва хобіта зь імем Торбінс.

– І як гэта тычыцца мяне? – спытаў Фрода.

– А, ну тое вам лепей ведаць, – сказаў гаспадар. – Я ж вас ня выдам, будзьце пэўныя, але мне казалі, што Торбінс будзе называць сябе Падстромнік, і апісалі вас даволі падрабязна й дакладна, так вам скажу.

– Ну і? Што ж за апісаньне? – перабіў Фрода не падумаўшы.

– Маленькі, крэпенькі хлапец з чырвонымі шчокамі, – сумна пачаў спадар Масьляк.

Піпін хіхікнуў, Сэм пакрыўдзіўся.

– Але гэта табе ня надта дапаможа, большасьць хобітаў такія, Ячмане, – гэтак ён мне казаў, – працягваў Масьляк, скасіўшы вочы на Піпіна. – Але той вышэйшы, і тварам сьвятлейшы за большасьць, і падбародзьдзе зь ямачкаю, самаўпэўнены, жвавы такі хлапец, і вочы адметныя, зыркія. Выбачайце, але ж гэта ня я так сказаў, а ён.

– Ён? Хто ён? – спытаў Фрода нецярпліва.

– Хто ён? Гэндальф, вядома, калі вы разумееце, пра каго я. Кажуць, ён чараўнік, але мой добры сябра, чараўнік ці не. А цяпер і ня ведаю, што ён мне скажа, калі пабачымся: мо піва маё ў кісьлю ператворыць ці мяне – у пацурбэлак. Характар у яго такі гарачы. Ну, што зроблена, ужо не адробіш.

– Ну дык што, што ж вы зрабілі? – спытаў Фрода, ужо досыць стомлены павольнай плыняю Масьляковых думак.

– Дык пра што я? – Масьляк зноў шчоўкнуў пальцамі. – А, вось! Стары Гэндальф. Тры месяцы таму завітаў у мой пакой, не пагрукаўшы, і прама ад парогу кажа: "*Слухай, Ячмане, я раніцою зьяжджаю. Можаш ты для мяне зрабіць адну рэч?*" Ну, я яму кажу: калі ласка, што за рэч такая? А ён: "*Я сьпяшаюся, зусім няма часу, а трэба адаслаць ліст у Шыр. Ці ёсьць у цябе хто надзейны*?" Я адказаў, што знайду, мо раніцою, мо крыху пазьней. А ён кажа: "*Лепей раніцою*". І даў мне ліст.

– Адрас звонку на лісьце вось такі, – спадар Масьляк выцягнуў паперчыну з кішэні й прачытаў павольна й урачыста (бо вельмі ганарыўся сваёй рэпутацыяй чалавека пісьменнага): "СПАДАРУ ФРОДА ТОРБІНСУ, ТОРБА ПАД СТРОМАЙ, ХОБІЦАК, ШЫР".

– Ліст мне ад Гэндальфа! – усклікнуў Фрода.

– А, дык вас на самай справе клічуць Торбінс?

– Так, – адказаў Фрода. – І вы лепей дайце мне гэта ліст зараз жа ды патлумачце, чаму вы яго не паслалі. Менавіта гэта вы й прыйшлі мне сказаць і ўжо колькі часу да таго дабіраецеся!

Небарака Масьляк зьбялеў.

– Праўда ваша, васпане. Выбачайце, калі ласка. Я ж калі падумаю, што Гэндальф зробіць... ну, то бок калі шкода якая ўчынілася. Дык я ж не наўмысна. Я ж захаваў, бачыце. Ну, не знайшлося анікога, хто жадаў бы раніцою ў Шыр, і раніцою пасьля таго не знайшлося, а сваіх жа не магу, бо хто ж у шынку рабіць будзе? А потым адно за адным – і забыўся. Я ж заняты чалавек. А цяпер, калі што мажліва зрабіць, каб выправіць шкоду, толькі скажыце. І ўвогуле, дапамагу, як магу. Я так і Гэндальфу абяцаўся. Ён мне казаў: "*Ячмане, мой сябар прыедзе з Шыру, напэўна, у хуткім часе, і зь ім яшчэ хто. Пад імем Падстромнік – запомні й не даймай пытаньнямі. Калі мяне зь ім ня будзе, то, магчыма, у яго клопаты й непрыемнасьці, яму трэба будзе дапамагчы. Зрабі для яго што толькі зможаш, а я ўжо падзякаваць не забудуся*". Ну вось і вы, і непрыемнасьці, здаецца, непадалёк.

– Што вы маеце на ўвазе? – спытаў Фрода.

– Гэныя чорныя людцы, – сказаў гаспадар напаўголасу, – яны вышуквалі Торбінса, і быць мне хобітам, калі для чаго добрага. У панядзелак зьявіліся. Суцэльны жах: сабакі выюць, гусі гагочуць. Ноб да мяне падышоў і кажа, што два чорныя нейкія на ганку, пра хобіта Торбінса распытваюць. А сам ажно трасецца. Я чорным загадаўісьці прэч, і дзьверы зачыніў перад іхнімі насамі. Але яны, як я потым чуў, распытвалі тое самае ажно да Прычыцаў. А яшчэ той сьледапыт-валацуга, Швэндал, таксама выпытваў. Нават і да вас пралезьці намагаўся, яшчэ калі вы й пад'есьці не пасьпелі.

– І намогся, – Швэндал зьнянацку крочыў наперад. – А калі б намогся раней, то пазбавіў бы ад безьлічы клопатаў, Ячмане.

Гаспадар ажно падскочыў ад нечаканасьці.

– Вы! Заўсёды вы паўсюль лезеце! Што вам цяпер патрэбна?!

– Ён тут з майго дазволу, – патлумачыў Фрода, – ён прапанаваў нам дапамогу.

– Ну, справы спадаровы, – Масьляк паглядзеў на Швэндала падазрона, – але на вашым месцы я з бадзягамі справаў ня меў бы.

– А з кім яму мець справы? – спытаў Швэндал. – З тоўстым шынкаром, які й на сваё імя не забыўся толькі таму, што людзі ўвесь дзень яго выгукваюць? Не застануцца ж яны ў "Скаклівым коніку" назаўсёды, а назад ім вяртацца нельга. Перад імі – доўгі шлях. Мо вы пойдзеце зь імі, каб абараніць ад чарналюдаў?

– Я? Пакінуць Прыгор'е? Ды ні за якія грошы! – выклікнуў Масьляк, дашчэнту пераляканы. – А чаго б вам і на самай справе тут не застацца, спадару Падстромніку? Што за жудасьці такія Робяцца? Чаго гэныя чорныя вышукваюць, адкуль яны, га?

– На жаль, я вам патлумачыць не магу, – адказаў Фрода. – Я вельмі стаміўся й ня надта добра пачуваюся, а гэта доўгі расповед. Калі вы жадаеце мне дапамагчы, ведайце: вы й ваш шынок у небясьпецы, пакуль я пад вашым дахам. Я цалкам ня ўпэўнены, але гэтыя Чорныя Вершнікі, баюся...

– З Мордару, – дапамог Швэндал ціха, – з Мордару, Ячман, калі гэта табе нешта кажа.

– Барані нас! – вохнуў Масьляк, зусім спалатнеўшы, бо гэта яму сёе-тое казала. – За ўвесь час анічога горшага ў Прыгор'і не здаралася.

– Менавіта, – сказаў Фрода. – Вы яшчэ жадаеце мне дапамагчы?

– Так. Нават болей, чым раней. Хоць і ня ведаю, што чалавек, падобны да мяне, можа зрабіць супраць, супраць... – ён запнуўся.

– Супраць Ценю з Усходу, – працягнуў Швэндал спакойна. – Няшмат, Ячман, няшмат. Але й тое пойдзе на карысьць. Вы можаце дазволіць спадару Падстромніку пераначаваць тут і павінны дашчэнту забыцца імя Торбінс да часоў, калі ён будзе далёка адсюль.

– Але, але, так я й зраблю, – згадзіўся Масьляк. – Адно, баюся, яны й без маёй балбатні здагадаюцца, што ён тут. Як шкада, што спадар Торбінс учыніў гэткі гармідар сёньня. Бо расповеды пра зьнікненьне спадара Більба ў нас часьцяком чулі. Нават і Ноб мой, хоць і цяжкадум, тое-сёе ўцяміў, а народ тут ёсьць і спрытнейшы на галаву, калі вы мяне разумееце.

– Ну, застаецца толькі спадзявацца, што Вершнікі йшчэ не пасьпелі вярнуцца, – сказаў Фрода.

– Спадзяюся, не, – сказаў Масьляк, – але вернуцца ці не, проста так яны ў "Коніка" не патрапяць. Да раніцы не турбуйцеся. Ноб анічога анікому ня скажа, дый ня пройдзе аніякі чорны страхалюд у мой шынок, пакуль я стаю на нагах. Я з сваімі буду ноч вартаваць, а вам лепей усё ж паспаць крыху, калі здолееце.

– Так ці інакш, абудзіце нас на досьвітку. Нам трэба сыходзіць як мага раней. Сьняданак а палове на сёмую, калі ласка.

– Файна! Я прасачу, каб усё было падрыхтавана. Дабранач, спадар Торбінс, перапрашаю, Падстромнік! Дабранач усім. Паміж іншым, а дзе ваш спадар Бронь-Быч?

– Ня ведаю, – занепакоіўся Фрода. Насамрэч, зусім забыліся на Мэры, а ўжо колькі часу прайшло. – Падаецца, ён выйшаў. Казаў нешта накшталт таго, каб дыхнуць сьвежага паветра.

– Ну, вы нібыта на вакацыях, сапраўды, за вамі толькі й даглядаць! Я зараз пайду зачыняць дзьверы, але ўжо вашага сябра ўпушчу, калі зьявіцца. А лепей Ноба пашлю, каб пашукаў яго. Дабранач усім!

З гэтымі словамі спадар Масьляк нарэшце выйшаў, зірнуўшы наастачу на Швэндала з сумневам ды пахітаўшы галавою. З калідору даляцеў гук ягоных крокаў. Потым стала ціха.

– Ну? – спытаў Швэндал. – Калі вы будзеце чытаць гэты ліст?

Фрода ўважліва разгледзеў пячатку перад тым, як зламаць. Безумоўна, пячатка Гэндальфава. Зламаў, разгарнуў ліст. Ён быў напісаны рэзкім і вуглаватым, але ж разам з тым файным, нават выкшталцоным почыркам чараўніка:

*Скаклівы Конік, Прыгор'е, Ліпкі, паводле шырскіх – год 1418.*

*Шаноўны Фрода!*

*Напаткалі мяне тут дрэнныя навіны. Зараз жа мушу ехаць. Пакідай Торбу-пад-Стромай як мага хутчэй і зьяжджай з Шыру самае позьняе напрыканцы ліпня. Я вярнуся, як толькі здолею. Калі не застану цябе ў Торбе, даганю. Калі будзеш праяжджаць праз Прыгор'е, пакінь для мяне ліст. Даверыць яго можаш шынкару, Масьляку. Магчыма, напаткаеш па дарозе майго сябра: высокага, хударлявага, зь цёмнымі валасамі. Некаторыя клічуць яго Швэндалам. Ён ведае пра нашыя справы й дапаможа табе. Кіруйцеся да Долага Яру. Там, спадзяюся, і сустрэнемся. Калі я ня здолею туды дабрацца, Эльранд табе дапаможа.*

*Твой сябра ў сьпеху,*
*Гэндальф.*

*P.S. НЕ карыстайся ім!! Ані ў якім разе! Вандруйце толькі ўдзень!*

*PPS. Пераканайся, што напаткалі сапраўднага Швэндала. Цяпер шмат хто бадзяецца па дарогах. Ягонае праўдзівае імя – Арагорн.*

*Скарб сапраўдны вачэй не падмане,*
*Сілу ня згубіць вандроўны лёс.*
*Слава былая пылам ня стане,*
*Старых каранёў не кранае мароз.*
*Абудзіцца з попелу дух палымяны,*
*Зь цемры зазьзяе сьвятло новых дзён,*
*Меч абламаны будзе скаваны,*
*Пазбаўлены трону – узыдзе на трон.*

*PPPS. Спадзяюся, Масьляк не забавіцца адаслаць гэты ліст. Чалавек ён неблагі, але памяць ягоная, што старая кладоўка – патрэбнае заўсёды пахаванае пад кучай сьмецьця. Калі забудзецца, засмажу жыўцом.*

*Посьпехаў!*

Фрода прачытаў ліст пра сябе, тады перадаў Піпіну з Сэмам. Сказаў:

– Сапраўды, старога Масьляка варта засмажыць жыўцом за памяць. Калі б ён выправіў ліст своечасова, мы маглі быць ужо ў Долым Яры, у спакоі й бясьпецы. А што ж такое здарылася з Гэндальфам, цікава? Ён піша так, нібыта сьпяшаецца насустрач вялікай небясьпецы.

– Ён ужо шмат гадоў жыве ад небясьпекі да небясьпекі, – сказаў Швэндал.

Фрода павярнуўся да яго ў задуменьні, абмяркоўваючы другую Гэндальфаву прыпіску да ліста.

– А чаму вы адразу не сказалі нам, што сябра Гэндальфа? Захавалі б час.

– Сапраўды? І вы паверылі б мне бяз гэтага ліста? Я ж ня ведаў пра яго. Лічыў, што мушу пераканаць вас без усялякай зьнешняй дапамогі, калі ўжо вырашыў дапамагчы. Да таго ж я зусім не зьбіраўся адразу распавядаць усё пра сябе. Бо й мне трэба было спраўдзіць, што вы – тыя самыя. Мне ня раз настаўлялі пасткі ўсялякага кшталту. Калі б я пераканаўся, я распавёў бы ўсё, што вы запыталіся. Аднак я спадзяваўся, – тут ён нявесела засьмяяўся, – што здолею перамагчы ваш недавер сам. Той, за кім палююць, хто прымушаны хавацца, часьцяком стамляецца ад недаверу й сумуе па сяброўстве. Але ж, напэўна, мой выгляд ня надта спрыяе даверу.

– Менавіта так – на першы погляд, ва ўсялякім разе, – з палёгкай пасьля Гэндальфавага ліста засьмяяўся Піпін. – Па вопратцы сустракаюць, як гаворыцца. Дык жа мы, напэўна, выглядалі б прыблізна гэтаксама, праседзеўшы колькі дзён па канавах ды агароджах.

– Трэба болей за некалькі дзён, ці тыдняў, ці нават гадоў бадзяжнага жыцьця ў Глухамані, каб выглядаць падобным да Швэндала, – адказаў той. – Вы наўрад ці дажылі б да такога выгляду, калі толькі, вядома, вы не нашмат больш трывалыя ды моцныя, чым падаяцеся.

Піпін змоўк, відавочна ўражаны, але ж ня Сэм, які па-ранейшаму пазіраў на Швэндала падазрона.

– А адкуль нам ведаць, што вашаць і ёсьць той самы Швэндал, пра якога піша Гэндальф? – спытаў патрабавальна. – Пакуль пра той ліст не даведаліся, ваша нават не ўзгадаў на Гэндальфа. Па мне, дык ваша, можа, нас тут за нос вадзіць спрабуеш, жадаючы завесьці ў глухамань. Можа, забіў сапраўднага Швэндала й прыдбаў ягоную вопратку? Што скажаш?

– Што вадзіць за нос Сэма Гэйхада даволі цяжка, – адказаў Швэндал, – аднак, баюся, скажу я толькі адно: калі я здолеў бы забіць сапраўднага Швэндала, ты наўрад ці быў зараз жывы. І забіў бы я цябе, не марнуючы столькі часу на пустыя прамовы. Калі б я паляваў на пярсьцёнак, ён быў бы ўжо – МОЙ!

Ён узьняўся – і раптам зрабіўся вышэйшым. Ягоныя вочы зазьзялі сувора, пранізьліва й рашуча. Адсунуўшы крысо плашча, Швэндал паклаў руку на цаўё меча, які вісеў, дагэтуль нябачны, на ягоным баку. Хобіты аслупянелі, не наважваючыся й дыхнуць. А Сэм толькі глядзеў, забыўшыся закрыць рот.

– На вашае шчасьце, я – сапраўдны Швэндал, – сказаў чалавек з усьмешкаю. – Я – Арагорн, сын Араторна. І за вашае жыцьцё я паручуся сваім.

Доўгую цішыню нерашуча перарваў Фрода:

– Я лічыў, што ваша сябар, яшчэ да таго, як прачытаў ліст. Мне хацелася, каб васпане на самай справе стаўся сябрам. Ваша некалькі разоў напалохаў мяне гэтам вечарам, але ж ні разу так, як паслужнікі ворага, – гэтак мне падаецца. Тыя, на мой погляд, ну, мягчэй сьцялілі б, калі вы мяне разумееце.

– Разумею, – Швэндал засьмяяўся, – а з мною цьвёрда весьціся, так? Ну, усё ж "*скарб сапраўдны вачэй не падмане*", ці ня так?

– Дык гэты верш пра вас? – спытаў Фрода. – Я так і не зразумеў, пра што ён. Але як вы даведаліся, што ён у Гэндальфавым лісьце, калі вы яго ня бачылі?

– Я й ня ведаў. Але я – Арагорн, і верш гэты пра мяне, – ён выцягнуў меч, і хобіты пабачылі, што ён на самай справе зламаны – на стапу вышэй за гарду. – Няшмат карысьці з такога меча, так, Сэме? Але набліжаецца час, калі яго скуюць зноўку.

Сэм не сказаў анічога.

– Ну, з Сэмавага дазволу, палічым, што дамовіліся. Швэндал – ваш праваднік. Ранкам будзе нялёгка. Нават калі нам дазволяць пакінуць Прыгор'е безь перашкодаў, абавязкова прасочаць. Але я паспрабую зьбіць іх зь сьледу як мага хутчэй. Я ведаю парачку спосабаў пакінуць Прыгор'е не па Шляху. А калі адарвемся, адразу рушым да Наветранай стромы.

– А навошта туды? Што ў ёй такога, строме гэнай? – спытаў Сэм.

– Анічога асаблівага. Гэта проста гара, паўдарогі на поўнач адсюль да Долага Яру. Зь яе файны далягляд, магчыма добра агледзець наваколье. Калі Гэндальф спрабуе нас дагнаць, ён скіруецца менавіта туды. Да Наветранай стромы, лічу, даберамося без асаблівых цяжкасьцяў. Вось пасьля яе будзе небясьпечней і давядзецца выбіраць паміж дрэнным і йшчэ горшым.

– Калі вы бачылі Гэндальфа апошні раз? – спытаў Фрода. – Ці ведаеце, дзе ён, чым заняты?

– Ня ведаю, – спахмурнеў Швэндал. – Вясною я разам зь ім прыехаў на захад. Апошнія два гады я часьцяком даглядаў шырскія межы, пакуль ён быў заняты ў іншых мясьцінах. Шырскае памежжа ён аніколі не пакідаў без аховы. Апошні раз мы бачыліся першага траўня: на Сарнаўскім бродзе, ніжэй па Бранявіне. Ён распавёў, што ты ў парадку й плянуеш выправіцца ў Долы Яр напрыканцы верасьня. Ведаючы, што ён побач з табою, я займаўся іншымі справамі, і гэта сталася бядою. Бо, відавочна, Гэндальфу давялося тэрмінова пакінуць Шыр, а я быў далёка й дапамагчы ня мог. Упершыню за ўвесь час нашага знаёмства я непакоюся за яго. Ён мусіў даслаць вестку, калі ня здолеў прыйсьці сам. Калі я вярнуўся, шмат дзён таму, пачуў дрэнныя навіны. Гэндальф зьнік, і зьявіліся Чорныя Вершнікі. Эльфы, з племені Гільдара, распавялі мне. Потым ад іх жа я вызнаў, што ты пакінуў Торбу. Але не было вестак пра тое, ці пакінуў ты Прыбычча. Таму я пільна сачыў за Ўсходнім Шляхам.

– Ваша лічыць, што Чорныя Вершнікі датычныя да зьнікненьня Гэндальфа? – перапытаў Фрода.

– Ня ведаю, што яшчэ магло яго затрымаць – хіба сам Вораг. Але ня трацьце надзеі! Гэндальф – нашмат магутнейшы, чым вы, шырскія хобіты, прызвычаіліся лічыць. Бо вы ж бачылі толькі ягоныя жарты й забаўлянкі. Мяркую, нашая справа будзе найвялікшым для яго выпрабаваньнем.

– Прашу прабачэньня, – пазяхнуў Піпін, – стаміўся я сьмяротна. Небясьпека небясьпекай, а трэба ж класьціся ў ложак – або я засну проста на месцы. Дзе ж пракуда Мэры? Гэна будзе ўжо апошняя кропля, калі давядзецца йсьці шукаць яго ў цемры.

У гэты момант пачулі: бразнулі дзьверы, нехта пабег па калідоры. Момант – і зьявіўся Мэры, а сьледам за ім Ноб. Той хуценька зачыніў за сабою дзьверы й

прываліўся да іх, цяжка дыхаючы. Хобіты глядзелі на Мэры ўстрывожана, а ён, аддыхаўшыся нарэшце, здолеў вымавіць:

– Я іх бачыў, Фрода! Бачыў! Чорных Вершнікаў!

– Чорныя Вершнікі? Дзе? – ускрыкнуў Фрода.

– Тут, у вёсцы. Я з гадзіну сядзеў у пакоі. Вы ўсё не вярталіся, тады я выйшаў пашпацыраваць. Амаль ужо й вярнуўся, і прыпыніўся зусім побач з шынком, ля аркі, – на зоркі зірнуць. Раптам – дрыжыкі па скуры! – адчуў, нібы нейкая жахлівая жудасьць, найчарнейшы цень сярод ценяў паўзе з другога боку Шляху, якраз там, куды не сягае сьвятло ад шынковага ліхтара. І зьнікае бязгучна ў цемры. Каня побач я не заўважыў.

– У які бок яно кіравалася? – рэзка спытаў Швэндал.

Мэры ўстрапянуўся, толькі цяпер і заўважыўшы незнаёмцу.

– Кажы, – сказаў Фрода. – Гэта сябра Гэндальфа, я пазьней патлумачу падрабязьней.

– На ўсход, уздоўж Шляху. Я паспрабаваў прасачыць. Я завярнуў за вугал і дайшоў ажно да апошняй хаты ля Шляху.

– У цябе мужнае сэрца, – сказаў Швэндал, пазіраючы на Мэры ў подзіве, – але тое было глупства.

– Ня ведаю. Напэўна, гэта й ня мужнасьць, і ня глупства. Мяне вабіла, і я ня мог працівіцца. Так ці інакш, я йшоў – і раптам пачуў галасы за агароджай. Адзін мармытаў, другі шапатаў нешта, ці шыпеў. Я ні слова не разабраў. І бліжэй не падбіраўся, таму што ўвесь пачаў дрыжэць. Потым на мяне напаў такі жах, я павярнуўся, каб бегчы да шынка што моцы... і тут нешта да мяне за сьпінаю рушыла, і я... я зваліўся.

– Я яго знайшоў, – улез у размову Ноб. – Спадар Масьляк паслаў мяне на пошукі зь ліхтаром. Я схадзіў да Заходняй брамы, тады назад, да Паўднёвай. Прама ля хаты Біла Бур'яка бачу – нешта на вуліцы такое... Дакладна не скажу, але падалося, нібы двое нахіліліся над некім, падымаючы. Я закрычаў, а калі дабег да месца, бачу – анікога, акрамя спадара Бронь-Быча. Ляжыць ля збочыны, сонны. Калі расштурхаў яго, кажа: "Здаецца, я тану". Такі дзіўны. А калі я яго цалкам абудзіў, дык кінуўся бегчы да шынка, рыхтык заяц, толькі пасьпявай за ім!

– Мяркую, так і было, – пацьвердзіў Мэры, – хоць і ня памятаю, што ж я казаў. Мне такія чорныя мары сьніліся! Але ня памятаю, што дакладна. Я сам ня свой зрабіўся. Не зразумею, што ж такое на мяне найшло.

– Я разумею, – азваўся Швэндал. – Чорны подых. Напэўна, яны пакінулі коней вонкі ды ўпотайкі прасьлізнулі за Паўднёвую браму. Усе навіны яны ведаюць, бо ўжо былі ў Біла Бур'яка. Верагодна, і той паўднёвік таксама шпіёніў. Нашая ноч наўрад ці будзе спакойнай. Яны паспрабуюць учыніць што-небудзь яшчэ да таго, як мы пакінем Прыгор'е.

– Што? – спытаў Мэры. – Яны нападуць на шынок?

– Наўрад ці. Яны пакуль што ня ўсе тут. Дый не па іх такое. Яны наймацнейшыя ў цемры, у глухамані. Калі няма на тое адчайнай патрэбы, на асьветленую хату з мноствам народу яны не нападуць, асабліва калі перад намі мілі й мілі эрыядарскіх пустэчаў. Галоўная іх моц – вусьціш. Сёй-той у Прыгор'і ўжо падуладны ім. Вось іх і прымусяць шкодзіць: Бур'яка, некаторых чужынцаў, магчыма, і вартаўніка. Вершнікі размаўлялі зь ім ля Заходняй брамы ў панядзелак. Я назіраў за гэтым. Калі зьехалі, Гары быў бялейшы за вапну й увесь калаціўся.

– Падаецца, ворагі навокал паўсюль, – выдыхнуў Фрода. – Што ж рабіць?

– Заставацца тут, ня йсьці ж да вашых спальняў! Упэўнены, яны ўжо высьветлілі, дзе тыя спальні. Вокны хобіцкіх пакояў выходзяць на поўнач і да зямлі блізка. Мы ўсе застанемся тут, шчыльна зачыніўшы вокны й дзьверы. Але перад тым мы з Нобам прынясем сюды вашыя рэчы.

Пакуль Швэндала не было, Фрода хутка распавёў Мэры, што адбылося пасьля вячэры. Мэры яшчэ задуменна ўчытваўся ў Гэндальфаў ліст, калі вярнуліся Швэндал з Нобам.

– Панове, – казаў Ноб, – я там коўдрачкі на ложках узварушыў ды падушак пад іх напхаў. Ваўняны дыванок рудзенькі скамячыў дый сунуў – так падобна да вашай галавы выйшла, пане Тор... Падстромнік, я хацеў сказаць, – паправіўся, усьміхаючыся.

– Файна! – засьмяяўся Піпін. – А што будзе, калі яны выкрыюць падман?

– Пабачым, – сказаў Швэндал. – Спадзяюся, да раніцы мы нашую крэпасьць пратрымаем.

Ноб даў дабранач дый выправіўся вартаваць ля дзьвярэй.

Свае мяхі й рэчы хобіты згрувасьцілі пасярод пакою. Прысунулі да дзьвярэй нізкую фатэлю, зачынілі вокны. Вызірнуўшы, Фрода пабачыў, што нябёсы яшчэ ясныя. Серп* зырка зьзяў прама над схіламі гары. Фрода зачыніў акно, замкнуў цяжкія засаўкі, завешаў фіранкі. Швэндал распаліў агонь у агмені й задзьмуў сьвечкі.

Хобіты паклаліся на коўдрах нагамі да агменю, а Швэндал сеў у фатэлю, прысунутую да дзьвярэй. Хобіты крыху паразмаўлялі – Мэры шмат чаго хацеў распытаць.

– Значыць, на поўню ўзьляцела, – прамармытаў, загортваючыся ў коўдру. – Якое ж глупства, Фрода! Але хацеў бы я тое пабачыць! Найлепшыя прыгорскія асобы, безумоўна, яшчэ гадоў сто будуць гэта мусоліць.

– Спадзяюся, ня менш, – сказаў Швэндал.

Тады ўсе змоўклі, і адзін за адным хобіты пазасыналі.

---

* Хобіцкая назва Вялікага Возу.

## *11. Лязо ў цемры*

Калі хобіты ў "Скаклівым коніку" клаліся спаць, Прыбычча ляжала агорнутае цемрай. У панізьзях клубіліся туманы, распаўзаліся рачнымі берагамі. У Цвыркуновай Лагчыне, вакол Фродавай хаты, усё было ціха. Фуфа Норс асьцярожна прачыніў дзьверы й вызірнуў вонкі. Увесь дзень незразумелы страх не даваў яму спакою – ані адпачыць, ані паспаць. І зараз: падавалася, само начное паветра патыхае пагрозаю. І раптам у цемры ён заўважыў: чорны цень зварухнуўся пад дрэвамі. Брама адчынілася сама сабою ды зачынілася зноў – бязгучна. Вусьціш авалодала хобітам. Адсунуўся назад, на момант застыў, дрыжучы, за дзьвярыма. А тады замкнуў іх.

Праз начны змрок пачуўся мяккі пошчак капытоў – у прысадах цішком падводзілі коней. Пакінулі іх за плотам. Брама ашчэрылася, прасьлізнулі тры чорныя постаці, нібы згусткі ночы сслаліся над зямлёю. Адзін – да дзьвярэй, два – да вуглоў хаты. Там і сталі, рыхтык цені камянёў, пакуль ноч павольна плыла над імі. Падавалася, і хата, і дрэвы навокал чакаюць, сьцяўшы дыханьне.

Лёгка зашапацела лісьце, недзе далёка азваўся першы певень. У халодным перадсьвітальным змроку, бяззорным, паўнюткім, рушылі чорныя цені – ільдзяным сьвятлом бліснулі лёзы, пакідаючы похвы. Ад моцнага, але амаль бязгучнага ўдару задрыжэлі дзьверы.

– У імя Мордару, адчыняй! – загадаў прывідны пагрозьлівы голас.

Ад другога ўдару дзьверы абрынуліся, пырснуўшы трускамі, бразнуўшы выдраным замком. Чорныя постаці прасьлізнулі ўсярэдзіну.

У гэты момант сярод дрэваў непадалёк засьпяваў горан. Распароў начны спакой, нібы вогнішча на вяршыні гары.

ПРАЧНІЦЕСЯ! ПАЎСТАНЬЦЕ! ВОРАГ! ВОРАГ!

Бо Фуфа Норс не чакаў кону, апусьціўшы рукі. Як толькі заўважыў чорныя постаці, што крадуцца праз сад, уцяміў: або ўцякаць цяпер, або гінуць. І ўцёк, выскачыўшы з задніх дзьвярэй, праз сад. па палёх. Калі дабег да найбліжэйшай хаты – вярста зь нечым – бразнуўся проста на ганку, галосячы: "Не, не! Ня я! Яно ані ў мяне!" Колькі часу змарнавалі, пакуль дапялі, пра што ён балбоча. Урэшце скемілі: у Прыбыччы ворагі, нейкія пачвары з Старой пушчы. Здагадаўшыся ж, часу ўжо ня трацілі.

АГОНЬ! АГОНЬ! ВОРАГ!

Ляцеў над Прыбыччам гук горна, старажытны бронь-бычаўскі заклік, які ня чулі ўжо сотню гадоў, з таго часу, як белыя ваўкі прыйшлі Ліхою Зімою па застылым Бранявіне.

ПРАЧНІЦЕСЯ! ПАЎСТАНЬЦЕ!

Здалёк адгукнуліся горны. Трывогу трубілі ўжо там і тут. Чорныя постаці пакінулі хату, пасьпяшаліся вонкі. Адзін зь іх на бягу згубіў хобіцкі плашч. Паляцеў пошчак капытоў – хутчэй, хутчэй, у намёт! – у разадраную, пераляканую цемру. Па ўсёй Цвыркуновай Лагчыне гулі ў горны, мітусіліся, галасілі. А Чорныя Вершнікі віхурай несьліся да Паўночнай брамы. Хай сабе гудуць недамеркі! Саўрон потым разьбярэцца зь імі. А пакуль – у іх іншыя справы. Бо хата сталася пустою, і

пярсьцёнка там не было. Яны, не спыняючыся, вышыблі коньмі вартавых ля брамы й пакінулі Шыр.

Праспаўшы крыху, Фрода раптам прачнуўся, быццам пачуў нейкі гук ці адчуў побач чыюсьці прысутнасьць. Убачыў, што Швэндал па-ранейшаму сядзіць у фатэлі, нерухомы й насьцярожаны, і ў ягоных вачох адбіваецца полымя. Вогнішча ў агмені было дагледжанае, накладзеныя сьвежыя дровы.

Неўзабаве Фрода заснуў зноўку, але ў ягоны сон урывалася выцьцё ветру й імклівы пошчак капытоў. Вецер абкружаў шынок, абдымаў далоньмі, трэс яго, а недзе далёка захлынаўся, гуў горан. Фрода расплюшчыў вочы й пачуў, як весела сьпявае на падворку певень. Швэндал адсунуў фіранкі, ляснуў засаўкамі, адчыніў аканіцы. Першае, яшчэ шэрае сьвятло раніцы заліло пакой, праз акно падзьмула холадам.

Як толькі Швэндал абудзіў і падняў хобітаў, усе пасьпяшаліся да спальняў. А пабачыўшы іх, узрадаваліся, што паслухаліся Швэндала: бо вокны былі насьцеж, аканіцы матляліся, фіранкі шкуматаў вецер. Усе ложкі былі пакамячаныя й перакуленыя, падушкі валяліся на падлозе, пасечаныя, а руды ваўняны дыванок разадраны на шматкі.

Швэндал адразу паклікаў шынкара. Небарака Масьляк выглядаў сонным ды перапалоханым. Сьцьвярджаў, што ўсю ноч на нагах, але ж ня чуў ні гуку.

– Дый у жыцьці аніколі такога не здаралася! – узьняў ён ад жаху рукі. – Каб госьці й паспаць не маглі ў сваіх ложках, і такія падушкі файныя папсаваныя, і гвалт які! Куды мы коцімся?

– Да змрочных часоў, – сказаў Швэндал, – але пакуль можаш не хвалявацца. Твае клопаты скончацца, калі мы сыдзем. Гэта значыць зараз жа. Пра сьняданак не турбуйся – глынем на хаду таго-сяго дый перакусім. Спакавацца трэба як мага хутчэй.

Спадар Масьляк пасьпяшаўся праверыць, як там поні, дый сабраць "тое-сёе", каб глынуць ды пад'есьці. Але вельмі хутка вярнуўся, цалкам у роспачы. Поні зьніклі! Дзьверы стайні ўночы былі расчыненыя, зьніклі ня толькі поні Мэры, але й усе астатнія, і коні таксама – аніводнай жывёліны не засталося.

Фрода падумаў: вось і канец. Немагчыма ж дабірацца да Долага Яру пехатою, калі цябе перасьледуюць вершнікі. З гэткім посьпехам можна накіравацца на поўню. Швэндал жа сядзеў пэўны час моўчкі, пазіраючы на хобітаў: нібы ацэньваў іхнюю мужнасьць і моц.

– Усё адно поні не абгоняць коней, – вымавіў нарэшце задуменна, нібы прачытаўшы Фродавы думкі. – Пехатою мы не нашмат марудней будзем перасоўвацца па тых сьцежках, на якія я вас выведу. Дый я сам у любым выпадку зьбіраўся йсьці пешкі. Мяне турбуюць прыпасы. Паміж Прыгор'ем ды Долым Ярам іх няма дзе папоўніць. А запасьці трэба даволі, бо, магчыма, нас затрымаюць ці давядзецца кружляць, абыходзячы, і далёка адхіляцца ад напрамку. Колькі вы здольныя несьці на сьпінах?

– Столькі, колькі зможам падняць, – Піпін намагаўся выглядаць бадзёрым і моцным (хоць адчуў сябе пры гэтым горш няма куды).

– Я магу зьнесьці за двох, – дзёрзка адказаў Сэм.

– Няўжо нельга нічога зрабіць, спадар Масьляк? – спытаў Фрода. – Прыдбаць пару поні ў вёсцы ці хоць бы аднаго, для паклады? Напэўна, наняць іх ня ўдасца, але ж мы здольныя й набыць, – дадаў без асаблівай рашучасьці, прыкідваючы, ці хопіць у іх грошай на поні.

– Сумняюся, – адказаў шынкар, – тыя два ці тры верхавыя поні, якія былі ў Прыгор'і, усе стаялі ў мяне. А іншыя, коні ці поні, цягавыя ці для якой яшчэ патрэбы – мала іх у нас. Напэўна, ніхто й не прадасьць. Але я паспрабую. Зараз пашлю Боба, няхай прабяжыцца, папытае.

– Так, – неахвотна згадзіўся Швэндал, – напэўна, так будзе лепей. Баюся, прынамсі без аднаго поні не абыдземся. Вось толькі тыя пошукі – канец усім надзеям пакінуць Прыгор'е ўпотайкі. З такім посьпехам можна было б затрубіць у рог, абвяшчаючы наш сыход. Здаецца, гэта й было задумана.

– Ну, ёсьць і прыемнае, – азваўся Мэры, – падсілкуемся нармалёва. Пасьнедаем, покі чакаем. Гукнеце Ноба, няхай нясе ежу зь пітвом!

Пошукі сталіся трохгадзіннай затрымкаю. Боб вярнуўся й распавёў, што за грошы анідзе аніякай жывёліны не атрымаеш, за адзіным выняткам: у Біла Бур'яка ёсьць поні, якога ён згодны прадаць.

– Такі заморaны каняка, ці не паўмёртвы, – казаў Боб, – але ж запросіць Бур'як за яго ня менш як утрая супраць кошту нармалёвага поні, пабачыўшы вашую патрэбу. Ці ж я Бур'яка ня ведаю?

– Бур'якоў поні? – спытаў Фрода. – Можа, тут які подступ? Магчыма, гэты пачвара ўцячэ з нашымі прыпасамі, ці неяк дапаможа нас высачыць, ці шчэ што наробіць?

– Наўрад, – пахітаў галавою Швэндал, – не ўяўляю сабе такой жывёліны, якая з сваёй ахвоты вярнулася б да Бур'яка, здолеўшы ад яго пазбавіцца. Тое ў характары спадара Бур'яка: шчэ й троху грошай прыдбаць наастачу. Баюся толькі, што поні й сапраўды ледзь жывы. Але іншага выйсьця няма. Колькі ён хоча?

Хацеў ён, як высьветлілася, дванаццаць срэбных грошаў – насамрэч, сама мала ўтрая за звычайны кошт у Прыгор'і. Поні выглядаў кастлявым і надта сумным, але ж, відавочна, паміраць пакуль не зьбіраўся. Спадар Масьляк сам за яго заплаціў і прапанаваў Мэры яшчэ васямнаццаць срэбных грошаў як кампэнсацыю за страчаных жывёлаў. Шынкар быў чалавек чэсны, і не з пустою кішэняю, паводле Прыгорскіх мерак, але страціць трыццаць срэбных для яго было вельмі непрыемна й крыўдна. Крыўду абцяжарвала й тое, што аддаваць без малога палову давялося Білу Бур'яку.

Што праўда, урэшце ён застаўся зь немалым прыбыткам. Бо насамрэч скралі толькі аднаго каня. Астатніх проста папавыгналі ці яны самі, напалохаўшыся, паўцякалі ды папаразбрыдаліся па Прыгорскіх ускрайнах. Поні Мэры трымаліся разам і, што было вельмі разумна зь іх боку, дабраліся да Лысагор'я, да Бамбадзілавага Таўстуна. Там, пад Томавай апекаю й жылі сабе. Аднак калі прыгорскія навіны сягнулі Томавых вушэй, ён адаслаў поні назад, да Масьляка. Так шынкар прыдбаў даволі танна пяць выдатных поні. У Прыгор'і жывёлам давялося папрацаваць, але Ноб абыходзіўся зь імі добра. Можна сказаць, ім пашанцавала, бо пазьбеглі далёкай і небясьпечнай вандроўкі. Але ж і ў Долы Яр не патрапілі.

Аднак пакуль тое, грошы падаваліся Масьляку страчанымі незваротна. Да ўсяго дадаліся й іншыя клопаты. Калі ўсе госьці папрачыналіся й даведаліся навіны, то вельмі занепакоіліся. У паўднёўцаў зьнікла некалькі коней, у чым абвінавацілі шынкара, пакуль ня высьветлілася, што касавокі прыяцель Біла Бур'яка таксама зьнік уночы. Тады адразу западозрылі яго.

– Калі важдаецеся з канакрадамі ды ў маю хату іх ведзяце, дык самі й сплочвайце за шкоду, а ня кідайцеся на мяне, галосячы! – выгаворваў ім раззлаваны Масьляк. – У Біла Бур'яка пытайцеся, дзе ягоны ды ваш сябра-прыгажун!

Але цяпер ніхто з паўднёўцаў і ўзгадаць ня мог, калі прыбіўся да іх касавокі. І анічыім сябрам ён ня быў, і аніхто яго ня ведаў.

Пасьля сьняданку хобіты перапакаваліся ды прызапасілі ежы на даўжэйшую вандроўку, чым разьлічвалі спачатку. Ужо было амаль дзесяць, калі выправіліся. У гэты час усё Прыгор'е ўзбуджана кіпела. Фродава зьнікненьне, Чорныя Вершнікі, рабаўніцтва ў шынку ды ці ня ў першую чаргу тое, што Швэндал ідзе разам з таемнымі хобітамі, – вось дык навіны! Вартыя, каб не адзін спакойны прыгорскі год іх абмяркоўвалі, смакавалі й перасуджвалі, а пераказвалі – і нашмат даўжэй. Большасьць жыхароў Прыгор'я ды шмат хто з Ярцаў і Прычыцаў высыпалі на Шлях пабачыць вандроўнікаў. Усе госьці выйшлі да дзьвярэй або павысоўваліся з вокнаў.

Праз гэта Швэндал вырашыў некаторы час ісьці па Шляху. Любая спроба зьвярнуць напрамкі цяпер толькі пагоршыла б справы – палова люду пацягнулася б сьледам, зірнуць, куды яны ідуць, і не дазволіць залезьці на чужую зямлю.

Вандроўнікі разьвіталіся з Бобам і Нобам і шматкратна падзякавалі спадару Масьляку.

– Спадзяюся, яшчэ сустрэнемся, – сказаў Фрода. – Мне так хацелася б пажыць пад вашым дахам у спакоі колькі дзён!

Так і выправіліся прэч, заклапочаныя й сумныя, пад позіркі натоўпу, ня надта сяброўскія. Пад дужа непрыемныя выклікі. Але, відавочна, бальшыня баялася Швэндала, і калі ён сувора зьмерваў вачыма – усе змаўкалі й адсоўваліся назад. Швэндал ішоў наперадзе побач з Фрода. Далей крочылі Піпін з Мэры, а апошнім – Сэм, які вёў пад аброць поні. На таго навалілі столькі паклады, колькі дазволіла літасьць да няшчаснай жывёліны, але конік выглядаў нават і ўзрадаваным гэткай зьменаю лёсу. Сэм задуменна хрумкаў яблыкам. Набіў імі поўную кішэню – разьвітальны падарунак ад Боба й Ноба.

– Яблыкі на дарожку, люлька – на адпачынак – і файна, – так сказаў Сэм. – На жаль, і тое, і другое хутка сканчаецца.

Хобіты не зважалі ўвагі на цікаўных, што вызіралі з-за дзьвярэй ці вытыркаліся з-за сьценаў і платоў. Але ж як наблізіліся да Паўднёвай брамы, Фрода ўважліва ўгледзеўся ў шэрую, брудную, недагледжаную хату за шчыльнай агароджай – апошнюю ў вёсцы. Яму падалося: у вакне зьявіўся смуглявы твар з касымі, прыжмуранымі вачыма. Мільгнуў ды адразу й зьнік. Фрода падумаў: "Дык вось дзе ён хаваецца. Ну, рыхтык паўгоблін нейкі".

З-за агароджы на вандроўнікаў дзёрзка пяліўся чалавек з густымі чорнымі бровамі ды змрочнымі кплівымі вачыма: крыва ўсьміхаўся й цмактаў кароткую чорную люльку. Калі падарожнікі наблізіліся, вынуў люльку з роту дый схаркнуў.

– Добрай раніцы, даўгалыгі! – сказаў Швэндалу. – Штосьці рана выправіўся? Нарэшце напаткаў сабе сяброў?

Швэндал кіўнуў, але нічога не адказаў.

– Дабранак, маленькія сябрукі! – гукнуў хобітам. – Спадзяюся, цяміце, з кім павяліся? Гэта ж Швандалюга валацужны. Ведалі б вы, як яго йшчэ называюць! Ну, хутка даведаецеся. Толькі ночы дачакайцеся. Гэй, Сэмка, ты глядзі – добра абыходзься з маім старым дахляцікам. Цьфу! – ён схаркнуў зноў.

Сэм умомант павярнуўся.

– А ты, Бур'яку, лепей схавай сваю пысу, а тое пашкодзіцца.

Сэмава рука мільгнула – і яблык, нібы сам сабою вылецеўшы, патрапіў Білу прамютка ў нос. Біл запозьнена прысеў, каб схавацца за загароджай, ды прыняўся сыпаць адтуль праклёнамі на падарожнікаў.

– Шкада, добры быў яблык, – сказаў Сэм і пакрочыў далей.

Нарэшце пакінулі вёску за сьпінамі. Дзятва ды разявакі, што цягнуліся ззаду, прытаміліся й вярнуліся да брамы. Вандроўнікі яшчэ колькі вёрстаў ішлі па гасьцінцы. Ён збочваў налева, вяртаючыся да ўсходняга напрамку пасьля выгіну вакол Прыгор'я, і неўзабаве спускаўся ў залесеныя мясьціны. Леваруч відаць былі хаты й хобіцкія норы Стадлаў на паўднёва-ўсходніх схілах гары. Далей, на поўнач ад Шляху, віліся струменьчыкі дыму, адзначаючы схаваныя ў глыбокай лагчавіне Ярцы. Яшчэ далей, за дрэвамі, ляжалі Прычыцы.

Прайшоўшы пэўны час па Шляху й ужо пабачыўшы здаля цалкам усю Тутэйшую гару, высачэзную, цёмна-рудую, зьвярнулі на вузкую сьцежку, якая вяла на поўнач.

– Вось адсюль і пачнем хавацца, – сказаў Швэндал.

– Спадзяюся, гэта не напрасткі, – азваўся Піпін. – Нашая апошняя спроба скараціць ледзь нас не загубіла.

Швэндал засьмяяўся.

– З вамі ж не было мяне. Калі я хаджу напрасткі, то выходжу, куды пляную.

Агледзеў Шлях. Нікога. Тады хутка крочыў па сьцежцы да лесу ў даліне.

А плянаваў ён, як, ня ведаючы мясцовасьці, зразумелі хобіты, спачатку дабрацца да Прычыцаў, але, не даходзячы да вёскі, збочыць направа й абысьці яе з усходу, а тады рушыць як мага прамей да Навеtранай стромы. Калі ўсё адбылося б так, вандроўнікі насамрэч зрэзалі б вялікую пятлю Шляху, які выгінаўся далёка на поўдзень, абмінаючы Гнюсьнішча, вялікую багну. Затое ісьці належала проста праз балаты. Шпацыр ня самы прыемны, калі верыць Швэндалу.

Але пакуль у тое ня верылася, бо шпацыраваць было даволі прыемна. Сапраўды, калі б не трывогі мінулай ночы, гэтая частка вандроўкі падалася б найпрыемнейшай. Сонца зьзяла ясна, але не прыпякала. Спакойны, мірны лес у даліне быў надта прыгожы ў восеньскім разнаколерным лісьці. Швэндал упэўнена вёў хобітаў па пераблытаных сьцежках. Самі яны, мусіць, умомант згубіліся б. Бо Швэндал пятляў, паварочваў, кружляў, каб зьбіць верагодную пагоню. Сказаў:

– Мяркую, Біл Бур'як прасачыў, дзе мы пакінулі Шлях. Але наўрад ці ён сам пойдзе за намі. А вось іншым, баюся, абавязкова распавядзе. Напэўна, тыя іншыя непадалёк. Добра, калі яны палічаць, што мы скіраваліся да Прычыцаў.

Або дзякуючы Швэндалаву майстэрству, або зь якой іншай прычыны, але ўвесь дзень ня бачылі ды ня чулі амаль ніводнай жывой істоты. Зь дзьвюхногіх трапляліся толькі птушкі, а з чатырохногіх – адна ліса ды некалькі вавёрак. Назаўтра рушылі прама на ўсход, і ўсё адно анікога не напаткалі. На трэці дзень пасьля таго, як выйшлі з Прыгор'я, выбраліся з Чыцкага лесу на шырокую роўнядзь, ісьці па якой, аднак, было нашмат цяжэй, чым па лесе. Як зьвярнулі з Шляху, шыбавалі ўсё ўніз ды ўніз і цяпер апынуліся ў няходжанай глухамані непадалёк Гнюсьнішча.

Часьцяком трапляліся балацінкі й азяркі, зарослыя чаротам ды верасам, пад нагамі хлюпала. У зарасьцях цвыркалі нябачныя маленькія птушкі. Вандроўнікі перасоўваліся асьцярожна, каб як мага даўжэй застацца з сухімі нагамі. Спачатку ішлі даволі хутка, потым усё марудней – стала небясьпечна. Бо адшукаць шлях па багнах няпроста нават і сьледапытам. Сьцяжынак не было, бо балаты заўсёды рухаліся, вокны дрыгвы зьнікалі там і з'яўляліся тут. Вандроўнікаў джалілі авадні, у паветры

вісела хмара найдрабнейшага гнюсу, які блытаўся ў валасах, поўзаў па штанінах, рукавах і джаліў, джаліў.

– Мяне жыўцом жаруць! – закрычаў Піпін. – Аёй, насамрэч Гнюсьнішча!

– Цікава, як жа яны выжываюць, калі паблізу няма хобіта, якога можна смактаць? – спытаў Сэм, шкрабучы шыю.

Дзень скончыўся дрэнна, а ноч падалася й горшай. Бо было вільготна, халодна, няўтульна, крывасмокі не давалі спаць. У дадатак высьветлілася, што ў чаратах жывуць нейкія гадкія істоты, мяркуючы на гуках, нейкая злосная радзіна цвыркуноў. Іх былі тысячы, паўсюль навокал, і ўсю ноч яны віскаталі: "І-іськці-грыці-іськці-грыці". Да раніцы хобіты амаль ашалелі.

Наступны дзень, чацьверты, быў не нашмат лепшы, дый ноч таксама. Хоць "іцігрызцы", як празваў іх Сэм, болей не даймалі, гнюс джаліў па-ранейшаму.

Фрода ляжаў, стомлены, але ня здольны заплюшчыць вачэй, і раптам пабачыў нейкае сьвятло ў нябёсах на ўсходзе. Яно выблісквала й гасла, і гэтак шмат разоў. А да раніцы было далёка, некалькі гадзінаў.

– Што за сьвятло? – спытаў ён у Швэндала, які ўстаў, таксама ўглядаючыся ў цемру на ўсходзе.

– Ня ведаю, – адказаў той. – Надта далёка, каб разабраць. Нешта накшталт маланкі, якая скача па вяршынях стромаў.

Фрода лёг зноў і яшчэ доўга бачыў белыя сполахі й асьветленую імі постаць Швэндала, які нерухома стаяў, назіраючы за наваколльлем. Нарэшце Фрода забыўся трывожным сном.

На пяты дзень яшчэ зранку пакінулі за сьпінамі апошнія балаціны ды зарасьці чароту, і мясцовасьць пакрысе зноў пачала ўзьнімацца. Далёка на ўсходзе бачылі ўжо зубрысты ланцуг пагоркаў. Найвышэйшы зь іх быў самы паўднёвы, крыху аддалены ад астатніх – амаль кучмісты ля вяршыні, гладкі й троху зроўнены наверсе.

– Вось яна – Навятраная строма, – сказаў Швэндал. – Стары Шлях, які мы пакінулі далёка праваруч, абмінае яе з поўдня й праходзіць непадалёк ад узножжаў. Напэўна, дабярэмся туды апоўдні, калі пашыбуем проста да яе. Лепей гэтак нам і зрабіць. Што праўда...

– Што? – перапытаў Фрода.

– Я ня ўпэўнены ў тым, што мы знойдзем там. І што знойдзе нас. Надта блізка да Шляху.

– Але мы спадзяваліся напаткаць там Гэндальфа, ці не?

– Так, але цяпер, мне падаецца, надзея слабая. Калі ён увогуле выбраўся на поўнач, ён мог і не зазірнуць у Прыгор'е, і не даведацца, куды мы выправіліся. У любым выпадку, сустрэцца там мы можам хіба выпадкова, бо ані яму, ані нам нельга доўга заставацца на пагорку. Калі Вершнікі не падпільнуюць нас у глухамані, яны, верагодна, самі скіруюцца да Навятранай стромы. Бо зь яе далёка відаць ва ўсе бакі. А калі мы апынемся там, на той вяршыні, шмат якія птушкі й зьвяры пабачаць нас. Некаторыя зь іх здольныя распавесьці Вершнікам ці іх паслугачам, ёсьць і іншыя пачвары, хто можа данесьці, і нашмат горшыя за птушак.

Хобіты занепакоена зірнулі на далёкія пагоркі. Сэм падняў галаву ў нябёсы над сабою: ці няма там ястрабаў ці арлоў, якія кружлялі б у вышыні, віжуючы вандроўнікаў пільнымі халоднымі вачыма?

– Ну, ад такіх словаў, Швэндал, толькі самотней ды трывожней! – сказаў ён.

– І што ж нам рабіць? – перапытаў Фрода.

– Мяркую... – задумаўся Швэндал, відавочна, ён яшчэ сам цалкам ня вырашыў, – мяркую, што лепей за ўсё будзе выправіцца адсюль прама на ўсход, да пагоркаў, а не да Наветранай стромы. Там мы напаткаем маленькую сьцежку, добра схаваную, якая ўздоўж узножжаў гор выводзіць да Наветранай стромы з поўначы. А тады ўжо паглядзім, калі будзе на што паглядзець.

Упарта крочылі наперад да самага вечару, халоднага й раньняга. Мясьціны зрабіліся сушэйшыя, расьліннасьці стала менш, хоць недалёка за сьпінамі над багнай клубіўся туман. Рэдкія птушкі азываліся тоненька й сумна, пакуль сонца, круглае й чырвонае, зусім не патанула ў цені на захадзе. Тады павісла пустая, мёртвая цішыня. Хобіты з тугою ўзгадалі мяккі летні вечар і цёплыя струмені вечаровага сьвятла, што ліліся праз вокны Торбы-пад-Стромай – далёка, далёка адсюль.

Калі сутонела, набрылі на крыніцу, якая, пятляючы, сьцякала з пагоркаў, каб згубіцца сярод застаялых багнаў і дрыгвы. Пайшлі ўздоўж берагоў, пакуль зусім не сьцямнела. Зь цемраю нарэшце прыпыніліся на ноч пад крывымі асінамі на беразе. Наперадзе чарнелі ў змрочных нябёсах пустыя, лысыя вяршыні пагоркаў. У гэтую ноч паставілі вартавых. А Швэндал, падавалася, і зусім ня сьпіць. Блядны месяц ліў на зямлю халоднае шэрае сьвятло.

Раніцою рушылі зноў на досьвітку. Марозіла, нябёсы былі ясныя, сьветла-блакітныя. Хобіты адчувалі сябе надзіва пасьвяжэлымі, нібы праспалі нармалёва й бесклапотна ўсю ноч. Ужо, відавочна, прызвычаіліся да добрага шпацыру ды сьціплай ежы. У Шыры нават не паверылі б, што гэткія крыхі ўвогуле здольныя ўтрымаць на нагах хобіта. А Піпін абвесьціў, што Фрода ўдвая пакрапчэў.

– Дзіўна, – прамармытаў Фрода, зацягваючы пас, – улічваючы тое, што мяне, сказаць папраўдзе, стала значна меней. Спадзяюся, працэс майго станчэньня мае пэўныя межы, а тое, баюся, ператваруся ў прывіда.

– Не кажы лухту! – абарваў яго Швэндал зь нечаканай суворасьцю.

Пагоркі набліжаліся. Яны ўтваралі няроўны ланцуг: то ўздымаліся ў вышыню сажняў на сто з паловаю, то абрываліся вузкімі расколінамі й нізкімі пераваламі, якія вялі на ўсход, да земляў за імі. На грабянях атовілкаў тырчэлі рэшткі зялёных зьдзірванелых валоў ды равоў, а па праходах – руіны муроў. Да цемры вандроўнікі сягнулі заходняга боку пагоркаў, там і заначавалі. Было гэта пятага кастрычніка, на шосты дзень, як пакінулі Прыгор'е.

Раніцою ўпершыню пасьля Чыцкага лесу знайшлі добрую сьцежку. Збочылі направа й пайшлі па ёй на поўдзень. Сьцяга была пракладзеная так хітра, што хавала ад позіркаў і зь вяршыняў, і з заходніх роўнядзяў. Яна нырала ў глыбокія лагчыны, агінала крутыя схілы, а калі ўсё-ткі выходзіла на раўнейшыя ды больш адкрытыя мясьціны, з абодвух бакоў яе абаранялі шэрагі вялізных валуноў ці абчасаных камянёў і хавалі вандроўнікаў як агароджа.

– Цікава, хто праклаў гэтую сьцяжыну й навошта? – спытаў Мэры, калі яны йшлі па адной такой агароджанай частцы, з шчыльна пастаўленымі надзвычай вялікімі валунамі. – Ня надта яна мне даспадобы. Нейкі тут, я сказаў бы, прыскляпенны выгляд. Ці ёсьць курганы на Наветранай строме?

– Не. Ані на Наветранай, ані на іншых тутэйшых пагорках, – адказаў Швэндал. – Людзі Захаду тут не жылі, хоць у апошнія гады трымалі тут абарону ад ліхой навалы Ангмару. Сьцежка й была пракладзеная, каб злучыць умацаваньні ўздоўж валоў. Але задоўга да таго, яшчэ ў першыя дні Паўночнага каралеўства, на вяршыні Наветранай

пабудавалі вялізную вартавую вежу. Яе назвалі Аман Сул. Потым яе спалілі й разбурылі, зараз там толькі кольца парушаных камянёў, каронаю на вяршыні старой гары. А калісьці вежа была высокая й сьветлая. Кажуць, менавіта на ёй падчас Апошняга Зьвязу кароль Элендыль трымаў варту, чакаючы, калі прыйдзе з Захаду з войскам Гіль-Галяд.

Хобіты ў подзіве глядзелі на Швэндала. Высьвятлялася, ён ведаў ня толькі шляхі па глухамані, а яшчэ й паданьні даўніны.

– А хто такі быў Гіль-Галяд? – спытаў Мэры, але Швэндал не адказаў, глыбока задумаўшыся.

Раптам нягучны голас вымавіў:

*Гіль-Галяд быў кароль-ваяр,*
*апошні земляў уладар*
*ад мора Захаду да гор,*
*краіны эльфаў гаспадар.*

*Быў востры каралеўскі меч,*
*пагубаю варожых бронь,*
*а дзіда – вусьціш лютых сеч,*
*сьмяротны ворагам агонь.*

*Але даўно сышоў ён прэч,*
*самотны, у цямрэчу-ноч,*
*у Мордары сьмяротны змрок*
*навек на лёс ягоны лёг.*

Хобіты павярнуліся, уражаныя – голас быў Сэмаў!

– Далей! – папрасіў Мэры.

– Гэта ўсё, што я ведаю, – прамармытаў Сэм, чырванеючы. – Мне спадар Більба распавёў, калі я малы быў. Ён звычайна распавядаў мне гэткае, ведаў, што люблю паслухаць пра эльфаў. Бо ж спадар Більба мяне пісаць-чытаць навучыў, праўда. Пане Більба такі быў кніжнік, вучоны хобіт, шмат ведаў. І пісаў *вершы*. Сапраўды. Ён і напісаў тое, што я распавёў.

– Не, ён ня сам гэта прыдумаў, – сказаў Швэндал. – Гэта ўрывак старой песьні "Лёс Гіль-Галяда". Я ведаю яе толькі на Старажытнай мове. Напэўна, Більба пераклаў – я й ня ведаў пра гэта.

– Там нашмат болей, – згадзіўся Сэм. – Ды ўсё пра Мордар. Я таму й ня стаў завучваць, мяне ажно дрыжыкі бралі. Аніколі не ўявіў бы, што самому давядзецца туды цягнуцца!

– Цягнуцца ў Мордар! – Піпін ускрыкнуў. – Спадзяюся, хоць бы да такога ня дойдзе!

– Не кажы гэтае слова ўголас! – папярэдзіў Швэндал.

Блізу полудня сягнулі паўднёвага канца сьцежкі й убачылі перад сабою ў няяркім лёгкім сьвятле кастрычніцкага сонца шэра-зялёны насып, што вёў, нібы мост, да паўночнага схілу стромы. Пайшлі хутчэй, каб дабрацца да верху, пакуль сьветла. Хавацца не было дзе, заставалася толькі спадзявацца, што ні ворагі, ні іхнія шпіёны за

стромай ня сочаць. На самой строме нічога ня рухалася. Нават калі Гэндальф недзе паблізу – няма аніякага знаку таго.

На заходнім схіле знайшлі глыбокую, добра схаваную ад чужых вачэй цясьніну з травяністым і спадзістым дном. Там пакінулі Сэма зь Піпінам ды поні з пакладай і заплечнікі. Астатнія ўтрох палезьлі ўгору. Праз паўгадзіны Швэндал быў на вяршыні, за ім, запыхаўшыся ды ледзь цягнучы ногі, забраліся Фрода з Мэры. Апошні ўзьлёт быў скалісты й даволі круты.

На вяршыні ўбачылі, як і казаў Швэндал, шырокае кола старажытных руінаў, зьдзірванелых і абкрышаных. Але ў цэнтры была наваленая куча каменнай дразгі, счарнелая, нібы абпаленая полымем. Вакол кучы траву выпаліла ўшчэнт, дый увогуле ўся трава ў руінах счарнела й зжухла, быццам нядаўна тут паўсюль шугала полымя. Аднак аніводнай прыкметы жывой істоты.

Ад былых муроў ва ўсе бакі разьвінаўся шырокі далягляд на вакольныя землі, пераважна запустэчаныя, голыя роўнядзі, толькі далёка на поўдні цямнелі купіны лесу, а за імі праблісквала вада. Пад нагамі ля падэшвы стромы з паўднёвага боку стужкаю віўся Шлях, выходзіў з захаду, пятляў, караскаўся наперад і зьнікаў за цёмным узвышшам на ўсходзе. Анічога па ім ня рухалася. Прасачыўшы яго вачыма, пабачылі й горы. Найбліжэйшыя пагоркі былі рудыя й змрочныя, за імі ўзвышаліся вышэйшыя скалістыя вяршыні, а ўжо далей блішчэлі сьнягамі сярод аблокаў белыя пікі.

– Вось мы й дабраліся сюды нарэшце, – сказаў Мэры. – І як жа ўсё адсюль нярадасна й негасьцінна выглядае! Ані вады, ані сховішча. І аніякай прыкметы Гэндальфа. Але я яго цяпер не вінавачу, што ён нас не дачакаўся, калі ён увогуле дабраўся дасюль.

– Цікава, – азваўся Швэндал роздумна, – нават калі Гэндальф патрапіў у Прыгор'е пазьней за нас на два ці тры дні, сюды ён мусіў дабрацца раней за нас. Калі трэба, ён можа перасоўвацца надта хутка.

Раптам нахіліўся й зірнуў на камень, што ляжаў на самым версе кучы. Ён быў больш пляскаты за астатнія й сьвятлейшы, нібы пазьбегнуў агню. Швэндал падняў яго, пакруціў, прыглядаючыся.

– Што мяркуеце наконт гэтых адзнак?

Зьнізу, на роўнай паверхні, Фрода пабачыў некалькі драпінаў.



– Здаецца, тут лінія, рыска й яшчэ тры лініі.

– Лінія з рыскаю зьлева – гэта, магчыма, руна , толькі адгалінаваньне надта тонка прадрапанае, – сказаў Швэндал. – Можа, гэта знак для нас ад Гэндальфа, хоць цалкам упэўніцца нельга. Драпіны тонкія й выглядаюць сьвежымі. Але яны могуць значыць і нешта іншае, і прызначацца зусім не для нас. Сьледапыты таксама карыстаюцца рунамі й сюды час ад часу завітваюць.

– А што яны значылі б, калі б былі пакінутыя для нас? – спытаў Мэры.

– Напэўна, Г3 значыць, што Гэндальф быў тут трэцяга кастрычніка, тры дні таму. А таксама што надта сьпяшаўся й небясьпека была побач, таму ён ня меў часу й магчымасьці напісаць што даўжэйшае ды больш уцямнае. Калі так, нам трэба сьцерагчыся.

– Каб толькі сапраўды *ён* пакінуў гэтыя адмеціны, што яны ні азначалі б! – усклікнуў Фрода. – Так добра было б ведаць, што ён таксама вандруе непадалёк ад нас.

– Магчыма, так і ёсьць, – пагадзіўся Швэндал. – Асабіста я мяркую, што ён тут быў і напаткаў небясьпеку. Тут усё абпаленае, а цяпер я ўзгадваю сполахі тры дні таму. Здаецца, тут, на вяршыні стромы, на яго напалі, але чым усё скончылася, сказаць цяжка. Цяпер яго тут няма, а значыць нам самім трэба паклапаціцца пра сябе й дабірацца да Долага Яру на ўласную рызыку.

– А колькі яшчэ да Долага Яру? – Мэры стомлена азіраўся навокал. Сусьвет зь вяршыні падаваўся такім прасторным і чужынскім.

– Ня ведаю, ці вымяраў хто Шлях у вёрстах ад "Пакінутага шынка", які за дзень вандроўкі на ўсход ад Прыгор'я, – паведаміў Швэндал. – Хто кажа так, а хто іначай. Дарога тут ня надта добрая, і ўсе клапоцяцца адно, каб хутчэй убачыць яе канец, а не пра тое, каб вымяраць. Але я ведаю, колькі спатрэбіцца мне пехатою пры добрым надвор'і й без перашкодаў: дванаццаць дзён адсюль да бродаў Бруйнену, дзе Шлях перасякае Грым'ю, якая выцякае з Долага Яру. Перад намі яшчэ два тыдні вандроўкі, бо, мяркую, па Шляху нам ісьці нельга.

– Два тыдні! – усклікнуў Фрода. – Безьліч усяго можа здарыцца!

– Але, – пацьвердзіў Швэндал.

Колькі часу моўчкі стаялі на вяршыні, ля паўднёвага краю. У гэтым самотным месцы Фрода ўпершыню цалкам уявіў сабе сваю беспрытульнасьць і небясьпеку навокал. Падумаў з горыччу: навошта лёс выгнаў яго з спакойнага, мілага Шыру? Паглядзеў уніз на ненавісны Шлях, зірнуў назад – у бок пакінутай радзімы. І раптам зразумеў, што ў далечыні на захад павольна рухаюцца дзьве маленькія чорныя плямкі, а насустрач ім яшчэ тры. Ён ускрыкнуў:

– Зірні! – і схапіў Швэндала за руку.

Адразу ж Швэндал кінуўся ніцма на зямлю, пацягнуўшы Фрода за сабою. Мэры бухнуўся побач. Прашаптаў:

– Што такое?

– Ня ведаю, але, баюся, найгоршае зь верагоднага, – адказаў Швэндал.

Павольна падпаўзьлі зноў да ўскрайку кольца руінаў, зірнулі праз шчыліну паміж вызубранымі камянямі. Пацямнела, бо раніца прамінула й аблокі, што напаўзьлі з усходу, засьцілі сонца. Чорныя плямкі на Шляху бачыліся ясна. Хоць ні Фрода, ні Мэры не маглі разгледзець, коньнікі тое ці не, нешта падказвала: так, там, далёка ўнізе, за падэшваю стромы зьбіраліся Чорныя Вершнікі.

– Так, – вымавіў Швэндал, які меў вастрэйшы зрок. – Вораг ужо тут!

Хутка адпаўзьлі ад краю ды пабеглі па паўночным схіле да сяброў.

Сэм і Перыгрын тым часам не сядзелі склаўшы рукі. Дасьледавалі цясьніну й схілы паблізу. Непадалёк напаткалі чыстую крынічку, а ля яе – адбіткі падэшваў, пакінутыя не даўней як дзень-два таму. А ў самой лагчавіне знайшлі сьляды вогнішча й іншыя прыкметы чыёйсьці нядаўняй прысутнасьці. Ля найбліжэйшага да вяршыні краю цясьніны за наваленымі камянямі Сэм убачыў невялікую, але добра складзеную й прыхаваную кучу дроваў.

– Цікава, можа, тут пабываў наш старына Гэндальф, – сказаў Сэм Піпіну. – Хто б тут ні прызапасіў, ён, напэўна, меў намер вярнуцца.

Швэндала знаходкі таксама зацікавілі.

– Лепей мне было пачакаць зь вяршыняй ды дасьледаваць усё самому, – сказаў ён і пасьпяшаўся да крыніцы.

– Гэтага я й баяўся, – вымавіў, вярнуўшыся. – Сэм зь Піпінам утапталі мяккую глебу, папсавалі й заблыталі сьляды. Нядаўна тут былі сьледапыты, безумоўна. Менавіта яны пакінулі дровы. Але ёсьць таксама й некалькі іншых адбіткаў. Нечыя цяжкія боты, дзень або два таму. Можа, тыя сьляды й не ад адной пары ботаў. Цяжка цяпер сказаць, але, баюся, не ад адной.

Ён змоўк, задумаўшыся. А хобітам уявіліся загорнутыя ў плашчы, абутыя ў цяжкія боты Вершнікі. Калі яны сапраўды ўжо ведаюць пра цясьніну, лепей зьвёў бы Швэндал сяброў куды-небудзь адсюль. Сэм дык увогуле пазіраў на лагчыну, нібы на пастку, даведаўшыся, што ворагі на Шляху й усяго за некалькі вёрстаў.

– Ці ня лепей нам як хутчэй адсюль зьнікнуць, спадару Швэндале? – спытаў нецярпліва. – Бо ўжо сутонее, а мне гэтая дзірка ў схіле зусім не даспадобы. А дакладней, тут як на могілках.

– Так, нам, безумоўна, трэба вырашыць зараз жа, што рабіць, – адказаў Швэндал, задумліва паглядаючы ўгору й ацэньваючы час ды надвор'е. – Так, Сэм. Мне таксама гэта ня надта падабаецца, але лепшага мы нічога ня знойдзем да цемры. Усё-ткі мы тут схаваныя, калі рушым, нас заўважаць. А йсьці мы можам толькі на поўнач па пагорках, дзе мясьціны амаль гэткія, як і тут. А калі шукаць сховішча ў зарасьцях з другога боку Шляху, дык давядзецца яго перасекчы, а за ім, вядома, сочаць. З паўночнага ж боку за пагоркамі на шмат вёрстаў – пустая голая роўнядзь.

– А ці здольныя гэныя Вершнікі бачыць? – спытаў Мэры. – Я маю на ўвазе, яны звычайна вынюхваюць, калі "вынюхваць" тут прыдатнае слова, удзень, ва ўсялякім разе. А мы ніцма леглі, калі іх пабачылі, дый цяпер баімося, што яны ўбачаць, калі мы рушым адсюль.

– Я паводзіўся на вяршыні вельмі неасьцярожна, – вымавіў Швэндал. – Бо думаў адно пра знак ад Гэндальфа. Ня трэба было лезьці туды ўтрох і заставацца там так доўга. Шмат хто мог нас пабачыць: і коні Чорных Вершнікаў, і іхнія паслугачы. Паслугачоў ім не бракуе, як вы зразумелі ў Прыгор'і. Самі Вершнікі ня здольныя бачыць наш сусьвет, сусьвет сьвятла, як бачым яго мы, але яны чуюць нашыя цені. Толькі паўднёвае сонца цалкам сьлепіць іх. А ўночы, у цемры, яны здольныя ўспрыняць і прыкмеціць нашмат болей за нас. У цемры яны найнебясьпечнейшыя. І ўвесь час, удзень і ўначы, яны чуюць цёплую кроў – з прагай і нянавісьцю. Бо сусьвет можна ўспрымаць ня толькі зрокам ці слыхам. Мы здольныя адчуць іх прысутнасьць: яна ўстурбавала нас, як толькі мы дасюль дабраліся, нават да таго, як пабачылі іх. А яны нашую прысутнасьць адчуваюць нашмат вастрэй. Таксама, – ягоны голас ператварыўся ў шэпт, – іх вабіць пярсьцёнак.

– І што ж мне рабіць? – Фрода зьбянтэжана азірнуўся навокал. – Калі рушу, убачаць і ўпалююць! Калі застануся, прыцягну іх сам да сябе!

Швэндал паклаў руку яму на плячо.

– Надзея застаецца. Ты не самотны. Дровы падрыхтаваныя тут нездарма – успрымай гэта як добрую пазнаку. Тут цяжка схавацца й нялёгка бараніцца, але полымя паслужыць нам сховішчам і абаронай. Саўрон можа прымусіць агонь прыслужваць яму, ён усё можа прымусіць, але гэтыя Вершнікі ня любяць агню й баяцца яго. Агонь – наш сябра ў глухамані.

– Магчыма, – прамармытаў Сэм, – але раскласьці тут вогнішча – усё адно што крыкнуць: "Мы тутака!"

Зьнізу, у кутку, найболей прыхаваным ад позіркаў звонку, зладзілі вогнішча, згатавалі вячэру. У прыцемках захаладнела. Хобіты адчулі нясьцерпны голад, бо ж ня елі ад раніцы, але цяпер не адважыліся згатаваць анічога, акрамя самай сьціплай ды неабходнай ежы. Бо наперадзе ляжалі запустэчаныя землі – жытло нешматлікіх птушак і зьвяроў. Ніхто не сяліўся ў гэтых негасьцінных мясьцінах. За пагоркі часам забрыдалі сьледапыты, аднак яны нешматлікі народ і надоўга нідзе не затрымліваліся. Іншыя вандроўнікі траплялiся яшчэ радзей, і зь імі было лепей не сустракацца: большай часткаю тое былі тролі з паўночных цясьнінаў Туманных гор. Нармалёвыя падарожнікі перасоўваліся толькі па Шляху, зь іх часьцей за ўсё траплялiся гномы, якія сьпяшаліся па сваіх справах. Яны ня надта любілі гутарыць зь незнаёмцамі, а дапамагаць ім – яшчэ меней.

– Не ўяўляю, дзе мы возьмем ежы, – уздыхнуў Фрода. – Апошнімі днямі мы й так эканомілі, дый гэтая вячэра – не бяседа, калі не сказаць горш. Але ўсё адно пад'елі зашмат, калі разьлічваць на два тыдні вандроўкі. А мо й болей давядзецца ісьці.

– Ежу можна здабыць і ў глухамані, – сказаў Швэндал. – Ягады, карані й некаторыя травы. Я здольны ўпаляваць сёе-тое, калі спатрэбіцца. Але зьбіраць ежу й паляваць – занятак доўгі й клопатны, нам трэба сьпяшацца. Таму падцягніце пасы дый спадзявайцеся на баляваньні пад Эльрандавым дахам!

Сутонела й пахаладнела яшчэ болей. Калі вызіралі з-за краю лагчавіны, ужо ня бачылі анічога, апроч як змрок паглынае навакольле. Неба ачысьцілася, над галавою павольна высыпалі няяркія зоркі. Фрода зь сябрамі скурчыліся ля вогнішча, захутаўшыся ва ўсе апраткі й коўдры, якія толькі мелі. А Швэндал нат не прысунуўся бліжэй да агню, па-ранейшаму сядзеў у старым плашчы й задумліва цмактаў люльку.

Калі цемра згусьцілася й полымя засталося адзіным сьвятлом у ночы, ён пачаў распавядаць паданьні даўніны, каб трохі ўзбадзёрыць ды адагнаць вусьціш. Ён шмат ведаў: пра людзей і эльфаў, пра добрыя й ліхія падзеі Даўніх дзён і забытых эпох. Хобіты дзівіліся: колькі ж гадоў Швэндалу, скуль ён ведае ўсё гэта?

– Распавядзі нам яшчэ пра Гіль-Галяда, калі ласка, – раптам папрасіў Мэры, калі Швэндал прыпыніўся, скончыўшы расповед пра гісторыю эльфскіх каралеўстваў. – Ведаеш, што далей у той старой песьні, на якую ўзгадвалі?

– Так, ведаю. І Фрода таксама ведае, бо яна тычыцца нас абодвух, і непасрэдна.

Мэры зь Піпінам павярнуліся да Фрода, які глядзеў у полымя.

– Я ведаю толькі тое, што казаў мне Гэндальф, – вымавіў Фрода павольна. – Гіль-Галяд быў апошнім вялікім каралём эльфаў Міжзем'я. *Гіль-Гаяяд* значыць *Зорнае Сьвятло* на эльфавай мове. Разам з Элендылем, Сябрам Эльфаў, ён сышоў у...

– Не! – перабіў Швэндал. – Ня трэба пра гэта зараз, калі слугі Ворага непадалёк. Калі мы праб'емся да сядзібы Эльранда, там пачуеце цалкам, ад пачатку да заканчэньня.

– Тады, можа, што іншае, – папрасіў Сэм, – можа, пра эльфаў, пра часы іхняга росквіту. Я так хацеў бы болей пачуць пра эльфаў. Цемра тут такая шчыльная, нават, падаецца, і дыхаць цяжка.

– Я распавяду вам пра Цінувіель, – сказаў Швэндал. – Няшмат, нажаль, бо гэтае паданьне доўгае, і ніхто цяпер, апроч Эльранда, ня ведае, як яго распавядалі ў даўніну. Добрая гісторыя, хоць і сумная, як і ўсе міжземныя былі. Аднак, можа, яна падыме вам настрой.

Змоўк і неўзабаве пачаў не распавядаць, а ціхенька сьпяваць:

*Па-над зялёнаю травой*
*Балігалоў квітнеў духмяны.*
*Сьвятлом празрыстым над вадой,*
*Срабрыстым ветрам над ракой*
*Пад сьпеў дуды зачараваны*
*Цінувіель па-над расой*
*Лясной таемнае паляны*
*Часінай танчыла начной.*
*Туды спусьціўся Бэрэн з гор –*
*Да гушчару зьдзічэлых дрэў,*
*Да плыні патаемных чар*
*Прывёў яго падманны змрок.*
*Ды праз галінаў шчыльны ўзор*
*Пачуў ён той чароўны сьпеў,*
*Увасабленьнем дзіўных мар.*
*Сьвятло пабачыў ён здалёк.*

*Самота, боль, ліхі праклён*
*Сьмяротных жахаў і шляхоў*
*Тады забыліся, і ён*
*Насустрач крочыў – і сустрэў*
*Адзіны поўні прамянёў*
*Падманны рух, а зорны цень*
*Імгненьнем лёгкім зьмільгацеў*
*І зьнік. І змоўк чароўны сьпеў.*

*Яшчэ самотнейшым блукаў*
*Тады паміж маўклівых дрэў,*
*І зноўку чуў, і пазнаваў*
*Той сьмех, і звон, і лёгкіх ног*
*Палётны погук, дзіўны сьпеў –*
*Недасягальны. І падзьмуў*
*Халодны вецер між лістоў.*
*І зімні змрок на сэрца лёг.*

*Бы ссохлы цень, балігалоў*
*Застыў над жухлаю травой.*
*Па зьмерзлым саване лістоў*
*Гадоў апалых крочыў ён,*
*У бляску зорных тых палёў,*
*У промнях поўні мроіў зноў*
*Пабачыць танец лёгкі той,*
*Пачуць той сьмех і срэбны звон.*

*Яна вярнулася зь вясной.*
*З чароўным сьпевам новы дзень*
*Па-над краінаю лясной*
*Паўстаў і абудзіў вясну –*
*Крыніцаў плынь і кропляў звонь.*
*А Бэрэн бы вады жывой,*
*На боль забыўшыся і цень,*
*Яе пабачыўшы, глынуў.*
*І раптам радасная трэль*
*Па-над чароўнаю ракой*
*Адкрыла ймя: "Цінувіель!"*
*"Мой салавей!" – яе назваў*
*Ён эльфскім імем. Варажбой*
*Магутнай для Цінувіель,*
*Прысудам лёсу і журбой*
*Ягоны голас прагучаў.*

*Зірнуў у вочы Бэрэн ёй,*
*І ясны бляск спрадвечных зор*
*Над чыстай веснавой вадой*
*У іх пабачыў, і тады*
*Сьмяротных год нямы дакор*
*Забыў і зь вечна маладой*
*Князёўнаю лясоў і гор*
*Пакляўся разам быць заўжды.*

*Ім шмат шляхоў прызначыў лёс*
*Праз полымя ды льдзяны жах,*
*Сталь ворагаў і злы мароз,*
*Ды браму чорную у ноч.*
*І сьмерць не разлучыла іх,*
*Вярнула на сьмяротны час*
*Сьпяваць, і жыць сярод жывых,*
*І назаўжды аднесьці прэч.*

Швэндал уздыхнуў і змоўк. Тады вымавіў:

– Такія песьні на эльфскай мове называюцца *эн-тэнаф*. Іх цяжка перакладаць на Агульную мову. Вы чулі толькі далёкае рэха. Яна пра тое, як Бэрэн, сын Барахіра, сустрэў Люціень Цінувіель. Бэрэн быў сьмяротным чалавекам, а яна – дачкой Цінгала, караля эльфаў Міжзем'я, тады яшчэ маладога сусьвету. Яна ж была найпрыгажэйшая сярод усіх дзяцей гэтага сьвету. Прыгажэйшая за зоркі над туманамі паўночнай зямлі. Твар яе зьзяў спрадвечным сьвятлом. У тыя даўнія дні Вялікі Вораг, у каго нават Саўрон быў толькі адным з паслугачоў, панаваў на Поўначы, у краіне Ангбанд, і эльфы Захаду вярнуліся ў Міжзем'е, каб сілаю адабраць у яго сваю найвялікшую каштоўнасьць, цудоўныя дыяманты Сільмарылі, якія Вялікі Вораг

прыдбаў забойствам і здрадай. Прабацькі людзей дапамагалі эльфам у той вайне. Але Вораг перамагаў. Барахір, бацька Бэрэна, быў забіты, а Бэрэн, цудам уратаваўшыся, праз горы Вусьцішы прыйшоў да патаемнага каралеўства Цінгала ў лесе Нэлдарэф. Там ён пабачыў, як Люціень танчыць на паляне ля чарадзейнай ракі Эзгальдуйн, пачуў, як яна сьпявае, і назваў яе *Цінувіель*. На Старажытнай мове эльфаў – *Салавей*. На іхнюю долю выпала шмат гора й ростаняў. Цінувіель выратавала Бэрэна з Саўронавых скляпеньняў і разам зь ім прайшла празь незьлічоныя небясьпекі й бітвы, і ўрэшце яны разам здолелі перамагчы самога Вялікага Ворага, пазбавіць моцы й зрынуць з стальца. Тады Бэрэн выразаў з жалезнай кароны Ворага адзін з трох Сільмарыляў, найзіхацейшы з дыямантаў, каб аддаць яго Цінгалу шлюбным выкупам за Цінувіель. Але шчасьце іх было нядоўгім, бо падчас паляваньня на вялікага Ваўка, вартавога брамы Ангбанду, Бэрэн атрымаў сьмяротныя раны й сканаў на руках Цінувіель. А яна абрала долю сьмяротных, каб памерці, зьнікнуць з гэтага сьвету й пайсьці наўздагон за каханым. У песьні пяецца, што яны сустрэліся па-за Апошнім морам і вярнуліся сюды, у Міжзем'е, на кароткі час, каб потым назаўсёды зьнікнуць за межамі гэтага сьвету. Так Люціень Цінувіель адзіная з эльфаў насамрэч памерла й пакінула сьвет. Эльфы любілі яе болей за ўсіх жывых і тужылі па ёй найболей. Але ў яе нашчадках кроў эльфскіх уладароў паядналася з крывёю людзей. Яшчэ ходзяць па зямлі спадкаемцы Люціень, і прадказана, што кроў яе заўсёды будзе жывая ў гэтым сьвеце. Эльранд, уладар Долага Яру, – яе нашчадак. Бо ад Бэрэна і Люціень нарадзіўся Дыяр, спадчыньнік Цінгала, а ад яго – Эльвінг Белая, зь якою пашлюбаваўся Эярэндыль, той, хто выплыў на караблі за туманы нашага сьвету ў мора нябёсаў. Яго вёў Сільмарыль, што зьзяў на ягоным чале. А ад Эярэндыля паходзяць каралі Нумэнору, ці Захаду.

Швэндал прамаўляў, і твар ягоны, асьветлены чырвоным бляскам вогнішча, падаваўся таемным і натхнёным. Вочы прамяніста зьзялі, і голас быў глыбокі й моцны. Над ім каронаю блішчэлі зорныя нябёсы. Раптам срэбнае сьвятло разьлілося за ім над вяршыняю стромы. Месяц павольна выкараскаўся з-за вяршыні, і горы пабляклі.

Швэндал скончыў, хобіты заварушыліся, пацягнуліся.

– Зірніце-тка, – сказаў Мэры. – Ужо ўзышоў месяц? Напэўна, позна.

Астатнія зірнулі ўгору – і ўбачылі на вяршыні маленькую чорную пляму, цень у месяцовым сьвятле. Напэўна, вялізны камень ці скала, асьветленая месяцам.

Сэм з Мэры ўсталі й адышлі ад вогнішча. Фрода зь Піпінам засталіся на месцы й маўчалі. Швэндал уважліва сачыў за схілам, залітым сьвятлом месяца. Усё падавалася спакойным і нерухомым, але ў Фрода чамусьці мурашкі паўзьлі па сьпіне. Хоць бы Швэндал зноў сказаў што! Калі ён прамаўляў, рабілася спакайней. Фрода прысунуўся бліжэй да вогнішча, шчыльней захінуўся ў плашч. Тут ад краю лагчыны прыбег Сэм.

– Ня ведаю, што гэта, – вымавіў ён, – але я раптам моцна перапалохаўся. Я адсюль ані за якія грошы не крануся. Чую – там нешта паўзе па схіле!

– Ты бачыў ці не? – спытаў Фрода.

– Не, спадару. Анічога ня бачыў і прыпыняцца ня стаў, каб разгледзець.

– А я бачыў, – азваўся Мэры. – Ці так падаецца, што бачыў. На захадзе, на роўнядзі па-за ценямі ад вяршыняў гор, у сьвятле месяца. Лічу, дзьве ці тры чорныя плямы, і мяркую, што паўзуць сюды, да нас.

– Бліжэй на полымя, сьпінамі да вогнішча! – выклікнуў Швэндал. – Выберыце доўгія галіны! Хутчэй!

Затаіўшы дыханьне, сядзелі моўчкі, чакаючы, павярнуўшыся сьпінамі да агню, углядаючыся ў цені, якія абкружылі іх. Усё была спакойна. Анічога ня рухалася ў ночы. Анічога ня чулася. Фрода паварушыўся, адчуваючы, што трэба неяк пабурыць гэтую невыносную цішыню. Яму нястрымна хацелася загаласіць.

– Ціха! – прашаптаў Швэндал.

І ў гэты момант Піпін усклікнуў:

– Што там?!

Ад ускрайку лагчавіны, з супрацьлеглага ад вяршыні боку, узьняліся чорныя цені адзін за адным. Іх нават ня бачылі – адчувалі. Вандроўнікі да болю ў вачох узіраліся ў цемру, а цені расьлі. Неўзабаве сумневаў не засталося: тры ці чатыры чорныя постаці стаялі на ўскрайку, пазіраючы долу на хобітаў і Швэндала. Гэткія былі яны чорныя, што падаваліся дзіркамі сярод цемры, што абкружала іх. Фрода пачуў ціхае шыпеньне – быццам гадзючы атрутны подых – і ажно скалануўся ад раптоўнага пранізьлівага холаду.

Постаці набліжаліся. Вусьціш авалодала Піпінам і Мэры, і яны кінуліся ніцма на зямлю. Сэм прыціснуўся да Фрода, пераляканага ня менш за спадарожнікаў. Але Фродаў жах перамагла неаадольная прага насунуць пярсьцёнак. Гэтае жаданьне вынішчыла ўсе думкі, не пакінула анічога. Фрода памятаў курганы, памятаў Гэндальфава папярэджаньне, але нешта змушала яго забыцца на ўсё – і ён усёй істотай прагнуў скарыцца. Не з надзеяй уратавацца ці зьдзейсьніць нешта, добрае або благое, не – ён адчуваў толькі, што павінен насунуць пярсьцёнак. І сказаць анічога ня здолеў. Ведаў, што Сэм глядзіць на яго, нібы ўсьведамляючы, што гаспадар у вялікай небясьпецы, але Фрода ня быў здольны й павярнуцца да яго. Толькі заплюшчыў вочы, спрабуючы супраціўляцца, не, немагчыма, невыносна! Павольна выцягнуў ланцужок – і насунуў пярсьцёнак на ўказальны палец левай рукі.

Усё навокал засталося, як і раней, цьмяным ды невыразным, але чорныя постаці нарысаваліся з жудаснай выяўнасьцю. Фрода бачыў іхнія абрысы пад чорнымі плашчамі. Іх было пяцёра: два засталіся на ўскрайку лагчавіны, тры набліжаліся. На белых тварах палалі пранізьлівыя, бязьлітасныя вочы, гайдаліся доўгія шэрыя саяны, на сівых валасах ляжалі срэбныя шаломы, касьцяныя рукі сьціскалі сталёвыя мечы. Позіркі праціналі Фрода наскрозь. Здані рушылі да яго. У адчаі Фрода выхапіў корд, падалося, што ён палыхнуў чырваньню, нібы распаленае вугольле. Два прывіды прыпыніліся. Трэці быў вышэйшы за астатніх. Яго валосьсе было доўгім і бліскучым, а на шаломе зьзяла карона. У адной руцэ ён трымаў доўгі меч, у другой – нож. І нож, і рука зьзялі блядным сьвятлом. Каранаваны прывід скочыў наперад і паўстаў над Фрода.

Фрода кінуўся на зямлю, пад ногі ворагу, і нечакана пачуў уласны выклік:

– О Эльберэт! Гільтоніель!

І пырнуў кордам нагу прывіда. Віскатлівы лямант разадраў начную цішыню – і Фродава плячо зайшлося ад болю, быццам працятае ільдзяным дротам. За імгненьне да непрытомнасьці Фрода заўважыў – нібы праз віхуру туману – Швэндал скочыў зь цемры з запаленымі дравінамі ў кожнай руцэ. Апошнім намаганьнем Фрода, выпусьціўшы корд, сьцягнуў з пальца пярсьцёнак і заціснуў яго ў правай далоні.

## *12. Уцёкі да броду*

Калі Фрода апрытомнеў, ён усё яшчэ адчайна сьціскаў пярсьцёнак. Але зараз ужо ляжаў ля вогнішча, вялікага, зыркага. Над Фрода нахіліліся тры хобіты.

– Што здарылася, дзе белы кароль? – спахапіўся ён.

Хобіты так узрадаваліся, пачуўшы яго, што й адказаць былі няздольныя. Нарэшце Фрода ўсё-ткі выпытаў у Сэма: астатнія бачылі толькі няясныя цьмяныя постаці. Цені наблізіліся, і Сэм раптам вынайшаў, што гаспадара побач няма. Чорны прывід кінуўся наперад, амаль на Сэма, той упаў. Чуў Фродаў выклік нібы аднекуль здалёк ці з-пад зямлі – дзіўныя, незнаёмыя словы. Болей анічога ня бачылі й ня чулі, шукалі й натыкнуліся на Фродава цела. Ён ляжаў як мёртвы, ніцма на траве, накрыўшы свой корд. Швэндал загадаў перанесьці Фрода бліжэй да вогнішча й сам зьнік. Надоўга.

Відавочна, Сэм зноў засумняваўся ў Швэндале. Калі той раптоўна вынырнуў з змроку, хобіты ўздрыгнулі, а Сэм выцягнуў корд ды паўстаў над Фрода. Але Швэндал проста апусьціўся на калені побач з Фрода й сказаў ціха:

– Сэм, я ня Чорны Вершнік і ня іхні паслугач. Я хацеў дазнацца, куды яны падзеліся, але анічога не знайшоў. Не магу ўцяміць, чаму яны зьніклі й не нападаюць больш. Анідзе побач іх прысутнасьць не адчуваецца.

Калі пачуў Фродаў расповед, занепакоіўся, пахітаў галавою й уздыхнуў. Тады загадаў Піпіну з Мэры сагрэць як мага болей вады ў іхніх маленькіх імбрыках ды ўвесь час прамываць Фродаву рану.

– Трымайце вогнішча добра распаленым, каб Фрода сагрэўся! – папярэдзіў іх, а потым устаў, падышоў да Сэма й сказаў нягучна:

– Цяпер я разумею, чаму яны зьніклі. Падаецца, іх было тут толькі пяцёра. Чаму ня ўсе – ня ведаю. Мабыць, не чакалі, што зь імі будуць біцца. На час яны адступіліся. Аднак, баюся, недалёка. Калі мы ня сыдзем адсюль, яны нападуць зноў. Яны чакаюць, бо вырашылі: справа амаль зробленая. Пярсьцёнак амаль у іх руках. Баюся, Сэм, што яны лічаць рану твайго гаспадара сьмяротнай, а таксама што гэтая рана зробіць яго падуладным ім. Ну, гэта мы шчэ пабачым!

Сэм цяжка задыхаў, намагаючыся стрымаць сьлёзы.

– Не адчайвайся, – суцешыў яго Швэндал. – Даверся цяпер мне. Твой Фрода мацнейшы, чым я лічыў. І Гэндальф казаў, што гэта так. Фрода жывы і, здаецца мне, можа працівіцца злу, якое засела ў ягонай ране, нашмат даўжэй, чым спадзяюцца ворагі. Я дапамагу Фрода вытрымаць. Вылечу, калі здолею. А пакуль добра ахоўвайце яго й чакайце мяне!

І зноў зьнік у цемры.

Фрода хацелася заснуць, хоць боль ад раны паволі мацнеў і сьмяротны холад распаўзаўся ад пляча на бок і руку. Сябры даглядалі яго: сачылі, каб добра саграваўся, прамывалі рану. Ноч цягнулася павольна й стамляльна. Ужо золак распальваўся ў нябёсах і лагчавіну заліло шэрае сьвятло, калі нарэшце вярнуўся Швэндал.

– Зірніце! – паклікаў ён і, нахіліўшыся, падняў зь зямлі чорны плашч, які раней у цемры ніхто не заўважыў. На стапу ад ніжняга краю плашч быў расьсечаны.

– Вось сюды патрапіў Фрода, – сказаў Швэндал. – Баюся, нічым больш ён ворагу не пашкодзіў. Бо корд цэлы, а лязо, якое параніць караля-прывіда, цэлым не застанецца. Імя Эльберэт – вось што падзейнічала мацней.

Нахіліўся зноў і ўсклікнуў:

– А вораг пашкодзіў значна горш! Вось чым!

Падняў зь зямлі доўгі тонкі нож, які зіхацеў халодным бляскам. Ля краю лязо было вызубранае, і самы кончык – адламаны. Зьдзіўленыя й напалоханыя, хобіты сачылі, як у сьвятле новага ранку лязо нібы плавілася, сыходзіла дымам, распушчалася ў паветры, пакуль у Швэндалавай руцэ не засталіся адныя тронкі.

– Шкада! – вымавіў Швэндал. – Гэты кляты нож і параніў Фрода. Ня шмат цяпер лекараў, здольных справіцца з ранамі ад гэтай ліхой зброі. Але я зраблю што ў маёй моцы.

Сеў на зямлю і, паклаўшы трымальна на калені, засьпяваў над ім павольную песьню на незнаёмай мове. Потым, адклаўшы яго ўбок, павярнуўся да Фрода й суцяшальна, ціхенька вымавіў нешта, чаго астатнія не расчулі. З кескі на пасе выцягнуў жменю доўгіх лістоў нейкай расьліны.

– Па гэтыя лісты, – патлумачыў, – я й хадзіў. Далёка, бо патрэбная зёлка не расьце на голым пагор'і. Давялося шукаць яе ў гушчары на поўдзень ад Шляху. Там я яе й знайшоў у цемры дзякуючы водару лісьця.

Ён разьмяў ліст у пальцах – і паплыў салодкі густы пах.

– Добра, што здолеў адшукаць. На Старажытнай мове яна называецца *ацэлас* і мае дзівосную ацаляльную моц. Людзі Захаду краю прывезьлі яе ў Міжзем'е. Цяпер яна няшмат дзе расьце, і толькі там, дзе калісьці жылі людзі ці прыпыняліся часьцяком. На Поўначы аніхто пра яе ня ведае – адно тыя, хто бадзяжыць па гэтай зямлі. Расьліна магутная, аднак супраць гэткай раны, магчыма, ня шмат дапаможа.

Кінуў лісьце ў кіпень, тады прамыў узварам Фродава плячо. Водар узбадзёрваў, і хобіты адчулі, што ён супакойвае й ясьніць думкі. Відавочна, узвар падзейнічаў і на рану, бо боль паменшаў і пачуцьцё лядзянага холаду ў баку адступіла. Але рука так і засталася зьнямелай. Фрода ня мог ані ўзьняць яе, ані паварушыць пальцамі. Лаяў сябе за глупства, за слабасьць, бо цяпер ясна разумеў, што насунуў пярсьцёнак не з сваёй волі, а паддаўшыся варожаму загаду. Мо праз гэта застанецца калекаю на ўсё жыцьцё, а магчыма, і вандраваць далей ня здолее. Нават і ўстаць няма як? І што рабіць цяпер?

Астатнія гэта й абмяркоўвалі. Усе згаджаліся, што з Навятранай стромы трэба ўцякаць як мага хутчэй.

– Цяпер мне ясна, – казаў Швэндал, – ворагі сачылі за стромай ужо колькі дзён. Калі Гэндальф і дабраўся сюды, яго, напэўна, прымусілі адступіць. Наўрад ці ён вернецца. У любым выпадку, дзе заўгодна будзе бясьпечней, чым тут, бо яны абавязкова нападуць зноў з надыходам ночы.

Як толькі сонца выйшла з-за гор, хутка пасьнедалі й спакаваліся. Фрода ісьці ня мог, таму пакладу падзялілі на чатырох, а Фрода пасадзілі на поні. За апошнія колькі дзён жывёліна надзіва паправілася: поўсьць ільсьнілася, нават пагусьцела, і поні, відавочна, абвыкся з новымі гаспадарамі, асабліва з Сэмам. Напэўна, гэткім было жыцьцё ў Біла Бур'яка, што й вандроўка па глухамані сталася лепей.

Накіраваліся на поўдзень. Вырашылі перасекчы Шлях, бо там прасьціраўся найбліжэйшы лес. А лес даваў дровы – магчымасьць распаліць вогнішча, каб, як раіў Швэндал, сграваць Фрода й абараняцца агнём. Таксама можна было й скараціць, бо на ўсход ад Навятранай стромы Шлях зноў рабіў пятлю, забіраючы далёка на поўнач.

Павольна й асьцярожна прабіраліся па паўднёва-заходнім схіле стромы й неўзабаве дабраліся да Шляху. Анідзе аніводнай прыкметы Вершнікаў. Аднак калі перабягалі Шлях, пачулі здалёк два погукі: халодны голас правыў і другі адказаў. Калоцячыся, хобіты кінуліся наперад, да зарасьцяў. На поўдзень мясцовасьць паціху паніжалася, там і сям шчыльнымі купінамі расьлі сярод кустоў крывыя нізкія дрэвы.

Паміж выспамі зарасьцяў ляжалі шырокія палосы пустэчаў, зарослых рэдкай грубай травою, ужо зьвялай, і лісьце на дрэвах жухла й ападала. Глухамань і аніякіх сьцежак. Бязрадасна й цяжка ісьці. Рушылі павольна, амаль не размаўляючы. Фрода з горыччу паглядаў, як крочаць сябры, павесіўшы галовы, схіліўшыся пад хатулямі. Нават Швэндал падаваўся стомленым і сумным.

Яшчэ напрыканцы першага дня Фродава плячо разбалелася зноў, але ён доўга трымаўся й не выказваў болю. Чатыры дні не мянялася амаль нічога навокал, толькі Наветраная строма за сьпінамі ўсё меншала ды горы наперадзе ўзьнімаліся ўсё пагрозьлівей. Але аніякіх прыкметаў ворагаў. Пасьля крыкаў падчас пераходу праз Шлях тыя аніяк сябе не выяўлялі, і невядома было, перасьледуюць яны ці не, а мо сустракаюць наперадзе. Начэй баяліся, трымалі варту па двое, чакаючы ў любы момант чорных ценяў, што плывуць у шэрым змроку, у слабым сьвятле захіленага аблокамі месяца. Але нічога не здаралася, адно шаргацела аб траву сухое лісьце. Ані разу болей не адчулі прысутнасьці ліха паблізу, нутраны жах, які перажылі тады ўночы на Наветранай перад нападам. Наўрад Вершнікі так проста зноўку зьбіліся зь сьледу. Магчыма, зладзілі засаду, абраўшы прыдатнае месца?

Напрыканцы пятага дня мясьціны паціху пачалі зноў вышэць, вандроўнікі падымаліся на другі бок шырокай спадзістай даліны, у якую спусьціліся з Наветранай стромы. Швэндал ізноў павярнуў на паўночны ўсход, і на шосты дзень, забраўшыся па доўгім схіле на высокі ўскраек даліны, сябры пабачылі здалёк купку лясістых пагоркаў. Далёка пад імі Шлях агінаў узножжа, а праваруч блішчэла цьмяным срэбрам у вечаровым сьвятле рака. За ёю, напаўсхаваная туманом, угадвалася камяністая даліна яшчэ адной ракі.

– Баюся, нам давядзецца вярнуцца на Шлях, – сказаў Швэндал. – Мы дабраліся да ракі Шэрані, якую эльфы называюць Мітэйфель. Яна выцякае з Тролевых урочышчаў на поўнач ад Долага Яру й уліваецца на поўдні адсюль у Грым'ю. Тады некаторыя клічуць яе Сівянкаю. Бліжэй да мора яна вельмі шырокая. Перабрацца церазь яе можна толькі ля яе вытокаў у Тролевых урочышчах або па Апошнім мосьце на Шляху.

– А што за рака там у далечыні? – спытаў Мэры.

– Гэта Грым'я, Бруйнен, які цячэ з Долага Яру. Па Шляху краем пагор'я ад Апошняга мосту да Бруйненскага броду шмат вёрстаў. Але я пакуль і ня думаў, як пераправіцца цераз яе. Зараз трэба турбавацца пра Шэрань. Неверагодна пашанцуе, калі ніхто не падпільнуе нас ля Апошняга мосту.

Наступнай раніцою, зь першым сьвятлом зноў падступіліся да Шляху. Сэм і Швэндал пайшлі наперад разьведаць, але не заўважылі аніякіх прыкметаў Чорных Вершнікаў ці іншых вандроўнікаў. Дажджыла. Тут, ля ўзножжаў, дождж, напэўна, ішоў і раней. Швэндал палічыў, што два дні таму, і вадой пазмывала ўсе сьляды. З таго часу, падавалася, аніякі вершнік тут не праяжджаў.

Па Шляху ледзь ня беглі й празь вярсту ці дзьве пабачылі наперадзе пад кароткім крутым схілам Апошні мост. У жаху чакалі чорных зданяў, але нікога не было. Швэндал загадаў схавацца ў кустах ля Шляху, а сам пайшоў.

Неўзабаве прыбег назад. Сказаў:

– Варожых прыкметаў няма, і я гэтага зусім не разумею. Але ж знайшоў надта дзіўную рэч.

Раскрыў далонь і паказаў хобітам сьветла-зялёны празрысты камень.

– Ляжаў на сярэдзіне мосту, – патлумачыў ён. – Гэта бэрыл, эльфскі камень. Ці яго пакінулі тут адмыслова, ці згубілі – сказаць цяжка, але мяне знаходка

абнадзейвае. Для мяне гэта сьведчаньне, што мы можам прайсьці бясьпечна. Аднак калі потым аніякай ясьнейшай пазнакі ня знойдзем, лепей бяды не наклікаць, на Шляху не заставацца.

Рушылі зноў. Мост перайшлі спакойна. Анічога трывожнага не пачулі, толькі вада бурліла за слупамі трох вялікіх арак. Празь вярсту за мостам зьвярнулі ў вузкую цясьніну, што вяла на поўнач праз узвышша леваруч ад Шляху. Неўзабаве Шлях зусім зьнік, пятляючы сярод змрочнага лесу, якім зарасьлі падэшвы пагор'я.

Хобіты радаваліся, што пакінулі за сьпінамі голыя пустэчы Наветранай стромы, а таксама небясьпечны Шлях, але й новыя мясьціны падаваліся ня надта прыемнымі, нават нядобрымі й пагрозьлівымі. Пагоркі навокал уздымаліся ўсё вышэй. Там і тут на вяршынях і грабянях змрочна шчэрыліся рэшткі старых муроў, руіны вежаў. Фрода, не заняты хадою, разглядаў навакольле й разважаў. Узгадваў Більбаў расповед пра вандроўку ў гэтых краёх і пагрозьлівыя вежы на поўнач ад Шляху паблізу тролевага лесу, дзе адбылася першая сапраўдная Більбава прыгода. Паводле Фродавых меркаваньняў, дзесьці непадалёк, і ён падумаў, што, магчыма, патрапіць на тое самае месца.

– Хто тут жыве? – спытаў ён. – Хто пабудаваў вежы тут, у краіне троляў?

– Ня тролі, – адказаў Швэндал. – Тролі не будуюць. Цяпер ніхто тут не жыве. Калісьці жылі людзі, але цяпер нікога не засталося. Паданьні кажуць, што на іх лёг цень Ангмару й яны аддаліся ліху. А потым загінулі ў вайне, якая загубіла Паўночнае каралеўства. Было тое так даўна, што нават горы забыліся на іх, толькі цень даўняга зла яшчэ застаўся.

– Калі тут ужо даўно пустэча й забыліся нават горы, адкуль Швэндал ведае ўсе гэтыя паданьні? – перапытаў Перыгрын. – Зьвяры з птушкамі пра такое не распавядуць.

– Нашчадкі Элендыля не забываюцца мінулага. І нашмат болей за тое, што магу распавесьці я, памятаюць у Долым Яры.

– Ты часта бываў у Долым Яры? – спытаў Фрода.

– Часта. Калісьці я жыў там і вяртаюся туды, калі магу. Там засталося маё сэрца, але лёс не дае мне жыць у супакоі нават у чароўным доме Эльранда.

Горы ўсё шчыльней змыкаліся вакол іх. Недзе за сьпінамі засталіся Шлях і Бруйнен. Вандроўнікі патрапілі ў глыбокую доўгую даліну з крутымі схіламі, змрочную й зацішную. З абрываў зьвісалі перакручаныя старыя карані, схілы шчыльна зарасьлі сасьняком.

Хобіты надта стаміліся. Перасоўваліся павольна, бо сьцежак тут не было, прабіраліся паўз каменьне ды паваленыя дрэвы. Караскацца па схілах не хацелі, шкадуючы Фрода, дый вылезьці з даліны было цяжка. На другі дзень задажджыла. Заходні вецер прынёс на чорныя галовы пагоркаў вільгаць далёкага мора, дробную, бесьперапынную, нудотную імжу. Да ночы ўсе прамоклі да ніткі, і начлег быў нярадасны, бо сухіх дроваў не знайшлі. Наранiцу ўтыкнуліся ў яшчэ вышэйшыя горы наперадзе й прымушаныя былі павярнуць на поўнач, адхіляючыся ад патрэбнага напрамку. Швэндал непакоіўся: ужо дзесяць дзён, як мінулі Наветраную строму, ежы засталіся драбніцы, а ісьці яшчэ далёка. І дождж не спыняўся.

Гэтай ноччу знайшлі прытулак на каменнай пляцоўцы ля адхону, у якім была неглыбокая пячора, проста выбоіна ў скале. Фрода непакоіўся й ніяк ня мог заснуць. Ад холаду й вільгаці рана разбалелася як ніколі, ныла й катавала, і сьмяротны холад распаўзаўся па целе. Фрода круціўся, услухоўваўся ў патаёмныя, здрадлівыя начныя

гукі: высьвіст ветру ў шчылінах скалы, плясканьне кропляў, пахрустваньне, раптоўны грукат каменя, які пакаціўся долу. Адчуў, што чорныя цені наблізіліся, падступілі, каб паглынуць, і ўскочыў, азіраючыся, але ўбачыў толькі сьпіну Швэндала, які сядзеў, сагнуўшыся, цмактаў люльку й сачыў за наваакольлем. Тады лёг зноў і здолеў заснуць. І ў неспакойным сьне прытрызьніў, як ідзе па траве свайго шырскага саду, бляднага й невыразнага. Выразна й ясна бачыліся толькі высокія чорныя цені, якія заглядвалі цераз агароджу.

Калі Фрода прачнуўся зранку, дождж спыніўся. Аблокі шчыльна клубіліся над галавою, але ў прасьветах зіхацелі лапікі блакіту. Вецер мяняўся. Зь месца крануліся запозна, бо адразу пасьля сьняданку, халоднага й непрыемнага, Швэндал пайшоў некуды адзін, загадаўшы не вылазіць зь пячоры, пакуль ня вернецца. Ён зьбіраўся, калі здолее, залезьці ўгору й агледзець наваакольле.

Навіны не суцешылі:

– Мы надта ўзялі на поўнач. Трэба тэрмінова збочыць на поўдзень, бо калі пойдзем, як ішлі, апынемся ў Тролевым урочышчы далёка на поўнач ад Долага Яру. Там сапраўды сустракаюцца тролі, дый мясьціны мне невядомыя. Магчыма й там адшукаць шлях і патрапіць у Долы Яр з поўначы, але гэта вымагае надта шмат часу, і ежы нам ня хопіць. Выйсьце адно – мусім гэтак або інакш дабірацца да Бруйненскага броду.

Рэшту дня караскаліся па скалах. Пашанцавала знайсьці праход паміж стромамі, так выйшлі ў даліну, якая вяла на паўднёвы ўсход, якраз у патрэбным напрамку. Але надвячоркам на шляху зноў паўстаў хрыбет, вызубраны й круты, і голыя скалы на ягонай вяршыні, нібы ступленая піла, угрызаліся ў змрочныя нябёсы. Трэба было або ўзьбірацца на яго або паварочваць назад.

Вырашылі лезьці. Тое сталася надта цяжкім. Фрода быў вымушаны пакінуць поні й караскацца пехатою. Поні ледзь усьцягвалі, а часьцяком і самі не маглі пралезьці, бо ж былі загружаныя пакладаю. Ужо сутонела, калі нарэшце, выматаныя ўшчэнт, дабраліся да верху – вузкага перавалу паміж крутымі скаламі. Наперадзе зноў чакаў круты схіл. Фрода ўпаў ніцма, дрыжучы. Левая рука зусім аднялася, а ўвесь левы бок і плячо нібы сьціснула ільдзянымі кіпцюрамі. Дрэвы й камяні навокал падаваліся цьмянымі ценямі.

– Далей сёньня немагчыма, – сказаў Мэры Швэндалу. – Баюся, сёньняшні шпацыр – занадта для Фрода. У мяне сэрца не на месцы, калі думаю пра яго. Што нам рабіць? У Долым Яры яго здолеюць выратаваць, так? Вядома, калі мы дабярэмся туды.

– Пабачым, – уздыхнуў Швэндал. – Тут, у глухамані, я зрабіў усё, што мог. З-за ягонай раны я й прысьпешваю. Але сёньня, я згодны, далей ісьці немагчыма.

– А што ж такое з маім гаспадаром? – ціха спытаў Сэм, паглядаючы на Швэндала з запытам і надзеяй. – Ягоная рана такая маленькая, ужо й закрылася цалкам. І нічога не відаць, толькі маленечкая беленькая плямка на плячы.

– Фрода кранула зброя Ворага, – адказаў Швэндал. – Напэўна, атручаная ці аздобленая якім ліхам. Каб выгнаць яго, майго ўменьня не стае. Не адчайвайся, Сэме. У Долым Яры нам дапамогуць!

Ноч на перавале была халодная. Знайшлі неглыбокую яміну – напэўна, калісьці тут здабывалі камень на будаўніцтва. Пад крывымі каранямі старой сасны, якія зьвешваліся ў яму, распалілі невялікае вогнішча. Паселі, згуртаваўшыся шчыльней. На перавале сьвісьцеў вецер, і ўнізе, пад схілам, скрыгаталі й стагналі галіны дрэваў. Фрода ляжаў у паўсьне, трызьніў, як трапечуць над галавою неабсяжныя чорныя

крылы, яны нясуць бязьлітасных перасьледнікаў – наўздагон за ім, вышукваюць па далінах і пагорках.

А раніца зьзяла й праменіла, паветра пасьвяжэла, і яснае й празрыстае сонца грала на прамытых дажджом нябёсах. Настрой вандроўнікаў палепшаў, хоць і хацелася сонца гарачэйшага, прагрэць скачанелыя рукі й ногі. Зь першым сьвятлом Швэндал паклікаў Мэры й пайшоў агледзець мясьціны на ўсход ад перавалу. Сонца паднялося ўжо высока й зырка зіхацела, калі выведнікі вярнуліся – і з добрымі навінамі. Цяпер рухаліся больш-менш у патрэбным напрамку. Калі пойдуць уздоўж хрыбта, пабачаць леваруч Туманныя горы, а наперадзе Швэндал прыкмеціў Грым'ю. Шлях, хоць і нябачны адсюль, праходзіў непадалёк ад Грым'і, і да яго было зусім ня шмат.

– Трэба вяртацца на Шлях, – сказаў Швэндал. – Праз гэтае пагор'е мы дарогі ня знойдзем. Чым ні пагражаў бы нам Шлях, выйсьці да броду зможам толькі па ім.

Падсілкаваўшыся, рушылі зноў. Спускаліся павольна, але паўднёвы схіл быў не такі стромы й таму значна лягчэйшы, чым чакалі. Неўзабаве Фрода зноў ехаў верхам. Былы Бур'якоў здыхлік выявіў незвычайную здольнасьць вышукваць найспакайнейшы шлях, каб вершніка трэсла як мага меней. Настрой ва ўсіх прыўзьняўся, нават Фрода пачуваўся лепей у ранішнім сьвятле. Але часам яму падавалася, нібы вочы засьціць нейкі туман, нават і вочы цёр даланёй.

Піпін ішоў крыху наперадзе. Раптам павярнуўся й выгукнуў:

– Тут сьцежка!

Пасьпяшаліся да яго: насамрэч, тут пачыналася сьцяга, якая, віючыся, вяла наперад празь лес, а ззаду гублялася недзе на схілах. Месцамі амаль непрыкметная, яна задзірванела, на яе пападалі камяні й ссохлыя дрэвы, але было відаць, што некалі ёй часта карысталіся. І пратаптаў сьцежку нехта неслабы: тут і там павыварочваў ці пасек старыя дрэвы, пакрышыў ці адцягнуў прэч вялікія валуны.

Вандроўнікі пашыбавалі па сьцежцы, бо яна падавалася найлягчэйшым спускам з пагор'я, але асьцярожна, і яшчэ асьцеражней – калі дарога вывела ў змрочны лес і зрабілася шырэйшай ды раўнейшай. Зьнянацку пакінуўшы гушчар ялінаў, яна павяла ўніз па адкрытым схіле й рэзка зьвярнула налева, за скалісты атовілак. За паваротам сьцежка пайшла роўна пад невысокім адхонам, заценёным і прыхаваным дрэвамі, а ў адхоне, рыхтык у сьцяне, падарожнікі ўбачылі праход і дзьверы, што, перакасіўшыся, віселі на адной вялізнай пятлі.

Тут спыніліся. За дзьвярыма, безумоўна, была пячора, але скрозь цёмную шчыліну немагчыма было нічога разгледзець. Швэндал, Сэм і Мэры, піхаючы што моцы, здолелі прачыніць дзьверы, і тады Швэндал з Мэры праціснуліся ў змрок. Далёка не адыходзілі, бо падлогу загрувасьцілі старыя косткі, і анічога болей ля ўваходу й не было відаць, акрамя вялізных пустых гарлачоў ды пабітых гаршкоў.

– Дакладна тролевая нара, найтролевейшая з тролевых! – сказаў Піпін. – Гэй, вы, двое! Вылазьце хутчэй ды ногі ў рукі! Цяпер вядома, хто пратаптаў тую сьцежку, і лепей нам без адкладу пакінуць яе!

– Мяркую, няма патрэбы сьпяшацца, – азваўся Швэндал, пакінуўшы пячору. – Так, тролевая нара, але даўно закінутая. Няма чаго баяцца. Вядома, асьцярожнасьць таксама траціць ня трэба. Пабачым.

Ад дзьвярэй сьцежка зноў збочыла направа, правёўшы па невялікай роўнядзі, пайшла ўніз па густа залесеным схіле. Піпін хацеў паказаць Швэндалу, што зусім і не напалоханы цяпер, таму шыбаваў наперадзе разам з Мэры, Сэм і Швэндал крочылі побач з Фродавым поні, паабапал, бо сьцяга зрабілася такой шырокай, што пяць-

шэсьць хобітаў маглі б ісьці поруч. Рушылі нядоўга, бо неўзабаве прымчаліся Піпін з Мэры, пераляканыя.

– Тролі! Тролі! – выдыхнуў Піпін. – Там, на паляне, за дрэвамі! Мы іх убачылі з-за дрэваў! Яны вялізазныя!

– Ну, тады пойдзем і зірнем на іх, – спакойна сказаў Швэндал і падняў зь зямлі кіёк.

Фрода маўчаў, а Сэм выглядаў напалоханым.

Набліжаўся поўдзень, і высокае сонца праз паўаголеныя кароны дрэваў распаласавала паляну прамяністым сьвятлом. Вандроўнікі сталі ля краю й асьцярожна вызірнулі, стаіўшы дыханьне. Так, тролі. Тры веліканскія тролі. Адзін нахіліўся, два другія вырачыліся на яго.

А Швэндал бесклопатна крочыў наперад. Гукнуў:

– Гэй, старая камяніска, прачніся! – дый пераламаў кій аб азадак нахіленага троля!

І анічога ня здарылася! Хобіты ажно вохнулі ў подзіве, і тады Фрода засьмяяўся.

– Ну вось, – папракнуў ён, – забыліся на сваю ж сямейную гісторыю! Гэта ж тыя самыя тролі, якіх абхітрыў Гэндальф, прымусіўшы спрачацца, як лепш згатаваць трынаццаць гномаў ды аднаго хобіта.

– Я ня мог сабе ўявіць, што гэта менавіта тут! – апраўдваўся Піпін.

Ён добра ведаў гісторыю, Більба й Фрода часьцяком яе згадвалі. Але, папраўдзе кажучы, ён ніколі поўнасьцю ня верыў. Нават і цяпер пазіраў на каменных стодаў падазрона, мяркуючы, ці могуць нейкія патаемныя чары ажывіць іх зноўку.

– Ты забыўся ня толькі на сямейную гісторыю, але таксама й на тролевыя звычкі, – сказаў Швэндал. – Поўдзень, у небе зыркае сонца, і ты нясесься да мяне й палохаеш байкамі пра троляў на паляне! Так ці інакш, ты мог бы й прыкмеціць старое птушынае гняздо ў аднаго зь іх за вухам. Даволі незвычайная аздоба для жывога троля.

Усе зарагаталі. Нават Фрода ажыў, бо гэтак прыемна было згадаць пра першую ўдалую Більбаву прыгоду. І сонца прыгравала, пяшчоціла, і туман перад вачыма крыху парадзеў. Вандроўнікі троху адпачылі на паляне й паабедалі проста ў цяньку ад вялікіх тролевых ног.

– Вось бы хто-небудзь пацешыў нас песьняю, пакуль сонца яшчэ высока, – прапанаваў Мэры пасьля пад'едку. – Ужо колькі дзён нічога не сьпявалі й не распавядалі.

– З Наветранай стромы, – сказаў Фрода.

Усе занепакоена зірнулі на яго.

– За мяне не турбуйцеся. Мне цяпер нашмат лепей, але наўрад ці я здолею сьпяваць. Мо Сэм прыгадае што-колечы забаўнае.

– Давай, Сэме! – падтрымаў Мэры. – Упэўнены, у тваёй галаве нашмат болей, чым ты нам выдаеш.

– Ну, ня ведаю, – зьбянтэжыўся Сэм. – Ёсьць нешта, але ці прыдатнае яно тут... Ня тое каб паэзія, калі вы мяне разумееце, так, глупства. Але гэтыя статуёвіны нагадалі мне адзін вершык.

Узьняўся, выпрастаўся, заклаў рукі за сьпіну – рыхтык у школе перад настаўнікам – і засьпяваў на стары, усім вядомы матыў:

*Сядзеў тралішча ля камянішча,*
*Трасучы, грызучы старое касьцішча.*
*За шмат гадоў дагрыз да краёў,*
*Бо мясца цяжка здабыць!*
*Злавіць! Схапіць!*
*У горнай пячоры яго лагавішча,*
*Там мясца цяжка здабыць!*

*У вялізных ботах, па вушы ў турботах*
*Зьявіўся Том перамовіць з тралём*
*І кліча: "Чаго табе дзядзькі майго*
*Нябожлыя пяткі смактаць?*
*Глыдаць! Смакаваць!*
*Бо дзядзькавы пяткі ў дзядзькавых ботах*
*Павінны ў магіле ляжаць!"*

*"Прыдбаў, – кажа троль, – я дзядзькавы косткі*
*На цьвінтары заглушэлай вёскі,*
*Дзе дзядзька мярцьвей за сто елупней*
*Валяўся зусім без карысьці,*
*Каб згнісьці!*
*Шкада яму косткі тролю пагрызьці?*
*Мёртвым яны без карысьці!"*

*У адказ яму Том: "Хоць трупцом, хоць жыўцом*
*Табе, кастажэр, аніякім канцом,*
*Родны шкілет ня дам на абед!*
*Шыш табе! Косткі хутчэй мне вяртай!*
*Зладзюга, давай!*
*Дзядзькавы косьці ў ягонай мосьці!*
*Сюды іх, паскуда, давай!"*

*Тут троль усьміхнуўся ды аблізнуўся,*
*"Добра, – кажа, – ты мне падвярнуўся.*
*Костак шкадуеш ды верадуеш?*
*А сам ты, я бачу, смачнейшы,*
*Сьвяжэйшы, тлусьцейшы!*
*Я грызьці старыя косткі сухія*
*Стаміўся, ты мне смачнейшы!"*

*Так троль палічыў, што ежу здабыў.*
*Хоп! Ды паветра адно ўхапіў!*
*Скочыў Том за валуном*
*Ды ў зад тролю ботам – трах!*
*Бах паскудніку! Гах!*
*Думаў, што троля ён правучыў:*
*У задніцу ботам – трах!*

*Але ж сядзеньне й косткагрызеньне*
*Зрабіла зад цьвярдзей за каменьне.*
*Каменьне ж пхаць – сабе папсаваць.*
*Высьпятку троль ня чуе!*
*І не лямантуе!*
*Высьпятку тога – зусім не малога –*
*Толькі Томава пятка чуе!*

*Прычапаў дахаты Том кульгаваты,*
*На пяткі пабітыя прыкандыбаты.*
*А троль рагоча, жарэ, што хоча:*
*Пяткі ды іншыя косткі!*
*Парэшткі – пачостка!*
*Усё цьвярдзей зад яго кляты,*
*Усё танчэй дзядзькавы пяты.*

– Ну, усім нам навука! – засьмяяўся Мэры. – Правільна Швэндал яго кіем лупцануў, а не рукою!

– Адкуль ты гэткае выкапаў, Сэме? – спытаў Піпін. – Я раней аніколі ня чуў.

Сэм прамармытаў нешта няўцямнае.

– З сваёй галавы й выкапаў, вядома, – здагадаўся Фрода. – Чым больш мы вандруем, тым болей я даведваюся пра Сэма Гэйхада. Напачатку ён быў канспіратарам ды змоўнікам, цяперака ён паэта. Таго й глядзі, урэшце зробіцца й чараўніком ці ваяром!

– Спадзяюся, не, – спалохаўся Сэм. – Ня маю аніякага жаданьня ні адным рабіцца, ні другім.

Пасьля полудня рушылі далей праз лес, напэўна, гэтаксама, як гномы з Гэндальфам ды Більба шмат гадоў таму. Праз колькі вёрстаў патрапілі да высокага схілу над Шляхам. Дарога ўжо аддалілася ад вузкай даліны Грым'і й цяпер вілася ўздоўж пагор'я, упрытык да схілаў, праз лясы й зарасьці верасу да бродаў і Туманных гор. Непадалёк ад спуску на Шлях Швэндал паказаў камень сярод травы. На тым камені відаць былі груба высечаныя, а цяпер ужо амаль выветраныя гномскія руны й сакрэтныя пазнакі.

– Тут! – сказаў Мэры. – Напэўна, гэта й ёсьць той камень, які прыкмячаў схованку з трольскім золатам. Гэй, Фрода, ці шмат яшчэ засталося ад Більбавай долі?

Фрода зірнуў на камень і падумаў: як добра было б, каб Більба не прывозіў дахаты нічога больш небясьпечнага за золата троляў. Нічога, ад чаго было б цяжэй пазбавіцца.

– Анічога не засталося, – вымавіў уголас. – Більба казаў мне, што ня лічыць гэтае золата сваім, бо яно здабытае ад злодзеяў. Таму ўсё параздаваў.

Шлях струменіўся перад імі, скрэсьлены доўгімі надвячоркавымі ценямі, пусты й спакойны. Анічога на ім ня рухалася. Іншага выйсьця няма – трэба выходзіць на гасьцінец. І выйшлі: спусьціліся на дарогу, зьвярнуўшы леваруч, і пашыбавалі як мага хутчэй. Неўзабаве адгор'е схавала апошнія промні сонца, якое борзда кацілася да далягляду. У твары падзьмуў халодны вецер з гор.

Ужо прыглядаліся, дзе збочыць і спыніцца на ноч, калі пачулі гук, які зноў абудзіў усе мінулыя страхі: мерны пошчак капытоў за сьпінамі. Азірнуліся, але Шлях шмат пятляў, і пабачыць нічога ня здолелі. Кінуліся хавацца як глыбей у шчыльны калючы дурнічнік на схіле, дабраліся да невялікага куста ляшчыны. Залезьлі, асьцярожна вызірнулі – Шлях застаўся за тры дзясяткі ступнёў пад імі, шэры, ледзь бачны ў прыцемках. Пошчак наблізіўся. Імклівы, лёгкі: "Цо-па-топ, цо-па-топ, цоп-цоп". І слаба, нібы вецер адганяў прэч, даляцеў звон – быццам ад мноства маленькіх званочкаў.

– Ня надта гэта падобна на коней Чорных Вершнікаў, – зазначыў Фрода, прыслухоўваючыся.

Астатнія хобіты ахвотна пагадзіліся, але па-ранейшаму сачылі за Шляхам насьцярожана. Бо жах пагоні ўжо ўеўся ў сьвядомасьць, і любы гук за сьпінай падаваўся злавесным і пагрозьлівым. Швэндал нахіліўся наперад, да зямлі, прыклаўшы руку да вуха, ён выглядаў узрадаваным.

Зусім сьцямнела. Зашапацела пад ветрам лісьце на кустах. Званочкі пагучнелі, і ўжо выдатна адбівалася лёгкае: "Цо-па-топ, цо-па-топ". І раптам зьявіўся белы конь, ідучы хуткай рысьсю, зіхоткі ў прыцемку. Збруя ўзблісквала й адсьвечвала, нібы абсаджаная жывымі лапікамі сьвятла. Плашч вершніка лунаў за сьпінай, каптур быў адкінуты, і валасы залатым струменем ляцелі па ветры. Фрода падалося, што праз постаць вершніка, праз адзеньне, як праз танюткую шаўковую завесу, ліецца белае празрыстае сьвятло.

Швэндал з крыкам выскачыў з сховішча й кінуўся да Шляху напрамкі праз кусты, але яшчэ да таго, як ён варухнуўся ці падаў голас, вершнік крануў лейцы й спыніўся, узіраючыся ў зарасьці, дзе сядзелі вандроўнікі. Калі пабачыў Швэндала, сьпешыўся й пабег насустрач, выгукваючы:

– Ай нэ вэдуй Дунадан! Мэ гованнэн!

Ягоныя словы й голас не пакінулі сумневаў: гэта эльф. Аніхто ва ўсім вялікім сусьвеце ня меў гэткага прыемнага голасу. Але ў ягоных словах чулася трывога й заклапочанасьць. Відаць, эльф пасьпешліва тлумачыў Швэндалу нешта істотнае.

Швэндал махнуў хобітам – спускайцеся! Тыя вылезьлі з кустоў ды пабеглі да Шляху.

– Гэта Гларфіндэль зь сядзібы Эльранда, – патлумачыў Швэндал.

– Вітаньне! Добра, што мы нарэшце сустрэліся! – павітаў эльф Фрода. – Мяне паслалі з Долага Яру, каб адшукаць вас. Бо баяліся, што вы напаткалі па дарозе бяду.

– Значыць, Гэндальф дабраўся да Долага Яру? – радасна ўскрыкнуў Фрода.

– Не. Яго яшчэ не было, калі я выправіўся дзевяць дзён таму, – адказаў Гларфіндэль. – Эльранд атрымаў нядобрыя весткі. Мае сваякі, якія вандравалі па вашых землях за Барандуйнам, убачылі небясьпеку й даслалі нам зьвесткі як мага хутчэй. Яны паведамілі, што Дзевяцёра зноў у заходніх краёх, што вы блукаеце бездапаможныя, бо Гэндальф яшчэ не вярнуўся. Мала хто нават у Долым Яры здольны адкрыта супрацьстаяць Дзевяцярым. Аднак тых, хто здольны, Эльранд паслаў на поўдзень, захад і поўнач. Мы палічылі, што вы маглі зьвярнуць далёка ад Шляху, каб пазбавіцца пагоні й згубіцца ў глухамані. Мне выпала сачыць за Шляхам. Сем дзён таму я пакінуў сваю пазнаку на мосьце праз Мітэйфель. Мост пільнавалі тры Саўронавы паслугачы, але яны адступілі перада мною, і я рушыў на захад, перасьледуючы іх. Напаткаў яшчэ двух, але яны збочылі на поўдзень. Адгэтуль я вышукваў ваш сьлед. Адшукаў два дні таму й прасачыў за Апошні мост, а сёньня знайшоў, дзе вы зноў спусьціліся з гор. Аднак трэба рушыць! Для астатніх навінаў

няма часу. Вы ўжо тут, і таму трэба рызыкаваць. Пойдзем па Шляху. Пяцёра Вершнікаў за намі. Калі яны натрапяць на ваш сьлед на Шляху, прымчацца, бы вецер. Але пяцёра – гэта ня ўсе. Дзе астатнія чатыры, я ня ведаю. Мажліва, яны пільнуюць ад нас брод.

Пакуль Гларфіндэль прамаўляў, вечаровыя цені згусьціліся. Фрода адчуў, як невыносная стома авалодвае ім. Калі сьцямнела, туман перад ягонымі вачыма пазмрачнеў, і паміж ім ды тварамі сяброў лёг чорны цень. Боль працінаў яго, боль і холад. Ён пахіснуўся, ухапіўся за Сэмаву руку.

– Мой гаспадар хворы й паранены, – сказаў Сэм раззлавана. – Ён ня можа ехаць у цемры! Яму трэба адпачыць.

Гларфіндэль падхапіў аслаблага Фрода і, падтрымліваючы яго, зірнуў яму ў твар, заклапочана й задумліва. Швэндал сьцісла распавёў пра начны напад на Наветранай строме, пра чарадзейнае лязо. Выцягнуў цаўё, якое прыхапіў з сабою, даў эльфу. Гларфіндэль уздрыгнуў, крануўшы яго, але разгледзеў уважліва.

– Вусьцішныя рэчы напісаныя тут, – сказаў ён, – хоць, напэўна, твае вочы іх бачыць ня здольныя. Захоўвай гэта, Арагорн, пакуль не дабярэмся да Эльрандавай сядзібы. Аднак асьцярожней – кранай як мага меней! На жаль, раны ад такой зброі я лечыць ня ўмею. Зраблю, што здолею. Яшчэ адна нагода, каб рушыць зараз жа й без адпачынку.

Ён ціхенька крануў ранку на Фродавым плячы пальцамі й пазмрачнеў тварам, нібы атрымаўшы кепскія весткі. А Фрода адчуў, што холад у ягоным баку й плячы адступіў, цяпло пралілося ад пляча па руцэ й боль аслабеў. Навокал пасьвятлела, нібы разышліся аблокі. Твары сяброў сталі відаць ясьней, дадалося моцы й крыху надзеі.

– Паскачаш на маім кані, – прапанаваў Гларфіндэль, – я падцягну стрэмя да самай папоны, каб ты добра трымаўся. І ня бойся – мой конь ня дасьць зваліцца нікому, каго я загадаю везьці. Хада ягоная лёгкая й мяккая, і калі побач апынецца небясьпека, зь ягоным спрытам не зраўнуюцца нават чорныя коні ворагаў.

– Не, я не паеду, – адмовіўся Фрода. – Мяне, значыць, конь вынесе да Долага Яру ці йшчэ куды, а сябры застануцца ў небясьпецы!

– Сумняюся, – усьміхнуўся Гларфіндэль, – што твае сябры застануцца ў небясьпецы, калі ты іх пакінеш. Ты – іхняя небясьпека. Пагоня за табой, Фрода. За тым, што ты нясеш і што ёсьць небясьпека ўсім нам.

Фрода больш не было, чым запярэчыць, і ён пакорліва дазволіў пасадзіць сябе на белага каня Гларфіндэля. Большую частку паклады зноў навалілі на поні, так што вандроўнікі пайшлі вальней. Колькі часу ўпарта шыбавалі, але пасьпяваць за лёгкаю хадою нястомнага эльфа было няпроста. Ён вёў іх празь цемру, глухую й суцэльную, бо нябёсы завалакло шчыльнымі аблокамі, захіліла месяц і зоры. Піпін з Мэры ды Сэм ледзь кульгалі, засынаючы проста на нагах, нават і Швэндал згорбіўся й крочыў ужо ня так упэўнена. Фрода драмаў у сядле й сьніў дрэннае.

Нарэшце пазалезьлі ў высокія верасы за некалькі крокаў ад дарогі ды імгненна пазасыналі. Калі расплюшчылі вочы – падалося, Гларфіндэль, што вартаваў сон, абудзіў іх усяго праз хвіліну, сонца ўжо высока ўскараскалася, паразагнаўшы начныя аблокі й туманы.

– Выпіце! – прапанаваў Гларфіндэль, наліўшы кожнаму па чарзе крышачку напою з скуранай біклагі, аздобленай срэбрам. Празрысты, як вада, трунак бяз смаку не адчуўся ні цёплым, ні халодным, але зь ім вярнуліся сілы й жвавасьць прылілася

назад да стомленых рук і ног. Пасьля нават счарсьцьвелы хлеб і засохлыя яблыкі (усё, што засталося зь ежы) наталілі лепей за многія колішнія шырскія сьняданкі.

Адпачывалі меней за пяць гадзінаў і рушылі па Шляху зноў. Гларфіндэль усё падганяў і дазволіў толькі два нядоўгія прыпынкі за цэлы дзень хады. Затое й пакінулі за сьпінамі да цемры амаль дваццаць вёрстаў, сягнуўшы месца, дзе Шлях збочваў направа й спускаўся на дно даліны, ведучы прама да Бруйненскага броду. Ані знаку пагоні хобіты не заўважылі, але Гларфіндэль часта прыпыняўся на момант і прыслухоўваўся, калі хобіты адставалі, і твар ягоны пахмурнеў. Пару разоў перамаўляўся з Швэндалам па-эльфаўску.

Аднак небясьпека небясьпекаю, а відавочна было, што гэтай ноччу хобіты ісьці ня здолеюць. Яны кульгалі, зусім здурнеўшы ад стомы, няздольныя думаць ні пра што, апрача сваіх ног. Фродаў боль памацнеў удвая, і ўдзень усё навокал бачылася прывідна-шэрым. Ён ужо нецярпліва чакаў ночы й цемры, бо ў ёй сусьвет падаваўся не такім выцьвілым і пустым.

За ноч хобіты амаль не адпачылі. Выправіліся рана, бо да броду заставалася яшчэ шмат вёрстаў, і сьпяшаліся, хоць ледзь перасоўвалі ногі.

– Перад самым бродам, напэўна, і ёсьць найвялікшая небясьпека, – сказаў Гларфіндэль, – бо прадбачу: пагоня недалёка й ля броду чакае засада.

Шлях, як і ўчора, павольна спускаўся. Цяпер па бакох сустракаліся палосы густой травы, і хобіты ішлі па ёй, калі было магчыма, – спачынак зьбітым нагам. У другой палове дня дабраліся да месца, дзе дарогу зацяняў высокі сасьняк, а за ім Шлях праставаў па вычасаным у пагорку праходзе паміж крутымі адхонамі з чырвонага каменю, бліскучага ад вільгаці. Вандроўнікі амаль беглі, і за імі па праходзе каціласа рэха – нібы перасьледны пошчак шматлікіх ног. Зьнянацку, быццам прарваўшыся праз браму да сьвятла, Шлях выскачыў з шчыліны – і наперадзе, пад крутым схілам, разьвінулася шырокая, зь вярсту, роўнядзь ля ракі, а за ёй брод. Дальні бераг, буры й камяністы, строма ўздымаўся, Шлях караскаўся па ім тонкай стужкаю. А яшчэ далей грувасьціліся, лезьлі, тоўпіліся горы – адрог за адрогам, пік за пікам, – караскаючыся ў цьмяныя нябёсы.

Рэха пошчаку ўсё даганяла, усё каціласа з-за сьпінаў з праходу – шоргат, скрыгат, бы вецер узьняўся й прадзіраецца праз галіны соснаў. Гларфіндэль на момант замер, прыслухоўваючыся, а тады скочыў наперад, выгукнуўшы:

– Бегма! Бегма! Вораг за намі!

Белы конь ірвануў наперад. Хобіты кінуліся ўніз па схіле. Швэндал з Гларфіндэлем – за імі, трымаючыся ззаду, абараняючы. Ужо былі пасярод роўнядзі, калі дагнаў пошчак намёту – з-за брамы ў праход з шчыліны, якую толькі што пакінулі, выскачыў Чорны Вершнік. Уздыбіў каня, спыніўся, гайдаючыся ў сядле. За ім – яшчэ адзін, і яшчэ, і два сьледам.

– Наперад! Хутчэй! – крыкнуў Гларфіндэль Фрода.

А той адрэагаваў не адразу. Дзіўная млявасьць, неахвота агарнулі яго. Пацягнуў лейцы, запаволіўшы каня, азірнуўся. Вершнікі, цьмяныя, моцныя, сядзелі на вялікіх канях, нібы каменныя злавесныя стодзівы на гары, і адны яны падаваліся сапраўднымі ў хлюпкім тумане зямлі й вакольнага лесу. І раптам Фрода зразумеў, адчуў, як яны нябачна й нячутна загадваюць яму: *спыніся*! Злосьць і нянавісьць адразу абудзіліся ў ім. Ягоная рука пакінула лейцы ды схапілася за цаўё меча. Выхапленае з похваў лязо бліснула барваю.

– Скачы! Скачы! – крыкнуў Гларфіндэль і голасна, звонка загадаў каню па-эльфску: – Нора лім, нора лім, Асфалот!

Белы конь скочыў наперад і ветрам паляцеў па Шляху. У гэты самы момант чорныя коні рушылі ўніз па схіле наўздагон, і Вершнікі загаласілі – жудасным лямантам, які Фрода чуў калісьці ў лясох Усходняга падзелу, далёка адсюль. І, да адчаю Фрода й ягоных сяброў, з-за дрэваў і скалаў зьлева вылецелі яшчэ чатыры. Два – да Фрода, два – шалёна памчалі да броду напярэймы. Яму падавалася, яны ляцелі віхурай і, набліжаючыся, расьлі й чарнелі.

Фрода азірнуўся, але сяброў ня ўбачыў. Чорныя Вершнікі, што скакалі за сьпінаю, адставалі, бо нават іхнія чорныя коні ня роўня эльфаваму скакуну. Фрода глянуў наперад – і надзея пакінула яго. Не, не, ён не пасьпее да броду. Перахопяць. Вось яны, бачныя выбітна й ясна: ужо бяз чорных плашчоў, апранутыя ў шэрае, бляднае. Аголеные мечы блішчаць у касьцістых руках, галовы ўвянчаныя шаломамі, зіхацяць ільдзяныя вочы. Прывіды злосна лямантавалі, клікалі яго, скачучы.

Жах авалодаў розумам Фрода. Ён забыўся на корд. Скакаў анямеўшы, заплюшчыўшы вочы, учапіўшыся ў грыву. Вецер сьвісьцеў увушшу, дзіка й тонка брэнькалі званочкі на вупражы. Лядзяны подых дротам працінаў ягонае цела, але, ірвануўшыся на ўсю моц, бліскаўкай белага полымя эльфаў конь, як на крылах, пранёсься перад носам найбліжэйшага Вершніка.

Фрода пачуў усплёск вады. Яна бурліла й пеніла ля самых ног. Адчуў, хіснуўшыся ў сядле, як конь выскачыў з вады, паскакаў па пятлястай, камяністай сьцежцы ўгору. Усё, наверсе. Брод застаўся за сьпінай.

Але перасьледнікі адсталі ненашмат. Наверсе эльфаўскі конь спыніўся ды разьвярнуўся зь дзікім іржаньнем. На другім беразе ля самай вады стаялі ўсе Дзевяцёра чорных, і Фрода затрапятаў, зірнуўшы на іх твары. Чаму яны спыніліся? Што перашкаджае ім? Зараз пераедуць, гэтаксама лёгка, як і ён, а шлях да Долага Яру далёкі, аднаму туды не дабрацца. Дагоняць і перахопяць. Яшчэ хвіля – і пераедуць раку. Уцякаць бессэнсоўна. І тут зноў пачуўся маўклівы загад: *спыніся*! І зноў нянавісьць узьнялася ў ім, але супраціўляцца моцы больш не было.

Раптоўна першы Вершнік зрушыў каня зь месца. Той, ледзь крочыўшы ў ваду, заржаў, уздыбіўся. Перамогшы сябе, Фрода выпрастаўся й выцягнуў корд.

– Прэч! – выгукнуў Фрода. – Назад у Мордар! Я ня ваш!

Ягоны голас прагучаў тонка й віскатліва. Вершнікі прыпыніліся, але не было ў Фродавым голасе моцы Бамбадзіла, ворагі адно засьмяяліся, груба й кпліва.

– Ходзь да нас! – паклікалі яго. – Мы забярэм цябе ў Мордар!

– Прэч! – прашаптаў Фрода.

– Пярсьцёнак! Аддай пярсьцёнак! – сьмяротным жахам прагучалі іх галасы, і першы Вершнік пагнаў каня ў ваду. За ім – яшчэ два.

– Клянуся Эльберэт і сьветлай Люціень, – вымавіў Фрода з апошніх сілаў, уздымаючы корд, – ані мяне, ані пярсьцёнка вы не атрымаеце!

І тады правадыр Вершнікаў, прыпыніўшыся пасярэдзіне броду, пагражальна ўзьняў руку. Фрода анямеў. Сэрца шалёна забілася, здранцьвеў у роце неслухмяны язык. Корд пераламіўся й выпаў з дрыготкай рукі. Заржаў, зафыркаў эльфаў конь. Правадыр Вершнікаў ужо амаль выйшаў на бераг.

І ў гэты момант пачуўся роў ды грукат – вада бурліла, мкнула, вада каціла каменьне. Трацячы прытомнасьць, Фрода ўбачыў, як узьнімаецца рака, і ўніз па ёй імчыць шыхт белапенных хваляў. Падалося, на грабянях танчыць белае полымя й у ім – ці насамрэч, ці тое падман стомленых вачэй? – нясуцца белыя ваяры на бялюткіх конях зь пеннымі грывамі. Трох чорных, якія зайшлі ў раку, адразу ж зьнесла, пахавала пад бурлівай пенай. Астатнія кінуліся назад.

Фрода яшчэ пачуў крыкі й пабачыў на дальнім беразе зіхоткую, у белым сьвятле постаць, перад якою адступалі Чорныя. А за постацьцю несьліся нейкія невыразныя цені, махаючы агнём, няяркім у шэрым тумане, які агарнуў увесь сьвет.

Чорныя коні ашалелі і, кінуўшыся ад страху наперад, панесьлі Вершнікаў прама ў звар'яцелую раку, і роў вады заглушыў іх пранізьлівы лямант. Тады Фрода адчуў, што падае. Роў ды крыкі аглушылі яго, агарнулі, падалося, разьюшаная вада падхапіла й панесла яго разам з ворагамі. Болей ён анічога ня бачыў і ня чуў.

## *1. Шматлікія сустрэчы*

Фрода прачнуўся й зразумеў, што ляжыць у ложку. Падумаў спачатку: ну, заспаўся, і сон жа такі сьніў доўгі й непрыемны. Нават і засталося нешта ад таго сну, зачапілася за самы ўскраек памяці. А мо хварэў? Дзіўна: дах нейкі незнаёмы, пляскаты. Бэлькі цёмнага дрэва, з багатай разьбою. Фрода паляжаў яшчэ крыху, узіраючыся ў сонечных зайчыкаў на сьцяне, прыслухоўваючыся да шуму вапаспаду.

– Дзе я? – спытаў нарэшце. – Колькі цяпер часу?

– Ты ў сядзібе Эльранда, і зараз дзесяць гадзінаў раніцы, – сказаў голас побач. – Раніцы дваццаць чацьвертага кастрычніка, каб ты ведаў.

– Гэндальф! – ускрыкнуў Фрода, прыўзьняўся й агледзеўся.

Стары чараўнік сядзеў на крэсьле ля адчыненага вакна.

– Так, – пацьвердзіў Гэндальф. – Я тут. І ты таксама, што проста неверагодна пасьля ўсіх бздураў, якія ты ўчыніў па дарозе.

Фрода зноў лёг. Бо пачуваўся надта ўтульна й шчасьліва ды спрачацца аніякай ахвоты ня меў. У любым выпадку, наўрад ці Гэндальфа пераспрачаеш. Цяпер ужо прачнуўся цалкам і з падрабязнасьцямі згадаў вандроўку: і бядовы праход напрамкі праз Старую пушчу, і выпадак у "Скаклівым коніку", і вар'яцтва зь пярсьцёнкам у лагчавіне на Навестранай строме. Пакуль узгадваў, марна намагаючыся падоўжыць успаміны да самага прыбыцьця ў Долы Яр, Гэндальф таксама маўчаў, адно ціхенька пыхкаў люлькай ды выдзьмуваў белыя кольцы дыму ў вакно.

– Дзе Сэм? – спытаў Фрода нарэшце. – З маімі сябрамі ўсё ў парадку?

– Так, яны жывыя й здаровыя. Сэм сядзеў тут, пакуль я не адаслаў яго адпачыць недзе гадзіну з паловай таму.

– Што здарылася на бродзе? Я бачыў усё так цьмяна, і цяпер таксама. Нібыта празь цень.

– Але, празь цень. Бо ты й пачаў сыходзіць у сьвет ценяў. Рана амаль перамагла цябе. Яшчэ некалькі гадзінаў – і мы ня здолелі б табе дапамагчы. Але ж, даражэнькі мой хобіт, ты й моцны! У магільнях выявіў сябе проста цудоўна! Там мо было небясьпечней за ўсё, найбліжэй да пагібелі. Як шкада, што ты ня вытрымаў на Наветранай!

– Здаецца, вашаць ужо пра ўсё ведае. Я пра скляпеньні яшчэ нікому не распавядаў. Спачатку нават згадаць было жудасна, а потым думаў пра іншае. Як вашаць даведаўся?

– Ты шмат размаўляў у сьне. А я цябе слухаў і паціху выведаў, пра што ты думаў і за што хваляваўся. Не турбуйся! Хоць я й сказаў, што ты нарабіў глупстваў, я крыху перабольшыў. Вы справіліся выдатна, і ты, і астатнія. Немалое зьдзяйсьненьне – дабрацца сюды праз такія перашкоды й праз такіх ворагаў ды зь пярсьцёнкам.

– Мы ня справіліся б бяз Швэндала. Але нам так не хапала Гэндальфа. Я дык уявіць ня мог, што мне рабіць бяз вашці.

– Мяне затрымалі. На жаль. І тое ледзь не абярнулася нашай пагібельлю. Але цяпер, пазіраючы назад, бачу: можа, так павярнула да лепшага.

– Мо ваша распавёў бы мне? Што здарылася?

– Усяму свой час! Эльранд загадаў цябе сёньня анічым не заклапочваць і не турбаваць.

– Але ж загад ня спыніць маіх думак і сумневаў. А сумневы – надта турботная рэч. Я прачнуўся, амаль усё добра памятаю, а між тым яшчэ столькі незразумелага. Чаму вашаць затрымаўся? Хоць бы гэта мне можна патлумачыць?

– Неўзабаве ты пачуеш адказы на ўсе твае пытаньні. Хутка зьбярэцца Рада – як толькі ты ачуняеш цалкам. Цяпер я скажу адно, што быў у палоне.

– Гэндальф?!! – ускрыкнуў Фрода.

– Так, я сам, Гэндальф Сівы, – змрочна пацьвердзіў чараўнік, – у сьвеце шмат магутных істотаў і добрых, і ліхіх. Некаторыя больш магутныя за мяне. Зь некаторымі мне яшчэ не давялося цягацца. Але час надышоў. Валадар Моргулу выправіў Чорных Вершнікаў на заходнія землі. Ліха рыхтуецца да вайны.

– Дык ваша ведаў пра Вершнікаў яшчэ да таго, як я зь імі сустрэўся?

– Так, ведаў. Калісьці я казаў табе пра іх. Чорныя Вершнікі – гэта прывіды пярсьцёнкаў, дзевяцёра паплечнікаў Уладара Пярсьцёнкаў. Калі б я ведаў, што яны зноў зьявяцца ў гэтым сусьвеце, я адразу, падхапіўшы цябе, уцёк бы з Шыру. Я даведаўся пра іх толькі ў чэрвені, калі пакінуў цябе, але пра гэтае распавядзем потым. Толькі Арагорн уратаваў нас ад згубы, толькі ён.

– Так, Швэндал выратаваў нас. А я яго спачатку баяўся. Сэм дык увогуле не давяраў яму – пакуль мы не сустрэлі Гларфіндэля.

– Я чуў пра Сэма, – пасьміхнуўся Гэндальф, – цяпер у яго няма сумневаў.

– Файна! Бо мне Швэндал надта даспадобы. *Даспадобы*, можа, і не зусім прыдатнае слоўца. Ён зрабіўся мне як найбліжэйшы сябра, хоць часьцяком бывае суворы й загадкавы. Папраўдзе, ён часта нагадваў мне вашаць. Я й не ўяўляў, што даўгалыгія такія. Лічыў: ну, вялікія ростам, ды невялікія глуздамі. Добрыя, як Масьляк, ці злаўмысныя, як Біл Бур'як, але дурнаватыя. Але ж мы ў Шыры ня надта кемім у людзях, хіба што прыгорцаў ведаем.

– Ты ўвогуле ня кеміш у людзях, калі лічыш старога Масьляка дурным. Па-свойму ён яшчэ які мудры. Сапраўды, ён думае меней, чым гаворыць, і куды павольней, але дай яму час, сваю выгоду ён учуе за тры муры, як кажуць у Прыгор'і. Аднак мала засталося ў Міжзем'і падобных да Арагорна, сына Араторна. Кроў каралёў з-за мора амаль уся сышла ў нашую зямлю. Магчыма, у хуткай вайне пярсьцёнка выцеча ўся.

– Ваша мае на ўвазе, што Швэндал – насамрэч з народу старых каралёў? – зьдзівіўся Фрода. – Я лічыў, яны зьніклі ўжо даўнютка. Думаў, што ён проста сьледапыт з запустэчы.

– Сьледапыт з запустэчы! – усклікнуў Гэндальф. – Мой даражэнькі Фрода, дык яны ж і ёсьць апошняя рэшта на поўначы вялікага племені людзей Захаду, людзей з-за мора. Яны дапамагалі мне й раней. Іх дапамога спатрэбіцца мне й у будучыні, бо Долага Яру мы дасягнулі, але справа зь пярсьцёнкам ня скончаная.

– Я так і думаў. Але ж пакуль разважаў толькі пра тое, як дабрацца сюды. І спадзяваўся, што далей ісьці не давядзецца. Як добра проста адпачыць! Месяц я ўцякаў ад адной прыгоды да другой – сапраўды, мне ўжо занадта.

Змоўк, заплюшчыў вочы. Неўзабаве вымавіў:

– Я тут падлічваў, і аніяк мае падлікі не дацягваюць да дваццаць чацьвертага кастрычніка. Павінна быць дваццаць першага. Калі не памыляюся, мы дабраліся да броду дваццатага.

– Ну, ты размаўляў і разважаў ужо зашмат, – сказаў Гэндальф. – Трэба й адпачыць. Як твой бок і плячо?

– Цяжка сказаць. Я ўвогуле не адчуваю іх, але... – ён запнуўся, спрабуючы паварушыцца, – мая рука крыху слухаецца. Ажывае, так. І ўжо не халодная, – дадаў, дакрануўшыся правай рукой да левай.

– Добра! Ты хутка ацаляесься. Неўзабаве станеш на ногі. Эльранд асабіста лечыў цябе ўсе дні ад той хвіліны, як цябе прынесьлі сюды.

– Дні?

– Так, тры дні й чатыры ночы, калі ўдакладніць. Эльфы прынесьлі цябе ад броду ўначы дваццатага, калі ты зьбіўся з падліку. Задаў ты нам клопату. Сэм не адыходзіў ад цябе ні на хвіліну, хіба што яму даручалі перадаць якія зьвесткі ці каго паклікаць. Эльранд – вельмі абазнаны ў лекаваньні, але зброя Ворага – гэта згуба й сьмерць. Напраўду кажучы, у мяне надзеі амаль не засталося. Я падазраваў, што ашчэпак ляза застаўся ў ране, хоць яна й закрылася. Да мінулай ночы адшукаць яго не маглі. Але адшукалі, і Эльранд выдаліў яго. Ён зайшоў глыбока й усё паглыбляўся.

Фрода ўздрыгнуў, узгадаўшы страшнае вызубленае лязо, якое разышлося дымам у Швэндалавых руках.

– Не турбуйся, – суцешыў Гэндальф. – Яго ўжо няма. Той ашчэпак зьнік, калі яго дасталі. Падаецца, хобіты вельмі неахвотна ператвараюцца ў цені. Ведаў я магутных ваяроў даўгалыгіх, якіх той ашчэпак перамог бы за гадзіны, а ты змагаўся сямнаццаць дзён.

– Што ж Вершнікі хацелі зрабіць з мною тым ашчэпкам? Чаму?

– Яны намагаліся працяць тваё сэрца моргульскім лязом. Яно застаецца ў ране й ператварае ахвяру ў падабенства Вершнікаў, у прывідны цень, але слабейшы за іх і цалкам ім падуладны. Ты зрабіўся б ценем і рабом Чорнага Ўладара. Ён жудасна катаваў бы цябе за тое, што ты не хацеў аддаць яму пярсьцёнак, а шчэ горшым катаваньнем было б бачыць пярсьцёнак на ягонай руцэ пасьля таго, як сам яго насіў.

– Бацюхны, добра, што я не здагадваўся пра тое, – прашаптаў Фрода. – Я сьмяротна напалохаўся, вядома, але каб ведаў такое – зь месца не крануўся б. Як жа мне пашанцавала!

– Так, табе дапамаглі лёс ці выпадак ды ўласная мужнасьць. Бо лязо не кранула твайго сэрца, толькі плячо, таму што ты змагаўся да апошняга. Але ж усё вісела на танюткай валасінцы, як гаворыцца. Насунуўшы пярсьцёнак, ты напалову крочыў у сьвет ценяў і даў магчымасьць завалодаць табою. Прывіды ўгледзелі цябе – а ты іх.

– Але. Яны такія жудасныя! Але чаму мы ўсе здольныя бачыць іхніх коней?

– Таму што коні – ня здані, яны з нашага сьвету, і чорныя плашчы таксама сапраўдныя. Яны надаюць форму пустой прывіднасьці, каб іх бачылі іхнія жывыя паслужнікі.

– А чаму чорныя коні выносяць гэткіх вершнікаў? Усе астатнія жывёлы, нават Гларфіндэлеў эльфскі скакун, шалеюць ад жаху, калі здані набліжаюцца. Сабакі выюць, гусі гагочуць!

– Таму што гэтыя коні адмыслова дзеля таго гадаваліся ў Мордары на загад Чорнага Ўладара. Ня ўсе ягоныя прыслужнікі й рабы – прывіды. Оркі й тролі, варгі ды ваўкалакі, а ў мінулым, дый у цяперашнім таксама, многія людзі, ваяры ды каралі, якія крочаць пад сонцам па гэтым сьвеце, падпарадкоўваюцца Ворагу. І з кожнай гадзінай іх лік памнажаецца.

– А як жа Долы Яр, эльфы? Долы Яр у бясьпецы?

– Пакуль што так – пакуль астатняе ня пала перад ворагам. Эльфы, можа, і баяцца Чорнага Ўладара, і ўцякаюць ад яго, але яны ўжо ніколі ня стануць яго слухаць і ня пойдуць пад ягоную ўладу. Яшчэ тут, у Долым Яры, жывуць ягоныя найгалоўнейшыя супраціўнікі: наймагутнейшыя з эльфаў, князі заморскага Эльдару. Яны не баяцца Чорных Прывідаў, бо тыя, каму давялося жыць у Добраславёнай зямлі,

жывуць адразу й у сьвеце сьвятла, і ў сьвеце ценяў. І валодаюць вялікай сілай і над Бачным, і над Нябачным.

– Мне падалося, я заўважыў белую постаць, якая зьзяла й не зрабілася цьмянай і невыразнай, як астатнія. Напэўна, тое й быў Гларфіндэль? – спытаў Фрода.

– Так, у тое імгненьне ты бачыў яго зь сьвету ценяў, табе адкрылася моц Першанароджанага. Бо ён з роду магутных эльфскіх князёў. Долы Яр яшчэ можа стрымаць мордарскую навалу. І ў іншых месцах яшчэ ёсьць сілы, здольныя супрацьстаяць ворагу. Дый у Шыры таксама ёсьць моц, хоць і не такая. Але гэтыя землі неўзабаве стануцца асаджанымі выспамі сярод варожага мора, калі ўсё пойдзе так, як ідзе цяпер. Бо Чорны Уладар зьбірае ўсю сваю моц, – Гэндальф устаў і выпрастаўся, задраўшы падбародзьдзе, і ягоная барада вытыркнулася наперад, нібы пук дроту.

– Аднак, – дадаў ён, – трэба заставацца мужнымі й ня траціць надзеі. Неўзабаве й ты ачуняеш цалкам, калі я не загавару цябе да сьмерці. Ты ў Долым Яры, і ані пра што пакуль клапаціцца ня мусіш.

– Заставацца мужным мне будзе цяжка, бо я зусім не пачуваюся мужным, – уздыхнуў Фрода. – Але ж сапраўды, ані пра што цяпер не клапачуся. Толькі распавядзі мне, калі ласка, пра маіх сяброў, ды пра тое, што ж здарылася на бродзе, і я на сёньня задаволюся. Тады й адпачну. Бо ж мне аніякага сну ня будзе, калі не даведаюся, як там усё адбылося.

Гэндальф прысунуў фатэлю да ложка й уважліва зірнуў на Фрода. Твар хобіта ўжо ня быў такім белым, і вочы глядзелі ясна й разумна. Фрода ўсьміхаўся, і падавалася, зь ім усё было ў парадку. Але вочы чараўніка прыкмецілі зьмену: ён зрабіўся крыху танчэйшым, нават больш празрыстым, бясплотным – асабліва левая рука, што ляжала паверх коўдры.

"Ну, гэтага трэ было чакаць, – сказаў чараўнік сам сабе. – Ён яшчэ й паловы не прайшоў, і чым ён зробіцца напрыканцы шляху, нават і Эльранд не прадкажа. Мяркую, ліху ён не паддасца. Але, магчыма, зробіцца, як празрысты шкляны сасуд, напоўнены чыстым сьвятлом, – для тых вачэй, якія здолеюць убачыць".

– Выглядаеш ты выдатна, – вымавіў чараўнік уголас, – добра, я рызыкну й распавяду троху бяз Эльрандавага дазволу. Але ж толькі нядоўга, май на ўвазе, а тады табе зноў трэба паспаць. Паводле маіх меркаваньняў, здарылася вось што: калі ты ўцякаў, Вершнікі памчалі наўпрост за табой. Каб бачыць цябе, ім не спатрэбіліся коні. Бо ты ўжо стаяў на ганку іхняга сьвету, бачны ім. Таксама іх прыцягваў пярсьцёнак. Твае сябры паадскоквалі, бо інакш іх стапталі б. Яны ведалі, што толькі белы эльфскі конь можа цябе выратаваць. Бо Вершнікі рухаліся надта хутка, і іх было зашмат. На нагох нават Гларфіндэль з Арагорнам разам ня справіліся б з усімі Дзевяцярыма. Калі прывіды праскакалі, твае сябры кінуліся сьледам. Паблізу броду побач з Шляхам ёсьць маленькая пячорка, пазначаная некалькімі пакручанымі куртатымі дрэвамі. Там твае сябры распалілі вогнішча, бо Гларфіндэль ведаў: рака ўздыбіцца, калі ворагі паспрабуюць перайсьці брод, і потым давядзецца мець справу з тымі, хто застаўся на беразе. Як толькі пайшла высокая вада, Гларфіндэль рушыў наперад, а за ім Арагорн і хобіты – усе з запаленымі галінамі ў руках. Вершнікі апынуліся паміж агнём і вадой, перад магутным Вышнім эльфам ва ўсёй ягонай моцы – і перапалохаліся, а іх коні ашалелі. Трох, якія рушылі ў ваду, зьнёс разьліў, астатніх скінулі ў ваду коні.

– Так і загінулі ўсе Чорныя Вершнікі?

– Не. Загінулі іх коні, а бяз коней яны няшмат на што здольныя тут. Саміх Вершнікаў гэтак проста ня зьнішчыць. Хоць пакуль што іх баяцца ня варта. Калі вада

сышла, твае сябры перайшлі брод і знайшлі цябе. Ты ляжаў ніцма наверсе ўзьбярэжнага адхону, і твой зламаны корд – пад табою. Конь стаяў побач, вартаваў цябе. Ты быў зусім белы й халодны. Баяліся, што ты ўжо памёр ці горш. Насустрач выйшлі эльфы Эльранда й прынесьлі цябе ў Долы Яр.

– А чаму разьлілася рака?

– На загад Эльранда. Рака ў гэтай даліне – пад ягонай уладай і можа падымацца, калі трэба тэрмінова перакрыць брод. Як толькі правадыр Вершнікаў крочыў у раку, па даліне пусьцілі ваду. Ну, тут дадам, што я таксама крыху аздобіў разьліў. Ты, напэўна, не заўважыў, але некаторыя хвалі выглядалі вялізнымі белымі коньмі з бліскучымі вершнікамі на іх, дый шмат камянёў качілася з разьлівам. Я нават баяўся, што выпусьцілі зашмат разьюшанай вады, што хвалі зьнясуць вас усіх. Воды, што бягуць зь сьнягоў Туманных гор, надта спрытныя й неўтаймоўныя.

– Так, цяпер згадваю, – сказаў Фрода, – такі жудасны роў. Я палічыў: патану разам зь сябрамі й ворагамі. Але ж цяпер мы ў бясьпецы!

Гэндальф кінуў хуткі позірк на Фрода, але той ужо заплюшчыў вочы.

– Так, пакуль мы ў бясьпецы. Неўзабаве распачнуцца баляваньне й забавы з нагоды перамогі на Бруйненскім бродзе, і вам усім прызначаныя пачэсныя месцы.

– Выдатна! Як гэта дзівосна, што Эльранд і Гларфіндэль, такія вялікія ўладары, ня кажучы ўжо пра Швэндала, гэтак клапоцяцца пра мяне й гэткія добрыя да мяне.

– Ну, нагодаў да таго нямала, – усьміхнуўся Гэндальф. – Адна зь іх – я. Другая – пярсьцёнак. Бо ты ж Ахоўнік Пярсьцёнка, той, хто нясе яго. А таксама ты – спадчыньнік Більба, таго, хто знайшоў пярсьцёнак.

– Дарагі Більба! – сонна вымавіў Фрода. – Цікава, дзе ж ён? Добра было б, каб тут, дый пачуў пра ўсё. Напэўна, шмат пасьмяяўся б! Карова на поўню ўзьляцела, дый годзе! Небарака стары троль!

І тут Фрода глыбока заснуў.

Цяпер Фрода знаходзіўся ў бясьпецы, у Апошнім Гасьцінным Прытулку на ўсход ад мора. І прытулак гэты, як пісаў калісьці Більба, і сапраўды быў "*найлепшым месцам, калі вы жадалі пад'есьці ці паспаць, паслухаць і самому што распавесьці, прасьпяваць ці пачуць сьпевы або проста сядзець і разважаць – ці ўсё разам*". Проста быць там – значыла пазбавіцца ад стомы, страху й горычы.

Узьвячоркам Фрода абудзіўся й вынайшаў, што болей не жадае ані спаць, ані адлёжвацца, а карціць яму добра пад'есьці й глынуць кроплю-другую, а пасьля, магчыма, паслухаць расповеды й сьпевы. Вылез з ложка й высьветліў, што левая рука слухаецца амаль як раней. А побач знайшоў падрыхтаваную вопратку зь зялёнай тканіны – дакладна на яго, проста найцудоўнейшым чынам! Зірнуў у люстэрка й зразумеў, што памятае сябе значна таўсьцейшым і старэйшым. Цяпер на яго паглядаў юны Більбаў пляменьнік, які разам зь дзядзькам так любіў валацужыць па Шыры. Аднак вочы былі не па-маладому задумлівыя.

– Так, давялося табе пабачыць сёе-тое, як апошні раз глядзеўся ў люстра, – прывітаў Фрода адбітак. – Ну, але ж цяпер у добры час сустрэліся!

Пацягнуўся, пачаў насьвістваць. Тут у дзьверы пагрукалі, і зьявіўся Сэм. Падбег да Фрода, ухапіў левую руку, нязграбна й баязьліва. Асьцярожна пагладзіў яе. Тады пачырванеў і пасьпешліва адвярнуўся.

– Дабрыдзень, Сэме! – павітаў Фрода.

– Яна цёплая! – выклікнуў Сэм. – Я пра вашую руку, спадару Фрода. Начамі яна адчувалася такой халоднай! А цяпер – гэй-гоп! Гонар і слава! – выгукнуў зноў,

прыскокваючы па падлозе, з вачыма, зіхоткімі ад радасьці. – Як добра зноў бачыць вас здаравенькім і цалюткім, спадарыку! Гэндальф запрасіў мяне падысьці й зірнуць, ці падрыхтаваныя вы спусьціцца ў залю, а я падумаў – ён жартуе.

– Я гатовы, – сказаў Фрода. – Дык хадзем, пашукайма астатніх.

– Я правяду вас да іх. Гэткая вялізная даміна, і дзівосная. Заўжды новыя й новыя рэчы знаходзяцца, і ня ведаеш, што сустрэнеш за паваротам. А эльфы, спадарыку, эльфы! Некаторыя – нібы каралі, ну ажно страх бярэ, гэтакая грандыёза, а некаторыя – як дзеткі малыя, вясёлыя й простыя. А музыка, а сьпевы! Праўда, ня тое каб у мяне шмат часу ці настрою было, як мы сюды дабраліся. Але ўсё ж я крыху вызнаў пра звычкі ў гэнай хаціне.

– Я ведаю, чым ты быў заняты, Сэме, – Фрода ўзяў сябрука за руку. – Сёньня ўвечары, будзь ласкавы, радуйся ды забаўляйся бесклапотна, як сэрца падкажа. А цяпер пакажы ж мне, што ты тут выведаў!

Сэм правёў яго некалькімі калідорамі ды ўніз па бясконцых прыступках і нарэшце вонкі, у сад над высокім стромым берагам ракі. Там і сядзелі на лаве ля сьцяны сябры, паглядаючы на ўсход. На даліну перад імі ўжо лёг цень, але сьвятло яшчэ кранала вяршыні гор далёка наверсе. Было цёпла. Гучна, з шумам падала вада, і атуляў, вісеў у вячэрнім паветры ледзь заўважны водар кветак і дрэваў, нібы лета затрымалася на гасьціну ў Эльрандавых садох.

– Ур-ра! – выгукнуў Піпін, жвава ўскокваючы. – Вітаньне нашаму высакароднаму сваяку! Вітаньне шаноўнаму Фрода, Уладару Пярсьцёнка!

– Ціха! – азваўся Гэндальф зь ценю за ганкам. – Ліха не кранае гэтай даліны, сюды яму няма ходу. Тым ня менш клікаць яго тут ня варта. Уладар Пярсьцёнка – ня Фрода, а гаспадар Цёмнай вежы Мордару, чый цень зноў паўзе па гэтым сусьвеце! Мы – у крэпасьці. А навокал усё змрачнее.

– Гэндальф цяпер часьцяком кажа такія вясёлыя штукі, – паскардзіўся Піпін. – Лічыць, што мяне трэба павучаць ды прыструньваць. Аднак у гэтым месцы проста немагчыма сумаваць ці задумвацца пра нейкія там цені зь ліхаманкамі й трасцой. Я засьпяваў бы вось цяперака, каб толькі песьню ведаў пад нагоду!

– Я й сам засьпяваў бы, – засьмяяўся Фрода. – Хоць, напэўна, зараз ежа мне надалася б болей!

– Ну, гэтаму хутка дапамогуць, – запэўніў Піпін. – Ты, як і заўжды, дэманструеш незвычайны талент ачуньваць дакладна ў час пад'едку.

– Пад'едку? Баляваньня! – выправіў Мэры. – Як толькі Гэндальф давёў, што табе лепшае, пачалі рыхтавацца.

Не пасьпеў Мэры дагаварыць, як забэмкала мноства званоў і званочкаў, запрашаючы гасьцей у залю для баляваньняў.

Заля напоўнілася мноствам народу, пераважна эльфамі, але было некалькі іншых гасьцей. Эльранд, паводле звычаю, узвышаўся ў вялізным крэсьле на прыступцы напрыканцы доўгага стала. Праваруч ад яго сядзеў Гэндальф, леваруч – Гларфіндэль.

Фрода сьцяў подых, бо ніколі дасюль ня бачыў Эльранда, героя незьлічоных паданьняў. І пааберуч ад яго Гларфіндэль і нават Гэндальф, здаецца, так добра знаёмы, выглядалі цяпер па-сапраўднаму – нібы магутныя, валадарныя князі. Гэндальф быў меншы ростам за абодвух эльфаў, але доўгія сівыя валасы, густая срэбная барада, шырокія плечы рабілі яго падобным на мудрага караля старажытных казак. На маршчыністым твары пад густымі сьнежна-белымі бровамі ягоныя цёмныя вочы зьзялі, бы вуглі, што здольныя раптоўна палыхнуць спапяляльным полымем.

У высокага й зграбнага Гларфіндэля валасы зьзялі золатам, твар – маладосьцю, адвагай і радасьцю, пранізьліва пазіралі зыркія вочы, голас ліўся бы музыка, мудрасьць сьвяцілася ў твары, і ў руках адчувалася сіла.

Эльрандаў твар застыў па-за гадамі – ані малады, ані стары, хоць і адбілася на ім памяць многіх радасьцяў і бедаў. Валасы ягоныя былі як цень позьняга сутоньня, на іх ляжаў срэбны вянец. Вочы сьвяціліся мяккім шэрым сьвятлом яснага вечару, у якім люструецца зорнае зьзяньне. Ён падаваўся празорлівым і дасьведчаным, бы мудры, састарэлы, ушанаваны кароль, што пакінуў за плячыма шэраг незьлічоных зімаў, і сталым, бы выпрабаваны ваяр у росквіце моцы. Бо быў ён уладаром Долага Яру, наймагутнейшы сярод людзей і эльфаў.

Бліжэй да сярэдзіны стала побач з завешанай тканымі дыванамі сьцяной стаяла крэсла пад балдахінам. Там сядзела спадарычня незвычайнай прыгажосьці. Фрода заўважыў, як падобны яе твар да Эльрандавага, і вырашыў, што яна – блізкая яму радзіна. Яна падавалася зусім юнай і адначасна сталай. Яе цёмныя валасы не крануў срэбны пыл сівізны, белыя рукі й твар былі бездакорна гладкія й сьвежыя, зорамі зьзялі яе ясныя вочы, шэрыя, як нябёсы чыстай, бясхмарнай ночы. Але выглядала яна каралеўнай. Вопыт і спакойная мудрасьць, якую прыносяць толькі гады, чыталіся ў ейных вачох. Валасы яе пакрывала срэбнае сеціва з дробнымі каменьчыкамі, якія блішчэлі белым сьвятлом, але на яе мяккай шэрай сукенцы не было ўпрыгожаньняў, апроч срэбнага паска, падобнага да пераплеценага лісьця.

Вось так Фрода напаткаў тую, каго бачыла няшмат сьмяротных, – Арвэн, дачку Эльранда. Пра яе казалі, што прыгажосьць Люціень вярнулася зь ёй на зямлю. Яе клікалі Ўндоміель, Вечаровая Зорка, бо такою яна й сталася для свайго народу. Доўгі час жыла яна на землях радзіны сваёй маці, за гарамі, у Лорыйне, але нядаўна вярнулася ў Долы Яр, у бацькаву сядзібу. Яе браты Эладан і Эльрохір яшчэ вандравалі. Яны часьцяком выпраўляліся разам зь сьледапытамі поўначы ў дальнія наезды, заўжды помсьцячы за катаваньні сваёй маці ў орцкіх пячорах.

Такой прыгажосьці ды замілаваньня ў зямным, жывым стварэньні Фрода аніколі ня бачыў і ўявіць ня мог. І дашчэнту зьбянтэжыўся й зьдзівіўся, што месца яму прызначылі менавіта за Эльрандавым сталом, побач з такімі высокімі, валадарнымі асобамі. Хоць і крэсьліца яму знайшлі прыдатнае, і падушачак падклалі, каб лепей сядзелася, усё адно пачуваўся не на сваім месцы, няёмка й нязграбна, але тое пачуцьцё хутка мінула. Бо баляваньне ішло вясёлае й шчырае, і ежы было на самы пераборлівы раток. У такой ступені, што мінула нямала часу, пакуль Фрода азірнуўся навокал ці хоць бы глянуў на суседзяў.

А калі глянуў, то найперш адшукаў сяброў. Сэм прасіў, каб яму дазволілі прыслужваць гаспадару, але яму давялі, што сёньня ён – ганаровы госьць. Вось ён – побач зь Піпінам і Мэры ля пачэснага краю аднаго з сталоў, найбліжэйшых да Эльрандавай прыступкі. А Швэндала анідзе не відаць.

Праваруч ад Фрода сядзеў шыкоўна апрануты надзвычай салідны гном. Ягоная барада, надта доўгая й раздвоеная, была яскрава-белая, бялейшая за сьнежную бель ягонай вопраткі. Гнома апаясвала срэбная папруга, а на шыі вісеў ланцуг з срэбра й дыямэнтаў. Фрода нават і есьці перастаў, каб да яго прыгледзецца.

– Які гонар пабачыць вас! – павярнуўся да яго гном.

А тады ўстаў і пакланіўся. Сказаў:

– Глойн да вашых паслуг, – дый пакланіўся яшчэ ніжэй.

– Фрода Торбінс – да вашых паслуг і ўсёй вашай сям'і, – Фрода, як належала, таксама ўзьняўся з фатэлі, параскідаўшы ад зьдзіўленьня й нечаканасьці свае падушкі.

– Ці не памылюся я ў меркаваньні, што вы – той самы Глойн, адзін з паплечнікаў вялікага Торына Дубатарча?

– Менавіта так, – гном сабраў падушкі й далікатна дапамог Фрода залезьці назад у крэсла. – Пра вас не пытаюся, бо мне ўжо распавялі, што вы – сваяк ды спадчыньнік нашага знакамітага сябра Більба. Дазвольце павіншаваць вас з выздараўленьнем!

– Дзякуй вам вялікі!

– Я чуў, па дарозе сюды вас напаткалі дзівосныя й небясьпечныя прыгоды, – пачаў Глойн. – Мяне надта зьдзіўляе, што ажно *чатыры* хобіты выправіліся ў гэткую доўгую вандроўку. Але, верагодна, ня варта распытваць вас, калі ані Гэндальф, ані Эльранд не настроеныя гаманіць пра тое?

– Мне таксама падаецца, што пакуль яшчэ час не надышоў, – прамовіў Фрода ветліва, падумаўшы, што нават і пад Эльрандавым дахам пра пярсьцёнак лепей не казаць без асаблівай патрэбы. Дый у любым выпадку не хацелася яму на баляваньні згадваць пра турботы.

– Мне ў роўнай ступені цікава, – спытаў хобіт, – што ж прывяло найшаноўнейшага гнома сюды, так далёка ад Самотнай гары?

– Калі вы пра тое ня чулі, напэўна, час размаўляць яшчэ не надышоў, – гном дапытліва зірнуў на хобіта. – Мяркую, хутка гаспадар Эльранд пакліча нас да сябе, і мы пачуем шмат цікавага. Але ж навінаў хапае й без таго.

І да сканчэньня баляваньня яны гутарылі, хоць Фрода болей слухаў, чым распавядаў. Бо ж навіны Шыру, калі ня ўлічваць пярсьцёнак, падаваліся нязначнымі й недарэчнымі тут. А Глойн шмат чаго распавёў пра поўнач Дзіказем'я. Фрода даведаўся, што Грымбеарн Стары, сын Беарна, зрабіўся ўладаром над мноствам моцных людзей, і на іх зямлю паміж Туманнымі гарамі й Ліхалесьсем ані орк, ані воўк крочыць не адважваюцца.

– Сапраўды, – казаў Глойн, – каб не Беарнінгі, шлях паміж Долам і Долым Ярам даўно зрабіўся б непраходным. Яны – людзі адважныя, трымаюць Высокі перавал і брод на Кароку. Але падаткі ў іх непамерныя, – ён пахітаў галавою, – і як Беарн у даўніну, гномаў яны ня дужа шануюць. Аднак ім мажліва давяраць, а гэта нямала ў нашыя дні. Найпрыязьнейшыя з усіх да нас – людзі Долу. Добры народ гэтыя Бардзінгі. Каралюе над імі праўнук Барда Стралка, Бранд, сын Байна, сына Барда. Ён – магутны кароль, ягоныя валоданьні цяпер – далёка на поўдзень і на ўсход ад Эзгарату.

– А як ваш уласны народ? – пацікавіўся Фрода.

– Пра тое шмат мажліва распавядаць, і добрага, і благога. Хоць добрага больш. Пакуль лёс усьміхаецца нам, хоць змроку цяперашніх часоў і мы не пазьбеглі. Калі вы насамрэч жадаеце выслухаць пра нас, я распавяду навіны з задавальненьнем. Але прыпыніце мяне, калі ласка, калі стоміцеся! Кажуць, гномы нястомныя ня толькі ў працы, але й у расповедзе пра яе.

І Глойн выправіўся ў даўжэзную прамову пра гномскае каралеўства. Бо надта ж прыемна знайсьці такога ветлага й удзячнага слухача, як Фрода. Той не выказваў ані прыкметы стомы й не спрабаваў зьмяніць тэмы, хоць, шчыра кажучы, хутка зусім заблукаў у незнаёмых імёнах людзей і мясьцінаў, пра якія аніколі ня чуў. Узрадаваўся, аднак, зь весткі пра тое, што Дайн яшчэ караляваў пад Гарой, нягледзячы на старасьць (адсьвяткаваў ужо дзьвесьце пяцідзясяты год!), быў надта шанаваны й казачна заможны. З тых дзесяці Торынавых спадарожнікаў, што перажылі Бітву Пяці Войскаў, сямёра заставаліся зь ім: Двалін, Глойн, Доры, Норы,

Біфур, Бафур і Бамбур. Бамбур да даго патаўсьцеў, што ня здольны дабрацца ад ложка да застольнай фатэлі. Трэба шэсьць маладых гномаў, каб яго перанесьці.

– А што здарылася з Балінам, Оры ды Ойнам? – спытаў Фрода.

– Мы ня ведаем, – твар Глойна спахмурнеў. – Пераважна з-за Баліна я й прыйшоў прасіць парады тых, хто жыве ў Долым Яры. Але сёньня лепей згадайма што-колечы весялейшае!

І распавёў Фрода пра гномскія зьдзяйсьненьні, пра вялікую працу пад гарой і ў Доле.

– Спраўляемся файна, – казаў ён, – але ў працы па мэтале продкаў не дагналі. Шмат сакрэтаў страчана. Робім добрыя броні й вострыя мечы, але ж ім не параўняцца з вырабленымі да цмокавых часоў. Толькі ў будаўніцтве ды горнай справе мы пераўзышлі продкаў. Бачылі б вы вадатокі Долу, вадаграі, вадалівы! Ды нашыя шляхі, забрукаваныя разнаколерным каменьнем! А залі, а вуліцы-пячоры з аркамі, што кроны дрэваў, тэрасы, вежы на схілах Гары! Тады вы зразумелі б, што мы не сядзелі склаўшы рукі.

– Я абавязкова прыеду паглядзець на іх, калі толькі здолею, – запэўніў Фрода. – І зьдзівіўся б Більба таму, як зьмянілася Цмокава Запустэча!

Глойн зірнуў на Фрода й усьміхнуўся. Спытаў:

– Напэўна, Більба надта дарагі вам, так?

– Так, – адказаў Фрода. – Я жадаў бы пабачыць яго болей за ўсе вежы й палацы ў сьвеце.

Нарэшце бяседа наблізілася да заканчэньня. Эльранд з Арвэн узьняліся й прайшлі па залі, і бяседнікі за імі. Перад гаспадарамі расчынілі дзьверы, і паўз шырокі калідор усе патрапілі ў іншую залю. Там не было сталоў, але палаў агонь у вялікім агмені з калёнамі, багата аздобленымі разьбою, абапал. Фрода раптоўна ўбачыў, што побач крочыць Гэндальф.

– Гэта заля Агменю, – патлумачыў чараўнік, – тут ты пачуеш мноства песьняў і паданьняў – калі не засьнеш. Звычайна, калі няма сьвятаў, заля пустуе. Сюды прыходзяць паразважаць у цішыні ды адпачыць на самоце. Тут заўжды палае агмень, увесь год, і амаль ніякага іншага сьвятла.

Калі Эльранд прайшоў на падрыхтаванае для яго месца, эльфы-мэнэстрэлі пачалі найграваць мяккую, павольную мэлёдыю. Паціху заля напоўнілася гасьцямі, і Фрода з асалодаю глядзеў на гожыя твары. Залатыя пялёсткі полымя люстраваліся, гралі на іх, адблісквалі ў валасох. Зьнянацку ён прыкмеціў непадалёк ад краю каміну невялічкую асобу, апранутую ў цёмнае. Хтосьці сядзеў на ўслончыку, прыхінуўшыся сьпінаю да калёны. Побач на падлозе стаяла філіжанка й ляжала луста хлеба. Фрода зацікавіўся: можа, гэта хворы (калі ў Долым Яры ўвогуле бываюць хворыя), раз ён не прыйшоў на сьвяточную бяседу? Відавочна, незнаёмца задрамаў, апусьціўшы галаву й прыкрыўшы складкаю плашча твар.

Эльранд крочыў наперад і стаў побач з таямнічай асобай.

– Прачынайся, шаноўны спадару! – пасьміхнуўся кароль эльфаў.

Тады павярнуўся да Фрода й паклікаў да сябе. Сказаў:

– Вось нарэшце надышоў час, якога ты столькі чакаў, Фрода. Вось сябар, па якім ты гэтак тужыў.

Асоба падняла галаву, адсунула плашч ад твару.

– Більба! – ускрыкнуў Фрода й кінуўся насустрач.

– Дзень добры, Фрода, хлопчык мой! Нарэшце й ты дабраўся сюды. Я спадзяваўся, што ў цябе атрымаецца. Але, але! Што, усё гэнае баляваньне, як я чую, у твой гонар? Спадзяюся, табе спадабалася?

– Чаму цябе там не было? – усклікнуў Фрода. – Чаму мне раней не дазвалялі пабачыць цябе?

– Таму што ты спаў. Я дык на цябе ўжо нагледзеўся. Сядзеў разам з Сэмам побач з табою штодня. Што тычыцца бяседы, дык я цяпер рэдка забаўляюся такімі рэчамі. Дый ёсьць яшчэ што рабіць.

– І што ж ты робіш?

– Сяджу й разважаю. Шмат разважаю апошнімі днямі, а тут зазвычай найлепшае для таго месца. Абудзіся, ну! – буркнуў на Эльранда; вочы хобіта паглядалі зырка, і сапраўды – ані знаку сну не было ў іх. – *Прачынайся*, дый годзе! Я ня спаў, спадару Эльрандзе. Калі вашамосьць хоча ведаць, усе вы надта рана кінулі сваё баляваньне й мяне патурбавалі – якраз калі я дадумваў песьню. Захрас на пары радкоў, і ўсё думаў, думаў, а цяпер, баюся, аніколі ўжо не давяду іх да ладу. Тут зараз столькі будуць сьпяваць, што ўсе думкі з галавы выпеюць. Напэўна, трэ будзе папрасіць майго сябра Дунадана дапамагчы. Дзе ён?

– Яго хутка знойдуць, – засьмяяўся Эльранд. – Тады вы ўдвох пойдзеце ў зацішны кут і скончыце разам вашую працу, а мы тут будзем сьвяткаваць, пакуль не пачуем і не ацэнім, што вы стварылі.

Адразу выправілі пасыльных па Більбавага сябра, хоць ніхто й ня ведаў, дзе ён і чаму не наведаў бяседу.

Пакуль шукалі, Фрода й Більба паселі разам, і Сэм хуценька прыбег да іх, уладкаваўся побач. Яны размаўлялі, амаль не заўважаючы вясёлага гоману ды музыкі навокал. Асабістых навінаў у Більба мелася няшмат. Калі пакінуў Хобіцак, паблукаў крыху па Шляху й ягоных ваколіцах, але чамусьці вяло яго ўвесь час да Долага Яру.

– Ну, урэшце й патрапіў туды без асаблівых прыгодаў, – сказаў Більба. – Адпачыў дый скіраваўся з гномамі ў Дол. Мяркую, мая апошняя вандроўка, болей і ня выберуся. Стары Балін некуды зьнік, вось справы. Тады я вярнуўся, і з таго часу тут. Тое раблю, сёе. Крыху болей дапісаў у сваю кнігу. І, само сабою, склаў некалькі песенек. Эльфы іх сьпяваюць час ад часу. Зь ветлівасьці, каб мяне пацешыць, мяркую. Бо для Долага Яру яны наўрад ці прыдатныя. А я слухаю й разважаю. Падаецца, час тут зусім ня йдзе. Усё спынілася. Найвыдатнейшае месца. Навіны я тут атрымліваю адусюль: і з-за гор, і з поўдня – але ня з Шыру. Пра пярсьцёнак я чуў, вядома. Гэндальф сюды часьцяком завітвае. Ня тое каб ён шмат балбатаў – зь яго ўвогуле апошнімі гадамі словы абцугамі цягнуць трэба. Але Дунадан мне болей распавёў. Ну хто падумаў бы, што ад майго пярсьцёнка гэткія турботы! Шкада, што Гэндальф ня ведаў раней. Я мог бы сам яшчэ тады прынесьці пярсьцёнак сюды спакойна й бясклопатна. Я й сам плянаваў колькі разоў вярнуцца ў Хобіцак па яго. Але ж старэю, дый не дазваляюць мне – Гэндальф з Эльрандам, я маю на ўвазе. Ім усё падаецца, што Вораг з скуры лезе, каб мяне ўхапіць і зрабіць зь мяне фарш, спаймаўшы ў глухамані. Гэндальф дык казаў: "Усё, пярсьцёнак памяняў вартаўніка. Ён пакінуў цябе. Калі ты зноў ублытаесься ў ягоную гісторыю, будзе шмат шкоды й табе, і астатнім". Ну дзівоса якая, тыпова Гэндальфава гаворка. Але ж ён пераканаў, што прыглядае за табою, дык я й пагадзіўся пакінуць справы, як яны ёсьць. Як жа я рады, што ты жывы й здаровы!

Тут ён замаўчаў і задумліва зірнуў на Фрода.

– Ён у цябе? – спытаў шэптам. – Ведаеш, мне так цікава – пасьля ўсяго, што я пра яго чуў. Гэтак карціць хоць бы адным вокам убачыць яго.

– Так, ён у мяне, – адказаў Фрода, адчуваючы дзіўную неахвоту. – Выглядае ён дакладна як і раней.

– Ну, мне толькі на хвіліначку.

Калі апранаўся, Фрода вынайшаў, што ланцужок, на якім вісеў на ягонай шыі пярсьцёнак, замянілі на новы, лёгкі, але моцны. Павольна Фрода выцягнуў за ланцужок пярсьцёнак. Більба выпрастаў руку. Аднак Фрода адразу адсунуў пярсьцёнак прэч, у жудасным зьдзіве пабачыўшы, што перад ім быццам бы ня Більба, а нехта страшны й незнаёмы. Нібы цень упаў між ім і сапраўдным Більба, а зь ценю вылупіла вочы маленькая маршчыністая пачварка з тварам, скажоным прагаю, з кіпцюрыстымі, дрыготкімі рукамі. Фрода захацелася ўдарыць пачвару.

Падалося, музыка зь сьпевамі навокал замерлі, абарваўшыся ў страшную цішыню. А Більба зазірнуў у Фродаў твар – і прыкрыў рукою вочы.

– Цяпер я разумею, – сказаў ён. – Прыбяры яго прэч! Прабач мне. Прабач, што пакінуў табе гэты цяжар. Прабач за ўсё. Ці гэтай прыгодзе наканавана цягнуцца бясконца? Нехта іншы заўсёды павінен ісьці далей. Ну што тут зробіш. Цікава, ці ёсьць яшчэ сэнс мне дапісваць маю кнігу? Ну, няхай. Потым патурбуемся гэтым. А цяпер распавядзі-тка мне сапраўдныя навіны. Распавядзі мне ўсё пра Шыр!

Фрода схаваў пярсьцёнак – і цень адразу ж зьнік, нават і памяці па сабе амаль не пакінуўшы. Сьвятло й музыка Долага Яру зноў струменілі навокал, Більба ўсьміхаўся ды сьмяяўся шчасьліва. Кожны кавалачак шырскіх навінаў, на якія толькі мог узгадаць Фрода – з дапамогаю й папраўкамі Сэма, – цікавіў Більба незвычайна, і пра тое, якое дрэўца ля чыёй хаты сьсеклі, і чыя малеча дзе нашкодзіла ў Хобіцку – усё. Так ужо смакавалі ды абмяркоўвалі справы Чатырох Падзелаў, што нават і не заўважылі, як да іх падышоў чалавек у цёмна-зялёнай вопратцы. Некалькі хвілінаў ён стаяў побач, з усьмешкаю паглядаючы на хобітаў.

Раптам Більба падняў галаву й усклікнуў:

– А, нарэшце й ты, Дунадан!

– Швэндал! – зьдзівіўся Фрода. – Падаецца, у цябе безьліч імёнаў!

– Нешта гэную мянушку я раней ня чуў – *Швэндал*, – зазначыў Більба, – за што вы яго так празвалі?

– Так мяне клічуць у Прыгор'і, – Швэндал засьмяяўся. – Так мяне Фрода й найменавалі.

– А чаму ты клічаш яго дунаданам? – перапытаў Фрода.

– Ня проста дунаданам, а зь вялікай літары Дунаданам. Тут яго часьцяком так называюць. Мне падалося, ты дастаткова ведаеш эльфскую, каб зразумець: *дун-адан*, Чалавек Захаду, нумэнорац. Але ж цяпер няма часу для навучаньня, – ён павярнуўся да Швэндала. – Дзе ты швэндаўся, мой сябра? Чаму не наведаў бяседу? Панна Арвэн была там!

– Я ведаю, – змрочна зірнуў на Більба Швэндал, – але ж не заўсёды атрымліваецца весяліцца й баляваць. З глухамані вярнуліся Эладан з Эльрохірам і прынесьлі навіны, якія мне трэба было неадкладна выслухаць.

– Так, мой даражэнькі сябра, – сказаў Більба, – калі ты ўжо выслухаў навіны, можа, выслухаеш і мяне хвілінку-другую? Мне неадкладна патрэбная твая дапамога. Эльранд загадаў скончыць песьню да вечару, а я ніяк ня выблытаюся. Давай адыдзем у кут і даробім!

– Давай, – пагадзіўся Швэндал, усьміхаючыся. – Што за песьня?

Сэм заснуў і Фрода на некаторы час застаўся на самоце. Разгубіўся неяк і адчуў сябе зусім пакінутым, дарма што навокал столькі долаярскіх эльфаў ды іншага народу. Тыя, што сядзелі наўкол, маўкліва слухалі музыку й галасы, не зьвяртаючы ўвагі ані на што іншае. Тады й Фрода прыслухаўся.

Спачатку прыгажосьць мэлёдыяў і пераплеценых зь імі эльфскіх словаў, уплываючы ў слых, паланіла, зачаравала яго, хоць разумеў ён няшмат. Падавалася, словы ператвараюцца ў фарбы. І явы далёкіх земляў, найцудоўнейшых рэчаў якія раней і не ўяўляў сабе, пра якія й ня марыў, разьвінуліся перад ім. І полымя ў вогнішчы стала залатым туманом над пеннымі хвалямі, што ўздыхалі, плёскаючыся аб ускраек сусьвету. Зачараваньне расло й агортвала, бы сон, і ўжо бачылася: бясконцая рака золата й срэбра нясе яго, незьлічоныя ўзоры яе не разабараць, не зразумець, варажбою запоўніла паветра, запаланіла слых, зацярушыла вочы. Хутка пад яе бліскучым цяжарам Фрода пайшоў на дно, у далёкае каралеўства сну.

Там ён доўга блукаў і мроіў музыку, якая ператварылася ў плынную ваду, а потым раптам – у голас. Быццам Більба чытаў, напяваў вершаваныя радкі. Слаба напачатку, а потым і гучней зазвaнілі словы.

*Свой карабель Эярэндыль*
*наладзіў у Арверніён,*
*высокі лесу Німбрэтыль*
*часаў для карабелю ён.*
*Заткаў ён срэбрам ветразі,*
*скаваў сьвяцільні срэбныя,*
*над носам – шыяй лебедзі –*
*узьняў харугвы сьветлыя.*

*Бранёю страдаўняю,*
*кальчугай бараніў сябе,*
*на тарчы рунай моцнаю*
*ад ранаў ахаваў сябе,*
*лук зладзіў з рогу цмокава,*
*стралу – з касьці слановае,*
*калчан быў халцэдонавы,*
*а барма – луска срэбная.*
*Меч – сталь загартаваная,*
*шалом зазьзяў дыямантам,*
*над ім – пяро арлінае,*
*а на грудзёх – смарагд.*

*Пад поўняй і пад ноўчыкам*
*ад поўдню і да поўначы,*
*адчайны і разгублены,*
*блукаў ён, непрытулены,*
*ад лёду злога крайняга,*
*дзе ценяў зьмерзлых сховіны,*
*да поўдня палымянага,*
*бязьлітасна сьпякотнага.*

*Ён кіраваў пасьпешліва*
*бяззорнай цемрай вусьцішнай*
*праз ноч забараняльную,*
*сьмяротным недазвольную.*
*Але ня здолеў берагу*
*пабачыць пракаветнага,*
*шалёнаю віхураю*
*аднесены, аколены.*

*Тады скрозь цемру да яго*
*зьляцела Эльвінг, і сьвятло,*
*зырчэйшае за зорны бляск,*
*узьняла на яго чало.*
*Яна магутны Сільмарыль –*
*жывое сьвету хараство –*
*яму дала, каб карабель*
*прайшоў праз пракавету-ноч.*
*Віхур узьняўся, застагнаў*
*магутны вецер з Тармэнэль*
*і моцным подыхам пагнаў,*
*панёс упарты карабель.*
*І біўся нескароны лёс*
*аб хваляў шэрую сьцяну.*
*У вечны дзень яго прынёс*
*віхур праз гібель і ману.*

*Над лютым гармідарам хваль,*
*над пазабытаю зямлёй,*
*затопленай да першых дзён,*
*залітай мёртваю вадой,*
*пакуль прыбою мяккі пляск*
*пачуў, нібы цудоўны сон,*
*пабачыў пэрлаў ясны бляск*
*у пырсках пены залатой.*
*Узьняўся перад ім сьцяной*
*ланцуг маўклівых моцных гор,*
*вартуючы чароўны край*
*Эльдамірэ ды Валінор.*
*Жаданай завані сягнуў,*
*прычаліў шпаркі карабель*
*да эльфаў вышняе зямлі,*
*радзіны сьветлае эльдар.*
*Дзе за далінаю крутой*
*белагаловы Ільмарын,*
*над Ценяводзьдзем, бы крышталь,*
*зіхціць агнямі Тырыён.*

*Там ад шляхоў ён адпачыў.*
*Паданьні дзіўнай даўніны*
*тады пачуў, і апрануў*
*адзежы белыя эльдар.*
*Сем белых вестуноў-агнёў*
*паслалі эльфы перад ім*
*праз Калакірыю, і ён*
*прайшоў таёмнаю сьцягой –*
*туды, дзе белы Ільмарын,*
*карункаў выраку пакой,*
*туды, дзе пракавечны трон*
*Гаспадара гаспадароў,*
*рашуча крочыў, і тады*
*прароцтваў словы ён пачуў*
*людзям таёмных, назаўжды*
*пакінуўшы сьмяротны кон.*

*Тады бліскучы карабель*
*бязь ветразя ды безь вясла*
*пабудавалі для яго*
*зь міфрылу ды літога шкла,*
*і Сільмарыля зыркі квет,*
*сьцяг жыватворнага сьвятла,*
*на срэбным стажары ўзьняла*
*сваёй рукою Эльберэт.*
*Каб плыць заўжды сярод нябёс,*
*магутны несьмяротны лёс*
*і крылы вечныя дала.*

*Ад Веказем'я чыстых ніў,*
*фантанаў звонкіх галасоў*
*на крылах срэбраных ён плыў,*
*па-над Пелорамі між зор.*
*Адхонаў Ночы ён сягнуў*
*і карабель свой павярнуў*
*каб над туманам маяком,*
*чароўнай зоркаю гарэць,*
*да раніцы правадыром*
*ды мілавіцай залатой*
*па-над паўночнаю вадой*
*заўжды ў нябёсах зіхацець.*

*І над Міжзем'ем з тых часоў*
*нястомна рушыў ён і чуў*
*праклёны, стогны, плач і боль*
*няспынныя, сярод краёў*
*сваёй айчыны з даўніх дзён.*

*Магутны несьмяротны лёс*
*датуль трываць пакляўся ён,*
*датуль ня крочыць на пясок*
*сьмяротных кону берагоў,*
*пакуль ня згаснуць ясных зор*
*агні над цёмнаю вадой –*
*правадыром у ночы зьзяць,*
*заходніх земляў маяком.*

Расьпеў скончыўся. Фрода расплюшчыў вочы й пабачыў, што Більба сядзіць на крэсьліцы, аколены слухачамі, якія ўсьміхаюцца й пляскаюць яму.

– Ну, а цяпер яшчэ раз! – папрасіў эльф.

Більба ўзьняўся й пакланіўся.

– Дзякуй вялікі за пашану, Ліндыр, – сказаў ён. – Але ж было б надта стамляльна паўтараць гэта.

– Ну, толькі не для цябе, – засьмяяліся эльфы. – Мы ж ведаем, уласныя вершы аніколі цябе не стамляюць! Але ж, сапраўды, як мы можам адказаць на тваё пытаньне, пачуўшы верш аднойчы?

– Ды няўжо? – ускрычаў Більба. – Вы ня здольныя адрозьніць радкі, якія склаў Дунадан, ад маіх?

– Для нас надта цяжка адрозьніць аднаго сьмяротнага ад другога, – апраўдваўся эльф.

– Ну, гэта глупства, Ліндыр, – буркнуў Більба. – Не магу ўявіць сабе, каб вы былі ня здольныя адрозьніць чалавека ад хобіта. Грушы ад яблыкаў вы ж адрозьніваеце.

– Напэўна. Пастухі адрозьніваюць кожную сваю авечку, – сьмяяўся Ліндыр. – Дый авечкі адна адну таксама. Але ж мы не займаемся вывучэньнем сьмяротных. У нас іншыя справы.

– Ну, спрачацца ня стану. Я й так ужо зусім сонны ад гэткай колькасьці музыкі й сьпеваў. Калі жадаеце – здагадвайцеся самі, а я пайду.

Ён падняўся й падышоў да Фрода.

– Ну, скончылася, і нядрэнна, – ціхенька падзяліўся Більба, – лепей, чым я чакаў. Мяне нячаста запрашаюць прачытаць другі раз. А як табе?

– Ну, я таксама не адгадаю, якая частка чыя, – прызнаўся Фрода.

– І патрэбы няма. Фактычна, усё тут маё. Арагорн толькі настояў, каб я згадаў зялёны камень, смарагд. Яму гэта падалося істотным, ня ведаю чаму. А ўвогуле, ён, відавочна, палічыў, што я намагаюся скакнуць вышэй за галаву. Сказаў, што калі ўжо я набраўся дзёрзкасьці ствараць пад Эльрандавым дахам песьню пра Эярэндыля, дык гэта цалкам мая ўласная справа. Напэўна, ён мае рацыю.

– Ну, ня ведаю, – сказаў Фрода. – Мне падалося, што гэта якраз да месца ды ўдала, толькі вось чаму – наўрад ці патлумачу. Я ўжо й заснуў быў, калі пачуў цябе – быццам словы прыплылі аднекуль з сну. Я нават і не зразумеў, пра што гаворка, амаль да самага канца.

– Так, тут цяжка не заснуць, пакуль няма звычкі. Нам, хобітам, наўрад ці магчыма сягнуць эльфскага апэтыту да сьпеваў, расповедаў і музыкі. Іх хлебам не кармі, дай толькі памузычыць. Яны шчэ доўга будуць практыкавацца. Як наконт таго, каб прасьлізнуць у які зацішны куток ды паразмаўляць у спакоі?

– А ці магчыма гэта?

– Вядома. Забавы – ня праца. Прыходзь, сыходзь – як пажадаеш – толькі не перашкаджай.

Яны ўзьняліся, адышлі ціхенька ў цень і скіраваліся да выхаду. Сэма пакінулі – напаўсоннага, з шчасьлівай усьмешкай на твары. Хоць і ўзрадаваны Більбавай кампаніяй, Фрода адчуў і раптоўнае шкадаваньне – ня надта хацелася пакідаць залю Агменю. Калі толькі крочылі за парог, пачулі адзіны чысты голас, што выпяваў:

*А Эльберэт Гільтоніель,*
*сіліврэн пэнна мірыель*
*о мэнэль аглар эленаф!*
*На-шэрэд палан-дзірыель*
*о галадрэмін энораф,*
*Фануілас, лэ лінафон*
*нэф аэр, сі нэф аэрон!*

Фрода прыпыніўся й азірнуўся. Эльранд сядзеў на стальцы, і сьвятло полымя спачывала на ягоным твары, як летняе сонца на дрэвах. Побач зь ім сядзела панна Арвэн. У зьдзіўленьні Фрода пабачыў побач зь ёй Арагорна. Плашч ягоны быў адкінуты на сьпіну, і пад ім нібы паблісквала эльфская кальчуга. На грудзёх ягоных зьзяла зорка. Яны размаўлялі, і раптоўна Фрода падалося, што Арвэн павярнулася да яго й паглядзела – і сьвятло ейных вачэй здалёк працяла ягонае сэрца.

Ён яшчэ стаяў, зачараваны, покуль чыстыя згукі эльфавай песьні каціліся над ім дыямантам зьлітай музыкі й словаў.

– Гэта песьня пра Эльберэт, – сказаў Більба, – яны яшчэ яе прасьпяваюць, і іншыя песьні Добраславёнай Зямлі, яшчэ шмат разоў! Хадзем!

Ён завёў Фрода ў свой маленькі пакойчык з акном на сады, на поўдзень, і на другі бок цясьніны за Бруйненам. Ля вакна яны й паселі, назіраючы за калючымі зорамі над крутымі залесенымі схіламі й ціхенька гамонячы – не пра дробныя шырскія зьвесткі й не пра сьмяротныя небясьпекі й страх, якія давялося сустрэць, але пра найчысьцейшыя, найцудоўнейшыя рэчы, якія пабачылі ў гэтым сьвеце разам, пра эльфаў, зоры, дрэвы й пра мяккую восень добрага году ў лясных краёх.

Нарэшце ў дзьверы пагрукалі.

– Выбачайце, спадарове, – вытыркнулася Сэмава галава, – але ж я, вось, вырашыў пацікавіцца, ці не патрэбна вам чагосьці, га?

– І ты выбачай, Сэме Гэйхадзе, – адказаў Більба, – мяркую, ты хочаш давесьці, што твайму гаспадару трэба ў ложак?

– Ну, спадару, дык жа Рада назаўтра, і раненька, як я чуў. А ён жа толькі сёньня ўпершыню ўстаў!

– Сэме! – Більба засьмяяўся. – Ты можаш з чыстым сэрцам ісьці да Гэндальфа й абвесьціць, што гаспадар у ложку. Дабранач, Фрода! Як жа файна зноў цябе пабачыць! Ну толькі ж з хобітам і магчыма па-сапраўднаму паразмаўляць. Ведаеш, я так ужо састарэў... нават і ня ведаю, ці здолею пабачыць твае часткі нашай гісторыі. Дабранач! А я шчэ крыху пашпацырую ў садзе й зірну на зоркі Эльберэт. Добрых табе сноў!

## *2. Рада ў Эльранда*

Фрода прачнуўся рана й адчуў сябе пасьвяжэлым і бадзёрым. Пашпацыраваў па тэрасах над бурлівым, гучнагалосым Бруйненам, назіраючы, як бляднае, халоднае сонца ўздымаецца над далёкімі гарамі, а ягоныя прамяні коса сьцелюцца праз рэдкі срабрысты туман. Блішчэла раса на пажаўцелых лістах, зіхацела ў танюткім павуціньні на кожнам кусьце. Сэм крочыў побач, моўчкі, але прынюхваючыся да паветра й паглядаючы раз-пораз у подзіве на ўсход, на вялізныя вяршыні, белыя ад сьнегу.

За паваротам сьцежкі напаткалі Гэндальфа й Більба, яны сядзелі на лаве, вычасанай у камені, і гаманілі.

– Гэй! Дабранак! – усклікнуў Більба, заўважыўшы хобітаў. – Ну як, ты падрыхтаваны да вялікай Рады?

– Я падрыхтаваны да чаго заўгодна, – адказаў Фрода. – Але болей за ўсё мне карціць пашпацыраваць сёньня як сьлед па гэтай даліне. Я так хацеў бы наведаць вунь тыя сасонкі наверсе, – ён паказаў на далёкі лес высока над далінаю на поўначы.

– Пазьней у цябе будзе такая магчымасьць, – сказаў Гэндальф. – Аднак пакуль што нельга анічога плянаваць. Сёньня нам шмат чаго трэба пачуць і вырашыць.

Раптам іх гаворку перарваў адзін чысты гучны ўдар звона.

– Гэты звон кліча на Раду Эльранда! – усклікнуў Гэндальф. – Хадзем! Ты й Більба запрошаныя!

Фрода й Більба жвава пакрочылі ўсьлед за чараўніком па зьвілістай сьцежцы назад, да сядзібы. За імі, незапрошаны й пакінуты, драпатаў Сэм.

Гэндальф прывёў хобітаў да ганку, дзе Фрода ўчора напаткаў сяброў. Сьвятло яснай восеньскай раніцы ўжо лілося ў даліну. Зьнізу далятаў плёскат і дзюрчэньне імклівага струменю. Сьпявалі птушкі, і на ўсім ляжаў адбітак глыбокага, непарушнага спакою. Жахі й боль, недарэчная вандроўка, навіны пра цемру, якая разрастаецца ў сьвеце, падаліся Фрода ўсяго толькі ўспамінамі пра дрэнныя сны. Аднак твары, якія ён пабачыў, крочыўшы ў залю, былі суворыя й азмрочаныя.

Прысутнічаў Эльранд і яшчэ некалькі асобаў, што маўкліва сядзелі побач зь ім. Фрода пазнаў Гларфіндэля й Глойна. У куце туліўся Швэндал, зноў апрануты ў старую, паношаную вандроўную апратку. Эльранд паказаў Фрода на месца поруч і назваў яго суполцы.

– Вось, мае сябры, Фрода, сын Дрога. Няшмат каму давялося прайсьці праз горшыя небясьпекі на шляху да гэтага прытулку ці выканаць пры тым больш істотнае.

Тады ён назваў тых, каго Фрода не сустракаў раней. Побач з Глойнам сядзеў малады гном – ягоны сын Гімлі. З Гларфіндэлем былі яшчэ некалькі радцаў-эльфаў з Эльрандавага племені й самы галоўны сярод іх – Эрэстар. Таксама Гальдар, эльф зь Сівых Заваняў, пасыльны ад Кірдана Карабела. Дзіўнаваты эльф, апрануты ў зялёнае й бурае, Ляголас, прадстаўляў свайго бацьку Трандуйла, караля эльфаў Паўночнага Ліхалесься. Крыху далей ад яго сядзеў высокі чалавек зь ясным і высакародным тварам, цёмнавалосы, ганарлівы, з суворым позіркам шэрых вачэй.

Апрануты ён быў як коньнік, ягоная вопратка падавалася каштоўнай, як і плашч, падбіты футрам, але ж яе запэцкала доўгая вандроўка. Валасы былі падрэзаныя на ўзроўні плячэй, на шыі зьзяў срэбны абруч з адзіным белым каменем. Вялікі рог з

срэбным канчаром, падвешаны на перавязі, цяпер ляжаў на каленях. Чалавек паглядаў на Фрода й Більба ў нечаканым зьдзіўленьні.

– Вось, – Эльранд павярнуўся да Гэндальфа. – Барамір, чалавек з поўдня. Ён прыбыў зь першым сьвятлом і шукае парады. Я запрасіў яго на Раду, бо тут ён пачуе адказ на свае пытаньні.

Наўрад ці варта пераказваць тут усё, пра што вялося на Радзе. Там абмяркоўвалі шмат здарэньняў усяго вакольнага сьвету, асабліва поўдня й прастораў на ўсход ад Туманных гор. Пра тамтэйшыя падзеі да Фрода ўжо даходзілі чуткі, але весткі Глойна былі навінамі для яго, і калі гном пачаў распавядаць, Фрода слухаў уважліва. Складвалася ўражаньне, што сярод раскошы й посьпеху нястомнай працы сэрцы гномаў Самотнай гары былі занепакоеныя.

– Ужо шмат гадоў таму, – распавядаў Глойн, – цень непакою азмрочыў сэрцы нашага народу. Адкуль ён прыйшоў, мы спачатку не зразумелі. Папаўзьлі прышапты, маўляў, мы заціснуліся ў цесныя шчыліны, а ў навакольным сьвеце магчыма здабыць нашмат болей багацьця й гонару. Некаторыя ўзгадвалі Морыю, волатавую працу нашых бацькоў, Казад Дум на нашай мове. І сьцьвярджалі, што цяпер у нас хопіць і рук, і моцы, каб вярнуцца.

– Морыя! – Глойн уздыхнуў. – Цуд Поўначы! Мы надта глыбока ўкапаліся там у нетры. І абудзілі безыменны жах. Яе неабсяжныя залі ўжо так даўно запустэчаныя – з тых часоў, калі нашчадкі Дарына пакінулі іх, шукаючы паратунку. Цяпер мы зноў загаварылі пра яе – з сумам і страхам, бо цягам жыцьця шматлікіх каралёў аніводны гном не адважваўся крочыць за браму Казад Думу. Адзіны Трор, і той загінуў там. Але Балін прыхіліў слых да чутак і ўрэшце сышоў. Хоць Дайн і ня даў яму дазволу, Балін зманіў з сабою на поўдзень Оры, Ойна й шмат іншых з нашага народу.

Тое было амаль трыццаць гадоў таму. Спачатку ад іх даходзілі файныя весткі: яны прабраліся ў Морыю, пачалі працаваць. Потым – цішыня. І за ўсе апошнія гады пра іх не чуваць.

Але амаль год таму да Дайна прыбыў ганец. Ня з Морыі – з Мордару. Вершнік у ночы. Ён паклікаў Дайна да брамы. Сказаў: "Уладар Саўрон Вялікі жадае сябраваць з табою. За гэтае, як у даўніну, дасьць пярсьцёнкі. Ён хоча тэрмінова вызнаць, хто такія хобіты й дзе жывуць. Бо Саўрон ведае, – дадаў ён, – што ты калісьці знаўся з адным".

Мы адразу не адказалі яму, бо вельмі занепакоіліся. Тады ён крыху памякчыў свой люты голас, хоць тое ў яго ня надта атрымалася, і ўжо цішэй вымавіў: "Як сымбаль сяброўства Саўрон просіць цябе, каб ты знайшоў гэтага хобіта-злодзея, – менавіта гэтак ён і сказаў, – і прымусіў яго вярнуць маленькі пярсьцёнак, дробязь, цацку, якую ён калісьці скраў. Гэта ўсяго толькі забаўка майго гаспадара, але калі вы яе вернеце, *гаспадар* палічыць гэта сапраўдным доказам вашых добрых намераў. Вярніце пярсьцёнак – і тры пярсьцёнкі даўніх гномскіх цароў зноў будуць вашымі, і каралеўства Морыі зноў вернецца да вас назаўсёды. Прынясіце хоць бы навіны, дзе жыве злодзей, калі ён яшчэ жывы, і ўзнагарода майго гаспадара будзе шчодрай, а сяброўства – доўгім. А калі адмовіцеся, вашыя справы пойдуць пад адхон. Вы адмовіцеся?"

І, выдыхаючы, зашыпеў зьмяюча, з такой злосьцю, што ўсе побач з Дайнам уздрыгнулі. А Дайн адказаў: "Пакуль што я не скажу ні *так*, ні *не*. Такую прапанову трэба абмеркаваць дый разгледзець, што яна хавае пад файнай абгорткай". "Абмяркоўвай, ды не цягні", – папярэдзіў ганец. "Колькі часу мне абмяркоўваць, я вырашу сам", – адказаў Дайн. "Пакуль яшчэ так", – прашыпеў ганец ды зьнік у цемры.

З таго часу цяжка на сэрцах нашых правадыроў. Нават калі б голас ганца быў салодкі, як мёд, анікому ня трэба даводзіць, што ў словах ягоных – пагроза й мана. Бо мы ўжо ведалі, што ў Мордары ўзьнялася колішняя чорная моц. Тая самая, што столькі разоў здраджвала нам і падманвала нас у даўніну. Двойчы вяртаўся ганец, і двойчы зьяжджаў без адказу. І сказаў, што напрыканцы гэтага году зьявіцца апошні раз.

І таму мяне паслалі нарэшце папярэдзіць Більба, што Вораг шукае яго, а таксама высьветліць, калі мажліва, чаму *ён* шукае Більбаў пярсьцёнак, калі гэты пярсьцёнак насамрэч такая дробязь. Да таго ж нам патрэбная парада Эльранда. Бо Цень расьце й набліжаецца. Мы дазналіся, што ганцы наведалі й караля Бранда ў Доле й што ён напалоханы. Мы мяркуем, што ён можа паддацца. Бо вайна ўжо коціцца да ягоных усходніх межаў. Калі мы не адкажам, Вораг можа загадаць падуладным яму людзям рушыць на караля Бранда, дый на нас таксама.

– Добра, што вы прыйшлі сюды, – сказаў Эльранд. – Бо сёньня пачуеце дастаткова, каб зразумець намеры Ворага. Каб зразумець, што адзінае выйсьце – супрацьстаяць яму з надзеяй на перамогу ці без. Вы не самотныя. Вашая бяда – толькі частка вялікай бяды, якая напаткала ўвесь заходні сьвет. Пярсьцёнак! Што ж нам рабіць з дробязьзю й цацкай, улюбёнай забаўкай Саўрона? У вырашэньні гэтага – лёс, які мы сабе прызначым.

Дзеля гэтага мы ўсе закліканыя сюды. Я кажу "закліканыя" хоць ня я клікаў вас. Вы прыйшлі сюды, якраз калі нашая сустрэча яшчэ магчымая й небессэнсоўная, мы сабраліся нібыта выпадкова. Аднак гэта ня так. Паверце, нам, прысутным, прызначана было зьявіцца тут, каб выратаваць наш сусьвет ад небясьпекі.

Таму цяпер гаворка пойдзе пра рэчы, якія ведалі дасюль толькі абраныя. І найперш, каб зразумець пагрозу, трэба пачуць гісторыю пярсьцёнка ад самага пачатку да нашых дзён. Я пачну распавядаць – скончаць іншыя.

Эльранд ясным голасам распавядаў пра Саўрона й Пярсьцёнкі Ўлады, пра тое, як скавалі іх у Другую эпоху, шмат стагодзьдзяў таму. Часткі гэтай гісторыі некаторыя ведалі, але цалкам яе ня чуў ніхто, і таму многія ў страху й подзіве слухалі пра эльфаў-кавалёў Эрэгіёну й іх сяброўства з гномамі Морыі, пра іх прагу ведаў, празь якую Саўрон і здолеў падмануць іх. Бо ў той час Саўрон яшчэ не выглядаў жудасна й злавесна. Эльфы карысталіся ягонымі парадамі, іх майстэрства ўзвысілася, а ён вызнаў усе іхнія сакрэты. А пасьля здрадзіў, скаваўшы таемна ў Вогненнай гары Адзіны Пярсьцёнак, Пярсьцёнак-гаспадар, каб закабаліць эльфаў. Але Келебрымбар здагадаўся й схаваў скаваныя ім тры пярсьцёнкі. Пачалася вайна. Эрэгіён быў спустошаны, і брамы Морыі зачыніліся назаўжды.

Тады Эльранд распавёў, што рабілася зь пярсьцёнкам пасьля. Аднак пра гэта можна даведацца зь іншых крыніцаў, таму што Эльранд сам упісаў гэтую частку гісторыі ў свае хронікі. Мы ня будзем згадваць яе тут. Бо яна даўжэзная, паўнюткая вялікімі зьдзяйсьненьнямі й жудаснымі злачынствамі. Хоць Эльранд толькі коратка пераказаў яе, сонца паднялося высока й раніца скончылася раней, чым ён закончыў расповед.

Пра Нумэнор распавёў Эльранд, пра ягоную веліч і гібель, пра вяртаньне каралёў – людзей з-за мора, прынесеных на крылах буры. Элендыль Высокі й ягоныя сыны, Ісільдар і Анарыён, зрабіліся магутнымі ўладарамі, пабудаваўшы каралеўства на поўначы, у Арнары, і на поўдні, вышэй за вусьце Андуйну. Саўрон Мордарскі пайшоў на іх вайною, і тады ўтварыўся Апошні Зьвяз эльфаў і людзей, які сабраў войскі Гіль-Галяда й Элендыля ў Арнары.

Эльранд прыпыніўся, згадаўшы Апошні Зьвяз, і ўздыхнуў:

– Я добра памятаю ганарлівае хараство іх сьцягоў. Яно нагадала мне гонар Даўніх дзён і войска Белерыянду. Колькі там сабралася вялікіх князёў і ваяводаў! Хоць і ня столькі, як падчас асады й руйнаваньня Тангарадрыму, калі эльфы палічылі зло зьнішчаным назаўсёды – і так памыліліся!

– Вы памятаеце? – спытаў Фрода ад зьдзіву нечакана гучна. – Але ж я лічыў, – прамармытаў, запінаючыся, калі Эльранд павярнуўся да яго, – што Гіль-Галяд загінуў даўным-даўно.

– Менавіта так, – адказаў Эльранд сувора. – Бо ў маёй памяці – і дні Першай эпохі. Мой бацька – Эярэндыль, народжаны ў Гандаліне да ягонай паразы, мая маці – Эльвінг, дачка Дыёра, сына Люціені з Дарыяту. Я бачыў на свае вочы тры эпохі Міжзем'я. Бачыў шматлікія паразы й бясплодныя перамогі. Я быў герольдам Гіль-Галяда й выправіўся зь ягоным войскам. Удзельнічаў у вялікай бітве на Дагорладзе перад Чорнай Брамай Мордару, дзе мы перамаглі, бо ніхто ня здолеў супрацьстаяць Дзідзе Гіль-Галяда й Мечу Элендыля, Айгласу й Нарсілю. Я змагаўся ў апошняй бітве на схілах Арадруйну, дзе загінуў Гіль-Галяд і Нарсіль зламаўся пад целам забітага Элендыля, – але ж Саўрон быў таксама пераможаны, і Ісільдар абламаным бацькавым мечам адсек пярсьцёнак з Саўронавай рукі й забраў сабе.

Тут раптоўна ўблытаўся незнаёмца, Барамір.

– Дык вось што здарылася зь пярсьцёнкам! – усклікнуў ён. – Калі зьвесткі пра тое й сягнулі Поўдня, на іх даўно ўжо забыліся. Я чуў пра Вялікі Пярсьцёнак таго, чыё імя мы не называем, але мы лічылі, што ён зьнік з гэтага сьвету разам з гібельлю першага ягонага каралеўства. Ісільдар завалодаў ім! Вось у чым справа!

– На жаль, так, – пацьвердзіў Эльранд. – Ісільдар завалодаў ім, хоць і не павінен быў. Ён мусіў адразу ж кінуць яго ў полымя Арадруйну, дзе пярсьцёнак і нарадзіўся. Але няшмат хто заўважыў, што зрабіў Ісільдар. У апошняй сьмяротнай бойцы побач зь Ісільдарам змагаўся толькі ягоны бацька, а побач з Гіль-Галядам – толькі я й Кірдан. Ісільдар не паслухаў нашай парады. Сказаў: "Пярсьцёнак – віра за маіх бацьку й брата". І, хацелі мы таго ці не, забраў яго ва ўласнае валоданьне. Неўзабаве пярсьцёнак здрадзіў яму й загубіў яго. Таму й клічуць пярсьцёнак Ворага на поўначы Праклёнам Ісільдара. Хоць сьмерць, мажліва, лепшая за лёс, які мог яго напаткаць.

Толькі да Поўначы дайшлі зьвесткі пра сьмерць Ісільдара, і мала хто чуў іх. Таму нядзіўна, што ты, Барамір, ня ведаеш гэтага. З пагібельнай бойкі на Квятных Панізьзях вярнуліся толькі трое, пасьля доўгай вандроўкі праз горы. Адным зь іх быў Ахтар, збраяносец Ісільдара, які перадаў кавалкі Нарсіля Валандылю, спадчыньніку Ісільдара. Той быў яшчэ дзіцем і заставаўся тут, у Долым Яры. Сьвятло зламанага Нарсіля згасла, і дасюль ён не перакаваны.

Я назваў перамогу Апошняга Зьвязу бясплоднай? Не зусім так – але сваёй мэты яна не дасягнула. Саўронаву моц зьнішчылі – але самога яго не. Пярсьцёнак згубіўся – але яго не расплавілі. Цёмную вежу разбурылі – але засталіся яе падмуркі, бо іх збудавалі моцай пярсьцёнка, і пакуль пярсьцёнак цэлы, яны непарушныя. Мноства эльфаў і магутных людзей, мноства іх паплечнікаў забрала вайна. Загінулі Анарыён і Ісільдар, ня стала Гіль-Галяда з Элендылем. Аніколі болей не паўстане зноў такі зьвяз людзей і эльфаў, бо людзі памнажаюцца, а Першанароджаных застаецца ўсё меней і меней, і два народы ўсё чужэй глядзяць адзін на другога. Кроў Нумэнору вадчэе, і людзкія гады скарачаюцца.

На Поўначы пасьля вайны й бяды на Квятных Панізьзях людзей Захаду засталося няшмат, і паступова горад Анумінас ля возера Сутоні запусьцеў. Нашчадкі

Валандыля закінулі яго й перабраліся ў Форнаст на Паўночным пагор'і. Цяпер і ён ляжыць у руінах. Людзі завуць яго Мерцьвяковай Гароднай і баяцца заходзіць туды. Бо народ Арнару вымер, ворагі вынішчылі людзей, час зруйнаваў муры, і ўлада ягоная сышла, пакінуўшы толькі зарослыя травою курганы на пагор'і.

На поўдні каралеўства Гондару трывала лепей, і доўгі час гонар і моц ягоныя разрасталіся, нагадваючы веліч Нумэнору ў апошнія гады. Будаваліся высокія вежы, моцныя крэпасьці, шырокія завані з мноствам караблёў. Крылатая карона людзкіх каралёў трымала пад сабою шэраг народаў, і яшчэ болей схіляліся перад яе ўладай. Сталіцаю каралеўства быў Азгіліят, Зорная Цытадэль, пасярод якой бегла Вялікая рака, Андуйн. На ўсходзе, на атовілку гор Ценю пабудавалі Мінас Ітыль, вежу Узыходнай Поўні. На захадзе, у адгор'ях Белых гор, узьнялі Мінас Анор, вежу Заходнага Сонца. Там каля каралеўскага палацу расло цудоўнае дрэва, насеньне якога Ісільдар прынёс з-за мора, а ў Нумэноры яно прарасло зь зернетак, прывезеных эльфамі з Эрэсэі. Насеньне ж тое – з Найдалейшага Захаду ад дзён маладога сусьвету.

Гады Міжзем'я бягуць, як вада, і род нашчадкаў Мэнэльдыля, сына Анарыёна, абарваўся. Белае дрэва засохла, кроў нумэнорцаў зьмяшалася з крывёю меншых людзей. Варта на сьценах Мордару забылася на свой абавязак, і цемра зноў прапаўзла праз Гаргарат. Чорныя здані рушылі наперад, авалодалі Мінас Ітылем, ператварыўшы яго ў месца суцэльнага жаху. Цяпер імя яму – Мінас Моргул, вежа Вядзьмарства. Тады й Мінас Анор атрымаў другое імя – Мінас Тырыт, вежа Варты. Паміж гарадамі заўжды з таго часу была вайна. Азгіліят, што ляжаў між імі, закінулі й зруйнавалі. Толькі цені блукаюць цяпер у ягоных камянёх.

Пакаленьні за пакаленьнямі цягнецца вайна. Але ўладары Мінас Тырыту яшчэ змагаюцца, адбіваючы напады, і Андуйн яшчэ вольны ад Арганатаў да мора.

На тым я скончу маю частку расповеду. У Ісільдаравы дні Адзіны Пярсьцёнак зьнік з вачэй мудрых, і тры эльфавы кляйнодзікі вызваліліся з-пад ягонай улады. Але цяпер яны зноў у небясьпецы, бо, на гора нам, Адзіны знайшоўся. Пра знаходку распавядуць іншыя, бо я маю малое дачыненьне да тых падзеяў.

Ён змоўк, але адразу ж узьняўся Барамір, высокі, ганарысты.

– Дазвольце мне, гаспадару Эльрандзе, – вымавіў ён, – сказаць найперш за Гондар, бо менавіта адтуль я прыбыў сюды. Усім карысна будзе вызнаць, што адбываецца там. Бо, падаецца мне, мала хто ведае пра нашыя зьдзяйсьненьні й таму наўрад ці здагадваецца пра небясьпеку, што пагражае, калі мы ня вытрымаем.

Паверце, у Гондары яшчэ не станчэла кроў Нумэнору, не забытыя ягоныя гонар і годнасьць. Нашая мужнасьць стрымлівае дзікуноў Усходу, утаймоўвае мордарскі жах. Мы адныя – вартавыя міру й свабоды для земляў за намі. Мы – бастыён Захаду. Аднак вы ўяўляеце, што адбудзецца, калі мы страцім Андуйн і землі вакол яго?

А гэты час набліжаецца. Безыменны Вораг узьняўся наноў. Зноў задыміўся Адрадруйн, які мы клічам гарою Выраку. Моц Чорнай Зямлі расьце, і нам даводзіцца ўсё цяжэй. Калі Вораг вярнуўся ў Мордар, нас выціснулі зь Ітыльёну, прыгожага краю на ўсход ад ракі, хоць мы яшчэ ўтрымлівалі апірышча там і моцную харугву ваяроў. Але ў гэтым годзе, у ліпні, навала з Мордару абрынулася на нас – і зьнесла прэч. Іх было нашмат болей, бо на дапамогу Мордару прыйшлі ўсходнікі й жорсткія харадрымы. Тым ня менш перамагла ня колькасьць ворагаў – перамагло незнаёмае дасюль зло.

Некаторыя кажуць: яно мае выгляд вялізманага чорнага вершніка, чорнага ценю пад месяцовым сьвятлом. Калі ён зьяўляецца, нашыя ворагі б'юцца як шалёныя. А нават найадважнейшыя з нас паддаюцца жаху, і людзі, і коні, і ўцякаюць бяздумна.

Толькі малая рэшта нашага ўсходняга войска здолела вярнуцца за раку, разбурыўшы апошні мост, які яшчэ стаяў сярод руінаў Азгіліяту.

Я быў сярод тых, хто ўтрымліваў мост, пакуль яго разбуралі за намі. З нас толькі чацьвёра выратаваліся: я, мой брат і два ваяры. Мы яшчэ змагаемся, трымаючы ўвесь заходні бераг Андуйну. Тыя, каго мы абараняем, шануюць нашае імя, калі толькі ведаюць яго, – шмат пашаны, але аніякай дапамогі. Толькі Рохан цяпер шле падмацаваньні, калі мы просім пра іх.

У такую ліхую часіну выправіўся я за мноства недарэчных міляў да Эльранда. Сто й яшчэ дзесяць дзён я вандраваў у самоце. Аднак я не шукаю вайсковай дапамогі. Кажуць, моц Эльранда ня ў зброі – у мудрасьці. Я прыйшоў сюды па параду, па разгадку таемных словаў. Бо перад самым варожым нападам мой брат пабачыў трывожны сон. І пасьля гэты самы сон прыйшоў да яго зноўку, а таксама да мяне.

У сьне нябёсы на ўсходзе сьцямнелі, загрукаталі грымоты, але на захадзе яшчэ трымалася няпэўнае сьвятло, і зь яго пачуўся голас, далёкі, але ясны:

*Шукайце клінок зламаны,*
*У Імладрысе ён чакае.*
*Рада вялікай пашаны*
*Чары перамагае.*
*Адчуйце лёс прадказаны,*
*Апошніх часоў навіны:*
*Кон, Ісільдару вінны,*
*Паўросьліку наканаваны.*

Тых словаў мы не зразумелі й папрасілі парады ў нашага бацькі, Дэнэтара, гаспадара Мінас Тырыту, дасьведчанага ў мудрасьці Гондару. Але ён толькі давёў нам, што Імладрыс – гэта стары эльфскі назоў далёкай паўночнай даліны, дзе жыве Эльранд Паўэльф, найвялікшы з дасьведчаных. Таму мой брат, разумеючы, якая бяда пагражае нам, імкнуўся разгадаць прароцтва й скіравацца ў Імладрыс. Аднак я палічыў вандроўку надта небясьпечнай і цяжкой для яго й таму выправіўся сам. Мой бацька неахвотна дазволіў мне ехаць. Я доўга блукаў па забытых шляхох, шукаючы сядзібу Эльранда, пра якую шмат хто чуў, але да якой мала хто мог паказаць шлях.

– І тут, пад Эльрандавым дахам, ты пачуеш разгадку, – азваўся Арагорн, паўстаючы.

Ён паклаў свой меч на стол перад Эльрандам. Меч, пераламаны надвая.

– Вось Зламаны Клінок! – выклікнуў Арагорн.

– Хто ты? Што лучыць цябе зь Мінас Тырытам? – Барамір зьдзіўлена аглядаў худы твар Арагорна й сьледапытаў паношаны плашч.

– Ён – Арагорн, сын Араторна, – давёў Эльранд, – далёкі, але прамы нашчадак Ісільдара, уладара Мінас Ітылю, сына Элендыля. Ён – правадыр дунаданаў Поўначы, хоць і няшмат засталося ад яго народу.

– Тады ён належыць табе, зусім ня мне! – ускрыкнуў уражаны Фрода, ускокваючы. Ён чакаў, што ад яго зараз жа спатрабуюць аддаць пярсьцёнак.

– Ён не належыць анікому з нас, – запярэчыў Арагорн. – Але ж выпала, што пакуль захоўваць яго павінен ты.

– Пакажы нам пярсьцёнак, Фрода! – урачыста папрасіў Гэндальф. – Час надышоў. Пакажы яго, і Барамір зразумее прароцтва.

Усе змоўклі, пазіраючы на Фрода. Той зьбянтэжыўся: адчуў неверагодны сорам ды страх. Надта не хацелася даставаць пярсьцёнак, невыносна было нават крануць яго. Навошта ён тут, ну ці ня лепей было б застацца недзе падалей адсюль?

Пярсьцёнак зіхотка выблiснуў, калі Фрода нарэшце выцягнуў яго й паказаў, трымаючы на дрыготкай далоні.

– Зірніце на Праклён Ісільдара! – абвесьціў Эльранд.

У Бараміравых вачох, падалося, адбіўся залаты бляск пярсьцёнка.

– Паўросьлік, – прамармытаў ён. – Значыць, надышоў нарэшце апошні час Мінас Тырыту? Навошта ж тады нам шукаць Зламаны Клінок?

– У прароцтве вялося пра апошнія часы, але не апошнія часы Мінас Тырыту, – патлумачыў Арагорн. – Зламаны клінок – гэта меч Элендыля, які зламаўся, калі Элендыль загінуў. Гэты меч яго нашчадкі захоўвалі нават і тады, калі ўсе астатнія кляйноды спадчыны страцiліся. Бо з даўніх часоў мы ведалі: клінок адкуюць, калі знойдзецца пярсьцёнак, Праклён Ісільдара. Цяпер ты пабачыў меч, які шукаў. Што яшчэ засталося няяснага? Ці хочаш ты, каб род Элендыля вярнуўся да гондарскай зямлі?

– Я ехаў сюды не для таго, каб выпрошваць дапамогу. Толькі каб разгадаць загадку, – адказаў Барамір ганарыста. – Хоць нам цяпер цяжка, і меч Элендыля для нас – падарунак звыш ад усялякай надзеі, калі гэткая рэч і сапраўды здольная вярнуцца зь ценяў мінулага.

Ён глянуў на Арагорна, і сумнеў чытаўся ў ягоным позірку.

Фрода адчуў, што Більба нецярпліва соўгаецца. Відавочна, яго раззлавала кпіна ў бок сябра. Раптоўна стары хобіт ускочыў дый выпаліў:

*Скарб сапраўдны вачэй не падмане,*
*Сілу ня згубіць вандроўны лёс.*
*Слава былая пылам ня стане,*
*Старых каранёў не кранае мароз.*
*Абудзіцца з попелу дух палымяны,*
*Зь цемры зазьзяе сьвятло новых дзён,*
*Меч абламаны будзе скаваны,*
*Пазбаўлены трону – узыдзе на трон.*

– Можа, і ня надта добра складзена, але якраз да месца, калі вам ужо патрэбна нешта болей за слова Эльранда. Калі ўжо вы сто ды шчэ дзесяць дзён вандравалі, каб пачуць, дык ужо прыслухайцеся, зрабіце ласку.

Ён сеў, фыркнуўшы.

– Я сам гэта склаў, – прашаптаў на вуха Фрода, – для Дунадана, даўнютка, калі ён упершыню распавёў мне пра сябе. Мне ўжо нават і закарцела, каб мая вандроўка падоўжылася, каб я здолеў крочыць побач зь ім, калі надыдзе ягоны дзень!

Арагорн усьміхнуўся Більба, тады павярнуўся да Бараміра.

– Што тычыцца мяне – я дарую табе сумнеў. Бо няшмат падабенства паміж мною ды абліччамі Элендыля зь Ісільдарам ва ўсёй іх магутнасьці, якія ты бачыў у залях Дэнэтара. Я – нашчадак Ісільдара, а ня сам Ісільдар. Я шмат чаго зьведаў у жыцьці. Мілі паміж Долым Ярам і Гондарам – малая частка таго, што мне давялося прайсьці цягам маіх вандровак. Я перайшоў шмат гор і рэк, сягаў нават далёкіх краінаў Руну й Хараду, дзе сьвецяць чужыя зоры.

Але сядзіба мая й жыцьцё – заўсёды тут, на Поўначы. Бо тут заўжды жылі нашчадкі Элендыля, і род іхні, ад бацькі да сына, не парываўся цягам мноства пакаленьняў. Дні нашыя азмрочыліся, нас засталася жменя. Але я скажу табе, Барамір, – так, няхай мы самотныя, няхай невядомыя сьледапыты глухамані, паляўнічыя, аднак мы палюем на варожых прыслужнікаў. Бо яны ня толькі ў Мордары.

Гондар – моцная камяніца супроць варожай навалы. Нашая доля іншая. Ёсьць мноства ліхіх пачвараў, якіх не стрымаюць моцныя сьцены й зіхоткія мечы. Вы няшмат ведаеце пра краі за вашымі межамі. Вы абараняеце мір ды волю, ты кажаш? Поўнач наўрад ці ведала б іх, калі б ня мы. На іх месцы панаваў бы жах. Аднак калі чорныя здані выпаўзаюць з-пад безыменных пагоркаў, з змрочных лясоў, яны адступаюць перад намі. Па якіх шляхох хто адважыўся б спакойна крочыць, як здолеў бы жыць у цяперашніх спакойных землях, як спаў бы просты народ у безабаронных хацінах па начох, калі б дунаданы заснулі ці ўсе сышлі ў зямлю?

А падзякі нам куды меней, чым вам. Вандроўнікі крывяцца, пазіраючы на нас. Сяляне даюць нам кплівыя мянушкі. Для аднаго тоўстага шынкара я – Швэндал. А ён жыве за дзень вандроўкі ад пачвараў, якія зруйнавалі б ягонае мястэчка ды адным махам зьмярцьвілі б яго, каб мы не пільнавалі няспынна ваколіцы. Іншага мы й не жадаем. Калі простаму народу жывецца спакойна й небаязьліва – няхай жывецца, мы ня станем яго палохаць, і зробім усё, каб так было й надалей. Такі клопат у маёй радзіны цягам незьлічоных гадоў.

Але цяпер сусьвет мяняецца. Надыходзіць новы час. Знайшоўся Праклён Ісільдара. Нас чакае вайна. Меч будзе скаваны зноў. Я прыду ў Мінас Тырыт.

– Ты кажаш, знайшоўся Праклён Ісільдара? – спытаў Барамір. – Так, я бачыў зіхоткі пярсьцёнчык у руцэ паўрослыка. Ісільдар загінуў, як кажуць, яшчэ да пачатку нашай эпохі. Чаму мудрыя лічаць, што гэта – ягоны пярсьцёнак? Дзе ён быў з часоў гібелі Ісільдара да таго, як яго прынёс сюды такі дзівосны ганец?

– Ты пачуеш гэта, – абвесьціў Эльранд.

– Але ж не цяпер, прашу вас, гаспадар! – узмаліўся Більба. – Сонца ўжо высока, амаль поўдзень, мне ж трэба нечым падсілкавацца, каб вытрымаць.

– Я не назваў твайго імя, – Эльранд усьміхнуўся. – Але назаву цяпер. Распавядзі сваю гісторыю, шаноўны Більба Торбінс! Калі не пераклаў яе вершамі, прамоў простымі словамі. Чым карацей яна атрымаецца, тым хутчэй ты адпачнеш ды падмацуесься.

– Ладачкі. Я зраблю, як вашаць просіць. Толькі цяпер я распавяду сапраўдную гісторыю, і калі нехта чуў калісьці нешта іншае, – Більба скасіўся на Глойна, – калі ласка, забудзьцеся на былое й даруйце мне. Я толькі хацеў пераканаць, што каштоўнасьць сапраўды мая, каб пазьбегнуць плявузгаў ды абвінавачваньня ў злодзействе. Цяпер я разумею крыху болей, чым тады. Вось што адбылося на самай справе.

Некаторыя чулі Більбаў расповед упершыню й слухалі, дзівячыся, пакуль стары хобіт, не такі ўжо й раздражнёны затрымкаю абеду, а хутчэй – відавочна ўсьцешаны ўвагай, апісваў сваю прыгоду з Глыксам – цалкам і дэталёва. Не забыўся аніводнай загадкі. Ён таксама распавёў бы й пра разьвітальную Вечарыну, і пра зьнікненьне й сыход з Шыру, калі дазволілі б. Але Эльранд падняў руку.

– Файна распаведзена, мой сябра, – спыніў ён. – Аднак пакуль што мы пачулі дастаткова. Бо мы зразумелі, што пярсьцёнак перайшоў да Фрода, твайго спадчыньніка. Няхай далей прамаўляе ён!

Тады, зь меншым імпэтам, чым Більба, расповед працягнуў Фрода – ад самых першых дзён пасьля таго, як пярсьцёнак трапіў да яго. Слухачы распытвалі пра кожны крок на шляху ад Хобіцку да Бруйненскага броду. Асабліва падрабязна й уважліва – пра Чорных Вершнікаў, пра кожную дробязь, якую ён толькі здолеў выцягнуць з памяці. Нарэшце яму дазволілі сесьці.

– Нядрэнна, зусім нядрэнна, – пракамэнтаваў Більба. – Такі цудоўны аповед атрымаўся, каб яны толькі не перабівалі на кожным слове. Я паспрабаваў зрабіць сякі-такі запіс, але нам трэба прайсьціся па ім калі-кольвек разам, калі ўжо я намерыўся запісаць тваю гісторыю. Матэрыялу на некалькі добрых частак – і ўжо зараз, калі ты толькі дабраўся сюды!

– Так, гісторыя атрымалася доўгая, – пацьвердзіў Фрода. – Але мне яна падаецца няпоўнай. Шмат пра што карціць даведацца – асабліва ад Гэндальфа.

Гальдар з Заваняў, які сядзеў побач, пачуў Фродавы словы й выгукнуў:

– Мне таксама, – ён павярнуўся да Эльранда. – Мудрыя, мажліва, і маюць важкія нагоды, каб лічыць, што паўросьлікава здабыча – сапраўды Вялікі Пярсьцёнак даўняй вайны, хоць тое й падаецца неверагодным тым, хто ведае меней. Але чаму нам ня выслухаць доказаў ад мудрых? І што пра гэта лічыць Саруман? Ён – найпершы ў ведах і вывучэньні пярсьцёнкаў. Аднак я ня бачу яго тут. Што радзіць ён, калі ён ведае пра тое, што распавядаецца тут?

– Твае пытаньні, Гальдар, злучаныя, – адказаў Эльранд. – Тое, пра што ты пытаесься, не пазабытае – проста яшчэ не надышоў час. Бо пра гэта належыць распавесьці Гэндальфу, якога я запрашаю прамаўляць апошнім. Ён мае права на завяршальныя словы – і таму, што яму належыць пачэснае права апошняга голасу на гэтай Радзе, і таму, што ён найбольш дасьведчаны ў справе.

– Гальдар, некаторыя задумаліся б над Глойнавымі зьвесткамі й над пагоняю за Фрода, – сказаў Гэндальф. – Ужо адно тое – доказ, што паўросьлікава здабыча – рэч незвычайна істотная для Ворага. Здабыча гэтая – пярсьцёнак. Які? Дзевяць – у назгулаў. Сем гномскіх – у Ворага ці зьнішчаныя.

На гэтых словах Глойн паварушыўся, але анічога ня вымавіў.

– Пра тры эльфскія ўсё вядома, – прадоўжыў Гэндальф. – Дык каторы так хоча прыдбаць Вораг? Сапраўды, існуе велічэзны правал паміж ракой і гарой, паміж стратай пярсьцёнка й знаходкай. Гэты недахоп у ведах нарэшце запоўнены, але надта позна. Бо Вораг упарта крочыць за намі, і ён бліжэй, чым я ўяўляў сабе. Аднак нам шанцуе, бо толькі сёлета, толькі гэтым самым летам ён, відавочна, і вызнаў суцэльную праўду.

Некаторыя, магчыма, памятаюць, што шмат гадоў таму я сам адважыўся прайсьці за браму Нэкраманта ў Дул Гулдуры, высачыць ягоныя справы й дзеі, і высьветліў, што нашыя страхі спраўдзіліся: бо Нэкрамант – ня хто іншы як даўні вораг Саўрон, які зноў уцялесьніўся й набірае моцы. Некаторыя, можа, таксама ўзгадаюць, што Саруман пераканаў нас не рэагаваць адразу ж, і мы доўгі час толькі назіралі здалёк. Урэшце, калі цень ліха падоўжыўся, Саруман пагадзіўся, Рада мудрых сабралася зь сіламі й выгнала зло зь Ліхалесься ў тым самым годзе, калі знайшоўся пярсьцёнак – дзіўнаватае супадзеньне, калі супадзеньне ўвогуле.

Але, як і прадказваў Эльранд, мы спазьніліся. Саўрон таксама сачыў за намі й загадзя падрыхтаваўся да нашага наступу, кіруючы Мордарам здаля празь Мінас

Моргул, дзе сядзелі дзевяць ягоных паслугачоў. Перад нашай атакаю ён спрытна адступіў, толькі імітуючы супрацў і ўцёкі, неўзабаве сягнуў Цёмнай вежы й адкрыта абвесьціў уладу над Мордарам. Тады Сьветлая Рада сабралася ў апошні раз, бо мы баяліся, што цяпер Вораг прымецца шукаць Адзіны Пярсьцёнак. Баяліся, што ён ужо ведае нешта, не вядомае нам. Але Саруман зноў супакоіў нас, паўтараючы даўнія словы: *Адзіны аніколі болей ня знойдзецца ў Міжзем'і*.

"У найгоршым выпадку, – даводзіў ён, – Вораг ведае, што ў нас пярсьцёнка няма, што ён згубіўся. І лічыць, што згубленае мажліва адшукаць. Ня бойцеся таго! Ягоная надзея падмане яго. Ці ж я не вывучаў тую справу? Пярсьцёнак згінуў у Вялікім Андуйне. Ужо даўно, пакуль Саўрон спаў, бесьцялесны, рака вынесла пярсьцёнак у мора. Там ён і супакоіцца да скону дзён сьвету".

Гэндальф змоўк, пазіраючы за ганак, на далёкія пікі Туманных гор, ля чыіх магутных каранёў так доўга хавалася небясьпека ўсяго сусьвету. Уздыхнуў цяжка.

– Тут мая віна. Мяне залюлялі словы Сарумана мудрага. Мне належала вышукаць ісьціну раней – тады нашая небясьпека не была б гэткаю змрочнаю.

– Тут нашая агульная віна, – сказаў Эльранд. – Калі б не твая няспынная варта над Цемраю, яна, мажліва, ужо паглынула б нас. Але распавядай далей!

– Напачатку насуперак рацыі й доказам сэрца падказала мне, што нешта тут нядобра. І мне хацелася ведаць, якім чынам патрапіў да Глыкса ягоны пярсьцёнак, дый колькі ж ён ім валодаў. Таму я выправіў за ім віжоў, палічыўшы, што доўга ён сядзець пад гарою ня стане й пойдзе на пошукі свайго скарбу. І ён, сапраўды, вылез з-пад гары, але ўцёк з-пад нагляду й зьнік. А потым – як шкада! – я выпусьціў справу з рук, усяго толькі назіраючы й чакаючы, чым мы сябе ў апошні час часьцяком абмяжоўвалі.

Доўга мяне займалі іншыя справы пакуль сумнеў зноў не абудзіўся з падвойнай сілай. Адкуль хобіцкі пярсьцёнак? А калі мае страхі спраўдзяцца, што рабіць зь ім? Я павінен быў вырашыць. Аднак ні з кім сумневамі не дзяліўся, ведаючы, колькі шкоды можа нарабіць слова, якое ня ў час патрапіць у непадрыхтаваныя вушы ці ўвогуле ня ў тыя. У час доўгіх войнаў зь Цёмнай вежай здрада была нашым найгоршым ворагам.

Гэта адбылося сямнаццаць гадоў таму. Неўзабаве я даведаўся пра мноства самых разнастайных шпегаў, нават зьвяроў і птушак, якія сабраліся вакол Шыру, і мае страхі яшчэ вырасьлі. Я папрасіў дапамогі ў дунаданаў. Яны ўзмацнілі варту. А я даверыўся Арагорну, спадчыньніку Ісільдара.

– А я, – дадаў Арагорн, – параіў, што нам трэба ўпаляваць Глыкса, хоць тое й падавалася ўжо пазачасовым. Спадчыньніку й радзіне Ісільдара належыць сплаціць віну продка, і таму я выправіўся разам з Гэндальфам на доўгае й безнадзейнае паляваньне.

Тады Гэндальф распавёў пра пошукі праз усё Міжзем'е, да самых гор Ценю й ускрайнаў Мордару.

– Там, – сказаў Гэндальф, – мы й напаткалі чуткі пра яго. Напэўна, доўгі час ён трываў у тых змрочных пагор'ях. Але на самога яго мы так і не патрапілі, і ўрэшце я адчаяўся. І ў адчаі падумаў, што сам пярсьцёнак можа адкрыць ісьціну й магчыма абысьціся бяз Глыкса. Я зноў згадаў Саруманавы словы на Радзе. Калісьці я не зьвярнуў на іх увагі.

"Кожны зь дзевяці, сямі й трох пярсьцёнкаў мае асобны каштоўны камень, – даводзіў Саруман. – Толькі ў Адзінага яго няма. Ён неаздоблены, проста круглы, як нейкі слабейшы пярсьцёнак, – але творца пазначыў яго й здолее знайсьці тыя знакі й прачытаць іх".

Якія менавіта – Саруман не патлумачыў. А хто можа ведаць? Творца. І Саруман. Хоць ягоная дасьведчанасьць і неабсяжная, яна павінна паходзіць зь нейкай крыніцы. А чыя рука, апроч Саўронавай, трымала пярсьцёнак да таго, як ён згубіўся? Толькі Ісільдарава.

З той думкай я пакінуў паляваньне й пасьпяшаўся ў Гондар. Калісьці сяброў майго Ордэну шанавалі там, і Сарумана болей за ўсіх. Часьцяком ён гасьцяваў у гаспадароў гораду. Мяне ўладар Дэнэтар павітаў ня так сардэчна, як у даўніну, і безь вялікай радасьці дазволіў пашукаць зьвесткі ў ягонай бібліятэцы старых скруткаў ды кніг.

"Калі ты сапраўды шукаеш запісы даўніны, часоў заснаваньня гораду, дык чытай! – сказаў мне ён. – А для мяне мінуўшчына цямнейшая за прышласьць, пра якую я мушу клапаціцца. Чытай. Мажліва, тваё майстэрства вынаходніка пераўзыходзіць Саруманава, які доўга, доўга вывучаў старыя запісы й не знайшоў анічога, не вядомага мне, найбольш дасьведчанаму ў гісторыі гэтага Гораду".

Так прамаўляў Дэнэтар. Але ў ягонай скарбніцы ляжала мноства скруткаў, якія мала хто здолеў прачытаць, бо й напісаньне іх, і мовы зрабіліся цёмнымі пазьнейшым пакаленьням. Барамір, у Мінас Тырыце яшчэ ляжыць скрутак, непрачытаны, як я мяркую, нікім, апрача мяне й Сарумана, з часоў гібелі апошняга караля, напісаны самім Ісільдарам. Бо Ісільдар ня выправіўся на поўнач прама з Мордару, як даводзіцца ў паданьнях.

– У паўночных паданьнях, мажліва, – паправіў Барамір. – Бо ў Гондары ўсе ведаюць, што ён спачатку пасяліўся разам з сваім пляменьнікам Мэнэльдылем у Мінас Аноры, навучаючы яго каралеўскай справе, каб перадаць яму пасад Паўднёвага каралеўства. Тады ён і пасадзіў апошняе каліва Белага Дрэва ў памяць пра свайго брата.

– Таксама ў той час ён зрабіў гэты запіс, – працягнуў Гэндальф, – і тое, падаецца, у Гондары ня памятаюць. Бо гэты запіс тычыцца пярсьцёнка. Ісільдар напісаў так:

*З онага дня Пярсьцёнак той Велькі ўчыніўся Паўночнай Кароне ў маетнасць, але нех запісаньне аб тым застанецца ў Гондары, там бо една трываюць спадчыньнікі Эленьдзіля, – абы ня зьмеркла памяць аб вялікіх тых справаваньнях.*

А пасьля тых словаў Ісільдар апісаў пярсьцёнак, якім ён патрапіў да яго:

*Кгды ж уперш узяў Яго, распаленым быў Ён, гарачым, нібыта вугольле. Далоня мая апяклася, і не ведаю, чы кгды пазбудуся таго болю. Але як складаю гэтыя радкі, пахаладзеў Ён і стаўся малейшым – абач ні ладнасьці страціў, ні віду. Ужо надпіс на Ім, спачатку ясьнейшы, бы чырвань полымя, ёсьць цьмянейшы й ледзьве прыкметны. Надпіс гэты эльфаўскімі літарамі Эрэгіёну ўчынены, занежай ня маюць у Мордары буквіцаў дзеля гэткай вытанчанай штукі, але язык той мне невядомы. Па зданьні маім, ёсьць гэта моваю Чорнай Зямлі; іж аблудная ды дзікая. Якім ліхам ёсьць той надпіс, таго ня ведаю, аднак жа адбіваю тут абрысы літараў, доньдзеж ушчэнт не пагасьлі. Падаецца мне, Пярсьцю не хапае жару Варожай дланi, чорнай, але апаляльнай кшталт полымя, гібельнай Гіль-Гэляду. Верагодна, кгды Яго золата зноў адчуе вогнь, надпіс абновіцца. Але сам я не ўчыню яму шкоды: адзіны Ён файны з усіх Саўронавых штукаў. Ён – каштоўнасьць мая, хоць сплаціў я вялікім за Яго болем.*

Калі я прачытаў гэта, мае пошукі скончыліся. Бо скапіяваны Ісільдарам надпіс насамрэч, як ён і здагадаўся, зроблены на мове Мордару й паслугачоў Цёмнай вежы. Надпіс той вядомы здаўна. Бо ў дзень, калі Саўрон упершыню насунуў Адзіны Пярсьцёнак, Келебрымбар, творца трох, здолеў пабачыць Саўрона здалёк, прайсьці ў ягоныя думкі, пачуць словы заклёну – і выкрыць ягоную здраду. Адразу ж я запрасіў дазвол Дэнэтара, каб пакінуць Гондар. Калі я рушыў на поўнач, напаткаў зьвесткі зь Лорыйну: Арагорн вярнуўся, такі прывёўшы з сабою пачварня зь мянушкай Глыкс. Таму я пасьпяшаўся туды, каб сустрэцца з Арагорнам ды пачуць ягоны расповед. Самотны, ён прайшоў празь сьмяротныя небясьпекі, якія я нават не адважваюся ўявіць сабе.

– Наўрад варта згадваць на іх, – дадаў Арагорн. – Прабіраючыся паблізу Чорнай Брамы ці ідучы па напоенай атрутаю квецені Моргульскай даліны, небясьпек не пазьбегнеш. Я й надзею страціў урэшце й павярнуў дахаты. Але мне пашанцавала: раптам напаткаў адбіткі босых ног побач з глеістым брудным азярцом. Сьвежыя адбіткі – і вялі яны ня ў Мордар, а назад. Я прайшоў па сьледзе ўздоўж ускрайнаў Мерцьвяковых багнаў і натрапіў на Глыкса. Ён бадзяўся ля вакенца ў дрыгве, утаропіўшыся праз змрок у гнілую ваду. Там я яго й схапіў. Ён увесь быў аблеплены зялёным глеем. Баюся, прыязьні да мяне ён аніколі не адчуе. Бо ён укусіў мяне, і я абышоўся зь ім крыху жорстка. І анічога болей за адмеціны зубоў я не атрымаў зь ягонага роту. Вяртаньне было найгоршай часткаю паляваньня. Бо давялося сачыць за Глыксам удзень і ўночы. Ды гнаць яго перад сабою зь пятлёю на шыі й кляпам у роце да Ліхалесься. Добра хоць голад і смага дадалі яму крыху пакорлівасьці. Дабраўшыся датуль, я аддаў яго эльфам, як мы й дамаўляліся з Гэндальфам раней. Я зрабіў гэта з асалодаю, бо й сьмярдзела ж ад Глыкса! Што тычыцца мяне, лепш зноў яго ня бачыць, але Гэндальф, як зьявіўся, ушанаваў яго даўжэзнай размовай.

– Так, даўжэзнай і стамляльнай, – пацьвердзіў Гэндальф, – але й карыснай. Па-першае, ягоны расповед пра страту пярсьцёнка супадае з тым, які Більба ўпершыню распавёў нам адкрыта. Тое, аднак, было ня надта істотна, бо я здагадаўся пра сапраўдную гісторыю раней. Але я даведаўся ад Глыкса, што пярсьцёнак ягоны – выцягнуты зь Вялікай ракі паблізу Квятных Панізьзяў. А таксама – што Глыкс валодаў ім надзвычай доўга. Нашмат даўжэй за век ягонага народу. Моц пярсьцёнка трымала яго жывым цягам некалькіх стагодзьдзяў! Толькі Вялікія Пярсьцёнкі маюць гэткую моц.

І калі адно тое для цябе ня доказ, Гальдар, ёсьць і іншыя. Доказ, пра які я ўжо казаў. На тым самым пярсьцёнку, які вы ўсе толькі што пабачылі, круглым, неаздобленым, яшчэ магчыма прачытаць тыя самыя літары, на якія ўзгадваў Ісільдар, калі хопіць сілы духу пратрымаць пярсьцёнак у полымі. Так я зрабіў і вось што прачытаў:

**АШ НАЗГ ДУРБАТУЛЫК, АШ НАЗГ ГЫМБАТУЛ,**
**АШ НАЗГ ТХРАКАТУЛЫК, АГХ БУРЗУМ-ЫШЫ КРЫМПАТУЛ.**

Дзівосна зьмяніўся голас чараўніка. Зьнянацку стаў пагрозьлівым, магутным, каменна-жорсткім. Нібы цень захіліў паўдзённае сонца й на ганку на момант сьцямнела. Усе ўздрыгнулі. Эльфы нават і прыкрылі вушы.

– Гэндальф Сівы, аніколі раней анічый голас не адважваўся агучыць словы гэтай мовы ў Імладрысе! – вымавіў цяжка Эльранд, калі цень сышоў і ўсе ўздыхнулі з палёгкай.

– Будзем спадзявацца, аніколі больш не прамовяцца яны тут, – адказаў Гэндальф. – Тым ня менш я не прашу ў цябе прабачэньня, гаспадар Эльранд. Бо каб тая мова не загучала ў хуткім часе ва ўсіх кутах Захаду, нам трэба пазбыцца сумневаў і прыняць тое, што сьцьвярджаюць мудрыя: пярсьцёнак – найкаштоўнейшы кляйнод Ворага, увасабленьне ўсяго ягонага ліха – трымае вялікую частку ягонай даўняй сілы. З Чорных гадоў дайшлі да нас словы, якія пачулі кавалі Эрэгіёну, зразумеўшы, што ім здрадзілі:

*Адзін – уладарыць над імі, адзін – адшукаць іх,*
*Адзін – завабіць і ў цемры чорнай скаваць іх...*

– Ведайце, сябры, што я вызнаў ад Глыкса болей. Неахвотна ён распавядаў, і гаворка ягоная была цьмяная, але ж, без усялякага сумневу, ён патрапіў у Мордар і там зь яго выцягнулі ўсё. Цяпер вораг ведае, што пярсьцёнак знайшоўся, што яго доўгі час хавалі ў Шыры, і паколькі ягоныя паслугачы перасьледавалі пярсьцёнак амаль да нашых брамаў, неўзабаве ён даведаецца, што пярсьцёнак тут.

Цягам часу ўсе сядзелі моўчкі, пакуль цішыню не парушыў Барамір.

– Вы казалі, малы пачварань гэты Глыкс? Малы пачварань, але вялікі злачынца? Што адбылося зь ім? Які прысуд вынесьлі яму?

– Ён за кратамі, толькі й усяго, – адказаў Арагорн. – Ён ужо шмат пакутаваў. Безумоўна, яго катавалі. Жах перад Саўронам сьціскае ягонае сэрца. Аднак я вельмі задаволены, што эльфы Ліхалесься трымаюць і вартуюць яго. Бо ягоная злосьць надзвычайная, і нянавісьць дае яму моц, амаль неўяўляльную ў гэткай схуднелай і мізэрнай істоце. Да таго ж я ўпэўнены: з Мордару яго выпусьцілі дзеля нейкага злачынства.

– Як шкада! – усклікнуў, ускочыўшы, Ляголас. На ягоным твары адбілася вялікая трывога ды адчай. – Цяпер час для маіх вестак! Яны дрэнныя, але толькі цяпер я зразумеў наколькі. Сьмеяголь, якога цяпер клічуць Глыксам, уцёк.

– Уцёк? – выгукнуў Арагорн. – Найгоршыя навіны, сапраўды. Баюся, мы цяжка сплоцім за іх. Як жа народ Трандуйла гэтак падвёў наш давер?

– Не празь недагляд і нядбаньне. Аднак, мажліва, з-за празьмернай дабрыні. Здаецца, вязень меў дапамогу звонку, а пра нашыя справы чужынцы ведаюць болей, чым мы ўяўляем. Мы вартавалі ўдзень і ўночы, як і прасіў Гэндальф, хоць тое надта нас стамляла. Гэндальф даводзіў, што ёсьць надзея вылекаваць Глыкса, пазбавіць яго ад цемры, і таму мы зьлітаваліся й ня сталі трымаць яго пад зямлёю ў змрочнай клеці, дзё ён зноў аддаўся б чорным думкам.

– Да мяне вы гэткай літасьці ня мелі, – прабурчэў Глойн, блiснуўшы вачыма, бо згадаў палон у глыбокіх скляпеньнях пад пакоямі караля эльфаў.

– Не цяпер, годзе! – усклікнуў Гэндальф. – Калі ласка, не перабівай, шаноўны мой Глойне. Тое было непрыемным і выпадковым непаразуменьнем, якое даўно выправілі. Калі ўсе спрэчкі й крыўды гномаў ды эльфаў агучваць на нашай Радзе, дык лепей проста яе пакінуць, бо якая тады зь яе рацыя?

Глойн прыўстаў і пакланіўся.

– Калі надвор'е дазваляла, – працягваў Ляголас, – мы выводзілі Глыкса ў лес да высокага дрэва, што стаяла паасобку ад астатніх. Ён любіў залазіць на яго. Часьцяком яму дазвалялася ўскараскацца да найвышэйшых галінаў, каб удыхнуць сьвежага ветру, а варта заставалася ўнізе. Аднойчы ён адмовіўся спускацца, а вартавым не хацелася караскацца сьледам, бо ён навучыўся чапляцца за галіны ня толькі рукамі,

але й нагамі, і валачы яго было так складана! Таму вартавыя засталіся ля дрэва да ночы.

І гэтай самай летняй ноччу, бяззорнай, безьмесяцовай, на нас нечакана напалі оркі. Урэшце мы пагналі іх прэч, хоць іх было мноства й біліся яны адчайна. Але ж ім, горцам, нязручна біцца ў лесе. Перамогшы, мы ўбачылі, што Глыкс зьнік, а ягоная варта ці забітая, ці таксама зьнікла. Відавочна, оркі напалі, каб выратаваць яго, і ён пра тое ведаў загадзя. Як ён здолеў – загадка. Але ж хітрасьці яму не займаць, і варожых шпегаў вакол мноства. Ліхія пачвары, выгнаныя пасьля перамогі над цмокам, зноў вярнуліся й памножыліся. Ліхалесьсе – зноў нядобрае месца, хіба толькі ў межах нашага каралеўства яшчэ спакой.

Высачыць і перахапіць Глыкса ў нас не атрымалася. Ягоны сьлед разам зь сьлядамі мноства оркаў вёў на поўдзень, глыбока ў лес. Але хутка сьлед мы згубілі, а вышукваць не адважыліся, бо ўжо наблізіліся да Дул Гулдуру. Дагэтуль надзвычай ліхое месца, туды мы не заходзім.

– Так, так, ён зьнік, – вымавіў Гэндальф. – Цяпер у нас няма часу зноў палякаць на яго. Няхай ідзе, куды хоча. Але ён яшчэ можа адыграць ролю, якая ані ім, ані Саўронам не прадбачаная.

А цяпер я адкажу на другое пытаньне Гальдара: што з Саруманам; што ён раіць нам у час нашай найвялікшай патрэбы? Расповед я мушу давесьці цалкам, бо толькі Эльранд чуў яго, і тое скарочана. Мае словы высьвятляць усё, што нам патрэбна вырашыць. І будуць апошняй часткай гісторыі пярсьцёнка, якая адбылася дасюль.

Напрыканцы чэрвеня я заставаўся ў Шыры, але ўжо адчуваў непакой, хоць і няясны. Нарэшце выправіўся да паўднёвых межаў гэтай невялікай зямлі, бо прадчуваў пагрозу, яшчэ нябачную, але ўжо недалёкую. Там мяне напаткалі весткі пра вайну й паразу Гондару. Калі я пачуў пра Чорны Цень, мяне нібыта лёдам працяла. Я нічога ня высьветліў, толькі сустрэў некалькі ўцекачоў з Поўдня. Запалоханых, тое было відавочна, але чым або кім – яны распавядаць не пажадалі. Я павярнуў на ўсход і поўнач і непадалёк ад Прыгор'я напаткаў самотнага вандроўніка. Ён сядзеў на збочыне Шляху, а ягоны конь пасьвіўся побач. Вандроўнікам быў Радагаст Руды, які некалі жыў у Разгабэлі, на памежжы Ліхалесься. Ён з майго Ордэну, але я ня бачыў яго цягам мноства гадоў.

"Гэндальф! – паклікаў ён. – Я якраз цябе й шукаю. Але ж для мяне тут землі нязнаныя. Я толькі й ведаю, што ты хаваесься недзе ў глухой краінцы зь нягеглым імем Шыр".

"Дакладна, – пацьвердзіў я, – але не сьпяшайся называць Шыр так, калі побач якія-кольвек ягоныя пасельнікі. Ты ж цяпер ля ягоных межаў. Чаго табе трэба ад мяне? Напэўна, нешта вельмі істотнае. Бо ты ж зусім не вандроўнік, хіба толькі зь вялікай патрэбы".

"Так, у мяне да цябе тэрміновыя весткі. І нядобрыя, – ён азірнуўся, быццам баючыся, што й у кустоў на збочыне ёсьць вушы, і прашаптаў, – назгулы. Усе Дзевяцёра зноў на захадзе. Яны ўпотайкі пераправіліся празь Вялікую раку й рухаюцца на захад. Цяпер яны прынялі аблічча Чорных Вершнікаў".

Тады я зразумеў, чаго, ня ведаючы, баяўся.

"Напэўна, Вораг шукае нешта надта істотнае, але чаго яму шукаць тут, у гэтым найдалейшым застароньні, я ўявіць ня здольны".

"Што ты маеш на ўвазе?" – спытаў я.

"Мне перадалі: дзе толькі Вершнікі ні зьяўляюцца, яны распытваюць пра нейкі Шыр".

"*Гэты* Шыр", – паправіў я, але маё сэрца агарнуў адчай. Бо нават мудраму цяжка адважыцца выйсьці супраць Дзевяцярых, калі яны зьбяруцца пад рукою свайго лютага правадыра. Ён быў вялікім каралём і чаразнаўцам даўніны, а цяпер ягоная зброя – невыносны, непераможны жах.

"Хто давёў табе, хто даручыў адшукаць мяне?" – пацікавіўся я.

"Саруман Белы, – адказаў Радагаст. – Яшчэ ён прапанаваў: калі табе трэба, ён дапаможа. Але тады пасьпяшайся, бо інакш будзе позна".

Тыя весткі ажывілі маю надзею. Бо Саруман Белы – найвялікшы з майго Ордэну. Радагаст, бясспрэчна, годны чараўнік, майстра мяняць аблічча й колер, надзвычай дасьведчаны ў зёлках і зьвярох. Асабліва ж ён сябруе з птушкамі. Саруман жа доўга вывучаў Ворага, ягоныя звычкі й майстэрства, і таму мы часьцяком былі здольныя папярэджваць варожыя рухі й наносіць удары першымі. З Саруманавай парады мы так лёгка выбілі Ворага з Дул Гулдуру. Магчыма, ён ведае й адпаведную зброю супроць Дзевяцярых.

"Я рушу да Сарумана", – паабяцаў я.

"Ты мусіш рушыць зараз жа, – паўтарыў Радагаст, – бо я страціў шмат часу ў пошуках цябе й яго амаль не засталося. Я павінен быў адшукаць цябе да Ліпак, сярэдзіны лета, а ўжо й ёсьць сярэдзіна. Нават калі ты й выправісься да Сарумана з гэтага самага месца, наўрад ці пасьпееш да таго, як Дзевяцёра знойдуць твой Шыр. Я сам паварочваю назад зараз жа".

І ён сеў на каня, каб сапраўды зьехаць.

"Пачакай момант! – папрасіў я. – Нам спатрэбіцца твая дапамога, і ўвогуле ўсіхняя, хто толькі здольны дапамагчы. Абвясьці ўсім тваім сябрам сярод зьвяроў і птушак. Няхай яны прыносяць зьвесткі пра ўсё, што тычыцца Дзевяцярых, Сарумана й Гэндальфа. Няхай яны нясуць зьвесткі ў Ортанк".

"Так і зраблю", – паабяцаў ён ды ад'ехаў прэч так пасьпешліва, быццам за ім гналіся ўсе Дзевяцёра.

Адразу за ім я ехаць ня здолеў. Гэтым днём я й так ужо праехаў шмат, і стаміўся ня менш за майго каня. Мне трэ было спакойна паразважаць. Я пераначаваў у Прыгор'і й вырашыў, што мне бракуе часу заяжджаць у Шыр. Аніколі не рабіў я горшай памылкі!

Аднак я пакінуў ліст для Фрода, даверыўшы майму сябру шынкару даслаць яго. Выехаў раніцою і, сьпяшаючыся, сягнуў нарэшце Саруманава жытла. Яно знаходзіцца далёка на поўначы, у Ізенградку, напрыканцы Туманных гор непадалёк ад Брамы Рохану. Барамір давядзе вам, што Брама Рохану – гэта вялізная, шырокая даліна паміж Туманнымі гарамі й паўночнымі адгор'ямі Эрэд Німрайсу, Белых гор ягонай радзімы. Ізенградак – гэта кольца стромых скалаў, што абкружаюць прасторны лог, пасярод якога ўзвышаецца камяніца Ортанк. Пабудаваў яе не Саруман, а людзі Нумэнору ў даўніну. Вежа тая высачэзная, хавае мноства таямніцаў і выглядае ня творам чалавечых рук, а спараджэньнем самой зямлі. Сягнуць яе мажліва толькі праз кольца скалаў Ізенградку, а ў тым кольцы адзіная брама.

Позьнім вечарам я дабраўся да той брамы, падобнай да гіганцкай аркі ў каменнай сьцяне. Браму моцна ахоўвалі, але вартаўнікі чакалі мяне й дазволілі ехаць наўпрост да Сарумана. Я праехаў пад аркаю, брама бязгучна зачынілася за мною – і раптам я спалохаўся, хоць і ня ведаў чаму. Тым ня менш даехаў да Ортанку й крочыў на Саруманаў ганак. Там ён сам сустрэў мяне й правёў у залю. На ягоным пальцы зіхцеў пярсьцёнак.

"Ты нарэшце прыехаў, Гэндальф", – сказаў ён сувора, а ў вачох ягоных зьзяла белае халоднае сьвятло, быццам ён жорстка й кпліва сьмяяўся зь мяне.

"Так, прыехаў, – пацьвердзіў я, – па тваю дапамогу, Саруман Белы".

Падалося, ён раззлаваўся.

"Сапраўды, Гэндальф *Сівы*! – фыркнуў ён. – Па дапамогу? Што ж за дзіва такое: Гэндальф Сівы жадае дапамогі, гэткі мудрагелісты, гэткі ўмелы чараплёт, які блукае па ўсім сусьвеце, які блытаецца ў кожную справу, тычыцца яна яго ці не".

"Калі не памыляюся, – вымавіў я, надта зьдзівіўшыся, – цяпер адбываюцца рэчы, супраць якіх нам спатрэбіцца аб'яднаць усю нашую моц".

"Мажліва. Але ж тая файная думка прыйшла да цябе надта позна. Як доўга, цікава мне, ты хаваў ад мяне, галавы Рады, справу найвялікшай значнасьці? Што цяпер выцягнула цябе з твайго жытлішча-прыховішча ў Шыры?"

"Дзевяцёра зноў прыйшлі на Захад. Перасеклі раку. Так казаў мне Радагаст".

"Радагаст Руды! – зарагатаў Саруман, ужо не хаваючы зьнявагі. – Радагаст Пераможца Птушак! Радагаст Просты! Радагаст Дурань! Добра, што яму хапіла розуму згуляць ролю, якую я яму прызначыў. Бо ты зьявіўся да мяне, а гэта было галоўнай мэтай ягонай місіі. Ля мяне ты й застанесься пакуль што, Гэндальф Сівы, і адпачнеш ад свайго бадзяжніцтва. Бо я – Саруман Мудры, Саруман Майстра Пярсьцёнкаў, Саруман Усіх Колераў!"

Я прыгледзеўся да яго ўважліва: і вось, ягоная корзна, якая падавалася белай, была нібы сатканая з усіх фарбаў разам. Калі ён рушыў, фарбы пераліваліся, дзівосна мяняліся, падманваючы зрок.

"Белае мне падабалася болей!" – сказаў я.

"Белае! – фыркнуў ён кпліва. – Напачатку пойдзе й яно. Белае найлягчэй пафарбаваць. Пішуць на белай старонцы. Белае сьвятло раскладаецца на ўсе колеры адразу".

"Толькі тады яно ўжо ня белае, – давёў я. – Той, хто ламае рэчы, каб выведаць, што ў іх знутры, пакінуў шлях мудрасьці".

"Наўрад ці табе варта размаўляць з мною, як з адным з тых дурняў, якіх ты трымаеш за сяброў. Я паклікаў цябе сюды ня дзеля таго, каб слухаць павучаньні, а каб прапанаваць выбар".

Тут ён выпрастаўся й пачаў прамову – здаецца, загадзя й здаўна падрыхтаваную. "Даўнія дні мінулі. Памежныя дні сыходзяць. Пачынаюцца Дні Новыя. Час эльфаў мінуў. Але надышоў наш час, бо сьвет належыць людзям, якімі прызначаныя кіраваць мы. Дзеля таго нам патрэбная сіла, сіла скіроўваць і выпраўляць, сіла зьдзяйсьняць нашую волю дзеля найвялікшага дабра, якое толькі мудрыя й здольныя ўбачыць".

"Слухай мяне, Гэндальф, мой стары сябра й памочнік! – паклікаў ён, крочыўшы да мяне, і ягоны голас пацяплеў. – Я кажу *нам*, я кажу *мы*, бо ты можаш стаць побач з мною. Уздымаецца новая Моц. Супроць яе даўнія зьвязы й стратэгіі бясьсільныя. Безнадзейна пазіраць на рэшткі эльфаў, на аджылы Нумэнор. Перад табою, перад намі адзінае выйсьце – далучыцца да новай Моцы. Гэта мудра, Гэндальф. Толькі тут надзея. Перамога яе блізкая – і шчодрая ўзнагарода тым, хто дапамог ёй. Калі Моц узрасьце, узрастуць побач зь ёю й яе верныя сябры – як я й ты. І цягам часу, цярпліва, мы здолеем уплываць на яе, кіраваць яе думкамі. Мы дачакаемся нашага часу, трымаючы свае думкі пры сабе, асуджаючы мажлівыя злачынствы моцы, але падтрымліваючы яе найвышэйшыя, найістотнейшыя мэты: Веды, Улада, Парадак. Усё тое, чаго мы самі дарэмна намагаліся сягнуць разам з нашымі былымі слабымі ці безнайдзена адсталымі сябрамі. Яны не дапамагалі нам – яны затрымлівалі нас. На

самай справе анічога ў нашых плянах ня зьменіцца, ня трэба нічога мяняць – памяняюцца толькі сродкі".

"Саруман, – азваўся я, – гэткія рэчы я ўжо чуў, але толькі з вуснаў варожых паплечнікаў, прысланых з Мордару, каб ашукваць неачосаў. Уявіць сабе не магу, што ты прымусіў мяне цягнуцца ў гэткую далячынь, каб стамляць мой слых лухтой".

Саруман зірнуў на мяне скоса й крыху памаўчаў, відаць, разважаючы.

"Так, я бачу, наймудрэйшы шлях цябе ня вабіць. Яшчэ не. Мажліва, таму, што існуе шлях найхутчэйшы?"

Ён наблізіўся да мяне й паклаў сваю доўгую руку на маю.

"Чаму не, Гэндальфе? – прашаптаў ён. – Чаму? Гэта Пярсьцёнак Улады, так? Калі ён патрапіць да нас, тады й Моц будзе нашая! Вось чаму насамрэч я клікаў цябе сюды. Бо мне падуладныя многія пільныя вочы й я ведаю: ты знайшоў, дзе найкаштоўнейшая для нас рэч. Ці ня так? Чаму Дзевяцёра распытваюць пра Шыр, чаму ты заўжды прападаеш там?"

І з гэтымі словамі прага, якую ён ня здолеў схаваць, зазьзяла ў ягоных вачох.

"Саруман, – вымавіў я, адступаючы прэч, – ва ўсялякі час толькі адна рука можа насіць пярсьцёнак. Ты добра ведаеш гэта, таму не турбуйся, не прамаўляй *мы*. Але я не аддаў бы яго, нават калі меў бы. Нават і весткі пра яго ня даў бы табе цяпер, зразумеўшы, што ты плянуеш. Ты быў галавою Рады, але цяпер ты адкрыў свой сапраўдны твар. Выбар, падаецца, цяпер такі: падпарадкавацца Саўрону ці табе. Я не хачу абіраць ані таго, ані другога. Можа, ты яшчэ што маеш прапанаваць?"

"Так, – пацьвердзіў ён, цяпер халодна й пагрозьліва. – Я й не чакаў ад цябе мудрасьці, нават дзеля твайго ўласнага выратаваньня. Аднак я даў табе шанец дапамагчы мне з уласнай волі й пазбавіцца бедаў і болю. Яшчэ адзін выбар – застацца тут, пакуль усё скончыцца".

"Пакуль што скончыцца?"

"Твая ўпёртасьць і нежаданьне адкрыць мне, дзе пярсьцёнак. Магчыма, я адшукаю сродкі, каб пераканаць цябе. Ці безь цябе знайду яго, і тады ў мяне будзе час заняцца справамі прасьцейшымі. Напрыклад, прыдумаць адпаведную ўзнагароду Гэндальфу Сівому за ягоную ўцятасьць і нахабства".

"Магчыма, гэта й не такая ўжо простая справа", – сказаў я.

Ён жа засьмяяўся, бо мае словы анічога ня важылі, і ён тое ведаў.

Мяне зацягнулі на самую вяршыню Ортанку, на пляцоўку, адкуль Саруман звычайна назіраў за зорамі. Спуску адтуль не было, апрача як па лесьвіцы ў некалькі тысячаў прыступак. Даліна ўнізе падавалася такой далёкай. Я ўбачыў, што на месцы зялёнай красы цяпер чарнеюць ямы й кавальні. Ваўкі ды оркі пасяліліся ў Ізенградку, бо Саруман зьбіраў сваё войска – супернічаючы з Саўронам ды, відавочна, яшчэ яму не паддаўшыся. Над пабудовамі вісеў чорны дым, закрываючы нават і ўзножжа Ортанку. Я стаяў самотны, нібы на высьпе сярод хмараў, без аніякай магчымасьці ўцячы. Дні цягнуліся бязрадасныя, бо мяне пранізваў холад, і толькі некалькі крокаў мог зрабіць я, туды й сюды, а з думак не сыходзілі Чорныя Вершнікі на поўначы.

Што яны й сапраўды зьявіліся, я не сумняваўся, хоць Саруман мог і схлусіць. Задоўга да прыбыцьця ў Ізенградак я чуў весткі, якія, безумоўна, пацьвердзілі навіну. Я няспынна баяўся за маіх сяброў у Шыры, але й надзея мяне не пакідала. Я спадзяваўся, што Фрода адразу рушыў, атрымаўшы ліст, і сягнуў Долага Яру шчэ да пачатку сьмяротнага перасьледу. Урэшце й страхі, і надзея мяне падманулі. Бо маё спадзяваньне цьвердзілася на тлустым шынкары з Прыгор'я, а страх – на хітрасьці й злаўмыснасьці Саўрона. Але чалавек, які прадае піва, мае зашмат прось бітаў, а моц

Саўронава пакуль меншая, чым малюе страх перад ім. Аднак у каменным кольцы Ізенградку, самотнаму, спайманаму ў пастку, цяжка ўяўлялася, што паляўнічыя, перад якімі ўсе ўцякалі ці гінулі, ня здолеюць схапіць сваю ахвяру ў Шыры.

– Я бачыў гэта! – выклікнуў Фрода. – Вашаць крочыў узад і ўперад, і месяц зьзяў у валасах вашці.

Гэндальф прыпыніўся, зьдзіўлены, і зірнуў на яго.

– Гэта быў толькі сон, – патлумачыў Фрода. – Я ўжо й забыўся, але раптам узгадаў зноў. Ён прысьніўся ўжо даволі таму. Калі я толькі пакінуў Шыр, мяркую.

– Тады твой сон спазьніўся, як ты неўзабаве зразумееш. Так, я патрапіў у падступную пастку. Тыя, што мяне ведаюць, пагодзяцца: рэдка мне даводзілася гэтак трапляцца, а зьмірыцца мне й увогуле немагчыма. Гэндальф Сівы схоплены, нібыта матыль у здраднай павуковай мамэрлі! Але ж і самы ўмелы павук можа дзе-нідзе папусьціць слабіну.

Спачатку я баяўся – як на тое, безумоўна, і разьлічваў Саруман, – што Радагаст таксама здрадзіў. Аднак я не прыкмеціў анічога падазронага ў ягоным голасе ці позірку падчас нашай сустрэчы. Калі прыкмеціў бы, наўрад ці накіраваўся б прама да Ізенградку ці, верагодна, рушыў бы асьцярожней, падрыхтаваўшыся. Тое Саруман ведаў і таму не адкрыўся Радагасту, падмануў яго. Ва ўсялякім выпадку Радагаста пераконваць ды схіляць да здрады бессэнсоўна. Ён шукаў мяне, таму што шчыра жадаў дапамагчы, і таму я паверыў.

Таму й абрынуліся Саруманавы разьлікі. Бо Радагасту й да галавы не прыйшло б ня выканаць абяцаньня. Ён скіраваўся да Ліхалесься, да сваіх даўніх сяброў. Горныя арлы ўжо даўно заўважылі паўсюль мноства трывожных прыкметаў: зборы ваўчыных зграяў ды оркавых натоўпаў, бачылі, як Дзевяцёра гарцуюць па зямлі. Дайшлі да арлоў і весткі пра ўцёкі Глыкса. З Радагаставай нарады арлы паслалі да мяне ганца з навінамі.

Калі лета кацілася да канца, адной сьветлай месяцовай ноччу да мяне, увязьненага на вяршыні Артанку, нечакана зьявіўся Гвайхір Гаспадар Вятроў, найспрытнейшы зь Вялікіх Арлоў. Я размаўляў зь ім, і ён зьнёс мяне прэч, і Саруман анічога не пасьпеў зрабіць. Я ўжо быў далёка ад Ізенградку, калі ваўкі з оркамі выскачылі зь ягонай брамы ў пагоню за мной.

"Як далёка ты здольны несьці мяне?" – спытаў я Гвайхіра.

"Мноства міляў – адказаў той, – але не да краёў зямлі. Мяне паслалі, каб несьці навіны, а не пакладу".

"Тады мне патрэбна адшукаць таго, хто панясе мяне па зямлі, і панясе надзвычай хутка, бо аніколі раней ня трэба было мне гэтак сьпяшацца".

"Тады я аднясу цябе да Эдорасу, дзе каралюе ў сьветлых залях уладар Рохану, бо Эдорас ня надта далёка".

Тое мяне задаволіла, бо Роханская Ўкрайна – жытло рахірымаў, уладароў найлепшых ва ўсім сусьвеце коней, анідзе болей не нараджаюцца такія скакуны, як на велізарных абшарах паміж Туманнымі й Белымі гарамі.

"Ці можна яшчэ давяраць рахірымам, як ты мяркуеш?" – спытаў я Гвайхіра, бо здрада Сарумана падкасіла мой давер.

"Паводле чутак, яны сплочваюць даніну коньмі, – давёў мне арол, – шлюць мноства іх Мордару штогод. Але пакуль што яны не скарыліся. Аднак калі Саруман, як ты кажаш, здрадзіў, дык іх бяда ўжо не за гарамі. Наўрад ці яны вытрымаюць".

Яшчэ да раніцы ён апусьціў мяне на роханскую зямлю. Але пра далейшае я распавяду коратка, бо й так занадта зацягнуў гутарку. У Рохане я заўважыў прыкметы

наяўнага ліха: Саруманава хлусьня пусьціла карані, і кароль не прыслухаўся да маіх папярэджаньняў. Кароль прапанаваў мне выбраць каня, якога пажадаю, ды ехаць прэч, і я выбраў каня сабе даспадобы, што праўда – не даспадобы каралю. Я абраў найлепшага каня ягонай зямлі. Аніколі ня бачыў я падобнага скакуна.

– Тады гэта сапраўды высакароднае стварэньне, – зазначыў Арагорн, – і найгоршай зь зьвестак мне падаецца тая, што Саўрон атрымлівае даніну роханскімі коньмі. Гэта немагчыма было ўявіць, калі я апошні раз наведваў Рохан.

– І цяпер немагчыма, клянуся! – выгукнуў Барамір. – Гэта варожая хлусьня! Я ведаю людзей Рохану, верных і адважных, надзейных, беззаганных нашых паплечнікаў. Яны жывуць на зямлі, якую Гондар здаўна аддаў ім.

– Цень Мордару сягае ўсё далей, – запярэчыў Арагорн. – Саруман падпаў пад яе. Ліха на роханскіх памежжах. Хто ведае, што цяпер ты знойдзеш там, вярнуўшыся?

– Такога, каб яны свае жыцьці аплочвалі коньмі, дакладна не знайду! Коні для іх – амаль радзіна. І нездарма, бо скакуны Рохану з далінаў Поўначы, далёка ад Ценю, і род іхні, як і род іх гаспадароў, паходзіць з вольных часоў сівой даўніны.

– Сапраўды так! – пацьвердзіў Гэндальф. – Сярод іх знайшоў я таго, чыя кроў, напэўна, ад ранішніх дзён нашага сьвету. Пачвары Дзевяцярых яму ня роўня, бо ён нястомны й стрытнейшы за вецер над роўнядзьдзю. Ценяром назвалі яго, бо ўдзень ягоная шкура блішчыць срэбрам, а ўночы – месяцовым ценем, і немагчыма тады заўважыць яго, лёгкага, як подых. Аніколі раней ня ведаў ён вершніка, але я скарыў яго. Так хутка панёс ён мяне, што я сягнуў Шыру, пакуль Фрода яшчэ ішоў праз Скляпеньні. Хоць выехаў я з Рохану, калі Фрода толькі пакінуў Хобіцак.

Але чым бліжэй я рушыў да яго, тым мацнеў мой страх. Бо я вызнаў пра Чорных Вершнікаў і хоць хутка даганяў іх, яны трымаліся наперадзе. Яны падзяліліся: некаторыя засталіся на ўсходнім памежжы, непадалёк ад Травашляху, некаторыя ўварваліся ў Шыр з поўдня. Калі я сягнуў Хобіцку, Фрода ўжо зьнік, але я гутарыў з старым Гэйхадам. Доўга гутарыў, ды амаль без карысьці. Ягоныя думкі цалкам занятыя новымі гаспадарамі Торбы-пад-Стромай ды іх выбрыкамі.

"Гэткія зьмены, – скардзіўся ён, – у мае гады, ды зьмены да горшага. Найгоршыя зьмены".

Паўтараў і паўтараў.

"Найгоршыя – наўрад ці адпаведнае тут слова, – сказаў я яму, – спадзяюся, табе не давядзецца пабачыць сапраўды благія зьмены".

Празь ягоную балбатню я, аднак, зразумеў, што Фрода пакінуў Хобіцак тыдзень таму, а ў самы вечар ягонага сыходу Торбу наведаў Чорны Вершнік. Тады ўжо я перапалохаўся не на жарт. Трапіў у Прыбычча, а там разварушаны мурашнік – гвалт і лямант. Сядзіба ў Цвыркуновай Лагчыне ўзламаная й пустая, а на ганку ляжыць Фродаў плашч. На пэўны час надзея зусім пакінула мяне, і я ня стаў нават зьбіраць зьвестак. А шкада, бо яны супакоілі б. Замест таго я памчаў па сьлядох Вершнікаў. Тое было няпроста, бо яны пятлялі, падзяляліся, вялі туды й сюды, і я разгубіўся. Два ці тры зь іх скіраваліся ў Прыгор'е. Туды кінуўся й я, бо згадаў, што павінен перакінуцца парай словаў з шынкаром.

"Нездарма яго клічуць Масьляком, – думаў я, – ну калі ж гэта празь яго ўвесь гармідар, я зь яго масла выб'ю. Засмажу старога дурня на вугольлі". Напэўна, ён чакаў нечага падобнага, пабачыўшы мяне, таму што плюхнуўся на падлогу й задрыжэў, як студзень.

– Што ваша зрабіў зь ім? – ускрычаў устрывожаны Фрода. – Ён так добра да нас паставіўся, зрабіў усё, што толькі здолеў!

– Не палохайся! – засьмяяўся Гэндальф. – Пагражаць – не лупцаваць, дый запалохаў я хіба што крышачку. Бо гэтак мяне ўзрадавалі ягоныя зьвесткі, што калі ён скончыў выквохтваць словы, я нават і абняў старога небараку. Я й уявіць ня мог, што ты ўсяго дзень таму начаваў у гэтым шынку, а раніцою сышоў з Швэндалам.

"Швэндал!" – выклікнуў я, не стрымаўшыся ад радасьці.

"Так, шаноўны пане, так, – мармытаў Масьляк, палічыўшы, што я разьюшыўся, а ня ўсьцешыўся. – Такі дабраўся Швэндал да іх, і яны зь ім і пацягнуліся, хоць я адгаворваў, і Швэндала таго да іх не пускаў. Яны ўвесь час паводзіліся такімі дзівакамі, бачыце, пане, нават, можна сказаць, свавольнічалі".

"Ну й дурань ты! Галава масьляная! Найдаражэйшы мой, найлюбімейшы Масьляку! – выклікнуў я. – Ды я ня чуў лепшых навінаў зь Ліпак! Гэта ж весткі на залаты талер. Каб тваё піва сем гадоў было найлепшым на сем ваколіцаў! Сёньня я ўпершыню, ня памятаю за колькі часу, пасплю спакойна".

Я асталяваўся ў шынку, раздумваючы, што адбылося зь Вершнікамі. Бо, паводле відочных прыкметаў, Прыгор'е наведалі ўсяго два. Але той самай ноччу загадка разгадалася, бо яшчэ сама менш пяцёра прымчалі з захаду, вышыблі браму й пранесьліся па Прыгор'і, выючы, бы ўраган. Прыгорцы дасюль трасуцца й чакаюць канца сьвету. А я на досьвітку выправіўся сьледам за Вершнікамі.

Дакладна ня ведаю, але мяркую, адбылося вось што: іхні правадыр хаваўся на поўдзень ад Прыгор'я, пакуль два праехалі празь вёску, а чатыры ўварваліся ў Шыр. Пасьля няўдачаў у Прыгор'і й Цвыркуновай Лагчыне яны вярнуліся да ачольцы, пакінуўшы Шлях без нагляду – хіба што віжоўцы іхнія яшчэ вартавалі. Тады правадыр адаслаў некалькі Вершнікаў проста на ўсход, праз глухамань, а сам з астатнімі памчаў па Шляху, разьюшаны й шалёны.

Я ветрам ляцеў да Наветранай стромы, сягнуў яе да ночы другога дня пасьля выезду з Прыгор'я, а яны ўжо былі там. Адразу адступілі перад мною, бо адчувалі маю злосьць і не наважыліся напасьці, пакуль сонца было ў нябёсах. Дачакаліся ночы, і мне давялося трымаць асаду на вяршыні, у кольцы руінаў Аман Сулу. Давялося парупіцца. Напэўна, столькі бляску й полымя на Наветранай ня бачылі з часоў вартавых агнёў даўніх войнаў.

З раніцою я прарваўся з стромы й уцёк на поўнач. Наўрад ці я здолеў бы зрабіць болей. Шукаць цябе, Фрода, у глухамані, падалося безнадзейным, а з Дзевяцьцю за сьпінай, дык і неразумным. Давялося даверыцца Арагорну й спадзявацца на тое, што заваблю колькі Вершнікаў да сябе, прымушу перасьледаваць мяне, а ня вас. А там дабяруся да Долага Яру раней і вышлю дапамогу насустрач вам. Сапраўды, чатыры Вершнікі пагналіся за мной, але неўзабаве павярнулі да броду. Тое дапамагло крышачку, бо на Наветранай вас атакавалі толькі пяцёра.

Долага Яру я сягнуў доўгім цяжкім шляхам праз вярхоўі Бруйнену й Тролевыя логі, спусьціўся да яго з поўначы. Адлічваючы з Наветранай, на тое спатрэбілася амаль чатырнаццаць дзён, бо я ня мог ехаць верхам паўз камяні трольскіх прыгор'яў. Я адаслаў Ценяра на радзіму да былых гаспадароў. Аднак паміж намі ўзрасло вялікае сяброўства, і калі мне спатрэбіцца, ён адгукнецца на мой покліч і прыскача. Гэтак атрымалася, што я прыбыў у Долы Яр за тры дні да пярсьцёнка, калі навіны пра здарэньні вакол яго ўжо былі тут, і на іх, на шчасьце, пасьпелі адрэагаваць.

Вось, Фрода, і заканчэньне маёй гісторыі. Няхай Эльранд і астатнія даруюць мне даўжыню расповеду. Ніколі раней не здаралася, каб Гэндальф парушыў дамову й не зьявіўся, калі абяцаў. Ахоўнік Пярсьцёнка меў права ведаць, чаму так адбылося.

Ну, цяпер усё сказана, ад пачатку да канца. Мы ўсе тут, і пярсьцёнак таксама.

Адылі мы ні на крок не наблізіліся да нашай мэты, да вырашэньня. Што нам рабіць зь ім?

Павісла доўгая цішыня. Яе парушыў Эльранд.

– Навіны пра Сарумана – найжурботнейшыя. Мы давяралі яму, ён ведае да дробязяў нашыя пляны. Небясьпечна далёка паглыбляцца ў вывучэньне майстэрства й звычак Ворага, дзеля ліха або дабра, бо яны пераходзяць на дасьледніка. Раней гэткія здрады, на жаль, здараліся ня раз. З усіх жа сёньняшніх расповедаў гісторыя Фрода – найдзівосьнейшая для мяне. Я амаль ня ведаю хобітаў, апрача Більба, і цяпер мне падаецца, што ён мо не такое ўжо выключэньне, як я лічыў. Сусьвет значна зьмяніўся ад тых дзён, калі я апошні раз вандраваў па шляхох Захаду.

Мерцьвякоў Скляпеньня мы ведаем пад мноствам імёнаў, і безьліч расповедаў ёсьць пра Старую пушчу – апошнюю рэшту вялікіх лясоў поўначы. Быў час, калі вавёрка магла праскакаць з дрэва на дрэва, не апускаючыся на зямлю, ад сёньняшняга Шыру да Дунлянду на захад ад Ізенградку. У тых землях я вандраваў калісьці й бачыў шмат рэчаў дзікіх і незвычайных. Але я амаль забыўся на Бамбадзіла – калі ён і на самай справе той, хто ў спракаветную даўніну бадзяжыў па лясох і пагорках, і ўжо тады быў старэйшы за старых. Тады яго называлі ня так. Мы клікалі яго Ярвэн Бэн-адар – бязбацькавы, найстарэйшы. З той часіны іншыя далі яму шмат імёнаў. Гномы назвалі яго Форнам, людзі поўначы – Оральдам. Ён – незвычайная асоба. Мажліва, мне варта было запрасіць яго на Раду.

– Ён не прыйшоў бы, – зазначыў Гэндальф.

– Ці можна выслаць да яго пасыльных і папрасіць дапамогі? – спытаў Эрэстар. – Падаецца, ён мае моц нават над пярсьцёнкам?

– Не, я так не казаў бы, – паправіў яго Гэндальф. – Хутчэй, гэта пярсьцёнак ня мае моцы над ім. Бамбадзіл – сам сабе гаспадар. Але ўплываць на пярсьцёнак ён ня здольны й ня здольны парушыць пярсьцёнкаву ўладу над астатнімі. Цяпер Бамбадзіл зачыніўся ў межах невялічкага кавалку зямлі, межах, бачных толькі яму. Можа, ён чакае, пакуль надыдзе ягоны час. А пакуль – за гэтыя межы ён ня крочыць.

– Аднак у ягоных межах аніхто яму ня роўня, – сказаў Эрэстар. – Ці ўзяўся б ён вартаваць пярсьцёнак, заўжды ахоўваць ад астатняга сьвету?

– Не, – адмовіў Гэндальф. – З уласнай волі – не. Можа, ён згадзіўся б, каб усе вольныя народы сьвету прасілі яго. Але ж наўрад ці ён зразумее навошта. А калі яму й аддалі б пярсьцёнак, верагодна, ён неўзабаве забыўся б на яго ці ўвогуле выкінуў. Пярсьцёнак – рэч не ягонага сьвету, не ягонага клопату. Цяжка знайсьці больш ненадзейнага й нядбайнага вартаўніка – і тое адно ўжо дастатковы адказ.

– У любым выпадку, – дадаў Глярфіндэль, – адаслаць пярсьцёнак да яго – толькі адцягнуць непазьбежнае. Жытло Бамбадзіла далёка адсюль. Цяпер мы ня здолеем пранесьці пярсьцёнак да яго незаўважаным, непрыкмечаным варожымі паслугачамі. А калі й здолеем – раней ці пазьней Уладар Пярсьцёнкаў вызнае пра схованку Адзінага й усёй сілай абрынецца на яго. Ці вытрымае такую моц Бамбадзіл? Мяркую, не. Мяркую: урэшце, калі загіне ўсё астатняе, паддасца й ён. Сыдзе апошнім – як прыйшоў першым. І тады настане Ноч.

– Я няшмат ведаю пра Ярвэна, апрача імя, – вымавіў Гальдар, – але Глярфіндэль, на мой погляд, мае рацыю. Моц зрынуць ворага ня ў ім, калі толькі тая моц існуе на зямлі. Мы бачылі, Саўрон здольны катаваць і зьнішчаць нават горы. Сілы супрацьстаяць яму яшчэ засталіся тут, у Імладрысе, ды ў Кірдана ў Завані, ды ў Лорыйне. Ці вытрымаюць яны націск Ворага, выстаяць, калі, падмяўшы астатніх, перад імі паўстане сам Саўрон?

– У мяне ня хопіць моцы, – сказаў Эльранд. – У астатніх таксама.

– У такім разе, калі ўжо пярсьцёнак немагчыма абараніць сілай, – працягнуў Гларфіндэль, – застаецца толькі два выйсьці: паспрабаваць ці адаслаць яго за мора, ці зьнішчыць.

– Гэндальф давёў нам, што аніякімі нашымі сродкамі мы пярсьцёнак ня зьнішчым, – вымавіў Эльранд. – А тыя, хто жыве ў Замор'і, ня прымуць яго. Бо ён, на дабро ці на ліха, належыць сьвету Міжзем'я й ня здольны яго пакінуць. Ён скаваны зь лёсам нашага сьвету, і толькі мы, пакуль мы ягоныя жыхары, можам гэты лёс вырашыць.

– Тады, – прапанаваў Гларфіндэль, – кіньма пярсьцёнак у глыбіні мора. Няхай Саруманава хлусьня ўпраўдзіцца. Бо цяпер відавочна: ужо на Радах ён падманваў наш слых на карысьць сабе. Ведаў, што пярсьцёнак не згубіўся назаўсёды, але пабуджаў нас гэтак лічыць. Ён ужо тады прагнуў завалодаць ім. Тым ня менш часьцяком хлусьня хавае ісьціну: у моры пярсьцёнак супакоіцца ў бясьпецы.

– Але не назаўжды, – запярэчыў Гэндальф. – Шмат пачвараў жыве ў глыбінях. З часам зьмяняюцца й мора, і зямля. А нам тут неабходна вымеркаваць і вырашыць будучыню не на месяц наперад, не на час некалькіх людзкіх пакаленьняў ці нават на сыходную эпоху нашага сусьвету. Мы павінны скончыць з пагрозай раз і назаўсёды, нават калі надзеі на зьдзяйсьненьне таго амаль няма.

– І яшчэ меней надзеі на тое зьдзяйсьненьне, калі абраць шлях да мора, – сказаў Гальдар. – Бо калі вяртаньне да Ярвэна падаецца небясьпечным, дык рухацца да мора тым больш. Прадчуваю: Саўрон палічыць, што мы рушым на захад, як толькі даведаецца пра падзеі. А ён даведаецца хутка. Дзевяцёра страцілі скакуноў, але тое часовая затрымка, неўзабаве ім дадуць новых, спрытнейшых. Толькі падточаная моц Гондару не дае Ворагу выправіць войска ўздоўж берагу на поўнач, асадзіць Белыя вежы й Завань і не дазволіць эльфам пакінуць Міжзем'я, агорнутага ценем.

– Тое войска выправіцца ня хутка, – вымавіў Барамір. – Ты кажаш: *падточаная моц Гондару*. Падточаны ці не, Гондар стаіць, і нават такая моц Ворагу не па зубах.

– Але Гондар не стрымаў Дзевяцярых – яны бесьперашкодна сягнулі Захаду, – заўважыў Гальдар. – Ёсьць і іншыя шляхі, якія не пільнуе Гондар.

– Тады, – прамовіў Эрэстар, – нам сапраўды застаюцца два выйсьці, як і давёў Гларфіндэль, – схаваць пярсьцёнак назаўсёды ці зьнішчыць яго. І абодва па-за нашымі сіламі. Хто разгадае гэтую загадку для нас?

– Аніхто з прысутных, – сказаў Эльранд сувора. – Аніхто ня здольны прадказаць, што атрымаецца, калі мы абярэм той або іншы шлях. Але мне вырашэньне ўяўляецца ясна. Шлях на захад падаецца лягчэйшым. Таму крочыць па ім нельга. За ім назіраюць. Бо эльфы заўжды ўцякаюць да мора. Зараз надышоў час ісьці складаным шляхам, шляхам непрадбачаным. У самае жэрава сьмерці – у Мордар. Пярсьцёнак неабходна зрынуць у полымя.

Зноў павісла цішыня. Нават седзячы ў файнай прыгожай залі, паглядаючы на сонечную даліну пад радасны плёскат струменю, Фрода адчуваў сьмяротны, чорны цяжар на сэрцы. Барамір заварушыўся, і Фрода павярнуўся ў ягоны бок. Ваяр хмурыўся, задумліва мацаючы свой паляўнічы рог. Нарэшце падаў голас.

– Я ніяк не магу зразумець: Саруман, вядома, здраднік, але ж ці ня ёсьць у ягоных меркаваньнях каліва мудрасьці? Чаму вы кажаце адно: схаваць, зьнішчыць? Чаму не палічыць, што Вялікі Пярсьцёнак патрапіў да нас, каб дапамагчы ў час найвялікшай патрэбы? Зь ім вольныя гаспадары вольных народаў, безумоўна, пераможуць Ворага! Мяркую, гэтага баіцца ён болей за ўсё! Людзі Гондару мужныя й

годныя, аніколі яны ня схіляцца перад Ворагам, але ягоная моц можа перамагчы нас. Мужнасьці трэба перш за ўсё сіла, а потым ужо зброя. Няхай пярсьцёнак стане нашай зброяй, калі ён сапраўды гэткі магутны, як вы кажаце. Возьмем яго й рушым да перамогі!

– На жаль, не, – прамовіў Эльранд. – Нам немагчыма выкарыстаць Пярсьцёнак Улады. Цяпер мы вельмі дакладна тое ведаем. Ён належыць Саўрону, толькі адному яму. Ён суздрам – увасобленае ліха. Моц ягоная невымерная, сьмяротная, невыносная анікому, апрача тых, хто й без таго валодае вялікай сі лай. Але для іх ён яшчэ небясьпечнейшы, бо нават адна прага валодаць ім зжарэ сэрцы й душы. Узгадай Сарумана. Калі хто-небудзь з мудрых выкарыстае пярсьцёнак, каб скінуць Уладара Мордару ягонымі ж сродкамі, непазьбежна займе ягоны ж пасад, і ў сусьвеце зьявіцца новы Чорны Ўладар. Гэта яшчэ адна нагода, каб зьнішчыць пярсьцёнак. Пакуль ён існуе ў гэтым сьвеце, ён заўжды небясьпека нават і мудрым. Аніхто ня быў злы ад нараджэньня. Нават Саўрон. Што тычыцца мяне – я не адважуся хаваць пярсьцёнак і заўжды ведаць, дзе ён. І аніколі не скарыстаюся ім.

– Я таксама, – дадаў Гэндальф.

Барамір зірнуў на іх з сумневам, але ўсё ж хіснуў галавою ў знак згоды.

– Няхай будзе так. Тады Гондару трэба разьлічваць толькі на ўласную зброю. Пакуль мудрыя ахоўваюць пярсьцёнак, мы будзем змагацца. Магчыма, меч, што быў зламаны, дапаможа стрымаць навалу, калі рука, якая валодае ім, атрымала ў спадчыну ня толькі даўні скарб-кляйнод, але й даўнюю сілу людзкіх каралёў.

– Хто ведае, – азваўся Арагорн, – але надыдзе дзень – і мы праверым гэта.

– Спадзяюся, неўзабаве, – адказаў Барамір. – Бо хоць я й не прашу дапамогі, яна нам сапраўды патрэбная. Нас узбадзёрыць і абнадзеіць тое, што астатнія таксама змагаюцца ва ўсю сваю моц.

– Ведай, што менавіта гэтак яно й ёсьць, – адгукнуўся Эльранд. – Бо існуе шмат каралеўстваў і валадарстваў, невядомых табе. Андуйн Вялікі цячэ праз мноства земляў да таго, як сягае Арганатаў і Брамы Гондару.

– Аднак лепей было б аб'яднаць сілы ўсіх тых каралеўстваў і валадарстваў, – прамовіў гном Глойн, – ды накіраваць адзінаю рукою. Дый ня толькі іх. Бо ёсьць жа іншыя пярсьцёнкі; і не такой здраднай моцы, прыдатныя ў гадзіну нашай бяды. Сем пярсьцёнкаў мы страцілі, калі, вядома, Балін не адшукаў пярсьцёнак Трора, апошні зь іх. Пра яго мы анічога ня чулі з часоў, калі Трор загінуў у Морыі. Лічу, цяпер я магу прызнацца, што часткова з-за таго пярсьцёнка Балін і выправіўся ў Морыю, спадзеючыся адшукаць яго.

– Балін ня знойдзе пярсьцёнка ў Морыі, – запярэчыў Гэндальф. – Трор аддаў пярсьцёнак свайму сыну Трайну, але Трайн не перадаў пярсьцёнка свайму сыну Торыну. Катаваньнем пярсьцёнак аднялі ў Трайна ў скляпеньнях Дул Гулдуру. Я прыйшоў туды надта позна.

– А-а! – выклікнуў Глойн. – Калі ж надыдзе дзень нашай помсты?! Аднак яшчэ ж ёсьць тры эльфскія кляйнодзікі. Што зь імі? Кажуць, яны таксама вельмі магутныя. Ці ж не валода юць імі эльфскія правадыры? Тыя пярсьцёнкі таксама былі выраблены Ворагам у даўніну. Ці ж іх ліха сьпіць? Я бачу ўладароў эльфскіх плямёнаў тут. Што яны скажуць?

Эльфы не адказалі нічога.

– Ці ты ня слухаў мяне? – перапытаў нарэшце Эльранд. – Тры эльфскія пярсьцёнкі зрабіў не Саўрон. Ён нават не кранаў іх. Але пра іх распавядаць не дазволена. Толькі гэта я й магу сказаць у гадзіну сумневаў. Тыя пярсьцёнкі не

бескарысныя. І магутныя. Але ня як зброя вайны й прымусу – ані ў гэтым іх здольнасьць. Тыя, што стварылі іх, ня прагнулі ні сілы, ні ўлады, ні неабсяжных скарбаў – толькі разуменьня, майстэрства, лекаваньня, захаваньня ўсяго добрага й файнага ад згубы й ценю. І гэтага эльфы Міжзем'я ў пэўнай меры дасягнулі, хоць і напаткалі шмат гора на шляху. Калі Адзіным завалодае Саўрон, усё, створанае ахавальнікамі трох, абрынецца, абернецца ім жа на згубу. Усе іхнія думкі адкрыюцца Саўрону, усе пляны. Гэта ягоная мэта... Лепей было б, калі б тры аніколі не існавалі.

– А што адбудзецца, калі зьнішчыць Адзіны, як вы й раілі? – пацікавіўся Глойн.

– Дакладна невядома, – сумна адказаў Эльранд. – Некаторыя спадзяюцца, што тры пярсьцёнкі, якія Саўрон аніколі не кранаў, тады вызваляцца й іх гаспадары ацэляць раны нашага сусьвету. Але магчыма, з сыходам Адзінага пазбавяцца моцы й астатнія пярсьцёнкі, і мноства рэчаў цудоўных і добрых сыдуць разам зь імі – сыдуць і забудуцца. Так лічу я.

– Аднак усе эльфы згодныя рызыкнуць такімі стратамі, – дадаў Глярфіндэль, – калі толькі моц Саўрона й жах перад ягонай уладай можна зьнішчыць назаўжды.

– Што зноў вяртае нас да зьнішчэньня пярсьцёнка, – падсумаваў Эрэстар, – і не прасоўвае наперад ані на крок. Якімі сіламі сягнем мы полымя, у якім быў скаваны пярсьцёнак? Гэта шлях адчаю. Ці, я сказаў бы, глупства, калі б ня ведаў пра абсяг Эльрандавай мудрасьці.

– Адчай ці глупства? – спытаў Гэндальф. – Адчай хіба толькі для тых, хто ўжо ня мае сумневаў у пагібельным выніку. Мы – маем. Мудрасьць якраз у тым, каб прыняць неабходнае, узважыўшы й абмеркаваўшы астатняе, хоць тым, хто чапляецца за хісткую надзею, мудрасьць і падаецца глупствам. Ну дык няхай глупства стане нашай заслонай, маной перад вачыма Ворага! Бо ён – надзвычай мудры й узважвае рэчы найдакладнейшым чынам паводле свайго вымярэньня. Але ж ягонае вымярэньне – толькі прага моцы ды ўлады. Імі ён вымярае ўсе сэрцы. І таму да яго ня прыйдзе думка, што нехта можа адмовіцца ад улады; маючы пярсьцёнак – намагацца яго зьнішчыць, а ня выкарыстаць. Таму мы здольныя зблытаць усе ягоныя пляны й разьлікі.

– На пэўны час, прынамсі, – дадаў Эльранд. – Гэтым шляхам нам трэба крочыць, хоць ён і надзвычай цяжкі. Ані моц, ані мудрасьць не правядуць нас па ім. Слабыя адужаюць яго, мажліва, хутчэй за моцных. Бо часьцяком так зьдзяйсьняецца тое, што рухае колы нашага сусьвету. Малыя рухаюць іх, выконваючы свой абавязак, пакуль вялікія імкнуцца да ўласных мэтаў.

– Файна, файна, спадарыку Эльрандзе! – ублытаўся раптам Більба. – Болей ня трэба казаць анічога! Ужо відавочна, куды вы кіруеце. Няўклюды хобіт Більба заварыў гэтую кашу, дык лепей яму яе й даесьці ці ёй яго. Мне вельмі ўтульна тут, і кніжка мая пісалася файна. Калі хочаце ведаць, я ўжо й заканчэньне для яе прыдумаў. Меркаваў, скончу так: "*І пасьля ўсяго ён жыў шчасьліва да скону сваіх дзён*". Добры канец, ня горшы за ранейшы. Цяпер, відавочна, давядзецца крыху зьмяніць, бо ён ужо не адпавядае ісьціне. Дый шчэ колькі частачак дапісаць давядзецца, без сумневаў, калі я дажыву да магчымасьці іх напісаць. Ну які клопат! Калі мне выходзіць?

Барамір зірнуў на Більба зьдзіўлена, але сьмех замер на ягоных вуснах, калі ён пабачыў, што ўсе астатнія глядзяць на старога хобіта зь суворай павагай. Толькі Глойн усьміхнуўся, бо згадаў былое.

– Так, так, даражэнькі мой Більба, – сказаў Гэндальф. – Калі б на самай справе гэтая гісторыя пачалася зь цябе – табе было б і сканчаць яе. Але ж ты ведаеш цяпер; *пачаць* гісторыю – наўрад ці пад сілу найвялікшым з герояў. Усе яны толькі гуляюць

ролі, невялічкі ўласны кавалак на агульнай карціне. Не крыўдуй: мы зразумелі, што за жартам ты прыхаваў сапраўдную мужнасьць. Аднак цяпер несьці *яго* – па-за тваімі сіламі. Ты ня здолееш зноў прыняць *яго*. *Ён* ужо – не тваё бярэмя, *ён* пакінуў цябе. Калі ты яшчэ хочаш выслухаць мае парады, я скажу: твой удзел у гэтай гісторыі скончыўся. Хіба што ты зробісься яе летапісцам. Сканчай кнігу й пакінь фінал, якім яго выдумаў. На гэта ёсьць надзея. І падрыхтуйся пісаць працяг, калі вернуцца новыя героі.

– Ну ніколі раней ня чуў ад вашці такой прыемнай парады: супакоіцца й пасядзець на месцы! – Більба засьмяяўся. – Усе непрыемныя парады абярнуліся слушнымі. Цікава, ці не абернецца прыемная благой? Так, наўрад ці цяпер у мяне стане сілаў і ўдачы на пярсьцёнак. Ягоная моц узрасла, а я ж толькі старэю. Але скажы мне: каго ты назваў *новымі героямі*?

– Тых, хто панясе пярсьцёнак.

– Менавіта так! І хто ж яны? Падаецца мне, адно гэтае Рада й павінна вырашыць. Дзеля таго й сабраліся. Эльфы могуць сілкавацца словамі, вядома, і гномская вытрымка знакамітая паўсюль, але я ўсяго толькі стары хобіт, і для мяне прапусьціць другі сьняданак – катастрофа. Ці прыйшлі вам да галоваў імёны тых герояў? Ці вырашацьме пасьля абеду?

Адказу не было. Прабіла поўдзень. Аніхто не парушаў цішыні. Фрода азірнуўся – ніхто не глядзеў на яго. Уся Рада сядзела, апусьціўшы галовы, занураная ў глыбокі роздум. Цяжкі жах лёг на Фродава сэрца – быццам ён чакаў абвяшчэньня жорсткага прысуду, пра які даўно ведаў, але спадзяваўся, адчайна, манячы сабе самому, яго пазьбегнуць. Толькі б застацца ў Долым Яры, побач зь Більба, у спакоі ды ўтульнасьці. Нарэшце Фрода загаварыў – і зьдзівіўся, пачуўшы свой голас. Нібыта нехта іншы выцягваў сілаю ледзь чутныя слабыя словы.

– Я панясу пярсьцёнак. Толькі я ня ведаю шляхоў у Мордар.

Эльранд падняў галаву, і Фрода адчуў, як ягоны позірк працяў наскрозь ягонае сэрца.

– Калі я зразумеў дакладна тое, што пачуў тут, менавіта табе прызначанае гэтае зьдзяйсьненьне. Калі ня здолееш ты – ня здолее ніхто. Надышоў час шырскага народу паўстаць ад сваіх мірных палеткаў ды крочыць наперад у вежы мудрых і на рады вялікіх. Хто з мудрых прадбачыў такое? Ці хоць яны й мудрыя, як магла прыйсьці да іх такая думка, пакуль не надышоў прызначаны час?

– Ты бярэш на сябе цяжкое бярэмя. Такое цяжкое, што аніхто ня мае права ўзваліць яго на цябе. Я таксама ня маю такога права. Аднак калі ты з уласнай волі бярэсься за яго, скажу так: ты вырашыў слушна. І калі б усе героі й сябры эльфаў даўніны Хадар, Хурын і Турын, і нават сам Бэрэн сабраліся б тут, тваё месца справядліва было б сярод іх.

– Але ж вы ня выправіце яго аднога, праўда, спадару Эльрандзе?! – выкрыкнуў Сэм, няздольны болей трываць, і выскачыў з кута, дзе ўвесь час ціхенька сядзеў на падлозе.

– Вядома, не! – гукнуў Эльранд, з усьмешкай павярнуўшыся да Сэма. – Ты дакладна пойдзеш зь ім разам. Наўрад ці магчыма разлучыць вас, калі ён атрымаў запрашэньне на таемную Раду, а ты – не.

Сэм сеў на месца, чырванеючы й мармычучы пад нос.

– Ну, у гэткае ўзварава ўляпалі вы нас, спадарыку Фрода! – вымавіў, хістаючы галавою.

*3. Пярсьцёнак выпраўляецца на поўдзень*

Тым самым днём хобіты зладзілі ўласную раду, сабраўшыся ў Більбавым пакоі. Мэры й Піпін сьмяротна пакрыўдзіліся, калі пачулі, што Сэм употайкі пралез на Раду Эльранда й быў абраны спадарожнікам Фрода.

– Дзе ж тут справядлівасьць? – абураўся Піпін. – Заміж каб выкінуць яго з залі за нахабства – ды ў кайданы, Эльранд вось так запроста яго ўзнагароджвае!

– Узнагароджвае? – зьдзівіўся Фрода. – Ды я не магу ўявіць сабе горшага пакараньня! Ты зусім ня думаеш, што гаворыш. Называеш безнадзейную пагібельную выправу ўзнагародай? Яшчэ ўчора я марыў, каб усе мае турботы скончыліся тутака, каб я мог адпачыць у Гасьцінным Прытулку, а мо й увогуле застацца.

– Ну, гэта мяне ня дзівіць, – зазначыў Мэры. – Гэта было б файна. Але мы зайздросьцім не табе, а Сэму. Калі ўжо табе прызначана йсьці, значыць кожнаму з нас пакараньне – застацца, няхай і ў Долым Яры. Мы шмат прайшлі поплеч з табою, шмат чаго зьведалі. Мы хочам ісьці разам і далей.

– Тое й я меў на ўвеце, – дадаў Піпін. – Нам, хобітам, трэба

трымацца разам – і мы будзем. Я пайду ў любым выпадку, хіба што мяне пасадзяць на ланцуг. Трэба ж некаму разумнаму быць у вашай кампаніі.

– Гэтая роля дакладна не для цябе, Перыгрын Хват! – заўважыў Гэндальф, зазіраючы ў нізкае вакно звонку. – Вы дарма турбуецеся. Анічога яшчэ ня вырашана.

– Анічога яшчэ ня вырашана!? – заекатаў Піпін. – Дык чым вы ўсе займаліся? Вы суцэльныя гадзіны праседзелі там зачыніўшыся!

– Мы галоўным чынам распавядалі, – давёў Більба. – Нямала навінаў абвесьцілі, і для кожнага знайшлося нешта, каб ад зьдзіўленьня вочы вырачыць. Нават для старыны Гэндальфа. Мяркую, Ляголасавы навіны пра Глыксавы ўцёкі былі яму неспадзеўкай, хоць ён ня выказаў.

– Памыляесься, – запярэчыў Гэндальф. – Ты слухаў няўважліва. Я ўжо чуў гэта ад Гвайхіра. Калі хочаш, па-сапраўднаму вочы вырачыўшы, як ты меў ласку зазначыць, сядзелі толькі вы з Фрода. А я, адзіны з усіх, не пачуў анічога новага.

– Ну, так ці інакш, – сказаў Більба, – анічога ня вырашылі, апроч як прызначылі небаракаў Фрода з Сэмам. Я ўвесь час баяўся, што так станецца, калі не абяруць мяне. Мяркую, Эльранд дачакаецца зьвестак пра вакольны сьвет ад выведнікаў, а тады далучыць каго-кольвек да Фрода, ці ня так? Дарэчы, ці выслалі ўжо выведнікаў?

– Так, – пацьвердзіў Гэндальф. – Некаторыя выправіліся. Астатнія выедуць раніцою. Эльранд даслаў сваіх эльфаў, тыя сустрэнуцца зь сьледапытамі, магчыма, зь ліхалескімі эльфамі таксама. Арагорн рушыў з Эльрандавымі сынамі. Трэба ж праверыць краі на шмат міляў вакол перад тым, як ісьці зь пярсьцёнкам. Таму, Фрода, ня вешай носу – табе яшчэ доўга спаць пад гэтым дахам.

– Вох, – panыла ўздыхнуў Сэм, – вось так і зімы дачакаемся.

– Ну, тут анічога ня зробіш, – суцешыў Більба, – не без тваёй віны, Фрода, хлопчык мой. Ты ж чакаў маіх народзінаў. Дзіўнюткі манер ушанаваць іх ты знайшоў, даражэнькі. Наўрад я абраў бы менавіта гэты дзень, каб аддаваць Кескам Торбу-пад-Стромай. А цяпер: да вясны адцягваць нельга й нельга выпраўляцца без навінаў.

*Калі зіма пачне кусаць,*
*Каменьнем па начах трашчаць,*
*Ільдом чарнець, гальлё галіць –*
*Ліхая справа вандраваць.*

– Баюся, менавіта так вам і выпадзе.

– Баюся, тут ты маеш рацыю, – пагадзіўся Гэндальф. – Нам нельга рушыць, пакуль невядома, дзе Вершнікі.

– Я думаў, яны ўсе загінулі ў Бруйнене, – сказаў Мэры.

– Прывідаў пярсьцёнка гэтак проста ня зьнішчыць. Яны магутныя моцай свайго гаспадара. Пакуль стаіць ён – вытрымаюць і яны. Спадзяемся, што яны цяпер пазбаўленыя коней ды магчымасьці маскавацца пад жывых і таму меней небясьпечныя. Але тое трэба пацьвердзіць. А датуль забудзься на клопаты й беды, Фрода. Ня ведаю, чым табе дапамагчы, але хоць шапну на вуха сёе-тое: хтось казаў што некаму разумнаму трэба быць у вашай кампаніі. Ён меў рацыю. Спадзяюся, я выпраўлюся з вамі.

Фрода гэтак узрадаваўся, што Гэндальф нават зьлез з прываконьня, дзе сядзеў, зьняў капялюш і пакланіўся. І дадаў:

– Я сказаў – спадзяюся. Тое шчэ ня вырашана конча. Шмат заважыць апошняе слова Эльранда ды вашага сябра Швэндала. Што й нагадвае мне пра неабходнасьць тэрмінова пабачыць гаспадара. Трэба йсьці.

– Як лічыш, колькі часу ў мяне засталося тут? – спытаў Фрода ў Більба, калі Гэндальф сышоў.

– Вох, ня ведаю. У Долым Яры дні ня лічацца. Нямала, я мяркую. Хопіць на шмат добрых бяседаў. Як наконт дапамагчы мне з кнігаю ды з пачаткам наступнай, га? Ці думаў ты ўжо пра яе заканчэньне?

– Так, нават пра некалькі – адно чарнейшае за другое.

– Ну, гэтак ня пойдзе! – усклікнуў Більба. – Кнігі павінны сканчацца добра. Як наконт: "*Тады яны, нарэшце, зажылі ў спакоі ды шчасьці да скону сваіх дзён*"?

– Файны канец, калі б толькі да яго дайшло.

– Але, – дадаў Сэм. – Толькі дзе яны жывуць у тым шчаслівым спакоі – вось што мне цікава.

Пэўны час хобіты размаўлялі, узгадвалі былую вандроўку й разважалі пра небясьпекі наперадзе, але ж у Долым Яры немагчыма доўга турбавацца ці непакоіцца. Нават блізкая й відочная будучыня, добрая ці ліхая, тут ня мела ўлады над сучаснасьцю, не азмрачала яе. Кожны дзень дадаваў моцы целу й надзеям, і хобіты проста віталі кожны ранак, не задумваючыся, шчыра радуючыся кожнаму пад'едку, кожнаму слову й песьні.

Гэтак струменілі й сьцякалі дзень за днём, і кожная раніца сьвяціла зырка й чыста, і кожны вечар быў прахалодны й ясны. Але восень памірала: залатое сьвятло паволі цьмянела, вытанчылася да бляклага срэбра, і апошнія лісты пакінулі гальлё. Узьняўся халодны вецер з усходу, ад Туманных гор. Выкруглілася, высьвецілася ў начных нябёсах Паляўнічая Поўня, захіляючы зоры. Толькі нізка на поўдні самотная зорка зьзяла барваю. Штоночы месяц выцьвітаў, а яна зырчэла. Фрода бачыў яе за сваім акном – быццам палымянае вока нябеснага вартавога, што цікуе па-над дрэвамі з-за краю даліны.

Амаль два месяцы пражылі хобіты пад Эльрандавым дахам. Лістапад зьнёс з сабою апошнія прыкметы восені й сьнежань ужо састарэў, калі нарэшце вярнуліся выведнікі. Некаторыя – з поўначы, сягнуўшы праз Тролевы Логі нават за вытокі Шэрані, некаторыя – з усходу, абшукаўшы з дапамогаю Арагорна й сьледапытаў краі далёка за Шэраводзьдзем, ажно да Тарбаду, дзе стары Паўночны Шлях перасякаў

раку побач з разбураным горадам. Шмат выведнікаў пабывала на ўсходзе й поўдні, некаторыя перабраліся праз горы й сягнулі Ліхалесься, іншыя прайшлі перавалам да вытокаў Квяты, спусьціліся праз глухамань ды Квятныя Панізьзі, дабраліся да былога жытла Радагаста ў Разгабэлі. Радагаста там не знайшлі й вярнуліся празь перавал Дымрыльская Лесьвіца, высокі й небясьпечны. Апошнімі з найдаўжэйшай вандроўкі вярнуліся Эльрандавы сыны, Эладар і Эльрохір. Яны спускаліся па Срабрынцы ў запаветныя краі Лорыйну, але свае зьвесткі давялі аднаму Эльранду.

Анідзе пасланцы не знайшлі аніякіх прыкметаў ці вестак пра Чорных Вершнікаў ці пра іншых варожых паслугачоў. Нават арлы Паўночных гор навінаў ня мелі. Пра Глыкса таксама анічога. Але ваўкі зноў зьбіраліся ў зграі й заходзілі, палюючы, далёка ўверх па Андуйне. Целы трох чорных коней знайшлі ля Бруйненскага броду, ніжэй на камянёх цясьнінаў ляжалі яшчэ пяць, а таксама доўгі чорны плашч, разадраны й пацяты. Саміх Вершнікаў нават і прысутнасьці не адчувалася – напэўна, яны ўвогуле пакінулі Поўнач.

– Ну, восем зь дзевяці – нядрэнна, – зазначыў Гэндальф. – Вядома, ня трэба сьпяшацца з высновамі, але мне думаецца: добры шанец, што назгулаў параскідала дый пазбавіла моцы, і таму яны сьпяшаюцца да гаспадара ў Мордар, бесьцялесныя й пустыя. Калі так, у нас яшчэ ёсьць час, пакуль яны зноў выйдуць на паляваньне. Вядома, яны не адзіныя паслугачы ў Ворага, але астатнім трэба сягнуць Долага Яру, каб патрапіць на наш сьлед. А мы ўжо паклапоцімся, каб ён нялёгка знаходзіўся. Усё, болей нам затрымлівацца нельга.

Эльранд выклікаў хобітаў да сябе. Важка паглядзеў на Фрода.

– Час надышоў. Калі пярсьцёнку трэба выпраўляцца на поўдзень – дык зараз жа. Але тыя, што панясуць яго, не павінны разьлічваць на падтрымку войскам. Толькі ўласнымі сіламі яны здолеюць сягнуць валоданьняў Ворага. Ці не перамяніў ты свайго вырашэньня, Фрода, ці згодны быць Ахоўнікам Пярсьцёнка?

– Так, – адказаў Фрода. – Я пайду разам з Сэмам.

– Я ня здолею істотна дапамагчы табе, нават парадай, – працягваў Эльранд. – Мне амаль нябачны твой шлях. Як лепей зьдзейсьніць табе тваё прызначэньне, я ня ведаю. Цень дапоўз ужо да ўзножжаў Туманных гор, сягнуў нават Шэраводзьдзя, а за ім для мяне ўсё цьмяна. Цябе сустрэне мноства ворагаў, яўных ці стоеных, але ты, мажліва, напаткаеш сяброў, нават калі меней за ўсё чакаеш гэтага. Я адашлю лісты й папярэджаньні ўсім, каго ведаю й на каго магу разьлічваць. Папрашу, каб табе дапамагалі. Але цяпер вандраваць так небясьпечна й ненадзейна, што наўрад ці ўсе лісты патрапяць да сваіх адрасатаў, а мажліва, і патрапяць – яшчэ пазьней за цябе.

Таксама я абяру табе спадарожнікаў, каб суправаджалі цябе, колькі здолеюць ці колькі захочуць. Няшмат, бо ваш шанец – у хуткасьці й таемнасьці. Нават харугва эльфаў у бронях Даўніх дзён тут не дапамагла б, хіба толькі прывабіла б да сябе ўсю мордарскую навалу.

Ахоўнікаў Пярсьцёнка павінна быць дзевяць – дзевяцёра вартавых супраць дзевяці ліхіх паляўнічых Ворага. З табою й тваім верным слугой выправіцца Гэндальф. Гэта стане яго найвялікшай дзеяй – мо праз яе й выканае ён сваё прызначэньне ў нашым сусьвеце.

Астатнія прадставяць розныя вольныя плямёны сьвету: эльфаў, гномаў і людзей. Ляголас выклікаўся ісьці за эльфаў, Гімлі, сын Глойна, – за гномаў. Яны згадзіліся суправаджаць вас да перавалаў, а мо й далей. Зь людзей з вамі пойдзе Арагорн, сын Араторна, бо лёс Ісільдарава пярсьцёнка непасрэдна кранае яго.

– Швэндал! – выклікнуў Фрода.

– Так, – пацьвердзіў той з усьмешкай. – Я зноў прашу дазволу суправаджаць цябе, Фрода.

– Я й сам выпрошваў бы тваёй згоды, калі б не лічыў, што ты рушыш з Барамірам у Мінас Тырыт.

– Менавіта так. Зламаны меч скуюць наноў, і я выпраўлюся на вайну. Але мой шлях супадае з тваім цягам многіх сотняў вёрстаў. Таму й Барамір таксама пойдзе з намі – ён мужны й адважны чалавек.

– Застаюцца яшчэ двое, – заключыў Эльранд. – Сярод маіх сваякоў, напэўна, знойдуцца вартыя выправіцца з вамі.

– Але тады не застанецца месца для нас! – адчайна ўскрычаў Піпін. – Нам зусім не карціць застацца! Мы жадаем ісьці разам з Фрода!

– Гэта таму, што вы не разумееце й не ўяўляеце, што вас чакае, – папярэдзіў Эльранд.

– Фрода таксама не ўяўляе, – нечакана падтрымаў Піпіна Гэндальф. – Аніводны з нас не ўяўляе гэта ясна. Калі хобіты ясна бачылі б небясьпеку, напэўна, не адважыліся б ісьці. Аднак ісьці хацелі, хацелі адважыцца – і засталіся б з сорамам і горыччу. Мяркую, лепей даверыцца іх сяброўству, чым вялікай мудрасьці й моцы. Нават калі ты абярэш нам наймагутнейшага з правадыроў, кшталту Гларфіндэля, ён ня здолее пабурыць Цёмную вежу ці сілаю прабіць шлях да Вогненнай гары.

– Твае словы важкія, – прамовіў Эльранд, – але я яшчэ сумняюся. Бо прадбачу: зло ўжо крочыць у Шыр. Двох хобітаў я меркаваў паслаць вестунамі, каб яны адпаведна з звычаямі сваёй краіны папярэдзілі пра небясьпеку й зрабілі супраць яе, што здолелі б. Ва ўсялякім выпадку я супраць таго, каб малодшы зь іх, Перыгрын Хват, пайшоў з Фрода. Мне падаецца, лепей яму застацца.

– Тады, спадару Эльрандзе, вам лепей замкнуць мяне ў вязьніцы ці выправіць дахаты, завязаўшы ў куль, – сказаў Піпін. – Бо я пабягу сьледам за імі.

– Тады хай будзе так, – падсумаваў Эльранд, уздыхнуўшы. – Цяпер усе дзевяцёра – сябры Зьвязу Пярсьцёнка – абраныя. Праз сем дзён яны павінны выходзіць.

Эльфскія кавалі перакавалі меч Элендыля, выбілі на клінку сем зораў паміж маладзіком і прамяністым сонцам і мноства рунаў, бо Арагорн, сын Араторна, выпраўляўся на вайну з Мордарам. Так зырка зьзяў адноўлены меч! Сонца люстравалася ў ім чырваньню, сьвятло месяца блішчэла лёдам, найвастрэйшым, найцьвярдзейшым было ягонае лязо. Арагорн даў яму новае імя – Андарыль, Полымя Заходу.

Арагорн і Гэндальф часьцяком шпацыравалі разам ці сядзелі, абмяркоўваючы шлях ды верагодныя небясьпекі, вывучалі паданьні й летапісы, разглядалі мапы, якія захоўваліся ў Эльрандавай сядзібе. Раз-пораз Фрода чытаў разам зь імі, але нячаста, бо лічыў, што лепей пакінуць усё ачольніцтва ім, а самому як мага болей часу прабавіць зь Більба.

У апошнія дні хобіты амаль кожны вечар сядзелі ў залі Агменю, слухаючы паміж мноствам іншых паданьняў цалкам распаведзеную песьню пра Бэрэна і Люціень ды вяртаньне Сільмарыля. Удзень жа, калі Мэры зь Піпінам бадзяліся па наваколльлі, Фрода з Сэмам заставаліся ў маленькім пакойчыку старога хобіта. Там Більба зачытваў урыўкі з кнігі (якая яшчэ падавалася вельмі няпоўнай), строфы вершаў ці рабіў запісы Фродавай вандроўкі да Долага Яру.

Раніцою апошняга дня Фрода застаўся сам-насам зь Більба, і стары выцягнуў з-пад свайго ложка драўляную скрыню. Адкінуў вечка, пакапаўся ў рэчах.

– Вось, – сказаў, выцягваючы, – твой стары меч. Але ж ён зламаны, ты ведаеш. Я ўзяў захаваць яго дый забыўся папрасіць кавалёў перакаваць. Цяпер ужо й часу няма. Таму мне й падумалася: можа, ты возьмеш гэты меч, ці не?

Ён выняў з скрыні маленькі корд у старых, падрапаных скураных похвах. Высунуў яго – і гладкае, файна дагледжанае лязо ўзбліснула халодна й зырка.

– Гэта Джала, – патлумачыў Більба й амаль бяз высілку загнаў корд глыбока ў драўляную бэльку. – Бяры, калі хочаш. Мне ён ужо наўрад ці спратрэбіцца.

Фрода прыняў корд з удзячнасьцю.

– А таксама й гэта! – выгукнуў Більба, выцягваючы скрутак, відочна, даволі цяжкі для сваіх памераў. Раскруціў старую тканіну, разгарнуў і паказаў Фрода невялікую кальчужную кашулю. Яна была скаваная з мноства маленечкіх, шчыльна пераплеценых кольцаў, мяккая, бы прасьцінка, але ж халодная, як лёд, і цьвярдзейшая за сталь. Яна блішчэла месяцовым срэбрам і была аздобленая белымі каменьчыкамі. Да яе дадаваўся й пасок з крышталю й пэрлінак.

– Прыгожа, праўда? – Більба падсунуў кашульку да сьвятла. – І карысна. Той самы гномскі падарунак. Торын даў мне. Я перад сыходам забраў яе зь Міхальскага Выкапу дый узяў з сабою. Я ўсе сувэніры з той вандроўкі прыхапіў, апрача пярсьцёнка. Ну, яна мне цяпер таксама наўрад ці спатрэбіцца, хіба што зірнуць калі-нікалі дзеля ўспамінаў. Калі апранеш яе, нават і цяжару аніякага не адчуеш.

– Я ў ёй буду выглядаць... ну, папраўдзе кажучы, крыху дзіўнавата.

– І я так казаў пра сябе. Але ж ты не пра выгляд клапаціся. Насі яе пад вопраткаю. Ну, бяры! Не пашкадуеш. І нікому не кажы. Няхай гэта будзе наш з табою сакрэт. Я лепей сябе адчую, ведаючы, што ты яе носіш. Мяркую, хлопчык мой, нават лёзы Чорных Вершнікаў яе не пратнуць, – дадаў ён шэптам.

– Добра, я вазьму яе, – згадзіўся Фрода.

Тады Більба дапамог яму апрануць кальчужку й прычапіў да бліскучага паса Джала. Пасьля Фрода насунуў звычайную кашулю, нацягнуў нагавіцы, апрануў куртку.

– Ну хобіт хобітам, – сказаў Більба задаволена. – Але цяпер у табе крыху болей, чым падаецца зь першага позірку. Трымайся, хлопча!

Адвярнуўся ў вакно й нават пачаў нешта напяваць пад нос.

– Я нават і ня ведаю, як падзякаваць табе, Більба, за ўсю тваю дабрыню, – пачаў быў Фрода.

– Нат і не пачынай! – адгукнуўся стары, павярнуўся ды па-сяброўску пляснуў пляменьніка па сьпіне. Дый вохнуў: – Цяпер паспрабуй цябе плясьні! Ну, чаго там падзякі выдумляць? Хобіты мусяць падтрымліваць адзін аднаго, а асабліва ж Торбінсы. Я толькі аднога прашу: пільнуй сябе, беражыся ды вяртайся з усімі навінамі, якія толькі здолееш сабраць, дый запамінай старыя песьні й паданьні, што толькі пачуеш. А я паспрабую скончыць кнігу да твайго вяртаньня. Я так хацеў бы напісаць яшчэ адну, калі атрымаецца.

Ён змоўк раптоўна ды зноў адвярнуўся ў вакно, штосьці напяваючы:

*Агмень і спомін даўніх дзён*
*мае сагрэюць сны*
*пра птушак сьпеў і кропляў звон,*
*пра леты даўніны.*

*Пра жаўталісьце над ракой*
*на восеньскіх вятрах,*
*туман срабрысты раніцой*
*і срэбра ў валасах.*

*Агмень і спомін даўніх дзён*
*мае ажываць сны,*
*калі зімовы прыйдзе кон,*
*каб мне ня даць вясны.*

*А колькі цудаў гэты сьвет*
*адкрыць мне не пасьпеў!*
*У кожным лузе кожны квет*
*па-свойму заквітнеў.*

*Агмень і спомін даўніны*
*мне выявяць у сьне*
*тых, хто пабачыць сьвет вясны,*
*ужо нязнанай мне.*

*Але й зімовым бляклым днём*
*заўжды між зыбкіх сноў*
*пачуць чакаю за вакном*
*я галасы сяброў.*

Выпраўляліся халодным шэрым днём напрыканцы сьнежня. Усходні вецер шамацеў голым гальлём, варушыў лапы змрочных соснаў на схілах. Над галавою, цьмяныя й нізкія, беглі падраныя хмары. Калі цені раньняга надвячорку пачарнелі, кампанія падрыхтавалася. Сыходзілі з змрокам, бо Эльранд параіў перасоўвацца па начох, калі толькі здолеюць, пакуль не аддаляцца ад Долага Яру.

– Сьцеражыцеся, у Саўрона шмат вачэй, – папярэдзіў ён. – Не сумняюся, зьвесткі пра паразу Вершнікаў ужо атрыманыя. Цяпер ён у шаленстве. Неўзабаве й крылатыя, і бяскрылыя ягоныя выведнікі зашнараць па ўсіх паўночных землях. Нават і нябёсаў цяпер вам трэба сьцерагчыся.

Вандроўнікі прыхапілі няшмат зброі, бо закладам посьпеху была таемнасьць, а не ваяўнічая моц. Арагорн узяў толькі Андарыль, а апрануўся ў сваю звычайную вопратку сьледапыта, у бура-зялёнае ды цёмна-рудое. У Бараміра быў свой меч, падобны вырабам да Андарыля, але не такі старажытны й знакаміты, таксама тарча ды вайсковы рог.

– Гучна й ясна пяе ён па далінах і ўзгорках, – прамовіў Барамір, – і няхай уцякаюць усе ворагі Гондару!

Прыклаўшы да вуснаў, ён выдзьмуў магутны роў, і рэха паскакала ад скалы да скалы. Усе, хто пачуў гэты гук у Долым Яры, паўскоквалі.

– Не сьпяшайся паўтараць, Барамір, – папярэдзіў Эльранд, – пакуль ты не на ўзьмежжы ўласнай краіны ці табе не пагражае бяда.

– Мажліва, так і будзе, – адказаў Барамір. – Але заўсёды даваў я голас майму рогу, калі мы рушылі на вайну. Хоць нам і давядзецца прабірацца пад покрывам ценяў, але пачынаць паход, як начны злодзей, хаваючыся ў цемры, я ня стану.

Гном Гімлі адзіны з усіх адкрыта апрануўся ў браню – кароткую кашулю з сталёвых кольцаў, бо гномы звычныя да цяжару, а да папругі прычапіў шыракалёзую сякеру. Ляголас узяў лук з стрэламі, а таксама трымаў у похвах на пасе доўгі белы корд. У маладзейшых хобітаў былі корды з скляпеньняў, Фрода меў на пасе Джала, кальчугу ж, як і раіў Більба, схаваў пад апраткай. Гэндальф прыхапіў свой кій ды на тальмаху эльфскі меч Гламдрынг, брат Оркрыста, які цяпер спачываў на грудзёх Торына пад Самотнай гарой.

Усіх Эльранд забясьпечыў тоўстай цёплай вопраткай, курткамі й плашчамі, падбітымі футрай. Еміну, запасное адзеньне, коўдры ды іншыя прыпасы пагрузілі на поні – таго самага небараку, набытага ў Прыгор'і.

Долаярскае жыцьцё незвычайна на яго паўплывала: Біл (так назваў скацінку Сэм) ажно ільсьніўся ды нібыта памаладзеў, такі стаў гарэзьлівы. Сэм і настояў, каб Біла ўзялі ў вандроўку, сьцьвярджаючы, што той счаўрэе, калі ня пойдзе.

– Жывёліна ўжо амаль размаўляць здольная, – даводзіў хобіт. – І наўчылася б, калі б яшчэ трохі тут засталася. Так на мяне пазірае, ну й спадар Піпін ясьней не сказаў бы: калі ты мяне, Сэме, ня возьмеш, я сам за табою пабягу.

І сапраўды, хоць Біл цягнуў нашмат болей за астатніх вандроўнікаў, адзіны ён з усёй каманды не падаваўся змрочным і сумным.

Разьвіталіся з гаспадарамі й блізкімі ў залі Агменю, а цяпер чакалі вонкі Гэндальфа. Праз адчыненыя дзьверы былі відаць водбліскі полымя, з мноства вокнаў лілося мяккае сьвятло. Більба, загарнуўшыся ў плашч, моўчкі стаяў на ганку побач з Фрода. Арагорн сядзеў апусьціўшы галаву – толькі Эльранд насамрэч ведаў, што значыла для яго гадзіна разьвітаньня. Астатнія выглядалі шэрымі ценьмі ў цемры.

Сэм прыцмокваў побач з поні ды маркотна пазіраў у змрок унізе, дзе рака раўла й бразгатала каменьнем. Аніякага жаданьня вандраваць ён не адчуваў, і нават думаць пра выправу зусім не хацелася.

– Біл, хлопчык мой, – казаў ён поні, – ня трэ табе было ўвязвацца з намі. Патрываў бы тут на выдатным сене да сьвежай травы.

Біл толькі моўчкі махнуў хвастом.

Сэм падцягнуў заплечнік і яшчэ раз заклапочана прыкінуў, ці ўсё патрэбнае запхаў туды. Так, галоўны скарб там: прылады для гатоўкі, а таксама невялічкая скрыначка солі. Заўжды браў яе з сабою й заўжды папаўняў, калі толькі мог. Таксама добры запас люлькавага зельля (усё роўна мала, як ні круці), крэмень з крэсівам, ваўняныя панчохі, бялізна, розныя дробязі, якія забыўся гаспадар, а Сэм прыхапіў, каб урачыста прадэманстраваць у момант, калі яны спатрэбяцца. Усё ўзгадаў ды пералічыў.

– А вяроўка? – прамармытаў раздражнёна. – Вяроўкі няма. Мінулай жа ноччу казаў сабе: Сэм, як наконт кавалачка вяроўкі? Вось яна якраз і спатрэбіцца, калі ўжо ня ўзяў. Ну што паробіш, дзе яе цяпер дастаць?

У гэты момант зьявіліся Гэндальф з Эльрандам. Эльф заклікаў усіх вандроўнікаў да сябе.

– Вось вам маё апошняе слова, – ціха вымавіў Эльранд. – Ахоўнік Пярсьцёнка выпраўляецца да гары Выраку. Адказнасьць за лёс пярсьцёнка – на ім адным. Яму нельга ані выкідаць пярсьцёнак, ані дазволіць яму патрапіць у рукі паслугача Ворага, дый увогуле нельга, каб хто-небудзь кранаў яго, апрача хіба яго спадарожнікаў – сяброў Зьвязу Пярсьцёнка – ці Рады мудрых, дый тое падчас найвялікшай патрэбы.

Спадарожнікі Ахоўніка ідуць разам зь ім з уласнай волі й жаданьня, каб дапамагчы яму на шляху. Кожны зь іх можа затрымацца дзе заўгодна, павярнуць назад ці пайсьці сваім шляхам, калі спатрэбіцца. Чым далей вы пойдзеце, тым цяжэй будзе пакінуць Зьвяз. Аднак аніякая клятва не прымушае вас, аніякія абяцаньні ня лучаць вас з Ахоўнікам. Анічога не павінна абцяжарваць вашую ўласную волю, бо вы ня ведаеце яшчэ памеру сваёй рашучасьці й сілаў, і немагчыма прадказаць, якія выпрабаваньні кожны з вас напаткае.

– Трусам завецца той, хто пакідае сяброў у чорны час, – вымавіў гном Гімлі.

– Мажліва, – сказаў Эльранд, – але няхай не сьпяшаецца клясца, што пройдзе цемру, той, хто ня бачыў яшчэ й прыцемку.

– Аднак клятва можа ўзмацніць аслаблую мужнасьць.

– Ці ўвогуле пазбавіць яе. Не сьпяшайцеся загадваць далёка наперад! Не трывожцеся, крочце адважна! Да пабачэньня й добрай дарогі! Надзеі эльфаў і людзей, усіх вольных народаў – з вамі! Хай зоры заўжды асьвятляюць вашыя твары!

– Посьпеху... няхай усё атрымаецца! – выгукнуў Більба, дрыжучы ад холаду. – Фрода, хлопчык мой, напэўна, весьці дзёньнік ты ня здолееш, але ж я спатрабую найдакладнейшы расповед пра ўсё, калі вернесься. Не марудзь! Да пабачэньня!

Многія з Эльрандавага народу выйшлі вонкі разьвітацца зь Зьвязам Пярсьцёнка й напаўголасу жадалі вандроўнікам добрай дарогі. Ніхто не сьмяяўся, ня чулася ані музыкі, ані сьпеваў. Нарэшце адзін за адным эльфы сышлі прэч, зьніклі ў змроку за сьпінамі.

Вандроўнікі перайшлі мост і павольна пацягнуліся ўгору па пятлястай сьцежцы на стромым схіле, якая выводзіла з глыбокай даліны Долага Яру. Караскаліся доўга й выбраліся на пласмагор'е, дзе вецер сьвісьцеў у верасах. Кінулі позірк на Апошні Гасьцінны Прытулак, на агеньчыкі далёка ўнізе, – і крочылі прэч, у халодную начную цемру.

Ля Бруйненскага броду падарожнікі пакінулі Шлях і рушылі на поўдзень вузкімі сьцежкамі, што віліся між пагоркамі й цясьнінамі. Так мерыліся кіравацца ўздоўж заходняга краю Туманных гор цягам многіх вёрстаў і дзён. Тут мясьціны былі значна дзічэйшыя й пусьцейшыя, чым у глухамані ўздоўж даліны Вялікай ракі, па другі бок хрыбта. Перасоўваліся павольней, але й шанцаў схавацца ад варожых вачэй было болей. Саўронавы віжы рэдка наведвалі гэтую пустую й негасьцінную зямлю, і сьцежкі па ёй ведаў хіба толькі долаярскі народ.

Наперадзе звычайна крочыў Гэндальф, побач з Арагорнам, які ведаў мясцовасьць і мог весьці па ёй нават у цемры. Астатнія цугам ішлі за імі. Ляголас, з найвастрэйшым за ўсіх зрокам, трымаўся ззаду.

Першую частку вандроўкі Фрода амаль не запомніў. Было цяжка, сумна й халодна. Застаўся ў памяці толькі няспынны вецер, ільдзяны й пранізьлівы. Шэрагам бяссонечных дзён дзьмуў ён з гор, і аніякая вопратка не ратавала ад ягонага чэпкага, дашуклівага дотыку. Хоць вандроўнікі апрануліся цёпла й адпаведна, увесь час мерзьлі і рухаючыся, і адпачываючы. Удзень неспакойна спалі дзе-небудзь у шчыліне ці пячорцы альбо пад пераплеценым гальлём калючых кустоў, якія часьцяком траплялiся на шляху. Калі сутонела, вартавы будзіў іх, тады й мелі галоўны за дзень пад'едак, звычайна халодны ды бязрадасны, бо толькі зрэдку адважваліся распаліць вогнішча. Зь цемраю зноў рушылі на поўдзень, намагаючыся адхіляцца як мага менней ад абранага напрамку.

Спачатку хобітам падавалася, што хоць і сунуцца ўпарта, спатыкаючыся, валячыся з ног ад стомы, дзень за днём, насамрэч перасоўваюцца не хутчэй за сьлімакоў, топчуцца на адным месцы. Кожным наступным днём мясьціны выглядалі дакладна як і ўчора. Аднак горы паступова набліжаліся. На поўдзень ад Долага Яру яны ўздымаліся яшчэ вышэй, хрыбет крыху збочваў на захад, і перадгор'і, хаатычная блытаніна бляклых пагоркаў і стромаў, пашыраліся. У глыбокіх вузкіх цясьнінах бурлілі буйныя струмяні. Сьцежак усё менела, яны ўсё больш пятлялі й часьцяком выводзілі да высокага адхону ці да дрыгвы.

На трэцім тыдні падарожжа надвор'е зьмянілася. Вецер раптоўна сьціх, а потым падзьмуў з поўдня. Спрытныя, плынныя хмары над галавою растачыліся, і вызірнула сонца, бялявае, але зыркае. Напрыканцы доўгага й стамляльнага начнога пераходу ўзьнялася ясная халодная раніца. Вандроўнікі сягнулі невысокага хрыбта, на грэбені якога каронаю ўздымаліся надзвычай старажытныя каржакаватыя падубы, чые шэра-зялёныя ствалы падаваліся вылепленымі з таго самага каменю, што й горы. Іхняе цёмна-зялёнае лісьце блішчэла на маладым сонцы, і ягады зьзялі чырваньню.

Далёка на поўдні Фрода ўбачыў расплывістыя абрысы высачэзных гор, якія цяпер, падавалася, перагароджвалі шлях. Леваруч з хрыбта вылучаліся тры асабліва высокія. Найбліжэйшы пік – і найвышэйшы – выглядаў, бы ікол з пабеленым вастрыём. На ягоных вялізманых голых паўночных адхонах ляжаў цень, але там, куды ўсё ж траплялі касыя сонечныя промні, скалы адбіваліся барвай.

Гэндальф стаяў побач з Фрода, углядаючыся, прыклаўшы далонь да вачэй.

– Нядрэнна прайшлі, – вымавіў ён, – ажно да межаў краіны, якую людзі клічуць Падуб'ем. Шмат эльфаў жылі тут калісьці, у шчасьлівейшы час, калі краіну яшчэ называлі Эрэгіён. Напрамкі, крумкачовым лётам, наш шлях – дваццаць і восем міляў, хоць нагамі мы намералі нашмат болей. Цяпер і зь мясцовасьцю, і з надвор'ем будзе лягчэй, хоць, напэўна, і небясьпечней.

– Небясьпечней ці не, а сапраўдную раніцу заўсёды хораша бачыць, – Фрода адкінуў каптур і дазволіў ранішняму сьвятлу крануць твар.

– Але ж горы наперадзе, – зьдзівіўся Піпін. – Напэўна, мы ўначы зьвярнулі на ўсход.

– Не, – запярэчыў Гэндальф, – проста ты бачыш далей, бо сонечна й ясна. За тымі вось пікамі хрыбет выгінаецца на паўднёвы захад. У Эльрандавай сядзібе шмат мапаў. Цікава, ці глядзеў ты хоць на адну?

– Так, час ад часу, – адказаў Піпін. – Але амаль нічога не запомніў. Вунь у Фрода галава для гэтакіх рэчаў лепей прыстасаваная.

– А мне мапа не патрэбная, – прамовіў Гімлі, які падышоў разам зь Ляголасам і неяк дзіўна ўзіраўся наперад, з амаль сьвяточным бляскам у вачох. – Тут мае прабацькі працавалі ў даўніну й шматкроць адбілі ў мэтале й камені, у песьнях і паданьнях аблічча гэтых гор. Яны заўжды ўзвышаюцца ў нашых марах. Бараз, Зірак, Шатхур. Толькі адзіны раз да гэтага дня я бачыў іх на свае вочы, але я ведаю іх і іхнія імёны сэрцам, бо пад імі ляжыць Казад Дум, Гномавы Глыбіні, якія цяпер называюць Чорнай Прорвай, Морыяй па-эльфску. Вось бліжэй за ўсіх Баразінбар, Барвяны Рог, бязьлітасны Карадрас, за ім – Срэбрапік і Карона Хмараў: Келебдыл Белы й Фануйдхал Шэры, якія мы клічам Зіраксігіл і Бундушатхур. Там хрыбет Туманных гор разгаліноўваецца й паміж галінамі ляжыць глыбокая цяністая даліна, якую мы памятаем заўжды: Азанальбізар, ці Дымрыл, якую эльфы клічуць Нандухірыён.

– Да Дымрылу мы й кіруемся, – патлумачыў Гэндальф. – Калі ўскараскаемся на перавал, Браму Барвянага Рогу, то патрапім на Дымрыльскую Лесьвіцу па той бок

Карадрасу й спусьцімся па ёй у гномскую даліну. Там ляжыць запаветнае возера Люстар, там з ільдзяных крыніцаў нараджаецца чыстая Срабрынка.

– Цемра – вада Келед Зараму, лёд – крыніцы Кібіль Налы. Маё сэрца трапеча ад думкі, што неўзабаве пабачу іх.

– Хай узрадуецца тваё сэрца, угледзеўшы іх, мой шаноўны гноме! – выклікнуў Гэндальф. – Але ж доўга застацца там мы ня зможам. Бо нам трэба спускацца па Срабрынцы ў таемныя лясы, а тады – да Вялікай ракі, а тады... – ён змоўк.

– І што тады? – спытаў Мэры.

– Тады рушыць да сканчэньня. Аднак гэтак далёка нам яшчэ ня варта зазіраць. Задаволімся тым, што зь першай часткай вандроўкі справіліся без прыгодаў. Мяркую, адпачнем тут, ня толькі дзень, але й ноч таксама. Духмянае паветра тут, у Падуб'і, нават гаючае. Шмат ліха трэба выцерпець зямлі, каб яна цалкам забылася на эльфаў, якія калісьці жылі на ёй.

– Так, – пагадзіўся Ляголас. – Але эльфы гэтай зямлі былі народам дзіўным для нас, жыхароў лесу. Ані трава, ані дрэвы тут ня памятаюць іх. Я толькі чую, як жаляцца па іх камяні: "*З глыбіняў здабылі нас, прыгожа гранілі, збудавалі высока – і сышлі назаўжды*". Ужо колькі вякоў таму сышлі яны ў Завані.

Раніцою распалілі вогнішча ў глыбокай лагчавіне, абкружанай буйнымі кустамі падубу, і мелі найлепшы пад'едак за ўвесь пераход ад Долага Яру. Класьціся пасьля яго не сьпяшаліся, бо наперадзе ж цэлая ноч, а выпраўляцца ня думалі ажно на наступнага вечару. Аднак Арагорну не адпачывалася. Неўзабаве ён пакінуў кампанію, прайшоўся па хрыбце, стаў пад дрэвам, пазіраючы на поўдзень, тады на захад, нахіляючы галаву – быццам прыслухоўваючыся. Вярнуўся да краю лагчавіны, дзе астатнія размаўлялі зь сьмехам, зірнуў уніз.

– У чым справа, Швэндале? – паклікаў Мэры. – Чаго шукаеш? Ці табе не хапае ўсходняга ветру?

– Не, безь яго лепей, – не ўспрыняў жарту сьледапыт. – Але мне не стае чагосьці. Я бываў у Падуб'і шмат разоў, і ўлетку, і ўзімку. Людзей тут няма, але заўжды было мноства іншых стварэньняў, асабліва птушак. А цяпер усе навокал, апроч вас, маўчаць. На вёрсты вакол – ані жывога голасу, затое вашыя аддаюцца рэхам у зямлі. Нечага я тут не разумею.

– І ў чым рэч? – Гэндальф зірнуў на яго з раптоўнай зацікаўленасьцю. – Мяркую, не ад подзіву, што бачаць чатырох хобітаў разам, ня згадваючы ўжо астатніх, там, дзе й адзіная асоба зрэдку відаць?

– Спадзяюся, менавіта так, – адказаў Арагорн. – Але нешта мяне не пакідае трывога дый страх – такога аніколі раней тут не было.

– Тады нам трэба пасьцерагчыся. Калі ўжо бярэш з сабою сьледапыта, ды яшчэ самога Арагорна, варта ўшанаваць ягоныя прадчуваньні. Нам трэба размаўляць цішэй, адпачыць спакойна й выставіць вартавога.

Першую варту выпала трымаць Сэму, але Арагорн далучыўся да яго. Астатнія пазасыналі. Тады павісла такая цяжкая цішыня, што нават і Сэм яе адчуў. Выразна чулася дыханьне тых, хто спаў. Шоргат хваста поні ці лёгкі згук, калі конік пераходзіў з нагі на нагу, падаваліся надта гучнымі. Сэм чуў і патрэскваньне ўласных костак, калі варушыўся. Мёртвая цішыня вісела наўкол, а над галавою – ясныя блакітныя нябёсы, па якіх павольна паўзло з усходу сонца. Далёка на поўдні зьявілася чорная плямка, і расла, і неслася на поўнач, бы лапік дыму на ветры.

– Што гэта, Швэндал? – шэптам спытаў Сэм.

Арагорн не адказаў, уважліва ўзіраючыся ў нябёсы. Але неўзабаве Сэм здолеў разгледзець сам. Птушыныя чароды, якія лёталі туды й сюды, кружлялі над зямлёю, нібы вышукваючы нешта, і набліжаліся яны надта спрытна.

– На зямлю!! Ляжы ціха! – прашыпеў Арагорн, цягнучы Сэма ў цень, пад куст, бо адна птушыная чарада аддзялілася ад галоўнай хмары й нізка над зямлёю панеслася да хрыбта. Сэму птушкі падаліся падобнымі да вялікіх груганоў. Яны ляцелі гэткай шчыльнай гурмай, што па зямлі за імі бег цень. Прамінулі моўчкі, з адзіным хрыпатым каркам.

Толькі калі яны зьніклі ў далечыні, адляцеўшы на захад і поўнач, і нябёсы ачысьціліся, Арагорн падняўся. І адразу ж абудзіў Гэндальфа.

– Зграі чорных груганоў абшукваюць землі паміж гарамі й Шэраводзьдзем, – распавёў Арагорн, – яны праляцелі й над Падуб'ем. Гэта не тутэйшыя груганы. Яны – *крэбайн*, пачвары Фангарну й Дунлянду. Ня ведаю, навошта яны тут – магчыма, уцякаюць ад бедаў Поўдня. Але хутчэй за ўсё, яны выведнікі. Таксама я заўважыў мноства шулякоў высока ў нябёсах. Лічу: трэба рухацца гэтым вечарам. Падуб'е болей не спакойнае й не гаючае для нас. За ім сочаць.

– Значыць, сочаць і за Брамай Барвянага Рогу, – адказаў Гэндальф. – Я не ўяўляю сабе, як мы пройдзем яго незаўважнымі. Ну, падумаем пра тое, калі надыдзе час. Што тычыцца сёньняшняга выхаду, баюся, ты маеш рацыю.

– Пашанцавала, што вогнішча бяздымнае, дый амаль прагарэла яшчэ да зьяўленьня крэбайн, – дадаў Арагорн. – Трэба загасіць яго цалкам, і болей на распальваць.

– Ну, ці тое не халера з трасцой! – выгукнуў Піпін, калі прачнуўся ўвечары й пачуў пра забарону агню й хуткі выхад. – Праз груганову чараду! А я ўжо марыў пра сапраўдны абед сёньня, пра гарачанькае.

– Можаш і далей марыць, – адказаў Гэндальф. – Наперадзе, пэўна, мноства нечаканых бяседаў і баляваньняў. Я сам зь вялікай асалодай папаліў бы люльку ў спакоі й пагрэў бы ногі. Суцяшайся – мы рушым на поўдзень, там, без сумневаў, пацяплее.

– Каб нам не падсмажыцца ад той цеплыні, – прамармытаў Сэм Фрода. – А я ўжо палічыў, што мы дабраліся, папраўдзе кажучы. І гару Вогненную бачым, ну, Рог гэны Барвяны, я так спачатку падумаў, пакуль Гімлі прамову сваю не ўчыніў. Так, з гэнай гномскаю моваю сапраўды язык вузлом зьвяжацца.

Мапы анічога Сэму не казалі, а адлегласьці ў чужынскіх землях падаваліся такімі вялізманымі, што ён нават не спрабаваў іх вылічваць.

Увесь дзень вандроўнікі заставаліся ў лагчавіне. Чорныя птушкі зноў і зноў праносіліся непадалёк. І толькі калі сонца зачырванела на захадзе, зьніклі, адляцеўшы на поўдзень. Зь цемраю Зьвяз павярнуў на паўднёвы ўсход і рушыў да Карадрасу, які яшчэ адбліскваў барваю ў апошніх прамянях сыходнага сонца. Адна за адною ў пацямнелых нябёсах высыпалі белыя зоры.

Арагорн вывеў на добрую сьцяжыну, якая падалася Фрода рэшткамі старажытнай дарогі ад Падуб'я да перавалу, калісьці шырокай і добра сплянаванай. Поўня ўзышла над гарамі, у яе блядным сьвятле ад валуноў цягнуліся чорныя цені. Шмат якія камяні выглядалі, быццам апрацаваныя даўнія муры, пабураныя да непазнавальнасьці, пазабытыя сярод запустэчанай, бляклай зямлі.

Халоднай, пранізьлівай передранішняй гадзінай, калі поўня ўжо амаль схавалася, Фрода раптам зірнуў угору. Падалося зьнянацку, нібыта пабачыў чыйсьці цень ці, хутчэй, адчуў, і зоры на момант згасьлі й зноў успыхнулі. Фрода ўздрыгнуў.

– Ці бачыў вашаць, што над намі? – спытаў шэптам у Гэндальфа, які крочыў паперадзе.

– Не, але адчуў, – адказаў той. – Ня ведаю, што гэта было. Мо толькі тонкае воблачка, пасма туману.

– Надта хутка для воблачка яно рушыла, – прамармытаў Арагорн, – і супраць ветру да таго.

Анічога болей той ноччу ня здарылася. Наступная раніца выявілася яшчэ зырчэйшай за мінулую. Але паветра зноў захаладнела й зноў задзьмуў усходні вецер. Яшчэ дзьве ночы вандроўнікі ўпарта шыбавалі, паступова падымаючыся, але ўсё павольней, па дарозе, якія вілася паміж стромамі. Горы набліжаліся, уздымаліся ўсё вышай. Трэцяй раніцай Карадрас паўстаў прама перад імі – магутны пік, укаранаваны срэбрам сьнягоў, з голымі стромымі бакамі, бляклa-барвовымі, бы заплямленымі кроўю.

Хмарылася, і сонца выцьвіла. Вецер задзьмуў з паўночнага ўсходу. Гэндальф прынюхаўся да паветра, азірнуўся.

– Нас даганяе зіма, – спакойна зазначыў Арагорну. – Вяршыні на поўначы бялейшыя, чым былі зусім нядаўна, і сьнег ляжыць значна ніжэй. Сёньня мы пойдзем угару да перавалу. Безумоўна, на вузкай сьцяжыне нас пабачаць варожыя выведнікі ды наклічуць якое ліха. Але ж надвор'е, хутчэй за ўсё, наш найгоршы й найсьмяротнейшы вораг. І куды ты параіш кіравацца цяпер, Арагорн?

Фрода зразумеў, што чуе працяг пэўных даўніх размоваў і разваг ці нават спрэчкі. Прыслухаўся ўважлівей.

– Табе добра вядома, Гэндальфе, я ад пачатку быў супраць нашага кірунку, – адказаў Арагорн. – Так, чым далей мы прасоўваемся, тым больш памнажаюцца пагрозы, вядомыя й невядомыя. Але мы мусім ісьці, і ня варта затрымлівацца зь пераходам праз горы. Далей на поўдзень перавалаў няма да самай Брамы Рохану. А з тваімі весткамі пра Сарумана туды совацца ня варта. Хто ведае, чые загады цяпер выконваюць маршалкі Роханскай Украйны?

– Сапраўды, хто ведае? Але ж ёсьць іншы шлях, не праз перавал ля Карадрасу. Той цёмны, патаемны шлях, пра які мы ўжо размаўлялі.

– Ня трэба згадваць яго зноў! Пакуль ва ўсялякім выпадку. Калі ласка, не кажы пра яго астатнім – хіба толькі анічога іншага не застанецца.

– Але ж нам трэба вырашыць перад тым, як рушыць далей.

– Ну, так узважым усё ды абдумаем яшчэ раз, пакуль астатнія адпачываюць, – завершыў Арагорн.

Калі сутонела й астатнія скончалі вячэраць, Гэндальф з Арагорнам адышлі зірнуць на Карадрас. Цяпер ягоныя бакі выглядалі змрочна й пагрозьліва, а вяршыню схавала шэрая хмара. Фрода назіраў за чараўніком і сьледапытам, цікавячыся, што ж яны надумалі. Яны вярнуліся, і Гэндальф патлумачыў, што вырашылі насуперак надвор'ю ісьці праз перавал. Фрода ўздыхнуў з палёгкай. Ён ня ведаў, пра які цёмны й патаемны шлях казаў Гэндальф, але ж калі адзіная згадка яго напаўняла Арагорна гэткім адчаем, дык лепей, што яго не абралі.

– Як вы ўсе бачылі, наўкол хапае варожых выведнікаў, – прамовіў Гэндальф. – За пераваламі, напэўна, назіраюць. І надвор'е, якое даганяе нас, мне не зусім падабаецца. Магчымы сьнегапад. Нам трэба перасоўвацца так хутка, як толькі здолеем. Нават і ў гэтым выпадку хутчэй як за два пераходы перавалу мы не дасягнем. Сёньня рана сьцямнее. Зьбірайцеся – выходзім неадкладна.

– Я дадаў бы пару парадаў, з вашага дазволу, – умяшаўся Барамір. – Я нарадзіўся ля Белых гор і крыху ведаю пра падарожжы ў высакагор'і. Нам давядзецца стрываць жорсткі мароз, пакуль спусьцімся. Таемнасьць нам не дапаможа, калі мы таемна зьмерзьнем да сьмерці. Тут навокал ёсьць колькі дрэваў і кустоў. Кожны з нас павінен прыхапіць з сабою вязку дроваў паболей, якую толькі здольны зьнесьці.

– А наш Біл возьме болей за ўсіх, праўда, хлопча? – спытаў Сэм.

Поні зірнуў на яго сумна.

– Файна, – азваўся Гэндальф. – Але распалім вогнішча, толькі калі іншага выйсьця не застанецца: распаліць альбо загінуць.

Вандроўнікі рушылі наперад, і спачатку даволі хутка. Але неўзабаве шлях зрабіўся стромкі й цяжкі. Сьцяжына вілася, караскалася па схілах, часамі амаль зьнікала ці была заваленая кучамі камянёў. Набеглі хмары, імкліва зьвечарэла. У скалах завыў шалёны вецер. А поўначы сягнулі ўзножжаў самога хрыбта. Вузкая сьцяжына вяла паміж адвеснай скальнай сьцяною леваруч, над якою ўздымаліся суворыя бакі схаванага цемрай Карадрасу, а праваруч зеўрала чарнатою прорва глыбокай цясьніны.

Асілілі чарговы стромы пад'ём, спыніліся наверсе. Фрода адчуў, як нешта мяккае кранула твар. Падняў руку й пабачыў белыя сьняжынкі на рукаве.

Крочылі далей. Неўзабаве сьнег паваліў на ўсю моц, суцэльнай белай сьцяною, замітусіўся перад вачыма. Цьмяныя, сагнутыя постаці Гэндальфа з Арагорнам наперадзе за адзін крок ці два ўжо амаль не былі відаць.

– Не, гэта мне зусім не падабаецца, – выдыхнуў Сэм, упарта тупаючы ззаду. – Сьнег файнай раніцою – лепей няма куды. Толькі я хацеў бы валяцца ў ложку калі ён падае за вакном. Вух, каб столькі ў Хобіцку навaліла! Во радаваліся б!

За выключэньнем высокіх пагор'яў Паўночнага падзелу, моцныя сьнегапады здараліся ў Шыры зрэдку. Да іх ставіліся як да нагоды для забаваў ды шчыра радаваліся. Аніводны хобіт (апрача хіба Більба) ня бачыў на свае вочы Ліхой зімы 1311 году, калі ў Шыр церазь зьмерзлы Бранявін прыйшлі белыя ваўкі.

Гэндальф прыпыніўся. Сьнег ляжаў гурбінамі на ягоных плячох і капелюшы. І на сьцежцы сьнегу легла столькі, што боты чараўніка хаваліся па халяву.

– Гэтага я й баяўся, – вымавіў Гэндальф. – І што ты цяпер скажаш?

– Што таксама баяўся гэтага, – адказаў Арагорн, – хоць і меней, чым іншага. Я ведаю небясьпеку сьнегу, хоць ён рэдка ў такой колькасьці выпадае так далёка на поўдні, хіба што высока ў гарах. Аднак мы яшчэ невысока. Мы там, дзе сьцежкі адкрытыя ўсю зіму.

– Цікава, ці не ад Ворага гэтае ліха? – азваўся Барамір. – У маіх краёх кажуць, што ён уладарыць над навальніцамі ў гарах Ценю, якія абкружаюць Мордар. Дзіўная ягоная моц, шматлікія ягоныя паплечнікі.

– Сапраўды, моц, – хмыкнуў Гімлі. – Доўгія ж рукі трэба мець, каб прыцягнуць за дзьве сотні міляў з поўначы сьнежныя хмары нам на сьцежку.

– Даўжэй няма куды, – пахмура пацьвердзіў Гэндальф.

Пакуль стаялі, вецер сьціх, а сьнегапад паслабеў, амаль спыніўся. Вандроўнікі рушылі зноўку, але й пары гоняў не прайшлі, як завея завыла зноў, яшчэ шалёней. Дзьмула, шпурляла сьнегам, сьляпіла вочы. Неўзабаве нават і Барамір ледзь сунуўся наперад. Хобіты, перагнуўшыся амаль удвая, цягнуліся за людзьмі, але ж было відавочна – шмат на гэткай віхуры ім не пратрымацца, існьці яны ня здолеюць. Фродавы ногі нібы наліліся сьвінцом. Піпін адставаў. Нават Гімлі, цягавіты, як і ўсе гномы, крахтаў ды бурчэў, прабіраючыся празь сьнег.

Раптам усе прыпыніліся, адначасова, быццам дамовіўшыся, хоць ніхто анікому й слова не казаў. Цемра навокал спарадзіла злавесныя, жудасныя гукі. Мо вецер гэтак сьвісьцеў у шчылінах, але ж выразна чуўся пранізьлівы злосны лямант і дзікія выбухі лютага рогату. Па сьцяне зьверху пакацілася каменьне, сьвістала над галовамі ці з грукатам бразгалася на сьцежку непадалёк. Раз-пораз чуўся цяжкі грукат, і вялізныя валуны каціліся зь цемры наверсе.

– Далей сёньня ісьці нельга! – выклікнуў Барамір. – Няхай хто заўгодна кажа, што гэтак вые вецер. Я думаю, гэта варожыя галасы. І каменьне гэтае цэліць у нашыя галовы.

– Я кажу, што гэта менавіта вецер, – азваўся Арагорн, – але тое не зьмяншае рацыі тваіх словаў. У сьвеце хапае ліхіх істотаў, якія ненавідзяць усіх дзьвюхногіх, але ж ня ў зьвязе з Саўронам, а з уласнай волі й разуменьня. Некаторыя зь іх прыйшлі ў Міжзем'е яшчэ да яго.

– Карадрас атрымаў мянушку *жорсткі* й дурную славу калі пра Саўрона й чутак не было ў гэтых землях, – вымавіў Гімлі.

– Ці ёсьць розьніца, які менавіта вораг нас атакуе, калі мы ўсё адно ня здольныя адбіцца, – сказаў Гэндальф.

– Дык што ж нам рабіць? – залямантаваў Піпін, абапершыся на Мэры з Фрода й дрыжучы.

– Ці застацца тут, ці вяртацца, – сказаў Гэндальф. – Рушыць наперад бессэнсоўна. Крыху далей, калі не памыляюся, сьцежка выводзіць у шырокую адкрытую лагчавіну з доўгімі схіламі па баках. Там не схаваесься ані ад камянёў зь сьнегам, ані ад іншага ліха.

– Вяртацца таксама бессэнсоўна, пакуль віхурыць, – давёў Арагорн. – Зацішней і бясьпечней за нашае цяперашняе месца закутка ўздоўж сьцежкі не было.

– Зацішней і бясьпечней! – фыркнуў Сэм. – Калі гэта – зацішнае месца, тады й аглобля – хата.

Вандроўнікі прыціснуліся да скальнай сьцяны. Яна паглядала на поўдзень, і ўнізе крыху выгіналася ўсярэдзіну – якая ні ёсьць абарона ад камняпаду й паўночнага ветру. Але вецер скакаў між скалаў, дзьмуў то з аднаго боку, то з другога, а сьнег валіў усё шчыльней зь нізкіх хмараў.

Усе стаялі побач, сьпінамі да сьцяны. Поні – перад хобітамі, цярпліва й упарта захіляючы тых хоць троху ад сьнегу. Але неўзабаве яго заваліла да каленяў і працягвала засыпаць. Калі б хобіты вандравалі адны, напэўна, неўзабаве іх ссумёціла б цалкам дый пахавала ў сьнезе.

Фрода ледзь змагаўся з санлівасьцю. Правальваўся ў цёплую, смужную мару. Ужо й высьніў, як добрае хатняе полымя агменю саграе ягоныя ногі, і пачуў зь ценяў па-за агменем голас Більба. "*Ну, я спадзяваўся на больш ёмісты дзёньнік*, – дакараў стары хобіт. – *Завея дванаццатага студня, ну-ну. Хіба ж варта вяртацца, каб распавесьці гэткую навіну?*" "*Я хацеў толькі крыху адпачыць і паспаць*", – адказаў

Фрода, ледзь здолеўшы вымавіць словы, і тут адчуў, што яго трасуць, і вярнуўся да непрыемнай і халоднай явы. Барамір выдраў яго зь дзіркі ў сьнезе й падняў.

– Гэндальф, паўросьлікі ўсе тут загінуць, – выгукнуў ён. – Што, нам чакаць, пакуль нас замяце з галавою? Трэба ратавацца!

– Дай ім гэта, – Гэндальф пакапаўся ў торбе й выцягнуў скураную біклажку, – па адным глытку, ня болей, і астатнім таксама. Бо напой надзвычай каштоўны. Мірувор, долаярская акавіта. Эльранд даў мне яго на разьвітаньне. Перадай па коле!

Фрода глынуў крышачку цёплай духмянай вадкасьці – і ў целе быццам запалілася полымя. Ажыло сэрца, зьнікла санлівасьць. Але ж сьнег ішоў, як і раней. Завея нават і пашчыльнела, і выла пранізьлівей.

– Як наконт вогнішча? – прапанаваў Барамір. – Выбар цяпер, падаецца, – агонь або гібель. Безумоўна, сьнег дапаможа нам схавацца ад варожых вачэй, калі заваліць з галавою, але ці дапаможа выжыць?

– Распальвайце, – Гэндальф пацісьнуў плячыма, – калі якія віжы перажывуць гэтую завіруху, яны заўважаць нас і з вогнішчам, і безь яго.

Аднак хоць на слова Бараміра з сабою ўзялі й дровы, і распалку, ані эльфскага майстэрства, ані гномскага не хапіла, каб распаліць воглыя дровы пасярод завірухі. Нарэшце Гэндальф неахвотна ўзяўся за справу сам. Паклаў наверсе вязку дроваў, выгукнуў: "*Наўр эн эдрайф аммэн*!" – дый сунуў кій прама ў сярэдзіну вязкі. Адразу ж выблiснула вонкі зялёным і блакітным полымем, дровы заняліся, затрашчалі.

– Калі хто й назірае, дык мяне ўжо не абміне, – давёў змрочна, – я абвесьціў "*Гэндальф тут*" гэткім чынам, што пачуюць усе, хто толькі здольны такія аб'явы чуць, ад Долага Яру да сутва Андуйну.

Але астатнім было ўсё адно, назіраюць варожыя вочы за імі ці не. Полымя сагрэла, узрадавала, да таго ж разагнала цемру. Палала файна. Хоць вогнішча й шыпела ад сьнегу, што сыпаўся зь неба, хоць і парастапіла ўсё навокал і слата й лужыны паўзьлі пад нагамі, падарожнікі з асалодаю грэліся, падстаўлялі далоні. Абкружылі, нахіліся над полымем. Чырвонае сьвятло скакала па стомленых, заклапочаных тварах, а за сьпінамі цемра падавалася чорнай сьцяною.

Дровы гарэлі хутка, а сьнегапад усё не спыняўся.

Нарэшце кінулі апошнюю вязанку.

– Ноч сканчаецца, – заўважыў Арагорн. – Неўзабаве пасьвятлее.

– Калі толькі сонца праб'ецца праз гэтыя хмары, – прабурчэў Гімлі.

Барамір крочыў ад вогнішча, углядаючыся ў цемру.

– Сьнегапад слабее, – зазначыў ён. – І вецер паменеў.

Фрода стомлена пазіраў на сьняжынкі, якія ўсё вылятали, вытанцоўвалі зь цемры, каб высьветліцца на момант над слабым полымем, але ж аніякіх прыкметаў паслабленьня ня бачыў. І раптам, калі санлівасьць зноўку авалодала ім, адчуў: вецер насамрэч сьціх. Дый сьняжынаў паменела, і самі яны павялічыліся. Пакрысе й нябёсы пасьвятлелі, засьвяціліся шэрай, нияркаю раніцай. Нарэшце сьнегапад спыніўся цалкам.

Пазырчэўшы, раніца адкрыла вандроўнікам маўклівае, захутанае бельлю наваколье. Ніжэй грувасьціліся сумёты, вытыркаліся белымі гарбамі, і аніякай сьцежкі пад імі не было відаць. А вышэй яшчэ ляжалі шэрыя, змрочныя хмары, пагражаючы новым сьнегападам.

Гімлі зірнуў угору, пахітаў галавою. Вымавіў:

– Не, Карадрас яшчэ не даравaў нам. Калі крочым далеў, зноў пасыпле, сьнегу ў яго хопіць. Чым хутчэй мы спусьцімся, тым лепей.

З гэтым усе пагадзіліся. Але як цяпер спускацца? Ужо за некалькі крокаў ад вогнішча сьнегу ляжала болей за хобіцкі рост, а месцамі й нашмат вышэй, бо сьнег нагрувасьціў вялізныя гурбы ля скальнай сьцяны.

– Калі Гэндальф пойдзе наперад з полымем, магчыма, ён праплавіць сьцяжынку ў сьнезе, – прапанаваў Ляголас, якога віхура зусім не патурбавала. Адзіны з усёй кампаніі ён заставаўся ў добрым гуморы.

– Калі б эльфы здолелі лётаць над гарамі, магчыма, яны прыцягнулі б нам сюды сонейка на ратунак, – пакпіў Гэндальф. – А сьнег я плавіць ня здольны. Мне трэба нешта болей шчыльнае, каб запальваць.

– Не галавой, дык каркам, – прамовіў Барамір, – як кажуць у маёй зямлі. Мацнейшым з нас трэба прабівацца наперад. Зірніце: хоць усё й пазасыпала сьнегам, сьцежка, па якой мы йшлі, вывернула сюды з-за вунь таго скальнага атовілку ўнізе. Пасьля яго й пачалася найгоршая завіруха. Калі мы сягнем таго атовілку, верагодна, далей палягчэе. Да яго, мяркую, ня болей за пару гоняў.

– Дык праб'емся туды ўдвох, ты й я! – прапанаваў Арагорн.

Арагорн быў вышэйшы, але Барамір – шырэйшы ў плячох ды больш каржакаваты. Ён рушыў наперадзе, Арагорн – сьледам. Прасоўваліся павольна, бо прабівацца было надзвычай цяжка. Месцамі сьнег даходзіў да грудзей, і часьцяком Барамір ня йшоў, а ўкопваўся ў сьнег, заграбаючы рукамі, нібы плывун.

Ляголас назіраў за імі пэўны час з усьмешкай, тады павярнуўся да астатніх.

– Мацнейшым трэба прабівацца, ці ня так? Я сказаў бы: няхай араты арэ, але ж каб плысьці – абірай плывуна, а каб скакаць над травою й лісьцем ці па-над сьнегам – эльфа!

І лёгка скочыў наперад, Фрода толькі цяпер заўважыў, што на нагах у Ляголаса, як і заўжды, былі не цяжкія падарожныя боты, а лёгкія чаравікі. Яны амаль не пакідалі адбіткаў на сьнезе.

– Да пабачэньня! – гукнуў Ляголас Гэндальфу. – Я па сонца!

І пабег прэч, лёгка й спрытна, рыхтык па пяску, умомант абагнаў запыханых людзей дый зьнік за атовілкам.

Астатнія чакалі, згуртаваўшыся, назіраючы за Барамірам і Арагорнам, пакуль тыя не зрабіліся чорнымі плямкамі ў белай далечы. Нарэшце зусім зьніклі. Час цягнуўся марудна й нудотна. Хмары спаўзьлі ніжэй, і ўжо зьляцела, кружляючы, колькі сьняжынак.

Мінула, напэўна, з гадзіну – хоць падалося, што нашмат болей, – калі нарэшце зноў убачылі Ляголаса. Адначасова й Арагорн з Барамірам зьявіліся з-за атовілку, павольна караскаючыся ўгору.

– Не прынёс я сонца! – сьмяшліва пажурыўся Ляголас, падбягаючы. – Яно шпацыруе ў блакітных нябёсах Поўдня, і яго зусім не клапоціць жменька-другая сьнегу на ўсялякіх Барвяных пагорках. Але ж я прынёс крышачку надзеі для тых, каму даводзіцца цягацца пад сонцам пехатою. За паваротам гурбіна вышэйшая за ўсе ранейшыя, і нашыя моцныя ваяры ўжо былі пахавалі сябе ў ёй ды ў адчаі. На шчасьце, я ім своечасова давёў, што тая гурбіна таўшчынёй ня большая за хатнюю сьценку, а за ёю сьнегу – хіба толькі хобіцкія пяткі падмарозіць.

– А-а, што я й казаў! – прабурчэў Гімлі. – Ня простая гэтая завіруха. Карадрасава ліха. Ня любіць ён ані эльфаў, ані гномаў і сьнегу намёў, каб не дазволіць нам уцячы.

– На шчасьце, Карадрас забыўся на людзей, якія з вамі, – дадаў Барамір, – і гэта не слабыя людзі. Хоць слабейшыя, але з шуфлямі тут дапамаглі б лепей. Гэтак ці інакш, мы праклалі шлях праз сумёты, і за тое, лічу, нам мусяць падзякаваць усе ня здольныя лётаць над сьнегам па-эльфску.

– Вы ледзь прабіліся, а як жа нам? – Піпін агучыў сумнеў усіх хобітаў.

– Не адчайвайцеся! – супакоіў Барамір. – Я стаміўся, але мне хопіць сілаў каб несьці вас, дый Арагорну таксама. А астатнія цугам пакрочаць за намі. Спадару Перыгрыне, ты першы з мною! Чапляйся за мой карак, – дадаў, падняўшы хобіта, – бо мне спатрэбяцца рукі.

Арагорн з Мэры на карку крочыў за ім. Піпін, дзівячыся Бараміравай моцы, аглядаў праход, які той прабіў без аніякіх прыладаў, толькі рукамі й целам. Нават і цяпер, зь цяжарам, Барамір, адкідваючы сьнег у бакі, дарабляў праход для тых, хто крочыў ззаду.

Нарэшце дабраліся да вялізнай гурбы, якая стромай сьцяной узвышалася ўпоперак сьцежкі. Яе вяршыня, вострая, як лязо, была ўдвая вышэйшая за Бараміра. Але ж пасярэдзіне гурбы, уздымаючыся дый ізноў спускаючыся, бы гарбаты масток над струменем, быў прабіты праход. За ім людзі ссадзілі Піпіна з Мэры на зямлю й вярнуліся, а хобіты засталіся разам зь Ляголасам чакаць, пакуль падыдуць астатнія.

Неўзабаве Барамір прынёс Сэма. Сьледам па вузкай, але цяпер ужо добра пратаптанай сьцежцы прыйшоў Гэндальф, ведучы пад аброць Біла, на няшчасным поні апрача паклады ўзгрувасьціўся Гімлі. Апошнім рушыў Арагорн з Фрода на карку. Крочылі за сьнежную сьцяну, і не пасьпелі Фродавы ногі крануць зямлі, як пачуўся гулкі грукат і зьверху абрынулася лавіна камянёў і сьнегу. Пырснуў сьнежны пыл, паўасьляпіўшы падарожнікаў, якія прыціснуліся да скалы, а калі пыл асеў, пабачылі – праход праз гурбу завалены.

– Досыць, досыць! – крыкнуў Гімлі. – Мы сыходзім зараз жа!

І сапраўды, зрабіўшы апошнюю прыкрасьць, Карадрас быццам задаволіўся, супакоіўся, упэўніўшыся, што нежаданыя наведнікі атрымалі сваё й зноўку ня сунуцца. Нават і хмары наверсе пачалі разыходзіцца, і пасьвятлела.

Як і казаў Ляголас, сьнегу за сьцяной значна паменела, і нават хобіты ішлі самастойна. Неўзабаве сягнулі зноў той пляскатай пляцоўкі, дзе ўчора напаткалі першыя сьняжынкі.

Сонца стаяла ўжо высока. З вышыні файна бачыліся далягляды. У мешаніне пагоркаў унізе добра была прыкметная й лагчавіна, дзе адпачывалі перад тым, як рушыць на перавал.

Фродавы ногі балелі. Ён прамерз да костак і згаладнеў. Нават і ў галаве муціла ад думкі пра доўгі й цяжкі шлях уніз. Чорныя плямкі скакалі перад вачыма. Фрода пацёр вочы – плямкі ня зьніклі. Унізе – але высока над прыгор'ямі – луналі ў паветры чорныя рыскі.

– Зноў птушкі, – паказаў долу Арагорн.

– Цяпер анічога ня зробіш, – сказаў Гэндальф. – Вышукваюць яны нас на дабро або ліха ці не, трэба спускацца не марудзячы. Нельга чакаць ночы, пакуль мы паблізу ад Карадрасу!

Калі спускаліся, стомленыя, спатыкаючыся, у сьпіны дзьмуў, падштурхоўваў халодны вецер з гары. Карадрас перамог.

### *4. Падарожжа ў цемры*

Калі зьвечарэла й шэрае сьвятло сутоньня адступіла перад цемраю, прыпыніліся на начлег. Вандроўнікі надзвычай стаміліся. Чорны змрок агарнуў горы, дзьмуў халодны вецер. Гэндальф выдаў кожнаму яшчэ па глытку мірувору. Калі крыху пад'елі, склікаў раду.

– Вядома, сёньня мы болей ісьці ня здольныя, – сказаў ён. – Спроба прабіцца на перавал вытаміла нас ушчэнт. Трэба адпачыць тут колькі часу.

– А потым куды? – спытаў Фрода.

– У гэтага падарожжа ёсьць мэта. Мы мусім зьдзейсьніць прызначанае й таму йсьці далей. Альбо вярнуцца ў Долы Яр.

Піпінаў твар відавочна пасьвятлеў ад згадкі пра Долы Яр, Мэры й Сэм пазіралі з надзеяй. Але Арагорн з Барамірам маўчалі. Фрода ж выглядаў заклапочаным.

– Хацеў бы я там быць, – уздыхнуў ён. – Але ж як я здолею вярнуцца туды й зірнуць у вочы тым, хто мне даверыўся? Хіба ж няма іншага выйсьця, хіба нас ужо перамаглі канчаткова?

– Ты маеш рацыю, Фрода, – прамовіў Гэндальф. – Вярнуцца – значыць пагадзіцца з паразай і асудзіць сябе на горшую паразу неўзабаве. Калі вернемся цяпер, пярсьцёнак застанецца ў Долым Яры, бо болей мы анікуды зь ім выправіцца ня здолеем. Раней ці пазьней Долы Яр патрапіць у асаду, і ў хуткім – і горкім – часе яго зьнішчаць. Назгулы ўжо – сьмяротна магутныя пачвары, але ж цяпер іхняя моц – толькі слабы цень жаху й сілы таго часу, калі іх майстра зноў насуне Ўладарны Пярсьцёнак.

– Тады трэба рушыць наперад, калі толькі ёсьць шлях, – вырашыўся Фрода.

Сэм зноў спахмурнеў.

– Шлях ёсьць, – пацьвердзіў Гэндальф. – Я ад пачатку меркаваў пра яго, разьлічваў, што мы скарыстаемся ім. Але шлях той наўрад прыемны й лёгкі, і таму я не распавядаў пра яго раней. Арагорн быў супраць гэтай дарогі – ва ўсялякім разе пакуль мы не паспрабуем перавал.

– Калі гэты шлях горшы за Браму Карадрасу, што ж ён за ліха? – зьдзівіўся Мэры. – Лепей распавядзіце нам пра яго, калі ласка, каб мы пра найгоршае ведалі адразу.

– Шлях, пра які я кажу вам, вядзе праз тунэлі Морыі.

Адзіны Гімлі падняў галаву, і ў вачох ягоных адбілася полымя. Астатнія адчулі толькі жах. Нават у хобіцкіх паданьнях Морыя патыхала цёмнай жудасьцю.

– Шлях той вядзе ў Морыю, безумоўна, але ці ж выводзіць? – змрочна спытаў Арагорн.

– Нават назоў яе – ліхая прыкмета, – выгукнуў Барамір. – Я таксама ня бачу аніякай рацыі соваццa туды. Калі ўжо мы ня здольныя пераваліць горы, пойдзем на поўдзень, да Брамы Рохану. Тамтэйшы люд – сябра майму народу. Пойдзем шляхам, які я ўжо прайшоў, які ведаю. Ці, можа, мінем Браму, спусьцімся па Ізене, пераправімся ды рушым да Ўзмор'я, да Пажыцьцяў, сягнем Гондару з боку мора?

– Шмат чаго зьмянілася з часу твайго падарожжа на поўнач, Барамір, – запярэчыў Гэндальф. – Ці ты ня чуў, што я распавядаў пра Сарумана? Ім я яшчэ займуся, калі мы ўправімся з гэтай справай. Але цяпер ані ў якім выпадку пярсьцёнак не павінен патрапіць блізка да Ізенградку, ані ў якім. Пакуль мы разам з Ахоўнікам, Брама Рохану для нас замкнёная. Што ж тычыцца даўжэйшага шляху – нам ня хопіць часу. На гэткае падарожжа трэба год, калі ня болей. І вандраваць давядзецца праз

запустэчаныя, негасьцінныя краі. І разам з тым небясьпечныя. За імі прыглядаюць выведнікі й Сарумана, і Ворага. Калі ты рушыў на поўнач, Барамір, для ворага ты быў толькі выпадковы бадзяга з поўдня. Ён не зьвярнуў на цябе ўвагі, бо заклапочаны пошукамі пярсьцёнка. Цяпер жа ты сябра Зьвязу Пярсьцёнка й у сьмяротнай небясьпецы, пакуль застаесься з намі. І з кожнай міляю на поўдзень небясьпека горшае – калі не схавацца ад варожых вачэй. Баюся, пасьля няўдачы зь перавалам становішча нашае адчайнае. Амаль безнадзейнае, калі мы не схаваемся, не замяцем сьляды. Таму маё слова: рушыць не праз горы, не вакол іх, а пад імі. Ва ўсялякім выпадку такога Вораг ад нас чакае меней за ўсё.

– Мы ня ведаем, чаго ён чакае, а чаго не, – запярэчыў Барамір. – Мажліва, ён сочыць за ўсімі шляхамі, верагоднымі ці не. А тады крочыць у Морыю – усё адно што самім пагрукаць у дзьверы Цёмнай вежы. Самое імя Морыі – змрок і сьмерць.

– Ты ня ведаеш, пра што гаворыш, параўноўваючы Морыю з крэпасьцю Саўрона, – сказаў Гэндальф. – З сіх вас мне аднаму давялося патрапіць у вязьніцы Чорнага Уладара, дый тое ў ягоным старэйшым і не наймацнейшым жытле ў Дул Гулдуры. Тыя ж, што крочаць за браму Барад-дуру, ужо не вяртаюцца. Я не прапаноўваў бы шлях праз Морыю, калі б не было надзеі выйсьці зь яе. Калі там оркі, справа можа павярнуцца дрэнна, бясспрэчна. Але ж большасьць оркаў Туманных гор загінула ў

Бітве Пяці Войскаў ці разьбеглася пасьля яе. Паводле зьвестак арлоў, оркі цяпер зьбіраюцца здалёку, каб зноў патрапіць да гор, таму ёсьць надзея, што Морыя яшчэ вольная ад іх. Ёсьць пэўны шанец, што й гномы там і дзе-кольвек у глыбокай залі продкаў мы знойдзем Баліна, сына Фундзіна. Гэтак або інакш, іншага шляху для нас няма, і трэба набрацца адвагі дый крочыць па ім!

– Я разам з табою! – сьцьвердзіў Гімлі. – Я хачу ўбачыць залі Дарына, што б ні чакала мяне ў іх, калі толькі магчыма знайсьці й адчыніць іхнюю браму.

– Файна, Гімлі! – падзякаваў чараўнік. – Ты мяне натхніў. Мы разам адшукаем таемную браму. І пройдзем празь яе. У старадаўніх гномскіх руінах гнома ня так лёгка зьбіць спанталыку, як эльфаў ці людзей з хобітамі. Дый я ўжо быў у Морыі й доўга шукаў там зьніклага Трайна, сына Трора. Прайшоў яе наскрозь і выйшаў жывы!

– Мне таксама давялося аднойчы прайсьці Дымрыльскай Брамай, – прамовіў Арагорн. – І хоць я таксама выйшаў жывы, нават згадваць тое падарожжа няма жаданьня. Я не хачу заходзіць у Морыю зноў.

– А мне й упершыню не карціць, – сказаў Піпін.

– Дый мне, – прамармытаў Сэм.

– Ну вядома! – усклікнуў Гэндальф. – А каму ж карціць? Але ж я пытаюся пра іншае: хто пойдзе за мною, калі я крочу туды?

– Я, – выгукнуў Гімлі шчыра.

– І я, – вымавіў Арагорн сувора. – Ты пайшоў за мною амаль да сьмерці ў сьнягох – і не папракнуў ані словам. Цяпер я гатовы йсьці за табою. Але прашу: прыслухайся да майго апошняга папярэджаньня. Я бачу: анікому з нас, нават Ахоўніку Пярсьцёнка, там не пагражае такая вялікая небясьпека, якая пагражае табе, Гэндальфе. Калі ты вырашыў крочыць за браму Морыі – сьцеражыся!

– Я супраць. Хіба толькі ўсе астатнія аднагалосна ня вырашаць ісьці туды, – дадаў Барамір. – Што скажа Ляголас ды маленькі народ? Ці ж ня йстотна выслухаць слова Ахоўніка Пярсьцёнка?

– Я не жадаю йсьці ў Морыю, – сьцьвердзіў Ляголас.

Хобіты маўчалі. Сэм запытальна глядзеў на Фрода.

– Я таксама не жадаю, – вымавіў той нарэшце, – але ж не хачу й адпрэчваць Гэндальфаву параду. Калі ласка, адкладзіце вырашэньне да раніцы. Тады на сьвежую галаву, пад сонцам, а ня ў гэтай ільдзянай цемры мо мы здолеем знайсьці болей рацыі ў Гэндальфавых словах і згоды ў сабе. Як дзіка вые вецер!

Усе змоўклі, задумаўшыся. Вецер шыпеў, сьвістаў сярод дрэваў і камянёў навокал, падвываў, лямантаваў у начной цьмянай пустэчы.

Раптам Арагорн ускочыў.

– Як дзіка вые вецер? Ды ён вые ваўчынымі галасамі! Варгі перайшлі горы!

– Ці варта цяпер чакаць раніцы? – перапытаў Гэндальф. – Як я й казаў, паляваньне ўжо на скаку! Калі мы й дажывем да сьвятла, хто з нас захоча рушыць на поўдзень па начох з ашалелымі ваўкамі за сьпінамі?

– Ці далёка да Морыі? – пацікавіўся Барамір.

– Брама на паўночны захад ад Карадрасу, напрамкі, як крумкач лётае, вёрстаў пятнаццаць; па зямлі, як воўк бяжыць, мо й усе дваццаць, – змрочна адказаў Гэндальф.

– Тады выходзіць трэба як мага раней на золку, – падсумаваў Барамір. – Оркі, якіх яшчэ ня бачыў, лепшыя за ваўкоў, якіх ужо пачуў.

– Так! – згадзіўся Арагорн, распускаючы снур, што трымаў меч у похвах. – Дый калі пачуеш варга, неўзабаве ўбачыш і орка.

– Калі б я толькі паслухаў Эльранда, – прашаптаў Піпін Сэму. – Якая зь мяне тут карысьць? Дарма што Бандабрас Бугай-Роў – мой продак. Не ягонай я пароды: калі чую тое выцьцё, кроў у жылах стыне. І не ўзгадаю, калі пачуваўся нікчэмнейшым.

– Маё сэрца таксама ў пятках, спадару Піпіне, – адказаў Сэм,

– але ж нас яшчэ не папажэрлі, дый хлапцы якія з намі дужыя. Аб заклад паб'юся: наш старына Гэндальф можа патрапіць куды заўгодна, ды толькі не ў ваўчынае бруха.

Дзеля бясьпекі падарожнікі забраліся на пагорак, пад якім мерыліся схавацца на ноч. На вяршыні была купка старых пакрыўленых дрэваў, за якімі ляжалі няроўным кольцам валуны. Сярод таго кольца й распалілі вогнішча, бо начная цемра й цішыня не бароняць ад паляўнічай ваўчынай зграі.

Згуртаваліся вакол агню. Тыя, хто не трымаў варты, уздрамнулі, трывожна й неспакойна. Небарака Біл дрыжэў і пацеў. Ваўчынае выцьцё даносілася цяпер з усіх бакоў часам бліжэй, часам далей. Зь цемры навокал на вогнішча пазірала мноства вачэй, і водбліскі полымя зьзялі ў іх. Наблізіліся, некаторыя перыліся ўжо прама з-за кольца валуноў. У шчарбіне кольца раптам узьнік вялізны чорны ваўчыны цень. Воўк-велікан паўстаў там, паглядаючы на вандроўнікаў. Дый завыў, нібы ачольца, склікаючы гуф да нападу.

Гэндальф узьняўся й крочыў да яго, сьціснуўшы кій.

– Ты, Саўронаў ганчак! Слухай: перад табою Гэндальф! Уцякай, калі шануеш сваю брудную шкуру! Бо я выпалю яе ад носа да хваста, калі ты толькі лапу сунеш за валуны!

Воўк рыкнуў і скочыў наперад. У гэтае імгненьне бразнула струна – Ляголас спусьціў стралу. З жудасным віскатам воўк грымнуўся на зямлю. Эльфава страла працяла яму глытку. Запаленыя вочы навокал адразу ж згасьлі. Гэндальф з Арагорнам крочылі наперад, аднак на пагорку ўжо анікога не было – зграя ўцякла. У начной цемры павісла цішыня, і посьвіст ветру болей не парушаўся аніводным згукам.

Набліжалася раніца. Месяц-сход каціўся за далягляд, слаба праблісковаючы паміж падраных хмараў. Зьнянацку Фрода абудзіўся. Без аніякага папярэджаньня

адразу з усіх бакоў абрынулася навала дзікага выцьця – вялізная зграя варгаў сабралася цішком вакол пагорку й цяпер напала ўся разам.

– Болей дроваў у вогнішча! – крыкнуў Гэндальф хобітам. – Мечы вонкі, сьпіна да сьпіны!

Полымя ірванула ўгору, абхапіўшы сьвежыя дровы, і Фрода ўбачыў мноства шэрых ценяў па-над кольцам валуноў. Адзін за адным пераскоквалі яны камяні, а за імі яшчэ й яшчэ. Першаму, аднаму з найвялікшых варгаў, Арагорн праця́ў глытку мечам, другому Барамір моцным ударам зьнёс галаву. Побач зь імі Гімлі, стоячы нерухома, нібы валун, пластаў сякераю пааберуч. Струна Ляголасава лука зьвінела няспынна.

У дрыготкім сьвятле вогнішча Гэндальф, падавалася, нечакана вырас – вялізманы пагрозьлівы цень, рыхтык каменны волат, помнік старажытнаму каралю на гары. Нахіліўшыся, накрыўшы ценем усё за сабою, бы хмара, ён падхапіў запаленую галіну дый крочыў насустрач ваўкам. Тыя адсунуліся прэч. Гэндальф падкінуў галіну ў паветра – і яна палыхнула, выбухнула найбялейшым, асьляпляльным сьвятлом маланкі, і голас Гэндальфаў раскаціўся громам: "*Наўр ан эдрайф аммэн! Наўр дан і нгаўрхот!*" З ровам і трэскам дрэва ля яго выбухнула слупом асьляпляльнага полымя. Зьзяньне затанчыла па лёзах абаронцаў. Апошняя страла Ляголаса ўспыхнула ў палёце і, запаленая, працяла сэрца ваўчынага правадыра. Астатнія кінуліся прэч.

Павольна агонь выдыхаўся, згасаў, пакуль толькі бледнае вугольле не засталося сярод прыску. Горкі дым віўся над счарнелымі абгаркамі дрэваў, шлейфам цягнуўся зь вяршыні пагорку ў нясьмелым сьвятле раніцы. Ворагі ўцяклі, і анідзе паблізу не было ні знаку іх.

– Ну, што я вам казаў, спадару Піпіне? – спытаў Сэм, засоўваючы корд у похвы. – Не па ваўчыных ён зубах! Ну, учыніў жа агнявішча, дый годзе! Ледзь мне фрызуру ня выпаліў.

Калі пасьвятлела, па-ранейшаму аніякіх ваўчыных прыкметаў так і не адшукалі. І целаў забітых ваўкоў таксама. І сьлядоў начной бойкі ані засталося, толькі абгарэлыя дрэвы ды Ляголасавы стрэлы, параскіданыя па ўсёй вяршыні пагорку. Усе цалюсенькія, толькі адна згарэла да канчара.

– Чаго я й баяўся, – сказаў Гэндальф. – Не звычайныя тое ваўкі палююць ежу ў глухмені. Сьнедаем хутчэй і выходзім, марудзіць нельга!

Надвор'е зьмянілася зноў, нібыта нейкі ўладар надвор'я болей ня меў патрэбы ў сьнезе, бо падарожнікі адступіліся ад перавалу, а меў патрэбу цяпер у ясным сьвятле, каб лепей сачыць за рухамі. Уначы паўночны вецер зьмяніўся на паўночна-ўсходні, а цяпер і ўвогуле сьцішыўся. Аблокі зьбеглі на поўдзень, і нябёсы разьвінуліся над галовамі яснай сінечай. Калі падрыхтаваліся выходзіць, над вяршынямі гор зазьзяў нясьмелы ранак.

– Мусім сягнуць брамы да цемры, – папярэдзіў Гэндальф, – альбо, баюся, мы не сягнем яе ўвогуле. Яна недалёка адсюль, але сьцежкі тут пятляюць. Арагорн наўрад ці дапаможа, бо ён рэдка бываў тут, а я толькі аднойчы патрапіў пад заходнюю сьцяну Морыі, дый тое шмат часу таму. Брама вунь там, – ён паказаў на паўднёвы ўсход, дзе стромыя бакі гор хаваліся ў засенях узножжаў. Там няясна абрысоўваўся шэраг голых скалаў, а пасярод іх узвышалася адзіная гладкая й шэрая, бы вялізная сьцяна. – Калі мы спускаліся зь перавалу, я павёў вас не зусім туды, адкуль мы пачыналі, а на поўдзень, калі хто з вас заўважыў. І слушна, бо цяпер нам на колькі вёрстаў меней, а трэба ж сьпяшацца. Ну, рушма!

– Можа, Гэндальф і знойдзе, што шукае, – змрочна вымавіў Барамір, – а можа, калі падыдзем да скалаў, высьветліцца, што брамы той ужо няма ці яна зачыненая назаўжды. Хутчэй за ўсё, мы патрапім паміж ваўкамі й сьцяною. Куды ні сунься – усё ліха. Што ж зробіш, рушма!

Гімлі цяпер крочыў наперадзе побач з чараўніком – гэтак нецярпелася яму патрапіць у Морыю. Разам яны й вялі Зьвяз да гор. Адзіны даўні шлях да Морыі з захаду ляжаў уздоўж ракі Сіранон, якая зьбягала з скалаў непадалёк ад брамы. Але ці Гэндальф заблукаў, ці мясьціны нядаўна зьмяніліся, але ракі ён так і не знайшоў, хоць і разьлічваў напаткаць яе ўсяго за некалькі вёрстаў на поўдзень ад месца начлегу.

Набліжаўся полудзень, а вандроўнікі блукалі ды караскаліся па голай рудой камяністай пустэчы. Нідзе не было відаць ані пробліску вады, не было чуваць ані гуку яе. Усё бляклае, высахлае. Агульны настрой скаціўся да адчаю. Ані птушак у нябёсах, ані жывой істоты наўкол. Пустэча. Пра тое, што абяцае ноч сярод гэтых забытых мясьцінаў, і думаць не хацелася.

Зьнянацку Гімлі, які ішоўужо далёка наперадзе, прыпыніўся й паклікаў астатніх. Стоячы на ўзгорку, паказаў рукою направа. Пасьпяшаліся да яго й пабачылі ўнізе глыбокае й вузкае ручво, пустое й маўклівае. Адно танюткі струменьчык вады прасочваўся між рудых, заплямленых барваю камянёў, але блізу яго выразна вёў шлях, папсаваны й пашкоджаны, – сьцежка сярод зруйнаваных прысьценьняў ды выварачаных камянёў старажытнай дарогі.

– А, вось і дабраліся нарэшце! – уздыхнуў Гэндальф. – Тут і цякла рака Сіранон, Струмень Брамы, як яе звычайна называлі. Цікава, што ж зь ёй здарылася? Струмень быў жвавы й гаманлівы. Хадзем, пасьпяшаймася. Мы й так спазьняемся.

Падарожнікі пазьбівалі ногі ды стаміліся, але ўпарта крочылі й крочылі вярсту за вярстою па пятлястай, цяжкай сьцежцы. Сонца пачало апускацца, калі прыпыніліся перадыхнуць і сьпехам паесьці, і зноў рушылі далей. Наперадзе грувасьціліся горы, але сьцежка вяла па глыбокай лагчыне, і відаць былі толькі вяршыні найвышэйшых адгор'яў ды высачэзныя пікі далёка на ўсходзе.

Нарэшце дабраліся да павароту. Дарога, якая ўхілялася на поўдзень, віючыся паміж скальным адхонам і рэчышчам, зноў скіравалася на ўсход. Збочыўшы, вандроўнікі ўбачылі перад сабою нізкую скалу, сажняў зь пяць усяго, з вызубранай і растрэсканай вершалінай. Зь яе высочваўся, ледзь не па кропельцы, танюткі струменьчык вады, хоць і падавалася, што шырокую расколіну наверсе прамыў калісьці моцны й паўнаводны вадаспад.

– Насамрэч, мясьціны зьмяніліся! – прамовіў Гэндальф. – Але памыліцца ўжо немагчыма: мы бачым тое, што засталося ад Вадаспаднай лесьвіцы. Калі памяць мяне не падманвае, паабок ад яго былі вычасаныя ў камені сходы, а галоўная дарога адхілялася налева й сэрпантынам выходзіла на роўнядзь наверсе – пляскатую даліну за вадаспадам, якая пачынаецца прама ад брамы. Па даліне цякла Сіранон, і побач зь ёй ішла дарога.

Лесьвіцу знайшлі адразу ж, і Гімлі спрытна рушыў па ёй, а за ім – Гэндальф і Фрода. Калі ж дабраліся да верху, вынайшлі: далей тут ходу няма. Таксама высьветлілася, чаму перасох Струмень Брамы. За сьпінамі сыходнае сонца залівала чыстыя заходнія нябёсы зіхоткім золатам, а перад імі разаслалася змрочная роўнядзь возера. Палымяны захад не адбіваўся на яго паверхні. Струмень Брамы быў загачаны й разьліўся на ўсю даліну. За злавеснай змрочнай вадою высіліся вялізарныя скалы, іхнія суворыя ілбішчы бялелі ў сьвятле сутоньня. Усё, далей праходу няма. Ані брамаў ці тунэлю, ані нават шчылінкі не заўважыў Фрода на хмурным камені.

– Перад вамі – сьцены Морыі, – Гэндальф паказаў на скалы. – Там, напрыканцы даліны й дарогі ад Падуб'я, па якой мы прыйшлі, калісьці была Эльфская брама. Але тут нам не прабрацца. Аніхто з нас, мяркую, не захоча плысьці па гэтай вадзе ў цемры. Увогуле, не падабаецца мне гэтае возера.

– Можам знайсьці праход уздоўж паўночнага берагу, – прапанаваў Гімлі. – Пройдзем па галоўнай дарозе дый пабачым, куды ён выводзіць. Бо нават калі б і возера не было, мы не зацягнулі б поні на лесьвіцы.

– Гэтак ці інакш, у Морыю мы жывёліну не пацягнулі б, – сказаў Гэндальф. – Шлях пад гарамі – цьмяны й недарэчны, там процьма вузкіх і стромых праходаў, па якіх ён ня пройдзе.

– Небарака Біл! – уздыхнуў Фрода. – Я й не падумаў пра яго. Што ж скажа Сэм?

– Даруй мне, калі ласка, – прамовіў Гэндальф. – Стары поні быў карысным спадарожнікам, і мне насамрэч шкада пакідаць яго тут аднаго. Я ад самага пачатку падазраваў, што нам давядзецца йсьці пад гарамі, і калі б было па-мойму, мы ўзялі б меней паклады дый аніякіх жывёлаў, асабліва тых, якія гэтак даспадобы Сэму.

Сьцямнела, і ў нябёсах, высока над рэшткамі заходняга полымя, заблішчэлі халодныя зоры, калі Зьвяз, сьпяшаючыся што моцы, ускараскаўся па схіле й дабраўся да берагу возера. Ушыркі яно сягала самае большае дзьвюх ці трох гоняў. Ці далёка яно цягнулася на поўдзень, у змроку не разабралі, паўночны край ляжаў не далей за паўвярсты, а паміж скальнымі сьценамі даліны й краем вады яшчэ заставалася палоска прасторы. Рушылі наперад амаль бегма, бо заставалася ня меней за вярсту да дальняга берагу, куды кіраваўся Гэндальф. А яшчэ ж трэба было знайсьці браму.

Ля паўночнага краю возера дарогу перагарадзіў вузкі заліў, зацьвілы, зялёны, нібы сьлізкая рука з глыбіняў учапілася ў агароджу скалаў. Гімлі дзёрзка крочыў наперад і вынайшаў, што вады ўсяго па халяву. Астатнія рушылі за ім цугам, асьцярожна, бо ад водарасьцяў ды цьвілі камяні на дне былі сьлізкія й ненадзейныя. Фрода ажно здрыгануўся, калі чорная нячыстая вада кранула ягоныя ногі.

Калі Сэм, апошні ў шэрагу, вывеў Біла на сухое, пачуўся мяккі гук: узбульк, потым пляск, быццам рыба скокнула на паверхню. Азірнуўшыся, падарожнікі пабачылі, як удалечыні разьбягаюцца кольцамі, акрэсьленымі чорнымі ценямі ад згасалага сонца, хвалі. Узбулькнула зноў – і заціхла. Змрок пагусьцеў, апошнія промні заходу закрыла хмара.

Гэндальф ішоў хутка й шырока, астатнія сьпяшалі за ім як толькі маглі. Сягнулі сухой палоскі паміж сьцяной і возерам – вузкай, месцамі ня болей за паўтузіна сажняў, загрувашчанай каменьнем. Прабіраліся, прыціскаючыся да скалаў, трымаючыся як мага далей ад чорнай вады. Празь вярсту ўздоўж берагу напаткалі падубы. Пні й апалыя галіны гнілі ў прыбярэжнай вадзе – мёртвыя рэшткі былой купы ці жывой агароджы дарогі, якая вяла праз затопленую цяпер даліну. Але пад самай сьцяной яшчэ стаялі моцныя й жывыя два высачэзныя дрэвы падубу, большыя за любы падуб, які Фрода бачыў ці нават мог уявіць. Іхнія магутныя карані сягалі ад сьцяны да вады. Пад веліканскай сьцяною скалаў, здалёк, ад Вадаспаднай лесьвіцы, яны падаліся кустамі, але цяпер вежамі ўзвышаліся над галовамі, суворыя, змрочныя, маўклівыя, з узножжамі, агорнутымі начным ценем, – нерухомыя вартавыя напрыканцы шляху.

– Ну, дабраліся ўрэшце! – усклікнуў Гэндальф. – Тут і сканчаецца эльфскі шлях з Падуб'я. Падубы былі сымбалем народу гэтай краіны, іх насадзілі тут, каб пазначаць мяжу, бо Заходняя брама Морыі й прызначалася ў асноўным для гандлю паміж

эльфамі ды гаспадарамі Морыі. Найшчасьлівейшыя тады былі часіны, калі сябравалі самыя розныя народы, нават эльфы з гномамі.

– Не праз гномаў згасла тое сяброўства, – прабурчэў Гімлі.

– Я нешта ня чуў, каб яно згасла праз эльфаў, – запярэчыў Ляголас.

– А я чуў і тое, і другое, – сказаў Гэндальф, – і не вазьмуся цяпер меркаваць, дзе рацыя. Прашу вас, Гімлі, Ляголас, не сварыцеся, калі ласка. Дапамажыце мне лепей, вы абодва патрэбныя мне. Брама зачыненая й схаваная, і чым раней мы знойдзем яе, тым лепей. Ужо ж амаль ноч!

– Пакуль мы шукаем, калі ласка, падрыхтуйцеся да таго, каб крочыць у Морыю, – дадаў, павярнуўшыся да астатніх. – Тут, на жаль, трэба разьвітацца з нашым чатырохногім сябрам. Можна пакінуць большасьць цёплай вопраткі, якую бралі на зімовае надвор'е. Пад гарамі яна не спатрэбіцца, і калі мы выберамся з-пад іх – таксама, спадзяюся. Бо кіруемся мы на поўдзень. Замест гэтага кожнаму трэба ўзяць частку таго, што везьлі на поні, асабліва ежу й біклагі з вадою.

– Вашмосьць Гэндальфе, вы ж не пакінеце небараку Біла ў гэтым клятым месцы, га? – узмаліўся Сэм, разьюшаны й засмучаны. – Ды я ў жыцьці такога не дазволю! Ды ён жа колькі з намі цягнуўся!

– Прабач, Сэме, – вымавіў Гэндальф. – Калі брама адчыніцца, наўрад ці ты зацягнеш Біла ў пячоры, у доўгую цемру Морыі. Выбірай: ці Біл, ці твой гаспадар.

– Ды ён за спадаром Фрода ў цмокава лёжышча палезе, калі я толькі яго павяду туды! – выгукнуў Сэм. – А тут выпускаць яго – гэта ж забойства, няйначай, з усімі гэнымі ваўкамі навокал.

– Спадзяюся, усё ж інача́й, – Гэндальф паклаў руку на галаву поні й нягучна вымавіў: – Пачуй мае словы, добры конік, і няхай яны абароняць і засьцерагуць цябе. Крочы упэўнена й сьцярожка. Ты – мудрая жывёліна й шмат чаму вывучыўся ў Долым Яры. Ідзі туды, дзе знойдзеш траву дый вяртайся ў свой час да Эльрандавай сядзібы ці куды сам пажадаеш.

– Ну, Сэме, – дадаў чараўнік, – у яго ня меней шанцаў пазьбегнуць ваўкоў і вярнуцца дахаты, чым у нас.

Сэм не адказаў. Стаяў ля поні, маўклівы й пахмуры. Біл, нібы разумеючы, што адбываецца, ласкава кранаў яго пысаю, носам тыцкаўся ў вуха. Сэм расплакаўся ды, усхліпваючы, прыняўся няўклюда распускаць рамяні й скідваць пакункі на зямлю. Астатнія гатункавалі рэчы, адкладваючы тое, што пакідалі.

Калі скончылі, павярнуліся да Гэндальфа. Той, падавалася, стаяў бязмэтава й аслупянела, узіраючыся ў гладкую сьцяну паміж дрэвамі, нібы буравіў у ёй позіркам дзірку. Гімлі бадзяўся туды-сюды ўздоўж сьцяны, зрэдку пагрукваючы абухом сякеры па камені. Ляголас прыціснуўся да скалы, быццам услухоўваючыся.

– Ну, мы ўсе падрыхтаваліся, – абвесьціў Мэры, – дзе ж брама? Нешта я анічога ня бачу.

– Гномскія брамы й не павінны быць бачныя, калі яны зачыненыя, – давёў Гімлі. – Яны добра схаваныя, і нават іх творцы няздольныя іх адшукаць ці адчыніць, калі забудуцца на іх сакрэт.

– Але гэтая брама не была таямніцай, вядомай толькі гномам, – запярэчыў яму Гэндальф, зьнянацку зноў заварушыўся й павярнуўся да астатніх, – калі тут усё цалкам не памянялася, тыя, што ведаюць, куды глядзець, здолеюць заўважыць.

Ён крочыў да сьцяны. Якраз паміж ценямі ад дрэваў было гладкае месца, і над ім чараўнік павёў рукамі, мармычучы нешта сабе пад нос. Адышоўся.

– Зірніце! Ці бачыце што цяпер?

Месяц асьвятліў шэрую паверхню скалы, але спачатку нічога не зьмянілася. Тады павольна ў месцах, над якімі прайшла рука чараўніка, вымаляваліся слабыя рысачкі, бы танюткія жылкі срэбра ў камені. Не таўсьцейшыя за павуціньне, і праблісквалі, толькі калі месяцовае сьвятло трапляла на іх. Паступова пашырыліся, запрамянелі – і ўжо пазначыўся ўвесь малюнак.

Наверсе, там, куды Гэндальф толькі мог дацягнуцца рукою, нарысавалася арка зь пераплеценых эльфскіх літараў. Пад імі, хоць срэбныя жылкі месцамі былі папсаваныя ці невыразныя, угадваўся абрыс кавадла й молата, а над імі – карона зь сямю зорамі. Унізе – два дрэвы зь лісточкамі-маладзікамі. А зырчэй за ўсё астатняе зьзяла зь сярэдзіны брамы адзіная зорка з мноствам прамянёў.

– Сымбалі Дарыну! – выгукнуў Гімлі.

– І Дрэва вышніх эльфаў! – азваўся Ляголас.

– І зорка Феанорава роду, – дадаў Гэндальф. – Выява зроблена зь іфільдыну, які адбівае толькі зорнае й месяцовае сьвятло й не ажывае, пакуль яго не кране той, хто вымавіць словы, у Міжзем'і ўжо даўно забытыя. Даўнютка таму я чуў іх і ня хутка здолеў выцягнуць з памяці.

– А пра што гаворыць надпіс? – спытаў Фрода. – Я лічыў, што ведаю эльфскія пісьмёны, але не магу прачытаць.

– Таму што гэта эльфская мова Захаду Міжзем'я, мова Даўніх дзён, – патлумачыў Гэндальф. – Але надпіс нічога карыснага для нас не распавядае. "*Брама Дарына, валадара Морыі. Вымаві, сябра, і заходзь*". А ўнізе напісана меншымі літарамі й не такімі яркімі: "*Я, Нарві, вырабіў браму. Надпіс зрабіў Келебрымбар з Падуб'я*".

– І што ж значыць: *вымаві, сябра, і заходзь*? – спытаў Мэры.

– Ну, гэта ясна, – адказаў Гімлі, – калі ты – сябра, вымаві патрэбныя словы, брама адчыніцца й ты ўвойдзеш.

– Так, – падтрымаў яго Гэндальф, – брамай, напэўна, кіруюць словы заклёну. Некаторыя гномскія брамы адчыняюцца толькі ў пэўны час ці дзеля пэўных асобаў, а для некаторых яшчэ й ключ трэба мець пасьля таго, як усе патрэбныя словы сказаныя. Гэтай браме ключ не патрэбны. У часы Дарына яна не была таемнай. Звычайна заставалася расчыненай, і ахоўнікі сядзелі побач. А калі была зачыненая, толькі тыя, што ведалі словы, маглі адчыніць і прайсьці. Ва ўсялякім выпадку гэтак запісана, ці не, Гімлі?

– Так, – пацьвердзіў гном. – Але тыя словы страчаныя. Нарві, ягонае майстэрства й увесь ягоны род ужо даўно пакінулі Міжзем'е.

– А што, ты ня ведаеш гэтых словаў, Гэндальф? – зьдзівіўся Барамір.

– Не! – адгукнуўся чараўнік.

Астатнія пазіралі агаломшана й разгублена. Толькі Арагорн, які добра ведаў чараўніка, моўчкі й спакойна чакаў.

– Тады нашто ты прыцягнуў нас да гэтага клятага месца? – выкрыкнуў Барамір, азіраючыся на чорную ваду й уздрыгваючы. – Ты ж казаў нам, што калісьці прайшоў праз гэтыя скляпеньні? Як ты здолеў, калі ня ведаеш, як патрапіць у іх?

– Адказ на першае тваё пытаньне, – вымавіў Гэндальф, – такі: слова я насамрэч ня ведаю – пакуль што. Але ж пабачым. А пра карысьць маіх учынкаў, – дадаў ён, бліснуўшы вачыма з-пад калматых устапыраных броваў, – лепей пытацца, калі іх разумееш. Што ж тычыцца другога твайго пытаньня: ці ты сумняесься ў праўдзівасьці маіх словаў? Ці ня кеміш зусім? Я не адсюль крочыў у Морыю, а з усходу. Калі хочаш ведаць, гэтая брама адчыняецца вонкі. З другога боку дастаткова зьлёгку націснуць.

Адсюль жа анічога яе ня зрушыць, акрамя загадных словаў. Вонкі іх не ўваб'еш, і ня выламіш.

– І што ж ваша тады рабіцьме зь імі? – спытаў Піпін, на якога сувора ўстапыраныя бровы чараўніка аніяк не паўплывалі.

– Біцьму іх тваёй галавою, Перыгрын Хват! – разззлаваўся Гэндальф. – Але калі яны ад гэтага не раскрышацца й мне дазволяць крыху перадыхнуць, не даймаючы глупствамі, я, можа, і ўзгадаю патрэбныя словы. Калісьці я ведаў кожны заклён на ўсіх мовах эльфаў, людзей ці оркаў, які толькі выкарыстоўваўся з гэткай нагоды. Нават зь лёту гурт іх бяз тузіна магу ўзгадаць. Аднак, лічу, тут спатрэбіцца няшмат здагадак. Нават і Гімлі не давядзецца прасіць пра заклёны на таемнай гномскай мове, якой яны анікога ня вучаць. Замковы заклён, безумоўна, на эльфскай, як і словы на браме.

Ён крочыў да скалы зноў і крануў кіем срэбную зорку пасярэдзіне брамы, пад сымбалем кавадла. Вымавіў загадна:

*Аннон эдэльлен, эдра й аммэн!*
*Фэннас ногофрым, ласту бэф ламмэн!*

Срэбныя рысы пабляклі, але шэры гладкі камень не зварухнуўся.

Мноства разоў паўтарыў чараўнік гэтыя словы ў розным парадку. Пасьля паспрабаваў іншыя заклёны, адзін за адным, вымаўляючы іх то гучна й хутка, то ціха й павольна. Тады паўтарыў мноства асобных словаў па-эльфску. Анічога не адбылося. Скала нерухома сьцянела ў начным змроку, над галовамі запаліліся незьлічоныя зоры, задзьмуў ільдзяны вецер. Брама не адчынялася.

Зноў Гэндальф наблізіўся да скалы і, узьняўшы рукі, выгукнуў, звонячы сілаю й закіпаючы гневам: "*Эдра, Эдра!!!*" Ды бразнуў кіем аб сьцяну.

– Адчыніся! – загадаў браме й паўтарыў загад на кожнай мове, якая толькі чулася на захадзе Міжзем'я. Тады шпурнуў кій на зямлю й моўчкі сеў.

У гэты момант вецер прынёс здалёк ваўчынае выцьцё. Поні спалохана ўздрыгнуў. Сэм скочыў да яго й зашапатаў штось ціхенька на вуха.

– Не дазваляй яму ўцячы! – загадаў Барамір. – Падаецца мне, ён нам яшчэ спатрэбіцца, калі толькі ваўкі да нас не дабяруцца. Як я ненавіджу гэтую смуродную калюжыну!

Нахіліўся, падняў камень ды шпурнуў яго як далей. Камень зьнік зь ціхім пляскам пад чорнай паверхняй – і ў гэты момант усплёснула зноў, прашамасьцела й узбулькнула. Вялізныя хвалі пабеглі кольцамі ад месца, куды патрапіў камень, дый рушылі павольна да берагу.

– Навошта, Барамір? – спытаў Фрода. – Я таксама ненавіджу гэтае месца й баюся. Нават ня ведаю, чаго дакладна: не ваўкоў або цемры за брамаю. Нечага іншага з гэтага чорнага возера. Не турбуй яго!

– Хутчэй бы сысьці адсюль, – вымавіў Мэры.

– Чаму Гэндальф марудзіць? – спытаў Піпін.

Гэндальф не зьвярнуў на іх увагі. Сядзеў занурыўшыся – ці адчаяўся, ці глыбока задумаўся. Самотнае ваўчынае выцьцё пачулася зноў. Хвалі на возеры чамусьці вырасьлі, наблізіліся, а некаторыя й гучна плёскалі ў бераг.

Зьнянацку, напалохаўшы ўсіх, чараўнік ускочыў, сьмеючыся.

– Але, так проста! Вядома, вядома ж! Проста да абсурду, як любая загадка, калі ты нарэшце знойдзеш адказ!

Падхапіўшы кій, паўстаў перад сьцяной і вымавіў выразна: "*Мэллан*!"

Зорка ўзбліснула й згасла зноў. Тады бязгучна вызначыўся абрыс вялізнай брамы, хоць раней немагчыма было заўважыць аніводнай шчэлкі ці сучляненьня. Павольна створкі разышліся, цаля за цаляй, пакуль ня ўперліся ў сьцяну. За брамай цьмяна выступала з змроку стромая лесьвіца ўгору, яе ўзножжа агарнула цемра, глыбейшая за начны змрок навокал. Вандроўнікі застылі ў зьдзіве.

– Я памыляўся, – прызнаўся Гэндальф. – Дый Гімлі таксама. Адзіны Мэры, падумаць толькі, меў рацыю. Насамрэч, замковае слова проста напісанае на браме! Перакласьці надпіс трэба было так: *Скажы "сябра" – і ўваходзь!* Я мусіў толькі вымавіць слова "*сябра*" па-эльфску, і брама адчынілася. Так проста. Надта проста для дасьведчанага знаўцы заклёнаў у нашыя неспакойныя дні. Былі ж калісьці часы такога даверу! Аднак наперад!

Ён крочыў наперад і паставіў нагу на ніжнюю прыступку. У гэты самы момант адбыліся некалькі рэчаў адразу. Фрода адчуў, як нешта ўхапіла яго за лытку, і ўпаў, адчайна крыкнуўшы. Біл шалёна заржаў з жаху, адскочыў ды панёсься ўздоўж берагу ў цемру. Сэм кінуўся за ім, але пачуў Фродаў крык і вярнуўся назад, да яго, з плачам і лаянкай. Усе азірнуліся – і ўбачылі, што азёрная вада булькоча, нібы зграя зьмеяў плыве да іх з паўднёвага краю.

З вады выпаўзла доўгае жылістае шчупала, мокрае, бляднае. У цемры яно адсьвечвала атрутным зялёным. Сьлізкія пальцы на ягоным канцы трымалі Фрода за нагу й цягнулі ў ваду. Сэм упаў на калені й секануў кордам.

Шчупала выпусьціла Фрода, і Сэм пацягнуў гаспадара прэч, гукаючы дапамогі. З вады высьлізнулі яшчэ два дзясяткі шчупалаў. Чорная вада бурліла, выпускаючы жудасны смурод.

– Усярэдзіну! На лесьвіцу! Хутчэй!!! – загадаў Гэндальф, адскокваючы.

Ягоны крык абудзіў астатніх, што стаялі здранцьвеўшы ад жаху. Адзіны Сэм яшчэ рухаўся, цягнучы Фрода. Кінуліся ўсярэдзіну – і своечасова. Сэм з Фрода пасьпелі падняцца хіба на паўтузіна прыступак, а Гэндальф толькі крочыў зноў на ніжнюю, калі хаплівыя шчупалы абрынуліся на вузкі бераг, чапляючыся за сьцены й за палавінкі брамы. Адно пралезла й за браму, вільготна паблісківаючы ў зорным сьвятле. Гэндальф прыпыніўся, азірнуўшыся. Аднак калі ён выбіраў, якім словам замкнуць дзьверы знутры, дык дарма. Бо мноства шчупалаў, віючыся, схапілі створкі з абодвух бакоў і з жудаснай сілаю ляпнулі імі. Аглушальна бразнуўшы, брама зачынілася, і абрынулася паўнюткая цемра. Звонку праз тоўстае каменьне глуха даносіўся скрыгат й грукат.

Сэм, яшчэ трымаючы Фродаву руку, сеў, зьнясілены, на прыступку.

– Небарака Біл! – вымавіў з дрыжыкамі ў голасе. – Добры мой конік! Ваўкі ды зьмяюкі! Зьмяюкі – гэта ўжо занадта для яго. Мне давялося выбіраць, спадару Фрода. Але ж я мушу йсьці з вамі.

Скрозь цемру пачулі, як Гэндальф спусьціўся да брамы й тыцнуў у яе кіем. Каменьне ўскаланулася, і дрыгат прабег па лесьвіцы, але брама не адчынілася.

– Так, так, – прамовіў чараўнік. – Шлях вяртаньня перакрыты, і дарога нам адна – на другі бок гор. Мяркуючы па гуках, перад брамай наваленае каменьне, дый прыбрамныя дрэвы выварачаныя й кінутыя ўпоперак, каб ня даць браме адчыніцца. Шкада, дрэвы былі прыгожыя й пражылі так доўга.

– Я прадчуваў нешта жудаснае з моманту, калі толькі мая нага кранула ваду, – прызнаўся Фрода. – Што гэта за пачвара ці пачвары?

– Ня ведаю, – адказаў Гэндальф. – Але кіраваліся ўсе гэтыя шчупалы адзінай мэтай. Напэўна, нешта выпаўзла ці было выгнанае з самых чорных глыбінных падгорных водаў. У нутрынах гэтага сусьвету ёсьць пачвары нашмат старажытнейшыя і злосьнейшыя за оркаў.

Чараўнік, аднак, не агучыў яшчэ адну сваю думку: што ці хто б ні пасяліўся ў возеры, ён ухапіў першым менавіта Фрода.

Барамір прамармытаў сабе пад нос, але гулкае рэха ўзмацніла ягоны голас, і ўсе пачулі хрыплы шэпт: "У глыбінях гэтага сусьвету, шаноўнае спадарства! Ці не туды мы й патрапілі насуперак маёй волі? Толькі хто ж нас выведзе з гэтай сьмяротнай цемры?"

– Я, – адказаў Гэндальф, – і Гімлі разам з мною. Сачы за маім кіем!

Чараўнік падняўся на колькі прыступак, узьняў кій, і зь ягонага канчара зазьзяла нязыркае сьвятло. Шырокая лесьвіца ўгару засталася, відавочна, непашкоджанай і бясьпечнай. Налічылі на ёй дзьве сотні прыступак, шырокіх і нізкіх, а наверсе ўбачылі праход пад аркаю дый роўны тунэль за ім.

– Давайце крыху прысядзем і паямо – прама пасярод уваходу, раз мы йшчэ не знайшлі бальнай залі! – прапанаваў Фрода.

Жах ад сустрэчы з шчупалам паціху праходзіў, і Фрода адчуў незвычайны голад. Прапанову ўсе падтрымалі з радасьцю, паселі на верхніх прыступках – размытымі ценьмі ў змроку. Калі падсілкаваліся, Гэндальф зноў выдаў кожнаму па глытку долаярскага мірувору.

– Баюся, надоўга яго ня хопіць, – вымавіў ён. – Але ж, мяркую, пасьля той прыбрамнай жуды ён неабходны. А калі нам не пашанцуе надзвычайна, рэшткі моцна спатрэбяцца, як сягнем другога выхаду. І з вадою асьцярожней! У Морыі шмат крыніцаў і струменяў, але іх вады нельга нат кранаць. Магчыма, мы не папоўнім нашыя біклагі, пакуль ня выйдзем у Дымрыльскую даліну.

– Калі тое будзе? – спытаў Фрода.

– Цяжка сказаць. Шмат ад чаго залежыць. Мяркую, калі пойдзем надта не ўхіляючыся, не заблытаемся ці не патрапім у непрыемнасьці – тры ці чатыры пераходы. Ад Заходняй брамы да Ўсходняй нават па прамой ня меней за сорак вёрстаў, а прамых шляхоў тут няма.

Адпачыўшы крыху, рушылі зноў. Усім карцела пакінуць Морыю як мага хутчэй, і хоць і стомленыя надзвычай, згодныя былі ісьці яшчэ некалькі гадзінаў. Гэндальф, як і раней, крочыў наперадзе. У левай руцэ ўздымаў кій, сьвятла якога хапала толькі каб высьветліць калідор на некалькі крокаў перад чараўніком, у правай трымаў меч Гламдрынг. За Гэндальфам ішоў Гімлі, і ягоныя вочы ўзблісквалі ў змроку, адбіваючы сьвятло, калі ён круціў галавою, азіраючыся. За гномам рушыў Фрода, сьціскаючы Джала. Лёзы Джала й Гламдрынга заставаліся цёмнымі – суцяшальная прыкмета, бо мечы, зробленыя эльфскімі кавалямі Даўніх дзён, зьзялі халодным сьвятлом, калі набліжаліся оркі. За Фрода ішоў Сэм, за ім – Ляголас, далей маладзейшыя хобіты й Барамір. У цемры за ўсімі, змрочны й маўклівы, крочыў Арагорн.

Калідор некалькі разоў павярнуў дый пачаў спускацца. Ішлі ўніз даволі доўга, пакуль шлях зноў ня выраўняўся. Паветра зрабілася сьпякотным і душным, хоць і не смуродным, а час ад часу адчувалі патыханьне халаднейшага скразьняку зь ледзь заўважных праходаў у сьценах. Іх траплялася нямала. У няпэўным сьвятле чараўніковага кія Фрода прыкмячаў абрысы сходаў і арак, калідораў і тунэляў, якія вялі ўгору, ці строма ўніз, ці ўтыкаліся ў чарнату. Як толькі іх усе магчыма пазапомніць, як знайсьці шлях між імі?

Гімлі амаль нічым чараўніку не дапамагаў – хіба толькі ўпэўненым спакоем. Урэшце аднога яго з усіх цемра сама па сабе не турбавала. Часьцяком Гэндальф абмяркоўваў зь ім кірунак, калі траплялі на сумнеўнае разгалінаваньне, але вырашаў, куды ісьці, заўсёды сам чараўнік. Бо неабсяжныя й заблытаныя скляпеньні Морыі былі далёка па-за ведамі й досьведам Гімлі, сына Глойна, дарма што той нарадзіўся падгорным гномам. Гэндальфу ягоны досьвед даўняй вандроўкі праз Морыю амаль не дапамагаў, аднак, нягледзячы на цемру й бясконцыя павароты калідораў, чараўнік добра ўяўляў напрамак і беспамылкова трымаўся яго, адшукваючы найбліжэйшыя да яго праходы.

– Ня бойцеся! – вымавіў Арагорн, калі ля чарговага разгалінаваньня прыпыніліся даўжэй як звычайна. Гэндальф з Гімлі перашэпталіся, астатнія згуртаваліся непадалёк, заклапочана чакаючы. – Не палохайцеся. Я прайшоў разам з Гэндальфам мноства шляхоў, хоць ніводны ня быў такі змрочны, як гэты. А ў Долым Яры распавядаюць і пра вялікшыя ягоныя зьдзяйсьненьні. Калі толькі шлях існуе, ён яго знойдзе. Ён завёў нас сюды супраць нашай волі й страхаў, але ён выведзе нас, чаго ні каштавала б гэта яму самому. Ён нават у паўнюткай ночы лепей адшукае шлях дахаты, чым коткі каралевы Беруціель.

І добра ж, што мелі гэткага правадыра, бо ані дрэва, ані іншага матэрыялу на паходні не было – у жаху шмат чаго пакінулі ля брамы. А безь сьвятла далёка не прайшлі б, бо даводзілася ня толькі выбіраць адпаведны шлях, але й абыходзіць ды пераскокваць мноства правалаў і шчылінаў, побач з праходамі зеўралі калодзежы, у якіх адбівалася рэха крокаў. І ў падлозе, і ў сьценах траплялiся расколіны, раз-пораз заўважалі іх прама пад нагамі. Найшырэйшая – ня меней за тры локці, і Піпін доўга прастаяў ля яе, пакуль набраўся адвагі скочыць. Зь яе даносіліся пляск і бурленьне, быццам вялізнае млынавае кола варочалася ў глыбіні.

– Вяроўка, – мармытаў Сэм. – Ведаў жа, што спатрэбіцца, – і не паклаў!

Падобныя небясьпекі траплялі ўсё часьцей, і рух запаволіўся. Падавалася, ужо вечнасьць тэпаюць і тэпаюць да самых горных каранёў. Стаміліся па-за ўсялякай мераю, але й ня думалі, каб прыпыніцца, – які ж тут адпачынак? Пасьля ўцёку ад брамнай пачвары, таксама пасьля ежы ды асабліва глытку мірувору Фродаў настрой узьняўся, але цяпер пачуцьцё трывогі ўзмацнялася, ператвараючыся ў страх. Хоць яго й ацалілі ў Долым Яры ад варожай раны, вядзьмарскай, ліхой, бясьсьледна яна не мінула. Фродавы пачуцьці абвастрыліся, ён нашмат мацней, чым раней, адчуваў тое, што не заўважалася вачыма. І ў змроку бачыў лепей за ўсіх паплечнікаў. апроч хіба Гэндальфа. І пярсьцёнак адчуваўся ўсё больш, часамі наліваўся цяжарам, нацягваючы ланцуг, сьціскаючы грудзі. Фрода ведаў пра прысутнасьць ліха: ворагі чакалі наперадзе, ворагі краліся сьледам, але пра тое маўчаў. Толькі сьціскаў цаўё меча ды ўпарта крочыў далей.

Падарожнікі перамаўляліся рэдка, і толькі пасьпешлівым шапаткам. Па скляпеньні разносіліся адно гукі крокаў: глухое тып-тып гномскіх ботаў, цяжкая хада Бараміра, лёгкі шорхат

Ляголасавых чаравікаў, мяккае, ледзь чутнае шабуршаньне хобіцкіх босых ног. А ззаду – павольныя, упэўненыя, доўгія крокі Арагорна. Калі прыпыняліся, на момант павісала мёртвая цішыня, хіба толькі раз-пораз разьляталіся згукі кропляў, што сочацца ці падаюць недзе ў цемры. Аднак Фрода чуў – ці так падавалася – нешта іншае: ледзь адбітны пляскат босых ступакоў. Аніколі гучна ці блізка, але ўжо несумнеўна. Яно гучала й не прыпынялася, калі вандроўнікі ішлі... Але гэта было ня

рэха, бо калі прыпыняліся, яшчэ колькі часу плюхкала само па сабе, толькі потым сьціхала.

У Морыю патрапілі пасьля заходу й прайшлі некалькі гадзінаў толькі з кароткімі прыпынкамі, калі Гэндальф нарэшце надоўга задумаўся. Перад ім за шырокай аркаю адкрываліся тры праходы, усе ў патрэбным напрамку, на ўсход. Але левы спускаўся, правы веў угору, трэці ж – проста й роўна, але быў надта вузкі.

– Я ня памятаю гэтага месца ўвогуле, – паскардзіўся Гэндальф, стоячы пад аркаю дый азіраючыся. Падняў кій – пабачыць, ці ёсьць якія пазнакі ці надпісы, якія праясьнілі б справу, але не знайшоў анічога.

– Напэўна, я надта стаміўся, каб выбраць правільна, – хіснуў галавою. – Мяркую, і вы стаміліся ня меней за мяне, калі ня болей. Лепей прыпыніцца тут, адпачыць да раніцы, колькі там да яе засталося. Вядома, тут заўсёды змрок, але вонкі ветах ужо павярнуў на захад і поўнач мінула.

– Небарака Біл, – уздыхнуў Сэм. – Дзе ён, бедны? Спадзяюся, ваўкі яго ня зжэрлі.

Леваруч ад аркі знайшлі каменныя дзьверы, напаўзачыненыя, але ж яны адчыніліся ад лёгкага штуршка. За імі бачыўся вялізны пакой, вычасаны ў скале.

– Цішэй, цішэй! – выгукнуў Гэндальф, калі Мэры зь Піпінам кінуліся наперад, задаволеныя месцам, хоць бы крыху затуленым і бясьпечнейшым, чым адкрыты калідор. – Вы ж ня ведаеце, што там. Дазвольце мне зайсьці першым.

Зайшоў асьцярожна, астатнія цугам за ім.

– Вось! – чараўнік паказаў кіем на цэнтр залі, дзе перад самымі ягонымі нагамі ашчэрылася вялізная круглая дзірка, нібы калодзеж. Паламаныя, заржавелыя ланцугі грувасьціліся ля яе краю, цягнуліся ўсярэдзіну, у чорную праваліну. Каменныя аскепкі валяліся побач.

– Хтосьці з вас мог зараз ляцець там і ўсё яшчэ гадаць, ці хутка дно, – сказаў Арагорн Мэры. – Калі ўжо маеце правадыра, дык дазвольце яму крочыць паперадзе.

– Падобна да вартоўні для нагляду за трыма калідорамі, – выказаў меркаваньне Гімлі. – А дзірка добра падыходзіць у якасьці калодзежу для патрэбы вартаўнікоў, яна мусіла накрывацца каменнай плітой. Але пліта разьбітая, таму нам трэба сьцерагчыся ў цемры.

А Піпіна нейк дзівосна вабіла да калодзежа. Пакуль астатнія разгортвалі коўдры й рыхтавалі ложкі ўздоўж сьценаў пакою, як мага далей ад дзіркі, хобіт падабраўся да яе й зазірнуў. Халодны вецер зь нябачнай глыбіні пляснуў яму ў твар. Паддаўшыся раптоўнаму невытлумачальнаму парыву, хобіт намацаў на ўскрайку каменны аскепак дый сьпіхнуў яго. У цішыні пачуў, як грукае ягонае сэрца – раз, другі, мноства разоў. Нарэшце з далёкага нізу данеслася гулкае "плуп"! Быццам камень пляснуўся ў глыбокую ваду недзе ў прасторнай пячоры, і калодзеж данёс, узмацніўшы й паўтарыўшы мноства разоў, далёкае рэха.

– Што гэта? – выгукнуў Гэндальф.

Піпін, запінаючыся, прызнаўся. Гэндальф уздыхнуў з палёгкай, але раззлаваўся й вочы ягоныя бліснулі сувора.

– Дурань Хват! – прабурчэў ён. – Гэта табе ня хобіцкі шпацыр па прысадах! Наступны раз скачы сам – будзе меней клопату. Цяпер закрый рот ды слухай!

Некалькі хвілінаў анічога ня чулася. Тады з глыбіняў даляцеў слабы погрук: *тап-том*, *тап-том*. Спыніўся. Калі рэха змоўкла, паўтарыўся: *тап-там*, *тап-там*, *тап-тап*, *там*. Вельмі падобна да нейкага сыгналу. Ён прагучаў некалькі разоў, тады аціх.

– Каб мне аніколі болей ня чуць молату, калі гэта ня ён, – вымавіў Гімлі.

– Так, – пацьвердзіў Гэндальф. – І ён мне не даспадобы. Магчыма, ён і ня злучаны аніяк з Хватавым глупствам. Але, найхутчэй, ягоны камень патурбаваў тое, што лепей было б не чапаць. Калі ласка, болей не рабіце анічога падобнага! Спадзяюся, нам пашанцуе крыху адпачыць. А табе, Піпіне, асаблівая ўзнагарода – трымаць першую варту, – прабурчэй чараўнік, загортваючыся ў коўдру.

Няшчасны Піпін сядзеў ля дзьвярэй у паўнюткім змроку. Ды ўсё азіраўся, баючыся, што з калодзежу выпаўзе нейкая пачварына. Так карцела прыкрыць чым тую дзірку, хоць бы коўдрай! Але ён не адважваўся ня тое каб падысьці да дзіркі, а нават і паварухнуцца, хоць Гэндальф, напэўна, ужо заснуў.

Насамрэч Гэндальф ня спаў, толькі ляжаў моўчкі. Глыбока задумаўшыся, намагаючыся ўзгадаць кожную дробязь былой вандроўкі праз Морыю ды вырашыць, куды трэба кіравацца. Памылка цяпер была б катастрафічнай. Праз гадзіну падняўся й падышоў да Піпіна.

– Уладкуйся ў кутку ды сасьні крышку, хлапец, – казаў, відавочна, больш не злуючыся. – Напэўна ж, хочацца паспаць, так? А мне ўсё адно вачэй ня змружыць, я й павартую.

Усеўшыся побач зь дзьвярыма, прамармытаў:

– Ведаю-ведаю, у чым справа. Трэба папаліць. Я ж не каштаваў зёлкі ад самай раніцы перад перавалам.

Апошняе, што пабачыў Піпін перад тым, як сон агарнуў яго, былі цьмяныя абрысы старога чараўніка. Той сядзеў на падлозе й захіляў драўляную шчэпку вузлаватымі рукамі. Яна блiснула на момант, асьвятліўшы чараўніковы калені й твар з вострым доўгім носам і хмаркай дыму.

Абудзіў усіх таксама Гэндальф. Праседзеў у самоце шэсьць гадзінаў, дазволіўшы астатнім выспацца.

– Вартуючы я й вырашыў, – давёў кампаніі, – сярэдні калідор мне не падабаецца. І левы таксама, бо зь яго яўна сьмярдзіць. Ну, таму прапаную рушыць па правым. Мяркую, нам ужо час падымацца.

Пайшлі й крочылі восем гадзінаў з двума нядоўгімі прыпынкамі. Аніякай небясьпекі не напаткалі, анічога незвычайнага ня чулі й ня бачылі анічога, акрамя зыбкага агеньчыка на чараўніковым кіі, дрогкага й скаклівага, бы балотны сьвятляк. Абраны калідор, віючыся, упарта падымаўся. Падавалася, ён кружляў вітуніцаю, вёў угору й з кожным новым вітком рабіўся шырэйшым ды вышэйшым. Ані іншых калідораў, ані. праходаў ад яго не адгаліноўвалася, і падлога была гладкая, бяз шчылінаў або правалаў. Відавочна, патрапілі на нейкі значны шлях і рушылі цяпер па ім нашмат хутчэй, чым у першы дзень.

На ўсход гэткім чынам прасунуліся вёрстаў на пятнаццаць, калі па прамой, а нагамі вымералі ўсе дваццаць ці нават болей. З дарогай уздымаўся й Фродаў настрой. Але толькі патроху, бо трывога анікуды не падзелася, і часам зноў чулася – ці падавалася? – далёка за кампаніяй Зьвязу, за рэхам іхніх крокаў і не сугучна зь ім, слабое тупаценьне нечых босых ног.

Шыбавалі столькі, колькі хобіты здолелі без адпачынку, і ўжо шукалі месца для начлегу, калі сьцены пааберуч зьнянацку зьніклі. Падарожнікі, прайшоўшы пад нябачнаю вялізнаю аркаю, апынуліся ў вялікай цьмянай прасторы. Ззаду моцна дзьмула цяплейшым паветрам, а сьпераду цемра кранала твары холадам. Сябры Зьвязу спыніліся ды згуртаваліся, трывожна азіраючыся.

– Так, усё ж я абраў слушны шлях, – задаволена вымавіў Гэндальф. – Нарэшце мы сягнулі жылых пячораў, мяркую, непадалёк ад усходняга краю гор. Але ж цяпер, калі не памыляюся, мы нашмат вышэй ад Дымрыльскай Брамы. Па руху паветра падаецца, што мы ў нейкай залі. Ну, трэба рызыкнуць і падсьвяціць яе насамрэч.

Узьняў кій, і на момант зь яго палыхнула маланкаю. Мільганулі вялізарныя цені й высьветлілі перад вяртаньнем паўнюткай чарнаты высачэзны дах, падперты мноствам моцных калёнаў, вычасаных з каменю. Наперадзе й паабапал цягнулася доўгая пустая заля. Яе чорныя сьцены, сьлігтаваныя, гладкія, бы шкло, узблiснулі, люструючы сьвятло. У залю вялі яшчэ тры праходы пад гіганцкімі аркамі: наперадзе, прама перад вандроўнікамі й паабапал.

– Пакуль до ілюмінацыі, – сказаў Гэндальф. – У верхніх ярусах Морыі ёсьць вялізныя вокны, высечаныя ў горных схілах, і асьветленыя капальні. Лічу, мы ўжо ля іх, але вонкі ноч, і таму да сьвітанку наўрад ці мы пабачым болей. Напэўна, раніцою павітаем сапраўднае сонечнае сьвятло. А да яго лепей тут і прыпыніцца. Паспрабуем адпачыць. Дасюль усё йшло файна, большую й горшую частку шляху здужалі. Хоць засталося нямала, і да вонкавай брамы яшчэ колькі ходу.

Ноч бавілі ў залі, згуртаваўшыся ў куце й скурчыўшыся, каб схавацца ад пранізьлівага скразьняку. З усходняга выхаду ўвесь час дзьмула холадам. Ляжалі ў неабсяжнай цемры, пустой, гулкай, і незьлічоныя грамады каменю вакол ціснулі на сэрцы, прыгняталі. Так самотна й згубна было сярод бясконцых калідораў, вычасаных скляпеньняў ды лесьвіцаў. Нават найжудасьнейшыя ўяўленьні, падказаныя хобітам недагаворанымі й вусьцішнымі чуткамі, далёка не сягалі сапраўдных жуды й цуду Морыі.

– Але, добра ж тут калісьці варушыўся натоўп гномаў, – зазначыў Сэм, – кожны, без сумневаў, капаў ды часаў, як барсук, няспынна, гадоў гэтак з паўтысячы, каб вырабіць такое. І ў суцэльным жа камені! А навошта? Як жа ў гэткай жахлівай нары магчыма жытлаваць?

– Гэта не жахлівыя норы, – пакрыўдзіўся Гімлі, – гэта вялікае каралеўства й горад Гномскія Залі. У даўніну яго напаўняла ня цемра, а сьвятло й раскоша. Пра тое дасюль сьпяваюць нашыя песьняры.

Гімлі ўзьняўся ды, стоячы сярод цемры, моцным, глыбокім голасам, ад якога пакацілася гулкае рэха, засьпяваў:

*Быў юны сьвет і гор абшар,*
*Ня ведаў плямаў поўні твар,*
*Ніводны камень ці струмень,*
*Ніводны квет або прамень*
*Свайго імя шчэ не пачуў,*
*Калі прачнуўся ды зірнуў*
*На сьвет найпершы гаспадар,*
*Вялікі Дарын, цар-імяр,*
*І ў возеры між юных гор,*
*У Люстары карону зор,*
*Адбітых цьмянаю вадой,*
*Убачыў раптам над сабой.*

*Быў сьвежы сьвет і гор абшар,*
*Шчэ ясны дзень ня ведаў хмар,*
*Раскошай зьзялі Гандалін*
*І Наргатронд сярод далін.*
*Шчэ акіян іх не схаваў,*
*Калі тут Дарын царaваў.*

*Спарудзіў Дарын царскі трон*
*У залі тысячы калён*
*Пад столяй зырка-залатой,*
*З падлогай срэбна-заранай,*
*Заклёнам моцы на дзьвярах.*
*А ў крышталёвых ліхтарах*
*Зазьзялі сонца прамяні*
*Ды зораў ясныя агні.*

*Там молат па кавадле біў,*
*Разец часаў, чакан граніў,*
*Шахцёр капаў, збраяр – сплятаў*
*Лускою цмока броняў сталь,*
*Апал, дыямант ды крышталь*
*З шаломаў зьзялі ды пасоў,*
*Цаўёў сякераў ды мячоў.*

*Тады шчэ стомы не спазнаў,*
*Тады шчэ танчыў і сьпяваў,*
*Вітаў сяброў падгорны род –*
*Магутны Дарынаў народ.*

*Цяпер сусьвет наш састарэў.*
*Кавальняў прысак пасівеў.*
*Пра сталі звонь і арфаў сьпеў*
*Забыў даўно падгорны цень.*
*Ды ў Люстары між сівых гор*
*Дасюль ляжыць карона зор,*
*Чакаючы, каб уладар –*
*Абуджаны найпершы цар –*
*Адбіты цьмянаю вадой*
*Яе пабачыў над сабой.*

– Файна! – выгукнуў Сэм. – Я хачу вывучыць. "*Ды ў Люстары між сівых гор дасюль ляжыць карона зор!*" Як гучыць, га! Але цяпер, калі ўзгадваеш усенькія тыя ліхтарні й залатыя столі, цемра робіцца яшчэ чарнейшай. А што, кучы золата й дыямантаў яшчэ ляжаць навокал?

Гімлі маўчаў. Прасьпяваўшы, болей размаўляць не хацеў.

– Кучы золата? – Гэндальф усьміхнуўся. – Не. Оркі спустошылі Морыю. У верхніх залях анічога не засталося. А з часоў гномавых уцёкаў аніхто не адважваецца

абшукаць глыбокія капальні й скарбніцы, бо іх затапілі альбо падгорныя воды, альбо жах.

– Чаму ж тады гномы імкнуцца сюды зноў і зноў? – зьдзівіўся Сэм.

– Па міфрыль, – давёў Гэндальф. – Бо заможнасьць Морыі была ані ў золаце й самацьветах, гномскіх цацках, ані ў жалезе, пакорлівым служку. Іх тут хапала, сапраўды, асабліва жалеза. Здабываць іх наўрад ці патрабавалася – тутэйшыя гномы маглі атрымаць што заўгодна праз гандаль. Бо толькі тут ва ўсім сусьвеце ёсьць срэбра Морыі, ці праўдзівае срэбра, як завуць яго часам. Па-эльфску *міфрыль*. У гномаў для яго ўласны назоў, які – чужынцам не распавядаюць. Міфрыль каштаваў болей за золата ў дзесяць разоў, а цяпер ён і ўвогуле ня мае цаны, бо яго амаль не засталося на паверхні, а ў глыбіні нават оркі капаць не наважваюцца. Бо рудныя жылы цягнуцца на поўнач да Карадрасу, а пад ім вядуць уніз, у чорную цемру. Як здабывалі міфрыль, гномы не распавядаюць. Калі міфрыль пабудаваў іх дабрабыт, ён яго й зьнішчыў. Бо гномы ўкопваліся надта прагна, лезьлі глыбей, каб здабыць яшчэ болей, і абудзілі Дарынаў Праклён, і ўцяклі, ратуючыся ад яго. Здабыты міфрыль практычна ўвесь пасабралі оркі дый заплацілі ім даніну Саўрону. Той жа імкнецца прыдбаць увесь міфрыль, які толькі здолее. І ня ён адзіны. Амаль кожны, хто хоць раз бачыў міфрыль, прагне яго. Найцудоўнейшы з мэталаў! Куецца, бы медзь, шліфуецца, бы шкло, надзвычай лёгкі, але гномы маглі зрабіць яго трывалейшым за гартаваную сталь. Хараство яго падобнае да срэбра, але ж міфрыль ня блякне, не пакрываецца пацінай, як звычайнае срэбра. Эльфы надзвычай любілі й шанавалі яго, шмат чаго рабілі зь яго, сярод іншага й іфільдын, зорныя ліхтары, якія вы бачылі на браме. Більба меў кашулю зь міфрыльных кольцаў, якую Торын падараваў яму. Цікава, што зь ёй сталася? Напэўна, пыліцца ў Адметніку Міхальскага Выкапу.

– Што? – выгукнуў раптам Гімлі, абуджаны з сваёй задумлівасьці. – Кашуля з праўдзівага срэбра? Насамрэч царскі падарунак!

– Так, – пагадзіўся Гэндальф. – Я аніколі не казаў Більба, што ягоная кашулька каштуе болей за ўвесь Шыр зь ягонымі жыхарамі.

Фрода прамаўчаў, але ж памацаў пад вопраткаю кольцы сваёй таемнай броні. Насіць на сабе, пад курткаю, кошт усяго Шыру? Анічога ж сабе! Цікава, ці ведаў Більба? А няйначай жа й ведаў... Царскі падарунак, як і казалі. Падумаў пра Більба – і думкі самі сабою панесьліся далей, ад цемры Морыі да Долага Яру, да Більба, да Торбы-пад-Стромай, у тыя дні, калі Більба яшчэ жыў там. Каб толькі вярнуцца туды, у бесклапотнасьць і мір, стрыгчы траўку на газоне, займацца кветкамі ў вазонах – і ніколі, ніколі ня чуць пра Морыю й міфрыль – ці пра пярсьцёнак.

Павісла цішыня. Вандроўнікі пазасыналі, адзін за адным. Фрода застаўся трымаць варту. І нібы нехта дыхнуў жахам, аднекуль з глыбіняў, зь нябачных дзьвярэй у цемрадзь. На далонях, на лобе адчулася ліпкая халодная вільгаць. Здранцьвеў, прыслухоўваючыся. Дзьве невыносна доўгія гадзіны ані пра што ня думаў – толькі напружана слухаў. Аднак не пачуў ані гуку, анічога, што можна прынамсі ўявіць сабе, дамалёўваючы зь ценяў.

Напрыканцы варты ля заходняй аркі раптам прымроіліся дзьве кропелькі, быццам запаліліся чыесьці бледные вочы. Фрода варухнуўся, хіснуў галавою. Падумаў: "Напэўна, засынаю на варце. Ужо, напэўна, і сон убачыў". Ускочыў, праціраючы вочы, і застаўся стаяць, узіраючыся ў цемру, пакуль яго не зьмяніў Ляголас.

Лёгшы, адразу заснуў, і зноў пабачыў той самы сон: чуў шапаценьне, і дзьве бледныя кропкі-вочы, павольна набліжаліся. Абудзіўся. Астатнія папрачыналіся дый

размаўлялі напаўголасу. Па залі разьлілося нязыркае сьвятло. Высока над усходняй аркаю праз капальню пад стольлю падаў доўгі сонечны прамень. І яшчэ ледзь прыкметнае зьзяньне сачылася з паўночнага выхаду. Фрода сеў.

– Дабранак! – павітаў Гэндальф. – Так, мы зноў, нарэшце, бачым раніцу. Я не памыліўся. Мы цяпер высока на ўсходнім краі Морыі. Яшчэ да прыцемкаў дабярэмся да Вялікай брамы. Тады пабачым і запаветную ваду Люстару ў Дымрыльскай даліне.

– Тады я задаволюся, – вымавіў Гімлі. – Я пабачыў Морыю. Яна цудоўная й вялізная, але цяпер яе запоўнілі цемра й жах. І мы не знайшлі аніякіх прыкметаў маіх суродзічаў. Сумняюся, што Балін увогуле сюды патрапіў.

Пасьнедалі, і Гэндальф вырашыў рушыць не адкладваючы.

– Мы стаміліся, – сказаў ён, – але ж лепей адпачываць вонкі, чым тут. Сумняюся, што хтось з нас захоча правесьці яшчэ ноч у Морыі.

– Сапраўды, – адгукнуўся Барамір. – Куды кіруемся? Да Ўсходняй брамы?

– Можна й да яе. Праблема ў тым, што я яшчэ ня ведаю, дзе мы. Калі не зусім заблукаў, мы троху на поўнач ад Вялікай брамы й нашмат вышэй за яе. Шлях ня так проста адшукаць. Напэўна, лепей ісьці ўсходнім калідорам. Аднак перш за ўсё лепей уважліва агледзецца. Прапаную спачатку пайсьці да паўночнага праходу, дзе сьвятло. Файна, калі знойдзем там акно. Хоць, баюся, і туды промень трапляе аднекуль зь сьвідравіны пад стольлю.

За Гэндальфам сьледам вандроўнікі крочылі за паўночную арку. Апынуліся ў шырокім калідоры. Сьвятло мацнела. Нарэшце зразумелі, што выходзіць яно з-за дзьвярэй праваруч. Яны былі высокія, прамыя й каменныя, прачыненыя й яшчэ добра трымаліся на завесах. За дзьвярыма ўбачылі вялікі пакой, слаба асьветлены, але для вачэй, звыклых з доўгай цемрай, сьвятло падалося асьляпляльным. Нават заміргалі, увайшоўшы.

Пад нагамі ўзьняўся пыл. Зайшлі, спатыкаючыся аб нейкія рэчы, раскіданыя па падлозе. Сьпярша не зразумелі, што гэта. Пакой асьвятляўся шырокай сьвідравінаю ў дальняй усходняй сьцяне. Сьвідравіна падымалася нахільна, і празь яе сінела далёка наверсе лапіна сініх нябёсаў. Промень падаў проста на стол пасярод пакою, на маналітны каменны блёк дзьве цалі вышынёю, на якім ляжала вялізная пліта зь белага каменю.

– Нейк падобна да магілы, – прамармытаў Фрода і, падштурхнуты дзіўнаватым і трывожным прадчуваньнем, нахіліўся наперад, каб разгледзець уважлівей. Гэндальф хутка крочыў наперад, да яго. На пліце было выбіта глыбока й выразна:



– Гэта Дайронавы руны, якімі карысталіся ў Морыі ў даўніну, – вымавіў Гэндальф. – Тут напісана на мовах людзей і гномаў:

*Балін сын Фундзіна*
*Уладар Морыі*

– Ён загінуў, – прашаптаў Фрода. – Я гэтага й баяўся.

Гімлі закрыў капелюшом твар.

## *5. Мост Казад Думу*

Сябры Зьвязу Пярсьцёнка маўкліва стаялі побач з магілаю Баліна. Фрода думаў пра Більба й ягонае доўгае сяброўства з гномам, і пра Балінава гасьцяваньне ў Шыры шмат гадоў таму. У пыльным падгорным пакоі гэта падавалася тысячагадовай мінуўшчынай, неверагодна далёкай.

Нарэшце заварушыліся, азіраючыся навокал, шукаючы якіх-кольвечы пазнак пра лёс Баліна й ягоных паплечнікаў. Пад асьвятляльнай сьвідравінай заўважылі яшчэ адны дзьверы, меншыя. Ля дзьвярэй кучамі ляжалі косткі, а сярод іх – паламаныя мечы й сякерныя лёзы, пасечаныя тарчы й шаломы. Некаторыя мечы крывыя – орцкія ятаганы з чорнымі лёзамі.

Уздоўж сьценаў было шмат нішаў, дзе стаялі вялізныя драўляныя куфры, акаваныя жалезам. Усе ўзламаныя ды абрабаваныя, але ля раструшчанай накрыўкі аднаго ляжала кніга. Пасечаная й працятая, абгарэлая й гэтак заплямленая нечым чорным ды ссохлай крывёю, што амаль нічога ў ёй не чыталася. Гэндальф асьцярожна падняў яе, але старонкі захрабусьцелі ў руках і некалькі адламалася, калі ён паклаў кнігу на пліту магільні. Колькі часу чытаў моўчкі, вельмі асьцярожна перагортваючы старонкі. Фрода й Гімлі, якія стаялі побач, бачылі, што запісы ў кнізе зробленыя мноствам розных почыркаў, рунамі Морыі й Долу, а месцамі й па-эльфску.

– Здаецца, гэта хроніка Балінава народу, – вымавіў нарэшце Гэндальф. – Відавочна, пачынаецца яна з прыходам гномаў у Дымрыльскую даліну якраз трыццаць гадоў таму. Старонкі пранумараваныя па гадах пасьля прыбыцьця. На першай старонцы лічбы адзін і тры, значыць, сама менш дзьвюх першых старонак не стае. Паслухайце-тка! "*Мы выбілі оркаў зь Вялікай брамы й пакою...*" – далей слова не прачытаць з-за выпаліны. Напэўна, "*пакою варты*". "*Шмат каго забілі пад зыркім...*" – напэўна, "*сонцам*" – "*у даліне*". "*Флой забіў мноства, і сам быў забіты стралою*". Зноў пляма, далей: "*...пад травой ля Люстару*". Наступныя два радкі разабраць не магу. Далей напісана: "*Пад жытло ўзялі дваццаць першую залю паўночнай ускрайны. Там...*" – далей неразборліва, што там. Толькі слова "*сьвідравіна*". "*Балін усталяваў свой трон у залі Мазарбул*".

– Заля Хронік, – пераклаў Гімлі. – Напэўна, гэтая самая заля, дзе мы цяпер.

– Далей шмат неразборлівага, – заўважыў Гэндальф, – толькі слова "*золата*" трапляецца ды "*сякера Дарына*" й нешта пра "*шалом*". Тады: "*Балін цяпер уладар Морыі*". Так, тут, мяркую, сканчаецца частка, адзначаная зорачкамі. Далей ужо іншым почыркам, больш разборліва: "*Знайшлі сапраўднае срэбра*", "*добра пракаванае*" і далей, ага! "*Міфрыль*". Апошнія два радкі: "*Ойн выправіўся шукаць верхнія збраярні трэцяга ярусу*", нешта накшталт "*рухацца на захад*", далей змазана і, нарэшце, "*брама ў Падуб'е*".

Гэндальф прыпыніўся й адгарнуў некалькі старонак.

– Яшчэ некалькі гэткіх самых, – пракамэнтаваў чараўнік, – запісана пасьпешліва й пашкоджана. Пры гэткім сьвятле не прачытаць. І шмат не хапае, таму што нумары пачынаюцца зь лічбы пяць. Пяты год іх асталяваньня тут, мяркую. Ну, зірнем яшчэ раз... не, надта папсаваныя ды заплямленыя. Не магу прачытаць. Лепей вонкі, пад сонцам. Ага, пачакайма... так, вось тут нешта іншае – буйнымі літарамі, ды эльфскімі да таго ж.

– Гэта почырк Оры, – пазнаў Гімлі, зірнуўшы над чараўніковай рукой. – Ён файна пісаў і спрытна й часьцяком карыстаўся эльфскімі літарамі.

– Баюся, гэтым файным почыркам ён распавядаў пра сумныя рэчы, – прамармытаў Гэндальф. – Першае выразнае слова "*туга*", далей радок неразборлівы, толькі канчаецца на "*...дадні*". Напэўна, "*напярэдадні*", а тады – "*на дзясятага лістапада Балін, гаспадар Морыі, загінуў у Дымрыльскай даліне. Ён выправіўся адзін зірнуць у Люстар. Орк пацэліў яго з-за скалы. Мы забілі орка, але мноства іх... з усходу па Срабрынцы*". Рэшта старонкі так замазаная, што амаль і не разабраць нічога, акрамя "*мы завалілі браму*" ды "*пратрымаемся шмат часу, калі не...*". Далей "*жуда*" і "*пакутаваць*". Небарака Балін! Ён пратрымаў свой тытул меней як пяць гадоў. Цікава, што ж адбылося далей. Але часу няма разгадваць апошнія старонкі. Так, вось самая апошняя.

Гэндальф уздыхнуў і змоўк.

– Невясёлае чытво, – вымавіў, прабегшы вачыма, – мяркую, іх напаткаў крывавы й жорсткі лёс. Слухайце! "*Нам ня выбрацца. Ужо ня выбрацца. Яны захапілі Мост і другую залю. Там загінулі Фрар, Лоні й Налі*". Далей чатыры радкі змазаныя, чытаецца адно "*сышоў пяць дзён таму*". Апошнія радкі: "*Возера ўзьнялося да сьцяны, да самай Заходняй брамы. Віж глыбіняў ухапіў Ойна. Нам ня выбрацца. Гэта канец*". І далей "*грукат, грукат глыбіняў*". Цікава, што гэта значыць? Апошняе напісана доўгімі касымі літарамі. Пэўна, у самы апошні момант: "*Яны ідуць!*"

Раптоўнае пачуцьцё жаху, жудасьці гэтай заліскляпеньня агарнула вандроўнікаў.

– Нам ня выбрацца, – прамармытаў Гімлі. – Пашанцавала, што возера крыху адступіла дый стары віж спаў ля паўднёвага краю.

Гэндальф азірнуўся навокал.

– Падаецца, яны спрабавалі ўтрымаць адразу й тыя, і другія дзьверы. Але ж іх заставалася няшмат. Вось так і скончылася спроба адваяваць Морыю! Мужна, але неразумна. Час для гэтага яшчэ не надышоў. А цяпер, баюся, нам трэба разьвітацца з Балінам, сынам Фундзіна. Няхай спачывае ў пакоях сваіх продкаў. Мы возьмем кнігу Мазарбул з сабою й зірнем на яе ўважлівей потым. Захоўвай яе, Гімлі. Прынясі Дайну, калі здолееш. Ён захоча яе прачытаць, хоць яна й засмуціць яго. Хадзем! Раніца амаль мінула.

– І куды мы пойдзем? – спытаў Барамір.

– Назад, у залю. Але мы зайшлі сюды ня марна. Бо цяпер я ведаю, дзе мы. Гэты пакой, як Гімлі й казаў, заля Мазарбул, а заля за ёй – дваццаць першая з паўночнага краю. Таму нам трэба выходзіць на ўсход, а далей кіравацца направа й на поўдзень ды ўніз. Дваццаць першая заля – на сёмым ярусе, шэсьць ярусаў над узроўнем брамы. Хадзем! Трэба вяртацца ў залю.

Не пасьпеў Гэндальф дагаварыць, як пачуўся цяжкі, павольны грукат. Нібыта грымоты недзе далёка ўнізе хвалямі пакаціліся ўгару. Каменная падлога задрыжэла пад нагамі. Падарожнікі кінуліся да дзьвярэй, занепакоеныя. "Думмм, думмм", – пакацілася зноў, нібы нечыя веліканскія рукі ператварылі пячоры Морыі ў барабан і білі па ім. Рэхам выбухнуў у адказ магутны роў рога зь вялікай залі й адразу пачуліся грубыя галасы, выцьцё ражкоў і хуткае тупаценьне мноства ног.

– Яны йдуць! – выклікнуў Ляголас.

– Нам ня выбрацца! – адгукнуўся Гімлі.

– Ну, улезьлі ж! – азваўся Гэндальф. – І чаго я толькі затрымаўся? Цяпер і нас тут злавілі, як тых гномаў. Але ж тады зь імі не было мяне. Мы яшчэ паглядзім, хто тут каго...

Грымнула "думмм, думмм" – і сьцены затрэсьліся.

– Зачыніце дзьверы й закліньце іх! – загадаў Арагорн. – Трымайце хатулі як мага далей – мо мы яшчэ здолеем прабіць шлях вонкі!

– Не! – крыкнуў Гэндальф. – Нельга зачыняцца! Пакіньце ўсходнія дзьверы адчыненымі! Калі пашанцуе, выберамся празь іх!

Рог зароў зноўку, залямантавалі пранізьлівыя галасы. З калідору даляцеў пошчак мноства ног. Зь ляскам і бразганьнем вандроўнікі агалілі зброю. Гламдрынг зьзяў бледным сьвятлом, і Джала блішчэла краямі ляза. Барамір уперся плячом у заходнія дзьверы.

– Пачакай! Яшчэ не зачыняй! – папрасіў Гэндальф.

Скочыў да Бараміра, выпрастаўся ва ўвесь рост.

– Хто наважыўся парушыць спакой Баліна, уладара Морыі?! – выгукнуў што моцы.

У адказ шматгалоса зарагаталі, груба й хрыпла, нібы камяні паляцела ў яміну, і сярод гармідару ўзьняўся моцны голас, аддаючы загад. "Думмм, думмм, думмм", – ракатала ў глыбіні.

Гэндальф спрытна крочыў наперад, у шчыліну паміж дзьвярыма й сьцяною, дый вытыркнуў наперад кій. Успыхнула асьляпляльная бліскавіца, найзырчэйшае сьвятло. Чараўнік на момант вызірнуў і адразу адсунуўся. Па калідоры запозьнена сьвіснулі стрэлы.

– Оркі, – вымавіў Гэндальф. – І мноства. Некаторыя здаравенныя й надта небясьпечныя, чорныя ўрукі з Мордару. Пакуль што да дзьвярэй не падступіліся – нехта там у іх яшчэ. Баюся, пячорны троль. Вялізманы і, верагодна, не адзін. Праз гэтыя дзьверы нам не прабіцца.

– Калі яны падыдуць і да тых дзьвярэй, нам анікуды не прабіцца, – вымавіў Барамір.

– Адтуль анічога не чуваць, – сказаў Арагорн ад усходніх дзьвярэй, прыслухоўваючыся. – За праходам тут адразу ж лесьвіца ўніз, відавочна, назад да залі яна не вядзе. Але ж наўрад ці варта кідацца сюды й уцякаць бяздумна з пагоняю за сьпінамі. Бо гэтыя дзьверы нам звонку не зачыніць. Ключа няма, і замок зламаны, і адчыняюцца дзьверы ўсярэдзіну. Трэба спачатку затрымаць ворагаў, каб яны баяліся й крок зрабіць у залю Мазарбул, – дадаў змрочна, аглядаючы лязо свайго меча, Андарыля.

Гукі цяжкой хады данесьліся з калідору. Барамір кінуўся на дзьверы, прыціснуў, зачыняючы. Загнаў пад іх, закліньваючы, абламаныя лёзы мечаў і драўляныя ашчэпкі. Астатнія сябры адступілі ў далёкі канец пакою. Але ўцякаць час яшчэ не надышоў, бо ад моцнага ўдару дзьверы задрыжэлі – ды павольна пачалі разыходзіцца, скрыгочучы, адсоўваючы кліны. Вялізная рука, пакрытая цёмна-зялёнаю лускою, прасунулася ў шчыліну. Тады й ступак – веліканскі, пляскаты, бяспалы. Звонку не было чуваць ні гуку.

Барамір скочыў наперад ды сekанyў па руцэ з усяе моцы, але ягоны меч, зазьвінеўшы, сасьлізнуў і вырваўся з уздрыгнулай ваярскай рукі. На ім засталася вышчарбіна.

Зьнянацку, на ўласны подзіў, Фрода адчуў, як гарачая злосьць запаляе ягонае сэрца.

За Шыр! – выгукнуў ён і, скочыўшы да Бараміра, нахіліўся й пырнуў Джалам жудасны ступак. За дзьвярыма зараўлі, нага адшмаргнулася, ледзь ня вырваўшы

Джала з Фродавай рукі. Чорныя кроплі з дымам пакаціліся зь ляза на падлогу. Барамір зноў кінуўся на дзьверы й зачыніў іх.

– Файна – за Шыр! – крыкнуў Арагорн. – Хобіты джаляць глыбока! У цябе добры клінок, Фрода, сын Дрога!

У дзьверы закалацілі зноў і зноў. Відавочна, молатамі й білямі. Дзьверы затрашчалі, паддаліся – і раптоўна прасунуліся назад, прачыніўшыся. Сьвіснулі стрэлы, але паляцелі коса, бясшкодна бразнуўшыся аб паўночную сьцяну. Завыў рог, пачуўся тупат, і ў пакой адзін за другім пачалі заскокваць оркі.

Колькі – падлічыць не пасьпелі. Бойка атрымалася нядоўгай, але надзвычай жорсткай: оркі, відавочна, не чакалі гэткага супраціву. Ляголас падстрэліў двох у шыі. Гімлі адсек ногі таму, хто скочыў на Балінаву магілу. Барамір з Арагорнам пасеклі мноства. Забілі трынаццаць, калі астатнія кінуліся ўцякаць зь енкам. Анікога зь сяброў не параніла, хіба Сэм атрымаў доўгую драпіну на галаве – не пасьпеў ухіліцца ад удару, але сам у адказ працяў ворага наскрозь кордам з Скляпеньняў. Сапраўдны ваярскі агонь палаў цяпер у бурых Сэмавых вачох. Тэд Пяшчак, напэўна, у кут забіўся б, пабачыўшы яго.

– Час уцякаць! – абвесьціў Гэндальф. – Хутчэй, пакуль яны зноў не прывялі троля!

Аднак калі толькі крочылі да дзьвярэй – Мэры зь Піпінам, першыя, і на сходы патрапіць не пасьпелі – у пакой скочыў орцкі правадыр-велікан ростам амаль з чалавека, апрануты ў чорную кальчугу з ног да галавы. За ім ля дзьвярэй стоўпіліся паплечнікі. Шырокі твар орка быў пляскаты й асмуглы, вочы палалі вугольлем, зырка чырванеў высалаплены язык. У руцэ орк трымаў вялізную дзіду. Штуршком шырокай тарчы адбіў Барамірaў меч, а самога Бараміра адкінуў на падлогу. З спрытам зьмяі нырнуў пад Арагорнаў удар, скочыў да Фрода – і запусьціў у яго дзідай. Канчар дзіды ўдарыў Фрода ў правы бок, шпурнуў хобіта да сьцяны й прыціснуў да яе. Сэм, выгукнуўшы, джгнуў кордам па дзідзе, і тая зламалася. Орк выпусьціў тронак і схапіў шаблю, але ў гэты момант Андарыль упаў на ягоны шалом. Узбліснуў сноп іскраў, і шалом разваліўся надвая. З расьсечанай галавой орк грымнуўся на падлогу. Ягоныя паплечнікі кінуліся прэч зь лямантам, калі Барамір з Арагорнам скочылі да іх.

"Думмм, думмм", – ракатала ў глыбінях. Моцны загадны голас данёсься зноў.

– Зараз жа! – выгукнуў Гэндальф. – Наш апошні шанец! Уцякайма!

Арагорн падхапіў Фрода й пабег да лесьвіцы, гонячы Мэры зь Піпінам перад сабою. Астатнія рушылі сьледам. Ляголасу давялося сілком адцягваць Гімлі ад Балінавай магільні. Нягледзячы на небясьпеку, той стаяў ля каменя, нахіліўшы галаву. Барамір, пацягнуўшы, зачыніў за сабою ўсходнія дзьверы, бразнулі завесы. На дзьвярох з абодвух бакоў віселі жалезныя кольцы, але замкнуць іх было нельга.

– Я... я ў парадку, – выдыхнуў Фрода. – Я магу йсьці! Пастаў мяне!

Арагорн ледзь ня выпусьціў яго ад зьдзіўленьня.

– Я палічыў – ты нежывы!

– Ён жывы! – выгукнуў Гэндальф. – Ну, дзіва! Але ж няма часу для загадак і здагадак. Хутчэй, прэч, уніз па лесьвіцы! Унізе пачакайце мяне колькі хвілінаў, але калі я неўзабаве не зьяўлюся, уцякайце безь мяне! Сьпяшайцеся, кіруйце направа ды ўніз.

– Мы не пакінем цябе аднога трымаць дзьверы! – запярэчыў Арагорн.

– Рабі, як кажу! – загадаў Гэндальф. – Ад мечаў тут болей карысьці няма! Ідзі!

Над лесьвіцай не было асьвятляльных сьвідравінаў і цемра панавала апраметная. Вандроўнікі навобмацак прабіраліся ўніз доўгімі сходамі. Спусьціўшыся, азірнуліся, але пабачылі толькі далёка наверсе слабы бляск агеньчыка на чараўніковым кіі. Гэндальф, відавочна, яшчэ трымаў варту ля дзьвярэй. Фрода, цяжка дыхаючы, прыхіліўся да Сэма. Той абняў яго, падтрымліваючы. Стаялі, пазіраючы ўгару, у цемру. Фрода падалося, што чуе Гэндальфаў голас. Ягоныя словы нягучным рэхам каціліся па нахільнай столі над лесьвіцай, адбіваліся й гасьлі – бы ўздыхі. Што Гэндальф казаў, Фрода разабраць ня мог. Сьцены дрыжэлі. Раз-пораз з глыбіняў цяжка біла: "Думмм, думмм, думмм!"

Зьнянацку зьверху шуганула белым сьвятлом. Заракатала глуха, данёсься цяжкі, абвальны грукат. Таемныя білы зачасьцілі шалёна: "думм-бумм, думм-бумм!!" – і раптам змоўклі. Гэндальф зьбег па лесьвіцы, ледзь трымаючыся на нагах, і ўпаў прама сярод сваіх спадарожнікаў.

– Ну нарэшце ўправіўся! – вымавіў, намагаючыся падняцца. – Зрабіў, што здолеў. Але ж патрапіў амаль на роўню сабе. Ледзь уратаваўся. Ня стойце тут! Рушце наперад! Пойдзем у цемры пакуль што – мне трэба хоць троху адпачыць. Хадзем жа! Хутчэй! Дзе ты, Гімлі? Пойдзеш наперадзе разам з мною! Астатнія, не адставаць!

Пасьпяшаліся за ім, спатыкаючыся дый разважаючы, што ж адбылося наверсе. Зноў завуркатаў гіганцкі барабан: "Думм, думмм". Цяпер ён падаваўся далёкім і гуў прыглушана, але ж не аддаляўся, нібы перасьледаваў. Іншых прыкметаў пагоні ня чулася: ані крокаў, ані галасоў. Гэндальф ня збочваў ні ўправа, ні ўлева, бо калідор, падавалася, вёў у патрэбным напрамку. Часьцяком траплялiся сходы, прыступак на паўсотні ці болей, і ўсе спускаліся. Ад іх і была найвялікшая небясьпека, бо ў цемры сябры ня бачылі спуску й затрымліваліся, толькі адчуўшы пад нагою пустэчу. Гэндальф выстукваў кіем падлогу наперадзе, бы невідушчы.

За гадзіну прайшлі з паўвярсты ці крыху болей ды спусьціліся па паўтузіне лесьвіцаў. Пагоні яшчэ не было чуваць. Ужо й спадзяваліся, што ўцяклі. У нізе сёмай лесьвіцы Гэндальф прыпыніўся.

– Робіцца сьпякотна! – выдыхнуў чараўнік зьнясілена. – Напэўна, ужо спусьціліся сама мала да ўзроўню брамы. Думаю, неўзабаве трэба шукаць паварот налева, каб ісьці на ўсход. Спадзяюся, ён недзе непадалёк. Я надта стаміўся. Мне трэба адпачыць тут крыху, нават калі ўсе тутэйшыя оркі гоняцца за намі гурмай.

Гімлі ўзяў чараўніка пад руку й дапамог сесьці на прыступку.

– Што адбылося ля дзьвярэй? – спытаў гном. – Ці было відаць, хто лупцуе ў гэты барабан?

– Ня ведаю, – адказаў чараўнік. – Але я нечакана напаткаў нешта, чаго аніколі раней не сустракаў. Анічога болей і не прыдумаў, як накласьці на дзьверы замыкальныя чары. Я ведаю іх мноства, але каб іх адпаведна накласьці, патрэбна нямала часу, і нават заклятыя дзьверы магчыма ўзламаць сілаю. Стоячы перад дзьвярыма, чуў орцкія галасы з другога боку. Меркаваў: ну, вось зараз узламаюць і кінуцца. Дапяць ня мог, пра што яны перамаўляюцца. Напэўна, балякалі на сваёй мярзотнай мове. Я толькі й адрозьніў адно слова "гхаш" – "полымя" па-іхняму. Тады нешта крочыла ў пакой – я нават празь дзьверы адчуў прысутнасьць, – і оркі змоўклі, напалоханыя. Гэтая істота кранула жалезнае кольца на дзьвярох і адчула мяне й мой заклён. Што за істота – зразумець не магу. Але заклён, які яна шпурнула супраць майго, мяне ледзь ня зьнішчыў. На момант я нават страціў кантроль над дзьвярыма й тыя прачыніліся! Тады я вымавіў слова Загаду. На жаль, для дзьвярэй тое ўжо сталася

зашмат – яны разьляцеліся трусачкамі. Нешта чорнае й цьмянае, нібы хмара, стаяла ля дзьвярэй, загарадзіўшы ўсё сьвятло. Мяне адкінула ўніз, на лесьвіцу. Сьцены таксама ня вытрымалі, пахіснуліся і, падаецца мне, столь пакою абрынулася ўсярэдзіну. Мяркую, цяпер Балін пахаваны насамрэч глыбока, і, вераемна, яшчэ нешта пахаванае побач зь ім. Але цалкам ня ўпэўнены. Ва ўсялякім выпадку праход за намі завалены добра. Вох, дый годзе, аніколі такім зьнясіленым не пачуваўся. Ну, нічога, гэта пройдзе. А што з табою, Фрода? Вядома, часу на сантымэнты няма, але я аніколі ў жыцьці гэтак ня радаваўся, як пачуўшы твой голас. Я ўжо баяўся, што Арагорн нясе адважнага, але нежывога хобіта.

– Я? Я жывы й амаль цэлы, – адказаў Фрода. – Так, мне балюча, і адчуваю, сіняк немалы, але ў астатнім усё файна.

– Ну, паглядзіце-тка, – уразіўся Арагорн. – Я не чакаў, што хобіты такія трывалыя. Аніколі раней гэткага ня бачыў. Калі б ведаў, я асьцярожней размаўляў бы з табою ў прыгорскім шынку. Тая оркава дзіда нават вепра працяла б наскрозь!

– Ну, мяне яна не працяла, што надта цешыць, – адгукнуўся Фрода, – хоць і пачуваюся, быццам пабыў паміж молатам і кавадлам.

Болей Фрода размаўляць пра тое не захацеў. Яму нават дыхаць было балюча.

– Ты рыхтык Більба, – вымавіў Гэндальф задумліва, – маеш на сабе болей, чым відаць вачыма, як я сказаў яму аднойчы даўна.

І Фрода падумаў: ці ня меў чараўнік на ўвеце болей, чым выказаў?

Рушылі зноў. Неўзабаве загаварыў Гімлі, які добра бачыў у цемры.

– Падаецца мне, наперадзе сьвятло. Але ня дзённае, а чырвонае. Што ж гэта можа быць?

– Гхаш! – прамармытаў Гэндальф. – Ці ня гэта яны мелі на ўвазе? Можа, ніжнія ярусы агорнутыя полымем? Ну, нам застаецца толькі крочыць наперад.

Неўзабаве сьвятло пабачылі ўсе. Яно ўзьміргвала, адбівалася на сьценах калідору перад падарожнікамі. Цяпер шлях праглядаўся добра: праход спускаўся й непадалёк выгіналася нізкая арка. З-за яе й сачылася чырвань. Зрабілася надзвычайна сьпякотна.

Калі падышлі да аркі, Гэндальф першы крочыў за яе, моўчкі, знакам паказаўшы астатнім, каб пачакалі. Ягоны твар абарвянілі бліскавіцы. Праз момант чараўнік вярнуўся.

– Тут новае ліха, напэўна, змайстраванае, каб павітаць нас, – распавёў ён. – Аднак цяпер я дакладна ведаю, дзе мы: на першым, ніжэйшым ад брамы ярусе. За аркай – Другая заля Старой Морыі. Брама блізка: трэба дабрацца да ўсходняга краю залі, тады налева – ня болей за чвэрць вярсты. Тады праз мост, па шырокай лесьвіцы, потым прасторным калідорам праз Першую залю – і вонкі! Але ж выйдзіце, гляньце!

Астатнія вызірнулі. Перад імі ляжала велізарная заля, нашмат большая за тую, дзе спалі гэтай ноччу, і з вышэйшай стольлю. Заходні край аркі губляўся ў цемры. Па цэнтры залі ішоў падвойны шэраг магутных калёнаў, вычасаных у выглядзе вялізных дрэваў, чые галіны ўпіраліся ў столь, віліся каменнымі карункамі. Ствалы калёнаў-дрэваў былі гладкія й чорныя, і барвовыя блікі ўспыхвалі на іх баках. Непадалёк ад узножжа пары калёнаў падлога раскалолася, адчыніўшыся шырокай шчылінай, якая ішла праз усю залю. З шчыліны вырывалася жорсткае чырвонае сьвятло, раз-пораз зь яе выляталі языкі полымя, лізалі краі, абвіваліся вакол калёнаў. Смуга чорнага дыму калыхалася ў сьпякотным паветры.

– Калі б мы спусьціліся па галоўным шляху зь верхніх заляў, тут бы й патрапілі ў пастку, – давёў Гэндальф. – А цяпер, спадзяюся, гэтае полымя адгародзіць нас ад пагоні. Хадзем! Трэба сьпяшацца!

Не дагаварыў, як зноў пачуўся перасьледны грукат барабанаў: "Думмм, думм, думмм!" Зь ценяў заходняга краю залі данесьліся выгукі, выцьцё ражкоў. "Думмм, думмм!" – калёны, падалося, задрыжэлі й полымя ўздрыгнула.

– Апошні кідок! – выгукнуў Гэндальф. – Калі вонкі зыркае сонца, мы здолеем уцячы! За мной!

Ён павярнуў налева й пабег па гладкай падлозе залі. Аднак бегчы давялося далей, чым меркавалі. За сьпінамі чулася тупаценьне мноства ног, памножанае рэхам. Разьнёсься пранізьлівы лямант – уцекачоў заўважылі. Бразнулі струны, зазьвінела сталь. Страла сьвіснула над Фродавай галавой.

– Не чакалі, напэўна! – засьмяяўся Барамір. – Мы не на тым баку! Агонь іх цяпер адрэзаў!

– Лепей глядзіце наперад, – заклікаў Гэндальф. – Перад намі мост, вузкі й небясьпечны.

Раптам Фрода ўбачыў перад сабою чорную бездань. У канцы залі падлога зьнянацку зьнікала й правал сыходзіў у цемру. Да вонкавых дзьвярэй вёў толькі тонкі каменны масток без парэнчаў ці хоць бы невысокай агароджы па краёх, без падпораў – адзіная выгінастая арка паўсотню стопаў даўжынёю, старажытная мяжа гномскай абароны супраць ворагаў, якія маглі захапіць Першую залю й вонкавыя праходы. Па мастку прайсьці можна было толькі цугам, па адным. На краі Гэндальф прыпыніўся, астатнія згуртаваліся за ягонай сьпінаю.

– Гімлі, наперад! – загадаў ён. – Піпін з Мэры наступныя. Кіруйцеся прама да дзьвярэй і ўгару па лесьвіцы за імі!

Стрэлы падалі ўжо паміж вандроўнікаў. Адна тыцнулася ў Фрода, адскочыла. Другая праціяла Гэндальфаў капялюш дый захрасла, вытыркаючыся, бы чорнае пер'е. Фрода азірнуўся. За шчылінай, за полымем мітусілася безьліч чорных постацяў – там стоўпіліся, напэўна, сотні оркаў. Усе трэсьлі шаблямі й дзідамі, і лёзы іхнія адсьвечвалі крывавай барвай. "Думмм, думмм, думмм!" – каціўся грукат, усё гучней ды гучней: "Думмм, думмм!!"

Ляголас азірнуўся й паклаў стралу на струну, хоць для ягонага невялікага лука адлегласьць была завялікая. Нацягнуў, але раптам выпусьціў стралу на падлогу й ускрыкнуў ад адчаю й жаху. На тым баку зьявіліся два вялізманыя тролі з каменнымі плітамі ў руках. Паклалі пліты над шчылінай, стварыўшы масткі. Але напалохалі эльфа ня тролі. Оркаў натоўп пасьпешліва рассунуўся па баках, нібы яны таксама пералякаліся. Нешта крочыла ў залю, але што – было не разгледзець. Велетаўскі цень, а ўсярэдзіне цьмяная постаць, падобная абрысамі да чалавека, але вялізьнейшая. Жахам і жудаснай моцай веяла ад яе, і вусьціш крочыла перад ёю.

Цень сягнуў краю расколіны, і сьвятло сьцьмела – нібы хмара нахілілася па-над ім. Раптоўным кідком постаць скочыла над шчылінай. Полымя ўскінулася насустрач, абгарнула, быццам вітаючы, чорны дым узьвіўся ў паветра. Корзна чорнага ценю ўспыхнула, запалала за сьпінай чорнага вычварня. У правай руцэ ён трымаў меч – клінок пранізьлівага полымя, у левай – пугу з мноствам палымяных хвастоў.

– Ай! Ай! – залямантаваў Ляголас. – Балраг! Гэта йдзе балраг!

Гном Гімлі пазіраў у жудасным захапленьні, з ашклянелымі вачыма.

– Дарынаў Праклён! – выгукнуў нарэшце і, выпусьціўшы сякеру, закрыў твар рукамі.

– Балраг, – прамармытаў Гэндальф. – Цяпер зразумела.

Спатыкнуўся, пахіснуўшыся, цяжка абаперся на кій.

– Не шанцуе нам, сапраўды. А я так стаміўся!

Чорная постаць, прамянеючы полымем, рушыла да іх. Оркі загаласілі, натоўпам кінуліся праз каменныя масткі. Барамір узьняў свой рог і пратрубіў – нібы мноства глотак выдыхнула ваярскі кліч пад дахам пячоры. На момант оркі прыпыніліся, напалоханыя. Прыпыніўся нават балраг. Але рэха раптоўна згасла, як сьвечка, задзьмутая чорным ветрам, і ворагі рушылі наперад зноў.

– На мост! – выгукнуў Гэндальф, зьбіраючыся зь сіламі. – Уцякайце! Гэты вораг не па вас! Я застануся трымаць праход! Уцякайце!

Арагорн з Барамірам нібы й ня чулі, стоячы поплеч за Гэндальфам ля дальняга ўскрайку мосту. Астатнія прыпыніліся ля дзьвярэй напрыканцы залі, не жадаючы пакінуць правадыра з ворагам сам-насам.

Балраг сягнуў мосту. Гэндальф стаяў пасярэдзіне яго, абапіраючыся на кій, які трымаў левай рукою. Правай чараўнік сьціскаў Гламдрынг, што ільдзяна зьзяў. Вораг прыпыніўся зноў, і цень за ім разьвінуўся, разгарнуўся двума вялізарнымі крыламі. Балраг шчоўкнуў пугай, яе хвасты зь сьвістам расьсеклі паветра, хрустка пляснулі. З балрагавых наздрынаў вырвалася полымя. Але ж Гэндальф не пахіснуўся.

– Ты ня пройдзеш! – сказаў ён.

Оркі змоўклі, зьнерухомеўшы.

– Я – слуга Таемнага Агню, у маіх руках – полымя Анару, – вымавіў Гэндальф у мёртвай цішыні. – Ты ня пройдзеш. Агонь цемры не дапаможа табе тут, вогнішча Ўдуну! Прэч, пачвара, у Цень! Ты ня пройдзеш!

Балраг не адказаў анічога. Агонь ягоны нібы прыгас, але цемра вакол разраслася. Пачвара павольна крочыла на мост – і зьнянацку выпрасталася на ўвесь рост, раскінуўшы крылы ценю ад сьцяны да сьцяны. Аднак постаць Гэндальфа ўсё адно праступала скрозь яе, праблёскваючы праз змрок. Маленькі, самотны стары, сагнуты гадамі й сівы, – рыхтык састарэлае, ссохлае дрэўца перад навалаю магутнага ўрагану.

Зь цемры бліснуў барвовы меч.

Гламдрынг зазьзяў белым сьвятлом у адказ.

Пачуліся звон ды бразгат, выбухнула белае полымя. Балраг адхіснуўся, адсунуўся назад, меч ягоны разьляцеўся мноствам расплаўленых аскепкаў. Гэндальф пахіснуўся таксама, адступіў на крок – і зноў стаў цьвёрда й спакойна. І паўтарыў:

– Ты ня пройдзеш!

Балраг скочыў на мост, кінуўся наперад. Ахвосьці вогненнай пугі закруціліся, засьвісьцелі.

– Адзін ён ня вытрымае! – выкрыкнуў Арагорн раптам і пабег да мосту.

– Элендыль! – выклікнуў на бягу. – Я з табою, Гэндальф!

– Гондар! – выгукнуў Барамір і скочыў сьледам.

У гэты момант Гэндальф узьняў кій і, выклікнуўшы гучна, ударыў па мосьце перад сабою. Кій разламаўся надвая й выпаў зь ягонай рукі. Асьляпляльная смуга белага полымя шуганула наперад. Мост храснуў – і пераламаўся пад балрагавымі нагамі. Камень, на якім стаяў пачварань, абрынуўся ўніз, а рэшткі мосту засталіся, уздрыгваючы, нібы каменныя языкі, высалапленыя ў пустэчу.

З жудасным лямантам балраг паляцеў у прорву, цень яго імчэў туды разам зь ім і зьнік. Але летучы, пачвара ўзмахнуў пугаю, хвасты ўскінуліся, абвіліся вакол каленяў

чараўніка й падцягнулі яго да краю. Гэндальф пахіснуўся. Упаў. Учапіўся рукамі за камяні. Дарма – пуга цягнула яго. І ён сасьлізнуў у цемру.

– Уцякайце, вы, дурні! – пасьпеў выгукнуць. І зьнік.

Полымя згасла, і ўсё агарнуў апраметны змрок. Сябры стаялі, здранцьвеўшы ад жаху, пазіраючы ў прорву. Арагорн з Барамірам ледзь пасьпелі саскочыць з мосту, калі рэшткі яго трэснулі дый абрынуліся ўніз.

– Гэй, пойдзем! – азваўся Арагорн, абуджаючы астатніх. – Трэба сьпяшацца! Мусім выканаць ягоны апошні загад! За мною – я павяду вас!

Спатыкаючыся, ускараскаліся па вялікай лесьвіцы за дзьвярыма. Арагорн першы, Барамір пазадзе. Наверсе патрапілі ў шырокі, гулкі ад рэха калідор. Пабеглі. Фрода на бягу чуў, як плача побач Сэм, і раптам зразумеў, што таксама плача. "Думмм, думм, думм!" – каціўся за імі барабанны бой, цяпер сумны й павольны. "Думм!"

Беглі няспынна. Вакол пашарэла, промні падалі ўніз зь сьвідравінаў у столі. Пагналі яшчэ хутчэй, мінулі залю, асьветленую высокімі вокнамі ва ўсходняй сьцяне. Скочылі за вялізныя раструшчаныя дзьверы й пабачылі перад сабою Вялікую браму – арку асьляпляльнага сьвятла.

За высокімі калёнамі пааберуч ад брамы, на якіх калісьці віселі брамавыя створы, цяпер выламаныя і кінутыя долу, хавалася орцкая варта. Арагорн на бягу секануў яе ачольцу, зьбіў яго на зямлю. Астатнія сыпанулі прэч, настрашаныя Арагорнавым шаленствам. Чальцы Зьвязу Пярсьцёнка прамчалі побач зь імі, не зьвяртаючы на іх ўвагі. Выбеглі за браму, паскакалі ўніз па выцертых і патрэсканых вялікіх прыступках, ганку Морыі.

Нарэшце па-за ўсялякай надзеяй вырваліся пад адкрытыя нябёсы й адчулі вольны вецер на тварах.

Не спыняліся, пакуль не аддаліліся на стрэл з лука ад сьценаў. Перад імі ляжала Дымрыльская даліна, пакрытая ценем Туманных гор. Але на ўсходзе зямля залацілася сьвятлом. Была гадзіна пасьля полудня. Сонца зьзяла, плылі белыя й высокія аблокі.

Азірнуліся. Арка брамы зеўрала чарнатою ў горным цені. Ледзь чутна, далёка пад зямлёю павольна каацілася: "Думм". З-за брамы сачыліся тонкія пялёсткі чорнага дыму. Болей анічога ня бачылі – даліна навокал была пустая. "Думмм". Туга нарэшце нагнала вандроўнікаў. І яны, прыпыніўшыся, заплакалі. Хто стоячы, амаль моўчкі, хто сеўшы на зямлю. "Думм, думм". Барабанны бой слабеў і сьціх.

*6. Латлорыйн*

На жаль, нам нельга заставацца тут болей, – прамовіў Арагорн.

Павярнуўся да гор і ўзьняў меч. Выгукнуў:

– Бывай, Гэндальфе! Ці ж не казаў я табе: "*Калі ты вырашыў крочыць за браму Морыі – сьцеражыся!*" На жаль, маё папярэджаньне спраўдзілася. На што спадзявацца нам безь цябе?

Павярнуўся зноў да сяброў.

– Няхай няма надзеі, усё адно мусім рушыць наперад. Бо, магчыма, здолеем прынамсі адпомсьціць. Уставайма, зьбіраймася з адвагаю – трэба йсьці. До сьлёзаў! Перад намі яшчэ доўгі шлях!

Паўставалі, агледзеліся. На поўнач даліна звужалася й рабілася заценена цясьнінай паміж двума вялізнымі адгор'ямі, над якімі зьзялі тры белыя пікі: Келебдыл, Фануйдхал і Карадрас, горы Морыі. Ля пачатку цясьніны белапенны струмень віўся й плёскаў карункамі бурлівай вады па бясконцай лесьвіцы невысокіх вадаспадаў, смуга ад яго вісела ля горных узножжаў.

– Там Дымрыльская Лесьвіца, – паказаў Арагорн на вадаспады. – Калі б нам выпаў лепшы лёс, мы спусьціліся б па шляху, вычасанаму ў скалах побач з струменем.

– Калі б Карадрас ня быў гэткі жорсткі, – дадаў Гімлі. – Вунь ён, стаіць пад сонцам, пасьміхаючыся, – гном памахаў кулаком найдалейшаму зь сьнежных пікаў дый адвярнуўся.

На ўсход адгор'і раптам абрываліся, на даляглядзе расьсьцілалася прастора, няясная, засмужаная. На поўначы Туманныя горы цягнуліся, паступова паніжаючыся, і губляліся ў далечы. Меней як за вярсту ад падарожнікаў і крыху ніжэй – бо стаялі высока на заходнім баку даліны – ляжала возера. Доўгае, скругленае – рыхтык велізарнае вастрыё дзіды, уваткнутае глыбока пад паўночную цясьніну. Паўднёвы ўскраек возера ляжаў па-за горным ценем, пад зыркімі дзённымі нябёсамі. Аднак вада заставалася цёмнай, змрочна-блакітнай, як ясныя вячэрнія нябёсы, як яны відаць з асьветленага пакою. Ані зморшчынкі не было на азёрнай гладзі. Да самага берагу з усіх бакоў спускаўся роўны травяністы схіл.

– Пабачце ж Люстар, глыбокі Келед Зарам! – сумна прамовіў Гімлі. – Я памятаю, як наш правадыр казаў мне: "*Хай узрадуецца тваё сэрца, угледзеўшы!.. Але ж доўга застацца там мы ня зможам*". Цяпер у маім сэрцы няма радасьці, і яшчэ шмат шляхоў пакіну я за сьпінай, пакуль яна вернецца. І як жа горка, што Гэндальфу наканавана застацца тут.

Вандроўнікі рушылі па шляху, які вёў ад брамы, няроўным, недагледжаным, часам проста пятлястай сьцежцы паміж купінамі верасу, якія вытыркаліся з трэшчынаў у камянёх. Але яшчэ пазнавалася, што калісьці шлях быў шырокі, файна брукаваны – гасьцінец ад вялікага гномскага царства да ніжэйшых земляў. Месцамі ля дарогі траплялся каменныя руіны, зялёныя курганы з зграбнымі бярозкамі наверсе ці елкамі, якія сумна шапацелі на ветры. Павярнуўшы на ўсход, брукаванка вывела на гладкі схіл побач зь берагам возера, і там, непадалёк ад дарогі, стаяла самотная каменная калёна з абламаным верхам.

– Гэта ж Дарынаў Камень! – выгукнуў Гімлі. – Я ня здольны прайсьці міма, ня глянуўшы хоць бы на хвілю на найвялікшы цуд гэтай даліны!

– Дык не праходзь, але ж пасьпяшайся, – папярэдзіўАрагорн, пазіраючы на браму. – Сутонее тут рана. Оркі мо й ня выйдуць вонкі да цемры, але ж да таго нам трэба быць далёка. Бо ветах ужо зусім станчэў і ноч будзе вельмі змрочная.

– Хадзем з мною, Фрода! – паклікаў гном, бегучы да возера. – Табе абавязкова трэба яго пабачыць, павер мне!

Фрода павольна крочыў сьледам за гномам, нягледзячы на стому й боль. Спакойная блакітная вада вабіла. За Фрода рушыў і Сэм.

Побач з калёнай Гімлі спыніўся й зірнуў угору. Калёна абветрылася, патрэскалася, і ледзь прыкметныя, паўсьцёртыя руны на яе бакох не чыталіся.

– Помнік гэты пазначае месца, дзе Дарын упершыню зірнуў у Люстар, – давёў гном. – Зірнем і мы разок, а тады пойдзем.

Нахіліліся над цьмянаю вадою. Спачатку не пабачылі анічога. Потым павольна праступілі абрысы навакольных гор, адлюстраваныя ў глыбокай сінечы, і сьнежныя пікі над імі падаліся языкамі белага полымя сярод нябёснага змроку. А тады дыямантамі з азёрнага дна праблiснулі зіхоткія зоры – хоць над галовамі яшчэ зьзяла сонца. Ані ад хобітаў, ані ад гнома на вадзе не было ні ценю, ні адбітку.

– О цудоўны, найпрыгажэйшы Келед Зарам! – уздыхнуў гном. – Тут ляжыць карона Дарына, чакаючы, пакуль ён абудзіцца зноў. Бывай!

Ён пакланіўся, павярнуўся й засьпяшаўся ўгару па зялёным схіле, да шляху. Хобіты – за ім.

– Што ты там бачыў? – спытаў Піпін Сэма, але той надта глыбока задумаўся й нічога не адказаў.

Дарога павярнула на поўдзень і пайшла пад гору, выбягаючы з-за адгор'яў. Крыху ніжэй ад возера вандроўнікі напаткалі глыбокі калодзеж з празрыстаю крыштальнаю вадою. Вада перавальвалася цераз край, сьцякала струменьчыкам, буркочучы ды ўсплёскваючы, па крутым каменным ложы.

– З гэтай крыніцы нараджаецца Срабрынка, – давёў Гімлі. – Ня піце зь яе – яна ільдзяная!

– Неўзабаве яна зьбярэ мноства іншых струменяў і зробіцца паўнаводнай ракою, – сказаў Арагорн. – Мы рушым уздоўж яе цягам многіх вёрстаў. Бо я павяду вас шляхам, які прапанаваў Гэндальф, спадзеючыся перш за ўсё сягнуць лясоў, за якімі Срабрынка ўпадае ў Вялікі Андуйн – вунь там!

Усе зірнулі, куды паказваў Арагорн, і ўбачылі, што рэчка, саскокваючы зь вялізных адхонаў, віючыся па роўнядзях даліны, выбягае да панізьзяў і цячэ прэч ад гор, губляючыся ў залатой смузе на даляглядзе.

– Там лясы Латлорыйну! – вымавіў Ляголас. – Там найсьвятлейшы з усіх краёў майго народу. Анідзе няма такіх дрэваў, як там. Бо ўвосень лісты іх не спадаюць, але робяцца залатымі й трымаюцца да вясны, пакуль на распусьцяцца на галінах жоўтыя кветкі. Лясная падлога там нібы высланая золатам, і столь лясная – золата, і дрэвы-калёны яе – срэбныя, бо кара іхняя гладкая й срабрыстая. Так сьпяваецца ў песьнях майго Ліхалесься. Як узрадавалася б маё сэрца, калі б я крочыў па гэтым лесе вясною!

– Маё сэрца ўзрадуецца нават зіме Лорыйну, – уздыхнуў Арагорн. – Аднак да яго яшчэ шмат вёрстаў. Пасьпяшаймася!

Пэўны час Фрода з Сэмам пасьпявалі за астатнімі. Аднак Арагорн крочыў няспынна й шырока, і паступова хобіты адставалі ўсё болей. З самай раніцы ня елі нічога. Сэмава драпіна палала агнём, а галава кружылася. Хоць зьзяла сонца, вецер пасьля падгорнай сьпякоты падаваўся ільдзяным. Сэм дрыжэў. Фрода ж кожны крок аддаваўся болем, ён сутаргава хапаў ротам паветра, хістаючыся.

Нарэшце Ляголас азірнуўся, пабачыў, як далёка адсталі хобіты, і паклікаў Арагорна. Уся кампанія спынілася, і Арагорн пабег да хобітаў, гукнуўшы Бараміра з сабою.

– Прабач, Фрода! – заклапочана ўгледзеўся ён. – Столькі ўсяго здарылася сёньня, дый нам так трэба сьпяшацца, што я забыўся на твае раны, і Сэмавы таксама. Ты мусіў нас папярэдзіць. Бо трэба перш за ўсё паклапаціцца пра цябе, хоць бы ўсё оркі Морыі гналіся за намі! Крыху далей ёсьць месца, дзе можна перадыхнуць. Там я паспрабую табе дапамагчы, як толькі здолею. Давай, Барамір, паднясем іх!

Неўзабаве напаткалі яшчэ адзін струменік, што, бегучы з захаду, бурліва ўліваўся ў Срабрынку. Сустрэўшыся, абодва струмені саскоквалі вадаспадам з прыступкі зеленаватага каменю ды, пырскаючы пенаю, беглі па расколіне з стромымі схіламі, зарослымі аленевым языком і чарніцамі. На дне расколіны там і тут стаялі пакрыўленыя нізенькія елкі. Ля самога ж струменю, які гаманліва каціў па бліскучым жвіры, месца была роўнае й прыдатнае для адпачынку. Там і прыпыніліся. Сонца ўжо хілілася на захад, бо сканчалася трэцяя гадзіна пасьля полудня, а ад брамы адышлі ўсяго на некалькі вёрстаў.

Пакуль Гімлі з маладзейшымі хобітамі распальвалі вогнішча, наламаўшы галінак з кустоў ды елак, і набіралі ваду, Арагорн узяўся за Фрода з Сэмам. Сэмава рана была неглыбокая, але выглядала непрыемна, і Арагорн спачатку хмурыўся, разглядаючы яе, але неўзабаве ўздыхнуў з палёгкай.

– Табе пашанцавала, Сэме. Шмат хто заплаціў значна болей за першага забітага орка. Твая драпіна не атручаная, а надта шмат орцкіх шабляў вымазаныя атрутай. Загаіцца файна, калі апрацаваць. Як толькі Гімлі сагрэе ваду, прамыем рану.

Разьвязаўшы кеску, выцягнуў колькі зморшчаных лістоў.

– На жаль, сухія й не такія гаючыя, як сьвежыя. Гэта рэшткі ацэласу, які я сабраў паблізу Наветранай стромы. Пакрышы адзін ліст у ваду, прамый рану, тады я перавяжу. Ну, цяпер твая чарга, Фрода!

– Я ў парадку, – адказаў той, не жадаючы, каб craналі ягоную вопратку. – Мне патрэбная толькі ежа й крыху адпачынку.

– Не, – запярэчыў Арагорн. – Трэба ж зірнуць, што кавадла з молатам табе ўчынілі. Я так і не магу ўцяміць, чаму ты застаўся жывы.

Асьцярожна сьцягнуў з Фрода старую куртку й паношаную кашулю – ды вохнуў ад зьдзіўленьня. А тады расьсьмяяўся. Срэбная кальчужка зіхацела, нібы гайданка марскіх хваляў пад сонцам. Арагорн ахайна зьняў яе, падняў, разглядаючы. Каштоўныя каменьчыкі блішчэлі, як зоркі, а перазвонь кольцаў гучала дожджыкам па азёрнай гладзі.

– Толькі зірніце, сябры! У хобіта прыгажэнькая скурка – вартая эльфскага княжыча! Каб толькі ведалі, што ў хобітаў растуць гэткія скуркі, паляўнічыя зьбегліся б у Шыр з усяго Міжзем'я!

– І ўсе стрэлы ўсіх паляўнічых сьвету сапсаваліся б на тых скурках, – вымавіў Гімлі, аслупянела ўтаропіўшыся ў кальчугу. – Гэта ж міфрыль! Міфрыль! Я аніколі ня бачыў гэткага файноцьця, нават ня чуў пра такое! Ці ж гэта тая самая бронька, пра якую згадваў Гэндальф? Ён шмат зьменшыў, распавядаючы! Але ў добры час яна дадзеная, насамрэч.

– А мне часьцяком карцела вызнаць, – сказаў Мэры, – чым гэта Фрода зь Більба займаюцца, зачыніўшыся ў маленькім пакойчыку. Здароўя й дабрабыту старому спадару! За тое люблю яго шчэ болей. Спадзяюся, нам самім пашанцуе распавесьці яму пра тое асабіста!

На Фродавым правым баку й грудзёх чарнеў вялізны сіняк. Кальчуга мела пад кольцамі яшчэ й падбіўку зь мяккай скуры, але ў месцы ўдару кольцы праціснулі яе й упіліся ў цела. Левы Фродаў бок, якім пад дзідай бразнуўся аб каменную сьцяну, таксама быў падрапаны ды пасінелы. Пакуль астатнія гатавалі ежу, Арагорн прамыў драпіны ўзварам ацэласу. Сакавіты водар паплыў над цясьнінай. Усе, хто нахіліўся над рондалем з узварам, удыхаючы пару, адчулі, што й бадзёрасьці, і сілаў дадалося. Неўзабаве й Фродаў боль адступіў, і дыхаць стала лягчэй, хоць кранаць сінякі й драпіны яшчэ цягам многіх дзён было балюча. Каб ад вопраткі не балела, Арагорн прыбінтаваў да сінякоў кавалкі мяккай тканіны.

– Твая кальчужка цудоўна лёгкая, – дадаў, скончыўшы. – Апрані яе зноў, калі здолееш. Мне насамрэч прыемна ведаць, што ты маеш гэткую абарону. І не здымай, нават на ноч, пакуль лёс не прывядзе нас у бясьпечнейшыя землі, а іх на тваім шляху патрапіцца, на жаль, небагата.

Паелі й падрыхтаваліся выходзіць. Загасілі вогнішча ды схавалі ягоныя сьляды. Выбраліся зь цясьніны й зноў крочылі па дарозе. Прайшлі надта мала, калі сонца схавалася за гарамі й ад іх папаўзьлі доўгія змрочныя цені. Леглі пад ногі, блытаючыся з туманом, што падымаўся з панізьзяў. Далёка на ўсходзе шэрае сьвятло сутоньня яшчэ ляжала на роўнядзях і лясах. Фрода з Сэмам цяпер пачуваліся пасьвяжэлымі, трымалі хаду добра, і цягам наступных трох гадзінаў давялося ўсяго раз прыпыняцца, і тое ненадоўга.

Нарэшце зьвечарэла. У начных нябёсах высыпалі ясныя зоры. Ды ветаху не было відаць. Гімлі й Фрода рушылі апошнімі, крочылі мякка, моўчкі, прыслухоўваючыся да гукаў за сьпінамі. Нарэшце Гімлі загаварыў.

– Анічога, акрамя ветру. Аніякіх гоблінаў – ці мо мае вушы зьмярцьвелі. Спадзяюся, оркі задаволіліся, выгнаўшы нас з Морыі. Можа, толькі таго яны й хацелі, аніякага пярсьцёнка на ўвазе ня маючы. Аднак оркі звычайна перасьледуюць ворагаў далёка па роўнядзях, асабліва дзеля помсты за правадыроў.

Фрода не адказаў. Зірнуў на лязо Джала – яно не сьвяцілася. Але ж нешта ён чуў, ці яму падавалася, што чуў. Як толькі сутонела й дарога за сьпінай аспусьцілася ў змрок, зноў данёсься часты поступ крокаў. Нават і цяпер. Фрода раптоўна азірнуўся. Далёка за сьпінай мільгнулі два малюсенькія агеньчыкі – ці толькі падалося, што мільгнулі, – аднак адразу тарганулія ўбок і згасьлі.

– Што гэта? – спытаў гном.

– Ня ведаю. Падалося, пачуў нешта падобнае да крокаў і пабачыў адбіткі сьвятла – быццам ад вачэй. Мне часьцяком такое падавалася, як толькі мы трапілі ў Морыю.

Гімлі нахіліўся да зямлі, прыслухоўваючыся.

– Не, я чую толькі начныя ўздыхі расьлінаў ды камянёў. Хадзем! Трэба сьпяшацца! Астатнія ўжо й нябачныя наперадзе.

Начны вецер высьцюжваў даліну перад імі. Наперадзе вырас вялізны шэры цень, пачуўся няспынны шорхат, нібы ад таполяў пад вясновым духавеем.

– Латлорыйн! – выгукнуў Ляголас. – Гэта Латлорыйн! Мы сягнулі нарэшце ўскрайку Вялікага лесу. Як шкада, што цяпер зіма!

Начныя дрэвы ўздымаліся ў нябёсную цемру, схіляліся над дарогай, над струменем, які хаваўся раптоўна пад распасьцёртымі галінамі. У цьмяным сьвятле зораў ствалы іхнія рысаваліся шэрымі, а дрыготкае лісьце – састарэлым рудым золатам.

– Латлорыйн! – уздыхнуў Арагорн. – Як радасна зноў пачуць вецер у гэтых дрэвах! Мы адышлі ўсяго на тры мілі ад брамы, але сёньня шмат ня пройдзем. Трэба спадзявацца, што моц эльфаў і іх лесу абароніць нас ад перасьледу.

– Калі эльфы яшчэ жывуць тут, у прыцемках нашага сьвету, – заўважыў Гімлі.

– Мае суродзічы ўжо доўга не вярталіся сюды, на зямлю, адкуль выйшлі шмат стагодзьдзяў таму, – сказаў Ляголас, – але мы чулі, што Лорыйн яшчэ не запусьцеў, што на ім таемная моц, якая абараняе ад ворагаў і не дазваляе ім перасекчы яе межы. Аднак народ Лорыйну мы цяпер бачым зрэдку. Мабыць, яны цяпер жытлуюць глыбока ў лесе, далёка ад паўночнай мяжы.

– Але, яны глыбока ў лесе, – пацьвердзіў Арагорн і ўздыхнуў, нібы згадаўшы нешта кранальнае. – Сёньня нам самім давядзецца паклапаціцца пра сябе. Крыху пройдзем наперад, паглыбімся ў лес, а тады збочым дый пашукаем месца для начлегу.

Ён крочыў наперад, але Барамір замер, сумняваючыся, ці ісьці сьледам. Спытаў:

– Ці няма іншага шляху?

– Ці існуе шлях, сьвятлейшы за гэты? – зьдзівіўся Арагорн. – Якога шляху ты хочаш, Барамір?

– Простага – няхай і празь мечы ворагаў, – адказаў Барамір. – Гэты атрад ужо вялі шляхамі дзівоснымі й ліхімі – і да ліха. Супраць маёй волі мы патрапілі ў змрок Морыі – і цяжка пашкадавалі аб гэтым. А цяпер ты прапануеш крочыць у Залаты лес. Але пра гэтую небясьпечную краіну ў Гондары кажуць, што нямногія вяртаюцца з тых, хто зайшоў туды, і аніхто не вяртаецца такім, якім быў.

– Ты хочаш сказаць – аніхто не вяртаецца, не зьмяніўшыся? Так, гэта слушна, – пацьвердзіў Арагорн. – Але ж былая мудрасьць насамрэч гасьне ў Гондары, калішнім горадзе ведаў і сьвятла, калі жыхары яго кажуць ліхое пра Латлорыйн. Лічы, што пажадаеш, але для нас іншага шляху няма. Хіба толькі ты вернесься да брамы Морыі, ускараскаесься па дзікіх гарах ці паплывеш у самоце па Вялікай рацэ.

– Тады вядзі нас! – пагадзіўся Барамір змрочна. – Вядзі зноў у небясьпеку.

– Насамрэч у небясьпеку. Але толькі для ліха – ды для тых, хто нясе ліха ў сабе. Рушце за мной!

Паглыбіліся ў лес на вярсту ці каля й напаткалі яшчэ адзін ручай, які зьбягаў зь лясістых заходніх схілаў адгор'я. Чулася скрозь цемру, як ён плешча, саскокваючы з вадаспаду недзе праваруч. Цёмная хуткая вада перасякала шлях і ўлівалася ў Срабрынку, круцячыся ды ўсплёскваючы ў разьліве сярод дрэваў.

– Німрадэль! – усклікнуў Ляголас. – Пра гэты струмень лясныя эльфы склалі калісьці мноства песьняў. Іх яшчэ пяюць на Поўначы, згадваючы вясёлку над вадаспадамі й залатыя кветкі на пеннай плыні. Цяпер усё агарнуў змрок і мост Німрадэлі даўно зруйнаваны. Я амыю свае ногі ў яе хвалях, бо кажуць, тыя воды змываюць стому.

Ляголас спусьціўся стромым берагам да ракі й крочыў у ваду.

– За мной! – паклікаў. – Тут неглыбока. Пяройдзем раку й прыпынімся на другім беразе! І няхай песьня ракі прынясе нам добрыя сны й змые горкія ўспаміны.

Адзін за адным скараскаліся ўніз за Ляголасам. Фрода прыпыніўся на момант ля берагу, адчуваючы, як вада плынее вакол ягоных стомленых ступакоў. Халодны дотык падаваўся чыстым і сьвежым. Перайшоў праз струмень, і калі вада сягнула каленяў, адчуў, што ўвесь бруд і змрок у душы, уся стома доўгага вандраваньня зьнікаюць, струменяць прэч.

Перабраўшыся, паселі на беразе, крыху пад'еўшы, а Ляголас распавёў паданьні Латлорыйну, якія эльфы Ліхалесься яшчэ трымалі ў памяці й сэрцы: пра ясныя

полудні й залітыя зорным сьвятлом лугі ля Вялікай ракі ў тыя дні, калі сьвет яшчэ не сівеў.

– Ці чуваць вам голас Німрадэлі? – спытаў Ляголас. – Я прасьпяваю вам песьню пра дзяўчыну Німрадэль, яна насіла імя ракі, ля якой жыла даўным-даўна. На нашай лясной мове гэта цудоўная песьня, але ж яе пераклалі й на мову Захаду, і некаторыя ў Долым Яры сьпяваюць яе так.

Голасам, амаль нячутным у шумценьні лісьця над галавою, ён засьпяваў:

*Эльфская панна жыла ў даўніну –*
*Зорачка ясным днём, –*
*Кветкаю сустракала вясну,*
*Сьветла-срэбным дажджом.*

*Сонца сьпявала ў яе валасах,*
*Твар яе зьзяў красой,*
*Промнем ласкавым на галінах*
*Лорыйнскаю вясной.*

*Срэбрам блішчэла адзеньне яе –*
*Птушкі вольных лясоў,*
*Вецер празрысты кружляў яе,*
*Як завею лістоў.*

*За вадаспадамі над ракой*
*Тады жыла Німрадэль,*
*І голас яе зьвінеў над вадой,*
*Бы птушыная трэль.*

*Дзе ж згубіўся цяпер яе звонкі сьмех?*
*Дзе ж у Белых гарах*
*Паміж скалаў ільдзяных, віхураў ліхіх*
*Заблукаў яе шлях?*

*У завані срэбнай яе карабель*
*Чакаў мноства шэрых дзён,*
*І кірляў лямант над пляскам хваль*
*Гучаў, нібыта праклён.*

*З поўначы вецер ільдзяны прыйшоў,*
*Завыў у снасьцях,*
*Пагнаў караблі ад зямных берагоў*
*Па шалёных вірах.*

*Блядны ўсход запаліў агнём*
*Хмараў шэрую сталь*
*Над непакорлівым караблём,*
*Над зграяю хваль.*

*На бераг далёкі Амрат зірнуў*
*І пракляў карабель,*
*І песьняй над хвалямі загукаў*
*Сваю Німрадэль.*

*Бо ён уладарным быў каралём*
*Сьветлых Лорыйну дрэў.*
*Сонечнай сілай, лясным струмянём*
*Зьвінеў яго сьпеў.*

*Моцны, кінуўся ён з карабля,*
*Як ад струны страла,*
*І хваляў калыска яго прыняла,*
*Нібы немаўля.*

*Промнем рушыў ён між валоў,*
*Лебедзем па вірах,*
*Між белапенных іх грабянёў,*
*Зь ветрам у валасах.*

*Дзе ж цяпер Амрат, кароль лясоў?*
*Ані ветры зямлі,*
*Ані ветры Замор'я дзіўных краёў,*
*Яго не знайшлі.*

Голас Ляголаса раптам задрыжэў і змоўк.

– Не, я не магу болей сьпяваць, – сказаў ён. – Гэта малая частка доўгага сьпеву, але я шмат што забыўся, дый там далей сумна й змрочна. Расповед пра тое, як гора прыйшло ў Латлорыйн, Лорыйн Кветак, калі гномы абудзілі падгорнае ліха.

– Гномы не стваралі аніякага ліха, – абурыўся Гімлі.

– Я не сказаў "стварылі" – абудзілі, – вымавіў Ляголас з горычу. – Тады многія суродзічы Німрадэлі пакінулі свае жытлішчы й сышлі, і яна таксама. Яна згубілася далёка на поўдні, на перавалах празь Белыя горы, і не прыйшла да карабля, на якім чакаў яе каханы, Амрат. Але штовясну, калі вецер шапаціць у сьвежым лісьці, над ракою, над вадаспадамі, якія носяць яе імя, ажывае рэха яе голасу. А паўночны вецер прыносіць ад мора голас Амрата. Бо Німрадэль уліваецца ў Срабрынку, якую эльфы клічуць Келебранта, а Келебранта ўпадае ў Вялікі Андуйн, які цячэ ў заліў Бэльфалас, адкуль адплывалі калісьці эльфы Лорыйну. Ані Німрадэль, ані Амрат болей не вярнуліся сюды. Распавядаюць, што яна жыла ў хаціне, пабудаванай на дрэве сярод галінаў. Бо так звычайна й жылі эльфы Лорыйну, магчыма, жывуць і дасюль. Таму іх называлі *галадрымы*, *народ дрэваў*. Глыбока ў лесе дрэвы насамрэч найвялізьнейшыя. Жыхары лесу не закопваліся ў зямлю, як гномы, і не будавалі каменных муроў да таго, як прыйшоў Цень.

– І нават у нашыя дні сядзець на дрэвах, мабыць, бясьпечней, чым на зямлі, – дадаў Гімлі, зірнуўшы за раку, на шлях, які вёў да Дымрыльскай даліны, а тады на цьмянае сеціва галінаў над галавою.

– Твая парада слушная, Гімлі, – заўважыў Арагорн. – Хаты нам на дрэве не пабудаваць, але няшкодна, рыхтык галадрымы, пашукаць сховішча ў кроне, калі здолеем, вядома. Мы ўжо праседзелі ля дарогі нашмат болей за разумнае.

Вандроўнікі зьвярнулі зь сьцежкі, накіраваўшыся да цяністага гушчару, на захад уздоўж струменю, прэч ад Срабрынкі. Непадалёк ад вадаспадаў Німрадэлі знайшлі шчыльную купку дрэваў. Некалькі нахіляліся над рэчкаю. Іхнія вялізныя шэрыя ствалы былі неахопнай таўшчыні, а кроны губляліся ў цемры.

– Я ўскараскаюся, – вырашыў Ляголас. – Я ў лесе як у сябе дома, хоць тутэйшыя дрэвы дзіўнаватыя. Я іх толькі зь песьняў і ведаю. Яны называюцца *мэларны*. Менавіта яны ўвесну абсыпаныя жоўтымі кветкамі. Я яшчэ аніколі на такі не забіраўся. Ну, пабачым, як яны растуць ды як уладкаваныя.

– Гэтак ці інакш, – сказаў Піпін, – файна, каб на гэтых найцудоўнейшых дрэвах маглі б спаць ня толькі птушкі. Бо я ж ня певень праседзець ноч на шастку!

– Тады выкапай нару, – прапанаваў Ляголас, – калі гэта болей звычна для твайго народу. Але ж капай хутка й глыбока, каб схавацца ад оркаў.

Лёгка скочыў ды ўчапіўся за галіну, якая расла высока над ягонай галавой. Павіс на момант, прымяраючыся, – і зьнянацку згары пачуўся загадны голас: "*Дара*!" Ляголас саскочыў на зямлю, зьдзіўлены й напалоханы. Адразу адсунуўся, прыціснуўшыся да ствала.

– Ня рухайцеся! – прашаптаў астатнім. – Стойце моўчкі, ані гуку!

Над галовамі прашамацеў ціхі сьмех, і другі голас, чысты й ясны, вымавіў нешта па-эльфску. Фрода амаль нічога не зразумеў, бо размаўлялі не на мове эльфаў Захаду, а на гаворцы, якою лясныя эльфы на ўсход ад гор карыстаюцца міжсобку. Ляголас зірнуў угару й адказаў той самай гаворкаю.

– Хто яны такія, што кажуць? – спытаў Мэры.

– Эльфы, вядома, – адказаў Сэм. – Ці ж вы ня чуеце галасоў?

– Так, эльфы, – пацьвердзіў Ляголас, – і яны кажуць, што вы дыхаеце так гучна, што вас і ў паўнюткай цемры падстрэліць няцяжка.

Сэм прыкрыў рот даланёю.

– А яшчэ яны кажуць, каб вы не палохаліся. Яны заўважылі нас ужо даўно. Пачулі мой голас над Німрадэляй, пазналі ўва мне сваю радзіну з Поўначы й таму не заміналі перайсьці раку. Апасьля й песьню маю пачулі. Цяпер просяць, каб я разам з Фрода ўскараскаўся да іх, бо, падаецца, ім нешта вядома пра яго й нашую выправу. Астатніх папрасілі пачакаць крыху ля дрэва, покуль эльфы вырашаць, што рабіць.

Зь цемры спусьцілася вераўчаная лесьвіца, срэбна-шэра паблісккваючы ў змроку, хоць і танюткая, але дастатковa моцная, каб вытрымаць некалькіх адразу. Ляголас лёгка ўзьбег па ёй, і Фрода палез за ім, павольна й асьцярожна. За ім Сэм – з усяе моцы намагаючыся ня дыхаць гучна. Галіны мэларну адыходзілі ад ствала амаль пад прамым вуглом, а потым загіналіся ўгору. А ля вяршыні ствол цалкам разгаліноўваўся, разыходзячыся каронаю сукоў і сярод іх агароджы былі драўляныя масткі. Эльфы называлі іх *талан*. На іх залазілі праз круглую дзірку ўсярэдзіне, празь якую й праходзіла лесьвіца.

Дабраўшыся нарэшце да верху, Фрода ўбачыў, што Ляголас сядзіць побач з трыма эльфамі. Усе яны насілі цяніста-шэрае адзеньне, неадрознае між галінаў і начнога змроку, і заўважыць іх было магчыма, толькі калі рухаліся. Перад Фрода яны ўсталі, і адзін адкінуў накрыўку з маленькага ліхтара, які зьзяў тонкім срэбным праменем. Эльф падняў ліхтар, уважліва глянуў на твары Фрода й Сэма, тады

прыкрыў ліхтар зноў і вымавіў словы вітаньня на эльфскай. Фрода, запінаючыся, павітаў у адказ.

– Рады вітаць! – паўтарыў тады эльф зноў на агульнай мове, павольна й зь відавочнай цяжкасьцю. – Мы рэдка размаўляем на чужых мовах, бо жывем цяпер у глыбіні лесу й неахвотна сустракаемся зь іншапляменьнікамі. Нават нашая радзіна на Поўначы цяпер аддзеленая ад нас і наведаць яе цяжка. Але ж некаторыя з нас яшчэ вандруюць па наваколльлі, зьбіраючы навіны й вызнаючы варожыя рухі, і таму валодаюць мовамі чужынскіх краёў. Я з такіх выведнікаў. Маё імя – Хальдыр. Мае браты, Руміль і Арофін, вашай мовы амаль не разумеюць. Да нас дайшлі чуткі пра вашае падарожжа, бо Эльрандавы вестуны наведалі Лорыйн, вяртаючыся дахаты праз Дымрыльскую Лесьвіцу. Пра хобітаў, ці паўрослікаў, мы ня чулі доўгія гады й ня ведалі, ці засталося яшчэ гэтае племя ў Міжзем'і. Ну, ліхадзеямі вы не падаяцеся. Раз вы зьявіліся разам з эльфам, нашым суродзічам, мы гатовыя паклапаціцца пра вас, як і прасіў Эльранд. Хоць ані ў нашым звычаі дазваляць чужынцам праходзіць праз нашыя краі. Сёньня вам давядзецца заначаваць тут. Колькі вас?

– Васьмёра, – адказаў Ляголас. – Я, чатыры хобіты й два чалавекі. Зь іх адзін – Арагорн, сябра эльфаў, з народу Найдалейшага Захаду.

– Імя Арагорна, сына Араторна, добра вядомае ў Лорыйне, – давёў Хальдыр, – на ім ласка нашай панны. Тады ўсё добра. Але ты назваў толькі сямёх.

– Восьмы – гном, – давёў Ляголас.

– Гном!.. Гэта ўжо ня так добра. Ад дзён Цемры мы не падтрымліваем зносіны з гномамі. Ім не дазваляецца крочыць на нашую зямлю. Я не магу дазволіць яму прайсьці.

– Але ён з-пад Самотнай гары, набліжаны й даверaны самога Дайна, сябра Эльранда, – умяшаўся Фрода. – Сам Эльранд абраў яго нам у спадарожнікі. Гімлі – верны паплечнік, адважны й надзейны.

Эльфы загаманілі між сабой напаўголасу, прыняліся распытваць Ляголаса на сваёй мове.

– Добра, – вымавіў Хальдыр нарэшце. – Мы згодныя, хоць тое нам не даспадобы. Калі Арагорн зь Ляголасам згодзяцца несьці адказнасьць за яго, ён можа прайсьці праз Латлорыйн, але толькі з завязанымі вачыма. Болей спрачацца пра тое часу няма. Вашым спадарожнікам нельга заставацца ўнізе. Мы назіраем за ракою й далінай з таго часу, як колькі дзён таму з поўдня ўздоўж краю гор у Морыю прыйшла вялізная банда оркаў. Ля ўскрайку лесу чуваць ваўчынае выцьцё. Калі вы насамрэч выйшлі з Морыі, небясьпека наўрад ці далёка за вамі. Вам давядзецца выходзіць рана. Усе хобіты мусяць начаваць тут, побач з намі, бо ад іх мы небясьпекі не чакаем. Для астатніх ёсьць талан на суседнім дрэве. Ты, Ляголас, у адказе за іх! Калі што, кліч нас! І даглядай гнома паўважлівей!

Ляголас скочыў уніз па лесьвіцы перадаць Хальдыраў загад, і неўзабаве наверх ускараскаліся Мэры зь Піпінам, запыханыя й відавочна напалоханыя.

– Ну нарэшце! – выдыхнуў Мэры. – Мы вашыя коўдры разам з сваімі прыхапілі. Астатняе Швэндал схаваў, закапаў у кучу апалага лісьця.

– Ня трэба было гэтак нагружацца, – вымавіў Хальдыр. – Уночы ў вяршалінах дрэваў халодна, але нашыя ежа й пітво здольныя абараніць вас ад холаду, і ў нас ёсьць коўдры й шкуры для вас.

Хобіты прынялі запрашэньне да другой (і значна лепшай) вячэры зь вялікім задавальненьнем. Паеўшы, пазагортваліся ў коўдры – ня толькі эльфавы, футравыя,

але ж і ў свае – і паспрабавалі заснуць. Аднак жа атрымалася толькі ў Сэма, бо пераадолець трывогу было няпроста. Хобітам высокія месцы ня надта даспадобы, яны аніколі ня сьпяць на верхніх паверхах, нават калі тыя й ёсьць. Масткі на дрэве – гэта зусім ня хобіцкая спальня. Іх не агароджвалі ані сьценкі, ані нават парэнчы. Толькі з аднаго боку тырчэла лёгкая плеценая загароджа, якую можна было разабраць ды прымацаваць, дзе трэба, каб захіліцца ад ветру.

Піпін яшчэ намагаўся пагаманіць.

– Ну, як жа тут спаць. Спадзяюся, што сонны я з гэтай курасадні не звалюся.

– Калі я засну, дык і буду спаць, – прабурчэў Сэм. – І чым меней мы тут словамі будзем кідацца, тым хутчэй капыты спачнуць, калі вы разумееце, пра што я.

Фрода пэўны час ляжаў, пазіраючы на зоры, якія праблісквалі празь цёмную столю дрыготкага лісьця. Сэм жа салодка захроп задоўга да таго, як Фрода заплюшчыў вочы. Скрозь паўдрымоту цьмяна рысаваліся шэрыя постаці двух эльфаў – нерухомыя, з рукамі на каленях. Эльфы перашэптваліся ледзь чутна. Астатнія спусьціліся да ніжэйшых галінаў трымаць варту. Нарэшце, залюляны ветрам у гальлі над галавою й салодкім шапаценьнем вадаспадаў унізе, Фрода заснуў канчаткова, і ў снах ягоных люстравалася Ляголасава песьня.

Пасярод ночы прачнуўся. Астатнія хобіты спалі, эльфы зьніклі. Сярпок ветаху слаба праблісквaў у лісьці. Вецер сьцішыўся. Непадалёк пачуўся тупат мноства ног і грубы рогат. Бразнуў мэтал. Гукі паступова сьцішыліся, аддаліліся некуды на поўдзень, у лес.

У дзірцы пасярод талану з'явілася галава. Фрода сеў, устрывожаны, але тое быў эльф у шэрым каптуры.

– Што такое? – спытаў Фрода.

– Ырч! – прашыпеўэльф ціха й выцягнуў за сабою скатаную лесьвіцу.

– Оркі? – перапытаў Фрода. – Што яны робяць?

Але эльф ужо зьнік.

Болей не чувалася анічога. Нават вадаспады нeяк прыцішыліся й лісты не шамацелі. Фрода сеў, дрыжучы пад коўдрамі. Меркаваў: файна, што не засталіся на зямлі, аднак якая абарона з дрэваў, акрамя схovішча? Оркі, як кажуць, здольныя вынюхваць ня горш за сабак і лазіць па дрэвах умеюць. Выцягнуў Джала з похваў. Тое зіхацела й адблісквала блакітным полымем, але паціху сьцьмела ды згасла зусім. Нягледзячы на пацямнелы меч, пачуцьцё блізкай небясьпекі не пакінула Фрода, нават узмацнілася. Ён падняўся, падкраўся да дзіркі й зірнуў уніз. Сапраўды, нешта кешкаецца ля камля дрэва.

Ня эльф, бо лясныя эльфы рухаліся цалкам бязгучна. Пачулася слаба, нібы нехта прынюхваецца, а потым шкрабецца па кары. Фрода ўзіраўся ў цемру, сьцяўшы подых.

Нехта – ці нешта – павольна караскалася ўгару, і ягонае дыханьне сачылася шыпам скрозь сьціснутыя зубы. Потым побач з ствалом расплюшчыліся два блядныя вокі. Спыніліся, пазіраючы наверх, – нерухомыя, немірглівыя. Раптам згасьлі, і цьмяная постаць сасьлізнула па ствале дрэва й зьнікла.

Адразу пасьля на талан падняўся па галінах Хальдыр. Распавёў:

– На дрэва караскалася нешта, чаго я аніколі ня бачыў. Ня орк. Яно ўцякло, як толькі я крануў дрэва. Істота надта сьцярожкая й ведае, як лазіць па дрэвах. Калі б ня тое, я палічыў бы яе адным з вас, хобітаў. Я ня стрэліў, бо яна магла ўскрыкнуць і тое пачулі б оркі. Іх шмат – цэлы шыхт перайшоў Німрадэль. Каб яе чыстая вада апякла іхнія гнюсныя лапы! Яны пашыбавалі па старым шляху. Напэўна, знайшлі ваш пах, бо абшуквалі пэўны час месца, дзе вы прыпыняліся. Утрая нам з сотняю ня справіцца,

таму мы рушылі наперад, імітуючы вашыя галасы, каб завесьці іх у глыбіні лесу. Арофін выправіўся дахаты – папярэдзіць. Аніводны з оркаў аніколі яшчэ не вяртаўся зь лясоў Лорыйну. Да наступнай ночы ўздоўж паўночных межаў таемна зьбярэцца мноства эльфаў. Але вам трэба выходзіць і рушыць на поўдзень зь сьвітанкам.

На ўсходзе запалілася бляклая раніца. Сьвятло зырчэла, прасочвалася праз залатое лісьце, і хобітам падалося, быццам над лесам уздымаецца яскравае сонца сьвежага летняга дня. Сьветла-блакітныя нябёсы праглядвалі між разгайданых галінаў. Зірнуўшы ў шчыліну між гальлём на поўдні, Фрода пабачыў усю даліну Срабрынкі – залацістае мора лісьця ў зморшчынках ад ранішняга ветру.

Паветра яшчэ не прагрэлася, калі вандроўнікі рушылі зноў на чале з Хальдырам і ягоным братам Румілем.

– Бывай, салодкая Німрадэль! – усклікнуў Ляголас.

Фрода азірнуўся, убачыў пробліск белай пены сярод шэрых ствалоў. І сам вымавіў: "Бывай!" Падалося, аніколі болей не сустрэне струменю гэткай прыгажосьці, што заўжды пяе безьліччу галасоў, сплятаючы іх у бясконцую пераменлівую музыку.

Вярнуліся на сьцежку, якая па-ранейшаму вяла заходнім берагам Срабрынкі, і пэўны час крочылі па ёй на поўдзень. На зямлі тут і там сустракалі адбіткі оркавых ног. Але неўзабаве Хальдыр збочыў і спыніўся на беразе ў цені дрэваў.

– За ракой адзін з маіх стралкоў, – вымавіў эльф, – хоць вы яго й ня бачыце.

Хальдыр паклікаў – бы ціха гукнула птушка – і з купкі маладых дрэваў на тым баку крочыў эльф, апрануты ў шэрае, але з адсунутым каптурам. Ягоныя валасы блішчэлі золатам пад ранішнім сонцам. Хальдыр у момант перакінуў праз раку маток шэрай вяроўкі, эльф падхапіў і прывязаў да дрэва ля берагу.

– Як бачыце, Келебранта тут ужо даволі моцная, – тлумачыў Хальдыр, – хуткая ды глыбокая, і вельмі халодная. Мы самі гэтак далёка на поўначы не заходзім у яе, калі толькі мажліва. Але ж у наш неспакойны час мастоў мы болей не будуем. А перапраўляемся вось гэтак! Рушце за мной!

Прывязаў свой канец вяроўкі да дрэва й лёгка прабег па ёй над ракою й назад, як па сьцежцы.

– Я здольны прайсьці так, – сказаў Ляголас, – але астатнія наўрад ці. Ім давядзецца плысьці?

– Не, – адказаў Хальдыр. – У нас ёсьць яшчэ дзьве вяроўкі. Мы замацуем іх над гэтай, адну на вышыні плячэй, другую – напалову ніжэй. Трымаючыся за іх і чужынцы пяройдуць – з пэўнай асьцярожнасьцю, вядома.

Калі гэты ненадзейны мост збудавалі, вандроўнікі адзін за адным перайшлі па ім: некаторыя павольна й баязьліва, іншыя лягчэй і хутчэй. З хобітаў найлепшым стаўся Піпін. Крочыў упэўнена й спрытна, трымаўся толькі адной рукою. Але не адрываў позірку ад дальняга берагу, уніз не глядзеў. Сэм жа ледзь прасоўваўся, моцна ўчапіўшыся ў вяроўкі, узіраючыся ў празрыстую вірлівую ваду, нібы з адхону ў прорву дзесьці ў гарах.

Уздыхнуў з палёгкай, сягнуўшы берагу.

– Ну, век жыві, век вучыся, як мой стары любіў даводзіць, – вымавіў, саскочыўшы. – Хоць ён казаў пра гародніцтва, а не пра тое, каб па суках расьседжвацца па-груганову ці па нітках паўзьці па-павуковаму. Нават мой дзядзька Эндзі аніколі гэткіх каленцаў не выкідваў!

Калі праз даволі доўгі час кампанія сабралася на ўсходнім беразе Срабрынкі, эльфы адвязалі вяроўкі й скруцілі дзьве зь іх. Руміль, які заставаўся на другім беразе,

выцягнуў да сябе трэцюю, зматаў яе, закінуў за плячо ды, махнуўшы рукою на разьвітаньне, рушыў прэч, назад да Німрадэлі, трымаць варту.

– Цяпер, сябры, – прамовіў Хальдыр, – вы ўступілі ў Найф Лорыйну. На вашай мове гэта Клін Лорыйну, бо гэты куток – бы канчар дзіды паміж Срабрынкаю й Вялікім Андуйнам. Звычайна мы не дазваляем чужынцам знаёміцца з таямніцамі Найфу. Насамрэч няшмат тых, каму дазвалялася хоць бы крануць зямлю гэтых краёў. Як і дамаўляліся, тут я завяжу вочы гному Гімлі. Астатнім можна йсьці вольна, пакуль не наблізімся да нашага жытла ў Эгладыле, Куце паміж рэкамі.

Гімлі тое ўспрыняў цяжка.

– Тую дамову склалі без майго дазволу й удзелу, – абурыўся ён. – Я не пайду асьлеплены, як жабрак альбо палонны. Я не варожы выведнік! Мой народ аніколі ня меў зносінаў ані зь якімі варожымі паслужнікамі. Таксама мы аніколі не ўчынялі шкоды аніякім эльфам. Чаму вы лічыце, што я здольны здрадзіць вам у большай ступені, чым Ляголас ці любы іншы з нас?

– Пра тое ў мяне няма сумневаў, – адказаў Хальдыр, – аднак такі наш закон. У мяне няма ўлады над законам, і я не жадаю яго парушаць. Я ўжо амаль парушыў яго межы, дазволіўшы табе перайсьці Келебранту.

Але ж Гімлі тое не пераканала. Ён расставіў ногі, упершыся ў зямлю, як валун, дый паклаў руку на трымальна сякеры.

– Я пайду наперад вольны ці вярнуся да сваёй зямлі, дзе ў маім слове аніхто ня мае сумневаў, нават калі загіну самотны ў глухамані.

– Вярнуцца ты ўжо ня здолееш, – давёў Хальдыр сувора. – Калі ты дайшоў дасюль, мусіш паўстаць перад панам і паннай гэтай зямлі. Над табой іхні прысуд – застацца тут ці йсьці вольна, куды пажадаеш. Ты не пяройдзеш раку. За табой цяпер таемныя вартавыя, якіх ты не мінеш. Ты нават не пасьпееш іх пабачыць перад тым, як яны заб'юць цябе.

Гімлі выцягнуў сякеру з-за паса. Хальдыр з паплечнікамі ўмомант нацягнулі лукі.

– А каб жа гномаў зь іхнімі нягнуткімі шыямі! – вылаяўся Ляголас.

– Досыць! – загадаў Арагорн. – Калі вы яшчэ давяраеце мне правадырства, рабіце, калі ласка, што я загадваю. Так, для гнома гэта крыўдна й несправядліва адному йсьці ўсьляпую. Хай завяжуць вочы нам усім, нават Ляголасу. Так найлепей, хоць вандроўка нашая й зробіцца павольнай і нудотнай.

Гімлі засьмяяўся.

– Ну й дзіўная ж мы будзем каманда дурняў! Ці Хальдыр павядзе нас на вяровачцы, як шэраг сьляпых жабракоў з адным сабакам-правадыром? Але ж мяне задаволіць, калі толькі Ляголас падзеліць з мною сьлепату.

– Я – эльф. Я сярод суродзічаў, – раззлаваўся ў сваю чаргу Ляголас.

– Ну, самы час цяпер згадаць эльфаў зь іхнімі нягнуткімі шыямі! – сказаў Арагорн. – Але ўсе мы пойдзем аднолькава. Калі ласка, завяжы нам усім вочы, Хальдыр!

– Вы ў адказе за кожны мой сіняк ці пабіты палец, – папярэдзіў Гімлі буркатліва, калі яму завязалі вочы.

– Думаю, скардзіцца табе не давядзецца, бо я добры правадыр і сьцежкі тут гладкія ды прамыя, – суцешыў Хальдыр.

– Якое непаразуменьне дзеецца ў нашыя дні! – усклікнуў Ляголас. – Мы – ворагі аднаго Ворага, а я ўсё адно йду з завязанымі вачыма пад жывым сонцам на лясным залатым лісьці!

– Гэта падаецца непаразуменьнем, так, – пагадзіўся Хальдыр. – Насамрэч ані ў чым так не выяўляецца моц Чорнага Ўладара, як у адчужанасьці паміж тымі, хто змагаецца супроць яго. Мы цяпер так мала давяраем усяму сьвету за межамі Лорыйну, апроч хіба Долага Яру, што не адважваемся памылковым даверам стварыць небясьпеку нашай зямлі. Мы жывем на высьпе сярод ворагаў, і ў руках нашых струны лукаў сьпяваюць часьцей за струны арфаў. Рэкі доўга абаранялі нас, але цяпер, здаецца, за імі схавацца нельга, бо Цень працягнуўся на поўнач па-за нашай зямлёю. Некаторыя мяркуюць пра сыход, але ўжо позна. У заходніх гарах пасялілася ліха, на ўсходзе – пустэчы, па якіх бадзяецца мноства Саўронавых пачвараў. Кажуць, што нельга рушыць на поўдзень праз Рохан і вусьце Вялікай ракі пад наглядам Ворага. Нават калі мы й сягнем марскога берагу, болей прытулку мы там ня знойдзем. Паводле чутак, ёсьць яшчэ завані Вышніх эльфаў далёка на паўночным захадзе, за зямлёю паўросьлікаў. Дзе ж тое, пэўна, ведаюць пан з паннай. Я ня ведаю.

– Ну, вы маглі здагадацца, пабачыўшы нас, – сказаў Мэры. – Так, на захад ад маёй зямлі, Шыру, дзе жывуць хобіты, ёсьць эльфскія завані.

– Шчасьлівы ж вы народ, хобіты, калі жывяце паблізу марскіх берагоў! Доўгі час мінуў з тых дзён, калі мой народ пазіраў на мора. Але ж мы яшчэ сьпяваем пра завані. Калі ласка, распавядзі мне пра іх, пакуль мы йдзем.

– Я не магу, – прызнаўся Мэры. – Я ніколі іх ня бачыў. Я аніколі раней не трапляў за межы маёй краіны. І калі б ведаў, які гэта далёкі сьвет, дык, напэўна, аніколі не адважыўся б пакінуць радзіму.

– Нават каб пабачыць сьветлы Латлорыйн? – зьдзівіўся Хальдыр. – Сусьвет наш насамрэч недарэчны, і шмат у ім ліха й ценяў, аднак шмат у ім і сьвятла. Хоць паўсюль цяпер радасьць і любасьць азмрочаныя блізкасьцю гора, але таму, мажліва, яны робяцца мацнейшымі й зырчэйшымі. Некаторыя між нас лічаць, што Цень зьнікне й супакой вернецца. Але ж я ня веру, што сусьвет зноў зробіцца такім, як у даўніну, што сонца зазьзяе, як у далёкай мінуўшчыне. Для эльфаў, баюся, нават перамога стане кароткім спачынкам, мажлівасьцю безь перашкодаў дабрацца да мора й пакінуць Міжзем'е. Што ж тады зробіцца з Лорыйнам? Як жыць на зямлі, на якой не растуць мэларны? Бо калі яны й ёсьць за Вялікім морам, аніхто пра тое не распавёў.

Гэтак размаўляючы, вандроўнікі павольна цягнуліся па лясных сьцежках за Хальдырам. Яшчэ адзін эльф рушыў ззаду. Зямля пад нагамі адчувалася гладкай і мяккай, і паступова пайшлі вальней, не баючыся зваліцца ці пабіцца. Фрода вынайшаў, што з-за завязаных вачэй слых і іншыя пачуцьці абвострыліся. Ён чуў пах дрэваў ды прымятай нагамі травы. Разьбіраў мноства розных нотак у шомасьце лісьця над галавою, шапаценьне ракі далёка праваруч, тонкія ясныя галаскі птушак у вышыні. Адчуваў, як сонца кранае твар і рукі, калі праходзілі праз паляны.

Як толькі ён крануў нагою дальні бераг Срабрынкі, дзівоснае пачуцьцё агарнула яго й паглыблялася з кожным крокам Фрода ў глыбіню Найфу: быццам праз мост патрапіў у куток Даўніх дзён, у сьвет, якога не існуе болей, у далёкую мінуўшчыну. У Долым Яры яшчэ жыла памяць даўніны – у Лорыйне даўніна жыла пад сучасным сонцам. Тут бачылі ліха й ведалі пра яго, ведалі й гора, эльфы баяліся замежнага сьвету й не давяралі яму. Ваўкі вылі па ўзьлесьсях. Але сама зямля Лорыйну не спазнала ценю.

Ішлі ўвесь дзень, пакуль не адчулі прахалоду сутоньня й раньні вецер не зашамацеў у лістоце. Тады адпачылі, праспаўшы ноч на зямлі без аніякіх страхаў. Зьняць павязкі вандроўнікам не дазволілі, а з завязанымі вачыма на дрэва не

ўскараскаесься. Раніцою рушылі зноў, нясьпешна й спакойна. Апоўдні прыпыніліся, і Фрода адчуў, што выйшлі на адкрытае месца. Раптоўна пачуў мноства галасоў вакол.

Напэўна, напаткалі эльфскую харугву, што сьпяшалася да паўночных межаў – абараняцца ад верагоднага нападу з Морыі. Таксама эльфы прынесьлі зьвесткі, некаторыя зь якіх Хальдыр пераказаў вандроўнікам. Драпежных оркаў зьнішчылі амаль усіх, рэшткі кінуліся ўцякаць на захад, да гор, з пагоняю за плячыма. Таксама выведнікі заўважылі дзіўную пачвару, якая бегла па зямлі, нахіліўшыся, амаль кранаючы яе рукамі, бы зьвер, але ж паставай ня надта падобная да зьвера. Злавіць яе ня здолелі, страляць ня сталі, ня ведаючы, ліхая яна ці не, і яна ўцякла ўніз па Срабрынцы.

– Таксама, – дадаў Хальдыр, – яны прынесьлі мне пасланьне ад пана з паннай. Вам усім дазволена йсьці вольна, нават гному Гімлі. Падаецца, што панна добра ведае кожнага з вас. Магчыма, прыйшлі нейкія новыя зьвесткі з Долага Яру.

Спачатку ён зьняў павязку з вачэй Гімлі.

– Прашу прабачэньня! – вымавіў, пакланіўшыся. – Зірні на нас цяпер, калі ласка, па-сяброўску. Зірні – і парадуйся, бо ты першы гном з самых Дарынавых дзён, які пазірае на дрэвы Найфу Лорыйну.

Калі чарга дайшла да Фрода, той азірнуўся навокал – і ажно сьцішыў дыханьне. Яны стаялі на вялізнай паляне. А леваруч узвышаўся курган, зарослы травой – такой сьвежай і зялёнай, быццам у першую вясну Даўніх дзён. На вяршыні яго двайною каронаю расьлі два колы дрэваў. Вонкавыя мелі кару сьнежнай белі, і хоць на галінах не было лісьця, аголеныя зграбныя дрэвы зьзялі незвычайным хараством. Унутранае кола складалі вялізныя мэларны, апранутыя ў мяккае золата. Высока сярод сукоў найвышэйшага, узьнесенага над астатнімі мэларну, які рос у цэнтры круга, праблісквау белы талан. Ля ўзножжа дрэваў, у траве на схілах, як зоркі, парассыпаліся маленькія залатыя кветачкі. А сярод іх, схіляючыся на тонкіх сьцяблінах, красавалі іншыя – белыя ці ледзь зеленаватага адценьня, яны блішчэлі туманом сярод сьвежай сакавітай зеляніны травы. Над галовамі сінелі нябёсы, і ад зыркага надвячоркавага сонца па траве ад дрэваў цягнуліся зялёныя цені.

– Глядзіце! – прамовіў Хальдыр. – Бо вы сягнулі Керын Амрату, сэрца эльфскага каралеўства даўніны. Гэта курган караля Амрата, над якім быў калісьці ягоны дом і пасад. Тут у заўжды сьвежай траве заўсёды квітнеюць зімовыя кветкі: жоўтыя, эланор, і белыя, ніфрэдыль. Тут мы крыху адпачнем і пойдзем, як сьцямнее, у горад галадрымаў.

Усе, апроч Фрода, паселі на духмяную траву. А той усё стаяў, разгублены, зьнерухомелы ад зьдзіўленьня. Яму падавалася: ён крочыў праз высокае вакно ў мінулы, даўно зьніклы сьвет. Сьвятло звычайнага дня падала на нешта, чаму й імя ў сучаснай мове не было. Усё наўкол падавалася зграбным і ясным, бы нехта задумаў і намаляваў упрост перад вачыма вось толькі што, – і адначасна неверагодна старым, пракавечным. Фарбам навакольля ён мог даць звычайныя імёны: *залаты*, *белы*, *блакітны* й *зялёны*, але ж яны былі такія сьвежыя, сакавітыя, насычаныя, рыхтык ён вынайшаў іх упершыню, упершыню пабачыў – і даў ім імёны новыя й найчароўнейшыя. У тутэйшай зіме аніхто не сумаваў па вясьне ці леце. Ані пляміны, ані хваробінкі, аніякай заганы не было ў ніводным з таго, што расло на гэтай зямлі. Зямля Лорыйну не спазнала ліха.

Павярнуўся й убачыў, што Сэм стаіць побач, азіраючыся зьбянтэжана й паціраючы вочы, быццам ня ўпэўнены, ці наяве ўсё бачыць.

– Сонца сьвеціць, і дзень нармалёвы, – мармытаў ён. – А я лічыў: эльфскае – гэта пад месяцам ці пад зорамі, але ж гэнае болей эльфскае за ўсё, што я бачыў ці чуў. Я пачуваюся, нібыта я сам у песьні, калі ваша мяне разумее.

Хальдыр зірнуў на іх – і быццам зразумеў і словы іхнія, і думкі. І ўсьміхнуўся, вымавіўшы:

– Вы адчуваеце моц панны ўсіх галадрымаў. Ці жадаеце разам з мною падняцца на Керын Амрат?

Хобіты рушылі за эльфам, які лёгка падымаўся па травяністым схіле. Фрода ішоў і дыхаў. Прахалодны ветрык варушыў жывое лісьце й кветкі над галавою й халадзіў твар, Фрода пачуваўся па-за часам, у краёх, якія ня ведаюць зьменаў згасаньня, дзе балючыя памылкі не вярэдзяць памяці. Адчуваў сэрцам: нават калі й сыдзе, калі вернецца ў халодны вонкавы сьвет, ён, Фрода, бадзяга з Шыру, заўжды застанецца, каб крочыць тут, па траве Лорыйну між спрадвечных эланораў і ніфрэдылю.

Падарожнікі ўвайшлі ў кола белых дрэваў. І адразу паўднёвы вецер падзьмуў на Керын Амрат, зашапацеў у галінах. Фрода стаяў, нібыта пачуўшы далёкі прыбой вялікіх мораў, чые берагі даўно змылі хвалі часу, і крыкі нябачаных марскіх птушак, даўно зьніклых з аблічча зямлі.

Хальдыр апярэдзіў і ўжо ўзьбіраўся да пляцоўкі на дрэве. Фрода падрыхтаваўся рушыць за ім, прыклаў даланю да ствала каля лесьвіцы – і раптам, як ніколі раней, востра й тонка ўсьвядоміў тканкі драўлянай скуры, адчуў біцьцё жыцьця пад ёю. Радасцю быў сам дотык да дрэва, пачуцьцё яго пад пальцамі – радасьць не лесьніка ці цесьляра, а водгук жывой радасьці дрэва.

Калі нарэшце ён падняўся на высокую плятформу, Хальдыр узяў яго за руку й павярнуў тварам на поўдзень.

– Найперш зірні сюды!

Фрода паслухаўся й убачыў зводдаль ці то ўзгорак з мноствам магутных дрэваў, ці то горад зялёных вежаў. Адтуль, ён адчуў, зыходзілі моц і сьвятло, што ўладарылі над гэтай зямлёю. Яму закарцела раптам узьляцець птушкаю, сягнуць зялёнага гораду, каб адпачыць там. Тады кінуў погляд на ўсход, дзе край Лорыйну падыходзіў да цьмянага бляску Андуйну, Вялікай ракі, прасачыў вачыма ўздоўж вады – і дзівоснае сьвятло згасла, ён вярнуўся ў звыклы, знаёмы сьвет. Землі за ракою й ля яе прасьціраліся роўныя й пустыя, бясформавыя й няпэўныя, а ў паўднёвай далечы й на блізкім беразе ракі нібыта ўтыкаліся ў мур, цёмны й бязрадасны. Сонца Латлорыйну ня мела моцы, каб прабіць той далёкі цень.

– Там ляжыць сэрца Паўднёвага Ліхалесься, – патлумачыў Хальдыр. – Лес цёмных ялінаў, там дрэвы змагаюцца адно супраць аднаго, і іхнія галіны трупехнуць і высыхаюць. Пасярод на каменнай вяршыні стаіць Дул Гулдур, дзе доўга туліўся таемна Вораг. Мы баімся, што замак зноў заселены й моц ягоная ўсемярылася. Апошнім часам чорная хмара часьцяком спачывае на той вяршыні. Адсюль, з гэтага высокага месца, ты можаш бачыць дзьве сілы, што супрацьстаяць адна адной і нават зараз змагаюцца ў думках. Але хоць сьвятло й адчувае самае сэрца цемры, нашыя таямніцы яшчэ не раскрытыя.

Эльф павярнуўся й стаў паволі спускацца, за ім і хобіты.

Ля ўзножжа ўзгорку ўбачылі Арагорна, маўклівага й нерухомага, бы дрэва. У ягоных руках залацела маленечкая краска эланору, і сьвятло струменіла зь ягоных вачэй. Фрода здагадаўся: напэўна ж, Арагорн затрымаўся ў чароўных успамінах, зноў перажывае прамінулае, што адбылося на гэтым самым месцы. Жорсткасьць

бязьлітасных гадоў сышла з твару Арагорна; падавалася, апрануты ў белае высокі й чароўны княжыч прамаўляў словы па-эльфску камусьці, каго ня мог бачыць Фрода. "*Арвэн ванімэльда, намарыё!*" – сказаў Арагорн, глыбока ўздыхнуў дый вярнуўся з згадак, зірнуў на Фрода й усьміхнуўся.

– Тут сэрца эльфаў усёй зямлі, – сказаў ён, – тут назаўжды застаецца й маё сэрца, калі толькі змрочны шлях, па якім мы абодва крочым, ня выведзе нас да сьвятла. Хадзем з мною!

Ён узяў Фродаву руку й павёў яго прэч з пагорку Керын Амрат.

Болей у сваім зямным жыцьці ён аніколі не вярнуўся сюды.

*7. Люстэрка Галадрыелі*

Сонца ўжо хавалася за гарамі й цені гусьцелі пад дрэвамі, калі вандроўнікі рушылі зноў. Цяпер шлях вёў праз гушчары, дзе ўжо ляжаў змрок. На лес спусьцілася ноч, і эльфы запалілі срэбныя ліхтары.

Зьнянацку зноў патрапілі на паляну й убачылі над сабою бляклае неба позьняга сутоньня, праколатае некалькімі раньнімі зоркамі. Шырокая паляна цягнулася вялізным кольцам. За ёю глыбокі роў губляўся ў густых, аксамітных ценях, але трава на ўскрайку яго яшчэ зьзяла зялёным, нібы памятаючы зьніклае сонца. А за ровам высока ўздымалася зялёная сьцяна, якая атачала зялёны пагорак, шчыльна зарослы мэларнамі, найвялізьнейшымі з усіх, бачаных раней. Іхнія вяршыні губляліся ў змроку. Яны стаялі жывымі вежамі, магутнымі, з шматлікімі ярусамі галінаў, і сярод іх заўжды шапатлівых, рухавых лістоў блішчэла безьліч агеньчыкаў – зялёных, залатых і срэбных. Хальдыр павярнуўся да падарожнікаў.

– Вітайма ў Карас Галадхане! – вымавіў ён. – Тут, у горадзе галадрымаў, жывуць пан Келебарн і панна Галадрыель, уладары Лорыйну. Але ж тут мы ня зойдзем – брама выводзіць на поўдзень, не на поўнач. Нам трэба агінаць мур, і шлях будзе доўгі, бо горад надзвычай вялікі.

Уздоўж вонкавага ўскрайку рову вяла дарога, забрукаваная белым каменем. Па ёй і крочылі на захад, і горад зялёным воблакам уздымаўся ў вышыню леваруч ад іх. Змрок шчыльнеў, і ўсё болей агеньчыкаў запальвалася ў дрэвах, пакуль пагорак увесь не запалаў зорамі. Нарэшце сягнулі белага мосту й за ім – вялікай брамы гораду. Яна паглядала на паўднёвы захад і знаходзілася паміж сьценамі, якія не сутыкаліся там, дзе змыкала ся кольца, а заходзілі адна за адну, ідучы поруч. Муры тыя былі надта высокія й моцныя, абвешаныя мноствам ліхтароў.

Хальдыр пагрукаў у браму, і яна бязгучна адчынілася, хоць варты нідзе не было відаць. Вандроўнікі зайшлі, брама бязгучна зачынілася за імі. Апынуліся зноў у праходзе паміж высокімі сьценамі. Пасьпяшаліся па ім і трапілі ў Горад Дрэваў. Анікога так і не сустрэлі й нічыіх крокаў па сьцежках не пачулі, але ж паблізу, зьверху, зусім побач перамаўлялася мноства галасоў. Далёка на вяршыні пагорку нехта сьпяваў, і гукі ліліся з вышыні, нібыта мяккі дождж па залатым лісьці.

Рушылі па мностве сьцежак, падымаліся па лесьвіцах. Нарэшце сягнулі вяршыні й пабачылі вадаграй, што нязырка зіхцеў сярод шырокай паляны. Асьвятлялі яе срэбныя ліхтарыкі, прычэпленыя да сукоў. Вада фантану напаўняла срэбны вадасток, зь якога выбягаў пенны струмень. А на паўднёвым баку паляны высілася найвялікшае з усіх дрэва. Ягоны неабдымны гладкі ствол адблісквап шэрым шоўкам, і першы ярус сукоў адыходзіў далёка наверсе – быццам веліканавы рукі ў аблоках лісьця. Угару па ствале вяла белая лесьвіца, ля яе ўзножжа сядзелі тры эльфы. Яны паўскоквалі, пабачыўшы вандроўнікаў, і Фрода заўважыў, што яны высакарослыя й апранутыя ў шэрыя кальчугі й доўгія белыя плашчы.

– Тут жывуць Келебарн з Галадрыельлю, – распавёў Хальдыр. – Яны жадаюць, каб вы падняліся й размаўлялі зь імі.

Адзін з эльфаў-вартаўнікоў чыста й ясна прасыгналіў з маленькага рога, і тройчы рог пратрубіў у адказ з вышыні.

– Я пайду першы, – патлумачыў Хальдыр, – потым няхай рушыць Фрода, за ім – Ляголас. Астатнія хай ідуць, як пажадаюць. Для тых, хто ня звыклы з гэткімі лесьвіцамі, пад'ём будзе доўгі, але ж магчыма адпачыць па дарозе.

Павольна падымаючыся, Фрода мінуў мноства таланаў пааберуч, а праз некаторыя, што абкружалі ствол дрэва, пралез. Высока над зямлёю сягнуў нарэшце найбольшага талану, памерам з палубу марскога карабля. На ім быў пабудаваны дом, такі вялікі, што падышоў бы й чалавечаму ўладару як палац для баляваньняў і бяседаў. Фрода крочыў туды ўвасьлед за Хальдырам і апынуўся ў авальнай залі, пасярод якой калёнай, хоць ужо крыху станчэлай уверсе, але яшчэ магутнай, высілася вяршыня гіганцкага мэларну.

Залю запаўняла мяккае сьвятло. Сьцены сьвяціліся зялёным і срэбным, столь – залатым. Мноства эльфаў прысутнічала тут. На дзьвюх фатэлях ля самага ствала, з жывою галінаю-балдахінам над галовамі, сядзелі побач Келебарн і Галадрыель. Яны ўсталі, каб павітаць гасьцей, – усе эльфскія ўладары, нават найвялікшыя, рабілі так. Надта высокімі былі яны, і панна ня меншая ростам за пана, і выглядалі захапляльна прыгожымі – і суворымі. Апранутыя былі цалкам у белае. Доўгія валасы панны зьзялі сьпелым золатам, валасы пана – зыркім срэбрам. Ані прыкметы ўзросту не чыталася ў іхніх тварах, хіба ў вачох, пранізьлівых, прамяністых, бы канчары дзідаў у зорнай ночы, і глыбокіх, нібы бяздонныя калодзежы жывой памяці.

Хальдыр правёў Фрода да іх, і гаспадар павітаў яго на ягонай мове. Гаспадыня ж не сказала анічога – толькі зірнула доўга й уважліва ў ягоныя вочы.

– Сядай жа побач з мною, Фрода з Шыру! – вымавіў Келебарн. – Калі прыйдуць астатнія, мы пагутарым.

Кожнага з падарожнікаў, калі толькі яны заходзілі ў залю, пан ветліва павітаў, назваўшы па імені.

– У добры час сустрэліся мы, Арагорн, сын Араторна! Восем і яшчэ трыццаць гадоў сусьвету па-за гэтым лесам мінула ад таго дня, калі ты быў тут, і гэтыя гады цяжка леглі на твае плечы. Але ж канец твае дарогі – добры ці ліхі – ужо не за гарамі. А пакуль што адкладзі свае турботы, не хвалюйся!

– Мае вітаньні, сын Трандуйла! Як шкада, што нашая паўночная радзіна так рэдка наведвае нас!

– Добры вечар, шаноўны Гімлі, сын Глойна! Колькі ж стагодзьдзяў мінула, калі мы сустракалі нашчадка Дарынава народу ў Карас Галадхане! Сёньня мы парушылі даўні закон. Няхай тое стане шчасьлівай прыкметай: хоць сьвет цяпер і агорнуты змрокам, вераемна, лепшыя дні ўжо недалёка й сяброўства паміж нашымі народамі адновіцца.

Гімлі ў адказ нізка пакланіўся.

Калі ўсіх гасьцей усадзілі перад уладарамі Лорыйну, пан агледзеў іх зноў.

– Я бачу васьмёх, – вымавіў ён. – Выходзілі дзевяць – так у пасланьнях. Магчыма, у апошні момант нешта зьмянілася й нас не папярэдзілі. Эльранд далёка, цемра між намі шчыльнее, і за апошні год яна цяжка разраслася.

– Не, у апошні момант анічога не зьмянілася, – упершыню азвалася панна. Яе голас быў ясны й мэлядычны, але ж глыбейшы за звычайны жаночы. – Гэндальф Сівы выправіўся зь імі, але ён не перасякаў межаў гэтай краіны. Распавядзіце ж мне, дзе ён, бо я надта жадаю пабачыць яго зноў і пагутарыць зь ім. Але ж я ня бачу яго здаля, пакуль ён не сягне межаў Лорыйну. Шэры туман хавае яго, шляхі ягонага розуму й ягоных ног не адкрытыя для мяне.

– На гора ўсім нам, Гэндальфа Сівога паглынула цемра, – сказаў Арагорн. – Ён застаўся ў Морыі.

Пасьля гэтых словаў з усіх бакоў залі пачуліся выгукі зьдзіўленьня й горычы.

– Ліхія весткі, – засмуціўся Келебарн. – Самыя ліхія за доўгія гады, поўныя найгоршых злачынстваў.

Ён павярнуўся да Хальдыра й спытаў па-эльфску:

– Чаму мне нічога не данесьлі раней?

– Мы не распавядалі Хальдыру ані пра нашыя мэты, ані пра нашую вандроўку, – азваўся Ляголас. – Спачатку таму, што былі надта стомленыя й небясьпека крочыла па пятах, а пасьля мы амаль забыліся на нашае гора на гладкіх сьцежках сьветлага Лорыйну.

– Аднак туга нашая й смутак заўсёды з намі, і нашай страты не пакрыць, – вымавіў Фрода. – Гэндальф быў нашым правадыром, ён вёў нас праз Морыю, і калі нашая гібель падавалася непазьбежнай, ён выратаваў нас, загінуўшы сам.

– Распавядзіце ж нам усё! – запатрабаваў Келебарн.

Тады Арагорн распавёў усё, што здарылася пад Карадрасам, і потым – пра Баліна й ягоную кнігу, пра бойку ў залі Мазарбул, пра агонь, вузкі мост і прышэсьце Палымянага Жаху.

– Здаецца, гэта жуда Старадаўняга сьвету. Аніколі раней я гэткага ня бачыў, – казаў Арагорн. – Адначасна цень і полымя, моцнае й жахлівае.

– Тое быў балраг Маргата, – дадаў Ляголас, – з усіх эльфскіх пагібеляў найгоршая, за выключэньнем таго, хто сядзіць цяпер у Цёмнай вежы.

– Насамрэч, на тым мосьце я бачыў кашмар найгоршых нашых сноў. Я бачыў Пагібель Дарына, – вымавіў Гімлі ціха, і жах быў у ягоных вачох.

– Як шкада! – уздыхнуў Келебарн. – Ужо даўно мы падазравалі, што пад Карадрасам сьпіць старажытны жах. Калі б я ведаў, што гномы зноў абудзілі гэтае ліха ў Морыі, я забараніў бы табе крочыць за нашую паўночную мяжу – табе і ўсім, хто прыйшоў з табою. А яшчэ можна было б сказаць, што Гэндальфава мудрасьць напрыканцы ягонага доўгага шляху пахіснулася, раз ён завёў вас па-за ўсялякай неабходнасьцю ў скляпеньні Морыі.

– Той, хто адважыўся б сьцьвердзіць так, моцна – і дарэмна – пасьпяшаўся б, – сувора вымавіла Галадрыель. – Гэндальф Сівы ў сваім жыцьці анічога не рабіў бессэнсоўна. Тыя, што йшлі за ім, ня ведалі, што ён задумаў, не здагадваліся пра канечныя ягоныя мэты. Да таго ж які ні быў бы правадыр, вінаваціць ягоных паплечнікаў нельга. Ня трэба шкадаваць, што гном запрошаны ў нашую краіну й залю. Калі б наш народ быў выгнаны далёка ад Лорыйну, хто з галадрымаў, нават кароль Келебарн Мудры, мінуў бы сваё старадаўняе жытло – хоць бы яно зрабілася логвішчам цмокаў?.. О змрочная вада Келед Зарам, халодныя крыніцы Кібіль Налы! Сьветлымі былі шматкалённыя залі Казад Думу ў Даўнія дні, у часы магутных цароў пад горнымі столямі...

Галадрыель паглядзела на Гімлі, засмучанага й пахмурага, і ўсьміхнулася. І гном, пачуўшы імёны на сваёй роднай старажытнай мове, зазірнуў ёй у вочы, і яму падалося: быццам чакаў сустрэць ворага – і ў самай глыбіні ягонай душы знайшоў замест варожасьці разуменьне й любоў. Гімлі зьдзівіўся, пасьвятлеў тварам, усьміхнуўся ў адказ.

Тады няўклюда ўзьняўся ды, паводле гномскага звычаю, пакланіўся, кажучы:

– Але жывая зямля Лорыйну нашмат сьвятлейшая, а панна Галадрыель прыгажэйшая за любы дыямант, які толькі ёсьць пад гарамі сусьвету!

Павісла цішыня. Нарэшце Келебарн загаварыў зноў.

– Ня ведаў я, што гэткае ліха азмрочыла ваш шлях. Гном Гімлі, забудзься на мае словы. Іх нарадзіла трывога й смутак майго сэрца. Я зраблю, што здолею, каб

дапамагчы вам – кожнаму адпаведна ягоным патрэбам і жаданьням, але асабліва таму з маленькага народу, хто нясе найцяжэйшую з ношаў.

– Твая мэта вядомая нам, – сказала Галадрыель Фрода. – Але адкрыта мы размаўляць пра яе ня станем. Сам Гэндальф відавочна плянаваў, каб ты прыйшоў сюды па дапамогу – напэўна, ты й знойдзеш яе тут. Бо пан галадрымаў лічыцца наймудрэйшым сярод эльфаў Міжзем'я, і дарункі ягоныя пераўзыдуць шчодрасьць любога караля. Ён жыў на Захадзе з найпершых дзён, і я жыла зь ім цягам незьлічоных гадоў. Бо яшчэ да падзеньня Наргатронду й Гандаліну я сышла за горы й разам зь ім перажыла ўсе нашыя паразы ва ўсіх эпохах сусьвету. Я першая склікала Белую Раду. І калі б мае пляны зьдзейсьніліся, ачоліў бы яе Гэндальф Сівы. Тады, магчыма, справы пайшлі б інакш. Аднак нават цяпер яшчэ надзея ня страчаная. Я ня стану раіць вам, што рабіць і куды йсьці. Бо здольнасьць мая ані ў абраньні таго ці іншага шляху для вас, ані ў тым, што магу зьдзейсьніць за вас. Здольнасьць мая ў ведах пра мінулае й сучаснае – і часткова пра будучыню. Скажу я вам, вандроўнікі: шлях ваш – па вастрыі нажа. Адхіліцеся ўсяго на крок – страціце сябе й усіх нас. Але надзея жыве, пакуль усе вы верныя адзін аднаму й сваёй мэце.

І з тымі словамі яна паглядзела на ўсіх, і ў цішыні зазірнула шукальна кожнаму ў вочы. І ніхто, апрача Ляголаса з Арагорнам, ня вытрымаў яе позірку. Сэм дык адразу пачырванеў ды павешаў галаву.

Нарэшце панна Галадрыель апусьціла вочы й усьміхнулася.

– Няхай турботы пакінуць вашыя сэрцы. Сёньня вы адпачняце ў спакоі.

І госьці раптам уздыхнулі, адчуўшы стому, нібы іх доўга й выведліва дапытвалі, хоць уголас анічога не вымаўлялася.

– Хадзіце ж цяпер! – запрасіў Келебарн. – Бо вы стомленыя трывогаю й цяжкасьцямі шляху. Нават калі б мэта вашая не кранала нас гэтак шчыльна й глыбока, вы знайшлі б сховішча, адпачынак і ацаленьне ў нашым горадзе. Адпачывайце! Не турбуйцеся далейшымі шляхамі.

Гэтай ноччу ўвесь Зьвяз Пярсьцёнка, на вялікае задавальненьне хобітаў, спаў на зямлі. Эльфы ўсталявалі для іх сярод дрэваў паблізу фантану намёт і заслалі ў ім мяккія ложкі. Пажадаўшы дабранач мэлядычнымі галасамі, разьвіталіся. Вандроўнікі крыху пагутарылі пра ноч на вяршынях дрэваў, ды пра дзённы пераход, ды пра пана з паннаю. Далей у мінулае сягаць не наважыліся, бо тое было пакуль што надта балюча.

– А чаму ты так пачырванеў перад паннай, Сэме, га? – спытаў Піпін. – Не спрабуй адмоўчацца. Ты ў нас хуценька прызнаесься. Кожнаму было відавочна: нешта нячыста ў цябе на сумленьні. Спадзяюся, там анічога горшага за злосны намер сьцягнуць адну з маіх коўдраў.

– Не, пра гэткае я й ня думаў, – адказаў Сэм, яўна не ў жартоўным настроі. – Калі ўжо жадаеце, я пачуваўся, быццам на мне анічога няма, увогуле анічога, разумееце? Мне тое надта не даспадобы. Яна нібы ў самае нутро маё зазірнула дый пытаецца: што я зраблю, калі яна дасьць мне магчымасьць уцячы дахаты, у Шыр, дасьць уласную нару, а яшчэ... яшчэ лапік уласнага садочку да таго.

– Ну, ці ня дзіва? – вымавіў Мэры. – Я й сам амаль гэтаксама пачуваўся. Толькі болей я не скажу, – дадаў, запінаючыся.

Падавалася, кожнаму зь іх выпала тое самае. Кожны адчуў, што яму прапаноўваюць выбар паміж зьдзяйсьненьнем найзапаветнейшай мары й жахлівым ценем наперадзе. Выбар той паўстаў перад розумам ясна й несумнеўна: атрымаеш, чаго жадаў усё жыцьцё, калі толькі збочыш з шляху, калі пакінеш мэту сваёй вандроўкі ды вайну з Саўронам іншым.

– А я адчуваю, што прапанаванае мне й мой выбар мусяць застацца сакрэтам для ўсіх, акрамя мяне, – прабурчэў Гімлі.

– А мне гэта ўсё падаецца надзвычай дзіўным, – вымавіў Барамір. – Напэўна, яна толькі выпрабоўвала нас, чытала нашыя думкі дзеля нашага ж дабрачыну. Аднак мне амаль падалося, што яна насамрэч спакушала нас, прапаноўваючы тое, што ані ў яе моцы нам даць. Тут і казаць няма чаго, я адмовіўся нават слухаць. Людзі Мінас Тырыту верныя свайму слову.

Але што менавіта, на ягоную думку, прапанавала панна, Барамір не распавёў. Фрода таксама адмоўчаўся пра свой выбар, хоць Барамір і даймаў яго пытаньнямі.

– Панна гэтак доўга ня зводзіла вачэй зь цябе, Ахоўнік Пярсьцёнка, – сказаў ён.

– Так, – пагадзіўся Фрода, – але ж тое, што падалося мне, я для сябе й пакіну.

– Ну, ты глядзі, – папярэдзіў Барамір, – неяк я зусім ня ўпэўнены ані ў самой гэтай эльфскай спадарыні, ані ў ейных мэтах.

– Не кажы благое пра панну Галадрыель! – вымавіў Арагорн сувора. – Ты ня ведаеш, пра што гаворыш. Ані ў ёй, ані ў гэтай зямлі няма ліха – хіба толькі прышлы сюды прыносіць ліха з сабою. А тады няхай пасьцеражэцца! Сёньняшняй ноччу я ўпершыню пасьля Долага Яру засну спакойна. І няхай мне сьпіцца глыбока, каб забыўся хоць бы на ноч мой смутак. Бо я стаміўся і целам, і душою.

З тымі словамі ўлёгся на ложак і адразу глыбока заснуў.

Астатнія неўзабаве пазасыналі таксама, і ані гук, ані кашмар не патрывожылі іхняга сну. Калі прачнуліся, луг перад намётам быў заліты сонцам і вада фантану грала й зіхцела ў сонечных прамянёх.

Заставаліся ў Лорыйне, як падалося й запомнілася, пару-другую дзён, ня болей. І ўвесь час удзень зьзяла яснае сонца, толькі раз-пораз падаў цёплы дождж ык, абмываючы ўсё наўкол, пакідаючы асьвяжэлым і яскравым. Паветра было прахалоднае й прыемнае, нібы раньняй вясною, але ж вакол адчуваўся глыбокі, задумлівы спакой зімы. Здаецца, анічым іншым і не займаліся, як толькі елі, ды пілі, ды спалі ці шпацыравалі па навакольлі сярод дрэваў – і тое цалкам запаўняла жыцьцё.

Болей ані пана, ані панну ня бачылі й з тутэйшымі эльфамі амаль не размаўлялі, бо няшмат зь іх ведала ці жадала выкарыстоўваць Заходнюю мову. Хальдыр разьвітаўся й выправіўся зноў да гушчароў поўначы, дзе цяпер, пасьля зьвестак пра Морыю, прынесеных вандроўнікамі, трымалі моцную варту. Ляголас толькі першую ноч спаў побач з астатнімі, бавячы амаль увесь час з галадрымамі, але вяртаўся, каб паесьці разам зь сябрамі дый пагутарыць. Часьцяком у вандроўкі па Лорыйне запрашаў і Гімлі, і астатнія дзівіліся гэткай нечаканай зьмене настрою.

Цяпер часьцей размаўлялі пра Гэндальфа, і ўсё, што кожны памятаў ці ведаў пра яго, ясьней паўставала перад вачыма. Калі ацаліліся ад стомы й цялеснага болю, мацней адчулі боль і смутак страты. Часьцяком чулі непадалёк эльфскія сьпевы й ведалі, што эльфы аплакваюць Гэндальфаву сьмерць, бо сярод незразумелых словаў жальбы выбліcквала імя Гэндальфа.

"*Мітрандыр, Мітрандыр!* – сьпявалі эльфы. – *Сівы Пілігрым!*" Так клікалі яго яны. Аднак нават калі Ляголас быў разам з астатнімі сябрамі Зьвязу, перакладаць для іх словы песьняў ён не жадаў, кажучы, што й майстэрства яму бракуе, і гора надта блізка, яшчэ час для сьлёзаў, а не для песьняў.

Першым выліў свой смутак у словы, хоць і няўклюдыя, нязграбныя, менавіта Фрода. Вельмі рэдка цягнула яго скласьці песьню ці зрыфмаваць што-колечы. Нават у Долым Яры ён толькі слухаў і сам аніколі не сьпяваў, што праўда, памяць ягоная трымала шмат зьвершаванага іншымі. Але цяпер, калі сядзеў ля лорыйнскага

вадаграю й слухаў эльфавы галасы, думкі ягоныя сфармаваліся ў песьню, якая падалася файнай. Але як толькі пераказаў яе Сэму, яна распалася на няскладныя ўрыўкі, сухія й нежывыя, бы жмені ссохлага лісьця.

*Сутоньня шэраю парой*
*вяртаўся ў Шыр з чужых краёў*
*і нечакана раніцой*
*сыходзіў у вандроўку зноў.*

*Ад сонца Поўдня да сьнягоў,*
*ад Шыру да канцоў зямлі*
*між гор, пустэчаў і лясоў*
*шляхі ягоныя вялі.*

*З плямёнамі усіх краёў*
*іх роднай мовай размаўляў,*
*птушыны сьпеў, зьвярыны роў*
*ён разумеў і пазнаваў.*

*Быў чараўнік, мудрэц, ваяр,*
*на сьмех быў хуткі ды на гнеў,*
*а на плячах – гадоў цяжар,*
*бясконцых клопатаў і спраў.*

*Між уладарных – уладар,*
*пахілы, з кіему руках,*
*стары з душою, бы пажар,*
*самотны на чужых шляхах.*

*На мосьце ён паўстаў адзін –*
*і перамог агонь і цень,*
*між Казад Думу чорных сьцен*
*згас назаўжды яго прамень.*

– Ну, неўзабаве вы гэтак і спадара Більба абгоніце! – пахваліў Сэм.

– Не, баюся, не, – адказаў Фрода. – Пакуль што гэта найлепшае, на што я здольны.

– Ну так, спадару Фрода, калі яшчэ раз намерыцеся, дык, спадзяюся, уставіце слоўца-другое пра фаервэркі. Ну, нешта накшталт:

*Ракеты лепшыя за ўсіх:*
*бы зораў россып залатых,*
*ці пасьля грому дождж агнёў,*
*ці краскі воблачных палёў.*

– Хоць гэтаму да сапраўдных ягоных вогненных пацехаў – як да нябёсаў, баюся.

– Дык лепш я пакіну справу табе. Ці мо Більба. Але ж... прабач, я не магу болей. Я й не ўяўляю, як прынясу яму гэтую навіну.

Аднойчы ўвечары Фрода з Сэмам шпацыравалі разам у прахалодзе надвячорку. Абодва зноў непакоіліся. Фродаў настрой ужо азмрочыла прадчуваньне ростані, бо неяк усьвядоміў, што ўжо блізкі час, калі давядзецца пакінуць Лорыйн.

– Што ты цяпер думаеш пра эльфаў, Сэме? – спытаў ён. – Калісьці я пытаўся ў цябе гэта, падаецца ў сівую даўніну. З таго часу ты шмат іх бачыў.

– Сапраўды! – пагадзіўся Сэм. – Ну, мяркую: эльфы, яны ж розныя. Ва ўсіх пазнаеш эльфскасьць, так, адылі па-рознаму. Вось нашыя цяперашнія гаспадары – не вандругі, не бадзягі, болей да нас падобныя. Здаецца, яны належаць гэтай зямлі, як хобіты Шыру. Ці яны гэтак краіну пад сябе перайначылі, ці яна іх – цяжка сказаць, калі вы мяне разумееце. Тут надзвычай бясьпечна й спакойна. Анічога не зьмяняецца, і аніхто, як відаць, не жадае аніякіх зьменаў. Калі тут і ёсьць пэўныя чары, дык яны недзе глыбока-глыбока, ля самых каранёў. Карацей, рукою не памацаць, калі вы разумееце, пра што я.

– Яны адчуваюцца – і бачацца – паўсюль навокал, – сказаў Фрода.

– Так, але ж вы ня бачыце анікагусенькі, хто іх, уласна кажучы, рабіў бы. Хоць бы вагні, якія небарака Гэндальф любіў ладзіць. Шкада, не відаць чамусьці ані пана, ані панну. Вось яна, упэўнены, магла б што-колечы чароўнае паказаць пад настрой. Я што заўгодна аддаў бы, каб пабачыць сапраўдныя эльфаўскія чары!

– Я – не, – вымавіў Фрода. – Я задаволены й так. І сумую я не па Гэндальфавых фаервэрках, а па ягоным голасе, натапыраных бровах, палымяным характары.

– Вашая, вядома, рацыя, – уздыхнуў Сэм. – Ня думайце, што я шукаю нагоду, каб паскардзіцца на наваколье. Вось толькі заўсёды жадаў пабачыць хоць крышачку чараўніцтва, як у старых казках. А для чараўніцтва я аніколі ня бачыў лепшага месца, чым тут. Тут – і як на сьвяце, і як у роднай хаце адначасова, калі вы мяне разумееце. Я сапраўды не хачу сыходзіць адсюль. Аднак калі ўжо нам трэба абавязкова, дык ляпей болей не цягнуць. "Пакуль не пачнеш справу, датуль і ня скончыш", – гэтак мой стары казаў, за што-небудзь цяжкое дый нудотнае беручыся. Падаецца мне, народ тутэйшы аніяк нам болей і не дапаможа, чарамі ці ня чарамі. Калі мы адсюль рушым, тады шчэ й узгадаем на Гэндальфа, дый ня раз, так мне мяркуецца.

– Баюся, ты маеш рацыю, Сэме, – згадзіўся Фрода, – аднак, спадзяюся, мы хоць раз яшчэ стрэнем Панну Эльфаў перад сыходам.

Не пасьпеў вымавіць, як пабачылі, быццам адказ, што панна Галадрыель сама набліжаецца да іх. Высокая, бялюткая, сьветлая, яна крочыла, нібы сьвітанак між дрэваў. Не сказала ані слова, але ж павабіла за сабою.

Павяла іх да паўднёвага схілу пагорку, на якім стаяў Карас Галадхан. Мінуўшы высокую жывую загароджу, крочылі ў сад за гаспадыняй. Тут не расьлі дрэвы й анічога над галавою не захінала нябёсаў. Вячэрняя зорка ўжо ўзышла й зьзяла белым полымем над заходнімі лясамі. Па доўгай лесьвіцы спусьціліся ў глыбокую зялёную лагчавіну, праз якую бег, шапочучы, срэбны струменік, які выцякаў з фантану на пагорку. На самым дне лагчавіны, на нізкім п'едэстале, вычасаным як галінастае дрэва, стаяла вялізная срэбная чара, шырокая й плыткая, а побач зь ёю – срэбны гарлачык.

Вадою з струменю Галадрыель напоўніла чару да краёў, тады дыхнула на яе, а калі паверхня супакоілася, сказала:

– Перад вамі Люстэрка Галадрыелі. Я прывяла вас сюды, каб вы зазірнулі ў яго, калі пажадаеце.

Паветра нерухома застыла, лагчавіну агарнуў змрок, а побач стаяла эльфская панна, бялюткая, высокая. Фрода ледзь адважыўся спытаць:

– А што мы пабачым там, сьветлая спадарыня, чаго нам чакаць?

– Я магу загадаць Люстэрку адкрыць мноства рэчаў і падзеяў. Некаторым я паказваю тое, што яны хочуць бачыць. Але Люстэрка раскрывае й відмы нечаканыя, няпрошаныя, і часта яны больш дзівосныя й карысныя за тое, што мы жадаем і чакаем. Што ты пабачыш, дазволіўшы Люстэрку выбіраць самому, мне невядома. Але яно заўсёды паказвае тое, што было й што ёсьць. Таксама тое, што можа быць. Але што менавіта – ня кожны з мудрых здолее зразумець. Ці жадаеш ты глянуць?

Фрода не адказаў.

– А ты? – панна павярнулася да Сэма. – Гэта ж менавіта тое, што твой народ кліча *чарамі*, як я разумею, хоць я й не зусім усьведамляю, што для вас значыць гэтае слова. Бо гэтаксама вы называеце падманы й мроі, якія стварае вораг. Але гэта, калі жадаеш, чары Галадрыелі. Ці ж ты не казаў, што прагнеш пабачыць эльфскія чары?

– Так, – пагадзіўся Сэм, вагаючыся паміж страхам і цікаўнасьцю. – Дый я ж адным вочкам, спадарыня, калі дазволіце.

– Я ня супраць пабачыць тое, што робіцца ля хаты, – дадаў, зьвярнуўшыся да Фрода. – Жудасна, колькі часу ня быў дома. Але ж тут, напэўна, толькі зоры якія й будуць ці шчэ што, чаго й уцяміць немажліва.

– Можа, так, а можа, і не, – ціхенька засьмяялася панна. – Ходзь сюды, зірні – пабач, што здолееш. Толькі не кранай вады!

Сэм ускараскаўся на п'едэстал і нахіліўся над чарай. Паверхня вады выглядала цьвёрдай ды цьмянай. У ёй адбіваліся зоры.

– Ну, адныя зоркі, як і думаў, – вымавіў Сэм, а пасьля вохнуў, бо зоры раптам зьніклі. Бы адшмаргнулі змрочную завесу, Люстэрка пашарэла, а тады праясьнілася. Паказала зыркі дзень і галіны дрэваў, якія калыхаў і хістаў вецер. Не пасьпеў Сэм зразумець таго, што ж такое яму паказваюць, як сьвятло ўжо сьцьмела й падалося, быццам зьбялелы Фрода ляжыць і сьпіць моцна пад вялізнаю чорнаю скалой. Потым пабачыў сябе ў доўгім цёмным праходзе, а тады на бясконцай лесьвіцы-вітуніцы. Уявілася выразна, што шукае нечага тэрміновага, надта патрэбнага, але чаго – так і ня ўцяміў. Выява зрушылася, бы сон, і зноў зьявіліся дрэвы. Але цяпер яны былі ня так блізка, як раней, і Сэм разабраў, што робіцца: гэта ня вецер церабіў галіны, гэта яны падалі разам з дрэвамі й ламаліся з храскам аб зямлю.

– Ну вы там! – раззлаваўся Сэм. – Гэна ж Тэд Пяшчак сячэ дрэвы! Ды хто яму дазволіў? Іх жа нельга секчы, яны растуць паабапал шляху ад млыну да Прырэчча, каб цянёк быў! Ну, патрапіў бы я зараз да яго, ну, я яму пасек бы!

Але раптоўна Сэм заўважыў, што й сам стары млын зьнік, а на ягоным месцы тырчыць вялікі будынак з чырвонай цэглы. Ля яго варушылася мноства народу. Побач вытыркнулася высачэзная цагляная труба печы. Чорны дым засьціў паверхню Люстэрка.

– Дурныя справы робяцца ў Шыры, – вымавіў Сэм. – Спадар Эльранд ведаў, што казаў, калі прапаноўваў адаслаць спадара Мэры дахаты.

Зьнянацку Сэм ускрыкнуў і адскочыў ад Люстэрка.

– Я не магу тут заставацца, – забалбатаў разьюшана. – Мне трэба дахаты, абавязкова. Яны скапалі Прыторбінскую слабаду, і мой стары цягнецца некуды ўніз па Строме з рухмацьцём у тачцы. Мне трэба дахаты!

– Ты ня здольны вярнуцца адзін, – запярэчыла панна. – Ты ж не хацеў вярнуцца дахаты без свайго гаспадара да таго, як зазірнуў у Люстэрка, хоць і ведаў, што ліхія рэчы могуць адбывацца ў Шыры? Памятай, што Люстэрка зьяўляе мноства рэчаў і падзеяў, час якіх не настаў. А мажліва, для некаторых і аніколі не настане, калі толькі

той, хто глядзіць у Люстэрка, ня збочыць з свайго шляху, каб прадухіліць іх. Люстэрка – вельмі недарэчны дарадца.

Сэм сеў на зямлю й абхапіў галаву рукамі.

– Каб мне аніколі не ўзбрыдала да галавы ані крочыць сюды, ані бачыць цудаў. Досыць мне чараў, не хачу болей! – выгукнуў і змоўк.

Праз момант загаварыў зноў, хрыпата, нібы стрымліваючы сьлёзы:

– Не, я вярнуся дахаты доўгаю дарожкаю, разам з спадаром Фрода, ці не вярнуся ўвогуле. Але ўсё-ткі спадзяюся, што вярнуся. І калі тое, што я пабачыў, праўда, дык камусьці мала ня здасца!

– Ці жадаеш зірнуць ты, Фрода? – спытала панна Галадрыель. – Я ведаю: ты ня прагнуў асаблівых эльфскіх чараў, задаволены тым, што ёсьць.

– Ці раіць спадарыня мне зрабіць гэта?

– Не. Я не хачу даваць табе аніякіх парадаў. Я – ня райца. Бо ты можаш даведацца добрае ці благое; мажліва, тыя веды будуць табе на карысьць, а можа, і не. Але ж лічы, што табе стае мудрасьці й мужнасьці, каб справіцца з тым, што ты пабачыш. Інакш я не прывяла б цябе сюды. Рабі, як пажадаеш!

– Я пагляджу, – вырашыў Фрода.

Узабраўся на п'едэстал ды глянуў у цьмяную ваду. Адразу ж паверхня праясьнілася й выступіла змрочная зямля. Далёка ўздымаліся чорныя цені гор. Наперадзе вілася доўгая шэрая дарога, зьнікаючы па-за межамі зроку. Здалёк на дарогу крочыла, павольна рушыла постаць, маленькая, няясная спачатку, але, наблізіўшыся, яна нарысавалася выразьней. Раптам Фрода зразумеў, што яна надта нагадвае Гэндальфа. Амаль ужо й вы гукнуў чараўнікова імя, але заўважыў: постаць апранутая ня ў шэрае, а цалкам у белае, якое крыху зьзяла ў прыцемках. У руцэ невядомы трымаў белы чараўнікоў кій. Галава была нахіленая так, што Фрода ня бачыў твару. А неўзабаве постаць збочыла з дарогі й зьнікла па-за межамі зроку. Сумнеў закраўся ў Фродаву душу: ці гэта Гэндальф падчас адной з сваіх шматлікіх самотных вандровак мінуўшчыны, ці Саруман?

Выява зьмянілася. На момант толькі й нібы здалёк, аднак вельмі ясна пабачыўся Більба, які неспакойна крочыў па сваім пакоі. На стале ў беспарадку валяліся паперы, па шкле звонка барабаніў дождж.

Потым, пасьля нядоўгай затрымкі, адна за адной праблiснулі сцэны, у якіх Фрода пазнаў урыўкі, блікі вялікай гісторыі, удзельнікам якой ён зрабіўся. Туман растачыўся, і перад хобітам раптам разьвінулася тое, чаго ён ня бачыў аніколі ў жыцьці, аднак пазнаў адразу, – мора. Мора, агорнутае цемрай. Уздыбленае хвалямі магутнага шторму. Зноў праз прарэху ў хмарах зьявілася сонца, заходнае, крывавае, высьвеціўшы чорныя абрысы высокага карабля, які з падранымі ветразямі несла прэч ад Захаду. Потым выявілася шырокая рака, якая цякла праз шматлюдны горад. Тады – белая крэпасьць зь сямю вежамі. І зноў карабель пад чорнымі ветразямі, але цяпер над ім зьзяла ранішняе сонца, пад ім зіхацела вада, і на стажары трапятаў сьцяг зь белым дрэвам. Узьняўся дым бітвы й пажарышчаў, сонца, спускаючыся, запалала крывёю дый зьнікла ў шэрым тумане, а з туману высьлізнуў, пакідаючы бераг, маленькі караблік, паблісваючы агеньчыкамі. Потым усё сьцьмела, і Фрода ўжо хацеў зьлезьці з п'едэстала.

Але раптоўна Люстэрка зрабілася зусім чорным, такім чорным, быццам у сьвеце адчынілася дзірка ў апраметнае нішто, пустую бездань. І ў ёй паўстала Вока. Яно расло, пакуль не запоўніла сабою ўсё Люстэрка. Гэткае жудаснае было яно, што Фрода здранцьвеў, ня здолеўшы ані выгукнуць, ані адвесьці вачэй. Апраўленае ў

полымя, было яно шклістым, па-кацінаму жоўтым, насьцярожаным, уважлівым, і чорная ягоная зрэнка была безданьню, вакном у нікуды.

Вока пачало круціцца туды й сюды, выглядваючы, і Фрода зразумеў, бессумнеўна, з жудасьцю, што сярод мноства рэчаў і істотаў, якія шукае Вока, ён – найпершы. Аднак таксама ведаў цьвёрда: яно яго ня ўбачыць, пакуль ён сам не дазволіць яму гэтага. Пярсьцёнак, які вісеў на ланцугу на Фродавай шыі, зрабіўся незвычайна цяжкім, цяжэйшым за буйны камень, і цягнуў, цягнуў уніз. Люстэрка, падавалася, разагрэлася, ад вады ўзьняліся языкі пары. Фрода нахіліўся.

– Не крані вады! – мякка папярэдзіла Галадрыель.

Выява сьцьмела, і Фрода зразумеў, што глядзіць на халодныя зоры, якія люструюцца ў срэбнай чары. Хобіт адышоў, дрыжучы ўсім целам, ды зірнуў на панну запытальна.

– Я ведаю, што ты пабачыў апошнім, – прамовіла яна, – бо яно таксама бачыцца й мне. Не палохайся! Ня думай, што толькі сьпевы сярод дрэваў ды тонкія трасьцінкі эльфскіх стрэлаў абараняюць зямлю Лорыйну ад Ворага. Я скажу табе, Фрода, што нават цяпер, размаўляючы з табою, я ўспрымаю Чорнага Ўладара й прадбачу ягоныя думкі – усё, што ён мяркуе пра эльфаў. А ён заўжды намагаўся й намагаецца адкрыць мяне, прадбачыць і разгадаць усе мае думкі. Але дзьверы яшчэ зачыненыя!

Яна падняла свае белыя рукі, павяла, як бы адхіляючы Ўсход, адгароджваючы яго. Эярэндыль, Вечаровая зорка, самая ўлюбёная эльфамі, праменіла над галавою. Так яскрава зьзяла яна, што нават ад панны па зямлі цягнуўся прыкметны цень. Зорныя прамяні сьлізнулі па пярсьцёнку на ейным пальцы – і той узблісreferences гладкім золатам, нібы перавіты срэбным сьвятлом. Белы камень зазіхцеў на ім, быццам сама Вечаровая зорка сышла зь нябёсаў, каб перадыхнуць на пальцы ў панны. У Фрода ажно дыханьне перахапіла, бо раптам зразумеў, што менавіта ён бачыць.

– Так, – пагадзілася яна зь ягонымі думкамі, – пра яго не дазволена распавядаць, і Эльранд ня мог сказаць вам гэтага. Але ж яго ня ўтоіш ад Ахоўніка найгалоўнейшага зь пярсьцёнкаў, ад таго, хто здолеў пабачыць Вока. Менавіта тут, у зямлі Лорыйну, на пальцы Галадрыелі спачывае адзін з Трох. Гэта Нэнья, Пярсьцёнак Дыяманту. Мне прызначана захоўваць яго. Вораг падазрае гэта, але дакладна ня ведае – пакуль што. Бачыш цяпер, твой прыход для нас – покліч лёсу. Бо калі ты ня выканаеш прызначае табе, мы застанемся бездапаможнымі перад Ворагам. А калі выканаеш – нашая моц паменшае, мы саслабнем, і Лорыйн паблякне, бо час зноў атрымае над ім уладу й зьнясе яго прэч. Нам давядзецца выправіцца на Захад ці вырадзіцца ў дробны народзец, які жыве, туляючыся па лясох і пячорах, каб павольна забываць тое, кім мы былі, і каб забыліся на нас.

– А чаго хацелася б вам? – спытаў Фрода, апусьціўшы вочы.

– Няхай споўніцца тое, што наканавана. Любоў эльфаў да сваёй зямлі й працы сваіх рук глыбейшая за найглыбейшае мора, іхняе гора аніколі не забываецца, і смутак іхні й тугу амаль немагчыма загаіць цалкам. Але ж яны хутчэй адмовяцца ад усяго, чым пакланяцца Саўрону, бо цяпер яны яго ведаюць. І ты не адказны за лёс Латлорыйну – толькі за тое, што ўзяўся выканаць. А ўсё ж як хацела б я, хоць і марнае тое пажаданьне, каб Адзіны Пярсьцёнак аніколі ня быў скаваны ці так ніколі й не знайшоўся б.

– Вы – мудрая, бясстрашная, прыгожая, спадарыня Галадрыель, – вымавіў Фрода. – Калі вы папрасілі б мяне аддаць пярсьцёнак вам, я аддаў бы. Несьці яго – мне не пад сілу.

Галадрыель нечакана засьмяялася чыстым, празрыстым сьмехам.

– Хоць і мудрая панна Галадрыель, – сказала яна, – але ж сустрэла роўню сабе ў ветлівасьці. Як далікатна ты адпомсьціў мне за тое, што я зазірнула ў тваё сэрца падчас нашай першай сустрэчы! Ты пачынаеш бачыць, як мудры. Доўгія гады меркавала я, што ж зрабіла б, калі б Уладарны Пярсьцёнак патрапіў да мяне, – і вось ты сам прынёс яго мне. Зробленае ліхам дзеля ліха ў даўніну цяпер жыве само па сабе, незалежна ад таго, у моцы сам Саўрон ці зрынуты. Можа, яно паслужыць і іншаму? Калі б я сілаю ці запалохваньнем адняла пярсьцёнак у майго госьця, я толькі памножыла б ліха, зробленае праз яго й дзеля яго. Але адбываецца неверагоднае: ты сам, з уласнай волі жадаеш аддаць мне пярсьцёнак! І замест Чорнага Ўладара ты ўзьвядзеш на пасад панну! Ня чорную, але ж асьляпляльна прыгожую, нібы раніцу, і жудасную, нібы апраметная ноч! Сьветлую, як мора, як сонца, як сьнег на гарах! Страшную, бы навальніца, бы маланка! Мацнейшую за зямныя карані! Усе любілі б мяне – нязбыўна, безвыходна!

Яна ўзьняла руку, і зь пярсьцёнка над ёй зазьзяла магутнае сьвятло, якое высьветліла адну яе, пакінуўшы ўсё астатняе ў змроку. Цяпер яна падалася Фрода неверагодна высокай, невыносна, неадольна прыгожай, жудаснай – і зіхоткай сьвятым храаством. Тады апусьціла руку – і сьвятло згасла. Зьнянацку засьмяялася зноў і – пабач! – зноўзрабілася былой: зграбнай эльфскай паненкай, апранутай у простае белае адзеньне, і голас яе загучаў ціха й сумна.

– Я прайшла выпрабаваньне, – сказала яна. – Я прыніжуся, сыду на Захад і застануся проста Галадрыеляй.

Доўга яны стаялі моўчкі. Нарэшце панна загаварыла зноў.

– Трэба вяртацца. Раніцой вы мусіце сыходзіць, бо цяпер мы абралі свае шляхі й плыня лёсу ўжо нясе нас.

– Я хачу спытаць яшчэ вось што, – азваўся Фрода, – я часьцяком намерваўся спытаць гэта ў Гэндальфа шчэ ў Долым Яры, дый так і не спытаў. Я магу насоўваць Адзіны Пярсьцёнак. Чаму ж я зь ім ня бачу астатніх пярсьцёнкаў, не магу чытаць думак тых, хто іх носіць?

– Ты не спрабаваў. З таго часу, як ты даведаўся пра свой пярсьцёнак, ты толькі тройчы насоўваў яго. І не спрабуй, бо спроба зьнішчыць цябе! Ці не казаў табе Гэндальф, што пярсьцёнкі даюць моц адпаведна той моцы, якую ўжо маюць іх носьбіты? Каб выкарыстаць усе мажлівасьці пярсьцёнка, табе трэба зрабіцца нашмат мацнейшым, дый прызвычаіцца ўладарыць над іншымі. Нават і цяпер праз тое, што ты носіш яго, насоўваў і бачыў захаванае ад сьмяротнага вока, твой зрок зрабіўся нашмат вастрэйшым. Ты прадбачыў мае думкі ясьней за многіх, каго лічаць мудрымі. Ты ўбачыў Вока таго, хто валодае Сямю й Дзевяцьцю. Да таго ж ці ня здолееў ты пабачыць і пазнаць пярсьцёнак на маім пальцы? Ці бачыў ты мой пярсьцёнак? – спытала яна, павярнуўшыся да Сэма.

– Не, спадарыня, – адказаў той. – Папраўдзе кажучы, я й ня цямлю, пра што гэта вы. Я бачыў, як зорка зазьзяла скрозь вашыя пальцы. Але ж калі вы даруеце мне шчырасьць, дык вось што я скажу: рацыя ў майго гаспадара. Каб вы толькі ўзялі гэны пярсьцёнак! Вы хутка ўладкавалі б справы. Вы не далі б ім выкідваць з хаты майго старога дый гнаць невядома куды. Вы прымусілі б некаторых адказаць за псоту!

– Так я й зрабіла б, – згадзілася панна. – З таго ўсё й пачалося б. Аднак, на жаль, на гэтым ня скончылася б. Ня будзем пра тое болей. Хадзем!

## *8. Разьвітаньне з Лорыйнам*

Гэтым вечарам Зьвяз Пярсьцёнка зноў паклікалі ў залю Келебарна, і там пан з паннай ушанавалі гасьцей ветлымі словамі. Урэшце Келебарн загаварыў пра сыход.

– Цяпер надышоў час, калі тыя, што жадаюць далей несьці прынятую ношу, мусяць зьмірыцца з тугою й пакінуць зямлю Лорыйну. Тыя, хто болей ня хоча рушыць наперад, могуць на пэўны час застацца тут. Але ж застануцца яны ці не, упэўненасьці ў спакоі ня будзе. Бо цяпер мы на самым краі нашага лёсу. Тыя, што застануцца, могуць дачакацца, пакуль шляхі сусьвету адчыняцца зноў, альбо ім давядзецца разам з намі паўстаць супраць Ворага. Толькі тады яны здолеюць вярнуцца ў родныя дамы – ці ў абсяжны дом усіх тых, хто загінуў у бітве.

Павісла цішыня.

– Яны ўсе вырашылі рушыць наперад, – паведаміла Галадрыель, зірнуўшы ім у вочы.

– Для мяне дом наперадзе, не за сьпінай, – дадаў Барамір.

– Гэта так, – пагадзіўся Келебарн, – але ж ці ўсе пойдуць з табою ў Мінас Тырыт?

– Мы яшчэ ня вызначыліся з нашым шляхам, – азваўся Арагорн. – Я ня ведаю, што Гэндальф намерваўся рабіць пасьля Лорыйну. Насамрэч, мне падаецца, што нават у яго самога не было дакладнага ўсьведамленьня.

– Мажліва, не, – вымавіў Келебарн, – але ж калі вы пакінеце нашую зямлю, вы наўрад ці здолееце аддаліцца ад Вялікай ракі. І, як некаторыя з вас добра ведаюць, паміж Лорыйнам і Гондарам вандроўнікам з пакладаю пераправіцца немагчыма, хіба што на чоўне. Ці ж не разбураныя цяпер масты ў Азгіліяце, ці не трымае ўсе подступы да пераправаў Вораг? Па якім баку ракі вы жадаеце вандраваць? Шлях да Мінас Тырыту йдзе па правым, але ж найкарацейшая дарога да вашай мэты ляжыць на ўсход ад ракі, на азмрочаным беразе. Па якім жа рушыць вам?

– Калі маё слова тут важыць, дык я за заходні бераг, за дарогу ў Мінас Тырыт, – сьцьвердзіў Барамір, – але ж ня я тут ачольца.

Астатнія прамаўчалі, а Арагорн зірнуў занепакоена, з сумневам.

– Бачу, вы яшчэ ня вырашылі, што рабіць, – падсумаваў Келебарн, – выбіраць за вас – не мая справа, але я дапамагу вам з выбарам. Сярод вас ёсьць тыя, хто ведае чаўнярства: Ляголас, праз краіну якога плынее хуткая Лясная рака, ды Барамір з Гондару й сталы вандроўнік Арагорн.

– І адзін з хобітаў! – выгукнуў Мэры. – Ня ўсе з нас глядзяць на чоўны, як на дзікіх коней. Мае суродзічы жывуць па берагах Бранявіну.

– Гэта файна, – зазначыў Келебарн. – Тады я дам вам чоўны, невялікія й лёгкія, бо калі вы далёка спусьціцеся па рацэ, будуць месцы, дзе чоўны давядзецца несьці на руках. Вы можаце сягнуць быстракоў Сарн Гебіру ды, мажліва, нават вялікіх вадаспадаў Рэрасу, дзе рака абрынаецца ўніз з Нэн Хітуэ. Таксама сустрэнуцца й іншыя перашкоды. На пэўны час чоўны значна палегчаць вашае падарожжа. Але ж урэшце вам давядзецца іх пакінуць, і раку таксама, дый павярнуць на захад ці на ўсход.

Арагорн шмат разоў падзякаваў Келебарну. Такі падарунак надта паменшыў ягоны клопат – хоць бы таму, што адкладваў апошні выбар на колькі дзён. Астатнія таксама ўзрадаваліся. Якія небясьпекі ні чакалі б наперадзе, лепей плысьці насустрач ім па шырокай плыні Андуйну, чым цягнуцца, сагнуўшыся пад цяжарам заплечнікаў. Толькі Сэм трошкі сумняваўся: ён шчыра лічыў чоўны ня меней небясьпечнымі за

дзікіх коней, ці нават горш, і ўсе перажытыя беды не палепшылі ягоных думак пра чоўны.

– Для вас усё зладзяць і падрыхтуюць у завані да полудня, – паабяцаў Келебарн, – зранку я пашлю колькі паслужнікаў, каб дапамаглі вам сабрацца й падрыхтавацца. А цяпер мы зычым усім дабраначы й спакойнага сну.

– Дабранач, мае сябры! – вымавіла Галадрыель. – Сьпіце спакойна! Не турбуйце сэрцы думкамі пра заўтрашнюю дарогу. Магчыма, шляхі, якімі крочыць кожны з вас, ужо леглі вам пад ногі, хоць вы іх яшчэ ня бачыце. Дабранач!

Сябры Зьвязу пакінулі каралеўскую залю й вярнуліся да свайго намёту. Ляголас – зь імі, бо ў апошнюю ноч у Лорыйне, насуперак парадзе Галадрыелі, усе пажадалі абмеркаваць далейшае падарожжа.

Абмяркоўвалі доўга, спрачаліся, куды ісьці ды як зьдзейсьніць задуманае зь пярсьцёнкам, але канчаткова так анічога й ня вырашылі. Відавочна, большасьць хацела перш за ўсё патрапіць у Мінас Тырыт, адцягнуўшы гэткім чынам хоць на колькі шлях да варожага ценю. Вядома, усе пайшлі б за правадыром і за раку, у мордарскі змрок, але Фрода так і ня вымавіў ні слова, і Арагорн аніяк ня мог адолець сумневы.

Калі б Гэндальф заставаўся зь імі, Арагорн, як і плянаваў, выправіўся б разам з Барамірам, несучы свой меч на дапамогу Гондару. Бо ён верыў, што пасланьне ў снах было заклікам і што настаў час нашчадку й спадчыньніку Элендыля выступіць і аспрэчыць магутнасьць Саўрона. Але ў Морыі цяжкая Гэндальфава ноша легла на ягоныя плечы, і ён ведаў цяпер, што ня мае права пакінуць пярсьцёнак і ягонага захавальніка, калі Фрода адмовіцца ісьці разам з Барамірам. Аднак якая ж карысьць Фрода ад яго ці любога іншага з усяго Зьвязу ў Мордары? Хіба што разам сьлепа крочыць у цемру?

– Я пайду ў Мінас Тырыт, на самоце – калі давядзецца йсьці аднаму, бо тое мой абавязак, – сьцьвердзіў Барамір і пасьля таго сядзеў моўчкі пэўны час, не адводзячы вачэй ад Фрода, нібы намагаючыся прачытаць хобітавы думкі.

Нарэшце загаварыў зноў, напаўголасу, быццам спрачаючыся сам з сабою:

– Калі мы жадаем толькі зьнішчыць пярсьцёнак, тады нам і ад ваярскай моцы, і ад зброі мала карысьці, і людзі Мінас Тырыту – не дапамога. Але ж калі мы жадаем зьнішчыць збройную моц самога Чорнага Ўладара, тады глупства рушыць у ягоную зямлю бяз моцнага войска. Апрача таго, вядома, гэта проста дарма выкінуць... – тут ён прыпыніўся зьнянацку, зразумеўшы, што кажа ўголас, і дадаў пасьпешліва: – Дарма выкінуць жыцьцё. Бо ёсьць розьніца паміж абаронаю магутнай крэпасьці й адкрытым рушэньнем у самую пашчу сьмерці. Менавіта так я гляджу на гэта.

Фрода заўважыў нешта новае, крыху дзіўнаватае ў Бараміравым позірку й зірнуў на яго строга ў адказ. Відавочна, апошнія словы Бараміра наўрад ці адпавядалі ягоным думкам. "*Проста дарма выкінуць...*" – што выкінуць? Ці не Пярсьцёнак Улады? Нешта падобнае казаў ён і на Радзе ў Эльранда, хоць потым, падавалася, прыняў Эльрандавы тлумачэньні. Фрода глянуў на Арагорна, аднак той паглыбіўся ва ўласныя думкі й анічым ня выказаў, што пачуў Бараміравы словы. На тым гутарка й скончылася. Мэры зь Піпінам ужо спалі, дый Сэм дзюбаў носам. Была ўжо позьняя ноч.

Раніцою, калі сябры пакавалі свае небагатыя прыпасы, прыйшло колькі эльфаў, якія валодалі агульнай мовай, і прынесьлі шмат еміны ды вопратку для падарожжа. Ежа пераважна складалася з танюткіх блінцоў, запечаных да сьветла-бурага колеру звонкі, а знутры яны мелі колер вяршкоў. Гімлі ўзяў адзін з сумневам.

– Ну, сухар, – прабурчэў пад нос, адламіў хрусткі кавалачак з краю ды кінуў у рот.

Выраз ягонага твару адразу зьмяніўся, і ён зь відавочнай асалодаю схрупаў блінец цалкам.

– Не, не, болей ня трэба! – засьмяяліся эльфы. – Ты ўжо зьеў дастаткова для дзённага пераходу.

– Я думаў, гэта нейкія сухары, жаўло, накшталт тых, якія дольскія людзі пякуць на далёкія вандроўкі па Дзіказем'і.

– Яны менавіта такія, – адказалі эльфы, – мы завем іх *лембас*, альбо падарожны хлеб. Яны ўзбадзёрваюць і сілкуюць болей за любую чалавечую ежу і ва ўсялякім выпадку на смак значна прыемнейшыя за тое жаўло.

– Сапраўды, – пагадзіўся Гімлі. – Гэта нават лепей за мядовае печыва Беарнінгаў, і тое вялікая пахвала, бо Беарнінгі – найлепшыя пекары з усіх, якіх я толькі ведаю. Але ж яны цяпер ня надта ахвотна даюць сваё печыва вандроўнікам. Вы ж – сапраўды гасьцінныя гаспадары!

– Яно мо й так, – адказалі тыя, – але ж, калі ласка, беражыце іх. Сілкуйцеся пакрыху й толькі дзеля скрайняй патрэбы. Бо яны дадзеныя вам, каб дапамагчы, калі ўсё іншае ўжо ня здольнае. Яны не счарсьцьвеюць цягам многіх дзён, калі іх не ламаць і захоўваць у лістах, у якія яны загорнутыя цяпер. Аднаго блінца дастаткова, каб трымаць вандроўніка на нагах дзень цяжкага пераходу, нават калі гэты вандроўнік – высокі й дужы чалавек зь Мінас Тырыту.

Тады эльфы разгарнулі й далі кожнаму зь Зьвязу прынесеную вопратку – плашч з каптуром, зроблены адпаведна памеру, з тонкай, але цёплай шаўкавістай тканіны, вырабленай галадрымамі. Цяжка было сказаць, якога плашчы колеру. Падаваліся зялёнымі, адценьня вечаровага змроку пад дрэвамі, а калі іх зрушвалі ці калі сьвятло падала на іх па-іншаму, рабіліся густа-зялёнымі, бы зацененае лісьце, ці бурымі, як узараная зямля ноччу, ці цёмна-срэбнымі, нібы вада ў зорным сьвятле. Кожны ля шыі зашчапляўся фібулай у выглядзе зялёнага ліста з жылкамі срэбра.

– Гэта чароўныя плашчы? – зацікавіўся Піпін.

– Ня ведаю, што значыць для цябе слова *чароўныя*, – адказаў ачольца эльфаў, – але ж яны сапраўды файныя, і ткацтва выдатнага, бо зробленыя ў гэтай зямлі й дзеля яе. Яны сапраўды эльфскія, калі ты гэта хочаш пачуць. Яны ўвабралі ў сябе адценьне й хараство лорыйнскага сутоньня, усяго, што мы любім у нашай зямлі: гальлё й лісьце, вада й камяні. Бо мы надзяляем сваёй любоўю да ўсяго навокал рэчы, якія робім. Але ж гэтыя плашчы – вопратка, не браня. Яны не адхіляць стралу ці лязо. Тым ня меней добра вам паслужаць: бо й лёгкія, і цёплыя, і прахалодныя – паводле патрэбы. А яшчэ яны надта дапамогуць схавацца ад варожых вачэй, і сярод скалаў у гарах, і ў лесе. Ласка панны да вас надзвычайная, бо яна сама з сваімі паненкамі ткала іх! Аніколі раней не апраналі мы чужынцаў у адзеньне нашага народу.

Пасьнедаўшы, вандроўнікі разьвіталіся з палянаю ля фантану. Сэрцы маркоціліся ростаньню з найпрыгажэйшай мясьцінкай, якая зрабілася што ўласная хата, хоць сябры й падлічыць не маглі, колькі дзён пражылі тут. Калі падарожнікі стаялі нерухома, пазіраючы на ваду, зіхоткую пад сонцам, па зялёнай траве паляны да іх падышоў Хальдыр. Фрода павітаў яго зь вялікай радасьцю.

– Я вярнуўся ад паўночных межаў, – вымавіў эльф, – і зноў прызначаны вашым правадыром. Дымрыльская даліна ўся запоўненая парай і аблокамі дыму, і горы занепакоіліся. Нешта грукоча ў глыбінях. Калі б вы жадалі вярнуцца дахаты

паўночным шляхам, дык наўрад ці здолелі б перасекчы горы. Але ж хадзем! Цяпер ваш шлях на поўдзень.

Зялёныя сьцежкі Карас Галадхану пуставалі, але на дрэвах над галовамі мноства галасоў шапталася ды сьпявала. Самі вандроўнікі крочылі моўчкі. Нарэшце спусьціліся за Хальдырам па паўднёвым схіле пагорку й зноў пабачылі вялікую браму, абвешаную ліхтарамі, і белы мост. Перайшлі яго – і назаўсёды пакінулі горад эльфаў. Тады збочылі з брукаванкі й рушылі па сьцежцы, што вяла праз шчыльную купу мэларнаў і далей, з пагорку на пагорак, у срэбным цені, усё ўніз і ўніз, на поўдзень і на ўсход, да берагоў Вялікай ракі.

Сябры прамінулі калі дзесяці вёрстаў і ўжо блізу полудня сягнулі высокай зялёнай сьцяны. Прайшоўшы праз прахон у ёй, раптам патрапілі на адкрытае месца. Перад падарожнікамі раскінулася доўгая паляна, зарослая сакавітай травой, сярод якой там і тут праблісквалі пад сонцам залацінкі эланораў. Паляна станчалася ў вузкую паўвыспу паміж дзьвюма рэкамі: праваруч, на захадзе, плынела, паблісківаючы, Срабрынка; леваруч, на ўсходзе, нёс змрочныя, цёмныя воды шырокі Андуйн. За рэкамі лес цягнуўся на поўдзень да самага далягляду, але ж берагі былі бляклыя й голыя. Аніводнай абсыпанай золатам галіны мэларну не ўздымалася за межамі цудоўнай зямлі Лорыйну.

На беразе Срабрынкі, на пэўнай адлегласьці ад зьліцьця рэк, узвышаўся прыпаромак зь белага каменю й дрэва. Да яго было прывязана шмат чоўнаў і баркаў. Некаторыя – размаляваныя, зьзялі срэбрам, золатам і зеленьню, але большасьць – белыя ці шэрыя. Тры маленькія шэрыя чоўнікі чакалі вандроўнікаў, у іх эльфы ўжо пасклáдвалі пакладу. Дадалі скруткі вяроўкі, па тры на кожны човен. Вяроўка тая, хоць і тонкая, была моцная, шаўкавістая навобмацак, шараватая колерам, як эльфскія плашчы.

– І што ж гэта такое? – Сэм падняў скрутак з травы.

– Вяроўка, вядома! – адказаў адзін з эльфаў, якія грузілі чоўны. – Ніколі не выпраўляйцеся далёка безь вяроўкі, асабліва лёгкай, доўгай ды моцнай. Такой, як гэтая. Яна шмат дзе вам дапаможа.

– Ну, гэта мне казаць ня трэба! – прабурчэў Сэм. – Як я выправіўся безь вяроўкі, дык увесь час на душы спакою не было. Але ж надта мне цікава, з чаго яе вырабілі. То ж бо вяроўкі, так бы мовіць, у мяне накшталт сямейнага рамяства.

– Яны зробленыя з хіфлайну, – патлумачыў эльф, – але ж цяпер няма часу навучаць вас таму, як яны вырабляюцца. Калі б мы ведалі, што гэтае рамяство табе даспадобы, мы патлумачылі б падрабязна. Але, на жаль, давядзецца задаволіцца нашым падарункам, калі, вядома, табе не пашанцуе вярнуцца сюды. Няхай ён добра табе паслужыць!

– Хадзем! – абвесьціў Хальдыр. – Усё цяпер падрыхтаванае. Сядайце па чоўнах. Але ж спачатку ўважліва ды асьцярожна!

– Так, так, – пацьвердзілі астатнія эльфы, – чоўны гэтыя надта лёгкія, дый з норавам, ані ў якога народу болей такіх няма. Колькі вы ў іх ні пакладзяце, яны не патонуць, але ж яны даволі няўстойлівыя, трэба ўмець зь імі ўпраўляцца. Разумна было б, каб вы папрактыкаваліся сядаць у іх і выходзіць прама тут, у прыстані, перад адплыцьцём.

Вандроўнікі падзяліліся па чоўнах гэткім чынам: у першым – Арагорн ды Фрода з Сэмам, у другім – Барамір зь Піпінам і Мэры, у апошнім – Гімлі зь Ляголасам, якія моцна сьсябраваліся. У апошні човен паклалі большасьць прыпасаў. Рухаліся чоўны

пры дапамозе кароткіх вёслаў з шырокімі, лістападобнымі лаптырамі. Калі ўсё падрыхтавалі, Арагорн вывеў усіх на спробны заплыў угару па Срабрынцы. Плынела яна хутка, і рухаліся павольна. Сэм сядзеў на носе, учапіўшыся абедзьвюма рукамі за борты, дый журботна пазіраў на берагі. Сонечныя прамяні, люструючыся ад вады, сьляпілі яму вочы. Праплылі зялёную паляну паўвыспы, і паабапал паўсталі дрэвы – ушчыльную да берагу. Там і тут у бурлівай плыні круціліся й кружлялі залатыя лісты. Вецер не кранаў ані галінкі, сонца зьзяла зырка, і над лесам і ракою вісела цішыня – толькі недзе далёка сьпявалі жаўрукі.

Рэзка павярнулі, і з-за павароту насустрач выплыў вялізны ганарлівы лебедзь з выгнутай шыяй. Вада ўсьпеньвалася пад ягонымі белымі грудзьмі. Дзюба палала чыстым золатам, вочы блішчэлі бурштынамі з чорным крышталём пасярэдзіне, велізарныя белыя крылы былі паўпаднятыя. Разам зь ім музыка плынела ўніз па рацэ, і зьнянацку вандроўнікі пабачылі, зразумелі: гэта карабель, з эльфскім майстэрствам выбудаваны, вычасаны на падабенства птушкі. Два эльфы ў белым кіравалі ім чорнымі вясельцамі. Пасярод карабля сядзеў Келебарн, а за ім стаяла Галадрыель, высокая, белая, зь вянком залатых кветак у валасах. У руках яна трымала арфу – і сьпявала. Сумна й соладка ліўся яе сьпеў у прахалодным празрыстым паветры.

*Я сьпявала пра лісьце, пра золата лісьця – і залатыя лісты прарасьлі,*
*Я сьпявала пра ветрыў галінах – і задзьмулі яны, і да мяне прыйшлі,*
*Шчэ да сонца й поўні пляскалі за морам, гралі пенныя хвалі,*
*І за берагам Ільмарыну галіны Залатога Дрэва зазьзялі,*
*Зазьзялі пад зорамі Пракавечча ў Эльдамары белым,*
*За сьценамі Тырыёну зазьзялі калосьсем сьпелым.*
*Там калісь залатыя лісты прарасьлі на галінах гадоў,*
*А тут, за Забаронным морам, да нашых сьлёзаў мяшаецца кроў.*
*О Лорыйн! Прыходзіць зіма цяжарам гадоў да маіх плеч,*
*Залатыя лісты лятуць у раку, і рака зносіць іх прэч.*
*О Лорыйн! Надта доўга на гэтым беразе я жыла,*
*У карону пабляклую залаты эланор я ўпляла.*
*Але ж калі час надышоў мне сьпяваць пра караблі,*
*Дзіўлюся: дзе ж той, што мяне панясе да Неўміручай зямлі?*

Арагорн прыпыніў човен, калі карабель-лебедзь параўняўся зь ім. Панна, дасьпяваўшы, павітала ўсіх.

– Мы прыйшлі сказаць апошняе слова разьвітаньня, – вымавіла яна, – і пажадаць вам добрай дарогі.

– Хоць вы былі нашымі гасьцямі, – сказаў Келебарн, – вам не давялося пабаляваць разам з намі, і таму мы запрашаем вас на разьвітальную бяседу тут, паміж хуткімі водамі, якія зьнясуць вас далёка ад Лорыйну.

Лебедзь павольна мінуў іх, кіруючы да прыпаромку, і яны павярнулі чоўны ўвасьлед. Там, у самым версе паўвыспы, Эгладылу, на зялёнай траве й адбылася разьвітальная бяседа. Аднак Фрода еў ды піў зусім крыху, зачараваны хараством панны Галадрыель, ловячы толькі яе голас. Яна болей не падавалася ані пагрозьлівай, ані жудаснай, ані напоўненай злавеснай прытоенай моцай. Але такой, як часам бачаць эльфаў людзі пазьнейшых дзён: прысутнай, яўнай, але ўжо далёкай, жывой выявай таго, што даўно зьнёс няспынны струмень часу.

Калі яны паелі, седзячы на траве, Келебарн зноў загаварыў пра іх вандроўку ды, узьняўшы руку, паказаў на паўднёвыя лясы за Эгладылам.

– Спускаючыся па рацэ, хутка ўбачыце, што лес сканчаецца й рака плынее сярод запустэчаных краёў па камяністай даліне сярод высокіх пагор'яў і праз мноства міляў нарэшце сягае высачэзнай Крамень-выспы, якую мы клічам Тол Брандыр. Там, разгаліноўваючыся ля стромых берагоў выспы, рака абрынаецца з моцным грукатам, у клубах пары ў пашчу Рэрасу й далей цячэ праз Ніндальф, ці Ваглянку на вашай мове. Гэта абсяжная краіна гразкіх чароцішчаў, дзе рака падзяляецца на мноства прытокаў і шмат пятляе. Там Энтуя, якая выцякае зь лесу Фангарн на захадзе, упадае мноствам рукавоў у Андуйн. Ля Энтуі, па гэтым беразе Вялікай ракі, ляжыць Рохан. На другім беразе – бляклыя пагоркі Эмін Мюйлу. Там ветры дзьмуць з усходу, бо пагор'е тое паглядае на Мерцьвяковую багну й пустэчы, на якіх ніхто не жыве, і за імі – на Кірыт Гаргар і чорную Браму Мордару. Бараміру й усім тым, хто абярэ разам зь ім шлях у Мінас Тырыт, лепей пакінуць Вялікую раку яшчэ да Рэрасу й перасекчы Энтую да таго, як яна сягне багнаў. Але ж вам ня варта падымацца далёка па той рацэ, ані рызыкаваць блуканьнем па лесе Фангарн. Гэта дзіўная й небясьпечная зямля, і цяпер пра яе вядома няшмат. Упэўнены: Бараміру з Арагорнам пра гэта ня трэба шмат распавядаць.

– Так, сапраўды, мы чулі шмат пра лес Фангарн у Мінас Тырыце, – пацьвердзіў Барамір, – але тое, што чуў я, выдае на байкі старых бабак, якія палохаюць нашу малечу. Усё на поўнач ад Рохану цяпер гэтак далёка ад нас, што ўяўленьню анішто не перашкаджае вольна бегчы праз тыя землі. У даўніну Фангарн ляжаў на памежжы нашых земляў, але ж цягам жыцьця мноства пакаленьняў аніхто з нас не наведваў яго, каб пацьвердзіць ці абвергнуць паданьні мінулых стагодзьдзяў. Сам я раз-пораз бываў у Рохане, хоць аніколі не сягаў ягоных паўночных межаў. Па дарозе ў Долы Яр я праехаў Брамай Рохану, абмінуўшы адгор'і Белых гор, пераправіўся праз рэкі Ізен і Шэраводзьдзе. Доўгая сталася й стамляльная вандроўка. Дзьве з паловай сотні міляў налічыў я, і занялі яны шмат месяцаў, бо я страціў свайго каня на Тарбадзе, перапраўляючыся цераз Шэраводзьдзе. Пасьля той вандроўкі ды пасьля ўсіх шляхоў, якія я прайшоў разам зь Зьвязам Пярсьцёнка, не сумняюся: я знайду шлях дахаты і праз Рохан, і праз Фангарн, калі спатрэбіцца.

– Тады мне няма чаго болей казаць пра тое, – сьцьвердзіў Келебарн. – Аднак не пагарджайце мудрасьцю, якая прыйшла да вас праз мноства гадоў, бо часьцяком толькі ў памяці старых і захоўваюцца апошнія словы пра тое, што калісьці неабходна было ведаць мудрым.

Галадрыель паднялася з травы, узяўшы келіх у адной з сваіх паслужніцаў, напоўніла яго белым мёдам і дала Келебарну.

– Надышоў час выпіць з келіху разьвітаньня, – прамовіла яна. – Пі, Гаспадар Галадрымаў! І няхай тваё сэрца не засмуціць, хоць за ўсялякім полуднем калісьці прыходзіць ноч, і нашае сутоньне ўжо не за гарамі.

Тады яна паднесла келіх кожнаму зь Зьвязу, запрашаючы іх выпіць і разьвітваючыся. Але ж калі яны выпілі, загадала зноў пасесьці на траву, а сама з Келебарнам апусьцілася ў прынесеныя фатэлі. Яе паслужніцы моўчкі стаялі побач, і панна таксама пэўны час маўкліва глядзела на гасьцей. Нарэшце загаварыла.

– Мы адпілі напою разьвітаньня, і цень ужо лёг паміж намі. Але ж затрымайцеся крыху, бо я прывезла на сваім караблі падарункі, якія пан і панна галадрымаў прапаноўваюць вам на памяць пра Латлорыйн.

Потым Галадрыель зьвярнулася да кожнага асабіста.

– Вось падарунак Келебарна й Галадрыелі правадыру Зьвязу, – мовіла да Арагорна й дала яму похвы, выраблены пад ягоны меч, дзівосныя, абкладзеныя карункам у выглядзе лісьця й кветак з срэбных і залатых нітак, а яшчэ на похвах былі эльфскія руны з каштоўных камянёў – імя меча, Андарыль, і ягоны радавод.

– Меч, выцягнуты з гэтых похваў, ані папсуецца, ані зламаецца нават падчас паразы, – паведаміла панна. – Але ж распавядзі мне: ці не жадае тваё сэрца яшчэ чаго ад мяне ў час разьвітаньня? Бо змрок цяпер паплынее між намі, і, мажліва, нам не давядзецца сустрэцца зноў, апрача як на тым далёкім шляху, адкуль няма вяртаньня.

– Панна, вы ведаеце прагу майго сэрца, – адказаў Арагорн. – Вы доўга захоўвалі адзіную каштоўнасьць, якую я шукаю. Але ж ані ў вашай волі аддаць яе мне, калі б вы й пажадалі. Толькі празь цемру здолею я сягнуць яе.

– Тады, магчыма, гэта асьвятліць твой шлях і тваё сэрца, – вымавіла Галадрыель, – бо гэта пакінулі мне, каб я аддала табе, калі толькі табе надарыцца прайсьці праз нашую зямлю.

І яна працягнула яму чысты, глыбокай зелені смарагд на срэбнай фібуле, выкаванай на падабенства арла з распасьцёртымі крыламі, і калі панна падняла камень, ён успыхнуў, нібы сонца празь веснавое лісьце.

– Гэты камень я дала сваёй дачцэ, Келебрайн, а яна – сваёй, а цяпер ён твой – як сымбаль нашай надзеі. У гэты час прымі ж імя, прадказанае табе: Элесар, Смарагд з роду Элендыля!

Тады Арагорн прыняў камень і прычапіў фібулу на грудзёх, і ўсе вакол зьдзівіліся: бо не заўважалі раней, які па-каралеўску высокі й велічны ён, і падалося, што мноства гадоў цяжкіх змаганьняў спалі зь ягоных плячэй.

– Я дзякую вам, панна, за вашыя дарункі, – адказаў ён. – О гаспадарыня Лорыйну, ад якой прыйшлі ў гэты сьвет Келебрайн і Арвэн Вечаровая Зорка! Ці ж магчыма ўхваліць вас болей?

Панна пакланілася яму й павярнулася да Бараміра. Яму дала залаты пас. Піпіну ж і Мэры – срэбныя папружкі з спражкамі – залатымі кветкамі. Ляголасу – лук галадрымаў, даўжэйшы й мацнейшы за ліхалескі, ды з струною зь пераплеценых эльфавых валасоў. Разам зь ім і сагайдак з стрэламі.

– Табе, мой маленькі садоўніча, аматар дрэваў, – зьвярнулася да Сэма, – у мяне невялікі падарунак.

І паклала ў ягоныя рукі маленькую скрынку з гладкай шэрай драўніны, зусім неўпрыгожаную, апрача адзінай срэбнай руны на вечку.

– "Г" – азначае "Галадрыель", але на тваёй мове можа азначаць і "гаспадарку", і "гарод". У скрынцы зямля з майго садка, дый тое добраславеньне, якім Галадрыель яшчэ здольная надзяліць зямлю. Яно не дапаможа табе вытрываць твой шлях ці ўратавацца ад небясьпек, але ж калі ты захаваеш гэтую скрынку й нарэшце вернесься на родную зямлю, тады, магчыма, яна ўзнагародзіць цябе. Хоць ты знайшоў бы ўсё навакольле запустэчаным і панішчаным, няшмат якія сады ў Міжзем'і расквітнеюць лепей за твой, калі ты толькі пасыплеш яго гэтай зямлёю. Тады мо ўзгадаеш на Галадрыель і перад табою праблісьне далёкі Лорыйн, які ты бачыў толькі зімою. Бо вясна нашая й лета даўно мінулі й аніколі ня вернуцца на зямлю – хіба толькі ў памяці.

Сэм пачырванеў да вушэй і прамармытаў нешта няўцямнае, сьціснуўшы скрынку й намагаючыся пакланіцца як мага прыстойней.

– А якога ж падарунку пажадае гном ад эльфаў? – павярнулася Галадрыель да Гімлі.

– Аніякага, мая панна, – адказаў той. – Для мяне дастаткова пабачыць панну галадрымаў і пачуць яе добрыя словы.

– Слухайце, усе эльфы! – усклікнула яна, зьвяртаючыся да ўсіх побач зь ёю. – Няхай аніхто болей ня скажа, што гномы прагныя й няветлівыя! Але ж, упэўненая, о Гімлі, сын Глойна, ты жадаеш нечага, што ў маёй моцы падараваць? Агуч сваё жаданьне, калі ласка! Ты не застанесься адзіным госьцем без падарунку!

– Нічога, зусім нічога, спадарыня Галадрыель, – вымавіў Гімлі, пакланіўшыся нізка дый запінаючыся. – Анічога, апроч хіба... ну, калі б мне дазволілі папрасіць... папрасіць адзіны ваш волас. Бо вашыя валасы пераўзыходзяць усё золата зямлі, як зоры пераўзыходзяць усе падгорныя дыяманты. Я не прашу такога падарунку. Але ж вы загадалі мне агучыць маё жаданьне.

Эльфы заварушыліся, загаманілі зьдзіўлена, і Келебарн зірнуў запытальна на гнома, але панна ўсьміхнулася.

– Кажуць, майстэрства гномаў у іх руках, а не ў языках, але ж гэта гаворыцца, відавочна, не пра Гімлі. Бо аніхто яшчэ не прасіў мяне гэтак дзёрзка – і гэтак ветліва. І як цяпер мне адмовіцца, калі сама загадала табе гаварыць? Аднак скажы мне, што ж ты зробіш з такім падарункам?

– Захаваю як найвялікшую каштоўнасьць, мая спадарыня, у памяць вашых словаў да мяне падчас нашай першай сустрэчы. І калі мне толькі пашчасьціць вярнуцца да кавальняў маёй радзімы, я закрыю яго ў беззаганны крышталь, каб ён зрабіўся родавай каштоўнасьцю маёй кравіны, закладам дабрачыну паміж Гарой і Лесам да скону дзён.

Тады панна распляла адзін з доўгіх кудзераў, адрэзала тры залатыя валаскі дый паклала ў далонь Гімлі.

– А да падарунку яшчэ й такія словы, – дадала. – Я не прадказваю, бо цяпер усе прадказаньні марныя. Леваруч ад нас цемра, а праваруч – толькі надзея. Калі ўсё ж надзея выведзе нас, тады, Гімлі, сын Глойна, я запавядаю табе: з тваіх рук паплынее золата, але жулады над табою яно не атрымае.

– Да цябе, Ахоўнік Пярсьцёнка, – павярнулася яна да Фрода, – я зьвяртаюся апошнім, хоць ты далёка не апошні ў маіх думках. Для цябе я падрыхтавала вось што.

Яна працягнула яму маленькую крышталёвую шклянку, што бліснула, калі панна варухнула яе, і зазьзяла зь яе рукі промнямі белага сьвятла.

– У гэтай шклянцы – промні зоркі Эярэндыля, заключаныя ў ваду майго вадаграю. Чым змрачнейшая ноч вакол цябе, тым зырчэй зазьзяюць яны. Няхай ён асьвятляе твой шлях там, дзе згасьне й саслабне іншае сьвятло. Узгадай тады на Галадрыель і яе люстэрка!

Фрода ўзяў шклянку й на імгненьне, калі сьвятло зіхацела між імі, зноў пабачыў панну каралевай, вялікай і захапляльна прыгожай, але ўжо ня вусьцішнай у сваёй моцы. Хобіт пакланіўся, не знайшоўшы словаў, каб падзякаваць.

Тады Келебарн павёў панну Галадрыель да прыпаромку. Саламянае паўдзённае сьвятло разьлілося па зялёнай траве, і вада зіхацела й грала срэбрам. Нарэшце ўсё было падрыхтаванае да адплыцьця. Вандроўнікі занялі месцы па чоўнах, як дамовіліся раней. Выгукваючы разьвітаньні, эльфы Лорыйну доўгімі шэрымі шастамі выпіхнулі чоўны на быстрак, і бурлівая вада панесла іх прэч. Падарожнікі сядзелі нерухома, моўчкі. На зялёным беразе на самым краі паўвыспы стаяла самотная панна Галадрыель. Мінуўшы яе, сябры павярнуліся, назіраючы, як яна павольна аддаляецца

ад іх. І падавалася, што гэта Лорыйн, нібы зачараваны карабель, заліты сьвятлом, з чароўнымі дрэвамі-стажарамі, праплывае міма, кіруючы да забытых берагоў, пакуль яны самі, бездапаможныя й пакінутыя, сядзяць і тужаць на беразе шэрага, пазбаўленага лісьця й жыцьця сусьвету.

Срабрынка прынесла іх да моцных струменяў Вялікай ракі, чоўны павярнулі й прысьпешыліся, імкнучы на поўдзень. Неўзабаве белая постаць панны на беразе зрабілася зусім маленькай. Яна зьзяла, бы шкляное акенца пад заходнім сонцам у хаце на пагорку, бы далёкае возера, якое відаць з высокай гары, бы крышталік, згублены на ўлоньні зямлі. Потым, як падалося Фрода, яна ўзьняла рукі, разьвітваючыся ў астатні раз, і здалёк, але з пранізьлівай выразнасьцю даляцеў ейны сьпеў. Зараз яна пяяла на Старажытнай мове эльфаў Замор'я, і словаў хобіт не разумеў. І музыка, чароўная й прыгожая, не суцяшала ягонага сэрца.

Аднак, як звычайна з эльфскімі словамі, яны засталіся ў ягонай памяці, і праз шмат часу пасьля ён пераклаў іх і зразумеў. Сьпявалася пра амаль невядомае ў Міжзем'і.

*Аі! Лаўрэ лантар ласі сурынэн,*
*ені ўноцімэ вэ рамар алдаран!*
*Ені вэ лінтэ юлдар аваніер*
*мі аромардзі лісэ-міруворэва*
*Андунэ рэла, Варда тэлумар*
*ну люйні ясэн цінцілар й элэні*
*омарыё айрэтары-лірынэн.*

*Сі ман і юлма нін энкуантува?*

*Ан сі Цінтальлё Варда Аялосэа*
*вэ фаньяр мар'ят Элентары ортанэ,*
*ар ілье ціэр ундулавэ люмбулэ;*
*ар сіндапор'ела сайта морніэ*
*і фальмаліньяр імбэ мэт, ар ісіэ*
*унтупэ Калакірыя міры оялэ.*
*Сі ванва на, Ромэла ванва, Валімар!*

*Намарыэ! Най ірувалье, Валімар!*
*Най ільe ірува, Намарыэ!*

*"Золатам лісьце падае на ветры, сярод незьлічоных, бы крылы дрэваў, гадоў! Як хуткі глыток найсаладзейшага мёду, гады праляцелі ў залях высокіх на Захадзе вечным, пад купалам Варды блакітным, дзе зоры трапечуць пад гук яе песьні, сьвятой, уладарнай. Хто напоўніць цяпер мне балявальную чару? Бо цяпер Асьвятляльніца, Варда, Зор Каралева, зь Вечнабелай гары рукі ўзьняла, бы аблокі, і шляхі ўсе зацягнуты ценем, і з шэрай краіны цемра прыйшла да пеністых хваляў між намі, і назаўжды туманом схаваныя дыяманты Калакірыі. Цяпер не знайсьці, не знайсьці тым, хто сышоў наўсход, шляхоўу Валімар! Бывайце! Мажліва, вы знойдзеце Валімар! Мажліва, хоць бы вы знойдзеце Валімар! Бывайце!"* Вардаю эльфы выгнаньня клікалі гаспадыню зораў, Эльберэт.

Раптоўна рака завярнула й за лукавінаю паўсталі высокія берагі, захіліўшы сьвятло Лорыйну. Да гэтай цудоўнай зямлі Фрода болей не вярнуўся.

Зараз надышоў час клапаціцца пра падарожжа. Зірнулі наперад, але ж амаль нічога яшчэ ня здолелі разгледзець, бо сонца зьзяла проста ў вочы, перапоўненыя сьлязьмі. Гімлі плакаў не саромеючыся.

– У апошні раз бачыў я найсьвятлейшае, найдзівосьнейшае, – прызнаўся Ляголасу, свайму спадарожніку. – Болей я анічога не назаву харaством, апрача яе падарунку.

І прыцісну́ў даланю да грудзей.

– Скажы мне, Ляголас, ну чаму толькі пагадзіўся я выправіцца ў гэтае падарожжа? Ці мог я ўявіць сабе, дзе напаткаю найцяжэйшае? Праўду прадказваў Эльранд: немажліва прадбачыць нам, што сустрэнем на шляху! Пакутаў у цемры баяўся я, і той страх мяне не спыніў. Але ж не адважыўся б я рушыць наперад, ведаючы небясьпекі сьвятла й радасьці. А цяпер тугі, горшай ад гэтага разьвітаньня, не напаткаю я, нават калі гэтай самай ноччу патраплю да самога Чорнага Ўладара. Гора, гора Гімлі, сыну Глойна!

– Не адчайвайся, – суцяшаў яго Ляголас. – Сум агарнуў усіх нас. Увогуле, усіх, хто крочыць па гэтым сьвеце ў ягонай старасьці. Знаходкі й страты цяпер рушаць поруч. Так для ўсіх, чыё жыцьцё – човен у струмені. Аднак твая горыч сьветлая, добраславёны ты, Гімлі, сын Глойна, бо абраў пакуту сваю з уласнае волі, абраў вернасьць паплечнікам. І таму, хоць бы ад Лорыйну засталася толькі памяць, у цябе яна заўжды будзе яснай і незамутнёнай у сэрцы, і ня сьцьмее, і сьвятло яе не паслабне.

– Магчыма, – пагадзіўся Гімлі, – дзякую табе за твае словы. Праўдзівыя словы, без сумневу, аднак суцяшэньне ад іх слабое. Сэрца жадае не ўспамінаў. Памяць – толькі люстэрка, хоць бы яна была чыстая, як Келед Зарам. Так падказвае сэрца гному Гімлі. Эльфам мо бачыцца ня так. Насамрэч, я чуў, што эльфам памяць падаецца болей падобнай да жывога сьвету, чым да мары. Для гномаў ня так. Ну, до, ня трэба пра тое. Зірнем на човен! Ён цяпер сядзіць глыбока, з усёю нашаю пакладаю, а Вялікая рака плынее хутка! Ня надта мне хочацца патапіць свой смутак у халоднай вадзе.

Ён узяў вясло й пагроб бліжэй да заходняга берагу ўвасьлед за Арагорнавым чоўнам, які ўжо наблізіўся да берагу.

Так Зьвяз Пярсьцёнка рушыў доўгім шляхам вандраваньня, і шырокая хуткая рака несла яго на поўдзень. Голыя лясы сьцяною цягнуліся ўздоўж абодвух берагоў, захінаючы далягляд. Вецер улёгся, рака бязгучна струменіла. Нат птушыны голас не парушаў цішыні. Набліжалася сутоньне, і сонца ахінула долы туманнай смугою, потым заблішчэла з блядных нябёсаў бялюткім пэрлам. Тады схавалася на захадзе – і прыйшлі раньнія прыцемкі, а за імі – шэрая, бяззорная ноч. Плылі праз цемру спакойных начных гадзінаў, кіруючы чоўны паўз навіслы цень заходнебярэжнага лесу. Вялізманыя дрэвы праплывалі побач, нібы прывіды ў тумане, што пакручанымі прагнымі каранямі ўпіваюцца ў ваду. Жудасна было й золка. Фрода сядзеў, услухоўваючыся ў слабы плёскат ды шапаценьне ракі сярод каранёў і плаўніку ля берагу, пакуль не заторкаў носам і не правaліўся ў неспакойны сон.

## *9. Вялікая рака*

Фрода прачнуўся, абуджаны Сэмам. Хобіт усьвядоміў, што ляжыць, утульна загорнуты ў коўдры, пад дрэвамі з шэрай карою на ціхай лясной палянцы заходняга берагу Андуйну. Праспаў Фрода ўсю ноч напралёт, і шэрае сьвятло раніцы ўжо сачылася між голых галінаў. Гімлі шчыраваў паблізу над невялічкім вогнішчам.

Сонца не ўзьнялося высока, як рушылі зноў. Ня ўсе зь Зьвязу сьпяшаліся на поўдзень, задаволеныя тым, што канчатковае вырашэньне адклалася да Рэрасу ля Крамень-выспы. Наперадзе яшчэ дні й дні. Нават, каб не паскараць, самі ня грэблі, дазволілі рацэ несьці іх насустрач небясьпекам да шляхоў, якія потым давядзецца абраць. Арагорн вырашыў рухацца разам з плыньню, зьберагаючы сілы на будучыню. Але ж настояў, каб пачыналі дзённую вандроўку рана й плылі амаль да ночы, бо адчуваў: часу застаецца няшмат, Чорны Ўладар наўрад ці сядзеў склаўшы рукі, пакуль сябры зь Зьвязу Пярсьцёнка адпачывалі ў Лорыйне.

Тым ня менш ані прыкметы ворагаў не напаткалі ні гэтым днём, ні наступным. Маркотныя шэрыя гадзіны плынелі з хвалямі, і анічога не здаралася. На трэці дзень мясцовасьць крыху зьмянілася: лясы парадзелі, дрэвы патанчэлі й нарэшце зьніклі ўвогуле. Леваруч, на ўсходнім беразе, доўгія бясформавыя схілы цягнуліся прэч ад ракі й уверх. Выглядалі яны бурымі, ссохлымі, запустэчанымі, нібы іх апаліла полымя, не пакінуўшы ані жывой зялёнай травінкі. Мёртвая пустая зямля, дзе нават воку няма за што зачапіцца: ані дрэўца, хоць бы паламанага, ані вытыркнутага каменя. Вандроўнікі сягнулі Бурых земляў, зьнежывелага абшару паміж паўднёвым Ліхалесьсем і пагор'ем Эмін Мюйл. Якая пошасьць, вайна ці ліхое чарадзейства Ворага выпаліла зямлю тут, ня ведаў нават сьледапыт Арагорн.

Праваруч, на захадзе, дрэваў таксама не было, але ўздоўж берагу цягнуліся роўнядзі, часьцяком з шырокімі палямі зялёнай травы. Там і тут калыхаліся зарасьці чароту, такія высокія, што захілялі далягляд, паўстаўшы трапяткой агароджаю побач з маленькімі чоўнамі. Іх цьмяныя ссохлыя мяцёлкі хіліліся й уздрыгвалі на халодным ветры, шапочучы ціха й сумна. Раз-пораз скрозь прагалы ў іхнім шэразе Фрода бачыў абсяжныя лугі й далёка за імі пагоркі з заходнім сонцам на схілах, а далёка на мяжы зроку – цёмную вызубраную рысу апошніх паўднёвых атовілкаў Туманных гор.

З жыўнасьці падарожнікі заўважалі толькі птушак. Іх наўкол было багата. Мноства кулікоў ды іншай малечы перасьвістваласа й перагуквалася ў чаратах, хоць рэдка трапляла на вочы. Раз ці два чулі шоргат ды моцны рух лебядзіных крылаў, бачылі ўгары шматлікі вырай, які ляцеў правільным шыхтом над галовамі.

– Лебедзі! – выклікнуў Сэм. – І якія ж велізарныя, аёй!

– Але, – пацьвердзіў Арагорн, – і чорныя да таго ж.

– Як шырока, пуста й сумна тут, – паскардзіўся Фрода. – Мне заўжды падавалася, што падчас падарожжа на поўдзень мусіць цяплець і сьвятлець, і зіма назаўсёды застанецца за сьпінай.

– Але мы недалёка спусьціліся на поўдзень, – запярэчыў Арагорн. – Тут яшчэ зіма, мы за шмат вёрстаў ад мора. Тут сьвет застыў да нечаканай вясны. Мы нават, магчыма, напаткаем сьнег. Далёка адсюль, у заліве Бэльфалас, куды ўпадае Андуйн, насамрэч цёпла й добра, ці было б, каб ня Вораг. Тут мы, калі не памыляюся, усяго на сорак міляў паўднёвей ад мяжы Паўднёвага падзелу Шыру, хоць ён за сотні доўгіх вёрстаў на захад адсюль. Ты пазіраеш цяпер на паўднёвы захад праз роўнядзі Рохану, землі вершнікаў і гаспадароў добрых коней. Неўзабаве мы праплывем міма вусьця Сутоніцы, якая цячэ з Фангарну да Вялікай ракі. Яна адзначае паўночную мяжу

Рохану. З даўніны ўвесь край паміж Белымі гарамі й Сутоніцай належаў рахірымам, тутэйшаму люду. Багаты, лагодны край, травы тут незраўнальныя, але ж у нашыя нядобрыя дні людзі болей не жывуць паблізу Вялікай ракі й зрэдку наяжджаюць да яе берагоў. Андуйн шырокі, аднак оркі здольныя пускаць стрэлы надта далёка, а апошнім часам, як кажуць, наважваюцца пераплываць раку ды рабаваць роханскія статкі.

Сэм трывожна зірнуў на адзін бераг, тады на другі. Калісьці дрэвы падаваліся яму варожымі, быццам хавалі чужыя вочы ды чыесьці нядобрыя постаці за сабою. А цяпер як жа яму хацелася, каб берагі зноў зарасьлі лесам! Адчуваў, нібы вандроўнікі голыя, бездапаможныя ў маленькіх адкрытых чоўніках пасярод земляў, дзе няма сховішча, на рацэ, якая ёсьць мяжою вайны.

У наступныя дні няспыннага руху на поўдзень гэтае пачуцьцё непакою й бездапаможнасьці агарнула ўсіх вандроўнікаў. Ужо цягам суцэльнага дня грэблі, налягаючы на вёслы, каб пасьпяшацца. Берагі імкнулі міма. Неўзабаве рака пашырылася, паплытчэла. Уздоўж усходняга берагу цягнуліся доўгія камяністыя водмелі, траляліся перакаты, і трэба было кіраваць надта асьцярожна. Бурыя землі перакінуліся ў бляклае пагор'е, з-за якога дзьмуў усходні халодны вецер. З захаду ж лугі зьмяніліся панізьзямі й багнючынамі, зарослымі на купінах жухлай травой. Фрода ўздрыгнуў, згадаўшы лужкі й вадаграі, яснае сонца й мяккія дажджы Латлорыйну. Ні на адным чоўне не размаўлялі шмат і зусім не сьмяяліся. Кожны сябра Зьвязу быў заклапочаны ўласнымі думамі.

Ляголас мроіў пра зоры поўначы летняй ноччу на паляне ў чыстым бярозавым гаі. Гімлі пералічваў у думках золата ды меркаваў, ці вартае звычайнае золата таго, каб зрабіць зь яго схованку для падарунку панны Галадрыель. Мэры зь Піпінам пачуваліся ня надта ёмка ў адным чоўне з Барамірам, бо той няспынна мармытаў сабе пад нос, грыз пазногці, нібы яго жэрла нейкая трывога ці сумнеў. А час ад часу хапаўся за вясло дый падграбаў ззаду зусім блізка да Арагорнавага чоўна. Тады Піпін, які сядзеў наперадзе сьпінаю да штэўня, прыкмячаў дзіўнаваты бляск у Баміравых вачох, калі той напружана ўзіраўся ў Фрода. Сэм даўно ўжо прыйшоў да высновы, што хоць чоўны й не такія небясьпечныя, як яго ўсё жыцьцё прывучалі лічыць, яны нашмат больш няўтульныя ды непрыдатныя, чым ён уяўляў. Сядзеў, скурчыўшыся, рукі-ногі пазацякалі, пачуваўся – няшчасьней няма куды. І рабіць няма чаго, хіба аглядаць берагі, дзе пануе зіма, ці шызую ваду паабапал. Нават калі даводзілася грэбці, вясла Сэму не давяралі.

Калі сутонела на чацьверты дзень, ён па-ранейшаму тарашчыўся назад па-над нахіленымі галовамі Фрода й Арагорна на раку ды на чоўны, якія плылі сьледам. Яго хіліла на сон, хацелася, каб хутчэй прыпыніліся на ноч, каб хоць зямлю адчуць пад нагамі. Зьнянацку нешта мільгнула здаля. Сэм пэўны час паглядаў, нерухомы, пасьля выпрастаўся, пацёр вочы. Тады зірнуў зноў, але ўжо нічога не пабачыў.

На ноч прыпыніліся на маленькай выспачцы паблізу ўсходняга берагу. Сэм, загарнуўшыся ў коўдры, лёг побач з Фрода.

– Дзіўнаваты сон бачыў я за гадзіну ці дзьве да таго, як мы спыніліся, – пачаў ён. – Ці ня сон. Ну, сьмешна насамрэч.

– І што ж тое было? – спытаў Фрода, ведаючы, што Сэм не супакоіцца, пакуль не распавядзе, што там ні было б. – Я з самага Лорыйну ня бачыў і не ўяўляў нічога, здольнага выклікаць усьмешку.

– Ну, гэнае не дапаможа, спадару Фрода. Жудасна было. І калі тое ня сон, дык увогуле нягегла. Вы лепей паслухайце. Вось яно як: пабачыў я бервяно з вачыма!

– Бервяно – гэта зразумела. Бярвёнаў на рацэ процьма. Але вочы да іх дадумваць ня трэба.

– Я й не дадумваю. З таго я й задраўся, проста кажучы. Я пабачыў нешта, ну, падобнае на звычайнае бервяно. Яно плыло за чоўнам Гімлі, я й увагі асаблівай не зьвяртаў. Хоць троху незвычайна, так скажу, як яно побач з намі трымаецца ўвесь час. І тады я пабачыў вочы: бляклыя такія, ды ажно зьзяюць, нібы сьветлякі на гарбку такім напрыканцы бервяна, што найбліжэйшае да нас. Анягож, бервянцо! У палена ж няма лапаў зь перапонкамі, накшталт лебядзіных, толькі болей, ды яны ўсё цоп-цоп з вады й у ваду. Вось тады я й падскочыў, і вочы працёр, мяркуючы: ну, калі тое ня сон, калі пабачу шчэ, дык загукаю. І яно яшчэ зьяўлялася! Што б гэта ні было, яно рухалася хутка й ужо зусім упрытык да чоўна Гімлі прысунулася. Але ці ж гэныя вочы-ліхтары мяне прыкмецілі, ці я ачомаўся – ня ведаю. Калі зноў зірнуў, яно ўжо зьнікла. Аднак, мяркую, нешта такое пасьпеў заўважыць, напаўвочка, як кажуць, нешта цьмянае кінулася да ценяў пад берагам. Вачэй, праўда, болей ня бачыў. Тады сказаў сабе: "Зноў трызьніш на яве, Сэме Гэйхадзе". А вось цяпер мяркую: мо й ня трызьніў. Што ж вы скажаце на тое, спадару Фрода?

– Я сказаў бы, што гэта – усяго бервяно, змрок і дрымота ў тваіх вачох, калі б гэтыя вочы зьявіліся ўпершыню. Але я бачыў іх яшчэ да таго, як мы сягнулі Лорыйну. Я бачыў пачвару з вачыма-ліхтарамі, якая караскалася на наш талан той ноччу. Хальдыр таксама яе бачыў. Ці ты памятаеш расповед эльфаў, якія перасьледавалі банду оркаў?

– А-а, так, памятаю! І крыху болей за тое таксама. Мне зусім не падабаюцца тыя згадкі, але ж калі дробкі падабраць, расповеды пана Більба да галавы прыходзяць. Напэўна, я мог бы й імя той істоты разгадаць, га? Гідкае імя. Ці ня Глыкс?

– Менавіта так. Таго я ўвесь час і баяўся, з самае тае начы на талане. Напэўна, ён бадзяўся па Морыі й там выйшаў на наш сьлед. Я спадзяваўся, што пакуль мы ў Лорыйне, ён саб'ецца зь сьледу. Напэўна, гэты вычварань хаваўся ў лясох паблізу Срабрынкі, віжуючы, як мы адплывалі!

– Сама так, пэўна. Лепей нам цяперака пільней сачыць за сабою, а тое прачнесься калі-небудзь зь ягонымі доўгімі пальцамі вакол шыі, калі ўвогуле прачнесься. Я да чаго вяду: ня трэба турбаваць Швэндала ці каго шчэ сёньня ўначы. Я папільную. Раніцою пасплю, бо я ж усё адно ня болей за пакунак на чоўне, калі гэтак магчыма выказацца.

– Магчыма, – падсумаваў Фрода, – і я магу выказацца, што ты пакунак з вачыма. Пільнуй, калі ласка, толькі калі паабяцаеш разбудзіць мяне а палове ночы, калі да таго анічога ня здарыцца.

У глухі перадсьвітальны час Фрода вынырнуў з глыбокага змрочнага сну й адчуў, што яго трасе Сэм.

– Сорам будзіць вас, – шаптаў ён, – але ж вы самі так загадалі. Анічога йшчэ ня здарылася ці так падаецца. Чуўся нейкі пляск ціхі, ды нібыта прынюхваўся нехта, але ж гэткіх запалохвальных гукаў уначы ля ракі досыць, толькі прыслухайся.

Сэм лёг, а Фрода, загорнуты ў коўдры, сядзеў, адганяючы дрымоту. Хвіліны ці гадзіны цягнуліся павольна, і анічога не здаралася. Фрода ўжо ледзь не паддаўся спакусе прылегчы зноў, калі цёмная постаць, амаль нябачная ў змроку, падплыла да аднаго з прычаленых чоўнаў. Доўгая белаватая рука, заўважная ў цемры, вытыркнулася з вады й ухапілася за пляншыр. Халодныя блядныя вочы-ліхтары

зазьзялі, калі пачвара зазірнула ў човен. Тады павярнуліся й утаропіліся ў Фрода. Да іх было ўсяго пара сажняў, і Фрода пачуў мяккае шыпеньне подыху, уцягнутага паветра. Фрода ўскочыў, выцягнуў Джала й крочыў да вачэй. І адразу бляднае сьвятло згасла, зноў пачулася шыпеньне, плёхкат, і нешта падобнае на бервянцо хутка паплыло ўніз па плыні, у цемру. Арагорн паварушыўся, перавярнуўся з боку на бок і раптам узьняўся, ускочыў.

– Што гэта? – спытаў шэптам, падышоўшы да Фрода. – Я адчуў нешта ўва сьне. Чаму ты выцягнуў корд?

– Глыкс, – адказаў Фрода. – Ці мне падалося.

– А, дык ты ведаеш пра нашага маленькага пракуду! Ён прапоўз за намі праз усю Морыю наўпрост да Німрадэлі. Калі мы паплылі на чоўнах, ён знайшоў сабе бервяно ды грабе нагамі й рукамі, лежачы на ім. Я спрабаваў злавіць яго ўначы раз ці два, але ж ён хітрэй ад лісы й больш сьлізкі за рыбіну. Я спадзяваўся, што падарожжа па рацэ будзе яму не пад сілу, але ж ён, відаць, плывун яшчэ той. Раніцою рушым хутчэй. Ты цяпер кладзіся спаць, я папільную рэшту ночы. Хацеў бы я, каб гэты няшчасны вычварань зноў да мяне патрапіў. Мы знайшлі б, як яго скарыстаць. Аднак калі ў мяне не атрымаецца, паспрабуем адарвацца. Ён надта небясьпечны. І сам можа забіць уначы, і ворагаў навесьці на сьлед.

Ноч прамінула. Ні ценю Глыкса, ні падазронага шорхату ці пляскату так і не заўважылі. Пасьля варту трымалі няспынна, але ж да сканчэньня вандроўкі па рацэ не напаткалі ані прыкметы Глыкса. Калі ён яшчэ перасьледаваў, дык надта сьцярожка ды хітра. На Арагорнаў загад грэблі гадзінамі, і берагі імкліва мільгалі міма. На мясьціны па берагох амаль не зьвярталі ўвагі, бо вандравалі пераважна ўначы ды ўвечары, у прыцемках, а ўдзень адпачывалі, намагаючыся схавацца, дзе толькі дазваляў бераг. Гэтак аднастайна й без здарэньняў цягнуліся шэсьць дзён.

Над галавою віселі шэрыя нябёсы, па-ранейшаму зацягнутыя хмарамі, вецер дзьмуў з усходу. Надвячоркам, аднак, на захадзе праясьнілася й заходнае сонца зазьзяла ў прарэхах аблокаў жоўтым ды бледна-зялёным сьвятлом. А потым і бялюткі скрыдлік маладзіку заблішчэў на вадзе. Сэм пазіраў на яго й хмурыў бровы.

Наступным днём берагі пачалі хутка мяняцца. Узьняліся, ашчэрыліся камянямі. Неўзабаве вандроўнікі паплылі праз камяністае пагор'е, строма падымаліся ўгару абодва берагі, іхнія схілы шчыльна зарасьлі цернем ды іншымі калючкамі, пераплеценымі плюшчом і ажыньнікам. Ззаду тырчэлі невысокія шчарбатыя скалы з крохкага выветранага каменю, цёмныя ад плюшчу, а за імі высіліся грабяні хрыбта, што зарос елкамі, перакрыўленымі ветрам. Вандроўнікі набліжаліся да шэрага пагор'я Эмін Мюйлу, паўднёвай ускрайны Дзіказем'я.

На скалах мільгала мноства птушак, увесь дзень высока над галовамі кружлялі птушыныя чароды – чорныя рыскі ў выцьвілых нябёсах. Падчас дзённага адпачынку, лежачы ў сховішчы, Арагорн недаверліва назіраў за імі, мяркуючы, ці не ўтварыў Глыкс ужо якога ліха й ці не разьбягаюцца цяпер зьвесткі пра вандроўнікаў па глухамані. Пазьней, калі сонца сядала, Арагорн прыкмеціў у заходнім сьвятле чорную плямку ў нябёсах: вялізарная птушка высока й далёка паварочвала, накіроўваючы павольна на поўдзень.

– Што гэта, Ляголас? – спытаў ён, паказваючы на паўночныя нябёсы. – Ці арол, ці мне падаецца?

– Так, арол, – пацьвердзіў Ляголас, – арол, які палюе. Цікава, што гэта вястуе? Мы далёка ад гор.

– Сёньня не кранемся зь месца, пакуль цалкам не сьцямнее, – вырашыў сьледапыт.

Восьмы дзень вандроўкі па рацэ быў маўклівы й бязьветраны. Шэры ўсходні вецер нарэшце ўлёгся. Маладзік выкаціўся рана, яшчэ ў апошніх бляклых промнях заходнага сонца. Нябёсы ачысьціліся, і хоць далёка на поўдні віселі гронкі хмараў, слаба адсьвечваючы расьсеяным сьвятлом, на захадзе зіхцелі зоры.

– Выпраўляймася! – абвесьціў Арагорн. – Паспрабуем прагрэбці яшчэ ноч. Мы сягнулі мясьцінаў, дзе рака ня надта добра вядомая мне, ніколі не хадзіў адсюль да Сарн Гебіру. Калі не памыляюся, да яго яшчэ доўгія вёрсты. Але ж і да таго небясьпек хопіць: падводныя скалы й каменныя выспы пасярод струменю. Будзем уважліва сачыць ды грэбці ўжо ня так моцна.

Сэму даручылі ролю назіральніка. Ён лёг наперадзе чоўна, углядаючыся ў змрок. Ноч выдалася цёмная, але зоры зьзялі незвычайна пранізьліва, і сьвятло адбівалася на вадзе. Ужо праплылі колькі, амаль не карыстаючыся вёсламі, і набліжалася поўнач, калі зьнянацку Сэм загукаў. Усяго за некалькі сажняў наперадзе чорныя абрысы навісалі над плыняй і шар хацела ды бурліла, паскараючыся, вада. Моцны струмень пацягнуў чоўны да ўсходняга берагу, дзе заставаўся праход. Летучы на чоўнах, выразна й надта блізка пабачылі белую пену на вострых камянёх, што вытыркаліся ўпрост пасярод ракі, нібы шэраг іклаў. Чоўны зьбіліся ў кучу.

– Гэй, Арагорн! – выгукнуў Барамір, калі ягоны човен грукнуўся ў Арагорнаў. – Гэта вар'яцтва! Нельга плысьці праз парог цемначы! Ды аніякі човен не застанецца цэлым у Сарн Гебіры, удзень ці ўначы.

– Назад! Назад! – закрычаў Арагорн. – Паварочвайце! Паварочвайце, калі здолееце!

І моцна загроб, запавольваючы човен ды паварочваючы яго.

– Я разьлічыў памылкова, – сказаў ён Фрода. – Не падазраваў, што мы ўжо гэтак далёка. Андуйн плынее хутчэй, чым я меркаваў. Сарн Гебір побач.

Ледзь павярнулі чоўны й павольна адсунуліся ад парогу. Спачатку плынь амаль пераадольвала, і хоць пакрысе рушылі ўверх па рацэ, струмень адносіў усё бліжэй да ўсходняга берагу. Цяпер ён уздымаўся пагрозьлівай і злавеснай грудаю.

– Грабем усе! – выгукнуў Барамір. – Грабіце! Ці нас зацягне на плыткае месца!

І адразу Фрода адчуў, як кіль чоўна шкрабе аб камяні.

І ў гэты момант бразнулі лучныя струны. Некалькі стрэлаў прасьвісьцела над галовамі, некаторыя ўпалі зусім недалёка. Адна тыцнула Фрода паміж лапатак, і ён зь енкам хіснуўся наперад, выпусьціўшы вясло з рук. Але ж страла адскочыла, адбітая схаванай пад вопраткай кальчугай. Яшчэ адна праццяла Арагорнаў каптур, трэцяя засела ў пляншыры Бараміравага чоўна побач з рукою Мэры. Сэму падалося: чорныя постаці мітусяцца на доўгай жвіравай касе, што цягнулася ўздоўж усходняга берагу. І да іх зусім недалёка.

– Ырч! – прашаптаў Ляголас на роднай мове.

– Оркі! – заекатаў Гімлі.

– Глыксава справа, каб мне праваліцца, – абвесьціў Сэм Фрода. – І месца ж падабраў! Рака сама нясе нас ім у лапы!

Усе налеглі на вёслы, нават Сэм. Кожны чакаў, што ягоная чарнапёрая сьмерць вось-вось прыляціць зь цемры. Мноства іх прасьвісьцела над галовамі або пляснулася ў ваду побач, ды аніводная ня ўлучыла. Вядома, было цёмна, але ж ня так, каб добры начны зрок оркаў ды зорнае сьвятло не далі ворагам пацэліць. Напэўна, шэрыя

лорыйнскія плашчы ды шэрае дрэва эльфскіх чоўнаў падманулі ліхое майстэрства лучнікаў Мордару.

Грабок за грабком рушылі наперад. У цемры цяжка было разабраць, ці прасоўваліся ўвогуле, аднак паступова бурленьне вады сьцішылася й цень усходняга берагу распусьціўся ў начы. Нарэшце, як падалося, сягнулі сярэдзіны струменю, добра адсунуўшы ад сябе чорныя скалы-іклы. Тады павярнулі й з усёй моцы загрэблі да заходняга берагу. Пад прыкрыцьцём кустоў, якія навісалі над вадою, прыпыніліся перадыхнуць.

Ляголас паклаў вясло ды ўзяўся за лорыйнскі лук. Скочыў на бераг і падняўся на некалькі крокаў. Нацягнуў струну, паклаў на яе стралу й павярнуўся, паглядаючы праз раку ў цемру. Адтуль далятаў пранізьлівы лямант, але ж разгледзець што-небудзь было немажліва.

Фрода зірнуў на эльфа, што стаяў высока над ім, вышукваючы мэту для стралы. Над Ляголасавай галавою буйныя белыя зоры зьзялі каронаю ў чорным возеры начных нябёсаў. А з поўдня ўзьнялася, насунулася вялізная чорная хмара, і першыя атовілкі яе адну за адной зацянялі зоры. Раптоўны жах агарнуў вандроўнікаў.

– Эльберэт Гільтоніель! – выдыхнуў Ляголас, зірнуўшы ўгару. Цёмная постаць, падобная да воблака, але ж ня воблака, бо рухалася нашмат хутчэй, вырвалася з паўднёвай чарнаты й памчала да Зьвязу, засланяючы зорнае сьвятло. Неўзабаве разгледзелі чорную, нібы апраметная ноч, велізарную крылатую пачвару. Ліхія галасы залямантавалі за ракою, вітаючы яе. Фрода адчуў, як раптоўны ільдзяны холад працяў ягонае цела, сьціснуў сэрца й сьмяротны холад памяцьцю былой раны абудзіўся ў плячы. І Фрода скурчыўся на дне чоўна, быццам хаваючыся.

Тут зазьвінела струна вялікага лорыйнскага лука. Сьвіснула страла, сарваўшыся з струны, сплеценай з эльфскіх валасоў. Фрода зірнуў угору. Амаль проста над ім крылаты цень уздрыгнуў. Пачуўся хрыпаты, каркотлівы стогн – і пачварына абрынулася ўніз і зьнікла недзе ў змроку ўсходняга берагу. Нябёсы зноў ачысьціліся. Здалёк чуўся гоман мноства галасоў, лаянка й лямант, потым усё сьцішылася. І ані страла, ані голас болей гэтай ноччу з усходу не прыляцелі.

Счакаўшы крыху, Арагорн зноў павёў чоўны ўверх па рацэ. Рушылі асьцярожна ўздоўж берагу, пакуль не напаткалі невялічкі плыткі заліўчык. Колькі невысокіх дрэўцаў расло побач з вадою, а за імі ўздымаўся круты скалісты бераг. Тут вырашылі прыпыніцца й дачакацца раніцы, бо рухацца далей уначы сэнсу не было. Вогнішча не распальвалі й ежы не гатавалі, палеглі ў чоўнах, прывязаных побач.

– Хай ушануецца лук Галадрыелі дый Ляголасавы рукі й вочы! – абвесьціў Гімлі, схрумстаўшы лембас. – Найфайнейшы стрэл у апраметнай цемры!

– А ці пабачыў хто, у каго ж я патрапіў?

– Я ня бачыў, – сказаў Гімлі. – Але ж я надта рады, што ён не прысунуўся бліжэй. Мне ён зусім не спадабаўся. Надта нагадаў той морыйскі цень, балрага, – дагаварыў гном шэптам.

– Не, гэта ня балраг, – вымавіў Фрода, яшчэ дрыжучы ад холаду, – нешта нашмат халаднейшае за яго. Я лічу, тое быў, тое... – і, запнуўшыся, змоўк.

– І што ж ты лічыш? – адразу перапытаў Барамір, перахіліўшыся з свайго чоўна, нібы намагаючыся зазірнуць у Фродаў твар.

– Я лічу... не, лепей ня буду казаць, – перадумаў Фрода. – Што б тое ні было, ад ягонай паразы ворагі відочна адчаяліся.

– Падаецца, так, – згадзіўся Арагорн. – Але ж колькі іх, дзе яны й што яны зьбіраюцца рабіць далей, мы ня ведаем. Гэтай ноччу спаць нельга! Цемра цяпер хавае нас. Хто ведае, што пакажа дзень? Трымайце зброю напагатове!

Сэм сядзеў, загінаючы пальцы па цаўі меча, быццам падлічваючы нешта, дый пазіраў у нябёсы.

– Ну й дзівоса, – прамармытаў нарэшце, – месяц жа – ён той самы, што ў Шыры, што ў Дзіказем'і, ці гэтак яно падаецца. А тут зь ім нешта ня тое, ці я зусім зблытаўся. Вы ж узгадайце, спадару Фрода: ветах быў, калі мы на тым шастку на дрэве ляжалі. Тыдзень ад поўні. А мінулай ноччу ўжо тыдзень пайшоў, як мы на рацэ, а тут маладзік танюткі, бы цьвічок, выскачыў – нібы мы зусім аніколечкі ў эльфавай краіне й не затрымліваліся. Хоць я тры ночы дык дакладна згадаю, і яшчэ, падаецца, было колькі, але ж пакляўся б: ну ня месяц жа цэлы! Можна падумаць, што час там зусім ня рухаецца!

– Можна, – пагадзіўся Фрода, – у той зямлі, напэўна, мы жылі ў часе, які паўсюль ужо даўно мінуў. Толькі калі Срабрынка вынесла нас у Андуйн, мы вярнуліся да сьмяротнага часу, які плынее празь сьмяротныя землі да Вялікага мора. І я ня памятаю аніякага месяца – ані ветаху, ані маладзіку – у Карас Галадхане, толькі зоры ўначы й сонца днём.

Ляголас паварушыўся побач у сваім чоўне.

– Не, час аніколі не прыпыняецца, – сказаў эльф. – Аднак зьмены, рост ды паміраньне ў розных мясьцінах адбываюцца й успрымаюцца неаднолькава. Для эльфаў гэты сусьвет зьмяняецца адначасова й надта хутка, і надта павольна. Хутка таму, што самі яны амаль не зьмяняюцца, а астатняе пралятае побач зь імі. Тое вельмі сумна. А павольна таму, што яны не заўважаюць хуткаплынных гадоў і ня лічаць іх. Вёсны й зімы для нас – толькі зморшчынкі на гладзі доўгай-доўгай ракі. Мы ведаем: пад сонцам усё нарэшце стоміцца існаваць і сягне свайго канца.

– Існаваньне ў Лорыйне стамляе значна менш, чым за яго межамі, – зазначыў Фрода. – Моц панны незвычайная. Кожная гадзіна ў Карас Галадхане – цуд, пакуль Галадрыель валодае сваім пярсьцёнкам, хоць і ляцяць тыя гадзіны хутка.

– Вось гэтага нельга згадваць за межамі Лорыйну, нават размаўляючы з мною, – папярэдзіў Арагорн сувора. – Ня згадвай таго болей! А праўда такая: насамрэч, Сэм, ты зблытаўся ў краёх Лорыйну. Там час для нас плынеў з той самай хуткасьцю, як і для эльфаў. Ветах памёр, маладзік нарадзіўся й састарэў у сусьвеце па-за Лорыйнам, пакуль мы адпачывалі там. А цяпер маладзік прарос зноў. Зіма амаль мінула. Час мкне да вясны, амаль безнадзейнай для нас.

Рэшту ночы панавала цішыня. Ані гамонкі, ані выгуку з-за ракі не данеслася. Вандроўнікі, скурчыўшыся ў чоўнах, адчулі, што надвор'е зьмяняецца. Паветра пацяплела, і ветрык сьцішыўся пад вялізнымі вільготнымі хмарамі, якія прыпаўзьлі з поўдня ад далёкага мора. Бурленьне й шамаценьне ракі на камянёх быстракоў неяк наблізілася, пагучнела. З галінаў над галовамі закропала.

Нарадзіўся дзень, шэры, сумны й мокры. Заранка зазьзяла шэрым сьвятлом, няпэўным і бясценевым. Шчыльны туман павіс над ракою, белая смуга агарнула блізкі бераг, а дальні схаваўся за ёю.

– Ненавіджу туман, – прабурчэў Сэм, – але ж з гэтым, падаецца, нам пашанцавала. Цяпер, можа, і здолеем уцячы, і клятыя гобліны нас не пабачаць.

– Магчыма, – пагадзіўся Арагорн. – Але ж сьцежку цяжка будзе адшукаць, калі туман не расточыцца. А мы *мусім* адшукаць сьцежку, каб прайсьці Сарн Гебір і сягнуць Эмін Мюйлу.

– Не разумею, чаму нам трэба праходзіць Сарн Гебір ці далей рушыць па рацэ, – вымавіў Барамір. – Калі Эмін Мюйл ужо перад намі, ці ня лепей пакінуць нашыя шкарлупкі-чоўнікі дый кіравацца на паўднёвы захад, пакуль не пабачым Энтую ды ня крочым на маю зямлю.

– Лепей пры ўмове, калі б мы кіраваліся ў Мінас Тырыт, – азваўся Арагорн, – але ж гэта яшчэ ня вырашана. І той шлях можа быць нашмат небясьпечнейшы, чым падаецца. Даліна Энтуі роўная й гразкая, і туман над ёй – сьмяротная небясьпека тым, хто рушыць пехатою з пакладаю за плячыма. Я не пакіну чоўны, пакуль імі можна карыстацца. Рака – шлях, зь якога не саб'есься.

– Вораг трымае ўсходні бераг, – запярэчыў Барамір, – і нават калі мы пройдзем Браму Арганатаў і бесьперашкодна дасягнем Крамень-выспы – што далей? Скакаць з вадаспадаў ды цягнуцца па багнах?

– Не! – адказаў Арагорн. – Хутчэй, мы пранясем нашыя чоўны па старажытнай сьцежцы да ўзножжаў Рэрасу, і там зноў рушым па вадзе. Ці ты ня ведаеш, Барамір, ці проста ня хочаш згадваць Паўночную Лесьвіцу й трон на Аман Эн, што былі зробленыя ў часы вялікіх каралёў? Я, сама менш, хачу хоць бы зірнуць на сусьвет з таго стальца на вяршыні перад тым, як абраць далейшы шлях. Там, магчыма, мы адшукаем знак, прыкмету, якая дапаможа ў выбары.

Барамір яшчэ доўга бараніў свой шлях. Аднак калі высьветлілася, што Фрода пойдзе з Арагорнам, куды б той ні кіраваўся, Барамір пагадзіўся з Арагорнавай прапановай.

– Ня ў звычаі людзей Мінас Тырыту кідаць сяброў у небясьпецы, – падсумаваў ён. – Вам спатрэбіцца мая сіла па дарозе да Крамень-выспы. Датуль я рушу разам з вамі, але ж ня далей. Там я павярну дахаты, адзін, калі мая дапамога вам і я сам ня вартыя паплечнікаў.

З часам туман крыху прыўзьняўся. Вырашылі, што Арагорн зь Ляголасам пройдуць уздоўж берагу, выведваючы, а астатнія застануцца ля чоўнаў. Арагорн спадзяваўся знайсьці якую сьцяжыну, каб перанесьці па ёй чоўны й пакладу за быстракі парогаў.

– Чоўны эльфаў, можа, і не патонуць, – давёў ён, – але гэта ня значыць, што самі мы застанемся пасьля Сарн Гебіру жывымі. Ані ў кога яшчэ тое не атрымлівалася. І гондарскіх дарог тут няма, бо каралеўства ў найвялікшыя свае часы не сягала далей за Эмін Мюйл. Аднак недзе па заходнім беразе мае йсьці абводная сьцежка, бо яшчэ некалькі гадоў таму, пакуль не памножыліся мордарскія оркі, людзі сплаўляліся на лёгкіх чоўнах зь Дзіказем'я да Азгіліяту.

– Цягам майго жыцьця вельмі рэдка прыплывалі караблі з поўначы. А на ўсходнім беразе процьма оркаў, – зазначыў Барамір. – Калі рушыць па рацэ, небясьпекі будуць дадавацца з кожнаю вярстою, нават калі цяпер і адшукаецца сьцежка.

– Небясьпека чакае на кожнай паўднёвай дарозе, – адказаў Арагорн. – Чакайце нас дзень. Калі ня вернемся, ведайце, што нас напаткала ліха. Тады абірайце новага правадыра й рушце за ім, як здолееце.

Цяжка было на сэрцы ў Фрода, калі назіраў, як сыходзяць Арагорн зь Ляголасам – караскаюцца па стромым беразе дый зьнікаюць у тумане. Аднак баяўся марна, праз тры гадзіны, яшчэ да полудня, іхнія постаці вынырнулі з туману.

– Усё файна, – абвесьціў Арагорн, спусьціўшыся. – Наверсе ёсьць старая сьцяжына, яна выводзіць да прыпаромку, які ў прыдатным стане. Тут недалёка: парог пачынаецца за паўвярсты, а даўжынёю ён крыху болей за вярсту. За ім рака зноў

плынее гладка, хоць і даволі хутка. Найцяжэй за ўсё будзе ўсьцягваць чоўны й пакладу да сьцяжыны – яна няблізка ад вады, болей за дзьве гоні, дый хаваецца пад стромай скальнаю сьцяною. Мы не знайшлі паўночны прыпаромак. Калі ён яшчэ існуе, мы мінулі яго той ноччу. Шукаць яго бессэнсоўна – толькі змарнуем сілы, грабучы супраць плыні, ды ня знойдзем яго ў тумане. Баюся, цягнуць чоўны на сьцежку давядзецца менавіта адсюль.

– Тое няпроста, нават калі б усе тут былі людзьмі, – вымавіў Барамір.

– Ну, колькі нас ёсьць, столькі ёсьць, – адказаў Арагорн. – Трэба спрабаваць.

– Аёй, паспрабуем, – буркнуў Гімлі. – Чалавечыя ногі спатыкнуцца ня раз, пакуль гном спакойна крочыць, ды з пакладаю зь дзьве ўласныя вагі, спадару Бараміру!

Насамрэч сталася цяжка, але ж урэшце адужалі. Пакладу павымалі з чоўнаў ды ўсьцягнулі на прыбярэжны адхон, паскладалі на роўнай пляцоўцы. Чоўны дасталі з вады й панесьлі ўгару. На шчасьце, яны апынуліся нашмат лягчэйшымі, чым падаваліся. Зь якога эльфскага дрэва вырабілі іх, нават Ляголас ня ведаў, але драўніна была трывалая й дзівосна лёгкая. Па роўнядзі нават Мэры зь Піпінам маглі б доўгі час несьці свой човен. Нягледзячы на тое, спатрэбілася моц двух чалавек, каб дацягнуць чоўны да сьцяжыны па стромым схіле з россыпам шэрых вапняковых валуноў, з мноствам правалінаў ды дзірак, прыхаваных травой і кустамі. І зарасьці калючак траплялiся, і стромыя лагчавіны, там і тут хлюпалі пад нагамі багнючыны, дзе зьбіралася вада, якая сачылася зьверху.

Арагорн з Барамірам перанесьлі чоўны адзін за адным, а астатнія падарожнікі, спатыкаючыся, цягнулі рэчы. Нарэшце ўсё парасклалі наверсе ўздоўж сьцежкі. Далей пайшло прасьцей, перашкаджаў хіба шыпшыньнік ды камяні, якія пазвальваліся зьверху й загрувасьцілі шлях. Туман вісеў хустай над пакрышанай скальнай сьцяною, а леваруч цалкам агарнуў раку. Чулі, як вада бурліць і цурчыць, пенячыся на вострых іклах ды стромых баках скалаў Сарн Гебіру, але ж анічога ня бачылі. Па сьцежцы прайшлі двойчы, пакуль перацягнулі ўсё да паўднёвага прыпаромку.

Там сьцяжына зноў выгінала да ракі, павольна спускалася да невялічкага заліву. Ён падаваўся выдзеўбаным у беразе – не рукамі, а ўзьвіранай, закружлянай вадою, якая, вырываючыся з парогу, білася аб нізкі, доўгі, пляскаты камень, што вытыркаўся непадалёк. За залівам шэрым адхонам уздымалася скала, далей дарогі не было.

Неўзабаве зьвечарэла, спускаліся змрачнаватыя, туманныя, хмарыстыя прыцемкі. Вандроўнікі сядзелі побач з ракою й слухалі перарывісты роў парогу, схаванага туманом. Надта стаміліся, адольвала дрымота, і душы іхнія, як і наваколльле, агарнуў сумны змрок.

– Ну, дабраліся, тут і трэба заначаваць, – сказаў Барамір. – Нам усім патрэбны сон. Нават калі Арагорн хоча прайсьці Бра му Арганатаў уначы, мы надта стомленыя для таго – за выняткам хіба нашага нястомнага гнома.

Гімлі не адказаў, бо седзячы торкаў носам.

– Ну дык адпачнем, пакуль здольныя, – пагадзіўся Арагорн. – Заўтра зноў давядзецца рушыць удзень. Калі надвор'е не пераменіцца зьнянацку й не падмане нас, маем добры шанец прасьлізнуць неўпрыкмет для вачэй з усходняга берагу. Сёньня ж поначы маем трымаць варту: тры гадзіны сну, адна – пільнаваць.

Ноччу ня здарылася анічога горшага, чым кароткі дожджык за гадзіну да сьвітанку. Выправіліся зь сьвятлом. Туман танчэў. Трымаліся як мага бліжэй да заходняга берагу й бачылі, як няясныя абрысы невысокіх скалаў робяцца вышэйшымі й вышэйшымі, туманнымі сьценамі ад вады да нябёсаў. Калі раніца пасталела, хмары

апусьціліся ніжэй і шчыльна задажджыла. Давялося нацягнуць на чоўны покрыва, каб не затапіла, ды ня грэбці болей. Анічога амаль не было відаць навокал праз шэрую завесу зьліву.

Дажджыла нядоўга. Павольна нябёсы пасьвятлелі, і раптам хмарнае покрыва разадралася, і рэшткі яго вецер пагнаў на поўнач, уверх па рацэ. Зьніклі і туман, і смуга. Перад падарожнікамі легла рака, загнаная ў шырокую цясьніну паміж моцнымі каменнымі сьценамі, да якіх чапляліся там і сям на вузкіх паліцах ды вымойнах некалькі пакрыўленых дрэўцаў. Цясьніна паступова звужалася, плынь паскаралася. Цяпер засталося толькі плысьці наперад, што ні чакала б там, бо ані збочыць, ані спыніцца ўжо было немагчыма. Над галовамі сьвяціла бляклая сінеча нябёсаў, вакол неслася цьмяная, зацененая сьценамі рака, а наперадзе ўзвышаліся чорнымі гмахамі, захіляючы сонца, горы Эмін Мюйлу, і ані прасьвету не было ў іх.

Фрода заўважыў наперадзе дзьве вялізарныя скалы, якія выглядалі, нібы помнікі ці неабсяжныя калёны. Высачэзныя, пагрозьлівыя, злавесныя стаялі яна паабапал ракі. Толькі вузкі праход заставаўся між імі, і рака неадольна мчала чоўны да яго.

– Пабачце ж Арганатаў, Абеліскі Каралёў! – гучна абвесьціў Арагорн. – Неўзабаве мы пройдзем паміж імі. Трымайце чоўны цугам і так далёка адзін ад другога, як толькі здолееце! Пільнуйцеся сярэдзіны струменю!

Фрода глядзеў на велетаўскія калёны, і яны ўздымаліся перад ім, быццам замкавыя муры. Магутамі падаваліся яны, неабсяжныя шэрыя постаці, маўклівыя, але пагрозьлівыя. І тады заўважыў: яны не бясформавыя, наадварот, вычасаныя й апрацаваныя. Майстэрства й моц мінуўшчыны апрацавалі іх, і яшчэ захавалі яны праз сонца й залевы прамінулых гадоў падабенства вялікіх уладароў, чый гонар ушанавалі нашчадкі. На моцных п'едэсталах, усталяваных глыбока ў вадзе, стаялі два каменныя каралі й выветранымі вачыма з-пад парэпаных броваў сувора пазіралі на поўнач. Левая рука кожнага ўзьнялася з адкрытай наперад даланёю на знак папярэджаньня, у правай руцэ кожны трымаў сякеру, галовы былі ўвянчаныя раскрышанымі шаломамі зь вянцамі. Непамернай моцай ды веліччу яшчэ патыхала ад іх, маўклівых ахоўнікаў даўно згінулага каралеўства. Фрода затрапятаў, пераляканы, і скурчыўся, заплюшчыў вочы, не адважваючыся зірнуць на волатаў зблізку. Нават Барамір нахіліў галаву, калі чоўны праносіліся міма, маленькія, дрыготкія, нібы лісты ў віры, пад пракавечным ценем вартавых Нумэнору. Гэтак сягнулі вандроўнікі цёмнага правалу Брамы.

Строма ўздымаліся пааберуч жудасныя скалы, і вяршыні іхнія губляліся ў хмарах. Далёка-далёка над імі віселі засмужаныя нябёсы. Чорная вада раўла, і рэха люстравалася ад скалаў, і вецер апантана выў над хвалямі. Утыкнуўшы галаву ў калені, Фрода чуў, як стогне й мармыча Сэм:

– Што за месьцейка! Бацюхны! Жуда! Выпусьціце мяне толькі жыўцом з гэнага чоўна, я болей і пяткі ў лужыне не абмачу, ня тое што ў рацэ!

– Не палохайцеся! – пачуўся з-за сьпіны дзіўны голас.

Фрода азірнуўся – і ўбачыў Швэндала. Не, ня Швэндала, бо перад ім быў ужо не пабіты нягодамі бадзяньняў сьледапыт. Перад ім сядзеў Арагорн, сын Араторна, ганарлівы й бясстрашны, і кіраваў чоўнам майстэрскімі грабкамі. Каптур ягоны быў адкінуты, цёмныя валасы струменілі па ветры, сьвятло зьзяла ў вачох. Ён быў кароль, які вяртаецца з выгнаньня ў свой край.

– Не палохайцеся! – паўтарыў ён. – Колькі ж я марыў угледзець абрысы Ісільдара й Анарыёна, маіх старажытных продкаў! Пад іх ценем Элесару, Эльфскаму Смарагду, сыну Араторна з роду Валандыля, сына Ісільдара, нашчадка Элендыля, няма чаго баяцца!

Тады сьвятло ягоных вачэй згасла й ён прамовіў сам да сябе:

– Калі б толькі Гэндальф быў разам з намі! Маё сэрца кліча ў Мінас Анор, да сьценаў майго гораду! Але куды ж кіравацца мне цяпер?

Праход між магутамі быў даўжэзны й цьмяны, запоўнены гулам ветру, і ровам вады, і бясконцым рэхам. Ён загінаўся на захад, таму спачатку была толькі цемра, але неўзабаве Фрода ўбачыў наперадзе высокі праём, азораны сьвятлом, і гэты праход пашыраўся. Хутка наблізіўся, і зьнянацку чоўны вылецелі вонкі ў шырокае, яснае сьвятло.

Сонца, што хілілася на захад, ясна зьзяла ў прадзьмутых вятрамі нябёсах. Замкнёная брамаю рака, вырваўшыся на прастору, разьлілася доўгім авальным возерам, блядным Нэн Хіфаэл, агароджаным стромымі шэрымі пагоркамі, схілы якіх зарасьлі дрэвамі, а голыя вяршыні халодна блішчэлі пад сонечнымі прамянямі. Ля дальняга паўднёвага краю возера ўздымаліся шэрагам тры высокія гары. Сярэдняя крыху выдавалася наперад, выспаю падзяляючы раку надвая. Зь ветрам данесьліся далёкія, але гучныя роў ды грукат, нібы недзе далёка грымела навальніца.

– Зірніце на Тол Брандыр! – абвесьціў Арагорн, паказваючы на гару пасярэдзіне. – Леваруч стаіць Аман Лэ, гара Слыху, а праваруч – Аман Эн, гара Зроку. У дні вялікіх каралёў на іх вяршынях былі назіральныя вежы й там трымалі варту. І я чуў, што аніводны чалавек альбо зьвер аніколі ня крочылі на бераг Тол Брандыру. Яшчэ да цемры мы сягнем вартавых гораў. Я чую, як кліча мяне спрадвечны сьпеў Рэрасу.

Вандроўнікі крыху адпачылі, дазволіўшы плыні несьці іх пасярэдзіне возера, паелі, а тады зноў узяліся за вёслы й засьпяшаліся. Заходнія берагі ўжо агарнуў цень сутоньня, і сонца зачырванела. Там і тут у нябёсах запальваліся першыя зоры. Тры гары ўзвышаліся наперадзе – чорныя абрысы ў змроку. Рэрас аглушальна роў. Начная цемра ўжо легла на возера, калі падарожнікі нарэшце дабраліся да ўзножжа гары.

Скончаўся дзясяты дзень вандроўкі па рацэ. Глуханьне ляжала за сьпінамі. Цяпер рушыць наперад было нельга не абраўшы кірунку. На захад або на ўсход? Падарожжа сягнула апошняй сваёй ступені.

*10. Парушэньне Зьвязу*

Арагорн павёў чоўны па правым ручве ракі. Там уздоўж заходняга берагу, зацененага Тол Брандырам, ля ўзножжаў Аман Эн цягнуўся зялёны луг. За ім павольна ўздымаліся схілы, парослыя дрэвамі, дрэвы абрамлялі й выгнуты дугою азёрны бераг. Крынічка з вуркатаньнем зьбягала па схіле й саскоквала ў траву.

– Тут і адпачнем сёньня, – вырашыў Арагорн. – Гэта луг Парт Гален. Файнае месца ў летнія часы даўніны. Спадзяюся, ліха яшчэ не дабралася сюды.

Выцягнулі чоўны на зялёны бераг і побач зь імі заначавалі. Выставілі вартавога, аднак ніякай прыкметы ворагаў за ноч ня ўгледзелі. Калі Глыкс па-ранейшаму сачыў за імі, то бязгучна й нябачна. Аднак пасярод ночы Арагорна агарнуў непакой: ён круціўся й раз-пораз прачынаўся. Задоўга да раніцы ўзьняўся ды крочыў да Фрода, які толькі прыняў варту.

– Чаму ня сьпіцца? – спытаў Фрода. – Не твая ж чарга вартаваць.

– Ня ведаю. Нейкая пагроза ўвайшла ў мой сон, нейкі злавесны цень. Ці ня выцягнуў бы ты свой корд?

– Нашто? Ці ж ворагі побач?

– Ну, зірнем, што пакажа Джала.

Тады Фрода дастаў эльфскі клінок з похваў. І пабачыў у страху й адчаі, што краі ляза слаба паблісваюць.

– Оркі! – выдыхнуў ён. – Нязблізка, але ж і ня надта далёка.

– Таго я й баяўся. Аднак, магчыма, яны не на нашым беразе. Сьвеціцца слаба. Мо́жа, паказвае на якіх варожых выведнікаў, што шнараць па схілах Аман Лэ. Я ніколі раней ня чуў пра оркаў на ўзгорках Аман Эн. Праўда, хто ведае, што можа здарыцца нашай ліхой часінай, калі Мінас Тырыт болей не трымае шлях па Андуйне. Раніцою давядзецца пасьцерагчыся.

Дзень прыйшоў як агонь і дым. Нізка на ўсходзе чорнымі палосамі паўсталі аблокі, быццам дым ад вялікага пажарышча. Узыходнае сонца высьветліла іх зьнізу каламутнай чырваньню, але неўзабаве выкараскалася з-за іх у чыстыя нябёсы. Вяршыня Тол Брандыру зазьзяла золатам. Фрода зірнуў на ўсход на гэтую высокую выспу. Бакі яе строма ўздымаліся з хуткай вады. Высока над каменнымі сьценамі берагоў да схілаў чапляліся дрэвы, і вяршыня аднаго кранала карані другога, а над апошнімі зноў уздымаўся шэры мур недаступных скалаў, каранаваны высачэзным каменным сьпічаком. Мноства птушак кружляла вакол яго, але аніякіх іншых істотаў не было відаць.

Калі падсілкаваліся, Арагорн прамовіў да ўсіх:

– Нарэшце надышоў дзень выбару, які мы гэтак доўга адкладалі. Што цяпер адбудзецца зь Зьвязам Пярсьцёнка, з усімі намі, што столькі часу падарожнічалі разам? Ці павернем мы на захад з Барамірам да войнаў Гондару, ці накіруемся на ўсход, да жаху й ценю, ці парушым нашае сяброўства ды разыдземся, як пажадаецца кожнаму? Да якога рашэньня мы ні прыйшлі б, прыняць яго трэба хутка. Вы ведаеце, што ворагі на ўсходнім беразе. А я баюся, што оркі маглі перабрацца й на заходні.

Павісла доўгая цішыня. Аніхто не варушыўся, не падаваў голасу.

– Ну, Фрода, – азваўся Арагорн нарэшце. – Баюся, цяжар вырашэньня ляжыць на табе. Ты – Ахоўнік, прызначаны Сьветлай Радай. Твой уласны шлях здольны вызначыць толькі ты. Больш я не магу табе параіць. Я – ня Гэндальф, хоць і намагаўся несьці ягоны цяжар падчас падарожжа. Я ня ведаю, што ён плянаваў для гэтага

моманту, калі плянаваў увогуле. Верагодней за ўсё, калі б мы сягнулі гэтага месца разам, выбар усё адно застаўся б за табою. Бо такі твой лёс.

Фрода адразу не адказаў.

– Я ведаю, што трэба сьпяшацца, – вымавіў тады павольна, – але пакуль ня здольны выбраць. Бо мая ноша сапраўды цяжкая. Падаруйце мне шчэ гадзіну, і я абвяшчу маё вырашэньне. Дазвольце мне падумаць на самоце!

– Добра, Фрода, сын Дрога, – спачувальна зірнуў Арагорн, – у цябе ёсьць гадзіна самоты. Мы пачакаем тут. Але ж не адыходзь далёка, па-за погук.

Фрода сядзеў пэўны час, нахіліўшы галаву. Надта занепакоены Сэм назіраў за гаспадаром, хітаў галавою й мармытаў:

– Ну, тут усё прамей за жэрдку, але ж ня Сэму Гэйхаду свой грош цяпер устаўляць.

Фрода ўстаў і пайшоў прэч, і Сэм пабачыў, што хоць астатнія стрымалі сябе й не праводзілі яго позіркамі, Бараміравы вочы ўпіліся ў Фродаву сьпіну й не адпускалі, пакуль той ня зьнік за дрэвамі ля ўзножжа Аман Эн.

Паблукаўшы бязмэтава па лесе, Фрода вынайшаў, што ногі самі вядуць яго ўгару. Неўзабаве выбраўся на сьцежку – амаль зьніклую, рэшту старажытнай дарогі. На стромых пад'ёмах у камені былі вычасаныя прыступкі, цяпер парэпаныя й шчарбатыя ды расколатыя каранямі дрэваў. Пэўны час караскаўся, ня ведаючы куды, пакуль ня выбраўся на роўную ўтравелую паляну. На ёй расьлі рабіны, а пасярэдзіне ляжаў шырокі пляскаты белы камень. Гэты маленькі лужок быў адкрыты на ўсход і заліты ранішнім сьвятлом. Фрода прыпыніўся зірнуць на раку далёка ўнізе, на Тол Брандыр і птушак, што кружлялі ў вялікім правале паміж ім і выспай, на якую ня крочыла чалавечая нага. Магутна роў Рэрас, з ровам мяшаліся накаты цяжкіх грымотаў.

Фрода прысеў на камень, абаперся падбародзьдзем аб руку, пазіраючы на ўсход, але бачыў няшмат. Бо цяпер усё, што здарылася з таго часу, як Більба пакінуў Шыр, праходзіла перад Фродавымі вачыма, і ён намагаўся згадаць на ўсё, што толькі казаў Гэндальф, дый абмеркаваць зноў. Час мінаў, а да вырашэньня Фрода так і не наблізіўся.

Зьнянацку абудзіўся ад задуменнасьці. Дзівоснае пачуцьцё агарнула яго – нібы нехта крадзецца ззаду ды нядобра глядзіць на яго. Хобіт ускочыў, павярнуўся – і ў подзіве пабачыў Бараміра, які добра й ветла ўсьміхаўся.

– Я баяўся за цябе, – сказаў Барамір. – Калі Арагорн мае рацыю й оркі побач, нікому ня варта бадзяцца на самоце, а табе меней за ўсіх, столькі ж залежыць ад цябе! Бо ў мяне на сэрцы неспакойна. Магу я пабыць побач з табою ды пагутарыць, калі ўжо я напаткаў цябе? Мне было б спакайней. Калі спрачаецца натоўп, спрэчка робіцца бясконцай. А ў гамонцы двух мудрасьць, мажліва, адкрые сябе хутчэй.

– Дзякуй за шчырасьць і спагаду, – прамовіў Фрода. – Наўрад ці якая гамонка дапаможа мне цяпер. Бо я ведаю, што мушу рабіць, але проста баюся. Баюся зрабіць гэта, Барамір.

Барамір стаяў маўкліва. Несупынна роў Рэрас. У галінах дрэваў шапацеў вецер. Фрода ўздрыгнуў.

Барамір падышоў ды сеў побач.

– Ці ты ўпэўнены, што не пакутуеш дарма? – спытаў ён. – Я хачу дапамагчы табе. Табе ж патрэбная парада, каб зрабіць цяжкі выбар. Чаму не прыслухацца да маёй?

– Мне падаецца, я ведаю, што ты хочаш мне параіць, Барамір. І гэта мудра, аднак маё сэрца пярэчыць.

– Сэрца? Пярэчыць? Пярэчыць чаму? – рэзка спытаў Барамір.

– Пярэчыць затрымцы. Шляхам, якія падаюцца лягчэйшымі. Таму, каб адмовіцца ад цяжару, даверанага мне. Пярэчыць – ну, калі ўжо давялося тое выказаць, – пярэчыць даверу да моцы й вернасьці людзей.

– Але ж тая моц здаўна абараняла цябе ў тваёй маленькай краіне, хоць ты й ня ведаў таго.

– Я не сумняюся ў мужнасьці твайго народу. Але ж сусьвет зьмяняецца. Муры Мінас Тыртыу, напэўна, моцныя, але ж вораг можа прарвацца й за іх. І што тады?

– Тады мы адважна загінем у бітве. Аднак яшчэ ёсьць надзея, што вораг за іх не прарвецца.

– Няма надзеі, пакуль існуе пярсьцёнак.

– А, пярсьцёнак, – вымавіў Барамір, і вочы ягоныя бліснулі, – пярсьцёнак! Ці ж не дзівосна, што нам даводзіцца трываць столькі страхаў, пакутаваць ад сумневаў з-за гэткай маленечкай драбязкі. Маленечкай драбязкі! Я й бачыў яго ўсяго імгненьне на Эльрандавай Радзе. Ці можна мне яшчэ раз зірнуць на яго?

Фрода глянуў Бараміру ў твар, і сэрца ягонае заныла ад дрэннага прадчуваньня. Бараміравы вочы зьзялі прагай, хоць твар ягоны заставаўся добрым і сяброўскім.

– Лепей яму застацца прыхаваным, – адмовіў Фрода.

– Ну, як пажадаеш, справа твая, – пагадзіўся Барамір. – А чаму мне хоць бы не паразважаць пра яго? Вы чамусьці бачыце толькі ягоную моц у варожых руках. Бачыце толькі шкоду ад яго, а не карысьць. Сусьвет зьмяняецца, ты сам казаў. Мінас Тырыт загіне, калі пярсьцёнак замарудзіць у сусьвеце. Але чаму? Напэўна, гэта бясспрэчна, калі пярсьцёнак патрапіць да Ворага. А калі патрапіць да нас?

– Ці ж ты ня быў на Радзе? – спытаў Фрода. – Мы ня можам карыстацца ім. Усё, здабытае ім, абернецца ліхам.

Барамір узьняўся й нецярпліва захадзіў туды й сюды.

– І ты гэтаксама, – выгукнуў ён. – Гэндальф, Эльранд – усе гэтыя вялікія асобы навучылі цябе так казаць. Можа, самі па сабе яны й маюць рацыю. Гэтыя эльфы з паўэльфамі дый чараўнікі – можа, ім і сапраўды ад пярсьцёнка толькі шкода. Аднак я часьцяком ня мог уцяміць: мудрыя яны ці наўпрост палахлівыя. Людзі верныя й добрыя – не палахліўцы. Мы, людзі Мінас Тырыту, выстаялі доўгімі гадамі цяжкіх выпрабаваньняў. Нам непатрэбная моц уладарных чарадзееў – толькі сіла, каб абараніць сябе, сіла для праўды. І вось! У адчайную гадзіну лёс адкрывае нам Пярсьцёнак Улады. Я сказаў бы: гэта падарунак, падарунак ворагам Мордару. Вар'яцтва – ня выкарыстаць яго, не абярнуць варожую моц супраць ягонай жа. Бясстрашныя, бязьлітасныя – толькі яны сягнуць перамогі. І што ж ваяр, вялікі правадыр, зробіць у гэткую гадзіну? Што зробіць Арагорн? Ці, калі ён адмовіцца, чаму не Барамір? Пярсьцёнак дасьць мне моц загаду й заклiку. Як жа я паганю орды Мордару! Усе людзі сыдуцца пад мае сьцягі!

Барамір крочыў туды й назад, прамаўляючы ўсё гучней. Ён ледзь згадваў на Фрода, трызьнячы мурамі й зброяй, рушэньнямі людзей, плянамі вялікіх зьвязаў і рашучых перамог, і ўжо скінуў Мордар, і зрабіўся магутным каралём, міласэрным і мудрым. Раптоўна спыніўся, дый махнуў рукою.

– І яны кажуць выкінуць яго прэч! – выгукнуў ён. – Я не кажу: зьнішчыць! Гэта мо й было б файна, калі б існавала разумная верагоднасьць зрабіць тое! Дык не!

Адзіны плян, які прапанавалі нам: каб паўросьлік усьляпую лез у Мордар, даўшы Ворагу ўсе мажлівасьці найхутчэй вярнуць сабе пярсьцёнак!Глупства!

– Цяпер ты бачыш, мой сябра? – ён зьнянацку зноў павярнуўся да Фрода. – Ты казаў, што баісься. Калі так, больш мужныя табе выбачаць. А вераемна, насамрэч пратэстуе твой розум, а ня сэрца?

– Не, менавіта сэрца, – адказаў Фрода. – Я проста баюся. Аднак я рады тваім словам. Цяпер у мяне куды меней сумневаў.

– Ты пойдзеш у Мінас Тырыт? – ускрычаў Барамір, і твар ягоны засьвяціўся надзеяй.

– Не, ты ня так мяне зразумеў.

– Але ж ты хоць бы пагасьцюеш у нас колькі? Горад мой непадалёк адсюль, да Мордару адтуль не нашмат далей. Мы доўга бадзяліся па глухаманьні. Табе ж патрэбныя сьвежыя зьвесткі пра Ворага, калі ты рушыш у ягоную краіну. Пойдзем з мною, Фрода. Табе неабходна адпачыць перад такою вандроўкаю.

Ён па-сяброўску паклаў руку на Фродава плячо, але Фрода адчуў, як дрыжыць яна ад стрыманага ўзбуджэньня. Хобіт адсунуўся прэч, трывожна паглядаючы на дужага чалавека, удвая вышэйшага за яго й нашмат мацнейшага.

– Чаму гэтак не па-сяброўску? – спытаў Барамір. – Я сапраўдны ваяр, ня злодзей, ня здрайца. Мне патрэбны твой пярсьцёнак, ты ж ведаеш, але я абяцаю табе: я вярну яго! Чаму табе хоць бы не дазволіць мне выпрабаваць мой плян? Пазыч мне пярсьцёнак!

– Не, не! – загаласіў Фрода. – Рада даверыла мне несьці яго!

– Тады з-за нашага ўласнага глупства Вораг пераможа нас! Як жа тое злуе мяне! Дурань! Уцяты дурань! Хочаш бегчы ўсьляпую насустрач сьмерці й загубіць нас усіх! Калі якія сьмяротныя й маюць права на пярсьцёнак, дык тое людзі Нумэнору, не паўросьлікі! Калі б не шчасьлівы выпадак, дык ён дастаўся б не табе! Ён мог бы дастацца мне! Ён мусіў дастацца мне! Аддай яго мне!

Фрода не адказаў, але адсунуўся прэч, так што вялікі пляскаты камень адгарадзіў яго ад Бараміра.

– Ну чаго ж ты, сябрук? – спытаў Барамір цішэй і ласкавей. – Чаму не пазбавіцца ад яго? Ты можаш потым абвінаваціць мяне, калі пажадаеш. Ты можаш сказаць, што я нашмат мацнейшы за цябе й забраў пярсьцёнак сілаю. Бо я нашмат мацнейшы за цябе, паўросьлік! – пракрычэў ён, раптам пераскочыў камень і кінуўся на Фрода. Цяпер ягоны прыгожы й добры твар жудасна зьмяніўся й вочы палалі шаленствам.

Фрода адскочыў убок і зноў забег за камень. Заставалася толькі адно: дрыжучы, выцягнуў пярсьцёнак за ланцуг і хутка насунуў на палец – якраз калі Барамір кінуўся на яго зноў. Чалавек вохнуў, замершы на момант у зьдзіўленьні, а тады забегаў шалёна, разгублена мацаючы навокал, шукаючы сярод камянёў і дрэваў.

– Нікчэмны шалбер! – выкрыкнуў Барамір. – Я яшчэ дабяруся да цябе! Цяпер я разумею, чаго ты хочаш! Ты хочаш аднесьці пярсьцёнак Саўрону, прадаць нас усіх! Ты толькі моманту чакаў, каб уцячы! Ды праваліцеся вы, паўросьлікі, у цемру! Сьмяротны праклён на вас усіх!

Зачапіўшыся нагою за камень, бразнуўся долу й застаўся ляжаць ніцма, нерухомы, нібы зрынуты ўласным праклёнам. А тады заплакаў. Устаў, сьцёр рукою з твару сьлёзы. Дый выгукнуў:

– Што ж я нарабіў? Фрода, Фрода! Вярніся! Вар'яцтва апантала мяне, але яно прайшло! Вярніся!

Адказу ён не пачуў. Фрода нават ня чуў апошняга выгуку. Ён адбег далёка, адчайна скочучы па сьцежцы ўгару, да вяршыні. Жах і туга авалодалі ім, і перад вачыма стаяў вар'яцкі, шалёны твар Бараміра, полымя ягоных вачэй.

Неўзабаве выбраўся на вяршыню Аман Эн дый прыпыніўся, хапаючы ротам паветра. Нібы праз туман бачыў шырокую пляскатую пляцоўку, забрукаваную тоўстымі камянямі й абкружаную шчарбатым мурам, усярэдзіне на чатырох магутных калёнах узвышалася назіральная вежа. Хобіт падняўся па доўгай лесьвіцы дый пасеў у старажытную каменную фатэлю, адчуваючы сябе згубленым дзіцем, якое забралася на сталец горных каралёў.

Спачатку амаль нічога ня ўгледзеў. Быццам плыў у сусьвеце, запоўненым туманом, дзе існавалі толькі цені, – то ж бо пярсьцёнак быў на ягоным пальцы. Там і тут туман ірваўся, і разьвіналіся далягляды – маленькія, ясныя да дробязяў кавалкі сусьвету, нібы пабудаваныя на ўласным стале, і адначасова далёкія. І аніякіх гукаў, толькі карцінкі. Сусьвет нібыта скурчыўся, ссох – і змоўк. Фрода сядзеў на стальцы Зроку, на Аман Эн, гары Зроку людзей Нумэнору. На ўсход перад хобітам разаслаліся незамапаваныя землі, безыменныя роўнядзі, няходжаныя лясы. Зірнуў на поўнач – і Вялікая рака стужкаю легла перад ім, і Туманныя горы паўсталі маленькімі й вострымі, бы паламаныя зубы. Зірнуў на захад – і пабачыў неабсяжныя пашы Рохану, і Ортанк, вежу Ізенградку, бы чорны сьпічак. Зірнуў на поўдзень – і пад самымі ягонымі нагамі Вялікая рака хваляю абрынулася ўніз, па вадаспадзе Рэрасу ў глыбокую, запоўненую пенай пашчу, над якой зіхацела вясёлка. І пабачыў Этыр Андуйн, прасторную дэльту Вялікай ракі, дзе мірыяды марскіх птушак луналі белымі пылінкамі пад сонцам, а пад імі беглі бясконцыя шыхты хваляў зялёна-срэбнага мора.

Але ж паўсюль, куды ні сягаў позірк, прыкмячаў адзнакі вайны. Туманныя горы кішэлі, бы мурашнік, оркі вылазілі з тысячаў дзірак. Пад галінамі Ліхалесься на сьмерць біліся зь ліхімі пачварамі эльфы й людзі. Зямля Беарнінгаў палала. Хмара вісела над Морыяй, і дым падымаўся ад межаў Лорыйну.

Вершнікі скакалі па роўнядзях Рохану, зь Ізенградку выбягалі зграі ваўкоў. З заваняў Хараду выходзілі на вайну караблі. З усходу няспынным струменем рушылі людзі: мечнікі, дзідары, лучнікі на конях, калясьніцы правадыроў ды гружаныя вазы. Уся моц Чорнага Ўладара мкнула да вайны. Тады хобіт, павярнуўшыся зноў на поўдзень, пабачыў Мінас Тырыт. Далёкім ён падаваўся й прыгожым: беласьценны, шматвежавы, ганарлівы й сьветлы на каменным п'едэстале. Бастыёны блішчэлі стальлю, і на вежах трапятала мноства сьцягоў і харугваў. Надзея ўскалыхнулася ў Фродавым сэрцы. Аднак насупраць Мінас Тырыту ўзвышалася яшчэ адна цьвярдыня, больш моцная й велічная. Туды, на ўсход, мімаволі вабіла хобіцкі погляд. Прайшоў над руінамі Азгіліяту, за ашчэраную браму Мінас Моргулу, праз прывідныя горы, над Гаргаратам, далінаю жаху ў краіне Мордар. Цемра ляжала там пад сонцам. Полымя прабівалася праз дым – палала гара Выраку, вывяргаючы смурод. І, нарэшце, хобітаў позірк пацягнуўся да сьценаў, чорных, невымернай моцы й вышыні, да жалезнай гары, сталёвых брамаў, адамантавых вежаў – да Барад-дуру, крэпасьці Саўрона. І ўся надзея пакінула Фрода.

Раптам ён адчуў чужы позірк – нястомны позірк вока, якое ня спала аніколі. Уладар Цёмнай вежы адчуў хобіта й сабраў усю прагную, лютую волю. Хобіт адчуў яе – нібы пальцы мацаюць паветра, адшукваючы яго. Яны намацаюць абавязкова, яшчэ крыху – і крануць, і вызнаюць, дзе ён. Ужо сягнулі Аман Лэ. Сьлізнулі па Тол Брандыры. Фрода кінуўся на падлогу, скурчыўся, закрыў галаву шэрым каптуром.

Пачуў свой голас:

– Аніколі! Аніколі не аддам яго табе! – а мо тое было: – Калі аддам яго табе? Калі?

І тады, выбліскам з другога боку, ад іншай моцы, успыхнула ў ягоным розуме інакшая думка:

– Здымі ж яго! Здымі! Дурань, здымі яго!!! Зараз жа здымі пярсьцёнак!

Дзьве сілы змагаліся ў ім. На момант, нібы падвешаны паміж іхнімі канчарамі ў імгненнай раўнавазе, ён курчыўся, пакутуючы. І зьнянацку ачомаўся, зноў зразумеўшы, што менавіта ён, а ня Вока, а ня Голас вольны абіраць, што рабіць далей. І ў апошні момант абраў, сарваўшы пярсьцёнак з пальца. І зразумеў, што стаіць на каленях перад каменным стальцом. Чорны цень, нібы рука прайшоў над ім. Так і не натрапіўшы на Аман Эн, памацаў на захадзе дый зьнік. І нябёсы зноў сталіся чыстымі й блакітнымі, і птушкі сьпявалі з кожнага дрэва.

Фрода ўзьняўся на ногі. Вялікая стома навалілася на яго, але цяпер ягоная воля памацнела й на сэрцы палягчэла.

– А цяпер я зраблю тое, што мушу, – сказаў сам сабе ўголас. – Вось што бясспрэчна: пярсьцёнкава ліха ўжо дабралася да нас, да самай ягонай аховы, і трэба несьці пярсьцёнак прэч, пакуль ён не нарабіў большай шкоды. Некаторым я ўжо не магу давяраць, а тых, каму магу, я не вазьму з сабою, бо яны надта дарагія для мяне. Швэндала таксама не, бо ягонае сэрца мкне да Мінас Тырыту й там ён насамрэч спатрэбіцца цяпер, калі Барамір паддаўся ліху. Я пайду адзін. І зараз жа.

Хутка спусьціўся па сьцежцы да паляны, дзе яго напаткаў Барамір. Там прыпыніўся, прыслухоўваючыся. Падалося: з прыбярэжнага ўзьлеску чуваць заклікі й выгукі.

– Яны шукаюць мяне, – сказаў сам сабе. – Цікава, колькі ж мяне не было? Некалькі гадзінаў, напэўна. А што ж рабіць? – прамармытаў нерашуча. – Трэба йсьці зараз жа альбо ніколі. Зноў гэткага шанцу ў мяне ня будзе. Як жа гідка пакідаць іх вось так, без разьвітаньня й тлумачэньняў. Не, яны зразумеюць. Абавязкова. Сэм зразумее. Анічога ж іншага не застаецца, праўда?

Павольна выцягнуў пярсьцёнак і насунуў яго зноў. Зьнікшы зь сьмяротных вачэй, спусьціўся па схіле, цішэй за шапаток ветру ў лісьці.

Астатнія доўга чакалі ля рачнога берагу. Колькі часу маўчалі, неспакойна хадзілі туды-сюды. Тады паселі кружком дый загаманілі. Спрабавалі весьці гаворку пра доўгі шлях і шматлікія прыгоды, распытвалі Арагорна пра каралеўства Гондар і ягоную старажытную гісторыю, пра рэшткі вялікіх збудаваньняў, якія захаваліся ў дзівосным навакольлі, памежжы Эмін Мюйлу: пра каменных каралёў і троны на Лэ і Эн, пра вялізную лесьвіцу ля вадаспадаў Рэрасу. Але заўжды думкі іхнія вярталіся да Фрода й пярсьцёнка. Які шлях абярэ Фрода? Чаму ён ня можа вырашыць?

– Ён ня ведае, які кірунак больш небясьпечны й адчайны, – казаў Арагорн. – І мае рацыю, бо цяпер, пасьля таго, як нас высачыў Глыкс, падарожжа наша болей, пэўна, не таямніца для ворага. Так, зараз рушыць на ўсход яшчэ безнадзейней. А Мінас Тырыт далёка ад полымя, якое зьнішчыць Фродаву ношу. Мы здольныя заставацца колькі часу там і мужна змагацца, але й уладар Дэнэтар з усім сваім войскам ня зробіць таго, што не пад сілу Эльранду: захаваць пярсьцёнак у таямніцы й адбіць Ворага, калі той зьявіцца па яго. Што абраў бы кожны з нас на Фродавым месцы? Я ня ведаю. Цяпер нам насамрэч не стае Гэндальфа!

– Жорсткая нашая страта, – вымавіў Ляголас, – але ж мы мусім цяпер вырашаць безь ягонай парады. Чаму ж мы ня здольныя вырашыць, чым дапамагчы Фрода? Давайце паклічам яго дый прагаласуем! Я – за Мінас Тырыт.

– Я таксама, – згадзіўся Гімлі. – Нас, вядома, паслалі, каб дапамагчы Ахоўніку падчас вандроўкі. Мы мусім ісьці, пакуль жадаем ісьці, аніводны з нас ня кляўся й не атрымліваў загаду рушыць да гары Выраку. Цяжка мне было разьвітвацца з Латлорыйнам. Аднак я ўсё ж прыйшоў сюды й скажу так. Зараз, калі надышоў час апошняга вырашэньня, для мяне цалкам ясна: Фрода я пакінуць не магу. Таму я абяру Мінас Тырыт, толькі калі ён абярэ яго. А калі не абярэ, усё адно пайду зь ім.

– І я пайду зь ім, – азваўся Ляголас. – Несправядліва цяпер пакідаць яго.

– Так, пакінуць яго зараз нам усім – сапраўды здрада, – сказаў Арагорн. – Аднак калі ён рушыць на ўсход, няма неабходнасьці ўсім ісьці разам зь ім. І рацыі таксама. Бо авантура гэтая адчайная – у роўнай ступені й для аднаго, і для двох ці васьмярых. Калі вы дазволілі б мне абіраць, я абраў бы трох у спадарожнікі Фрода: Сэма, які не стрывае разьвітаньня з Фрода, Гімлі й сябе. Барамір вернецца ва ўласны горад, дзе чакаюць ягоны бацька й ягоны народ, і зь ім рушаць астатнія ці, сама менш, Мэрыядок зь Піпінам, калі ўжо Ляголас не захоча пакідаць нас.

– Так ня пойдзе! – выклікнуў Мэры. – Мы ня можам пакінуць Фрода! Мы зь Піпінам заўсёды зьбіраліся йсьці разам зь ім, куды ён ні крочыў бы, і ад свайго намеру не адступіліся. Раней мы не разумелі, што гэта насамрэч азначае. Здаля, у Шыры ці Долым Яры, усё падавалася іншым. Гэта ж шалёнае вар'яцтва – дазволіць Фрода рушыць у Мордар. Чаму мы ня спынім яго?

– Мы мусім спыніць яго! – згадзіўся Піпін. – Таму ён і турбуецца, я ўпэўнены. Ведае, што мы ня згодзімся адпусьціць яго на ўсход. І ён ня хоча нікога браць з сабою, небарака. Вы толькі ўявіце: ён рушыць у Мордар адзін! – Піпін уздрыгнуў. – Дарагі наш неразумны хлопча, ведаў бы ён, што прасіць анікога ня трэба. Ведаў бы, што калі мы яго й не пераканаем, дык усё адно пойдзем разам зь ім.

– Прабачце, спадарства, – умяшаўся тут Сэм. – Падаецца, вы зусім не разумееце майго гаспадара. Ды няма ў яго аніякіх сумневаў, які шлях абраць! Вядома, не! Якая карысьць яму зь Мінас Тырыту? Менавіта яму, вядома, вашаць хай ужо прабачыць мне, Бараміру, – дадаў Сэм ды азірнуўся.

Тады й убачылі, што Барамір, які спачатку моўчкі сядзеў непадалёк, некуды зьнік.

– І куды ж ён падзеўся, га? – выгукнуў Сэм. – Я вам скажу: нейкі ён дзівакаваты апошнім часам. Ну, вядома, тое ўжо не ягоная справа. Ён дахаты вяртаецца, як і заўжды казаў, і вінаваціць яго няма чаго. А спадар Фрода ведае дакладна, што мусіць адшукаць гэну Пашчу Лёсу, калі здолее. Але папросту баіцца, і ўсё. Калі справа дайшла да апошняй рысы, ён і турбуецца з-за свайго страху, вось у чым рэч. Вядома, ён ужо пабачыў троху падчас вандроўкі, дзе ракі зімуюць, як гаворыцца, дый мы ўсе таксама, бо іначай ён кінуў бы пярсьцёнак у раку дый зрабіў бы ногі. А цяпер ён папросту ня можа вырашыцца на першы крок. Не, не клапоціцца пра нас, не сумняецца наконт таго, пойдзем мы зь ім ці не. Ведае, што мы пойдзем. І тое таксама яго турбуе. Калі ўжо ён сябе ў кулак зацісьне ды рушыць, ён адзін рушыць, на самоце. Вось, згадайце мае словы! Вох, клопату будзе, калі ён вернецца! Бо ён жа сьцісьне сябе ў кулак, каб ён Торбінс ня быў, калі ня так.

– Ты прамаўляеш мудрэй за нас усіх, – згадзіўся Арагорн. – І што ж нам рабіць, калі твая рацыя?

– Спыніць яго трэба! Не дазволіць ісьці! – выгукнуў Піпін.

– Але як? – спытаў Арагорн. – Ён – Ахоўнік, і лёс ягонай ношы – ягоная адказнасьць. Ня думаю, што мы маем права прымушаць яго йсьці туды ці сюды. Дый ня здолеем мы яго прымусіць, нават калі паспрабуем. Тут дзеюць іншыя сілы, нашмат вялікшыя за нашыя.

– Ну, дык хутчэй бы Фрода "сьціснуў сябе ў кулак" і вярнуўся, і мы з усім скончылі б, – прастагнаў Піпін. – Чакаць невыносна! Ці не мінула ўжо тая гадзіна?

– Даўно мінула, – згадзіўся Арагорн. – Раніца ўжо праходзіць. Трэба паклікаць яго.

У гэты момант вярнуўся Барамір. Выйшаў зь лесу й рушыў да іх, ня кажучы ані слова. Твар ягоны выглядаў сумным ды змрочным. Ён прыпыніўся, нібы падлічваючы, колькі прысутнічае, дый прысеў непадалёк, апусьціўшы галаву.

– Дзе ты быў, Барамір? – спытаў Арагорн. – Ці ня бачыў Фрода?

Барамір адказаў не адразу, відавочна вагаючыся. Нарэшце павольна вымавіў:

– Так – і не. Так: я знайшоў яго крыху вышэй па схіле й размаўляў зь ім. Я пераконваў яго йсьці не на ўсход, а ў Мінас Тырыт. Я раззлаваўся, і ён сышоў. Проста зьнік. Я аніколі раней ня бачыў гэткіх рэчаў, хоць і чуў паданьні пра іх. Напэўна, ён насунуў пярсьцёнак. Адшукаць яго зноў я ня здолеў. Я падумаў: можа, ён вярнуўся да вас.

– Гэта ўсё, што ты можаш распавесьці? – спытаў Арагорн сувора й амаль варожа.

– Але, – адказаў той. – Пакуль што гэта ўсё.

– Ну, як жа ж гэна?! – ускочыў Сэм. – Ня ведаю, што нарабіў гэны чалавек! Навошта пану Фрода насоўваць пярсьцё нак? Ды яму ж нельга гэнага! Калі насуне яго, дык немаведама што ўтворыцца!

– Як насунуў, так і здыме, – паспрабаваў суцешыць Мэры, – як Більба рабіў, калі хацеў пазбавіцца ад нежаданага наведніка.

– А куды ж ён падзеўся? Дзе ён? – выклікнуў Піпін. – Яго ж паўдня ўжо няма!

– Калі ты астатні раз бачыў Фрода, Барамір? – спытаў Арагорн.

– Паўгадзіны таму. Ці гадзіну. Я блукаў па лесе. Я ня ведаю! Ня ведаю! – Барамір абхапіў галаву рукамі й сеў, згорбіўшыся, нібы ад цяжкой тугі.

– Ужо гадзіну як зьнік! – загаласіў Сэм. – Трэба адшукаць яго зараз жа! Зараз жа!

– Пачакай хвілінку! – папрасіў Арагорн. – Трэба падзяліцца на пары й вызначыць, дзе каму... стой! Стой!!

Дарэмна. Аніхто не зьвярнуў на яго ўвагі. Сэм кінуўся прэч першы, на захад, Мэры зь Піпінам – за ім, і ўжо схаваліся за прыбярэжнымі дрэвамі, гукаючы "Фрода! Фрода!" сваімі чыстымі, гучнымі, высокімі хобіцкімі галасамі. Ужо й Гімлі зь Ляголасам пабеглі. Падавалася, раптоўная паніка – ці апантанасьць – завалодала ўсімі.

– Мы ўсе паразьбежымося ды папагубляемся, – прастагнаў Арагорн. – Барамір, я ня ведаю, якую ролю адыграў ты ў гэтым вар'яцтве, але ж дапамажы цяпер! Руш сьледам за двума маладзейшымі хобітамі, ахоўвай іх, нават калі ты й ня здольны адшукаць Фрода. А калі знойдзеш яго ці хоць бы якую ягоную прыкмету, вяртайся сюды. Я неўзабаве буду.

Арагорн ускочыў і памчаў наўздагон за Сэмам. І нагнаў, якраз калі той сягнуў невялікай паляны паміж рабінамі й упарта караскаўся ўгару, цяжка дыхаючы й гукаючы:

– Фрода!

– Хадзем з мною, Сэме! – паклікаў Арагорн. – Анікому з нас нельга заставацца на самоце. Тут нейкае ліха зусім побач, я адчуваю. Я зьбіраюся на самую гару, на Сталец Аман Эн, мо што ўбачыцца. Зірні сюды! Як і падказвала мне сэрца, Фрода кіраваўся сюды! Пасьпяшайся за мной ды пільна пазірай наўкол!

Сэм сьпяшаўся, як мог, але ж ня здолеў угнацца за Швэндалам сьледапытам і неўзабаве далёка адстаў. Не пасьпеў адысьці ад паляны, як згубіў Арагорна. Тады прыпыніўся, аддыхваючыся. Раптам пляснуў даланёю па лобе.

– Ну, Сэм Гэйхад! – сказаў уголас. – Ногі караткаватыя – дык карыстайся галавою. Ну-тка, паразважаем. Барамір ня хлусіць, не ў ягонай тое звычцы, але ж і ўсяго ня кажа. Нешта перапалохала спадара Фрода. І таму ён раптоўна сьціснуў сябе ў кулак. Ён вырашыўся, няйначай. І куды ён пойдзе? Напэўна ж, на ўсход. І бяз Сэма. Так, без свайго Сэма. Вось гэтае жорстка й сувора, сапраўды!

Сэм выцер даланёй сьлёзы.

– Ну, спакайней, Гэйхад! – сказаў сабе. – Думай, калі здолееш. Ён жа ня птушка, каб ляцець над ракою ці скакаць праз вадаспад. І прыладаў у яго аніякіх няма, і ежы таксама. А каб прыдбаць, ён мусіць вярнуцца да чоўнаў. Да чоўнаў! Гэй, Сэме, бяжы да чоўнаў, ногі ў рукі!

Сэм павярнуўся й кінуўся ўніз па сьцежцы. Упаў, пабіў каленкі. Ускочыў і памчаў далей, не зьвярнуўшы ўвагі. Выбег на край Парт Галену да берагу, дзе былі прычаленыя чоўны. Анікога. Нехта гукаў у лесе за сьпінай, але Сэм ня слухаў. Здранцьвеў на момант, рот адкрыўшы, пазіраючы на тое, як сам па сабе сасьлізгвае ў ваду човен. А тады, залямантаваўшы, кінуўся праз луг. Човен загайдаўся на вадзе.

– Я йду, спадар Фрода, я йду! – загаласіў Сэм і скочыў зь берагу, каб учапіцца за човен.

Не хапіла паўсажні, і Сэм зь енкам ды пляскам плюхнуўся тварам уніз у струмень, глыбокі й хуткі. Бурбочучы, пайшоў на дно, і рака схавала ягоную патлатую галаву.

З чоўна пачуўся выгук адчаю. Вясло махнула само па сабе, і човен разьвярнуўся. Фрода якраз пасьпеў ухапіць Сэма за валасы, калі той вынырнуў, цялёпкаючыся й плюючыся вадою, сьмяротна пераляканы.

– Наверх, хлопча, наверх, Сэме! – паклікаў Фрода. – Хапіся за руку!

– Ратуйце, спадару Фрода! – выдыхнуў Сэм. – Я патануў! Я ня бачу вашай рукі!

– Вось, вось яна! Не шчыкайся! Я не адпушчу цябе! Вось, заграбай і не гайдай, бо перакуліш човен. Сюды, чапляйся за борт, мне трэба выграбці.

За некалькі грабкоў Фрода падагнаў човен назад да берагу, і Сэм ускараскаўся на борт, мокры, нібы рачны пацук. Фрода сьцягнуў пярсьцёнак і зноў крочыў на бераг.

– З усіх недарэкаў-няздараў ты, Сэме, найгоршы!

– Ну, спадару Фрода, гэта несправядліва! – адказаў Сэм, дрыжучы. – Несправядліва сыходзіць безь мяне, пакінуць, вось! Калі б не здагадаўся, дзе былі б вы цяпер?

– На сваім шляху, спакойна й без перашкодаў.

– Спакойна! – выгукнуў Сэм. – Самотны, безь мяне, каб клапаціцца пра вас? Я ня вынес бы таго, я так і сканаў бы бяз вас.

– Сканаў бы, толькі калі выправіўся б разам з мною, Сэме. А гэтага ня вынес бы я.

– Ну, можа, на тым шляху я й не сканаю. А калі пакінеце мяне, дык дакладна.

– Сэме, я ж іду ў Мордар.

– Я гэта добра разумею, спадару Фрода. Вядома, у Мордар. І я з вамі.

– Сэме, не спрабуй мяне затрымаць! Астатнія вернуцца з хвіліны на хвіліну. Калі яны напаткаюць мяне, давядзецца тлумачыць і спрачацца, і мне ня хопіць рашучасьці сысьці аднаму, дый не дазволяць мне. Але ж мне трэба. Гэта адзінае выйсьце.

– Вядома, так, – згадзіўся Сэм. – Толькі не аднаму. Я йду таксама альбо ніводны з нас ня йдзе. А тое я папрадзіраўлю ўсе чоўны.

Тады Фрода шчыра засьмяяўся. Раптоўная радасьць і пяшчота кранулі ягонае сэрца, і ён сказаў зь сьмехам:

– Хоць адзіны пакінь, бо спатрэбіцца ж. Але ж як табе йсьці бяз вопраткі, прыпасаў ды іншай паклады?

– Пачакайце хвіліначку, я прынясу, – выгукнуў Сэм, – усё падрыхтаванае! Я ж і думаў, што мы сёньня выправімся!

Пабег да месца начлегу, выцягнуў свой хатуль з кучы (у якую пакідаў Фрода пакункі спадарожнікаў, вызваляючы човен), прыхапіў яшчэ адну коўдру й колькі пакункаў ежы дый прыбег назад.

– Ну, мой плян ня склаўся, – вымавіў Фрода. – Не атрымалася ўцячы ад цябе. Але ж я задаволены, Сэме. Я й выказаць ня здольны, як жа я задаволены. Едзьма! Відавочна, нам і было прызначана выправіцца разам. Мы рушым, і няхай астатнія знойдуць бясьпечны шлях! Швэндал паклапоціцца пра іх, я ўпэўнены. Наўрад ці мы пабачым іх зноў.

– А можа, пабачым, спадару Фрода, можа, пабачым, – лапатаў Сэм.

Так Фрода з Сэмам распачалі разам апошнюю частку вандроўкі. Фрода граб, човен аддаляўся ад берагу, і рака хутка несла іх прэч па заходнім рукаве, міма суворых скалаў Тол Брандыру. Роў вадаспадаў гучнеў. Нават і з Сэмавай дапамогай давялося паруліцца, каб выграбці скрозь плынь міма паўднёвага краю выспы дый сягнуць далёкага ўсходняга берагу ракі.

Нарэшце прычалілі ля паўднёвых схілаў Аман Лэ. Там знайшлі прыдатны беражок, выцягнулі човен з вады й схавалі, як здолелі, за вялікім валуном. Ускінулі на сьпіны пляцакі дый рушылі, шукаючы сьцежку, якая правяла б іх праз шэрае пагор'е Эмін Мюйлу ў краіну Ценю.

## ЗЬМЕСТ

Няма сканчэньня для шляхоў.
Ледзь рушыш ад дзьвярэй –
Павінен крочыць зноў і зноў,
Імкнуцца ўсё далей
Па сьцежцы, струмяні дарог
Вялікіх ды малых.
Калі б даведацца я мог,
Куды дайду па іх...

